Складанне, сістэматызацыя тэкстаў,
уступны артыкул і каментарыі
**М. Я. Грынблата**
пры ўдзеле ў падборы матэрыялаў
**С. Т. Асташэвіч**

Рэдактар тома
**А. С. Фядосік**

Рэцэнзенты:
**А. А. Крывіцкі, І. К. Цішчанка**

В 93 **Выслоўі.** /[Склад., сістэматызацыя тэкстаў, уступ. артыкул і камент. М. Я. Грынблата. Рэд. тома А. С. Фядосік].— Мн.: Навука і тэхніка, 1979.—520 с., іл.— (Беларус. нар. творчасць. /АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).

У томе ўпершыню найбольш поўна пададзены такія ўзоры народнай словатворчай культуры беларусаў, як розныя трапныя і дасціпныя выразы, скорагаворкі, застольныя жарты і тосты, вітанні і зычэнні, прысяганні, праклёны, абзыванні-ганьбаванні, параўнанні. Да змешчаных запісаў даны ўступны артыкул, каментарыі і паказальнікі. Кніга разлічана на фалькларыстаў, этнографаў, мовазнаўцаў, а таксама выкладчыкаў, студэнтаў, журналістаў і ўсіх, хто цікавіцца народнай творчасцю.

**В $\frac{70700-150}{М316-79}$ 66—79 4702120100 Бел Ф**

# ВЫСЛОЎІ

Выслоўі — гэта тэрмін, які мы выбралі ўмоўна[1] для абазначэння той незлічонай колькасці кароткіх вусных твораў і ўстойлівых словазлучэнняў, што не з'яўляюцца ні прыказкамі, ні прымаўкамі, ні фразеалагізмамі ў вузкім сэнсе, хоць нярэдка і падобныя да іх, асабліва да прымавак. Гэта разнастайныя трапныя і дасціпныя выразы, часцей гумарыстычнага характару, якія пазбаўлены элементаў афарыстычнасці і павучальнасці, уласцівых прыказкам, а толькі нібы жартам, мімаходзь прыкмячаюць і падкрэсліваюць тую або іншую з'яву, дробную бытавую падзею, асобную рысу ў характары чалавека, у паводзінах жывёлы, у стане прыроды. Да выслоўяў мы далучаем таксама такія характэрныя ўзоры народнай словатворчасці, як скорагаворкі, застольныя жарты, прыгаворкі і тосты, вітанні, зычэнні, ветлівыя і ласкавыя звароты, прысяганні і бажба, праклёны і абзыванні-ганьбаванні, нават калі яны выражаны адным словам, і сапраўды неабсяжны матэрыял народных паэтычных параўнанняў.

Усе выслоўі побач з прыказкамі і прымаўкамі бытавалі ды і зараз бытуюць у гутарковай мове беларусаў. Яны ажыўляюць мову, робяць яе больш вобразнай, маляўнічай і яркай. Сабраныя тут выслоўі служаць натуральным і лагічным працягам тома беларускіх народных прыказак і прымавак, які быў выдадзен у 1976 г. у дзвюх кнігах у акадэмічнай серыі «Беларуская народная творчасць». У той жа час — гэта асобны велізарны пласт народнай словатворчай культуры, на жаль, яшчэ слаба ўзараны збіральнікамі і даследчыкамі беларускай вуснапаэтычнай творчасці.

Зразумела, выслоўі цалкам не маглі выпасці з-пад увагі збіральнікаў беларускага фальклору. Разам з прыказкамі і прымаўкамі яны ў той ці іншай колькасці траплялі ў розныя публікацыі і зборнікі. Даволі многа іх

[1] Умоўна таму, што ў Беларуска-рускім слоўніку (М., 1962) выслоўе перакладзена як «изречение», якое мае зусім іншы сэнс. У Тлумачальным слоўніку беларускай мовы (т. 1. Мн., 1977, с. 577) пра выслоўе сказана наступнае: «Глыбокая па зместу думка, выказаная невялікай колькасцю слоў».

у зборніках прыказак І. Насовіча, Я. Ляцкага, У. Дабравольскага, асабліва ў М. Федароўскага, у нявыдадзеным зборніку А. Сержпутоўскага. Але звычайна выслоўі не вылучаліся асобна, а растваралiся ў агульнай масе прыказак і прымавак. Толькі П. Шэйн упершыню асобна ад прыказак і прымавак вылучыў невялікія рубрыкі прывітанняў і пажаданняў (35 запісаў), бажбы і клятваў (23 запісы) і праклёнаў (30 запісаў), дасланых яму А. Багдановічам, І. Карскім і Смігельскай [2]. Фактычна гэта адна з першых спроб вылучыць жанравыя асаблівасці паасобных катэгорый выслоўяў.

М. Нікіфароўскі — адзіны сярод дарэвалюцыйных этнографаў і фалькларыстаў, які спецыяльна запісваў выслоўі і такім чынам сабраў іх значную колькасць. Ён іх лічыў напаўпрыказкамі і напаўпрымаўкамі і пад такой назвай на працягу 1910—1912 гг. апублікаваў больш 600 запісаў у «Записках Паўночна-Заходняга аддзела Рускага геаграфічнага таварыства» [3]. Пазней з'явіліся яшчэ дзве публікацыі выслоўяў, запісаных Нікіфароўскім. У часопісе «Крывіч», што выходзіў у Каўнасе, была змешчана невялікая падборка выслоўяў, але пераважна перадрукаваных з ранейшай яго публікацыі [4], а найбольш буйная калекцыя (каля 800 запісаў) з'явілася ў 1928 г. на старонках навуковага выдання Інбелкульта [5].

Свае запісы выслоўяў Нікіфароўскі вызначаў як «крылатыя словы», «лятучыя словы», «махні-словы», «неперакладальныя словы», «напаўпрыказкавыя гаворкі», «прымоўкі», «змоўчаныя гаворкі» [6]. Такіх выслоўяў або напаўпрыказак-напаўпрымавак, запісаных Нікіфароўскім, апублікавана каля 1500. Аднак значную частку яго запісаў складаюць фразеалагізмы ў вузкім сэнсе гэтага паняцця, такія спалучэнні, як «байкі баіць», «балі балявацъ», «запоіны запіваць», або падвойныя словы-выклічнікі «авой-авой», «гоц-гоц», «коль-коль» і інш. без суадносін да канкрэтнай з'явы, выпадку, кантэксту, што не дазваляе далучыць іх да выслоўяў, якія, паводле нашага разумення, павінны адпавядаць яшчэ пэўнай закончанасці выразу або яго часткі. Невядома, ці ўсе запісы збіральніка выяўлены і апублікаваны.

У IV томе фундаментальнай працы М. Федароўскага [7] таксама вылуча-

---

[2] Гл. Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. II. СПб, 1893, с. 503—515.

[3] Никифоровский Н. Я. Полупословицы и полупоговорки, употребляемые в Витебской Белоруссии.— «Записки Северо-Западного отдела РГО», кн. I. Вильна, 1910, с 197—207; кн. II. Вильна, 1911, с. 142—154; кн. III. Вильна, 1912, с. 300—303.

[4] Нікіфароўскі М. Я. Напаўпрыслаўкі, напаўпрыказкі.—«Крывіч», 1924, № 1 (7), с. 13—23.

[5] Нікіфароўскі М. Я. Напаўпрыказкі-напаўпрыслаўкі.— Працы катэдры этнаграфіі, т. I. Мн., 1928, с. 81—115. (Запіскі аддзела гуманітарных навук ІБК, кн. 4).

[6] «Записки С.-З. отдела РГО», кн. I, с. 197.

[7] Federowski M. Lud Białoruski na Rusi Litewskiej, t. IV. Warszawa, 1935.

ны асобныя невялікія раздзелы і рубрыкі выслоўяў: вітанні, благаславенні, просьбы, застольныя тосты, кпіны, жарты, скорагаворкі, дыялогі і інш.

Аднак усё гэта толькі адзінкавыя выпадкі. У пераважнай колькасці публікацый выслоўі, калі яны і былі, змяшчаліся ўпярэмешку з прыказкамі і прымаўкамі.

У беларускай савецкай фалькларыстыцы таксама доўгі час з недастатковай увагай ставіліся да збірання і вывучэння выслоўяў як адметных прымаўкавых жанраў. Пэўную цікавасць да іх праявіў толькі Ф. Янкоўскі. У зборніку беларускіх прыказак і прымавак[8] ён вылучае асобны раздзел устойлівых народных выразаў, у складзе якіх параўнанні (585 запісаў, а ў другім выданні зборніка[9] ужо больш за 900), добразычлівыя і жартоўныя пажаданні, жарты і каламбуры (217, у другім выданні 281), зламысныя пажаданні і пагрозы, прыказкі-кленічы (27 і адпаведна 57). Больш за ўсё ў зборніку Ф. Янкоўскага, як бачым, параўнанняў. І гэта зусім апраўдана, бо іх у народным ужытку вялікая колькасць.

Пашырыўшы сваю калекцыю вобразных параўнанняў, Ф. Янкоўскі склаў першы ў беларускай фалькларыстыцы асобны зборнік, які выйшаў у 1973 г. у малафарматным выданні[10]. У зборніку змешчана больш за 1760 параўнанняў, адна частка якіх узята з друкаваных крыніц, а другая — з уласных запісаў складальніка 1944—1959 гг. Параўнанні з гутарковай мовы дапаўняюць параўнанні (каля 190), выбраныя з тэкстаў народных песень. Зборнік быў з цікавасцю і прыхільна сустрэты чытачамі і літаратурнай крытыкай.

Сярод вялікай масы ўстойлівых выслоўяў выразна вылучаюцца паасобныя групы або жанры паводле іх функцыянальнага прызначэння і зместу. Адны служаць выключна для вітанняў, добрых зычэнняў, другія ўжываюцца ў якасці застольных жартаў і тостаў, ёсць нямала выслоўяў-кляцьбаў і іншых груп выслоўяў.

Але ёсць таксама вялікая група ўстойлівых выслоўяў, калі можна так назваць, агульнага характару. Яны гаворацца пры самых розных выпадках, у розных сітуацыях, «да слова», часта «для смеху», каб ажывіць сваю мову, надаць ёй больш жартаўлівасці, вастрыні. Мы вылучылі гэтыя выслоўі ў асобны раздзел проста трапных, смешных і дасціпных выразаў. Некаторыя з іх цяжка адрозніць ад звычайных прымавак, аднак можна

---

[8] Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі. Склаў Ф. Янкоўскі. Мн., 1957.

[9] Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы. Склаў Ф. Янкоўскі, выд. 2-е. Мн., 1962. (Раздзел «Фразеалагізмы і іншыя ўстойлівыя выслоўі», с. 369—524.)

[10] Янкоўскі Ф. Беларускія народныя параўнанні. Кароткі слоўнік. Мн., 1973. Падобны зборнічак, таксама ў малафарматным выданні, выпусцілі ўкраінцы: Образне слово. (Постійні народні порівняння.) Зібрав і упорядкував І. Гурин. Київ, 1966.

заўважыць і пэўныя адметнасці, уласцівыя гэтай групе выслоўяў. Так, вельмі характэрнымі з'яўляюцца выслоўі, якія жартоўна, насмешліва і амаль заўсёды складна, у рыфму адказваюць на, здаецца, зусім звычайныя пытанні: «Адкуль ты?— Вёска Лебяды, вуліца Лапухі»; «А можа?— Можа на двое варожа».

Шмат жартоўных адказаў не на пытанні, а на розныя сцверджанні, на любое слова, якім заканчваецца сказ або рэпліка субяседніка. Так, калі гаворка ідзе пра што-небудзь апошняе — гатовы адказ: «Толькі ў папа апошняя жонка»; калі хто, апраўдваючыся, ужывае ўмоўны злучнік *каб*, зноў-такі — у запасе жарт: «Каб тое каб, да каб тое еслі, то самі б грыбы ў рот лезлі»; умешванне не ў сваю справу можа атрымаць такі рэзкі «адпор»: «А твае дзела—«гаў», ды й пад кут»; на спасыланне на старасць гатовы і такі адказ: «Стары, не стары: сорак гадкоў, апроч святкоў». І шмат падобных.

Да гэтай жа групы агульных выслоўяў можна аднесці проста кароткія жарты, каламбуры, гумарэскі, дыялогі-караценькі. Вось, напрыклад, выслоўі-жарты, так ці інакш звязаныя з ежай: «Або табе хлеб, а мне каўбасу, або мне каўбасу, а табе хлеб»; «Ад абеду аж да вечара нашча».

Выслоўі-каламбуры звычайна пабудаваны на ігры слоў, або на выкарыстанні аднаго і таго ж слова ў розных значэннях, або, наадварот, розных слоў у адным значэнні: «Адно васемнаццаць, а другое без двух дваццаць»; «Ах ты, стары пёс, калі ж я на цябе казаў сабака?»

Разам з жартамі-гумарэскамі прызначаны смяшыць і кароткія дыялогі. Вось адзін са шматлікіх узораў: «Абаранкі з малаком от смачна! — А ты еў? — Не-а. Але бацька расказваў, што дзед бачыў, як пан еў, дык от смачна!»

На кожны выпадак знаходзіцца дасціпнае выслоўе, у ход ідуць і жарты-кепікі. Вось, напрыклад, сядзіць чалавек задуменны. Балака-гаварун не пройдзе міма, каб не «зачапіць»: «Што ты задумаўся? Бядуеш, што ў мяне грошы няма? Дасць бог, і ў цябе не будзе».

Выслоўе ўзнікае на кожным кроку, яно адгукаецца на любы ўчынак чалавека, у ім мы знаходзім вобразнае ўвасабленне ацэнкі яго паводзін, розных меркаванняў. І ўсе яны, гэтыя выслоўі, трапныя, і ўсе яны дасканалыя, ашчадныя на слова, і ўсе яны поўняцца нястрымным смехам, адвечным народным гумарам. Амерыканскі пісьменнік Уільям Сараян неяк прызнаўся: «Мне ўсё жыццё хацелася даведацца: хто прыдумвае смешнае? Падобна, што гэта нікому невядома. Вазьміце любы жарт, сказаў жа яго нехта першы раз, але паспрабуйце знайсці аўтара» [11]. Так, сапраўды, многія выслоўі жывуць з незапомных часоў, перадаюцца ад пакалення да пакалення, на кожным этапе гісторыі ўзнікаюць новыя, але, як і ў адносінах

---

[11] Сароян У. Тот день.— «Литературная газета», 1976, 14 апреля.

да іншых твораў традыцыйнага фальклору, невядома, хто з'яўляецца іх стваральнікам.

Своеасаблівым відам выслоўяў з'яўляюцца скорагаворкі. Яны збліжаюцца з прыказкамі і прымаўкамі пераважна толькі па сваёй форме, змест у скорагаворках у большасці выпадкаў не мае самастойнага значэння. Сутнасць іх заключаецца ў падборы і спалучэнні такіх слоў і гукаў, якія цяжка вымавіць хутка, некалькі разоў запар, не спатыкнуўшыся. Па азначэнню У. Даля, скорагаворка — гэта «часта(чыста)гаворка, род складнай мовы з паўтарэннем і перастаноўкай адных і тых жа літар або складоў, блытаных або цяжкіх для вымаўлення» [12].

Звычайна скорагаворкі насычаюцца аднолькавымі гукамі, пераважна зычнымі і асабліва свісцячымі і шыпячымі, а таксама *р*, што асабліва абцяжарвае вымаўленне: «Уцякай, цецеручыха з цецеручанятамі»; «Руды гарбаты Рыгор гроб грыбы граблямі». Ускладняецца вымаўленне таксама пабудовай скорагаворкі са слоў рознай формы, але аднаго кораня: «Калясо калесава'лася, калесава'лася, вы'калесавалася, перавы'калесавалася». Часам імкнуцца зрабіць больш цяжкім вымаўленне праз увядзенне ў слова лішняга, неўласцівага яму склада: «Стол з вы'ламаванымі (зам. вы'ламанымі) нагамі».

У гэтых адносінах скорагаворка нечым падобна да загадкі, абедзве яны служаць для выпрабавання: адна — кемлівасці, другая — умелага, спрытнага вымаўлення. Скорагаворкі, як і загадкі, у старым сялянскім быце займалі немалое месца ў гульнях і забавах моладзі. М. Нікіфароўскі ў грунтоўным нарысе аб народных гульнях на Віцебшчыне канца XIX ст. адзначаў, што побач з гульнямі дарослых, у якіх вымяралася фізічная сіла, былі вядомы гульні і забавы, удзельнікі якіх павінны былі дэманстраваць сваю кемлівасць і разумовыя здольнасці. «Пры выпрабаванні разумовай сілы,— пісаў М. Нікіфароўскі пра забавы дарослай моладзі,— у ходу бываюць разнастайныя загадкі, падбіраюцца прыказкі і прымаўкі на вядомую тэму, падбіраюцца рыфмаваныя словы або безліч разоў вымаўляюцца скорагаворкі» [13]. Такім чынам, скорагаворкі мелі сваю выразна акрэсленую функцыю: яны служылі сродкам выпрабавання здольнасці хутка і выразна гаварыць, вучылі гэтаму ўмельству.

Несумненна, народныя скорагаворкі не страцілі сваю каштоўнасць, яны і зараз могуць быць выкарыстаны ў забавах моладзі, а таксама для выпрацоўкі чыстай і выразнай дыкцыі ў школьнікаў, для навучання сцэнічнай мове акцёраў, чытальнікаў, дыктараў.

---

[12] Даль В. Толковый словарь живого великорусского языка, т. IV. М., 1955, с. 205.

[13] Никифоровский Н. Я. Очерки Витебской Белоруссии. VI. Игры и игроки.—«Этнографическое обозрение», кн. 34, 1897, № 3, с. 44.

На жаль, скорагаворак сабрана і апублікавана яшчэ вельмі мала. Падборка, якую ўдалося скласці для гэтага тома, налічвае каля 90 тэкстаў, з якіх толькі 28 выяўлены ў друкаваных крыніцах, астатнія публікуюцца ўпершыню. Пажадана, каб скорагаворкі прыцягнулі да сябе большую ўвагу збіральнікаў вуснай народнай творчасці.

Асобна вылучаюцца застольныя выслоўі — розныя прыгаворкі, жарты, каламбуры ў час застолля, сяброўскіх і суседскіх частаванняў, сямейных урачыстасцей. Яны даюць нам яркія ўзоры нязгаснага народнага гумару і дасціпу і ствараюць той настрой весялосці і ўзнятасці, які заўсёды пануе на народных святкаваннях і забавах. Застольныя ж тосты, таксама найчасцей жартоўнага характару, напоўнены добразычлівасцю.

Застолле, гасціна або бяседа (іншыя народныя назвы — застоліца, баль, чэсць, банкет) належаць да характэрных і традыцыйных з'яў сямейнага і грамадскага быту вёскі, у якіх праяўляліся ўласцівыя народу шчодрая гасціннасць, трываласць крэўных і сваяцкіх сувязей, добрасуседства. Яно наладжвалася заўсёды ў сувязі з важнай падзеяй сямейнага ці грамадска-абшчыннага характару: калі прыязджалі жаданыя госці, пры праводзінах і вяртанні салдата, у час якога-небудзь свята, у так званы «фэст», калі з'язджаліся сваякі з іншых вёсак, на хрэсьбінах, на папярэдніх, падрыхтоўчых этапах вяселля і г. д. Гэта не былі папойкі-гулянкі, бо, як кажуць прыказкі, «Не дорага піва п'янае, а дорага пасядзенейка», «Піццё — смяццё, але дорага пасядзёнка»[14]. Застолле мела свой выпрацаваны многімі пакаленнямі этыкет, рытуал, свае ўстойлівыя формулы ветлівасці, патрабавала захоўваць пэўныя этычныя і тактоўныя нормы з боку гаспадароў і гасцей, хоць, зразумела, гасціна, як і кожнае народнае святкаванне, ніколі не абыходзілася без віна. Удзельнікамі застолля звычайна бывалі людзі сямейныя, толькі на праводзіны навабранца і сустрэчу салдата з войска дапускалася моладзь, яго таварышы і дзяўчаты. У час застолля жанчыны, па звычаю, сядзелі асобна за адным краем стала, а чарка, адзіная, пачынаючы ад гаспадара ці найбольш паважанага госця, пераходзіла па кругу ад аднаго да другога застольніка і суправаджалася добрымі зычэннямі-тостамі і ветлівымі словамі ў адказ.

Народнае застолле як бытавая з'ява нарадзіла і адпаведныя яму выслоўі, асабліва жарты і тосты-зычэнні. У час застолля гаспадар і госці нібы спаборнічалі між сабой у дасціпу, стараліся вызначыцца вясёлым жартам, дабрадушнымі кепікамі. Толькі ўвайшоўшы ў хату і даўшы «дабрыдзень», іншы гаваркі госць адразу ж мог сказаць: «Іду ад каміна да каміна, дзе пахніць саланіна». Сеўшы за стол, зноў-такі знаходзіў адпаведнае выслоўе: «Маё дзела — хадзіць бела: памыў рукі і за стол».

А далей жарты пераважна вярцеліся вакол частавання: гаспадар за-

---

[14] Прыказкі і прымаўкі ў 2-х кнігах, кн. 1. Мн., 1976, с. 391, № 1330, 1331.

прашаў паспытаць усё, што стаяла на стале, гаспадыня перапрашала за сціплы пачастунак, госці, наадварот, пахвальвалі яе кухарскае майстэрства і г. д.

Ад гаспадара або ад каго-небудзь з застольнікаў, які выступаў нібы ад яго імя, чулася: «Госць, не дзьміся, еш што ў місе»; «Хлеб на стале, рукі свае»; «Сказана: што пастаўлена і нарэзана, павінна быць паедзена». А для большага смеху гаспадар мог і такое сказаць: «Ешце вы, госційкі, ужывайце, толькі ў карманы не хавайце».

Тым часам за сталом ішла жвавая размова, якая раз-пораз перарывалася выбухамі смеху ад усё новых выслоўяў веселуноў. Застольнік-жартун гаварыў: «Па-шляхоцку — папалам клёцку, а ў мужыцкім шчоце — па тры клёцкі ў роце». Або: «Пакарай мяне, госпадзі, блінцом, ды яшчэ з маслінам і піўцом»; «Многа не трэба, абы ўволю». Ласы на «свіныя плечы», падчапіўшы відэльцам ладную скварку, дадаваў: «Без сала куса няма жыцця ў беларуса».

Пахвальванне кулінарнага майстэрства гаспадыні («Анно еш, да пальцы ліжы!») перамяжоўвалася з наўмысна лёгкім пакепліваннем з яе — за нібыта нясмачныя і нішчымныя стравы («Не карай, божа, нічым, калі капуста ні з чым»).

Хапала жартаў і пра чарку, якая ў гэты час павольна і паважна пераходзіла па кругу, ад таго, хто сядзіць справа, да таго, хто побач злева (як трэба паводле няпісанага звычаю): «Васілі кажа — па сілі, а Аўсей — па ўсей»; «Гарэлачка — не вада, як уп'ецся, дык бяда». Перадаючы чарку застольніку злева, абавязкова зычылі яму здароўя: «Ну, будзем здаровы!— На дабро!» У тостах абвяшчаліся пажаданні здароўя, а таксама дабрабыту і дастатку ў гаспадарцы і ў сям'і: «Дай, божа, разам двое: шчасця і здароўя!»; «На доўгі век, на добрае здароўе!»; «Каб у дамочку, у садочку, у хлявочку, у полечку ўсё радзіла і пладзіла!»; «Каб у вас было ўвесь час на стале, у місцы і ў калысцы!» Зычылі, каб было «ў полі ўродзіста, у гумне накладзіста, у клеці насыпіста, у млыне намеліста, у дзяжы падыходзіста, на стале ўедзіста». Гэта былі самыя дарагія зычэнні для селяніна, для якога кавалак зямлі, карова і конь служылі асновай існавання сям'і.

Здзекліва пасмейваючыся, сустракалі таго, хто прыпазніўся ў госці: «Астаўцу з аўцу або ніяк»; «Спазніўся пан да абеда, а вячэра не зараз».

Пад канец балявання, на «разыходзе» гасцей чуліся ўжо іншыя выслоўі: «Аб'еўся куцці, не магу пайсці». Але перш за ўсё дзякавалі гаспадарам за гасціннасць: «Дзякуй гэтаму столу, пойдзем к свайму дому»; «Дзякуй пакорна за хлеб, за соль, за капусту з квасам, за кашу ды за міласць вашу». І тут не абыходзілася без вясёлых жартаў: «Дзякуй таму, хто еў, і каму падавалі».

Звычайныя госці, сямейная ўрачыстасць былі тымі нямногімі выпадкамі, дзе прынята было гаварыць добрыя, сардэчныя словы, дзе вусны рас-

крываліся толькі для добразычлівасці і прыязнасці. Пра гэта добра сказаў паэт Алег Лойка ў паэме «Лясун»:

Мой дом — застолле: еш і пі
І ад прынук хіба цярпі,—
Ці не таму, што дзед Цімох
Так зычыць мог, жадаць так мог?..
Але не толькі ж у мяне
Дабро сталы гасцінна гне,
Не толькі дзед адзін, відаць,
Умеў прароча так жадаць
(Жадалі, бо не мелі даць).[15]

Застолле было той зручнай акалічнасцю, дзе можна было выказаць узаемную спагадлівасць. А вядома, як не ставала гэтай спагадлівасці, сардэчнай дабрыні ў грамадстве, заснаваным на прыгнечанні, на класавых, саслоўных і веравызнаўчых супрацьлегласцях, на індывідуалістычнай прагнасці і сацыяльным раўнадушшы.

Сярод беларускіх народных выслоўяў асобную групу складаюць разнастайныя **в і т а н н і** і **д о б р ы я з ы ч э н н і**. Прынята вітацца пры сустрэчы на вясковай вуліцы нават з незнаёмымі людзьмі. У народзе гаварылі: «Бальшэй грэх, як не скажаш чалавеку: здароў!.. Свіння вокала свінні прахадзёмшы, і то рухаіць»[16]. Зразумела, што «грэх» тут — парушэнне звычаёвай ветлівасці.

Для вітання на вуліцы, пры ўваходзе ў хату да суседзяў, сваякоў або да чужых людзей здаўна існуюць устойлівыя кананічныя звароты. Вітаюцца па-рознаму раніцай, удзень, пад вечар. Найбольш пашыраныя ў беларусаў звароты-вітанні: «Здароў (здарова)!», «Добрай раніцы!», «Добрага ранку!», «Дзень добры!», «Добры дзень!», «Дабрыдзень!», «Добры вечар!», «Добры вечар у хату!» Характэрнай, своеасаблівай формай вітання з'яўляецца запытанне пра здароўе пры сустрэчы: «Як жывеш?»; «Як ты чуешся?»; «Ці жывенькі, ці дужэнькі?» На кожнае такое запытанне, як і на кожнае вітанне наогул — адпаведны ветлівы адказ, часцей таксама з гатовых, устойлівых формул. І тут адказы часта падсвечаны лагоднай усмешкай, лёгкім жартам: «Здароў! — Здароў, калі змалоў»; «Як жывіце? — Нічога сабе, жывём, хлеб жуём»; «Смашнога (уваходзячы ў хату ў час абеду)! — Просім, сабе носім».

Устойлівымі зваротамі развітваюцца. Найчасцей так: «Бывай (бывайце)!»; «Да пабачэння!» А ў заходніх раёнах часта і «Давідзэння», «Будзьце жывенькі, здаравенькі!», «Дабранач!», «Добрай ночы!», «Дай бог лёгкі сон да свету!»

---

[15] Л о й к а А. Калі ў дарозе ты... Выбранае. Мн., 1971, с. 202.
[16] Д о б р о в о л ь с к и й В. Н. Смоленский этнографический сборник, ч. III. Пословицы. СПб, 1894, с. 89.

Існуе пэўная залежнасць формы вітання ад узросту тых, хто і з кім вітаецца. Вітанне дзіцяці або падлетка з пажылым чалавекам, зразумела, заўсёды больш паважлівае. Хлопчык ці дзяўчынка не скажа дзеду «Здароў!», але «Добры дзень!».

Даўней у вітаннях выразна выступалі і сацыяльна-саслоўныя адрозненні.

Асабліва цікавыя вітанні з добрымі зычэннямі людзям, якія працуюць у хаце, на полі, на агародзе, на двары, на таку.

На традыцыйныя «Бог на помач!», «Памагай бог!» нярэдка чуецца без асаблівай паважлівасці да госпада: «Казаў бог, каб і ты памог», «Казала бажні'ца: я не памашні'ца».

Людзям у час працы зычылі спору, плёну: сейбіту — «У зямлю зярна'мі, у гумно тарпа'мі!»; агародніцы — «З вядро качаны!»; жнейцы — «У арудзе спорам, а ў прудзе напорам!»; рыбаку — «Клёў на рыбу!»; гаспадыні, што рашчыняе хлеб,— «Падходна вам!»; жанчыне, што збівае масла,— «Комам масла!»; ткаллі — «Багата на ўток!» У гэтых ветлых і сардэчных зваротах-зычэннях выяўлена вялікая павага да працы і да працоўнага чалавека.

Вядомы шматлікія добрыя пажаданні пры розных іншых акалічнасцях: пры зборах у дарогу — «Гладкае вам дарожкі!»; на наваселлі — «Гэтай будынкі на пастаянне, а вам на пражыванне»; у лазні — «Крэпкага духу мужом пачэсным!»; пры чханні — «Будзь здаровы на ўвесь год, як калядны лёд!»; пры наведванні хворага — «Бадай табе палепшала!» і інш.

Народныя выслоўі чуваць не толькі ў час весялосці: знаходзіцца спачувальнае слова і ў гадзіну смутку, чалавечага гора. Вядомы ўстойлівыя звароты пры пахаванні і на памінках, прасякнутыя павагай да чалавека і да таго жыццёвага шляху, які ён прайшоў: «Каб яму лёгкая была зямля!», «Каб яму зямля пяром!», «Светласць векавечная няхай яму свеціць!» У некаторых памінальных выслоўях выяўляюцца навеяная хрысціянствам вера ў «той свет» («Царства яму нябеснае!») і даўнейшыя вераванні, звязаныя з культам продкаў («Няхай ён са святымі спачывае, нам хлеба-солі засылае»), якія вынікаюць са старажытнага перакanання, што памёршыя сваякі («дзяды») нібыта здольны дапамагчы жывым у гаспадарчых справах.

Са старажытнымі вераваннямі ў магічную сілу слова, у шчаслівыя і нешчаслівыя дні і гадзіны, у сурокі і г. д. звязана таксама асобая група выслоўяў-зычэнняў, якія мы назвалі з ы ч э н н я м і-з а с ц я р о г а м і. Па сваёй прыродзе яны амаль аднолькавыя з замовамі, паколькі яны таксама сілаю слова прызначаны былі адвесці небяспеку, якая можа спасцігнуць чалавека. Да падобных выслоўяў-засцярог, амаль страціўшых ужо першапачатковы сэнс, можна далучыць такія агульнаўжываемыя і пашыраныя выслоўі, як «Не дай бог!», «Барані бог!», «Няхай бог

крые!» Ад «небяспекі» павінны былі засцерагчы і такія славесныя формулы: «Дай, божа, у добры час гаварыць, у благі маўчаць»; «У вясёлум часе, у шчаслівую мінюту вам гэта сказаць»; «На заднія дні няхай будзець памянута». Каб засцерагчы ад няшчасця хату, дзе вядзецца размова, або чалавека, пры якім пра што-небудзь нядобрае апавядаецца, у гаворку ўстаўлялі выслоўі: «Не ў вашай хаце спамінаючы»; «Не тут казана»; «Не пра вас кажучы».

У вітаннях і зычэннях выражаны выдатныя рысы характару народа — яго бытавыя нормы ветлівасці і прыязных узаемаадносін, закладзеная ў самой яго прыродзе дабрыня.

Ці не адсюль такое багацце ў беларускай мове ўстойлівых ласкавых і ветлых выслоўяў-зваротаў, узоры якіх таксама пададзены ў гэтым томе? Яны адрасуюцца да блізкіх сэрцу людзей, у першую чаргу да дзяцей: «Ах мае′ сакаляня′тко», «Жураві′нінька мая», «Мая ты цётачка, мая ты залаценькая», «Наш дзяду′няк». Адсюль жа і вядомыя беларускія «Калі ласка» і «Будзьце ласкавы», якія перасягнулі межы Беларусі і палюбіліся таксама рускім і ўкраінцам.

М. Нікіфароўскі разглядае «ласлівыя звароты» як асобны тып выслоўяў і залічае іх да катэгорыі прывітанак: «Пачатак іх і найбольшае распашырэнне адносяцца да дзяцей, але і ў стасунках паміж узрослымі, а тым больш у зваротах да паважаных і мілых асоб, гэтыя выславы таксама ходкі, як у стасунку да дзяцей»[17]. У сваім зборы ён змяшчае небагата, крыху болей за 20, запісаў ласкавых зваротаў.

Супрацьлеглымі па свайму характару і прызначэнню ў параўнанні з вітаннямі і добрымі зычэннямі з'яўляюцца праклёны, прысяганні і абзыванні, якія некаторыя збіральнікі наогул сарамліва абміналі.

Вядома, што ў народным быце, ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі, у практыцы звычаёвага права здаралася нямала выпадкаў, калі ў тых або іншых абставінах патрабавалася клятвеннае запэўніванне, пацвярджэнне праўдзівасці слова ці ўчынку, заклінанне сябе. Усё гэта, пазначанае ў беларускай мове і яе гаворках дзеясловамі *клясціся, прысягаць, рачы′цца, бажыцца* (бо клятвы пасля пашырэння хрысціянства пачалі падмацоўвацца імем бога), нарадзіла ўстойлівыя славесныя формулы, цікавыя як з боку мовы, вобразнасці, так і з боку адлюстравання ў іх быту, светапогляду і маральных норм народа. Прасцейшай формай прысягання можна лічыць такія выслоўі, як «Дапраўды!», «Дадушы!», «Далібог!» або «Дальбог!» Але ёсць больш складаныя прысяганні: «Клянусь табе сонцам праведным!»; «Каб з гэстага месца не сышоў!»; «Руку даю на адцён, калі ета няпраўда!» і г. д. Найбольш характэрныя — прысяганні-праклёны, звернутыя на самога сябе, кляцьба суровая, часам жудасная, і ўсё для

---

[17] Нікіфароўскі М. Я. Напаўпрыказкі-напаўпрыслаўкі, с. 105.

таго, каб засведчыць праўду: «Каб я выцягнуўся ўдоўж лавы, коль гэта няпраўда!»; «Каб я так сваіх дзетак дагадавала!»; «Калі няпраўду кажу, то праваліся пада мною зямля!» Нездарма і прысяганне, і праклёны часта называліся аднолькава — кляцьба, або, як у Нікіфароўскага, клянбёны, кляцьбёны. Прысяганне, бажба нярэдка суправаджаліся рытуальнымі дзеяннямі. Асабліва дзейсным лічылася прысяганне зямлёю, якую пры гэтым цалавалі або бралі ў рот і нават глыталі. Такую форму кляцьбы трэба лічыць больш даўняй, звязанай, відаць, яшчэ са старажытным культам зямлі. Вельмі пашыраным было прысяганне з адначасовым біццём у грудзі кулаком. У Глыбоцкім раёне ў 1971 г. адна бабулька, каб пераканаць, што яна даўно не помніць купальскія песні, горача сказала: «Вот пабажуся на дзесяць кулакоў, што не ўмею». А ў вершы Янкі Купалы «Разлад» чытаем:

Куды ні глянеш — б'юць у грудзі,
Што значыць — правільныя людзі.[18]

Адносна больш познімі формамі прысягання сталі клятвы над біблііяй, жагнанне, кляцьба крыжам («Вот табе хрэст!»), складванне мезеных пальцаў накрыж, якія прыйшлі разам з хрысціянскай рэлігіяй і царкоўным культам.

Тэкстаў прысяганняў сабрана мала. У П. Шэйна змешчаны 23 запісы А. Багдановіча і І. Карскага[19], у неапублікаваным зборніку А. Сержпутоўскага (л. 18) у рубрыцы «Бажэнне» маецца 15 запісаў бажбы, у астатніх парэміяграфічных выданнях яны трапляюцца адзінкамі.

Безумоўна, варты збірання і ўважлівага вывучэння і другі від кляцьбы — праклёны, або кля́ты, кле́нічы, кляцьбёны, якія, магчыма, яшчэ ў большай меры, чым зычэнні-перасцярогі і прысяганні, генетычна звязаны са старадаўнімі замовамі-заклінаннямі, бо ўсе яны грунтаваліся на веры ў сілу слова. У старым сялянскім быце, пераважна ў жаночым асяроддзі старэйшага пакалення, праклёны знаходзілі сабе глебу ва ўмовах класавага прыгнёту, класавай нянавісці, прыватнай уласнасці, суседскіх і ўнутрысямейных неладоў, якія выклікалі частыя сваркі і спрэчкі.

З праклёнаў аголена выступае тое, што лічылася ў народзе самым горшым злом — сацыяльным, жыццёвым, маральным, фізічным. У іх называюцца страшныя хваробы, ад якіх у тыя далёкія часы асабліва пакутаваў чалавек. У праклёнах пэўным чынам адлюстроўвалася паўсядзённае жыццё селяніна, выражаліся яго клопаты; яны захавалі шмат чаго з даўніх міфалагічных уяўленняў, многія архаічныя элементы мовы, якія маюць значную навуковую і гістарычную каштоўнасць.

[18] Купала Я. Збор твораў у 7-мі т., т. 1. Мн., 1972, с. 189.
[19] Шейн П. В. Материалы..., т. II, с. 510—512.

Максім Гарэцкі, па ўспамінах яго дачкі Галіны Максімаўны, аднойчы з захапленнем слухаў і запісваў у кніжачку праклёны, што сыпала яго суседка, старая Домна, вялікая майстрыха гэтай справы [20]. Запісы пісьменнік неаднаразова выкарыстоўваў у сваіх творах (апавяданне «У лазні» і інш.). Не абмінуў праклёны-кленічы ў сваім раннім даследаванні аб беларускіх прыказках Кандрат Крапіва, заўважыўшы адну вельмі істотную асаблівасць гэтага жанру: кленічы часта ўзнікаюць у залежнасці ад таго, якім учынкам яны выкліканы [21]. Звярнуў увагу на праклёны і Янка Брыль, адзначыўшы іх «мастацкія вартасці». Успамінаючы сваркі сваіх вясковых суседзяў, пісьменнік піша: «Злосці ў той лаянцы, паўторым, не было. Была нават паэзія, хай сабе грубая, але ж і хлёсткая. Я ўжо тады, яшчэ не каровін, а толькі свіны пастушок, мог налічыць колькі хочаш гэтых праклёнаў: «Што там дзяўбеш, каб табе крумкач вочы выдзеўб!..»; «Распеліся тут пад акном, каб вы пелі на хлеб!..» І так — бясконца, а ў цёткі Юсты яшчэ і з паўторам: «Каб ты!..» [22]

Удала ўводзілі народныя праклёны ў свае творы Якуб Колас, Янка Купала, Кузьма Чорны і іншыя беларускія пісьменнікі.

Паэзія народных праклёнаў прывабіла Расула Гамзатава. Вялікі мастак адчуў у іх непаўторную вобразнасць і выразнасць мовы. У сваю славутую кнігу «Мой Дагестан» ён увёў асобную рубрыку «Аб праклёнах» [23].

Толькі пазнаўшы і ацаніўшы літаратурныя вартасці народных праклёнаў, Расул Гамзатаў змог прыйсці да вываду: «Я думаю, што з часам хто-небудзь з фалькларыстаў складзе кнігу з горскіх праклёнаў, і тады людзі пазнаюць меру выяўленчасці, меру вытанчанасці, меру фантазіі горцаў, а таксама меру выяўленчасці нашай мовы» [24].

Тое ж самае можна сказаць і пра праклёны на іншых мовах. Вось чаму правамерна, каб праклёны занялі адпаведнае месца ў фальклорных парэміяграфічных выданнях, хоць кляцьба, таксама як карыстанне замовамі-шэптамі, і належыць да негатыўных з'яў быту.

Праклёны звычайна чуваць з вуснаў чалавека раззлаванага, разнерваванага, якому зрабілі якую-небудзь непрыемнасць, зло. Лютыя праклёны пастаянна чуліся перш за ўсё па адрасу заваёўнікаў-чужаземцаў, паноў і падпанкаў у часы прыгону; пазней клялі памешчыкаў і розных іншых эксплуататараў і прыгнятальнікаў працоўнага люду. Гэта праклёны, так сказаць, сацыяльнага зместу: «Каб нашыя мазалі пану ў горла пераселі!» Ці больш сучасныя: «Хацеў Гітляр Маскву заваяваць. Хваробы з трасцаю яму!»; «Хай той акалее, хто вайны тэй хочыць!»

---

[20] Гл. Адамовіч А. Здалёк і зблізку. Мн., 1976, с. 136.
[21] Крапіва К. Збор твораў у 4-х т., т. 4. Мн., 1963, с. 250.
[22] Брыль Я. Акраец хлеба. Мн., 1977, с. 8.
[23] Гамзатов Р. Мой Дагестан. Пер. с аварского В. Солоухина. М., 1968.
[24] Там жа, с. 57.

Большасць жа праклёнаў — бытавыя, якія ўзнікаюць з розных нагод, з паводзін і ўчынкаў людзей у штодзённым жыцці. Іх могуць слаць і на жывёл, і нават, пагарачыўшыся, на нежывыя прадметы.

Апрача масы ўстойлівых зваротаў-праклёнаў, у іх стварэнні пэўную ролю адыгрывае імправізацыя. Праклёны-экспромты адразу рэагуюць на чый-небудзь непрыстойны ўчынак: «Каб таго выцягнула ў магілу, хто мае грошы выцягнуў!»; «Дрэва зрэзаў. Каб цябе дактары рэзалі!» Часам гэтыя кляты бываюць даволі «выдасканаленыя»: «Каб табе язык парахнёй у горла сыпаўся!» Але часцей і тая кляцьба, якая выклікана пэўным учынкам і з'яўляецца хуткім рэагаваннем на яго, карыстаецца ўстойлівымі зваротамі, запасам «паўфабрыкатаў»: «Бярэць, каб яго за жывот брала!»; «Ездзіць любіш, каб ты жыватом ездзіў!»

Праклёны бываюць вельмі злосныя. На галовы праціўнікаў насылаюцца самыя ліхія беды, няшчасці і напасці:

заняпад гаспадаркі — «Каб яму ні ў чом спору не было!»; «З канца ў полі канец зарадзі ў цябе адзін званец!»; «Каб твой двор запусцеў!»;

бядоту і галечу — «Каб табе чыста, каб табе гола было!»; «А няхай цябе ліха!»;

пажар — «А бадай ты згарэў!»;

смерць — «А каб на цябе згуба прышла!»;

розныя хваробы — халеру, чуму, сухоты, паляруш, раза́чку, каросту, слепату, глухату, скулля, трасцу, радзімец, лом, калю́к, сумарок, немач і інш.

Пры гэтым не грэбавалі клясці і імем бога, забыўшыся і на яго святасць: «Каб яму духі выперла, дай тое, божухна-бацюхна!»; «Згінь-прападзі праз боскую моц!»; «Каб ён языка не ўсунуў назад у рот, як стане маліцца!»

У праклёны ўпляталі і ўсіх нячысцікаў — чорта, люцыпара, цмока, балацяніка, вадзяніка, лесуна і г. д. У парыве злосці «адсылалі» свайго праціўніка ў іх уладанні — на разарванне, на пагібель.

Амаль усе праклёны маюць пастаянныя пачаткі-зачыны — каб ты (цябе, табе), а каб цябе, а бадай цябе, а няхай, хай, а штоб ты і г. д. Да структурных асаблівасцей беларускіх праклёнаў можна аднесці паўтарэнне пачатку ў канцы выслоўя: «Каб вы падохлі, каб вы!»; «Каб табе д'яблы скуру папісалі, каб табе!»

Больш ціхамірная жанчына часам толькі робіць выгляд, што кляне, саромеецца, не адважваецца насылаць на чалавека няшчасці і абмяжоўваецца такімі бяскрыўднымі формуламі: «А няхай цябе, няхай!»; «Каб жа яго да бадай жа яго!»

Наогул народ асуджальна ставіцца да злосных, «смяротэльных» праклёнаў, асабліва калі яны скіраваны да чалавека, да сваіх бліжніх, аднавяскоўцаў. У такім выпадку можна часта пачуць: «Навошта так ужо

кле́сці?» або «Так ужо кляла, ну, на раны Езусовы» (з запісаў Л. Салавей на Мядзельшчыне). Сурова асуджаецца праклінанне дзяцей і зусім кашчунным, недаравальным лічыцца кляцьба сваіх бацькоў. Вось чаму сярод праклёнаў трапляюцца часам несапраўдныя, псеўдапраклёны, і жартоўная, незласлівая кляцьба. Часцей яна адрасавана дзецям, праклінаць якіх па-сапраўднаму заўсёды пярэчыла ўсім нормам народнай маралі. На дзяцей звычайна чуюцца такія «праклёны»: «А бадай цябе качкі стапталі!»; «Каб цябе дождж памачыў!» Гэта дзеля таго, каб даць выхад хвіліннай запальчывасці. А то здараецца, не губляючы душэўнай раўнавагі, жанчына шле свае праклёны міма таго, хто для яе дарагі, і нацэльвае іх зусім у іншы бок, да таго, хто сапраўды таго варты. Гэта ўдала прыкмеціла пісьменніца Алена Васілевіч. Гераіня яе аповесці «Новы свет» цётка Марыля такім спосабам кляла сваю жыўнасць: «Кыш! Кыш, боль вашаму коршаку!» — гэта курэй яна гэтак кляне, адганяючы ад парасячага карыта.

Разумныя праклёны,— працягвае А. Васілевіч.— А то ў іх, у Зялёнай Дуброве, як пачне гаспадыня клясці! І каб ты ногі выцягнула — цяля. І каб цябе воўк зарэзаў — карову. І каб вы павыпруджваліся — парасяты... Што было б, каб, і праўда, усе гэтыя праклёны збываліся — страхоцце адно! А цётка Марыля — свіння ўскочыла ў агарод і траха не загон бульбы лычом вывернула — не свінню кляне, а воўка: «А боль твайму воўку, здэцца! Гэтулькі працы змарнавала!..» [25]

Мы наглядалі і такі спосаб несапраўднай «кляцьбы» дзяцей. Калі дзіця разбушавалася гуляючы, маці, раздражненая яго гарэзлівасцю, можа накрычаць: «Халера каб цябе... не ўзяла!»; «А ліха табе... не!» Настолькі ўкаранёны быў страх перад чарадзейнай сілай слова, вера ў яго магутнасць. І настолькі цвёрда народная этыка не дапушчала клясці дзяцей.

Гэтае ж старадаўняе перакананне ў тым, што слова дзейснае, што ў ім закладзена вялікая моц, нарадзіла і адкляцці — звароты, якія нібыта здольны парыраваць праклён, ператварыць яго ў своеасаблівы бумеранг, які вяртаецца да таго, хто яго кінуў. Адкляцце павінна было адвесці, адбіць уздзеянне праклёну або, прынамсі, аслабіць яго сілу: «Брашы на асінавы кол»; «Каб твае кляты на сухі лес!» Або зусім коратка: «Кляні — сабе бяры!». Па сутнасці гэта тыя ж праклёны, толькі абернутыя для абароны.

Праклёны, безумоўна, адзін з найдаўнейшых відаў славеснай творчасці, блізкі да магічных заклінанняў, якія суправаджалі вытворчую дзейнасць чалавека першабытнаабшчыннага грамадства. Хоць у значна меншых маштабах, чым у мінулым, праклёны застаюцца няхай негатыўнай у маральна-бытавых адносінах, але жывой з'явай у народнай мове. Тым самым

---

[25] Васілевіч А. Пачакай, затрымайся... Мн., 1972, с. 326.

яны адкрываюць дадатковую магчымасць далучыцца да скарбаў народнага вобразнага слова, адчуць яго розныя сэнсавыя і эмацыянальныя адценні.

Асобным відам выслоўяў, але блізкім да кляцьбы з'яўляюцца абзыванні — называнне каго-небудзь зняважлівымі, крыўднымі, але пераважна абвінаваўчымі словамі[26]. Гэта не лаянкавыя словы ў простым разуменні. Абзыванне, адным-двума словамі кінутае чалавеку, трапна характарызуе тое дрэннае, што ёсць у ім, вінаваціць, ганьбуе, выкрывае, сароміць. Гэта таксама і нё мянушка, якая часцей «прыліпае» да чалавека пасля якога-небудзь смешнага здарэння з ім. Абзыванне часцей за ўсё выконвае выкрывальныя функцыі, з'яўляецца пэўнай, хоць часам і грубаватай і завельмі вострай у залежнасці ад эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі слова формай грамадскага ганьбавання адмоўных рыс у паводзінах чалавека — гультайства, нядбайства, п'янства і г. д.

Такое слова, падмацаванае прыметнікам (паганы, пракляты, акаянны і інш.) або ў спалучэнні з займеннікам (гэтакі, той, ты, які), выклічнікам (во, ой, о, ну) у пэўным кантэксце, стварае своеасаблівае выслоўе. Часам яно выступае і ў форме аднаго толькі слова-абзывання, ёмістага, трапнага, якое адразу характарызуе ўсю сукупнасць з'явы.

Асабліва бязлітасна абзыванні шальмуюць гультаёў. Працавітасць, любоў да працы, умельства заўсёды былі тым асноўным крытэрыем, якім народ ацэньваў вартасці чалавека. Вось чаму можна сказаць, што асабліва многа абзыванняў якраз скіравана на таго, хто ўхіляецца ад працы, марнуе свой час гультайствам, праяўляе нядбайства. І фантазія пры стварэнні выкрывальных слоў для абзывання гультая проста бязмежная: абібок і абібочына, лежань і ледач, валяч і завала, басты́сь, багла́й, байбас, блы́нда, брус, бязу́ла, дзяндзі́вер, ля́біх, біндзюга́йла, кацьма́к і інш.

Ганебнага слова-абзывання заслугоўвае ў народзе і чалавек неахайны і нядбалы, які ацэньваецца як разнавіднасць гультая. І да такога чалавека слова не мае літасці, выкрываючы яго заганы: апоўзіна, халда, гэмзала, гі́рма, мурза папова, хлю́ндра, вашапру́д, грамзу́ль, нямы́ка, лы́ла, афэрма.

Калі не ганьбуюць, дык едка высмейваюць нязграбнага чалавека і няўмеку. Да іх адрасуюцца абзыванні: нізграбо́цё, раскапе́йда, нехляма́жны, жырдагон, згарода, пара́цька, недалэнга, мама́й і інш.

У поглядах народа на вартасці і заганы чалавека недалёка ад няўмекі адышоў чалавек марудны і разява. Для такіх таксама ў запасе абзыванні-

[26] У рукапісным зборніку А. Сержпутоўскага яны змешчаны ў рубрыцы, якую ён не зусім дакладна ў даным выпадку назваў «Знявага» (л. 92—98). Рубрыка налічвае 229 запісаў, сярод якіх, аднак, абзыванняў толькі 133. Астатняе — прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы.

кпіны: маруда — вазгра', вязголя, ке'пала; разява — варона, разя'па, вярэня, разгірэня, ніхлю'й, шале'паўка.

Як відаць, асабліваму ганьбаванню і бязлітаснаму асмяянню абзываннямі падлягаюць людзі, якія ўхіляюцца ад працы ці дрэнна працуюць. Ім няма апраўдання. Няма спагады і літасці ў абзываннях і да п'яніц: пінцюх, апіва'шына, заліва'ха, ма'кша, буса'йла і г. д.

Не ў пашане ў народзе някемлівы чалавек, невук, дурнаваты. Яны «ахрышчаны» не менш хлёсткімі абзываннямі: боўдзела, балды'ка, балдавешка, доўбня, ёлупень, ляпёха, кавадла дурная, капусця'ная галава, абі'згал бязмозгі.

Тое ж можна сказаць і пра балбатуноў і пляткарак, якіх таксама не мілуюць: балбаце'нь, верзяя', вя'кала, жаўна языкатая, малатарня, шапу'цька, звадыяшка, жагля'ўка (з асабліва куслівым языком) і інш.

Вельмі гнеўныя і ганебныя словы скіраваны ў адрас жулікаў, ашуканцаў, махляроў, злодзеяў: ошуст, ма'хар, ка'мбал, крутасвет, машнарэз, мышапор, шы'бельнік; валацуг: басця'ка, валачай, брэндзала, адры'га; нагогул паганых, ліхіх людзей: акаём, псюк, воўча шкура, вы'жла, гіцаль, ірад, ані'быль, гары'да.

Абзываюць людзей і за паасобныя заганныя рысы характару: скупога — склют, жлоб, жмінда, сы'зма; упартага — нагу'ла, убоіна; ілгуна — манце'ль, маньку'т, брэхман, ля'йда, махале'й; задаваку — абдулейка і інш.

Сярод абзыванняў ёсць і такія, што незласліва, па-лагоднаму высмейваюць некаторыя фізічныя заганы або выгляд чалавека, але гэта ўжо звычайна гавораць завочна, каб не пакрыўдзіць яго. Так, на таўстуна кажуць барыла, брухель, цяльпух, сурмі'ла; на худога — далігойда, дыхля'к; на нізкарослага — курду'пель, ку'рцік; на кульгавага — чыкілдун; на падслепаватага — сляпундра; на таго, хто недачувае,— глушма'н. глухя'нда; з даўгім носам — носаль; з тоўстымі губамі — грыбаздзі'ла.

Трапляюцца абзыванні, што ўзніклі ў чужым класавым асяроддзі. Так, лапцюжнік, мякіннік, галашчап, гальцапа — гэта тыя найменні, якімі багацеі, шляхта і кулакі пагардліва называлі мужыкоў, беднату, галыцьбу.

Нават зусім кароткі агляд абзыванняў паказвае, што яны, як і праклёны, з'яўляюцца сапраўдным сховішчам дзівосных слоў і зваротаў, вынікам вялікай творчай работы пакаленняў, які не можа пакінуць раўнадушнымі не толькі фалькларыстаў, што даследуюць славесную паэтычную творчасць, але і мовазнаўцаў. Тут кожнае слова можа зацікавіць і лексіколагаў, і дыялектолагаў, і гісторыкаў беларускай мовы, і анамастаў, і асабліва этымолагаў. Не абміне абыякава гэты россып слоў, што адсвечваюць нязвыклымі гранямі, і пісьменнік, якому выслоўі падобнага функцыянальнага стылю могуць спатрэбіцца для сваіх твораў.

Разам з абзываннямі вядомы таксама ў параўнальна невялікай колькасці д р а ж н і л к і - к е п і к і, якія бытуюць не толькі ў дзіцячым асяроддзі,

але і сярод дарослых. Гэта жартоўнае абыгрыванне ўласных асабовых імён дзеля смеху і пакеплівання. Напрыклад, «Крыстына да каменя прыстыла»; «Міна пайшоў міма»; «Прося-даўганося».

У невычарпальны паток устойлівых выслоўяў шырокай ручаінай уліваюцца народныя параўнанні — адзін з найвыразнейшых выяўленчых сродкаў мовы, які надае ёй больш вобразнасці, яркасці. Як прыказкі і прымаўкі, а бадай і часцей, мы чуем параўнанні на кожным кроку ў жыцці, у размовах з людзьмі, у песні, у літаратуры. Іх — безліч, і належаць яны да сапраўднай вуснай паэтычнай творчасці. У жанравых адносінах яны бліжэй за ўсё да прымаўкі, а па сутнасці тыя ж прымаўкі, толькі пададзеныя ў форме супастаўлення розных з'яў, рэчаў, паводзін або ўчынкаў чалавека, каб больш трапна падкрэсліць, ахарактарызаваць іх адметныя рысы. Такім чынам, і функцыі ў параўнання і прымаўкі аднолькавыя — трапная характарыстыка, толькі прымаўка абыходзіцца без параўнальнага супастаўлення.

Таксама як у прыказках і прымаўках, у параўнаннях сканцэнтраваны жыццёвы вопыт народа і гэтак жа ў іх іскрыцца дасціпны народны гумар.

У выслоўях-параўнаннях аб'ект, з якім што-небудзь супастаўляецца, г. зн. параўнанне-вобраз, амаль заўсёды пачэрпнуты з роднай навакольнай прыроды або са звыклага сялянскага быту, зусім добра знаёмага. У гэтым выражана канкрэтнасць, «бачнасць» вобразнага мыслення, якія ўласцівы народнай паэзіі наогул. Для традыцыйных параўнанняў браліся з'явы і стыхіі прыроды (сонца, месяц, зоры, вецер, расліны, звяры, свойскія жывёлы, птушкі), абыдзённыя прадметы, прылады і хатняе начынне, з'явы сацыяльна-эканамічнага жыцця (прыгон, паншчына, жабрацтва), праявы духоўнага свету (дэманалогія, вераванні, святы, асвета, мастацтва).

Амаль усе ўстойлівыя народныя параўнанні, як таго вымагае сама іх сутнасць, складаюцца з дзвюх частак: першая называе аб'ект або паняцце, якое падлягае параўнанню, другая змяшчае само параўнанне, супастаўленне з першай. Абедзве часткі нібы звязваюцца ў адно злучальнай часцінкай. Пераважна — гэта злучнік *як* («Белы як лебедзь»). Але сустракаюцца і такія формы злучнікаў і іх варыянты: *ак, бы* («Зажадалася бы на маладое»), *быццам, бытта, баццэ, што* («Высахла што шчэпка»), *роўна* («Ідзе, роўна вядро на галаве нясе»), *усё роўна як* («З табою гаварыць, усё роўна як з пяску пугу круціць»), *чыста, начэ* («Глядзіць на́чэ казёл у ваду»), *хоць* («Пясок, хоць нябожчыка хавай»). Зрокава структура параўнання ўяўляецца нам падобнай на цэп, даўнюю сялянскую прыладу малацьбы, дзе цапільна — гэта як бы першая частка параўнання, біч — другая частка, а гужык — злучнік.

Ёсць некаторая колькасць параўнанняў і іншай канструкцыі, у якіх злучнікі, што з'яўляюцца адзнакай кожнага параўнання, знаходзяцца ў

пачатку ска́заў. Гэта параўнанні такога тыпу: «Як агнём смаліць». «Як агню баіцца», «Як аднае маццеры дзеткі», «Што жучкі валасы», «Бы ваўкалака шнырыць».

Па свайму характару сярод параўнанняў вылучаюцца два віды: параўнанні, у якіх праяўляецца лірычнае адчуванне жыццёвых з'яў, паэтычная настраёвасць наогул, калі можна так назваць, параўнанні «сур'ёзныя» і параўнанні жартоўныя, у якіх само супастаўленне прасякнута гумарам.

Вось толькі некалькі са шматлікіх узораў лірычных параўнанняў: «Адзін як месячык у небе», «Дачушка як ластавачка», «Вольны як вецер». Або проста ўзоры параўнанняў без элементаў гумару: «Бог даў жонку як мурашачку», «Адказ як шыла» (рэзкі, дакладны).

Досціп, гумар належаць, бадай, да яшчэ больш адметных рыс параўнанняў, асабліва калі яны прызначаны для асмяяння чаго-небудзь адмоўнага. Прыклады параўнанняў-жартаў: «Ажаніўся як нагу ў бот уставіў», «Але есць як валоў шэсць», «Абленавалася як лейзерава карова».

І не толькі звычайны жарт,— горкая іронія нярэдка гучыць у народных параўнаннях. На кожнае слова, на кожнае неадпаведнае ісціне сцверджанне гатовы іранічны адказ-параўнанне: «Ты ж сёння вольны.— Ага, вольны як рыба ў нераце»; «Добры.— Добры як соль на ране».

Па свайму зместу параўнанні не паддаюцца колькі-небудзь выразнай сістэматызацыі. Жыццё на кожным кроку можа даць нагоду, стварыць акалічнасці, пры якіх у любой размове ўзнікаюць параўнанні. Усё залежыць ад схільнасці чалавека да вобразнага слова, ад таго, наколькі ў яго дастатковы запас устойлівых словаспалучэнняў-«загатовак», ад яго размоўных здольнасцей і жыццёвага вопыту. Вось тады, напрыклад, можа здарыцца, калі чалавек, папракаючы свайго субяседніка, што з ім цяжка, нязручна працаваць, прывядзе такі «аргумент»: «З табою як у лесе з бараною». Так і нараджаюцца, так і жывуць выслоўі-параўнанні сваім нязгасным жыццём.

Усё ж, азнаёміўшыся з багатым матэрыялам параўнанняў, можна адзначыць некаторыя іх характэрныя рысы.

У параўнаннях праявілася тонкая назіральнасць народа над прыродай, жывёльным светам, чалавечым характарам, асаблівасцямі быту. Відаць, толькі з вуснаў пастуха, які добра ўведаў паводзіны жывёлы і не раз сутыкаўся з воўкам, упершыню нарадзілася параўнанне: «Вылупіў вочы як баран на воўка». Толькі дбайная гаспадыня, якая клапатліва гадуе сваё птаства, магла ўпершыню сказаць: «Далікатны як куранятка».

Значная частка параўнанняў па свайму паходжанню такая ж старадаўняя, як і асноўныя жанры абрадавага фальклору. Пра гэта сведчаць вобразы язычніцкай дэманалогіі, якія захаваліся ў некаторых параўнаннях: «Сядзіць як копша»; «Растрэпаны валасы як у лоўмы»[27]. Знайшлі

[27] Адпаведныя тлумачэнні дадзены ў каментарыях.

адлюстраванне ў параўнаннях і іншыя рысы старажытнага светапогляду, міфалогіі, дахрысціянскіх вераванняў і пазнейшай хрысціянскай рэлігіі: культ продкаў («Ідуць як змарлыя душы на дзедавую вячэру»), двоевер'е («Панёс як чорт грэшную душу»), хрысціянскае вучэнне аб збавенні і раю («Жадае як збавення душы»; «Добра як у раю»). Нярэдка ў параўнаннях фігуруе і сам бог, хоць часам цяжка заўважыць паважлівасць да яго ці святасць у яго абліччы («Рад як бы бога за ногі злавіў»; «Глухі як бог»).

Асобныя параўнанні адлюстроўваюць мінулыя эпохі ў гісторыі народа: феадальную з прыгонам («Ідуць як на паншчыну»), капіталістычную з класавай эксплуатацыяй і галечай («Заране ўстаў як паноў парабак»).

Вялікі матэрыял даюць параўнанні, у якіх, як у мініяцюры, намаляваны паасобныя карціны быту старой вёскі. Прычым такія параўнанні з характэрнымі аксесуарамі былога матэрыяльнага і духоўнага жыцця беларускага селяніна ў значнай меры нясуць у сабе рысы нацыянальнай своеасаблівасці народа на пэўнай стадыі яго гістарычнага развіцця. Дастаткова прывесці такія параўнанні: «Дзяцей як снапоў у пасадзе», г. зн. многа. Тут названы характэрны спосаб раскладання снапоў на таку для малацьбы цэпам у беларусаў. «Добра як на дажынках». У параўнанне ўведзена радаснае святкаванне заканчэння жніва. «З добрым рабіць, як дзяды дзедаваць». Як вядома, дзяды належалі да адметнасцей беларускай народнай абраднасці. «Бродзіць па хатах як старац на вялікдзень». Пра разнавіднасць беларускага валачобнага абрада. «Стаіць як лучнік пасярод хаты». У гэтым выслоўі для параўнання скарыстаны абавязковы прадмет старога сялянскага быту — прылада для палення лучыны, якая ў многіх мясцовасцях называлася «дзедам».

Пэўная частка параўнанняў узнікла на глебе якіх-небудзь мясцовых падзей або здарэнняў са сваімі аднавяскоўцамі, і таму арэал іх быў абмежаваны. І толькі тады, калі першапрычына нараджэння параўнання з часам забывалася, яно выходзіла на больш шырокі прастор. Да «мясцовых» можна аднесці такія параўнанні: «Нарабіў як воўк у Маркунах», вядомае ў межах Астравецкага раёна; «Толк як у Адэльску» і «Доўгі як Алекшыцка грэбля», пашыраныя ў межах Гродзеншчыны, і інш. Маглі набыць больш шырокае бытаванне такія параўнанні, героі якіх страцілі сваю мясцовую «прапіску»: «Разышоўся як Ігналя на вечарынцы».

Параўнанні застаюцца актыўным жанрам вуснай народнай творчасці. Асноўная маса іх, што ўзнікла ў мінулым, жыве і зараз, за выключэннем тых, што нясуць на сабе сляды адсталага светапогляду. Такія параўнанні, якія яшчэ захаваліся ў памяці людзей старэйшага пакалення, пастунова забываюцца і знікаюць. У наш час нараджаюцца новыя параўнанні. Некаторыя з іх з'явіліся з успамінаў пра гады Вялікай Айчыннай вайны: «Але ж і нарваўся, як немцы на засаду»; «Дзікі як фашыст». Часам трап-

ляецца ў параўнаннях і зусім забаўнае спалучэнне новага са старым: «Ну й целявізар у вас: маленькі як козья вочка».

Устойлівыя народныя выслоўі, толькі частка якіх змешчана ў гэтым томе, сведчаць, што народная крыніца тоіць у сабе нязмерныя і да канца нязведаныя скарбы слова, вобразаў, паэзіі. Яны даюць адчуць таксама, якая трапная і прыгожая беларуская мова, як народ умее адабраць слова, каб яно зайграла патрэбнай гранню адпаведна свайму эмацыянальнаму настрою.

Выслоўі шырока ўжываюцца ў літаратуры. Мікола Лобан у сваім добразычлівым і строгім аглядзе творчасці маладых празаікаў першай палавіны 70-х гадоў зусім правільна сцвярджае: «Сапраўдны пісьменнік пазнаецца па высокай культуры мовы, па яе багацці, па яе няспынным абнаўленні, па моватворчасці, па руплівых адносінах да яе лексічных і фразеалагічных фондаў, па адкрыццях спалучальнасці слоў, па выкарыстанні ўсё новых і новых яе патэнцыяльных магчымасцей»[28]. У той жа час ён перасцерагае маладых пісьменнікаў: «Забываюць, што слова мае не толькі свой арэал, але і пэўны стылістычны ўзровень. Забываюць, што яно можа быць эстэтычным і неэстэтычным. Я далёкі ад той думкі, што нейкія словы трэба пазбавіць грамадзянскіх правоў. Нічуць. Але кожнае слова прыдатнае толькі на сваім месцы»[29]. Усё гэта цалкам адносіцца і да карыстання выслоўямі, кожны від якіх, як няцяжка заўважыць, вызначаецца адпаведным стылістычным узроўнем слова.

* * *

Для дадзенага тома скарыстаны друкаваныя зборнікі М. Федароўскага, І. Насовіча, П. Шэйна, Ф. Янкоўскага, шматлікія дыялектныя і краёвыя слоўнікі і архіўныя крыніцы, многія запісы апошніх гадоў. Значная частка запісаў друкуецца ўпершыню.

Сістэматызаваныя па раздзелах і падраздзелах па жанрава-функцыянальных адзнаках выслоўі ў межах кожнай канструктыўнай часткі тома размешчаны ў алфавітным парадку, як таго вымагае сам характар матэрыялу.

Ва ўсіх тэкстах выслоўяў, згодна з арыгіналам запісу, захоўваюцца лексічныя і некаторыя марфалагічныя асаблівасці (напрыклад, *ідзе* і *ідзець; які, малады* і магілёўска-віцебскае *якей, маладэй; скурчыўся, валы* і гродзенскія *скý́рчыўсё, валэ)*, але ў адпаведнасці з сучаснымі нормамі беларускага правапісу.

*М. Я. Грынблат*

---

[28] Лобан М. Праблемы маладой прозы.—«Полымя», 1976, № 3, с. 218.
[29] Там жа, с. 219.

# ТРАПНЫЯ, СМЕШНЫЯ І ЎСТОЙЛІВЫЯ ВЫРАЗЫ

А асьмакі трэба на за′раз. [1] *Сержп., 136.*

А вада яго ведае (знае)! *М. Грынблат, 1976, Ваўк. 8.76.113* *; *1962, Дзятл. 8.1.74.*

А вор спор, а ў мяшку пуста. [2] *Mien., 396.*

А, гэтакія паны! Па тры ў штаны. *Ляцкий, 1.*

А д'ябал яго ведае! *Касп., 101, Беш.*

А ей! Там ўжо цы′мас. [3] *Fed., 61, Ваўк. п.*

А злыдні яго знаюць (ведаюць)! *Касп., 134, Сен.; 125, Беш.*

А кадукі (а кадук) яго ведаюць (ведае)! [4] *Шатэрнік, 125, Сміл.; Суяшк., 204, Лід. Вар.: Касп., 148, Чаш.; Нар. сл., 18; Г. Арашонкава, Старадар.*

А калі гэта было? — Як воўк шчэням быў. *Fed., 44, Слон. п.*

А кім ты работаеш? — Старшым, куды пашлюць. *М. Грынблат, 1977, Кар.*

А мае ж вы дзеці, а дзе ж вас падзеці? *І. Курбека, 1961, Докш.*

А мне да таго ні спераду, ні ззаду. [5] *М. Грынблат, 1974, Мн.*

А можа? — Можа на двое варожа. *Там жа, 1975, Мн. Вар.: Ром., Бел., 301; Г. Румоўская, 1961, Пліс. 13.10.40.*

А мо табе даць кашы бярозавай? [6] *Fed., 139, Ваўк. п. Вар.: Pietk., 374.*

А мой жа ты свой, ды няродненькі. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7; Янук., 30.*

А мой ты такі, а мой ты сякі, а мой гэтакі. *Fed., 310, Ваўк. п.*

А немач яго ведае! *Нар. сл., 38, М. Бірыла, Дзярж.*

---

* Індэкс АІМЭФ: фонд, вопіс, № справы.

А ні ваш, а ні наш, але свойскі. *Ляцкий 2.*

А ні да бока, а ні да вока. *Там жа; Сержп., 121.*

А ні да рады, а ні да звады. *Ляцкий, 2; Сержп., 121.*

А ні дзын, а ні за вяровачку. *Ляцкий, 2; Сержп., 66.*

А ні ладу, а ні складу. *Fed., 168, Вайк. п. Вар.: Ляцкий, 2; Нос., 112; Pietk., 377.*

А ні окам (відам) не відаць, а ні слыхам не чуваць. *Fed., 330, Вайк. п.*

А ні прышыць, а ні залатаць, а ні палец абярнуць. *Ляцкий, 2.*

А ні слуху, а ні духу. *М. Грынблат, 1961, Мн. Вар.: Fed., 83, Вайк. п.*

А пярун яго ведае (знае)! *М. Грынблат, 1962, Дзятл. 8.1.74; 1978, Нав. 8.78.152.*

А ражон яго знае! *Там жа, 1954, Радун.*

А скула яго ведае! *Там жа, 1978, Нав. 8.78.152.*

А смуткі яго ведаюць! [7] *Fed., 284, Слон. п.*

А тваё дзела — «гаў», ды й пад кут. *Дуб., Нар., 13.*

А то ж твой бацька, як валы (коні) краў, то хлявы зачыняў (замыкаў), а ты хаты не хочаш. [8] *Fed., 16, 399, Вайк., Гродз. п. Вар.: Шатэрнік, 112, Сміл.*

А то ж узяў пастронак, да яшчэ з цяглам. [9] *Fed., 223, Вайк. п.*

А тут: хоць ты вухам аб зямлю ўдарся. *Дуб., Нар., 1.*

А ты куды лезеш? У цябе яшчэ калошы кароткія. [10] *М. Грынблат, 1978, Кар.*

А як ты, браце, кала шкла чыста ходзіш. *Fed., 299, Сак. п.*

А ў лесе сыр бор гарыць, а Янка навіну гаварыць. *Ляцкий, 2.*

А хоць ты, бацька, едзь у лес, а я дома застануся, а хоць я дома застануся, а ты ў лес едзь, як хочаш. *М. Грынблат, 1976, Кар.*

А чорт яго ведае, нарэшце сказаўшы. *Там жа, 1978, Іў. 8.78.152.*

А чым закусваць будзеш, куме? — А як хочаш, давай хоць манку, мне ўсё роўна чым адрыгваць. *Там жа, 1977, Кар.*

А што галаве да ног? Няхай топчуць. *Янк., 371.*

А што табе за трасца (хвароба)? *Fed., 314, Вайк. п.; Dybow., 5.*

А што? Хіба мая сука не сабака? Хвастом не віляе? *Янк., 371.*

А яна плача проста на ўсё горла. *М. Грынблат, 1967, Мн.*

А якога ж яшчэ ражна хочаш? *Сержп., 97.*

А якося каму дзела да чужога цела? *В. Рабкевіч, 1961, Брасл. 13.9.5.*

А яму ні а′ткі, ні га′нкі. [11] *Сержп., 11.*

А яму ўжо пад Юр'я ніза′даўга. [12] *Мяц., 198, Маладз.*

А-а, малое, пакуль будзець другое! А-а, Не′сцерка, пакуль будзець шэсцерка! [13] *Нос., 1.*

Аб гэтым многа гаварыць, але мала слухаць. *Fed., 107, Вайк. п.*

Абае лукі, абае тугі. [14] *Нос., 117.*

Абаранкі дужа смачны з малаком.— А гдзе ж ты еў? — Я не еў, але бачыў, як пан есць. *Ляцкий, 1.*

Абаранкі з малаком от смачна! — А ты еў? — Не-а. Але бацька расказваў, што дзед бачыў, як пан еў, дык от смачна! *М. Грынблат, 1930, Мн. Вар.: «Голас Радзімы», 1977, № 4, с. 8.*

Абгаворыць ад пят да галавы. *Fed., 2, Вайк. п.*

Абдзерты ад пят да галавы. *Там жа, Нав., Слон. п.*

Абмовілі ад пят да галоў. *Там жа, Вайк п.*

Або дожджык, або снег,— або будзе, або не. *Л. Царанкоў, 1960, Брэст. 13.9.2.*

Або іграй, або грошы аддай. *М. Грынблат, 1977, Кар.*

Або ідзі, або назад вярнісь. *Fed., 122, Вайк. п.*

Або мой грош дзіравы? *Там жа, 116.*

Або на мне рогі бачаць? *Там жа, 262.*

Або сяк, або так. *Там жа, 274.*

Або сяк, або так — няхай будзе з грэчкі мак. *Ройзен., 67.*

Або табе хлеб, а мне каўбасу, або мне каўбасу, а табе хлеб. *Янк. М., 95. Вар.: Ляцкий, 53.*

Або хібіў, або трапіў (трафіў). *Fed., 51, Вайк. п.*

Абрыд богу і людзям. *Там жа, 3, Лід. п.*

Абшчупаў рака ў пячуры. *Добр., Слов., 517.*

Абы дзень да вечара. [15] *Fed., 94, Вайк. п.; Pietk., 368.*

Абы ціха. *М. Грынблат, 1936, Чэрв., Пух.*

Абы чым заткнуць дзірку. *Сержп., 37.*

Абы шыта-крыта. *Сцяшк., 578, Гродз.; Fed., 302.*

Ага, зрабіў: адарваў у дохлага цяляці хвост. [16] *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Ага, папалася тое, што кусалася. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Агню пад хвост не падлажыць. *Fed., 7, Вайк. п.*

Агонь яго ведае! *М. Грынблат, 1973, Круп.*

Ад абеду аж да вечара нашча. *Янк., 371.*

Ад вашай скакухі забалелі ўсім брухі. *Сах.*

Ад гэтага сэрца з'еж таго з перцам. *Нос., 121.*

Ад думаў галоўка баліць. *Добр., Слов., 192, Красн. п.*

Ад застолля на заўголле. [17] *Нікіф., 1924, 18.*

Ад каваліхі ўсё ліха. *Нос., Слов., 240.*

Ад кута ў кут і зноў тут. *Сцяшк., 579, Воран.*

Ад ног і рук адстаў. *Нос., 122.*

Ад носа палоса. *Fed., 204, Сак. п.*

Ад панства — да барабанства. *Шатэрнік, 200, Сміл.*

Ад смерці ці ад трасцы захацелася. *Нос., 123.*

Ад шыла к тапару. *Там жа.*

Адарве яшчэ гнілому цяляці хвост. *І. Саламевіч, 1978, Слон.*

Аддаць за гарэлы блінец. *Сержп., 50.*

Аддаць ні за панюх табакі. *І. Саламевіч, 1978, Мн.*

Адзін да нялюдскі. [18] *Fed., 6, Вайк. п.*

Адзін жа: хоць рэж, хоць еш. *М. Грынблат, 1977, Мн.*

Адзін раз Марку жаніць. [19] *Фраз. сл., 12.*

Адзін такі маліўся, дык быў паваліўся. *К. Кабашнікаў, 1962, Гом. 8.1.77.*

Адзін там, другі сям. *Fed., 310, Вайк. п.*

Адзін у вір, а друге́й у пір. *Добр., Слов., 69, Смал. п.*

Адзін у плот, другі ў агарод. *Мін.-Мал., 1974, 185, Мін.*

Адзін юк, другі не ўцёк, трэці з кроўю. [20] *Нос., 118.*

Адкасніся (адчурайся) ты ад маей галавы! *Нікіф., 1928, 107.*

Адкуль, дзеўка? — А з Ча́вус.— А хочаш замуж? — Ну дык ча́му ж? — А ўмееш кросны ткаць? — Во! Не меў што пытаць. *Дуб., Нар., 2. Вар.: М. Грынблат, 1974, Шкл.*

Адкуль, дзеўка? — З Барысава.— А чыя ж ты там?— Дзянісава.— А чым завуць? — Гапусяю.— Хадзі ж бліжы, пабусяю. *Дуб., Нар., 2.*

Адкуль, дзеўка? — З-пад Нялож.— Замуж хочаш? — А няўжо ж? *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Адкуль ідзеш? — Адкуль? З-пад кур. *Шатэрнік, 12, Сміл.*

Адкуль ты? — Вёска Лебяды́, вуліца Лапухі́. *М. Грынблат, 1976, Вайк. 8.76.113.*

Адлезь, капейку дам. *Нос., 121.*

Адменна скверна, дарам, што харашо. [21] *Там жа.*

Адна калоша поўна, а другая як завязаць. *Сержп., 185.*

Адна сляза навярнулася і тая назад вярнулася. *Добр., Слов., 842.*

Аднаго балота чэрці. [22] *Фраз. сл., 14.*

Аднаго бацькі тут няма. *Нос., 119.*

Адно васемнаццаць, а другое без двух дваццаць. *Dybow., 4.*

Адно косць да шкура. *Fed., 150, Вайк. п.*

Адно маўчыць, другое слухае. *Янк., 372.*

Адно (толькі) птушынага малака бракуе. *Fed., 42. Вайк. п.*

Адно языком ваюе. *Там жа, 127.*

Адным возам па піва едуць. [23] *Fed., 341, Вайк. п.*

Адным гарэхам (зернем) падзеляцца. *Там жа, 210.*

Адным му́рам (мірам) мазаны. [24] *Нос., 120; Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

Адным чортам менш будзе. *Fed., 66, Вайк. п.*

Адпраўлю туды, дзе ракі зімуюць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

Адстаўся чыст, хвалдзіст, кругом на ваце.[25] *Добр., 108.*

Адсунься ты, то сядзе тры. *Fed., 5, Вайк. п.*

Адчапіся за ўсе голавы![26] *Там жа, 4.*

Адчыняйце вароты, вязу чорта (едуць чэрці) з балота![27] *Там жа, 327; Шатэрнік, 16, Сміл.*

Аж валасы вянуць, як яны плачуць і кля'нуць. *Fed., 337, Вайк. п.*

Аж вушы вянуць. *Ляцкий, 2; Fed., 342, Вайк. п.; Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

Аж гай шуміць. *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7; Нар. лекс., 15, П. Садоўскі, Пол.*

Аж за вушамі трашчыць.[28] *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Аж нос у пры'сядкі гуляе (ідзе).[29] *Мат., 61, М. Яўневіч, Бял.; Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11; Мін.-Мал., 1977, 136, Лаг.*

Аж праг яе бярэ, як яна хоча на сваём настаяць.[30] *Шатэрнік, 233, Сміл.*

Аж са скуры вылупліваецца (вылузваецца). *М. Грынблат, 1977, Стаўб.*

Аж сем касцёлаў убачыў.[31] *І. Курбека, 1966, Докш. 13.9.7.*

Аж спіна колам стала *Pietk., 395.*

Аж усе чэрці засмяяліся.[32] *Fed., 66, Вайк. п.*

Ажаніўся апока, узяў апочыну, тут і ўсё кончана. *Яўсееў, 18.*

Ажаніўся — свая воля; што быў адзін — стала нас двое. Цяпер ляжым адно ля другога паблізку, трэба старацца якогася ў калыску. *Ляцкий, 2.*

Акурацістка, што серада з-пад пятніцы відаць. *Яўсееў, 17.*

Акыш у свой камыш![33] *М. Грынблат, 1974, Лаг.*

Але жонку ж узяў! Яму бог вочы замара'ў. *Там жа, 1977, Кар.*

Але калісь (даўно) было, да ўжэ быллём зарасло (парасло, збылося). *Fed., 44, Вайк. п. Вар.: Сержп. 49.*

Але то было, да з вадою паплыло. *Там жа.; Сержп., 50.*

Анёлку, анёлку, дай мне добру дольку. *Ляцкий, 2.*

Ані бога, ані людзей. *Fed., 33, Вайк. п.*

Ані віду, ані слыху. *Там жа, 330.*

Ані (нат) вухам не вядзець. *Dybow., 4; Нос., 2; Ляцкий, 2; Fed., 342, Сак. п.*

Ані вэсь — няма рады. [34] *Ляцкий, 2.*

Ані нюхнуць (вухнуў), ані рухнуць (рухнуў). *Fed., 203, Вайк. п.; Нос., 2.*

Ані туды, ані сюды. *М. Грынблат, 1950, Хойн.*

Ані хлеба, ані табакі, прападаем як сабакі. *Fed., 52, Сак. п.*

Ані цюк, ані кукарэку. *Там жа, 183, Вайк. п.*

Ані языка не ўваткнула. [35] *Там жа, 126, Слон. п.*

Апошнюю, раскошную, ды няма дзе ўзяць. *А. Гурскі, 1975, Кап. 8.75.99.*

Аптэка для смерці чалавека. *Сержп., 139.*

Асіна — псіна. *Добр., Слов., 746.*

Асіпла, што і свінням даць не можа. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Асою лезе ў вочы. *Сержп., 48; Fed., 163, Вайк. п.; Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

Астаткі з хаткі. [36] *Dybow., 3; Нос., 120; Fed., 10, Слуцк. п.; Сержп., 25; Pietk., 355.*

Астаўся ў дурнях. *Pietk., 366.*

Астаўся я адзін-адне′сенькі, жыву як верабей. *Мяц., 17, Вайк.*

Ат, ведама людзі: хто ўпіў, хто ўеў, хто прылгаў, а хто і прыкраў. *Ляцкий, 19.*

Ат, сабе асьмак дзеля прыпадку ёсць. [37] *Fed., 11, Вайк. п.*

Ато ж укле′паўся: думаў сват, аж сябар Кандрат. *Сержп., 129.*

Атрымаеш дзірку ад абаранка. *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

Атрымаеш сісю′ і тую не ўсю. *Там жа, Рэч.*

А-ха-хох! Гарох, каша наша. *Нос., 123.*

А-ха-хох! Калі б то я мог, да не быў бы плох! *Там жа.*

Ах ты, стары пёс, калі ж я на цябе казаў сабака? *Fed., 233, Вайк. п.*

Ах, што папіваў, папіваў, а што казлоў падзіраў: вот так напіўся! *Ляцкий, 2.*

Ахці-хці-хці — галава ў дзягці'. *Добр., Слов., 447, Смал. п.*

Баба, еш хлеб.— Не маю зубоў.— Баба, на табе мяса.— Буду грызці. *Pietk., 355.*

Бабо, адчыні дзверы, то я плюну. *Сержп., 46.*

Бабуся, дай вады напіцца. А есці захацелася, аж пераначаваць няма дзе. *Янк., 372.*

Бабы сваруцца, а я гавару: вот усё ў людзей баліць, а язык не забаліць ні разу. *Слов. брян., 22, Унечскі р-н.*

Багатыя ночы разбяруць, то і нам, бедным, не будзе. *З. Сазоненка, 1977, Саліг. 8.77.130.*

Баліць (трасе) без бога ойца. [38] *Fed., 21, Вайк. п.; 314, Слон. п.*

Банкет на ўвесь свет. *Нос. 4; У. Іваноў, 1958, Мн.*

Барадою толькі печ вымятаць. *Сержп., 68.*

Бацька твой хлявы запіраў, калі коней краў? [39] *Нос., 4.*

Бацюшка, калі каляды будуць?— А чорт іх ведае. Дзе-та ж тут таўкуцца. *А. Гурскі, 1973, Кап.*

Бач яго, які ён хвэрцік. [40] *Сержп., 97.*

Бачыў двух белых, а трэцяга як снег. *Сержп., 30; І. Байко, 1967, Клецк. 13.10.23. Вар.: Ром., Бел., 294.*

Бачыў, кум, сонца? [41] *Pietk., 343.*

Бачыўся з шкляным богам. [42] *Fed., 33, Вайк. п.; Pietk. 357.*

Без абуха драва ру'біць. [43] *Добр., 9.*

Без нажа ён мяне зарэзаў; без агня сэрца згарэла. *Ляцкий, 4.*

Без нажа рэжа, без агня сма'ле (пячэ). *Ром., Бел., 290; У. Іваноў, 1958, Мн. Вар.: Fed., 261, Вайк. п.*

Без нічога ніякага, без нічога нічагі'сенька. *Pietk., 381.*

Без цэрквы можна жыць, былі б толькі жорны. *Р. Усава, 1969, Беш. 13.10.88.*

Бі свой свайго, каб чужы баяўся. *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7; І. Саламевіч, 1957, Слон.*

Біла, біла, валіла, ды й у памыях намачыла. *Fed., 30, Слон. п.*

Біліся, дык то ён наверх, а я пад ніз, то я пад ніз, а ён наверх. *М. Янкоўскі, 1968, Глуск.*

Біліся, дык я яго мяшком бух! бух! А ён мяне абушком цюк! Дык ён спалохаўся ды бягом. А мяне як пана на насілках панеслі. *Янк., 373.*

Біліся, дык я яму так надаваў, што ён чуць пабег, а я чуць пайшоў. *Янк., Дыял., I, 204, Глуск.*

Біліся, я яму як даў... Я толькі ўставаць, а ён мне яшчэ раз. *Янк., 373.*

Біцца не гадзіцца, лепш бы піхнуў, каб не дыхнуў. *Янук., 30.*

Біць, біць і духу слухаць. *Dybow., 5; Fed., 29, Ваўк., Сак. п.*

Біць да біць, ды й кій прыламіць. *Ром., Бел., 291.*

Благаславі, Хрыстос, калі так прышлось. *Нос., 6.*

Бліноў паем і хаджу поўдня панам. *М. Грынблат, 1962, Дзятл. 8.1.74.*

Бліны-ляпе́шкі з адной дзежкі.[44] *Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

Блуканне на цэлае ранне. *Сержп., 38.*

Бог ведае і карчма святая, што з таго будзе. *Fed., 44, Ваўк. п.*

Бог то святы ведае, што з табою будзе. *Там жа.*

Божа мой, божа мой, столькі людзей, хоць лыжкаю мяшай. *М. Грынблат, 1977, Кар.*

Божачка, божачка! Нас нямножачка, а і тым няма дзе дзецца. *Ляцкий, 5; Сержп., 38.*

Боль, хоць жывому ў землю сырую лезь. *Fed., 41, Слон. п.*

Бом-бом-бом.— Хто там едзець? — Чорт з гарбом. *Нар. лекс., 169, Г. Юрчанка, Мсцісл.*

Бараха́тадуна́ю, кабылкі не маю.[45] *Нос., Слов., 31.*

Бот мой разявіў зубы — кашы хочыць. *Бяльк., 383, Крыч.*

Боты, аж лялькі ўстаюць (становяцца).[46] *А. Гурскі, 1976, Кап.*

Боты моцныя, што абухом не разаб'еш. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

Боты — турэцкай работы. *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

Браце Рыгорка, стане й праціўную твайму горка. [47] *Янк., Дыял., III, 98, Глуск.*

Брацցы, брацցы, з ваўком дваццаць, да ўсё бірукі. *Добр., 106.*

Брыкнуў на той свет. *Fed., 43, Вайк. п.*

Брысь пад печ! Кошкі мяса ядуць, табе косць дадуць. *Нос., 9.*

Брыта і стрыжана, ан гола. *Ром., Зап., I, 215.*

Брэша і вокам не маргне. *Зах., 251.*

Брэша і не пасміхнецца. *І. Саламевіч, 1959, Слон.*

Брэша на чом свет стаіць. *Fed., 359.*

Брэша, што сліна да губы прынясе. *Там жа, 42, Вайк. п.*

Буба бубу гоніць, аж шыю ломіць. [48] *Там жа, 43.*

Буба бубу прывяла. [49] *Там жа.*

Будзе й голаму за пазуху. [50] *Мяц., 118, Слуцк.*

Будзе кій, ды не такі. [51] *Czeczot, 107; Шпил.; Бел., 176; Киркор, 234; Нос., 9; Fed., 143, Лід. п.; Pietk., 325; Сержп., 40; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

Будзе людзям у вочы глядзець да слюнку каўтаць. *Сержп., 73.*

Будзе сем вёрст, шмат поля і кавалак лесу. [52] *Fed., 332, Вілен. п.*

Будзе чым дзіру заткнуць (кім запхнуць). *Там жа, 96, Вайк. п.*

Будзем тра′нтамі трасці′, да ў карчму нясці′. [53] *Сержп., 25.*

Будзеш ведаць, пачом сы′ры ў Мазы′ры. *Нар. сл., 300; А. Крывіцкі. Г. Цыхун, І. Яшкін, Тур.*

Будзеш после (потым) у кулак трубіць. *Tyszk., 428; Fed., 3, 14, Вайк. п.*

Будзеш ты ў мяне цёплы ды мяккі! *Выпісы.*

Буду хадзіць без клапот: адзін баціпак, адзін бот. *Л. Павецьева, 1967, Мсціcл. 8.1.107.*

Будуць крупы — не грачыха. *Добр., Слов., 361.*

Бульба ў сваты пайшла. [54] *Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

Бураке′ — пасекліся дураке′. *Шатэрнік, 37, Сміл.*

Бух! Бабе ў трыбух. [55] *Fed., 43, Вайк. п.*

Бывала худа, паўтара пуда; палавіну прадасі, а палавіну сам з'ясі. [56] *Нос., 9.*

Бывала, што і варона кужавала, а цяпер і зязюля не каркае. [57] *Pietk., 313.*

Бываў на лаве і пад лаваю. *Fed., 170, Ваўк. п.*

Бык равець і карова равець, і ніхто ні разбярэць, хто каго дзярэць. [58] *Добр., 13.*

Былі цы'лі, да вылецi'лі. [59] *Нос., Слов., 689.*

Было, было да й прыбыло. [60] *Fed., 44, Ваўк. п.*

Было, было і выпала дно. *Сцяшк., 582, Маст.*

Было [было], да сплыло. *Pietk., 359. Вар.: Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2; І. Саламевіч, 1970, Слон.*

Было дабро, да ўжэ даўно. *Fed., 71, Ваўк. п.*

Было з іх і цераз вушы. [61] *Там жа, 342, Слон. п.*

Было не было, а быллём парасло. *Сержп., 71.*

Было тады, як свет зачаўся. *Добр., Слов., 259.*

Быў благі, ды й той павесіўся. *Ляцкий, 5.*

Быў геве'зен да выскачыў. [62] *Нос., 10.*

Быў, дзе насы дзялілі. [63] *Шпіл., Бел., 176; Нікіф., 1924, 15.*

Быў квас, ды не было вас; а як сталі квасі'ны (стаў квасік, засталіся квасі'цы), тады і вас чэрці ізнасілі (узнасілі). [64] *Dybow., 3; Нос., 10; Сержп., 35; Добр., Слов., 318. Вар.: Ром., Бел., 29; Сах.*

Быў на мяду, абліў мёдам бараду. *Нос., 10. Вар.: Fed., 187, Ваўк. п.*

Быў радзіцель, да звярнуўся. [65] *Нос., 10.*

Быў там, дзе вочы сталяць і насы дзеляць. [66] *Там жа; Сержп., 66.*

Быў у касцелі, дзе чаркамі звоняць. [67] *Fed., 140, Ваўк. п.*

Быў шышок, ды вышаў. [68] *Ром., Зап., І, 215.*

Быўшы, быўшы, да ідзі завыўшы. [69] *Fed., 44, Ваўк. п.*

Бычкі йграюць у лучкі', а цёлкі ў свісцёлкі, а бара'ны ў арга'ны, а коні ў гармоні. [70] *Бяльк., 434, Мсцісл.*

Б'ю ў хамут, а ён не слухае. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Б'юцца за пусты мех. *Fed., 29, Сак. п.*

Бягі'ць, аж хвалды трасуцца. *Бяльк., 443, Чэр.*

Бяда (баліць), хоць ты сеўшы плач. *Dybow., 6; Fed., 25, 21, Ваўк. п.*

Бяда, хоць зубы за грады палажы. *Fed., 25, Ваўк. Лід. п.*

Бяда, хоць зубы на паліцу кладзі. *Dybow., 6; Fed., 25, Нав. п.*

Бяда, хоць крычы гвалту і плач. *Fed. 25, Ваўк. п.*

Бяда, хоць тапіся. *Там жа, Нав. п.*

Бяднятка цялятка, дзе твая родненькая матка? *Шпил., 176.*

[Бяжы] за сем міль (вёрст, за тры вярсты) кісялю [цёплага] хлябаць.[71] *Pietk., 325; Ром., Бел., 311; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

Бяжыць, аж пад ім зямля стогне. *Fed., 31, Ваўк. п.*

Бяжыць на злом (злама'нне) галавы (карку). *Там жа.*

Бяруць мяне думкі да га'дкі, што чужыя хаткі гладкі. *Dybow., 6.*

Бяры, Ахрэм, тупіцу, адсякай гузніцу. *Добр., Слов., 151.*

Бяры і атрасай. *Dybow., 5.*

Бяры на ўсе застаўкі. *Ляцкий, 5.*

Бяры быка за рага'.[72] *Л. Царанкоў, 1960, Мн., 13.9.2.*

Вабража'ць — не жыта жаць. *Яўсееў, 29.*

Валасы ў струкі пакачаліся.[73] *Fed., 338, Ваўк. п.*

Валі валом, а там разбяром. *Сцяшк., 583, Шчуч.*

Ва'ліць без сораму на кожную сторану. *В. Дашкоўская, 1965, Ваўк. 13.9.2.*

Вам усё смешкі. *Fed., 303, Ваўк. п.*

Ванька, пей сусла.— Да жарка.— Так дуй.— Да добра дуць, калі дадуць. *Аним.,261; Шейн, 473.*

Ванэля ўсім на хлеб не намеля, а толькі тым, хто ўмее. *Сцяшк., 583, Гродз.*

Варона (сарока) на хвасце прынесла.[74] *Сержп., 3; Нос., 154; Ляцкий, 39.*

Ваш, ды хваста няма́ш. *Янк., 374.*

Ваша брацця — кароткае плацце. *Нос., 12.*

Ваша і сяло не весяло. Быў адзін пяюн, ды й таго забіў пярун. *Янук., 30.*

Ваша благароддзе, свінні ў вагародзе.— Пайдзі, вы́жань, табе бліжай. *Л. Царанкоў, 1960, Слуцк. 13.9.2.*

Ваша благароддзе, ходзяць свінні ў вагародзе (па гародзе). *Нос., 12; Fed., 32, Ваўк. п.*

Вашу капу́ на кані не аб'едзеш, толька ў рэзвінах і забярэш. *Юрч., 1974, 118.*

Ведае, дзе кароль абедае. *Нос., 22.*

Ведама богу і людзям. *Fed., 40, Ваўк. п.*

Верабейка памёр, ножкі ўгору задзёр. *Касп., 117, Чаш.*

Верабейка-цілівоз. Пяе так: цілі-воз, кідай сані, бяры воз. *Нар. сл., 158, Я. Рамановіч, А. Чабярук, Рэч.*

Вераб'і студню абярнулі. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7; С. Бахмет, 1978, Астр.*

Вераб'ю раз дзеўбануць. *М. Грынблат, 1976, Хойн.*

Ве́рмут? — Ага, ве́рмуць, вып'еш і грошы ве́рнуць. *І. Саламевіч, 1975, Слон.*

Веру ўсякаму зверу, толькі не табе. *Н. Навакоўскі, 1969, Валож. 13.10.63.*

Ветры яго знаюць! *Нос., 22.*

Відаць спачатку, што не быць парадку. *Добр., Слов., 691.*

Віхар іх знаець! *Добр., Слов., 276.*

Во баба! Як абойдзеш, так утомішся. *І. Назіна, 1977, Стол.*

Во выраздзілася: ні пава, ні варона. *Юрч., 1974, 187.*

Во дзе сіла! Саломіну ламае. *М. Грынблат, 1979, Мн.*

Во калі разарэнне: ні табакі (тытуню), ні карэння.[75] *Нос., 15; Дуб., 9.*

Во лалы́ прышлі.[76] *Добр., Слов., 367.*

Во людзі пайшлі: дай у морду, дык біцца лезе. *М. Грынблат, 1979, Кар.*

Во, майнуў, аж пяткі забрашчалі. *Ром., Бел., 292.*

Во прырваўсь да яды і за вушы не адцягнеш — усё роўна, што тры дні ў хляве стаяў. *Бяльк., 353, Краснап.*

Во разявіў рот, хоць з калёсамі заедзь. *Там жа, 383, Чэр.*

Во свет настаў — ні палажы, ні пастаў. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Во як — нарабіў дзед хво′як. *С. Бахмет, 1977, Мн.*

Возьмеш, як намалюю. *Ляцкий, 6.*

Вой!.. Дайце мне лусту-самастойку... Вой!.. Ці не з'ем... Вой!.. Ці не паздароўю я... Вой!..[77] *Ром., Бел., 292.*

Вой!.. Пайшоў ба... Вой!.. Прынёс ба... Вой!... Поўбутэлечкі... Вой!.. Сам узяў ба чарачку... Вой!.. Мне паднёс бы дзве... Вой!.. Можа б палягчэла... Вой!.. Можа б памягчэла... Вой!..[78] *М. Грынблат, 1928, Невельскі р-н Пскоўскай вобл.*

Вольна направа і налева! *Сержп., 28.*

Вольна! Сам радавы′.[79] *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Вон (ён) табе нагаворыць сто (сем) вёрст да нябёс і ўсё лесам.[80] *«Ніва», 1976, № 43, 1; І. Саламевіч, 1978, Слон.*

Восем — сена косім. *Шатэрнік, 48, Сміл.*

Вось і квіт тваёй міласці. *Dybow., 9.*

Вось табе і гоцаца′, убіла курыцу аўца′. *Ройзен., 68.*

Вось табе і закаручка. *Нос., 16.*

Вось табе і спіткі, і з'едкі. *Dybow., 9; Нос., 16.*

Вось так сеюць мак. *Т. Гуляй, 1965, Свісл. 13.10.5.*

Вот ужо для вашэці гатова жыта ў васе′ці.[81] *Даль, Слов., II, 696.*

Воўк гаве′чкі пасе. *Fed., 340, Слон. п.*

Вочы па яблыку, а галава з арэх. *Нос., 17.*

Вусы — чэсць, а барада і ў казла есць. *Мат., 173, В. Рабкевіч, Кап.*

Вушы развесіў да і слухае. *Сержп., 59.*

Выбачай, кума, за пірагі. *Нос., 21.*

Выгаладаўся, што сабаку з'еў бы. *Сержп., 38.*

Выдраў лысамуваласы. *Янк., 374; В. Бруй, 1972, Нясв. 13.10.85.*

Выдумаў чорта з пасталамі. *Fed., 343, Вайк. п.*

Выйграў дудку на касцеле. [82] *Нос., 21; Fed., 84, Вайк. п.*

Выкіраваўся з печы на лоб. *Dybow., 9; Нос., 21.*

Вылечыўся на адзін бок. *Fed., 343, Вайк. п.*

Выпаў з вока мамы. *Там жа, 336.*

Выправілі саболі пасвіць. [83] *Там жа, 270, Сак. п.*

Вырабіўся хлопец у смык. [84] *Шатэрнік, 260, Сміл.*

Вырас з ляжачага сабаку. *Dybow., 9.*

Вырас пеўню да костак. *Fed., 344, Вайк. п.*

Высах на гарохаву лапатку. *І. Саламевіч, 1958, Слон.*

Высах на костку. *Л. Гімпель, 1978, Кар.*

Высах у ражон. *Сержп., 81.*

Высах у цёсачку (шчэпачку). *Fed., 345, Вайк. п.*

Выскачыла пяцёра, да й няма нічога. [85] *Fed., 345, Слон. п.*

Высокі хлопец: метр дваццаць на каньках. *М. Грынблат, 1978, Мн.*

Выставіў яго на дурня. *Fed., 85, Вайк. п.*

Выстралілі ў адзін гук. *Там жа, 345.*

Высунуў язык і на язык нагой наступае. *Л. Ткачова, 1960, Нясв. 8.1.55.*

Выткнуўся з языком,— ні туды, ні сюды. *Ляцкий, 29.*

Выхаваў на паповы сані. [86] *Fed., 241, Вайк. п.*

Выцерабіў яму дубняк з бярэзнікам. *Нос., Слов., 100.*

Вялікага сабакі вялікі брат. *Шпил., 17.*

Вялікая шышка на голым месцы. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Вялікі кусок, што і воўку за ўсю ноч не абегчы. *Fed., 159, Слон. п.*

Вярзе, а слухаць нечага. *Ром., Бел., 292.*

Вярзе, што на рот лезе. *Там жа.*

Вяроўку на сабе суча. *Fed., 329, Вайк. п.*

Вяселле, ці чортава паталочышча. [87] *Сержп., 133.*

Гавары, воўча, пацеры. [88] *Fed., 339, Нав. п.; Dybow., 8.*

Гавары з падле'карам, а мне слухаць некалі. *Нос., 25. Вар.: Ляцкий, 44.*

Гавары, Кліме, хай тваё не гіне. *Ройзен., 68.*

Гавары, — пасля ўздумаеш. *Ром., Бел., 292.*

Гаварыў бы, да ў горлі кулак стане (скула сядзе). *Ляцкий, 7.*

Гаворыць, гаворыць ды яшчэ прыкажа. *І. Саламевіч, 1956, Слон. Вар.: Fed., 142, Ваўк. п.*

Гаворыць ні ў плот, ні ў агарод. *Сцяшк., 585, Слон.*

Гаворыць ні ў пяць, ні ў дзевяць. *Fed., 108, Ваўк. п.*

Галава аме'цямі напхана. *І. Саламевіч, 1956, Слон.*

Галава малая, ды й тая ўсяго адна. *Янк., 374.*

Галава на галоў. [89] *Fed., 100, Ваўк. п.*

Галава на плячах, каб торба не звальвалася. *Сержп., 60.*

Галава, як галава, ды падгалоўкі дрэнь. *Никиф., 202.*

Галасок хуць у пясок. [90] *Добр., 18.*

Гамон на чужой старане. *Янк., 374.*

Ганяе чарцей пад палом нагамі. [91] *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13. 3. 29.*

Гарачо — закінь язык на плячо. *І. Саламевіч, 1955, Слон.*

Гарохавы яму вянок. [92] *Fed., 105, Ваўк. п.*

Гарэлага шэлега не стоіць. *Нос., 28.*

Гаспадыня хваста не падніме. [93] *Шатэрнік, 66, Сміл.*

Гасціны правіць, злажыўшы рукі. [94] *Сержп., 43.*

Гасцю рады двойчы: калі ён прыязджае і калі ён ад'язджае. *М. Грынблат, 1974, Лаг.*

Гатовы жывога закапаць. *Fed., 373, Слон. п.*

Гатоў сам сябе ўкусіць ад злосці. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Гаў, да і схавалісь пад печ. *Добр., Слов., 116.*

Гаў, да й зубы сцяў. *Нос., 22; Сержп., 184; Дуб., 10.*

Герой бабы старой. *Янук., 30.*

Глухія павезлі дровы сухія. *Шатэрнік, 18, Пух.*

Глыбока — жабе па калена. *В. Іваноўская, 1962, Светл. 8.1.74.*

Глядзець — аж (дык) злосць бярэць. *Ром., Бел., 292; Сержп., 56; Ляцкий 7.*

Глядзець глядзеў, а хваробу відзеў. *Ляцкий, 7.*

Глядзіць на Мінск, а бачыць Дзвінск. *І. Курбека, 1966, Докш. 13.9.7.*

Годзе табе кляпаць, калі ж ты будзеш касіць? *Сержп., 84.*

Годзе ўжо табе андрыду′лы несць.[95] *Слов. брян., 18, Погарскі р-н.*

Гой [эй], воўча, сядзі моўча. *Dybow., 10; Нос., 191.*

Гола, боса і праставалоса. *Fed., 41, Вайк. п.; Pietk., 370.*

Голас у голас, волас у волас.[96] *Нос., 26; Fed., 111, Лід. п.*

Голіць без мыла. *Fed., 98, Вайк. п.*

Голкаю няма дзе ткнуць. *Там жа, 111.*

Голым целам свеціць. *Там жа, 58.*

Голымі скабамі свеціць. *Там жа, 278.*

Гонам гонюць з хаты. *Нос., 26.*

Гоп, гоп! Ідзі сюды, дам сноп. *Ляцкий, 8.*

Гоп, Мар'янка! Тры дні свята. *Dybow., 9.*

Гора і булкі навучыць есці. *Г. Барташэвіч, 1975, Чэрв. 8.75.96.*

Горач, аж варона з кала′ валіцца. *Сцяшк., 385, Шчуч.*

Горш за печаную рэдзьку.[97] *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

Госпадзі, госпадзі, забі таго да смерці, у каго жонка хараша. *Сержп., 67.*

Госпадзі Ісусе, і я нясуся. *М. Грынблат, 1977, Мн. Вар.: Fed., 219.*

Госцем у хаце жыве. *Fed., 367, Вайк. п.*

Гнаўся, гнаўся, пакуль хвост абарваўся. *Ляцкий. 8.*

Гразь, гразь, чаму не гарыш?— О, я б гарэла, каб не была карэла.[98] *Янук., 30.*

Гразную бялізну прадай, а пасля лазні выпі. *Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

Грош яму цана [у базарны дзень]. *Там жа; І. Саламевіч, 1963, Слон.*

Гроша ломанага не варт. *Ром., Бел., 293.*

Грошай, шчо куры не клююць і сабакі не ліжуць. *Нар. лекс., 239, І. Яшкін, Лельч.*

Грэюць зубы на слонку.[99] *Fed., 360, Ваўк. п.*

Губа ад вуха да вуха. *Там жа, 119.*

Губа гаворыць, а рукі магуць рабіць. *Там жа.*

Губа тоўста, кішка тонка. *Ром., Бел., 293.*

Гулі, гулі, гулі я, куды дзеўкі, туды й я. *Нос., Слов., 643.*

Гуляй, гуляй, гуляя'! *Добр., Слов., 152, Смал. п.*

Гуляй, мама, гуляй, тату, развярнулі сві'ння хату. *І. Саламевіч, 1955 Слон.*

Гуляй, тата (Агата), заўтра свята. *Нос., 30; Dybow., 10; Fed., 311, Ваўк. п.; Сержп., 44; У. Іваноў, 1958. Мн.*

Гуляй, Ульяна, яшчэ дахаты рана. *Fed., 319, Ваўк. п.*

Гутарка без клею. *Там жа, 122.*

Гэта, мужык, атла'с.— Ага, ад нас, паночак, ад нас. *Tyszk., 414; Нос., 24.*

Гэта без папа (паўлітра) не разбярэш. *М. Грынблат, 1966, Петр.; І. Саламевіч, 1957, Слон. Вар.: Pietk., 337.*

Гэта гутарка гроша не варта. *Fed., 122, Ваўк. п.*

Гэта ж табе не дроздзікі.[100] *Сержп., 132.*

Гэта мая і саха і барана. *Fed., 270, Ваўк. п.*

Гэта на звей-вецер сказана. *Там жа, 279.*

Гэта нашага ўсяго, што з'ямо. *Там жа, 356.*

Гэта не абаранак. *Шпил., 178.*

Гэта не атла'с, а ад нас. *Tyszk., 414; Шейн, 475.*

Гэта не з тваёю галавою рабіць. *І. Саламевіч, 1977, Слон.*

Гэта не з тваім носам.[101] *Шпил., 178.*

Гэта не лапаць сплесці. *Сержп., 38.*

Гэта не пальцам пераківаць. *Tyszk., 424; Шейн, 475; Fed., 213, Вайк., Сак. п.*

Гэта не казаў, да сабака брахаў. *Fed., 141, Вайк. п.*

Гэта не пры мне пісана. *Там жа, 235, Вайк., Сак. п.*

Гэта не я, да войтава свіння. *Там жа, 334, Вайк. п.*

Гэта пантахлёвая пошта. [102] *Сержп., 5.*

Гэта проста езуіт, а не чалавек. [103] *Клышка, 292.*

Гэта табе воз і правоз, як сабе хочаш. *Fed., 341, Вайк. п.*

Гэта табе дзякаваны хлеб. *Fed., 53, Гродз. п.*

Гэта табе не пярэліўкі. *Нос., 24; Fed., 227, Вайк. п.; Дуб., 11.*

Гэта так, сказаў бы і цяля́к, ды язык карата́к. [104] *Ляцкий, 9.*

Гэта такі пан, што ў саломе спіць, а зубамі блохі б'е. *Fed., 216, Вайк. п.*

Гэта ўжо не кот, што сырых лупі́н не есць. *М. Грынблат, 1979, Кар.*

Гэта ўсё маё, што вып'ю да з'ем. *Fed., 344, Вайк. п.*

Гэта чутно ўсім лю́дзям — і мы там будзем. *Там жа, 69, Гродз. п.*

Гэта [яму, мне] не смярдзіць, не пахне. *Там жа, 305, Вайк., Слон. п.*

Гэта яму не па носе. *Там жа, 204, Вайк. п.*

Гэтага будзе толькі на адзін зуб. *Pietk., 401.*

Гэтага веташка́ ка́жан з свайго гаршка́. [105] *Нос., 23.*

Гэтага і сабака не панюхаў бы. *Fed., 268, Вайк. п.*

Гэтага на валовай скуры не спісаць. [106] *Там жа, 281, 306.*

Гэтага ў кішэнь не схаваеш. *Там жа, 145.*

Гэтага цвету па ўсяму (па ўсім, па цэлым) свету. *Нос., 23; Дуб., 10; Сержп., 77; Fed., 59, Вайк. п.*

Гэты квеце па ўсім свеце. *Сержп., 54.*

Гэты самы свет да людзі не тыя. *Fed., 307, Вайк. п.*

Гэты тавар кусаецца. *Сержп., 50.*

Гэты ўжо ледзь шоры цягае. [107] *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Да бяды яшчэ тры гады, а ці будзе бяда ці не — няма чаго бедаваць. *А. Фядосік, 1973, Петр. 8.73.70.*

Да дабросці дабёр, да злосці зол. *Добр., Слов., 171.*

Да маго цела няма табе дзела. *Fed., 58, Вайк., Слуцк. п.*

Да новых венікаў не забудзець. [108] *Нос., 37.*

Да прыгоды не тры годы. *Fed., 248, Слон. п.*

Да трох разоў перапускаюць. [109] *Там жа, 227, Вайк. п.*

Да цябе хваліў і поп, і Ярмошка, і я трошку. *Нос., 33.*

Дабраўся па нітачцы і да клубка. [110] *І. Лушчыцкая, 1960, Кап. 8.1.52.*

Дабрахвочы — блішчы′ ў вочы. *Шатэрнік, 75, Пух.*

Давай бог ахоту на гэту работу. *Нос., 30.*

Давай часаць адзін другому патыліцы. *Сержп., 19.*

Давалі да з рук не пускалі. *Fed., 73, Вайк. п.*

Дагаварыўся да ліхога канца. *Там жа, 75. Вар.: Янк., 462.*

Дагадайся, казача, чаго дзе′ўчына плача. *Fed., 74, Вайк. п.*

Даганяй (шукай, гані) ветру ў полі. *Там жа, 74, 103; Pietk., 317.*

Дадуць, як штаны ападуць. *Дуб., Нар., 1.*

Дажыўся, што і сабакі нечым выгнаць. *Pietk., 365.*

Дай, божа, перакачацца, не буду болей напівацца. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Дай, да й памінай, як звалі. *Сержп., 51.*

Дай, бабка, малака.— Карова не доіцца.— Тады налівай смятаны. *Янк., 375.*

Дай, божа, мне, а нікому не. *Dybow., 6.*

Дай, божа, спажыць, што ў чужой кішэні ляжыць. *Fed., 287. Вар.: Сержп., 73.*

Дай, жонка, перцу — мёд закушу. *Янук., 31.*

Дай піць.— Слуга спіць. *Добр., 89.*

Дай сваёй таба′кі, а то ад чужыя нос баліць. *Нос., 32.*

Дай табакі, калі ёсць паперка, бо запалкі дома пакінуў. *І. Саламевіч, 1958, Слон.*

Дай хлеба! — Сабе трэба. *Ром., Бел., 224.*

Дайце булёну.— Пайдзі к Лявону. *Шатэрнік, 37, Сміл.*

Дайце мне перапечку, дык я вам скажу праз печку. *Там жа, 214, Пух.*

Дала баба зарок на рок. *Сержп. 5.*

Далей носа не бачыць. *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

Далі зелля ад (для, на) пахмелля. *Dybow., 19; Нос., 32; Fed., 73, Ваўк. п.; У. Іваноў, 1958, Мн.*

Далі малайцу гарбуза. [111] *Сержп., 8.*

Дарам не сту′піць. *Там жа, 49.*

Дарма′, што дурна′, абы чарнаброва. *Ройзен., 69.*

Дастаў лазню. [112] *Fed., 170, Ваўк. п.* .

Дасць бог дзень, а чорт работу. *І. Цішчанка, 1975, Слаўг. 8.75.104.*

Дасць сем дзён на ты′дзень. [113] *Fed., 73, Ваўк. п.*

Дасць чатыры нядзелі на месяц. [114] *Там жа.*

Датуль смяяліся, дакуль кішкі не парваліся. *Ляцкий, 9.*

Даў, да й наддаў. *Нос., 31.*

Даў дзеду грош. [115] *Fed., 73, Ваўк. п.*

Даў драла, аж зямля закурэла. *Там жа, 81, Сак. п.*

Даў дулю пад нос. *Сержп., 96.*

Даў на сем званоў. [116] *Там жа, 90.*

Даў на тры школы. [117] *Там жа, 91.*

Даў перцу з імберцам. [118] *Нос., 31.*

Даў,— спасіба, не даў,— другое. *Там жа.*

Даў, што з носа ўпала. *Pietk., 364.*

Даў яму пад самы нос. *Сержп., 96.*

Даўно? — А ўжо кавалак. *М. Грынблат, 1976, Ваўк. 8.76.113.*

Даўно не курыў, аж вушы паапуха′лі. *Яўсееў, 95.*

Даўно ціха было. *М. Грынблат, 1970, Лаг.*

Два вялікія, а трэці маленькі. [119] *Pietk., 318; Fed., 89.*

Два друга — хамут ды папруга. *Ахрым., 28.*

Дзве дзіркі ў носе ды й скончалося. *Fed., 204, Вайк. п.*

Дзе болі двух — там гавораць услух. *Яўсееў, 88.*

Дзе быў? — На базары.— Чым гандляваў? — Варон прадаваў: адну збыў, другую купіў. *Янук., 30.*

Дзе быў, там нет, а толькі след. *І. Курбека, 1966, Докш. 13.9.7.*

Дзе дзецца, як вяселле мінецца? *Цяшк., 588, Смарг.*

Дзе ж мала'я падзелася? — Не бойся, хвост грыву найдзе. *І. Назіна, 1977, Мн.*

Дзе ж то запісаць, хіба качаргою ў коміне? [120] *Fed., 349, Вайк. п. Вар.: Fed., 133, Вайк. п.; Дуб., 28.*

Дзе наша не прападала, хай і тут ля'сне. *Мін-Мал., 1977, 137. Нясв.*

Дзе? — Не захадзя', мінаючы, дзе яна ў пограб правалілася. *М. Грынблат, 1976. Кар.*

Дзе збяруцца, там і смяюцца. *Там жа, 1962, Дзятл. 8.1.74.*

Дзе твой бацька? — Сабакам сена косіць. [121] *Л. Селівон, 1965, Ашм.*

Дзе ты спіш, такі хітры, каб цябе куры не абробілі? *Нар. лекс., 18, П. Садоўскі, Пол.*

Дзе? — У віру на калу'. *І Саламевіч, 1961, Мн.; Нос., 19.*

Дзе? — У лясу' на верасу'. *М. Грынблат, 1974, Пух.*

Дзеду, гарыць сяло! — Няхай гарыць, а я за торбу ды ў другое пайду. *Гильт., 291; М. Грынблат, 1978, Кар.*

Дзеду, сяло гарыць! — А нічога, там другое стаіць. *С. Цярохін, 1975, Саліг.*

Дзеля лю'дскага смеху. *Fed., 303, Слон. п.*

Дзеля мяне, няхай хоць воўк траву есць. *Там жа, 339, Вайк. п.*

Дзень добры, бацюшка. Ці дома поп? *Янк., 376.*

Дзержыцца за панску клямку. *Fed., 216, Вайк. п.; Pietk., 383.*

Дзеўка — самы сок, ёй яшчэ пяцьдзесяці няма. *Юрч., 1977, 47.*

Дзеўка як перапечка: восемдзесят тры гады; маладзейшая за маю матку на тры гады. *М. Грынблат, 1977, Стаўб.*

Дзешавей за параную рэпу. *Там жа, 1962, Мн.*

Дзіва, на тры капейкі піва, а ўсё сяло п'яно. *Нос., 34.*

Дзіва, што ў дзеда барада сіва. *Pietk., 368.*

Дзівіўся, аж нос скрывіўся. *Дуб., Нар., 2*

Дзілі'н-дзілі'н — матульцы блін. *Сержп., 139.*

Дзьмецца, як не парвецца. *Крэмнеў.*

Дзя'дзько-уга'дзько, угадай колькі ў мяне кароў — аддам абедзве. *Нар. лекс., 163, І. Крамко, Кар.*

Дзякуй! — Дзя'кі-ляда'кі бываюць і лайда'кі. *Нікіф., 1928, 104.*

Дзякуй еў, дзякуй не еў, абы на кабылку сеў. *Я. Краміч, 1970, Глыб. 13.10.88.*

Дзякуй за ласку, табе дай, а сам падыхай. *Сержп., 9.*

Дзякуй табе ў шапку. *М. Грынблат, 1930, Мн.*

Дзярэцца на ўсё горла, аж чэрці яго бяруць. *Шатэрнік, 87, Сміл.*

Днішча па сяле свішча [122]. *Сцяшк., 588, Дзятл.*

Добра брэшаш, шкада вешаць. *Янук., 30.*

Добра жыў. Пехатою за канём хадзіў. *Янк., Дыял., I. 208; Я. Ясюлевіч, 1967, Іў. 13.10.27.*

Добра, каб ляпей, дык навошта. *І. Курбека, 1966, Докш. 13.9.7.*

Добра не з'еў і не знасіў. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

Добра — пападзеш, а не — і так адойдзеш. *Ляцкий, 10.*

Добра яму смяяцца, якаво то нам, сірата'м? *Сержп., 22.*

Добры дзень, Мацей, ці многа дзяцей? *Нос., 35.*

Добры нос чарку (хвігу) за тыдзень чуе. *Брыль, 106.*

Добрыя зубы: і кісель ядуць. *Янк., 376.*

Дождж за шыю не капае,— спяшыць няма куды. *А. Чэчат, 1975, Старадар. 8.75.97.*

Дома і замужам. *Pietk., 365.*

Дох яго ведае! *Нар. сл., 301, А. Крывіцкі, Г. Цыхун, І. Яшкін, Тур.*

Дочка праворна: што ў бога дзень, то прасцень.[123] *Добр., Слов., 739.*

Драла, адно пяты заблышча′лі. *Fed., 81, Вайк. п.*

Другім разам, да не цяпер. *Нос, 37.*

Дрыжаць жылы пад каленкамі. *Fed., 372, Вайк. п.*

Дуды ў мех і квіта.[124] *Там жа, 84.*

Ду′ець праз (на) усе застаўкі. *Dybow., 10; Нос., 38.*

Дума′ думу′ паганяе. *Fed., 84, Вайк. п.*

Думаець аб нябескіх мігдалах.[125] *Dybow., 10.*

Думаў, што ён яе ўкаранує, тым часам даў у морду. *Fed., 84, Вайк. п.*

Думка на думку лезе. *Там жа.*

Дурны, дурны, а сала любіць. *Сцяшк., 589, Шчуч.*

Дурная пале′на з печы ляцела. *Добр., Слов., 657.*

Дурны поп кадзі′ў.[126] *Dybow., 15.*

Дурны поп ксціў (хрысціў).[127] *Нос., 39; Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Душа не без каўша. *Нос., 40.*

Душа ў пяты пашла. *Pietk., 318. Вар.: Нос., 39; Fed., 88, Вайк. п.*

Душачка на нітачцы задзяржалася [чуць не выскачыла]. *Нос., 40; Fed., 88, Вайк. п.*

Ды бог яго ведае! *М. Грынблат, 1977, Стаўб.*

Ды кінь! — Хоць кінь, хоць падымі. *Там жа, Кар.*

Ды што ж там такое, калі што якое. *Янк., 376.*

Едзеш дзесяты дзень дзевяту вярсту, толькі пушчы пралятаюць. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

Еду па жонку пятую; судзі, божа, па дзесятую. *Нос., 190.*

Ежма тваё, а потым кожны сваё. *Янк., 376.*

Елка-саснячок. Прыдзе мужычок, елачку зрубіць, нешта (гарэлкі, солі) купіць. *Ляцкий. 11.*

Есць, аж нос угінаецца.[128] *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

Есць, да не пра вашу чэсць. *Сержп., 9.*

Есць, мала лупачы' не павылазяць.[129] *Fed., 130, Ваўк. п.*

Есць на два куткі'. *Ройзен., 70.*

Еткага сарвілы і свет не свяціў. *Бяльк., 401, Краснап.*

Ехалі гайдама'кі на серым сабакі.[130] *Бяльк., 143, Мсціел.*

Ехаў нейкі разявяка ды заехаў аглобляю мне ў рот. *Pietk., 339.*

Еш.— Не хачу.— Пойдай.— Да нечага. *Нос., Слов., 723.*

Еш — пацей, работай — мерзні, на хаду патроху спі.[131] *М. Грынблат, 1976, Кар.*

Ёкнуць не паспеў, як на яго мядзведзь насеў. *Сержп., 128.*

Ён атцоўскія выезды выездзіў і выхады выхадзіў.[132] *Добр., Слов., 108, Ельн. п.*

Ён вам нагаворыць кучу і горбачку.[133] *І. Саламевіч, 1970, Слон.*

Ён вам нагаворыць (пляце)-і мех і кайстру. *Раст., 50. Вар.: Ром., Бел., 306.*

Ён з пекла родам.[134] *Fed., 232, Ваўк. п.*

Ён зажыўся, з намі і рука'цца не хочыць: яму і чорт не брат, і свіння не сястра. *Добр., Слов., 236.*

Ён і трох не пералі'чыць. *Fed., 227, Ваўк. п.*

Ён і чорта піранёс.[135] *Там жа.*

Ён на прыказкі, дык сыйдзі' свет, то не знайдзеш. *М. Грынблат, 1977, Глуск. 8.77.127.*

Ён не сляпы, знае чорна па белым. *Fed., 358.*

Ён свінням хвасты накручвае. *Сержп., 44.*

Ён сягонні з свіннёю, ні адзін.[136] *Fed., 6, Лід. п.*

Ён такая гарачка, што толькі крэнь, то загарыцца, бы агонь.[137] *Сержп., 133.*

Ён такі: не ўдарыць, не падарыць. *М. Грынблат, 1951, Хойн.*

Ён такі чалавек, што ду'рна не пракурыць, ду'рна не прап'е, ду'рна не аблае. *Там жа.*

Ён чуе, каб пташачка шургнула.[138] *Fed., 69, Слон. п.*

Ён чуе, як трава расце. *Там жа, Ваўк. п.*

Ён яму не варт вады падаваць. *Там жа, 327.*

Ёсць мукі' на замесь. *Нос., 40.*

Ёсць, чаго душа хоча. *Сержп., 78.*

Жоначка, загані валоў у хлеў, а я яшчэ кругом хаты пабегаю. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Жыве век у бога за дзвярыма. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

Жыве ды хлеб жуе. *У. Іваноў, 1958, Мн.*

Жыве з пяці пальцаў. *М. Грынблат, 1974, Мн. Вар.: Fed., 214, Вайк. п.*

Жыве і скарынкі жуе. *Янк. М., 23.*

Жывем, дажываем (пажываем), дабра нажываем. *М. Грынблат, 1971, Глыб. 8.2.43; Н. Гілевіч, 1965, Лаг.*

Жывець на канцы языка. *Нос., 42.*

Жывець (жыву) у віру' на калу'. *Нос., Слов., 58; Дуб., 20.*

Жывець сабе, ні на што не ўзіраючы. *Добр., Слов., 65, Смал. п.*

Жывець цётка за дзядзькам. *Нос., 42.*

Жывот баліць, гледзячы. *Там жа.*

Жывот пад каленам забалеў. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Жыта ў каласочку, дзевачкі ў галасочку. *А. Пісарык, 1975, Старадар. 8.75.97.*

Жыў Астап без ячменю і будзе жыць. *Янк. М., 23.*

Жыўшы, жыўшы да й пашлі завыўшы. *Fed., 212, Вайк. п.*

Жых-жах — і гатова! *М. Грынблат, 1930, Мн.*

З аднаго маху семсот манахаў. *Юрч., 1977, 44.*

З аднаго поля ягадкі. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

З Антонаву слязу. [139] *Fed., 303, Вайк. п.*

З вялікага гуку не будзе чаго браць у руку. *«Ніва», 1978, № 8.*

З гаручага ды ў балючае. *Радч., 247; Янк., 468.*

З горам, з бядою. *Янк., 468.*

З дажджу пад рыну. [140] *Fed., 81, Вайк. п.*

З ім гаварыць, як з кабылай пацеры мовіць: ты гаворыш «Ойча наш», а яна «Сена дай». *І. Курбека, 1966, Докш. 13.9.7.*

З ім піва не зварыш. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

З каждага сяла па сабацы. *Нос., 157.*

З кожнай хаты па сабачцы. *Дуб., 56.*

З камара зрабілі каня (вала). *Fed., 134, Слон., Сак. п.*

З капылоў (капылля) далоў. [141] *Янк., 468.*

З кароткімі гужамі прыстаў. *Нос., 157.*

З Лейзарам прывітаўся. [142] *Fed., 162, Слон. п.*

З лубкі жывем. [143] *Нос., 52.*

З мухі вала зрабіў. *Fed., 190, Вайк. п.*

З носа па грошу, па траячку′ з рыла. *Никиф., 202.*

З носу [кап] ды ў рот [хап]. *Там жа, 205; І. Саламевіч, 1973, Слон.*

З-пад кур, петухоў сын. *Нос., 158.*

З-пад ногця хацела б дастаць. *Fed., 204, Вайк. п.*

З палкай да горла не падсту′пішся. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

З печы полымем, з хаты дымам, з двара віхрам. *Нос., 158.*

З плеч да ў печ. *Сержп., 25; Янк., 469; Н. Буйка, 1970, Шарк. 13.10.88.*

З прыску ды ў вагонь. *Шатэрнік, 231, Сміл.*

З пустога ў парожнее няма што пераліваць. *Fed., 227, Вайк. п.*

З рук выглядае. *Там жа, 266.*

З сядзючага сабаку вырас. *Нос., 158.*

З цеста паляніца, з дзевачкі маладзіца. *Мат. Гом., V, 129, Жлоб.*

З шыбеніцы сарваўся. [144] *Нос., 159.*

З яго будуць людзі. *Fed., 64, Вайк. п.*

З яго не будзе людзей. *Там жа.*

З яго рукі не павялося. *Сержп., 71.*

З яго толькі лік адзін. *Там жа, 20.*

За адным засе′дам вячэра з абедам. *Рап., 247.*

За вялікімі барамі, за глыбокімі вада′мі. *Fed., 41, Вайк. п.*

За гнілую рыбу прапаў. [145] *Цяшк., 591, Дзятл.*

За грош піва, на ўсё сяло дзіва. *Нос., 45.*

За гу'бы да ў зубы. *Там жа.*

За гэтым каралём можна нос уцерць і каўняром. [146] *Там жа, 44.*

За кукіш кабылку купіш, кабылка здохне — кукіш адсохне. [147] *Шатэрнік, 141, Сміл.*

За муку' робіць і хлеба просіць. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

За мяшок, да й пашоў як шашок. *Fed., 212, Вайк. п.*

За ножку да аб сошку. *Серж., 73.*

За пастаянку дарожай не плацім — сядзь. *Fed., 223, Вайк. п.*

За пяне'ндзы ша'бас. [148] *Там жа, 232, Сак. п.*

За пень галаву, за калоду ногі. [149] *Там жа, 101, Нав. п*

За паўдарма купіў. *Там жа, 157, Вайк. п.*

За паўдарма прадаў. *Там жа, 243.*

За пнём галава. [150] *Там жа, 101, Слон. п.*

За сем міль кісель есці.[151] *Серж., 48, 18.*

За так і тата ма'му не цалуе. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

За хвост да аб вугал. *Серж., 73.*

За язык пацягнула. [152] *Нос., 48.*

Забабоны старой жоны. *Fed., 345, Вайк. п.*

Забіты, а нагой трапечыць. *В. Рабкевіч, 1961, Брасл. 13.9.5.*

Забіў сабе цвіка ў галаў. [153] *Fed., 59, Вайк. п.*

Завёў шарманку з вечара да ранку. *Мін.-Мал., 1977, 137, Нясв.*

Завярнуў ачыма і плячыма. *Fed., 337, Вайк. п.*

Завязаў сабе свет. *Серж., 3.*

Загнано яго ў казіны рог. *Fed., 141, Вайк. п.*

Загнуўся ў тры напасці. *Там жа, 347.*

Зада'рма няма хап-хап. *М. Грынблат, 1978, Нав. 8.78.152.*

Загубіў дзве душы: камара ды муху. *Бяльк., 199, Мсцісл.*

Заехаў на пнюшок сівы жарабок. *Жыв. сл., 127, Я. Рамановіч, А. Чабярук, Кліч.*

Заехаць па мухаедах. [154] *Pietk., 379.*

Зайдзі пасядзець, кума.—Часу няма.—А што ты будзеш часаць? *Сем.; І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Зака′лец у палец. *Мат., 25, М. Яўневіч, Бял.*

Закурым, зашабачым, на тым свеце чорта ўбачым. [155] *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

Закурым [піпку], каб дома (штоб у дварэ) не журыліся. [156] *Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2; Нос., 45.*

Закурым табакі, можа пагоняць сабакі. [157] *Fed., 309, Ваўк. п.*

Закурым табачку′ цёртага, успомнім пра жывога і мёртвага. [158] *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

Закурыце наш «Прыбой», будзе дым ісці трубой. [159] *М. Грынблат, 1954, Радун.*

Залажыў на свінню сядло. *Fed., 309, Слон. п.*

Залажыў ногі за плечы ды й наўце′кі. *Там жа, 196, Ваўк. п.*

Залез у даўгі (папаўся ў бяду, ускочыў) па самыя вушы. *Там жа, 81, 28, 322; Сержп., 126.*

Заліў за скуру сала. [160] *Fed., 271, Ваўк. п.; Pietk., 400.*

Замалюй яму губу! [161] *Fed., 120, Ваўк. п.*

Заманулася кабыле оцту. [162] *Там жа, 348, Ваўк., Гродз. п.*

Замерыў, ды не ўдэрыў. [163] *Там жа, 349, Ваўк. п.*

Замнога два грыбы ў боршч. *Там жа, 119.*

Запала клямка. [164] *Нос., 46.*

Запеў бы я песню, да не маю ноты, пастаяў бы, дзеўкі, з вамі — парваныя боты. *І. Саламевіч, 1965, Слон.*

Запеў бы я песню, так не маю ноты, кароценькі кажушок, дзіравыя боты. *М. Грынблат, 1945, Віл. 8.1.1.*

Запішам на свістку — і пашлем на вецер. *Г. Барташэвіч, 1960, Стаўб. 8.1.50.*

Запішы ў коміне ўглём. [165] *Fed., 349, Ваўк. п.; Сержп., 129.*

Заплютаўся сабака ў гарохавіны. *Pietk., 341.*

Зарабіла ку′рку на касце′ле. [166] *Л. Малаш, 1975, Докш.*

Зарабіў куры′цы на соль. *І. Навакоўскі, 1969, Валож. 13.10.63.*

Зарабіў на нюх табакі. *Pietk., 400.*

Зарабіў пад халявы падклейку з палатна.*Сцяшк., 329, Нав.*

Зараз апо'шнё ў печ усыпле. [167] *Fed., 9, Вайк. п.*

Заржалі кабылы: хто піскам, хто віскам, хто мохам, хто гарохам. [168] *Добр., 111.*

Заручылі дзеўку супроць панядзелку. [169] *Касп., 123, Сен.*

Засеў у бі'блі па самыя калена. *Fed., 29, Вайк. п.*

Засыпалі троху гароху. *Нос., 47.*

Затужылі казакі, што заста'лісь без таба'кі. *Бяльк., 184, Мсцісл.*

Заўтра аб гэтай парэ. [170] *Нос., 44.*

Заўтра — бог бацька. *М. Грынблат, 1930, Мн.*

Захацелася ад быка малака. *Fed., 346, Вайк. п.*

Захацелася кабылі малака. [171]. *Pietk., 352.*

Захацелася птушынага малака. [172] *Fed., 346, Вайк. п.*

Захацелася ў пятроўку мёрзлага. [173] *Янук., 31.*

Захацеў ехаць шырокім возам па вузенькіх каляінах. *Сержп., 17.*

Захацеў рыбкі з юшкай. *Ляцкий, 36; Сержп., 73.*

Захрыпелі грудзі — скора прыступяцца людзі. *Добр., Слов., 258.*

Зачынайце ў божы час, як у людзей, так і ў нас. *Fed., 346, Вайк. п.*

Збіўся з капейкі. *Сцяшк., 592, Кар.*

Збіўся з ладу (толку). *Fed., 169, 313, Вайк. п.*

Збунтава'ны — не п'я'ны, разбярэцца. *Яўсееў, 49.*

Званіў Апанас, да не па нас. *Fed., 9, Лід. п.*

Звастрыўся на адзін канец. *Нос., 48.*

Звёў (з'ехаў) на пшык. *І. Саламевіч, 1958, Слон.*

Звёў хлеб на папку. [174] *Fed., 54, Вайк. п.*

Згаварыцца з ім — бочку бобу з'еўшы. *Там жа, 353.*

Згаворлівы чалавек, бярэць, што ў рукі пападзець. *Нос., 48.*

Згода на тры года. *Fed., 354, Вайк. п.*

Здагадлівы як Сямёна Хімінага певень: зімой у пашню не йдзе,

а сцежачкай, сцежачкай ды ў мліва. *Мат., 172, С. Прач., Пар.*

Здаецца, што і певень смяецца. *Зах., 252.*

Здалёка відзіць тваё вока. *Нос., 48.*

Здараецца на вяку і па спіне, і па баку. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Здра′стуйця! — Здрастуй.— Аткуда ты? — З Ча′вус.— Ці пойдзеш ты замуж? — А ча′му ж! — Ці ўмееш работаць? — А, работаць... *Добр., 65.*

З'ела вала і барана, чатыры качачкі, гаршочак кашачкі, яшчэ мала. *Дуб., 21.*

З'еў яго жывога з патрахамі. *Сержп., 38.*

З'ехаў на пусты канец. [175] *Fed., 136, Ваўк. п.*

Зімна, што дух вон, а па′ра стаўпом. *Fed., 355, Нав. п. Вар.: Ром., Бел., 295.*

Зімова пара′ праходзіць, вясня′на пара ідзе, летняя пара прыдзе, асенняя пара надыдзе. *Сцяшк., 350, Гродз.*

Зірні, які ён марымоньчык. [176] *Сержп., 97.*

Зіяе, зіяе, да й бліскне. *Нос., 49; Fed., 354, Ваўк. п.*

Злазь з даху і не мні бляху. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Злазь з даху, не псуй гонту. *М. Грынблат, 1949, Мн.*

Злодзей з-пад цёмнае зоркі. *Сержп., 88.*

Злосці не хапае. *М. Грынблат, 1975, Лаг.*

Злуе, сябе за хвост грызе. *Сержп., 90.*

Змёрз, аж зубы пакасцянелі. *Fed., 374, Сак. п.*

Знаемся мы на гэтых цымбаліках. *Mien., 397.*

Знаець, дзе ракі зімуюць. *Нос., 50; Pietk., 401. Вар.: Сержп., 27.*

Знаеш ты з носу ў рот. *Нікіф., 1928, 113.*

Знаходка (не вялікая зна′йда) — тапор пад лавай (за лаваю). *Ром., Бел., 297; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15. Вар.: Dybow., 23; Fed., 359, Ваўк. п.; Дразд.; Мат., 99, В. Бекіш, Маладз.*

Знаці піва па задатку. *Fed., 236, Ваўк. п.*

Знаць не знаю, ведаць не ведаю, а дзела маё. *Нос., 50; Сержп., 7.*

Знаю, што ты з Раю, да як завуць, не знаю. [177] *Нос., 50; Dybow., 22.*

Зогтэр забачым, цо то (як тое) будзе. [178] *Fed., 46, Слон. п. Вар.: Сержп., 27.*

З-пад яшчаркі падастае ўсе яйца. *Мяц., 110, Кар.*

Зрабіў — каму нага, каму галава. *Мін.-Мал., 1977, 138, Нясв.*

Зрабіў — махні-драла. [179] *Fed., 81, Ваўк. п.*

Зрабіў на сваю голаў. *І. Саламевіч, 1956, Слон.*

Зрабіў нож на сваё горла. *Fed., 206. Ваўк. п.*

Зрабіў (робіць) у свіныя галасы. [180] *Там жа, 360.*

Зрабіў, што камар носа не падточыць. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

Зух з калом да мух. *П. Лукша, 1969, Смарг. 13.10.64.*

Зух супраць мух. *Клышка, 391; В. Казачонак, 1969, Смал. 13.10.67.*

І апалявала, а ўсё прайграла, *Дуб., 25.*

І верабей ногі не намочыць. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

І вокам не звёў. *І. Саламевіч, 1958, Слон.*

І горача, і боляча. *Там жа, 57.*

І грушкі — міну'шкі. *Шатэрнік, 123, Сміл.*

І гэта слова не мякіна. [181] *Нос., 54.*

І дзе гэта мех развязаўся? [182] *М. Грынблат, 1931, Дзярж.*

І дзе яго сіла падзявалась? Ці на ём чорт хлуд вазіў? [183] *Добр., 106.*

І думна, і шумна, а ў пяткі зімна. *Dybow., 9; Fed., 84, Нав. п.*

І жарана, й варана (і жаранае, і па'ранае), й так кускамі. *В. Рабкевіч, 1961. Кап. 13.9.5; М. Грынблат, 1970, Мн.*

І з адзёжаю, і з ёжаю, з усім. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

І здох, і ссох. *Дуб., 25.*

І камара не скрыўдзіць. *Сержп., 47.*

І кокашы не задзёр. [184] *І. Саламевіч, 1956, Слон.*

І крошкі бацькавы (матчыны) пабраў. *Fed., 180, Вайк. п.*

І лапкі ўгору падняў. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

І лапці адкінуў. *М. Грынблат, 1976, Лаг.*

І мала, і няўдала. *Сержп., 55.*

І мая душа не балалайка. *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24.*

І мая ж душа не лішняя. *Сержп., 99.*

І мой бацька так казаў. *Нос., 56.*

І мой квасок не з трасок. *Fed., 160, Вайк. п.*

І мухі не заб'ець (не абідзіць). *Нос., 56; М. Грынблат, 1960, Сір.*

І на грош яму не веру. *М. Грынблат, 1970, Лаг.*

І на ногаць яму нічога не даў. *Fed., 74, Вайк. п.*

І на панюх не будзе. *Ром., Бел., 298.*

І недаедкі і недаадзедкі. [185] *Fed., 200, Вайк. п.*

І о'чуткі не чуваць. [186] *Там жа, 69.*

І па'ры з губы не пусціць. *Там жа, 120.*

І піць не хачу, і грошы не плачу. *Dybow., 10.*

І пірагом не заманіш (падманіш). *Дуб., 25; Нос., 57; Fed., 209, Вайк. п.*

І росачкі ў гу'бі не было. *Fed., 120, Вайк. п.*

І рыбу з'есці, і ў пакой сесці. *Д. Зальцэвіч, 1965, Радун. 13.10.6.*

І рэшата хмелю не здолею падняць. *Pietk., 361.*

І свет не чуў, і людзі не відзелі. *Юрч., 1966, 29.*

І слыхам не чуваць (слыхаць), і відам не відаць. *Fed., 69, Вайк. п.*

І слеп, і кеп (і слепа, і кепа). *Нос., 57; Добр., Слов., 318.*

І смалюць і агнём палюць. *Нос., 157; Fed., 284, Лід. п.*

І смех і бяда. *Нос., 57; Fed., 303, Вайк. п.*

І спераду Каруся, і ззаду Каруся, і сама з сябе дзіўлюся, што харошая Каруся. *І. Пазняк, 1962. Шчуч. 13.10.6а.*

І так не добра, і гэтак не харашо. *І. Саламевіч, 1960, Слон.*

І там не цесна. *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

І там пірагамі варота не заткняны. *Fed., 235, Ваўк. п.*

І тату з таго свету пазавеш. *Нос., 57.*

І тут гу-гу', і там гу-гу', і нічога разабраць не магу. *Сцяшк., 593, Гродз.*

І ты тут і я тут, а сабакі гаршкі б'юць. *Fed., 269, Ваўк. п.*

І ў вус не дзьме. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

І ў цёмныя ночкі яму свецюць вочкі. *Ляцкий, 14.*

І хочыцца, і коліцца, і мамка не вяліць. *Бяльк., 388, Краснап.; І. Саламевіч, 1956, Слон.*

І хухае і дзьмухае. *Fed., 55, Ваўк. п.*

І чорт ціхманам быў. *Яўсееў, 106.*

І чортава семя, і воўкава племя. *Ройзен., 72.*

І чуткі не чулі. *Fed., 69, Слон. п.*

І чуць — не чуў, і бачыць — не бачыў. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

І шчурачкі не пашлі. [187] *Сержп., 135.*

І шыла, і мыла, і прала, і ткала — і ўсё языком. *Ф. Янкоўскі, 1976, Глуск.*

І я не я і рука не мая. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

Ідзе, аж гудзе. *Дуб., Нар., 5.*

Ідзе, і яйка з галавы не зваліцца. [188] *Сцяшк., 594, Шчуч.*

Ідзі ляж, адкуль адвязаўся. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Іду на здабыткі, падвязаўшы лыткі. *Добр., 114.*

Ікаецца, нехта злом памянуў. [189] *Дуб., 25.*

Ім абы бібікі перабіваць. [190] *Сержп., 44.*

Індык думаў, думаў [папаў у мох] ды й здох. *Сцяшк., 594. Маст., Янк., Дыял., І, 211; І. Саламевіч, 1957, Слон.; Рап., 250.*

Індык думаў, думаў, ды ў шчы папаў. *А. Яроміч, 1970. Стол. 13.10.70.*

Індык думаў, дык галава аблезла. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Іх і вада не размые. *Т. Багдзевіч, 1965, Шчуч. 13.10.6;* ***Fed., 324,*** *Вайк. п.*

Іх і вадой не разальеш. *У. Іваноў, 1958, Мн.*

Іх і цапом не развядзеш. *Ляцкий, 14.*

Іх сам чорт не разбярэ. *Fed., 259, Вайк. п.*

Іхмосця з Замосця.[191] *Там жа, 349.*

Ішлі лысы і пляшывы, найшлі яны грэбень.— Кідай яго аб зямлю — ён нам не патрэбен. *Ляцкий, 14.*

Ішло брало, ехала паганяла.[192] *Нос., 57.*

Ішло, вярцелася, да няві́с куды падзелася.[193] *Там жа, 58.*

К яму добрыя словы не прыстаюць. *Там жа, 71. Вар.: Fed., 282, Вайк. п.*

Ка ўсякаму па Якаву. *Нос., 94.*

Каб годы маладыя, аддаў бы волы палавыя. *В. Скідан, 1977, Акцябр. 8.77.137.*

Каб гэта, што ты на мяне думаеш, даў сабачцы, то адразу скруціўся б. *Fed., 84, Вайк. п.*

Каб ды кабы, дык у роце раслі б бабы́, тады быў бы не рот, а [поўны] агарод.[194] *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.75. Вар.: Fed., 119, Вайк. п.*

Каб жа я каму калі што якое, а то ж ніколі нікому нічога (ніякага). *Шпил., Бел., 181; Dybow., 10; Fed., 203, Нав. п.*

Каб, крый божа, не ўмеў дрыжаць, то памёр бы. *Янк., 378.*

Каб не плеш, дык і лысы не быў бы. *Там жа.*

Каб не тыя ста́ры леты, не стаялі б бабы гэты.[195] *М. Грынблат, 1971, Глыб. 8.2.43.*

Каб не ўмеў дрыжаць, то змерз бы. *І. Саламевіч, 1956, Слон.*

[Каб] ня ўрокам [і] другім бокам. *Ром., Бел., 304; Н. Гілевіч, 1977, Лаг.*

Каб прымеў, з тым бы з'еў.[196] *Нос., 58.*

Каб прымеў, то ачыма бы з'еў.[197] *Fed., 250, Вайк. п.*

Каб прымеў, то ў ложцы вады ўтапіў бы.[198] *Там жа.*

Каб стукнуў ды грукнуў, ну і была б рада. *Ляцкий, 15.*

Каб то быў чалавек у бога. [199] *Нос., 58.*

Каб тое каб, да каб тое еслі, то самі б грыбы ў рот лезлі. [200] *Янк. М., 92.*

Каб ты ведаў, як я снедаў. *Касп., 55, Сен.*

Каб штодзень, то й нядзеля, а што хата, то й вяселле. *Дуб., Нар., 1.*

Каб я быў добры, то даўно б свінні з'елі. *Fed., 79, Вайк. п.*

Каб я ведаў хаця, колька канцоў у баране. *Там жа, 331, Слон. п.*

Кавалер — ад зямлі не адрос. *Мат. Гом., V, 132, Нар.*

Кавалер — старому кату па калена. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Кажын знаець, што на вялікадня празнік. *Добр., Слов., 276.*

Казалі-гаварылі, ходзіць Базыль да Марылі. *М. Грынблат, 1954. Свір.*

Казаць е што, да слухаць няма чаго. *Шатэрнік, 126, Сміл.*

Казлы драць ён разумны. *Ляцкий, 16.*

Калі б не плеш, і гола не было б (Калі гола, дак і плеш). *Нос., 63, 64.*

Калі б усё раўно, то лазілі б у акно, а то ходзяць у дзверы. [201] *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Калі вошы не з'ядуць, то й жыжка не заб'е. [202] *Ляцкий, 16.*

Калі ёсць харчы', дык і далей тарчы'. *І. Назіна, 1977, Краснап.*

Калі медзь, дак і каўшом. [203] *Нос., 64.*

Калі мёд, то і з ложкаю. *Fed., 188, Слон. п.*

Калі не дубчыкам, то бізунчыкам. *Нос., Слов., 25.*

Калі пераліўкі, калі недаліўкі. *Добр., Слов., 587.*

Калі розуму ў галаве няма, дык шапка не дасць. *Бяльк., 389, Касц.*

Калі свішчуць, нас ішчуць. *Нос., 65.*

Калі так, дак так, а не так, дак ніяк. *Сержп., 8.*

Калі ты слепяндра', дык бяры вочы ў кулак і глядзі. *Яўсееў, 94.*

Калі церці, дак да смерці. *Мін.-Мал., 1974, 187, Пух.*

Калода, калода, ці дождж, ці пагода. [204] *Сцяшк., 209, Свісл.*

Каля губ цякло, да ў рот не папала. *Нос., 66.*

Камнем на дно кануў. [205] *Там жа, 59.*

Каму водкі, каму піва, а каму дзявок давай жыва. *М. Грынблат, 1976, Вайк. 8.76.113.*

Каму здалося, а мне збылося. *Нос., Слов., 204.*

Каму, каму, а куцаму хвасту дастанецца. [206] *Нос., 67; Дуб., 27. Вар.: Сержп., 40.*

Каму, каму, а што сіваму каню дастанецца болей усіх. [207] *Ром., Бел., 299.*

Каму, каму?— Мне аднаму. *Там жа.* Камэд'я з вотцатам. *Fed., 134, Вайк. п.*

Каму? — Нікаму, а сіваму каню. [208] *Нос., 67.*

Каму па каню, а мне два. *Fed., 148, Вайк. п.*

Каму смех, а каму гілэхтэр. [209] *Крапіва, 252.*

Каму што, а Барысу ла'дкі. *І. Уласава, 1970, Кір. 13.10.89.*

Каму што, а Сымону селядца. *Я. Качан, 1969, Паст. 13.10.67.*

Камя'ча, а нас не бача. *Ром., Бел., 299.*

Канца і меры не было. *Fed., 135, Сак. п.*

Кап, кап, ды не цячэ. *І. Саламевіч, 1957, Слон.*

Капейка свярбіць. [210] *Pietk., 324.*

Капялюш — адзін у Расіі, першы ў свеце. *М. Грынблат, 1949, Бабр.*

Карміў аўсом, а забіў каўшом. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26.*

Карона з галавы не спадзець. *Нос., 68.*

Касі ў халадку'— прынясу мядку'. *Добр., Слов., 964.*

Кату' на адзін зуб. *І. Саламевіч, 1966, Слон.*

Кату' па пяту'. [211] *Янк., 477. Вар.: Цяшк., 584, Кар.*

Кату' па пяту', пчале па крылле, сабаку па хвост. *Янк., Дыял., III, 160, Глуск.*

Кату па пяту', раку па ву'сы. *Ройзен., 72.*

Ка'ўкнуў на тэй свет. *Нос., 59.*

Качаргою запісаць на сцяне (у коміне). [212] *Дуб., 28; Fed., 133.*

Каша наша, а боршч ваш. *Pietk., 374.*

Квіта, пане Мікіта. *Шатэрнік, 134, Сміл.; Дуб., 27.*

Кеп, дурань, блазен, тры штукі разам. [213] *Нос., 60.*

Кідаецца асою ў вочы. *Dybow., 12; Fed., 143, Слон. п.*

Кіну, рыну, ды пайду. *Dybow., 12.*

Кісялём удавіўся. *Fed., 144, Ваўк. п.*

Кіслы, аж за віскі цісне. *Fed., 144, Ваўк. п.*

Кісла, аж Масква відна. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

Кішка ў кішку лезе. [214] *Fed., 145, Ваўк. п.*

Кішкі парваць трэба. *Нос., 62.*

Клец у клец. *Дуб., 27.*

Кля′не, аж трава вя′не. *Fed., 145, Сак. п.*

Кляне′ на чым свет стаіць. *Там жа, Ваўк. п.*

Козлік, козлік, выстаў рогі, дам тры грошы на пірогі. *Ром., Мат., 83.*

Колькі буду жыць, на яе след не ўвайду. [215] *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

Колькі? — Тры.— Нос падатры. *І. Саламевіч, 1959, Слон.*

Конікі гагочуць, піценькі хочуць. *Сержп., 62.*

Конь чужы, хамут не свой, паганяй, не стой. *Р. Мухляда, 1965, Шчуч. 13.10.5.*

Корму, хоць запалі′. [216] *Клышка, 243.*

Коса, кры′ва, абы жы′ва. *М. Грынблат, 1976, Ваўк. 8.76.113.*

Косцю (колам) у горле сядзіць (сеў). *Нос., 68; Fed., 150, Ваўк.* п.; *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

Кот за адзін абед з′еў. *Fed., 150, Ваўк. п.*

Коўгае тут ні сця′, ні любя′. [217] *Мат., 155, Н. Калоша, Кар.*

Красці, дык мільён, а калі спаць, дык з каралевай. *М. Грынблат, 1977, Кар.*

Круком нос у губы ўрос. *Нос., 70.*

Круці, не круці, а заплаці. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Круць направа, круць налева — высокія ганкі. *Добр., Слов., 120, Смал. п.*

Крывавы наш грош. *Fed., 117, Ваўк. п.*

Крышы́ць буракі на воба бакі.[218] *Добр., Слов., 44, Смал. п.*

Куга́! Я табе не слуга́. *Дуб., 27; Нос., 70.*

Куге́ня з маслам не каша?[219] *Дуб., 27.*

Куды лезеш (прэшся) на злама́нё галавы (карку). *І. Саламевіч, 1960, Слон.*

Куды мяне вядзеш з лапцямі на кут? *Нос., 70.*

Куды някрытая цябе нясець? *Добр., Слов., 479.*

Куды ты лезеш? — Куды людзі, там і я. *Дуб., 27.*

Куды ты ўжо так прэшся скарэй? Ці там ужо сцены мёдам намазаны? *М. Грынблат, 1979, Кар.*

Куды цябе гоніць чортава хвіля? *Шатэрнік, 294, Сміл.*

Куды я, туды й доля мая. *Там жа, 141.*

Кукараку́ (кукарэку), баба ў раку́ (у рэку), а дзед за ёю з качаргою. *Нос., 70; Нар. лекс., 178, Г. Юрчанка, Мсцісл.*

Кукіш [да] у кішэні [даў]. *Дуб., 27; Нос., 70.*

Кукішам нос падцёр. *Нос., 70.*

Куксаю нос падцёр. *Fed., 156, Ваўк. п.*

Кукурыку́ на сваю галаву́. *Ляцкий, 18.*

Кулачок пад бачок, камень пад галоўку. *Fed., 156, Слон. п.; І. Саламевіч, 1964, Докш.*

Кумаге́р на клёцкі.[220] *Нос., 71.*

Куме, добры суседзе, згінула сякерка па тваім следзе; не кажу, што ты ўкраў, а прашу, каб аддаў. *Янк., 380.*

Куме, куме, воўк казу лу́ме! — Няхай, кумку, валачэ, нябось — і твая не ўцячэ. *Там жа.*

Ку́ме, куме, дурны ву́ме! Хадзі за сем міль у піва.[221] *Нос., 71.*

Кумка, хадзі, пагаворым аб людзей.— Эй, ду́рынька, што мы будзем аб людзей гаварыць, калі аб нас людзі гаворуць? *Ляцкий, 18.*

Купі ды і лупі.— А калі купіла хвост залупіла. *«Полымя», 1975, № 12, с. 105, Р. Сабаленка.*

Купіла б каня′, ды няма хамута і ваза′. *Ворожб.*

Купіла прытупіла. *Мат., 62, М. Яўневіч, Бял.*

Купіў без грошай. *Fed., 157, Вайк. п.*

Купіў бы платок на ле′ту, да дзенег нету. *Добр., Слов., 657.*

Купіў чорта з рагамі за свой грош. *Fed., 157, Вайк. п.*

Курыца не падбярэць. *Нос., 71.*

Курэц — ад старога лапця. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

Куса′нік будзець услед бегаць. [222] *Нос., 71.*

Кусочак з карові насочак. *Там жа.*

Кусочак з камаровы насочак. *Fed., 159, Вайк. п.*

Кухарка святога Марка. [223] *Там жа, 178.*

Лаецца, аж вантробы вываравае. *Сержп., 95.*

Лаецца, дзе нап′ецца, там і валяецца. *М. Грынблат, 1976, Мн.*

Лаза ўсім граза. *Добр., Слов., 379.*

Лайка, то не байка. *Сцяшк., 596, Воран.*

Ласку страціш і па карку сха′піш. *Дуб., Нар., 2.*

Ласун на клёцкі. *Fed., 170, Вайк. п.*

Ласы на мартаплясы. [224] *Дуб., 33; Нос., Слов., 265.*

Лбом дзверы адчы′ніць. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

Ле′кач ле′кача зляка′ўся. *Нар. лекс., 102, М. Аляхновіч, Пін.*

Лень, адчыні дзвер! — Падай качаргу, то я з печы адчыню. *Гильт., 291, Пруж. п.*

Лень, адчыні дзверы, а то згарыш. — Хоць згару, а не адчыню. *І. Сагарава, 1950, Браг, 8.1.35.*

Лепш малы рублік, чым вялікі дзякуй. *Л. Таранда, 1969, Міёр. 13.10.60.*

Лепш прапіць, ніж згубіць. *Fed., 244, Вайк. п.*

Лес няроўны і людзі няроўныя. *М. Грынблат, 1976, Кар.*

Лёг, згарнуўся, устаў, страхнуўся ды й пашоў. *Fed., 161, Вайк. п.*

Лёг, сагнуўся, устаў, страпянуўся. *Нос., 73.*

Лёстачкамі дух дастае.[225] *Fed., 167, Ваўк. п.*

Лжэ, аж з-за каўняра курыць. *Там жа, 171.*

Лжэ (гаворыць), не падсяваючы. *Там жа; В. Калюк, 1965, Нав. 13.10.6.*

Ліжа лапкі на чужое дабро. *Fed., 169, Ваўк. п.*

Ліс у авечай скурцы.[226] *Fed., 166, Ваўк. п.*

Ліса [ад дажджу] і пад барану хавалася: то ў зуб, то ў прут, ды ўсё міма. *Янк., Дыял., I, 213; Янк. М., 49.*

Лісіца ад дажджу й пад барану хавалася: Не ўсякая, казала, капля дастанець. *Выпісы.*

Ліха стала, ці ад круп, ці ад сала. *Нос., 73; Сержп., 82.*

Лічы, хіба лапці разуўшы. *Сержп., 27.*

Лічыў бы, да нечага. *Fed., 166, Ваўк. п.*

Лопнуў форс, прапалі грошы. *І. Назіна, 1977, Краснап.*

Лье ваду ў рэшата. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Лье ваду ў халяву. *Там жа.*

Лю́біць і курчаты і дзяўчаты. *Dybow., 7; Fed., 168, Нав. п.*

Любіць павесяліцца, асабліва паесці. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Любоў гэта ого! Як кароста. *Там жа.*

Людзі ядзяць камы′, да не мы. *Добр., Слов., 338.*

Лягчэй вырваць стары дуб з карэннем, чым у старой дзеўкі метрыку здабыць. *М. Грынблат, 1977, Стаўб.*

Лядашчік перале′цеў яму.[227] *Шпил., Бел., 183.*

Ляжыць і хвост адкінуў. *Сержп., 80.*

Ляйчы′на пад хвост трапіла. *Янк., Дыял., I, 214.*

Лятаець, стракоча, відна піткі хоча.[228] *Ляцкий, 19.*

Ляцеў, як хацеў, па′даў, як бог даў, а ўставаў — азіраўся. *Янк., Дыял., III, 161, Глуск.*

Магазіншчыца: На цэбар шапкі няма. *М. Грынблат, 1979, Кар.*

Магнат такі нашоўся![229] *Касп., 184, Сен.*

Мазгі без чэрапа. *Ляцкий, 19.*

Ма′е зубы на продаж.[230] *Fed., 360, Ваўк., п.; Pietk., 101.*

Ма′е мазгі малыя. *Fed., 181, Слон. п.*

Ма′е нож на горле. *Там жа, 112, Ваўк. п.*

Маеце па дзве дзюркі ў носе, нюхайце патросе. *Там жа, 203, Сак. п.*

Майстар [варты] на ўсякія (усялякія) жарты. *Ляцкий, 19; Сержп., 66, 68.*

Майстар да кабылы з ножыкам.[231] *Fed., 175, Ваўк. п.*

Майстар і чытаць, і пісаць, і з гаршкоў хватаць. *Нос., 76.*

Малаве′ля, малаве′ля, да й шмат узяла′.[232] *Суяшк., 279, Дзятл.*

Малады, але спелы (ранні). *Янк., 483; І. Саламевіч, 1958, Слон.*

Малы! Пасі валы! — А ты, вялікі, пасі інды′кі. *Янк., Дыял., І, 214.*

Маляванага чорта баіцца. *Сержп., 184.*

Мала алею ў галаве. *Fed., 101, Ваўк. п.*

Малое шчанё, а цяўкае. *Клышка, 69.*

Малы з халумі′нкай і дуракаві′нкай, з зайцам у го′лаве. *Добр., Слов., 183.*

Ма′ніць і не смяецца. *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Мароз, аж зоры трамацяць. *Fed., 179, Ваўк. п.*

Мароз, аж іскры сыплюцца. *Там жа.*

Мароз, аж неба зелена. *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Мароз прышчаміў нос. *Нос., 79.*

Мароз траскі′м трашчыць. *Fed., 178, Ваўк., п.*

Марцовы кавалер.[233] *Там жа, 140.*

Масла згасла, сала растала, а каўба′сы каты′ з'елі. *Там жа, 180.*

Масла пагасла, а сала пата′ла. *Pietk., 378. Вар.: Дуб., 56.*

Масла пагасла, сала пата′ла, а кілбасе ліха стала. *Ляцкий, 20.*

Масла пагасла, сы′ры ў Мазы′ры. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

Маўляў, і праўда. *Сержп., 76.*

Маўчаў, маўчаў, а тады зусім сціх. *Янк., 381.*

Маўчаць, пакуль зубы тырчаць! *Мат., 120, Г. Варава, Глуск.*

Махні-драла, а я за ім. [234] *Ром., Бел., 300.*

Маці (моц) божая! Я ад плоту, а яна да (а мяне к) плоту *Tyszk., 424; Нос., Слов., 419; Дуб., 31; Шейн, 478.*

Мачу′лі, мачу′лі, што вы там пачулі? *Ляцкий, 20.*

Мачыха′ — чортава саха′. *Пан., 26.*

Машкары цябе ведаюць! *Касп., 188, Беш.*

Ма′ю якоесь лапі′кла. [235] *Сержп., 7.*

Мая натура, як у таго тура; маё сардэ′нька за′ўшэ весяле′нька. *Fed., 199, Ваўк. п.*

Мая рэч — хватай маўчаць. *Там жа, 261.*

Меншы ад травы. *Fed., 177, Ваўк. п.*

Месяц, дзе ты быў? — У лес хадзіў.— А што рабіў? — Лыка лупіў.— А дзе схаваў? — Мядзведзь забраў. *Луж., 48.*

Меў чорт урадзіцца, да пятух запеў. [236] *Шпил., Бел., 184.*

Мех, людзям на смех. *Сержп., 93.*

Між двама′ сякерамі прапала. [237] *Fed., 244, Ваўк. п.*

Мікіта, сюды, Мікіта, туды, а ў Мікіты порткі ўпалі: дык ён ні туды, ні сюды. *В. Рабкевіч, 1961, Кап. 13.9.5.*

Міла, няміла — вазі, кабыла. *Ляцкий, 20.*

Міма мядзведзя да ў сцяну. *Ром., Зап., III, 223.*

Мінаў, мінаў ды не ў тыя вароты папаў. *Ляцкий, 20.*

Мінуліся тыя лату′ты. *Ром., Бел.; 300.*

Многа ты знаеш: із носа да ў рот, да па пузу пама′заць. [238] *Добр., Слов., 748.*

Мог бы я з мяшком цішком. *М. Грынблат, 1975, Мн.*

Можна на пальцу спячы. [239] *Fed., 213, Ваўк. п.*

Мой магарыч, а твае грошы. *Ройзен., 73.*

Морда ёй не зачыняецца. *Fed., 189, Ваўк. п.*

Мука′ як мука′, пака не находзіць ка′тняя рука. [240] *Добр., Слов., 316.*

Мулка на сэрцы, аж бляваць верне. *Сержп., 83.*

Мур, мур, ды на печ. *Сем.*

Мусі ты глу′хі на адно у′ха. *Fed., 110, Вайк. п.*

Мусі яго ваўкі з'елі. *Там жа, 340.*

Мусіць астаткі ў печ высыпаў. [241] *Сцяшк., 599, Ашм.*

«Мусіць» за вуха ўкусіць. [242] *Янк., Дыял., I, 215.*

Мусіць мы будзем біцца ці мірыцца [чаму вы мне сніцеся]. *Fed., 29, Вайк. п.*

Мусіць старшы чорт жэніцца. [243] *Там жа, 69.*

Мусіць у лесе штось вяліка здохла. [244] *Там жа, 353.*

Муха, ёй жа і му′ка. [245] *Нос., 81.*

Муха, муха, хоць табе му′ка, дасыта напілася, удоваль накупалася. Цяпер я па табе памінкі спраўлю.[246] *Ляцкий, 22.*

Муха-яруха. [247] *Нос., 81.*

Мухі ў носе завяліся. *Сержп., 31.*

Мы з ім жывём у адзін дух. *Fed., 367, Вайк. п.*

Мы з табой, як рыбка з вадой: ты пад лёд, а я на лёд. *Сап., 262.*

Мы з вамі з пірагамі. *Dybow., 13; Fed., 235, Нав. п.*

Мы і самі з вусамі, толькі адно нос не аброс. *Нос., 81; Fed., 342, Вайк. п. Вар.: Pietk., 348.*

Мы шчанят умесце не ксцілі. *Юрч., 1972, 185.*

Мыла не мыла, грошы заплаціў, то еш. *І. Саламевіч, 1955, Слон.*

Мышка вочы з'ела. [248] *Сержп., 186.*

Мядзведзь падышоў да мужыка да нюх-нюх, ды й пайшоў, а ў мужыка ўсе блохі са страху падохлі. *Там жа, 184.*

Мяне доля не спазнала. *Дуб., 36.*

Мяне ў тваіх гадах у мяшку′ не зλавілі б. *І. Цішчанка, 1975, Слаўг. 8.75.104.*

Мяшок яму прадаўся. *Fed., 183, Вайк. п.*

Мяшчанская ўхватка. [249] *Нос., 82.*

На адно вока глухаваты. *Янк., 381.*

На адно вуха слепаваты. *Там жа.*

На баранкі зарабіў. *Нос., 82.*

На Беларусі ўсе Марусі. *Г. Барташэвіч, 1977, Саліг. 8.77.131.*

На бок, свіны лабок, бо баравік едзе! [250] *Fed., 22, Вайк., Гродз. п.*

На бяду і розум адняло. *Там жа, 27, Вайк. п.*

На бязлюддзі і мы людзі. *Сержп., 31.*

На вадзе пісана. *Ляцкий, 22; Сержп., 126.*

На вушах стаяць будзе, а сваё будзе пра'віць. *І. Саламевіч, 1974, Слон.*

На вярбе грушы (грушкі) растуць. *І. Ламека, 1965, Вайк. 13.10.2. Вар.: Dybow., 14; Нос., 82; Pietk., 322.*

На вячэру зловіш цяцеру. *Янк., 381.*

На вячэру яглы', што так спаць ляглі. *Сцяшк., 599, Смарг.*

На гарачыя губы (зубы). [251] *Fed., 120, 360, Вайк. п.*

На гарачыя зубы ўзяўся. [252] *Там жа, 324.*

На гэта лета добра і гэта. *М. Грынблат, 1970, Лаг. Вар.: Нос., 83; Сержп., 78; Fed., 163, Вайк. п.*

На гэтым свеце ні ў ком праўды няма ні грошкі, толькі ў аднаго мяне, да ў маёй жонкі трошкі. *Нос., 84.*

На звей вецер гаворыш (сказаў). *Fed., 108, 330, Вайк. п.*

На зямлі не валяецца. *М. Грынблат, 1971, Лаг.*

На ім аж скура гарыць. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

На кел узяў. [253] *Шпил., Бел., 184.*

На кішанковыя сухоты хварэе. *Fed., 293, Вайк. п.*

На кожнае слова атвет гатовы. *М. Грынблат, 1976, Маст. 8.76.113.*

На крывой казе ездзіць. *Юрч., 1974, 122.*

На пана хварэе (захварэў). *Сцяшк., 599, Шчуч.; Fed., 216, Вайк. п.; У. Іваноў, 1958, Мн.*

На пень брахаць, на калоду ту'каць. *Янк., 485.*

На пень брэша. *Дуб., 40.*

На печку лёг і, як добры, уздыхаець. *Добр., Слов., 65, Смал. п.*

На работу бокам, а з работы скокам. [254] *М. Грынблат, 1975, Мн.*

На сем сажон пад зямлёю бачыць. *Сержп., 135.*

На сем сукоў садзіцца.[255] *Нос., 88; Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2.*

На старадаўны (стары) сметнік варочайся. *Fed., 305, Вайк. п.*

На тваю цешчу мядзведзь напаў, чуеш? — Калі напаў, то няхай сам бароніцца. *Г. Цітовіч, 1978, Гом.*

На тое лета, пасля абеда, гэтакай парой. *Ляцкий, 24.*

На той бок ядлаўца′ бяжыць, дзеўка, як гаўца′.[256] *Fed., 96, Вайк. п.*

На той час і розум адняло. *Ляцкий, 24; Сержп., 21.*

На том свеце разлічымся вугалькамі. *Fed., 260, Вайк. п.; І. Саламевіч, 1959, Слон.*

На том свеці знайду лепшага ў смецці. *Fed., 308, Вайк. п.*

На, у губці твае ножкі.[257] *Нікіф., 1924, 16.*

На хвост сарокі начапі. *Нос., 90.*

На хрыстоўдзень не рассмяецца.[258] *Добр., 10.*

На чэраве (лысіне) боб малоціць. *Сержп., 47, 68.*

На што нам што, калі ў нас во што. *Ром., Бел., 302.*

На Юр'я, як рак свіснець.[259] *Rур., 214.*

Набегалася на свой хвост. *Сцяшк., 600, Лід.*

Набіта сечкай галава. *Там жа, Вайк.*

Набок з дарогі з доўгім носам. *Сержп., 68; Fed., 205, Вайк. п.*

Наваліўся, каб за што — за яйцо. *Fed., 199, Слон. п.*

Нагаворыць цэлы мяшок. *Ройзен., 74.*

Над цудам цуда, над дзівам дзіва. *Дуб., 43.*

Надаеў богу і людзям. *Fed., 194, Вайк. п.*

Надаеў мне горш горкае рэдзькі. *Сержп., 48.*

Надаесць летам вароты запіраючы, а зімой нос уціраючы. *Ляцкий, 22.*

Наелася мяса, напілася малака і не глядзі на такога дурака. *Fed., 182, Вайк. п.*

Наеўся круп шылам. *Там жа, 153.*

Наеўся лёку, аж пашоў бокам. *Бяльк., 249, Крыч.*

Наеўся, напіўся, лёг спаць і акрыўся. *М. Грынблат, 1976, Кар.*

Накаваў лемяшоў, а сам к чорту пашоў. *Касп., 345, Сен.*

Наліўся і нікому не хваліўся. *Л. Ткачова, 1965, Арш. 8.1.97.*

Налічы тры тале′ры, каб любілі кавалеры. *Касп., 307, Сен.*

Нам з ім не парасят хрысціць. *Ром., Бел., 301.*

Нам што ў вастрог — што на цёшчын пірог. *М. Грынблат, 1970, Лаг.*

Нам, як людзям, а вам, як выпадзе. *Ляцкий, 23.*

Наму′віў поўну шапку па′цераў. *Fed., 207, Ваўк. п.*

Наплюй да й размаж.[260] *Нос., 87.*

Напрасна глядзеў чэраз прасла: нічога не бачыў. *Ляцкий, 23.*

Нарэзаў батрацкія скрылькі.[261] *І. Гутараў, 1960, Маг.*

Насмяяўся кашэль із вярэні.[262] *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

Наступіў на пробку.[263] *Там жа, 1959, 8.1.44.*

Насып солі на хвост, то й зловіш. *Fed., 356, Ваўк. п. Вар.: Нос., 89.*

Натрасешся, пакуль данясешся. *Нос., 89.*

Нахапіўся з каўшом на брагу. *Fed., 194, Ваўк. п.*

Нахля′ліся вады, аж жываты звінелі. *Сцяшк., 311, Шчуч.*

Начапі на сваю шыю, а я к табе прышыю. *Нос., 90.*

Начнэй воўк знаець толк. *Добр., Слов., 490, Смал. п.*

Начорта? — У чорта спіна цёрта. *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

Начую да й не чую.[264] *Добр., Слов., 490.*

Наша дзела здзелаць цела, а бог душу ўставіць. *М. Грынблат, 1938, Мн.*

Наша дзела мельнічнае, падкруціды й сядзь. *Там жа, 1951, Хойн.*

Наша дзяжа просіць ве′хця і нажа. *Мат., Гом., III, 213. Чач., Жлоб., Добр., Гом.*

Наша ўзяла і рыла ў крыві. *Нос., 90; Дуб., 37а.*

Нашай дзярэўні ахмістрыня. *Ляцкий, 24.*

Нашаму механошу пірог з калошу.[265] *Добр., Слов., 335.*

Не адзін дзівіўся, да нос скрывіўся, а твой і дужэй зламаецца. *Там жа, 167.*

Не адзін сабака Лыска. *Fed., 269, Вайк. п.*

Не адзін сляпы бачыць. *Нікіф., 1924, 14.*

Не баба, а конь грабежны. *І. Саламевіч, 1971, Слон.*

Не баба, а салдат. *Добр., Слов., 857.*

Не бойся, усё будзе ў бе'рдзе. *М. Грынблат, 1976, Кар.*

Не будзе так нідзе, як у нас на калядзе': каўбас, верашчакі еш, хоць апражыся, скінь світу, садзіся да й распераж ыся. *Сержп., 67.*

Не будзь ты такая сярду'ння, а то будзеш у мужыка цераз кій скакаць. *Бяльк. 439, Краснап.*

Не вазы на ём вазіць. *Добр., 106.*

Не варт боскага паджыцця. *Fed., 327, Вайк. п.*

Не варт ён яго ўсцілкі. *Fed., 328, Вайк. п.*

Не варт за хлеб. *Там жа.*

Не варт зломанага гроша (шэлега). *Там жа.*

Не варт мізінага пальца яго. *Там жа.*

Не варт яго нагі (падэшвы). *Там жа.*

Не варт яму ботаў чысціць. *Там жа.*

Не варта выедзенага яйка. *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

Не ведае а божам свеце. *Fed., 331, Вайк. п.*

Не ведае, на каторую ногу ступаць. *Там жа, 195.*

Не ведаю, што рабіць і што чыніць, але трэба ж неяк жыць. *М. Грынблат, 1977, Кар.*

Не вучы кульгаць: і так ногі баляць. *Янк., Дыял., І, 215.*

Не выпэндзам, але проша вон. *І. Саламевіч, 1972, Слон.*

Не вялікае дабро. *Fed., 72, Слон. п.*

Не вялікае свята. *Ром., Бел., 302; Ляцкий, 25; Fed., 307. Вайк. п.*

Не вялікае шчасце. *І. Саламевіч, 1971, Слон.*

Не гарлавая справа. [266] *Fed., 287, Вайк. п.*

Не гарэў, не балеў, калапенькі паеў. *Дуб., 38.*

Не глядзі, што я пла′чу — паганяй сваю клячу; ні глядзі, што я ры′гаю — паганяй сваю рыжую. *Добр., 114.*

Не гні вязе′лля! [267] *Добр., Слов., 113.*

Не да шмыгі прышло. [268] *Нос., 97.*

Не дадасі, і не даясі. *Там жа.*

Не дала нічога, нат пальца абвярцець. *Fed., 74, Вайк. п.*

Не дасць сябе за вус закруціць (закруну′ць). *Там жа, 342.*

Не дачакаўся свянцонага яйца. [269] *Там жа, 72.*

Не дзеўка, маліна. *Добр., Слов., 386.*

Не дзяцей у яго ксціць. *Нос., 97.*

Не еш, не пі і з хаты вон. *Мяц., 180, Стаўб.*

Не жыццё, а маліна. *У. Іваноў, 1958, Мн.*

Не з аднае дзяжы хлеб еў. *Fed., 53, Вайк. п.*

Не з аднае студні воду піў. *Там жа, 325.*

Не з адной табакеркі таба′ку нюхаў. *Там жа, 309.*

Не з вялікага балота чорт. *Ром., Бел., 303.*

Не з ломанага граша′ (шэлега). *Fed., 118, Вайк. п.*

Не з парожняй бочкі затычка. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

Не з пустога хлява затычка. *Шырма, 206.*

Не з тваім носам. *Ром., Бел., 304; Ляцкий, 28; Pietk., 332.*

Не з тваім розумам. *Сержп., 96.*

Не з тваімі рукамі. *Ром., Бел., 304.*

Не з тае′ бочкі пачаў. *Fed., 208, Вайк. п.*

Не з цукру, не растанеш. *Там жа, 59.*

Не за валамі ходзіш. *Там жа, 49.*

Не за вочы, да ў вочы. *Там жа, 335.*

Не за сахою хадзіць (ходзіць). *Нос., 97; Міеn., 397.*

Не задрамаў і на волас. *Fed., 347, Вайк. п.*

Не заедзем,— будзем загараць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Не засыпай солі за скуру нікому. *Fed., 285, Вайк. п.*

Не за што рукой ухапіцца. *Ром., Бел., 303.*

Не згарыць, чаго спяшаешся. *Fed., 306, Вайк. п.*

Не здарылася хлеб-соль есці, а здарылася пабіцца. *Ляцкий, 27.*

Не ззаду ж у мяне вочы. *Ром., Бел., 308.*

Не злуй вельмі, бо вантробы перагараць. *Fed., 356, Вайк. п.*

Не знаецца на фарбованых лісах.[270] *Там жа, 166.*

Не знаеш, дзе найдзеш, дзе пацяраеш. *Добр., Слов., 422.*

Не ідзе (не пашло) рукою. *Pietk., 340.*

Не йдзець сучка ў баразну′.[271] *Л. Малаш, 1975, Докш.*

Не йшло, не ехала. *Ром., Бел., 303.*

Не кажы да, бо (а то) заесць нуда′.[272] *Ляцкий, 26; Ром., Бел., 303.*

Не канешне сягодня, не канешне заўтра, а прыеду к табе. *Добр., Слов., 479.*

Не кіем, дык палкаю, адной паганялкаю. *Г. Румоўская, 1960, Пліс. 13.10.40. Вар.: Мяц., 173, Стаўб.*

Не клюй дупло, у гатовае лезь. *І. Цішчанка, 1972, Слаўг.*

Не крычы, бо на лета за гуртовага пастуха згодзім. *Клышка, 227.*

Не ламайся, кісель: не луччы людзей. *Добр., Слов., 321, Дух. п.*

Не ляжыць на карку. *Нос., 100.*

Не мае клёку ў галаве. *Янк., 490.*

Не мае ў галаве толку. *Fed., 312, Вайк. п.*

Не мантуламі корміць.[273] *Нос., 100.*

Не мне казаць, не табе слухаць. *Юрч., 1969, 116.*

Не можа ні дыхнуць, ні зіпнуць.[274] *Fed., 90, Слон. п.*

Не на дажджу (дварэ) стаіш, за каўнер не льецца. *Там жа, 289, Вайк. п.*

Не на тое жучка вые, каб ты да мяне хадзіў. *Ляцкий, 26.*

Не на тую нагу бот надзеў.[275] *Нос., 100.*

Не над маім каркам.[276] *Fed., 137, Вайк. п.*

Не нашага поля ягадка. *Ляцкий, 26.*

Не, не дурак, з веку так. *Юрч., 1972, 257.*

Не нукай, бо яшчэ не запрог.[277] *М. Бандарэнка, 1966,* **Маз.** *13.3.29.*

Не па зубах гэта табе. *Нос., 101.*

Не па кляпу лямка. *Ляцкий, 27.*

Не па шчуччаму вяленню. *Нос., 109.*

Не па простай гэта кабыле. *Fed., 132, Вайк. п.*

Не пад калодаю (плотам) ляжаць. *Нос., 101. Вар.: Сержп., 58.*

Не пад плотам валяецца. *Сержп., 58.*

Не паможа і не зашкодзіць. *Fed., 215, Вайк. п.*

Не памрэ, жыў будзе; жыў будзеш, тут будзеш, памрэш, там будзеш. *Ляцкий, 27.*

Не папаў (не пашло) у точку. *Fed., 312, Вайк. п.*

Не паследняя спіца ў калясніцы. *Нос., 102.*

Не пеража ваўшы кажаш (сказаў). *Fed., 142, 279, Вайк. п.*

Не перапу′сціць на макавае зярнятка. *Там жа, 227.*

Не песня, а дрындушка. *Шатэрнік, 88, Сміл.*

Не плюй, яно да канца такое. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Не плямкай і не гамкай.[278] *Fed., 237, Вайк. п.*

Не пойдзем да ра′біна на справу.[279] *Там жа, 255.*

Не проста з моста. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Не пужайся, я і сам баюся. *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Не Пятровы дзень, па два разы не буду гаварыць. *Ляцкий, 27.*

Не рада жаба, што павесілася (вешаюць), яшчэ і нагамі трасе (трапеча). *Fed., 362, Свянц. п.; І. Саламевіч, 1964, Слон.*

Не раззяўляй рота, бо варона ўляціць. *Fed., 262, Вайк. п.*

Не руш, не чапай, не твая тут справа. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

Не руш Рыгара′, хай ляжыць, як гара′. *Сцяшк., 602, Гродз.*

Не свой брат, не скажаш. *Нос., 103.*

Не скачучы, то плачучы. *Fed., 279, Вайк. п.*

Не спамыліцца: каму «дабры′дзень», а каму — «добры дзень». *Янк. М., 127.*

Не сядзелася, не ляжалася. *М. Грынблат, 1967, Шкл. 8.1.106.*

Не тваім зубам гэта кусаць. *Нос., 104.*

Не тваім носам [клюваць]. *Там жа. Вар.: Fed., 205, Вайк. п.*

Не твайго носа дзела. *І. Саламевіч, 1957, Слон.*

Не ткаха, не праха, а язык, як плаха. *Добр., Слов., 483.*

Не той чорт, што ты кажаш. *Ляцкий, 31.*

Не тпрукай, грыбы паб'еш. [280] *Нос., 102.*

Не тваім носам [клюваць]. *Там жа. Вар.: Fed., 205, Вайк. п.* *М. Грынблат, 1975, Мн.*

Не трэба многа! З арэх таго, на тры дні паеў. *Нос., 104.*

Не тыкайся са мною, я з табою свіней не пасвіў. [282] *Fed., 315, Вайк. п.*

Не ў свае штаны ўбраўся. *Нос., 95.*

Не ў свой дух есць. *Dybow., 15.*

Не ў тое трапіў. *Сержп., 128.*

Не ў тую яны дуду граюць. [283] *Fed., 84, Вайк. п.*

Не ў це′менё біты. *Там жа, 58.*

Не ў яйцы′ пішчыць. [284] *Там жа, 124.*

Не ўдавілася — з'явілася. *Сах.*

[Не] удалося бабе забіць лося. *Tyszk., 424; Шпил., Бел., 186. Вар.: Сержп., 128; Нос., 166.*

[Не] узяў бога за бораду [285] *Fed., 38, Вайк. п.*

Не ўзяў на макуліначку. [286] *Там жа, 324.*

Не ўсе ўкупімся ў твой розум. [287] *Там жа, 263.*

Не ўсё ў бердзе [яму, мне]. [288] *Там жа, 31.*

Не ўперад за паноў, *Ляцкий, 31.*

Не ўсё ж мігдаламі карміць. [289] *Нос., 105.*

Не ўсякі пан, у каго штаны навыпуск. *Клышка, 55.*

Не ўхопіць чорт (чарцяка).[290] *Нос., 105; Ляцкий, 31.*

Не хапа′нка на Іва′нка. *Ляцкий, 28.*

Не хацелі есці манны, няхай з'ядуць трасцы. *Pietk., 347.*

Не хацеў Кузьма сала,— скулля з'еш. *І. Цішчанка, 1970, Слаўг.*

Не хварэўшы, не балеўшы.[291] *Fed., 56, Ваўк. п.*

Не хочаш есці рэдзечкі з падсмятанкам, так еш сала. *І. Суяпунін, 1968, Дзярж.*

Не цапай, кошка, лапай, бо не зловіш вераб'я. *Янк. М., 134.*

Не цап-лап, разам не ухваціш. *Нос., 108; Дуб., 43.*

Не цвякай так, парасят зманеш.[292] *Дуб., 43.*

Не цыган душу ўлажыў. *Нос., 108.*

Не цяміў, куды думаў. *Ляцкий, 29.*

Не цяміў, не гадаў, куды папаў. *Сержп. 65.*

Не цяпер, дак (то) у чацвер. *Нос., 108; Дуб., 43; Fed., 58, 65, Ваўк. п.; Pietk. 315; І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7; В. Шаўчэнка, 1961, Ельск. 13.3.29; Фраз. сл., 213; Dybow., 182.*

Не чуў, не бачыў. *Fed., 69, Ваўк. п.*

Не чуў, не бачыў, за адно запла′ціў. *Ляцкий, 31.*

Не шкляная, не разаб'юся (не разаб'ецца). *Нос., 109, Сержп., 65.*

Не шумі, муха, каля вуха. *Нос., 109.*

Не шылам жа яго пароць. *Там жа.*

Не я скачу′, бяда скача, а ты, ша′бас, не дзіву′й, відзіш бяду і клопат мой. *Fed., 27, Ваўк. п.*

Недалёка хадзіць, у нас гэта самае. *Сержп., 77.*

Нейкая паляндра ўчэмерылася.[293] *Дуб., 40.*

Некалі носа ўцерці. *Fed., 205, Ваўк. п.; Pietk., 331. Вар.: Нос., 113, 116.*

Нельга нос высунуць.[294] *Сержп., 38.*

Несканчоная (няскончаная) песня.[295] *Нос., 103; Дуб., 37.*

Несканчоны танец.[296] *Нос., 103.*

Несусветная даль. *Сержп., 18.*

Неўмірушчая на яго. [297] *Нос., 105.*

Неўпапад е′кнуў.[298] *Ляцкий, 28.*

Нечага нат на трэску ўзяць. [299] *Fed., 324, Вайк. п.*

Нехта ўспамянуў.— Хто? — Хведзя, у Марылі се′дзя. [300] *М. Грынблат, 1976, Кар.*

Нечага ска′лікі строіць, зубы лупіць. [301] *Бяльк., 406, Краснап.*

Нечага [тут] варажыць, калі пад бокам (носам) ляжыць. *Нос., 108; Дуб., 40; Fed., 326, Вайк. п.*

Нешта за каўнер бярэ. [302] *Fed., 42, Вайк. п.*

Нешта нейкае некуды паўзе. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

Нешта ў лесе здохла. [303] *Дуб., 43.*

Нешта ў лесе здохла — мабыць, мядзведзь. [304] *Pietk., 379.*

Ні адзы′ву, ні адрыгу. [305] *Мяц., 179, Арш.*

Ні адказу, ні прыказу. *Шатэрнік, 11, Сміл. Вар.: Pietk., 354.*

Ні адсюль, ні адтуль ліха ўзнялося. *Шатэрнік, 15, Сміл.*

Ні адтуль, ні адсюль. *Нос., 113.*

Ні азу ў глазу. *Там жа, 110; Дуб., 37а.*

Ні блізка, а не то туды. [306] *Нос., 110.*

Ні бобу даць, ні з бобу гнаць. *Сах.*

Ні бою, ні скандалу, ні сва′ру. [307] *М. Грынблат, 1977, Акцябр. 8.77.127.*

Ні відам не відаць, ні слыхам не слыхаць. *Нос., 110.*

Ні відам не відаць, ні ў казках сказаць. *Там жа.*

Ні вока не бачыла, ні вуха не чула. *Pietk., 382. Вар.: Fed., 69.*

Ні вока не відна. *Нос., 110.*

Ні вока нікому не запарошыў. *Там жа, 111.*

Ні гадзі′нкі, ні часі′нкі. *Янк. 491.*

Ні гарох, ні буба. *Нос., 111.*

Ні годзі, ні глодзі. *Нос., 111.*

Ні да бога, ні да людзей. [308] *Нар. сл., 116, М. Крыўко, Міёр.*

Ні да печы, ні да рэчы. *Fed., 231, Вайк. п.*

Ні даць, ні ўзяць. *Нос., 111.*

Ні два, ні паўтара. [309] *М. Грынблат, 1970, Лаг.; І. Саламевіч, 1956, Слон.*

Ні два, ні тры. *Янк., 491.*

Ні жывы, ні ўме́рлы. *Fed., 373, Вайк. п.*

Ні з гловы, ні з мовы. [310] *Ляцкий, 25.*

Ні з голаду, ні з холаду, а з дурэння. *Там жа.*

Ні з кожы, ні з рожы. *Нос., 114; Fed., 151, Слон. п.*

Ні з пер'я, ні з мяса. *Fed., 233, Вайк. п.*

Ні з таго, ні з сяго. *Сержп., 121; Fed., 109. Вар.: 274, Вайк. п.*

Ні за ім, ні перад ім. *Fed., 345, Вайк. п.*

Ні за кол (кій), ні за цям. [311] *Брыль, 23—24; Янк., 491.*

Ні за то, ні за сё. *Нос., 112.*

Ні за што, ні пра што. *Там жа.*

Ні згуба, ні находка. *Сержп., 121.*

Ні знайсці, ні пацяраць. *Ром., Бел., 304.*

Ні зсюль, ні стуль. *Fed., 360, Вайк. п.*

Ні к воднаму берагу не прыстаў. *Нос., 112.*

Ні к ворату, ні к шыварату. *Там жа.*

Ні к лесу, ні к бесу. *Там жа.*

Ні к пуці, ні к парадку. *Радч., 248.*

Ні к сялу, ні к гораду. *Нос., 112; Сержп., 121.*

Ні калі было, ні калі будзе. *Н. Гілевіч, 1977, Лаг. Вар.: Мiеn., 387.*

Ні канца, ні меры. *Fed., 136, Вайк. п.*

Ні капелькі нічым нічога. *Сержп., 121.*

Ні кісла, ні прэсна. *Fed., 145, Вайк. п.*

Ні ко́нца, ні края. *М. Грынблат, 1971, Глыб. 8.2.43.*

Ні крыку, ні выку. *Добр., Слов., 101.*

Ні крышачкі, ні кропелькі. *Янк., 491.*

Ні курчаці, ні парасяці. *Там жа.*

Ні лой, ні мяса. *Рап., 260.*

Ні мовы, ні гловы. [312] *М. Грынблат, 1930, Мн.*

Ні на волас не заснуў. *Fed., 350, 337, Вайк. п.*

Ні на душы, ні ў душы. [313] *Добр., Слов., 196.*

Ні на макава зярно не заснуў. *Fed., 350, Вайк. п.*

Ні на панюх (нюх) таба'кі няма. *Сержп., 121. Вар.: Fed., 184, Вайк. п.*

Ні на семя, ні на емя. *Бяльк., 293, Мсціcл.*

Ні на сіні пазногаць. *Янк., 491.*

Ні нашым, ні вашым. *Fed., 198, Вайк. п.*

Ні-ні, ні крышачкі. *Сержп., 121.*

Ні павешаны, ні апушчаны. *А. Ліс, 1973, Смарг.*

Ні панюхаць [не дам]. *Нос., 113; Fed., 74, Вайк. п.*

Ні папу, ні найміту. *Слов. брян., 72, Унечскі р-н.*

Ні папу, ні паповай наймітцы. [314] *Мяц., 182, Карм.*

Ні паслаць, ні ў галавы. [315] *Нос., 113.*

Ні плот[у], ні азярод[у]. *Мяц., 180, Валож.; Рап., 260.*

Ні плюнуць, ні праглынуць. [316] *Нос., 111.*

Ні просьбаю, ні грозьбаю. *Fed., 247, Вайк. п.*

Ні пылу, ні следу. *Там жа, 253.*

Ні п'янага малітва, ні галоднага пост. *Ром., Зап., III, 227.*

Ні ра'дачкі, ні парадачкі. *Шатэрнік, 203, Сміл.*

Ні расінкі, ні каліва ў роце. *Никиф., 306. Вар.: Нос., 114.*

Ні рукою, ні нагою. *Fed., 265, Вайк. п.*

Ні рыба, ні мяса, горай дурня Апанаса. *Шпил., Бел., 186.*

Ні сабе, ні людзям. *Бяльк., 462, Крыч.*

Ні свету, ні следу [не відна]. *Там жа, 360, Мсціcл.*

Ні села, ні пала. *Fed., 274, Вайк. п.*

Ні села, ні пала, а ўсяму свету расказала. *Сцяшк., 603, Вайк.*

Ні села, ні пала, дай бабе (баба) сала. *Tyszk., 425; Czeczot, 112; Нос., 114; Киркор, 236; Dybow., 15; Дуб., 42; Pietk., 310; М. Грынблат, 1927, Тур.; Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

Ні села, ні пала, дай (давай), кошка (котка), сала. *Ляцкий, 27; Fed., 151, Сак. п.*

Ні села, ні пала, падай кату сала. *Fed., 276, Ваўк. п.*

Ні серага, ні белага. *Жыв. сл., 74, І. Крамко, Кар.*

Ні скарынкі, ні саланінкі. *Янк., 492.*

Ні сла′вы, ні дзя′кі. *Ройзен., 75.*

Ні сла′вы, ні я′вы. *Fed., 282, Ваўк. п.*

Ні слуху, ні праслуху (паслуху). *Нос., 114. Вар.: Добр., Слов., 737; І. Саламевіч, 1956, Слон.; Никиф., 204.*

Ні слыху, ні віду (повіду). *Fed., 284, Ваўк. п.*

Ні солі, ні долі. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

Ні стому, ні злому. [317] *Добр., Слов., 879.*

Ні стуль, ні ссюль. *Янк., 492.*

Ні сцерці, ні змалоць. *Fed. 302, Ваўк. п.*

Ні сцяты, ні павешаны. [318] *С. Бахмет, 1970, Астр. 8.2.28.*

Ні сыры′, ні пе′чаны. *О. Пашкевіч, 1968, Стол. 13.10.88.*

Ні сюдою, ні тудою. *Fed., 278, Ваўк. п.*

Ні сяк, ні так. *Fed., 274, Ваўк. п.*

Ні сяк, ні так, ні гэтак. *І. Саламевіч, 1956, Слон.*

Ні сям, ні там. *Fed., 274, Ваўк. п.*

Ні то, ні сё, ні ў смак, ні ў знак. *Раст., 246.*

Ні то, ні сё, як гарэлы блін. *Добр., Слов., 30, Пар. п.*

Ні то рыба, ні то мяса. *Нос., 114.*

Ні тое, ні сёе, а звычайнае. *Сержп., 77.*

Ні толку, ні парадку. *Янк., 492.*

Ні тпру, ні мя. *Сержп., 121; Fed., 313, Ваўк. п.*

Ні тпру, ні мя, ні божа імя. *Fed., 313, Ваўк. п.*

Ні тпру, ні ну (ні но). *Нос., 113; І. Саламевіч, 1959, Слон.*

Ні трэць, ні мнець. *Нос., 114.*

Ні туды, ні сюды. *Pietk., 347.*

Ні ў аглоблі, ні ў атосы, толькі за́гваздка ў калёсы. *Юрч., 1972, 234.*

Ні ў біла, ні ў мяла. *Там жа, 1969, 129.*

Ні ў ета, ні ў тое. *Бяльк., 298, Краснап.*

Ні ў кола, ні ў мёла (мяла).[319] *Tyszk., 426; Шпил., Бел., 186; Дуб., 41; Fed., 147, Вайк. п.; Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25; Юрч., 1969, 129.*

Ні ў лецях, ні ў дзецях. *Fed., 262, Вайк. п.*

Ні ў мі́ры, ні ў Сібіры. *Юрч., 1969, 129.*

Ні ў пень, ні ў калоду, ні ў плот, ні ў агарод. *Сцяшк., 603, Воран.*

Ні ў пір, ні ў вір. *Нос., 111.*

Ні ў пір, ні ў вір, ні ў добрыя людзі. *Юрч., 1974, 191.*

Ні ў плот, ні ў азярод. *Fed., 239, Слон. п.*

Ні ў пяце́, ні ў галаве. *Янк., 492.*

Ні ў пяць, ні ў дзевяць (дзесяць) [сказаў]. *Czeczot, 112; Ryp., 215; Tyszk., 426, Шпил., Бел., 186; Нос., 111; Шатэрнік, 119, Сміл.; Дуб., 37а; Сцяшк., 803, Вайк.*

Ні ў рава́х, ні ў шчарба́х. *Юрч., 1969, 129.*

Ні ў сеч, ні ў печ. *Жыв. сл., 74, І. Крамко, Кар.*

Ні ў тры, ні ў два згарадзіць. *Fed., 353, Вайк. п.*

Ні ўзад, ні ўпярод. *Там жа, 347.*

Ні ўлева, ні ўправа. *Рап., 260.*

Ні ўцяць, ні ўзяць. *Шатэрнік, 291, Сміл.; Fed., 316, Вайк., Слон. п.; Мяц., 183, Стаўб.; Мін.-Мал., 1970, 163, Уздз. Вар.: Нос., 115.*

Ні ха́кнуў, ні га́кнуў. *Fed., 49, Вайк. п.*

Ні хаткі, ні градкі. *Янк., 492.*

Ні хаты, ні лапаты. *Там жа.*

Ні хаўкнуць, ні гаўкнуць. *Нос., 116.*

Ні хуху, ні духу. *Fed., 55, Вайк. п.*

Ні цёпла, ні холадна, а так сабе. *Сержп., 77.*

Ні чорна, ні бела не сказаў. *Fed., 279, Вайк. п.*

Ні чуткі, ні прачуткі. *Ром., Бел., 305; Ляцкий, 29.*

Ні чуху, ні духу. *Pietk., 366.*

Ні шатка, ні валка, ні на сторану. *Нос., 115.*

Ні шлык, ні калпак. [320] *Fed., 300, Вайк. п.*

Ні шыць [з ім], ні спароць. *Нос., 115; Fed., 301, Вайк., Сак. п.*

Ні шэнь-пень, ні гарохавая каша. [321] *Нос., 109.*

Ніжэй вады, цішэй травы. *Pietk., 349.*

Нізкі на вочы. *Fed., 335, Вайк. п.; Сцяшк., 603, Воран.*

Нікому вока не запарушыў. *Fed., 335, Вайк. п.*

Нічога, і гэта мяса. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Нічога ніякага. *Янк., 492.*

Нічога няма, ні ў зуб калануць. *Дуб., 38а.*

Ногі за пояс, ды наўцёк. *Ляцкий, 29.*

Ногі задзярэш, пакуль дажджэшся (прыжджэш). [322] *Нос., 115; Fed., 251, Вайк. п.*

Нос — бог на сямёх нёс. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Нос дагары′ дзме. *Fed., 205, Вайк. п.*

Нос з носам.[323] *Никиф., 204.*

Нос закапыліў. *Fed., 205, Вайк. п.*

Нос на квінту спусціў (павесіў). [324] *Там жа. Вар.: Никиф., 204; Дуб., 58; І. Саламевіч, 1977, Мн.*

Нос прыліп. *Никиф., 204.*

Носам заараў. *І. Саламевіч, 1955, Слон.*

Ночка цёмна, дарожка слізка. *Міеп., 396.*

Ну, дак ну, а не ну, дык дамоў пайду. *Ляцкий, 29.*

Ну, дык ну, а не ну, дык дамоў пайду: і ногі пазяблі, і таты баюся. *Ром., Бел., 305.*

Ну, і балеў [зуб], думала неба лізну′. *«Ніва», 1978, № 43, М. Шаховіч, Бельская гм. ПНР.*

Ну, і паскачы цяпер кала Саўкіных варот. *Раст., 200.*

Ну, і нос — на свята рос, а мы па будніх днях носім. *Янук., 31.*

Ну й кані′на: пляга нейкая — што ўбіў, то і ўехаў. [325] *Шатэрнік, 219, Сміл.*

Ну, набраўся, пажычыўшы ног, абы ў ха′це лёг. *Fed., 194, Сак. п.*

Ну, пайшло на Малахаву галаву.[326] *Добр., Слов., 643.*

Ну, скасіў ад дуба да дуба. [327] *Fed., 139, Сак. п.*

Нявеста, крывая нага, падай пірага. *Добр., Слов., 359.*

Нявестка нешта нос гнець *Пан., 46.*

Нядаўна аслеп, да й не бачыць. *Ром., Бел., 302; Ляцкий, 25.*

Няло! На тры капейкі піва, а шуму на ўсё сяло. [328] *Нос., 113.*

Няма ані шышы.[329] *Fed., 184, Ваўк. п.*

Няма дурных. *Янк., 493.*

Няма за што рукі зачапіць. *Ром., Бел., 303. Вар.: Fed., 265, Ваўк. п.; Pietk., 340.*

Няма на што глянуць (падзівіцца, паглядзець). *М. Грынблат, 1969, Мн.; І. Саламевіч, 1959, Слон.*

Няма ні каліва. *Fed., 184, Ваўк. п.*

Няма ні каплі. *Там жа.*

Няма ні крышкі. *Там жа.*

Няма ні пылінкі. *Там жа.*

Няма чаго ма′ліцца, калі з-за пазухі ва′ліцца. *Жыв. сл., 95, Н. Лявончык, Віл.*

Няма чаго плявузгаць. *Сержп., 96; М. Грынблат, 1966, Петр.*

Няма чаго цыганіць. [330] *Сержп., 61.*

Няма чым зуба выкалупаць. *Мат., 63, М. Яўневіч, Бял.*

Нясець мох з балотам. *Нос., 103.*

Нястрыжана — голена, не кіем, да палкаю. *Pietk., 397.*

Няхай брэшуць, хоць і завыюць. [331] *Ром., Бел., 304.*

Няхай заўтрака чакаець. *Нос., Слов., 338.*

Няхай так будзе, як добрыя людзі кажуць. *Янк., 383.*

Няхай так будзе (хай будзе гэтак), як Сора (Роха) казала. *Fed., 285, Вайк. п.; М. Грынблат, 1965, Кар.*

О, будзе бабка дзеўкаю! *Fed., 13, Гродз. п.*

О, гэта была праўда, але не семілетняя.[332] *Там жа, 246, Вайк. п.*

О, ён, як не лысы.[333] *Там жа, 173. Вар.: Суяшк., 188, Нав.*

Ого, былі ў яе (прышлі да яе) краўцы′ з Нава′градка.[334] *Fed., 199, Вайк. п.*

Ого, ён дабітны, з касцёла галку зніме. *Нар. сл., 149, А. Прышчэпчык, Стаўб.*

Ого, ён у папа ў гасцінах! Яго сама пападдзя частавала. *Ляцкий, 31.*

Ого, не дарос у яго яшчэ нос. *Fed., 205, Сак. п.*

Ого, пашоў у гору без вяроўкі. *Там жа, 103, Вайк. п.*

Ой, мяцеліца! Мабыць, хтось павесіўся.[335] *Там жа, 378.*

Ой ты, пане Мікіта, відзіш — мяшок набіта паньскага жыта. *Ляцкий, 31.*

Ой, чы відзіш, Мікалаю, як я жыта падсяваю. *Там жа.*

Ой, як плакаў, то аж на хвост накапаў, а ад слёз, то аж прымёрз хвост. *Fed., 238, Вайк. п.*

Ось дзеўка, хоць вады напіцца. *Pietk., 368.*

От выгастрыў нож (серп, касу, тапор), хоць да роднага бацька. *Fed., 206, Вайк. п.*

От дарога! Ані за парог. *Там жа, 76.*

От даў! Камарову жменю. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

От жару, хоць ведзьму спячы. *Fed., 364, Вайк. п.*

От закамянеў адразу, лятаў штотрэці дзень, а тэраз ані разу.[336] *Там жа, 348, Сак. п.*

От есць, аж вушы трашчаць. *Там жа, 130, Вайк. п.*

От і ўся любоў, да капейкі. *Л. Гімпель, 1977, Кар.*

От людзей, аж чорна. *М. Грынблат, 1967, Мн.*

От надалі, хоць сякеру завесь. *Fed. 194, Вайк. п.*

От пляце лапці. *Там жа, 237, Сак. п.*

От раздзявіў рот, хоць калясьмі едзь. *Там жа, 262, Вайк. п.*

От табе і вяселле! *Сержп., 22.*

От табе і гоцаца! *Там жа, 67.*

От табе і маеш! *М. Грынблат, 1957, Мн.*

От табе і на! *Сержп., 38.*

От табе смешкі з бабінай плешкі. *Fed., 303, Вайк. п.*

От такое і шчасце на сабаку кручанага. *Там жа, 298, Нав. п.*

От усё рэгам рагоча. *М. Грынблат, 1975, Слаўг.*

Ото набраўся, сам сябе не відзіць. *Fed., 194, Сак. п.*

Отча наш, еду на кірмаш; іжа ясі́,— п'яным прынясі. [337] *Ляцкий, 31.*

Отча наш, хлеба нямаш; іжа ясі́, ідзі, прынясі. [338] *Нос., 123.*

Ох і наплёў жа ты кашалёў з лапцямі. *Т. Мысліцкая, 1969, Кап. 13.10.60.*

Ох, матачка найсве́нтшая, адна большая, другая — меншая. [339] *М. Грынблат, 1977, Мн.*

Ох, ты душа любапытна, усё хочаш знаць старой каровы трыбух. *Добр., Слов., 276.*

Па адве́нці ў том маменці.[340] *Fed., 5, Вайк. п.*

Па ветру дзержыць нос. *Сержп., 14.*

Па вушы ўлез. *Нос., 128.*

Па гэтым дзеці будуць, хоць дробныя. *М. Грынблат, 1970, Мн.*

Па гэтых дарогах толькі гаршкі вазіць. [341] *Сержп., 66.*

Па канец рук. *Там жа, 57; Сцяшк., 604, Вайк.*

Па коллю вочы ходзюць. *Нос., 131.*

Па маёй галаве няхай хоць воўк траву есць. *Fed., 101, Вайк. п. Вар.: Нос., 132.*

Па маёй часці хоць коні красці. *І. Саламевіч, 1964, Мн.*

Па нём не будзе ні вецер веяць, ні сонца грэць. *Ройзен., 75.*

Па праўдзе кажучы, то й бог паможа. *Fed., 246, Слон. п.*

Па рукам, да й у лазню. [342] *Нос., 134.*

Па сабацы хвост. *Ляцкий, 34.*

Хоць сі'вы, ды красівы. *М. Грынблат, 1946, Люб.*

Хоць стой, хоць па'дай. *Г. Яцэвіч, 1965, Маст. 13.10.5; Т. Кавалёва, 1970, Стол. 13.10.87; І. Саламевіч, 1957, Слон.; Нар. лекс., 117, І. Шпакоўскі, Пін.; Юрч., 1977, 173.*

Хоць сякеру вешай. [569] *М. Грынблат, 1974, Мн.*

Хоць тапор павесь. [570] *Нос., 175.*

Хоць трашчу', але не пушчу. *Fed., 314, Вайк. п.*

Хоць ты гвалт крычы. *Fed., 97, Слон. п.*

Хоць ты лунь, а дай. [571] *Сержп., 136.*

Хоць ты перад ім дробным лістам рассыпся. [572] *Ляцкий, 54.*

Хоць я не людзі, ну і Хама не чалавек. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

Хоць ялаўка, а цяліся. *К. Кабашнікаў, 1962, Гом. 8.1.77.*

Хоць яму зубы выберы, так моцна спіць. *Fed., 286, Вайк. п.*

Хочацца, але страшна. *Ляцкий, 54; Сержп., 61.*

Хочацца, ды не даскочыцца. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

Хочаш добрага ды многа. *Ворожб.*

Хочаш з лаўкі зваліцца і не разбіцца. *Tyszk., 432.*

Хочаш малака — падаі быка. *Ляцкий, 54.*

Хочаш паляцець, да не ўдарыцца. *Нос., 175.*

Хром-хром, што было б тром, то адзін з'еў. *Там жа.*

Хрэнам у горле стаў. *Ляцкий, 56.*

Хто арэ, хто баранує — усіх бог параўнуе. *Там жа, 54.*

Хто гукае, не гукае, а мы, баба, едзьма. *Т. Лапаціна, 1961, Рэч. 13.3.24.*

Хто дажыве, той паглядзіць. *Fed., 77, Вайк.*

Хто ету травічку сайрве'ць,— меншы году не ўжывець. *Бяльк., 455, Краснап.*

Хто з кім, то і я з тым. *Fed., 124, Вайк. п.*

Хто каго абідзіць? Ці бог? *Там жа, 34.*

Хто каго любіў, той таго ўбіў. *Радч., 247.*

Хто касматы, той багаты. [573] *Fed., 139, Вайк. п.*

Хто коні мае, той паязджае, а мы пяшком з мяшком. *Там жа, 148.*

Хто любіць гарбуз, а хто агуркі. *Сцяшк., 614, Гродз.*

Хто любіць гарбуз, а хто Кацярынку. *Нос., 176.*

Хто мяне ўспамянуў, каб таго кій не мінуў.[574] *М. Грынблат, 1977, Кар. Вар.: Нос., 176; Fed., 287, Ваўк. п.; Дуб., 69; Сержп., 71; І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

Хто не прачытаў кніжкі? — Хтоцкі. *Мат., 56, М. Яўневіч, Бял.*

Хто пакурыць, а хто й паплюе. *В. Рабкевіч, 1961, Кап. 13.9.5.*

Хто разьбіў стакан? — Хтокала. *Мат., 56, М. Яўневіч, Бял.*

Хто тут натаптаў? — Хтоцкая. *Яўсееў, 106.*

Хто ў боб, хто ў гарох. *Гур., 92; А. Савіцкая, 1969, Смал. 13.10.63.*

Хто ў боб, хто ў гарох, а хто ў саладуху. *І. Саламевіч, 1959, Слон.*

Хто ў боб, хто ў гарох, а хто ў саладуху; там, дзе двох — будзе трох, даў дзед бабе духу. *Там жа, 1971.*

Хто ў стрэсе, а хто і ў лесе. *Нос., 176.*

Хто? — Хто, хто? Тоцкала (Тоцкі). *І. Саламевіч, 1959, Слон.*

Хто шукае, гуза знайдзе. *Fed., 97, Ваўк. п.*

Хула-гула, калі добра чы́ніш.[575] *Нос., 178.*

Хутчэй ад ведзьмінага піва.[576] *Fed., 55, Ваўк. п.*

Хутчэй бусел жарабя ўродзіць, калі ты ўгледзіш, адгадаеш. *Там жа, 44.*

Хутчэй рак на гарэ свісне. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Цалы́п, да ў торбу![577] *Нос., 178.*

Цап-лап, ажна нямашака.[578] *Ляцкий, 56.*

Ца́пам-ла́пам не ўсюды возьмеш.[579] *Там жа.*

Цапу-лапу́.[580] *Янк., 518; Сцяшк., 614, Кар.*

Цаца-цаца — ды й за пазуху. *Ром., Бел., 313.*

Цень на цень.[581] *Fed., 58, Ваўк., Слон. п.*

Цераз дзесятае ў пятае. *Там жа, 95, Ваўк. п.*

Цераз я'му — на другую гляну. *Сах.*

Цесна, што і яблыку няма дзе ўпасці. *Янк., 437.*

Цешся, ліска, вяселле блізка, каўбасу з'ясі. *Сах.*

Цёмна, каб хто даў у морду, то не ведаў бы, з кім сварыцца. *Fed., 59, Вайк. п.*

Цёмна (цямно), хоць пальцам у вока [укалі]. *Pietk., 362; Fed., 58, Вайк. п.*

Цёмна (цямно), хоць ты ў морду бі (дай). *«Ніва», 1975, № 42; Fed., 59, Вайк. п.*

Цёмная ноч, хоць з чужой жонкай проч. *Dybow., 7.*

Цёсачка, цёсачка, а потым: стой, воўк цябе рэж! [582] *Нос., 179.*

Ці бацькіна шыя тоўста? *Ром., Бел., 310.*

Ці будзе бобу рашаці'на, а галоўку схлапаці'ла. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26.*

Ці ведаеш што? Хадзем на лося. *Сержп., 128.*

Ці глянуў, ці плюнуў — не ўгадаеш. *Ляцкий, 56.*

Ці гора, ці бяда — вясёлая ўсягда'. *М. Грынблат, 1977, Акцябр. 8.77.127.*

Ці даў я табе, бабка, шэлега? — Даў, спасіба. *Нос., 179.*

Ці добра ты яго ведаеш? — Ого! Я яго скуру на пярэплатах пазнаю. [583] *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Ці е за што, ці няма за што. *Ром., Бел., 310; Fed., 44, Вайк. п.*

Ці ён ашалеў, ці злы дух на яго ўссеў? *Ляцкий, 56.*

Ці [ж] я таго хацела, каб [я] з лаўкі зляцела. *Ляцкий, 57; Сержп., 67.*

Ці лілі' алей, ці не лілі'? — Чаго там цілілі'каеш? — Не цілілікаю, а пытаюся.[584] *Янк., 388.*

Ці лілі', ці не лілі'? — Ну, лілі'. *М. Грынблат, 1975, Лаг.*

Ці на ёй свет клінам сышоўся? *Там жа, 1970.*

Ці не воўк гэта ў лесе здох? *Там жа.*

Ці не на дождж ты разбегаўся? *Ляцкий, 56.*

Ці не на дождж яны ўсхадзіліся? *М. Грынблат, 1977, Кар.*

Ці не перад дажджом ты разгуляўся? *Ром., Бел., 310.*

Ці не ў каросце ты радзіўся? [585] *Нікіф., 1928, 113.*

Ці паскачаш, ці паплачаш. *Нос., 180; Шатэрнік, 205, Смiл.*

Ці плач, ці скач, нічога не паможа. *Fed., 215, Слон. п.*

Ці помніць твая галава, што ты лапочаш? *Ром., Бел., 310.*

Ці пра́жаны, ці смажаны — сяроўна. *Сержп., 137.*

Ці прывёз гасцінца? — Не гасцінцам ехаў. [586] *Ляцкий, 56; Сержп., 144.*

Ці п'яну, ці драну быць. *Ром., Бел., 310.*

Ці рабіў, ці не рабіў, абы бра́згаў. *Сержп., 51.*

Ці скок, ці вілы ў бок. *В. Рабкевіч, 1961, Брасл. 13.9.5.*

Ці радзіўся ты дурны, ці поп дурны хрысціў? *Ром., Бел., 310. Вар.: Fed., 198, Ваўк. п.*

Ці стары з'есць, ці малы зносіць. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

Ці сяк, ці так, абы не так, як трэба. *Fed., 314, Ваўк. п.*

Ці табе заяц, а мне баран, ці мне баран, а табе заяц, то такі выходзіць, што мне баран, а табе [усё ж] заяц. *Там жа, 198; «Ніва», 1976, № 50.*

Ці так, ці не так, неяк будзе. *Fed., 44, Ваўк. п.*

Ці ты кпіш (ці смяешся), ці дарогі пытаеш? *Нос., 179; Ром., Бел., 310; Ляцкий, 56; Fed., 151, Ваўк. п.; Сержп., 67; Pietk., 375.*

Ці ты рабіць прышоў, ці вераб'ям фігі даваць? *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Ці ты, татачка, па ваду схадзі, а я дома пабуду, ці я дома пабуду, а ты па ваду схадзі. *«Зорка», 1977, № 32.*

Ці ў дварэ тваё га́ўкала? — Ідзе яно падзелась? [587] *Добр., Слов., 115.*

Ці ўб'еце, ці не, а настраляецесь. *Там жа, 465.*

Ці цот, ці лішка? — Па́ра — цот, тры — лішка. *Касп., 179, Беш.*

Ці цот, ці лішка, ці Лявон, ці Грышка? *Ляцкий, 56.*

Ці чуў, кум, сонца, а ці бачыў зязюлю? *Дуб., Нар., 11.*

Ці шалёны, ці навядзоны?[588] *Ляцкий, 56.*

Ці я з табою ў ты́чкі граў?[589] *Fed., 315, Вайк. п.*

Ці я яму перадаў? Што ён да мяне мае? *Там жа, 186.*

Ці яшчэ, ці годзе? *Ром., Бел., 310.*

Ціт, ідзі малаціць.— Бруха баліць.— А йдзі есці.— Го-го! А гдзе мая вялікая лыжка? *Ляцкий, 56.*

Ціт, пайшлі ў карчму! — Пачакайце, шапачку захвачу. *Янк. М., 31.*

Ціт, хадзі малаціць.— Галава баліць.— Хадзі ж гарэлку піць.— Пастой, дай шапку ўхваціць. *Нос., 190. Вар.: Ром., Бел., 309.*

Ціха, дзеці, муха ле́ці, дасць па носе, нос адле́ці. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

Ціха, хоць мак сей. *Янк., 439; Ігнат.*

Цішком з мяшком. *Fed, 183, Вайк. п.*

Цопам-лопам.[590] *Сцяшк., 614, Ашм.*

Цыганскі пот прашыб (бярэ, забірае, прабірае).[591] *Нос., 180; Ром., Бел., 313; Сержп., 140.*

Цыганскія поты пранялі (праймаюць).[592] *Fed., 61, Вайк. п.*

Цыганы будуць сніцца. *Pietk., 362.*

Цэбар мяса і воз касцей. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

Цюк на крук.[593] *Нос., 181.*

Цюку ў руку.[594] *Fed., 59, Вайк. п.*

Цюцька ты, цюцька! Калі я цябе сабакам зваў? *Нос., 186, 126; Дуб., 26.*

Цягне божую хвалу за хвост (язык). *Fed., 58, Вайк. п.; Сержп., 30.*

Цягні, братка, лёгкае! — А мне і каўбаскі не цяжкія. *Янк., 388.*

Цягні, чорце, за папом. *Ройзен., 78.*

Цяжка ўздыхаецца, каго няма, жадаецца. *Fed., 323, Вайк. п.*

Цяляты язык аджавалі. *Янк., 519.*

Цянькі на тры дзянькі.[595] *Нос., 181.*

Цяпло, аж з носа цякло. *Fed., 58, Вайк. п.*

Цяпло, дабро і мухі не кусаюць. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Цяпер не такі свет. *Pietk., 395.*

Цярпі, Зося, так прышлося. *М. Грынблат, 1976, Кар.*

Чабату'х-чабату'х! Чаго крычыш як пятух? *Ляцкий, 57.*

Чаго вы так разраўліся? Чы не на вясну? *М. Грынблат, 1977, Кар.*

Чаго крычыць, ці жывот баліць? *Ром., Бел., 313.*

Чаго ты баішся? — Я каб баяўся, так дома б спаў. *Л. Гімпель, 1977, Стаўб.*

Чаго ты кашляеш? Мусіць, спаў босы. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Чаго ты кульгаеш? — Зуб баліць. *К. Міцкевіч (Я. Колас), 1902, Мін. п. Літ. музей Я. Коласа, Рукап. фонд.*

Чаго ты лезеш рап'ём у вочы? [596] *Суяшк., 420, Дзятл.*

Чаго ўперад бацька прэшся на шыбельніцу? *Pietk., 345.*

Чаго цябе бура туды пагнала? [597] *З. Мажэйка, 1976, Леп.*

Чаго шукаеш? — Учарашняга дня. *Fed., 301, Ваўк. п.*

Чаго шуміш, ваду муці'ш? *Ром., Бел., 313.*

Чай, прымячай, куды чайкі ляцяць. [598] *Нос., 181.*

Чакай, баран, трава будзе. *Суяшк., 615, Нав.*

Чакай з воўка толку! *Мат., 176, В. Рабкевіч, Кап.*

Чакайце аладак, зяць паехаў пшаніцу сеяць. *Суяшк., 615, Гродз.*

Чалавеча! — Эге.— Скіль ты? — З Тэвеля.— Знаю. Чалавеча!— Эге.— А ты скіль? — З Тэвеля.— Знаю. [599] *Fed., 381, Кобр. п.*

Чалавеча!— Эге.— Чы ў цябе люлька е? — У каго? — У цябе.— У мяне? — Але.— Е. *Там жа.*

Чаму ж не памыліўся ды не схапіўся за гарачае жалеза? [600] *Сержп., 129.*

Чаму не Маруся, абы шанавалася. *Ром., Бел., 313.*

Чаму не Маруся, калі пастараюся? *Там жа.*

Чаму ты, чорце, у пекле жывеш? — Бо я тут прывык. [601] *Сержп., 77.*

Чапаніна, лапаніна. [602] *Fed., 49, Ваўк. п.*

Чараваты, бо багаты. *Нар. лекс., 206, М. Абабурка, Клецк.*

Чаравічак-невялічак на ножачку цесен. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

Чарты′ яго ведаюць, што ў яго на душы, а языком бы лістам сцеле. *Сержп., 125.*

Чашы′ чорта рэдкім, каб не ўдраць.[603] *Fed., 66, Нав. п.*

Чмялі ма′е ў носе. [604] *Там жа, Ваўк. п.*

Чобатам зносу няма: гадоў дзесяць у руках носіць. *Янк., Дыял., I, 224.*

Чорны хлеб яму ў зубы коле. *Fed., 53, Ваўк. п.*

Чорт браўся горад выстраіць, а ўсадзьбу — не. *Добр., 129.*

Чорт веру ўкраў. [605] *Мат., 64, М. Яўневіч, Бял.*

Чорт етай скуле ўгодзіць. *Шатэрнік, 258, Сміл.*

Чорт калядоўшчыка нясець. *Добр., 988.*

Чорт костку кінуў адным канцом. *Ляцкий, 58.*

Чорт лапаю накрыў. *Янк., 520.*

Чорт ласы на кілбасы. *М. Малочка, 1959, Мядз. 8.1.46.*

Чорт малады, яшчэ без барады. *Fed., 67, Ваўк. п.*

Чорт мераў, да шнура парваў. *Pietk., 315.*

Чорт панёс на дзіравы мост. [606] *Нос., 184.*

Чорт па′церы памяшаў. [607] *Дуб., Нар., 1.*

Чорт піва варыў, а смалы напіўся. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

Чорт пораху падсыпле. *Pietk., 363.*

Чорт яму за душу грошы прынёс. [608] *Fed., 67, Ваўк. п.*

Чорт яму на карк сеў. *Там жа.*

Чортам падшыты. [609] *Суяшк., 615, Воран.*

Чуда, кум, а не ра′кі! Аднаго рака поўна торба, і клюня вон тырчыць! [610] *Нос., 184.*

Чуда, не ра′кі: самі ў торбу лезуць. [611] *Fed., 257, Ваўк. п.*

Чуеш, дзе начуеш? *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Чужы чужане′ц. *Fed., 70, Вайк. п. Вар.: Нос., 175.*

Чужыя жоны — безгалоўе, бальшэй сон — к нездароўю. *Добр., 114.*

Чужымі губамі мёд хлябаць. [612] *Нос., 184.*

Чуў, кум, сонца? Бачыў гром? *Янк., 389.*

Чуў не чуў і бачыць не бачыў. *Янк., 520.*

Чуць з скуры не выскачыць. *Fed., 281, Вайк. п.*

Чы ад кабылы цялё радзілася? *Ляцкий, 58.*

Чы голена, жонка? — Голена. *Там жа.*

Чы пень, чы калода, усё патарч носам. [613] *Там жа, 59.*

Чы стрыжана, жонка? — Стрыжана. *Там жа, 58.*

Чые б цяляты мычалі (рыкалі), твае хоць бы маўчалі. *Добр., 12.*

Чые гэта коні? — Кабыллі. *Нос., 183.*

Чыста, аж вочы це′шацца. [614] *М. Грынблат, 1978, Мн.*

Чыста каля пасуды ходзіць. [615] *Fed., 223, Вайк. п.*

Чыстата красату прынясла. [616] *Сцяшк., 553, Воран.*

Чыя шырокая барада — на кут! — Я тут.— Шырокая барада, сабірайся пад кнут! — Мая на клінушак. *Добр., 5.*

Чэраз грыб плюецъ. *Нос., 182.*

Чэраз пень, чэраз калоду, валіць без уходу. [617] *Там жа.*

Чэрап у яго добра варыць. *Сцяшк., 553, Нав.*

Шал прыступіў да галавы. *Fed., 296, Вайк. п. Вар.: Нос., 186.*

Шалёная муха ўкусіла за вуха. *Нос., 185; Сцяшк., 616, Лід.*

Шалёны поп ксціў. [618] *Нос., 185.*

Шалта′й-балта′й ля балота, якая харч, такая і работа. [619] *А. Чэчат, 1975, Старадар. 8.75.97.*

Шалудзі свае яшчэ не абмыў. [620] *Нос., 187.*

Шаль у галаве. [621] *Там жа, 186.*

Шам-шам.— Хто там? — Сам пан; паня рэдзькі бажа′ецъ, сына ражаецъ. [622] *Там жа.*

Шануючы бога і людзей добрых. [623] *Fed., 38, Вайк. п.*

Шануючы вашых асоб, яна мне саўгае хвігу. *Сержп., 76.*

Шась па кустах. *Ляцкий, 59; Сержп., 184.*

Шасць, што бог дасць. *Нос., Слов., 707.*

Шата́н яго ведае! *Яўсееў, 109.*

Шкода мне цябе, але і добра табе. *Fed., 299, Ваўк. п.*

Шкляны бог сціснуў (запруціў) за нос. [624] *Там жа, 38.*

Шкода заходу. *Там жа, 346.*

Шкода, што купі́ла няма. [625] *Сержп., 42.*

Шлёп у кашу, ды не ў нашу. *Ром., Бел., 314.*

Шпількі не ўваткнуць. [626] *Fed., 300, Ваўк. п.*

Што будзе, то будзе, а за дзеда пайду. *М. Грынблат, 1978, Іў. 8.78.152.*

Што было, на мора паплыло. *Tyszk., 432; Dybow., 192.*

Што вы елі? — Яглі́ (яглы́), што не еўшы (без вячэры) спаць ляглі. *М. Грынблат, 1973, Круп.; Pietk., 372; Жыв. сл., 78, І. Крамко, Кар.; В. Лабко, Пух.*

Што вы, мае дзеткі, каб я на вашага бацьку спадзявалася, то я б вас не мела. *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Што гале́ем, то выдрэем. [627] *Нос., 188.*

Што з голуба ўзыску? Толькі, што пакладзе ў міску. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Што з яго будзе, як яшчэ год прыбудзе? *Там жа.*

Што за новасці? — Прыехаў нехта з воласці. *Там жа.*

Што за я, папова свіння. [628] *Fed., 241, Ваўк. п.*

Што звыш рубля, то маё. *Шатэрнік, 114, Сміл.*

Што купіў, то й прадаў. *М. Грынблат, 1975, Мн.*

Што месяц, то дзесяць. [629] *Нос., 199.*

Што міль тры — нос каню падатры, што міль шэсць — дай каню есць. *Міеп., 397.*

Што, не хваце? Пракурор дабаве. *М. Грынблат, 1971, Лаг.*

Што? — Паехала сто на сівым кані, бяжы дагані. *Янк., 389.*

Што? — Паляцела сто. *І. Саламевіч, 1955, Слон.*

Што прынёс, з тым і дамоў пашоў. *Ляцкий, 60.*

Што табе за дзела: не твой хлеб есць, не тваю сарочку **носіць**. *Fed., 54, Ваўк. п.*

Што там дзеецца? — І бяжыць і грэецца. *Нос., 189.*

Што ты варыш? — Варголы (кіпяцень). *Жыв. сл., 80, В. Лабко, Пух.*

Што ты задумаўся? Бядуеш, што ў мяне грошы няма? Дасць бог, і ў цябе не будзе. *М. Грынблат, 1974, Мн.*

Што ты знаеш, ноччу радзіўшыся? *Нос., 190.*

Што ты мне бакі забіваеш? Я гэта сам бачыў. *Fed., 20, Слон., Ваўк. п.*

Што ты мне зробіш? Ты не воўк, я не авечка. *М. Грынблат, 1978, Нав. 8.78.152.*

Што ты мяне вучыш? Я не сягоння стаў каля лаўкі хадзіць. *Fed., 317, Ваўк. п.*

Што ў клі′нне, а што ў рукавы. *Дуб., Нар., 2.*

Што ў яго? [Толькі] дух і пятух. *М. Грынблат, 1978, Кар. Вар.: Нос., 163; Fed., 83, Ваўк. п.; Pietk., 366.*

Што ўбіў, то ўехаў. [630] *Czeczot, 114; Ryp., 215; Tyszk., 426; Mien., 395; Dybow., 19; Ром., Бел., 315; Pietk., 448; Сержп., 43; А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44; Мяц., 305, Старадар. Вар.: Fed., 128; Ю. Ботвін, 1967, Ваўк. 13.10.28.*

Што ўбіў, то ўехаў,— чтэры (шты′ры) мілі за два дні.[631] *Fed., 318, Ваўк., Сак. п.*

Што хоча, тое лапоча. *М. Грынблат, 1970, Лаг.*

Што ўгледзела — то яе. *Fed., 318, Ваўк. п.*

Што ўжо надаеў — хоць ма′халам гані. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Што яму да нас, абы′леп Апанас. [632] *Сержп., 133.*

Штодня варкатня. *Нос., 188.*

Штука (штучка), загнуў палец, да й клюка (ключка). *Fed., 300, Ваўк. п.*

Штукар на ўсякія штукі. *Ляцкий, 36.*

Шукае галава твая гузака′ — найдзе. *І. Саламевіч, 1969, Слон.*

Шукае, не згубіўшы. *Fed., 301, Ваўк. п.*

Шукае сонца днём з агнём. *Сержп., 60.*

Шукае ўчарашняга дня. *Fed., 301, Ваўк. п.; Pietk., 345.*

Шукаець за'гваздку ў лапці. *Юрч., 1977, 201.*

Шукай шышкі (йгрушкі) на вярбе. *Ляцкий, 61.*

Шулды-булды, гарохавая каша. [633] *Нос., 190.*

Шчасця з жабіны прыгаршчы. *Янк., 442.*

Шчы — голаву палашчы'. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Шые аўсяным штыхам. [634] *Fed., 301, Ваўк. п.*

Шырока едзеш вузкаю сцежкаю. *Pietk., 323.*

Шыта на жывую нітку. [635] *Сержп., 57.*

Шышка, не шышка, а гуз добры. *Янк., 389.*

Шыю намыляць і за мыла заплацяць. *У. Іваноў, 1958, Мн.*

Шэдлам, шэдлам, ледва дайшоў. *М. Грынблат, 1976, Маст. 8.76.113.*

Шэршні ў носе завяліся.[636] *Сержп., 31.*

Шэсць цапоў ідзець, аж зямля гудзець.[637] *Слов. брян., 15, Почапскі р-н.*

Эге, каб сляпы бачыў. *Fed., 303, Ваўк. п.*

Эй, браток, не кляніся смяртэльным праклёнам, бо людзі — божыя сабакі. *Сержп., 18.*

Эй, воўча, сядзі моўча. *Нос., Слов., 62.*

Эй, нябожа, так не гожа. *Сержп., 55.*

Эх, рэж, Андрэй, не шкадуй лапцей, бо ўчора на базары лапці новы заказалі. *Янк., 389.*

Эх, у мяне парсюк, праз парог не пералезе, а пад парогам ёсць дзірачка, ды ён туды шусь! *Там жа.*

Я б яе рассекла на капусту. *М. Грынблат, 1967, Мн.*

Я баюсь ісці.— Дак пасвістывай. *Добр., 111.*

Я думаў, хто людскі, ажно бэбах слуцкі. [638] *Нар. лекс., 201, М. Абабурка, Клецк.*

Я за кусочак, муж за гужочак. [639] *Добр., Слов., 151, Смал. п.*

Я на гэта не доктар. *Dybow., 184.*

Я на сваіх радзінах кашу еў. *Fed., 257, Ваўк. п.*

Я не лялька, не пацешыць мяне балька. [640] *Там жа, 161.*

Я панскага роду: не хадзіла боса зроду. *Ройзен., 81.*

Я правая, да сарочка дзіравая. *Сержп., 72.*

Я руда́вая ўрадзілася, чарняваму судзілася. *Цяшк., 479, Ваўк.*

Я са смеху, з дураты́ папарвала жываты. *Касп., 228, Сен.*

Я сама то баюся, то лянюся. *М. Грынблат, 1971, Глыб. 8.2.43.*

Я сягоння за Саўку: жонка на арбіту вышла, у дэпутаты выбілася. [641] *Там жа, Паст. 8.2.43.*

Я таўкач і млён. *Fed., 311, Ваўк. п.*

Я то не па каню, не па аглоблях — па справядлівасці. *Там жа, 287.*

Я тут збоку прыпёку. *Шатэрнік, 113, Сміл.*

Я ўжо не з аднае печы хлеб еў. *Pietk., 397.*

Я ўжо тое забыў, чаго ты яшчэ не знаеш. *Там жа.*

Я ўмею чытаць і з вазоў хватаць. *Fed., 71, Ваўк. п.*

Я ўмру.— А я замуж пайду.— То няхай грэчка зімуе. *Там жа, 319.*

Я ўсякі год на возе, бо, ведама, з ласкі двору жыву. [642] *Там жа, 341, Слон. п.*

Я яго пазна́ю, каб і скуру з яго здзёрлі. *Там жа, 225, Ваўк. п.*

Я яму васемнаццаць, а ён мне без двух дваццаць. *Ігнат.*

Яго бог зайграў у дуды. *Выпісы.*

Яго кошка за адну вячэру з'ела. *Fed., 149, Ваўк. п.*

Яго не выкінеш за дубовыя дзверы. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

Яго ракі ўбрыкнулі. *В. Рабкевіч, 1961, Кап. 13.9.5.*

Яго трыбух у тры полкі. *Fed., 314, Ваўк. п.*

Яго ўсе вешчы — хамут і клешчы. *М. Грынблат, 1977, Кар.; Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

Яе кідала то ў жар, то ў холад. *М. Грынблат, 1970, Лаг.*

Яе′шня ненае′шна. *У. Васілевіч, 1977, Акцябр. 8.77.135.*

Язык у лапцях. *Никиф., 206.*

Як бы еты мароз не на ўсіх, да на аднаго чалавека, то б чыста змерз. *Pietk., 378.*

Як бы хто на яго векам накінуў. *Fed., 332, Ваўк. п.*

Як было, так было, абы жывое радзілася. *А. Шандро, 1969, Мядз. 13.10.65.*

Як былося, так і перабылося. *Fed., 45, Ваўк. п.*

Як вас зваць? — Так як крупы драць. *М. Грынблат, 1977, Глуск. 8.77.127.*

Як вырас да вуха, берагісь, матка з бацькай, абу′ха. *Добр., Слов., 104.*

Як гніл, нікому не міл. *Там жа, 129.*

Як дажне, то пойдзе ў пяты колючы. [643] *Fed., 72, Ваўк. п.*

Як дам, дык і ласку страціш. *Абаб.; М. Грынблат, 1970, Лаг.*

Як дам, то дзесятаму закажаш. *І. Саламевіч, 1958, Слон.*

Як дам, то і родна матка не пазнае. *М. Грынблат, 1974, Мн.*

Як дапячэ, то й сам уцячэ. *Fed., 75, Ваўк. п.*

Як дзе, не дай божа, белы блох, той наеўся і лёг, а чорная блаха — барані бог. *Суяшк., 52, Воран.*

Як есць то есць, а лепшы сабака, як цесць. *Fed., 58, Ваўк., Гродв. п.*

Як захочаш у Нясві′ж, усю ночаньку не спіш. *В. Хвір, 1970, Нясв. 13.10.59.*

Як здаецца, то хрысціся. *Янк., Дыял., І, 226.*

Як казалі чалом, было хлеба і на стол, і пад стол; а як сталі гаварыць добры дзень, сталі бегаць з торбачкай абыдзе′нь. [644] *Нос., 195.*

Як мы сталі жыць, быць і рабіць, то гэтага яшчэ не траплялася. *Fed., 313. Ваўк., Слон. п.*

Як мянціў касу, каса кажа: Травы паем, зубы затуплю, пяску паем, ізноў нагастру. [645] *Суяшк., 295, Нав.*

Як на ла′ўцы ляжаў, тады мяне жаль браў. *Fed., 363, Ваўк. п.*

Як на смех зрабіў агрэх. *Сержп., 84.*

Як ні варочай, адно аднаго карочай. *Ром., Зап., III, 221.*

Як прышлі, так і размінуліся. [646] *М. Грынблат, 1975, Глыб. 8.75.102.*

Як рабілі нашы дзяды, так і нам трэба ўступіць у іх сляды. *Сержп., 77.*

Як сем, бабка, так сем. *Fed., 13, Ваўк. п.*

Як стукаць ды лопаць, як за дзень, дык і локаць, а як за сем дзён, дык і губка вон. [647] *Брыль, 106.*

Як суме'ла, так і спела. *М. Грынблат, 1951, Хойн.*

Як тая баба: забрала ўсю муку', яшчэ крыўдзілася. *Fed., 13, Ваўк. п.*

Як тая Тадора — то шые, то пора. *І. Саламевіч, 1970, Слон.*

Як твая хата будзе гарэць, то і нам добра будзе рукі пагрэць. *Fed., 50.*

Як тое ж, так тое ж. *Fed., 312, Ваўк. п.*

Як тож, так тож. *Там жа, 313.*

Як тож, так тож, пане Бартош. *Там жа, 22.*

Як той казаў: не перастояла, не вы'сыпалася. [648] *Там жа, 228, Слон. п.*

Як толькі вечар, рот хоць на вяроўку бяры. [649] *М. Грынблат, 1977, Кар.*

Як хочаце мяне біце, анно цераз плот не перакідайце. [650] *Fed., 60, Ваўк. п.*

Як хочаш мяне бі, лай, анно цераз плот не перакідай, бо не буду цыганом. [651] *Там жа.*

Як хутка кашэль стаў бярэм'ем. *Гильт., 287.*

Як яму на месячку здаецца. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

Якая там ліха бяседа ў суседа. *Сержп., 36.*

Які ён быў, такога і чорт узяў. *Ляцкий, 62; Сержп., 93.*

Як-небудзь ула'дзім — хлеба купім, а сала ўкра'дзем. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Яму і чорт не брат. *Л. Гімпель, 1978, Кар.*

Яму коцікам быць, на печцы ляжаць да ложкі лізаць. *Нос., 40.*

*Яму не кладзі пальца ў рот.* *Ром., Бел., 295. Вар.: Ляцкий, 63; Сержп., 14.*

Яму — ні ў вуху вада.[652] *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

Яму ні холадна, ні горача. *М. Грынблат, 1961, Мн.*

Яму ўжо хвартух запа′х.[653] *Сержп., 91.*

Яна ж у нас яшчэ ў рэшаце спіць. *Янк., 390.*

Яна бярэ й за пагляднае. *Сержп., 67.*

Яна і пярыста, і мясіста. *Fed., 228, Ваўк. п.*

Яна нават прарэхі не зашые. *Клышка, 142.*

Яна скажа і прыкажа.[654] *Fed., 279, Ваўк. п.*

Яны адным грэбенем пачасаліся. *Там жа, 115.*

Ясі′ — аж нос гайдука скача.[655] *Горленка, 248, Ветк.*

Ячмень на воку — ілжэш, прароку. *Шатэрнік, 124, Пух.*

Яшчэ апошняга [жыта] у печ не ўсыпаў.[656] *Fed., 9, 372, Ваўк. п.*

Яшчэ далёка галёка. *Шатэрнік, 77, Сміл.*

Яшчэ конска матка (свіная маці) не здохла.[657] *Fed., 148, 309, Ваўк. п.*

Яшчэ ў мяне ў гатоўнасці нічога нету, як шэшка: ні падушкі, ні дзяружкі.[658] *Добр., Слов., 166, Смал. п.*

Яшчэ ўсіх дзён вароны не падзяўбалі.[659] *Сержп., 51.*

Яшчэ цешча добра плешча.[660] *Fed., 58, Ваўк. п.*

Яшчэ чаго не было! *І. Саламевіч, 1977, Слон.*

Яшчэ чаго не ставала! *Ляцкий, 63; Ром., Бел., 315; Fed., 291, Ваўк. п.; Сержп., 7, 8.*

## СКОРАГАВОРКІ

Адна сарока, адна марока, сорак сарок, сорак марок. *М. Грынблат, 1976, Ваўк. 8.76.114.*

Валуй-валуём.[661] *Нікіф., 1928, 82.*

Вы′лецеў смэцюх з-пад смэцюшаня′т.[662] *У. Васілевіч, 1975, Бяроз. 8.75.98.*

Вы′плету выпле′ты ў прыкле′ці.[663] *Добр., Слов., 713.*

Гаварыў, гаварыў, не дагаварыў, дагаворваў, дагаворваў, ды загаварыўся. *І. Саламевіч, 1965, Слон.*

Гарох лапаці´цца, чачавіча квокча, мак шуміць.[664] *Янк. М., 148.*

Дзе цётчынаму дзядзьку дзецца. *І. Саламевіч, 1978, Слон.*

Дзяды і дзядзькі на дзядзінцы дзялілі дзялянкі. *Там жа, 1965.*

Дзякую богу за бога, што бог бога даў. *Fed., 35, Ваўк. п.*

Дзяніс рэпу жрэ, а Марына (Алёнка) лён трэ. *Сержп., 68; Л. Малаш, 1971, Докш.*

Дзятлы дзюбамі дзяўблі´ дзераві´ну. *І. Саламевіч, 1965, Слон.*

Жабрак жабрака жабраваць вучыць. *Там жа.*

Жалеза вы´жалезілася, калясо вы´калесілася. *У. Васілевіч, 1975, Слуцк.*

Затпрукаў пан Тпрут-Прукевіч. *І. Саламевіч, 1977, Слон.*

Ішоў грэка цераз рэку, бачыць грэка ў рацэ — рак; грэка руку ў рэку ўсунуў, рак за ру´ку грэка цап! *Янк. М., 146.*

Ішоў кныр з кныраня´тамі. *Янк., Дыял., І, 98; У. Васілевіч, 1976, Пух.*

Ішоў поп кала коп, кала коп, кала калук капіцы.[665] *Fed., 426, Ваўк. п.*

Ішоў поп кала коп, кала капы´, кала поўкапы´. *Там жа.*

Каб ты мяне і вы´біў, то я сябе не ведаў бы. *Там жа, 225.*

Каваль каваў каня, конь кавалю капытом, каваль каню кнутом (калом). *А. Ліс, 1971, Смарг.; С. Пятровіч, 1972, Кап.*

Каласы каласавалі, каласавалі, вы´каласаваліся. *І. Саламевіч, 1965, Слон.*

Каля я´мы з кіямі, з кіямі каля ямы[666] *Л. Малаш, 1971, Докш.*

Калясо вы´калесілася, жалеза вы´жалезілася, палу´кашак вы´палукашыкаваўся, агонь вы´агняваўся. *Fed., 426, Сак. п.*

Калясо калесава´лася, калесава´лася, вы´калесавалася, перавы´калесавалася. *І. Саламевіч, 1965, Слон.*

Каму па каму´, а каму і два камы´. *І. Саламевіч, 1965, Слон.*

Капылы´ перакапы´лілі, перавы´капылілі. *Там жа, 1977.*

Карл у Клары ўкраў кара′лі. *Там жа, 1965.*

Клюйце, куры, крупы акола сту′пы. *Л. Малаш, 1971, Докш.*

Крывая цяце′ра просту перакрыві′ла. *І. Саламевіч, 1978, Слон.*

Купі кі′пу пік. *А. Ліс, 1974, Смарг.; І. Саламевіч, 1965, Слон.*

Лавіў рыбак судака′, судзі′ў судак рыбака: лоўка, рыбак, ловіш, судаку сорам робіш. *І. Саламевіч, 1965, Слон.*

Лезь, зале′зь, зале′зшы, злезь. *Там жа, 1978.*

Лопатню горла пералопатніла. [667] *Добр., Слов., 381.*

Лянок не любіць лянот, лянот не любіць лянок. [668] *І. Саламевіч, 1965, Слон.*

Ляцела тры пстры па крэй Прэкары′мавэй гары. [669] *Fed., 426, Сак. п.*

Міллян рэпу жрэ, Андрэй каноплі трэ. *Нос., 77.*

Мы відзелі бобра, і нам сказаў бобра, што нам будзе добра. *Л. Малаш, 1975, Докш.*

На дварэ трава, на траве драва′. Не рубі′ драва′ на траве двара′. *М. Зінгер, 1976, Мн.*

Намётка ў прачкі, сарочка ў швачкі. *Бяльк., 496, Краснап.*

Нашага панама′ра ніхто не перапанамару′е. [670] *Ром., Бел., 302.*

Не кпі са кпа′, часам і кеп табе адкпіць. [671] *Нос., Слов., 374.*

Не ржы, а жры. *І. Саламевіч, 1978, Слон.*

Пад вы′варатнямі вавёрка ўе вяроўкі вёртка. *Там жа, 1955.*

Палу′кашак вы′палукашыкаваўся, паравы′палукашыкаваўся. [672] *Там жа.*

Пара′ па драва′. *Fed., 220, Слон. п.*

Паслалі сабаку па таба′ку — ані таба′кі, ані сабакі. *Рап., 266.*

Пата′п пакава′ў пакупніка′м паку′пкі ў паку′нкі. *І. Саламевіч, 1965, Слон.*

Пекар Пётр пёк пірог. *Там жа.*

Перад ра′камі і па ра′ках. *Fed., 257, Ваўк. п.*

Перапілі, пераелі, пералушчылі, перапаролі, перамалолі,ператрушчылі. [673] *І. Саламевіч, 1977, Слон.*

Пётр цяля жане′, Алена лён трэ.[674] *Fed., 235, Ваўк. п.*

Піліп да ліпы прыліп, да ліпы прыліп Піліп. *І. Саламевіч, **1978**, Слон.*

Пільшчыкі-пілавальшчыкі пілавалі піламі. *Там жа, 1965.*

Пралез Пракоп праз строп, праз кру′пы і праз падкру′п'я.[675] *Л. Малаш, 1973, Докш.*

Проша, пані, моя пані прасіла пані, жэбы пані моей пані пазычыла родля.[676] *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Рабая курка клюе крупы. *І. Саламевіч, 1965, Слон.*

Рапартаваў, рапартаваў, ды не дарапартаваў, стаў дарапартоўваць, ды зарапартаваўся. *Там жа.*

Руды′ гарбаты Рыгор гроб грыбы граблямі. *Там жа.*

Са′ша па шашы′, смокчучы су′шку, ша′гам шпарка шпарыла. *Там жа.*

Сеў, скібу хлеба з'еў перад каталіка′мі. *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Сноп да снапа′, як поп да папа′. *Янк. М., 112.*

Стаяў поп каля коп, а капа′ каля папа′. *Там жа, 146.*

Струга′ў, стругаў, не дастругаў, стаў дастру′гваць — перастру-га′ў. *І. Саламевіч, 1978, Слон.*

Стол з вы′ламаванымі нагамі. *У. Васілевіч, 1976, Беласточчына.*

Сяку, сяку раз, сяку, сяку два; шынкарачка маладая піла і віно, начытала, напісала дваццаць адно.[677] *АГТ, разр. 20, № 19, л. 7, В. Кастко, 1906, Ігум. п.*

Ткач тчэ тканіну на хустку Антаніне. *І. Саламевіч, 1965, Слон.*

Трактарыст, прычапі прычэп да трактара. *Там жа, 1978.*

Трухлявую дзераві′ну дзятлы дзяўбуць дзюбамі. *Там жа.*

Гры дрывасекі, тры дрываколы на трох двара′х дрова колюць. *Там жа, 1965.*

Тры рублі рубля′мі, рубль петака′мі, тры капейкі па капейкі, колькі ўсіх рублёў? *М. Грынблат, 1976, Ваўк. 8.76.113.*

Тры чарты карчавалі карчы, карчавалі, выкарчоўвалі, панакарчоўваліся. *І. Саламевіч, 1977, Слон.*

Трыццаць тры дрывасекі трыццаць тры дрывотні надрывасе′чылі. *Там жа, 1965.*

Трэба сесці, скібу хлеба з'есці перад пана'мі, перад каталіка'мі. *Л. Малаш, 1971, Докш.*

Тута ба́ба варажыла, тута сала палажыла, тута яно ёсць. *Яўсеёў, 101.*

У барабаны барабанілі, барабанілі, панабараба'ньваліся. *І. Саламевіч, 1965, Слон.*

Уцякай, цецеручы'ха, з цецеручаня'тамі. *Там жа.*

Фастрыгава'ла, фастрыгава'ла, не дафастрыгава'ла, стала дафастрыгоўваць — перафастрыгава'ла. *Там жа, 1978.*

Ходзіць поп акола коп, а капа' акола папа', чырвоная істужачка акола капелюша'. *Л. Малаш, 1971, Докш.*

Хустка ядвабна выядва'блена. *Fed., 426, Вайк. п.*

Цецеручы'ха цецеручаня'там цеста месіць. *І. Саламевіч, 1977, Слон.*

Цярпе'ння няма цяпер це'рці це'рніцаю лён. *Там жа.*

Чатыры чарцёнышы чарцілі чарцёж. *М. Грынблат, 1977, Глуск. 8.77.127.*

Чацвер, чацвёртае чысло, чатыры чорненькіх, чумазенькіх чарцёначкі чарцілі чорнымі чарніламі чарцёж. *Янк. М., 146.*

Чырвоная стужачка каля' капялюшыка. *І. Саламевіч, 1965, Слон.*

Шоў поп каля капы' (каля коп), а капа' каля папа'. *Ляцкий, 60; Сержп., 67; Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11; І. Саламевіч, 1965, Слон.; Л. Малаш, 1971, Докш.*

Штоб я калі дзе што-небудзь якое, а то я ніколі, нідзе, нічога, ніякага. *Pietk., 381.*

Я да пані — проша пані, а до мне пані — ані, па'ні. *М. Грынблат, 1978, Іў. 8.78.152.*

Я ніколі нікому нічога ніякага, а калі што якое, дык што там такое? *Янк. М., 92.*

Як дурні'цы не чарні'цы, так чарніцы не дурніцы. *І. Саламевіч, 1965, Слон.*

Як дылі', як дылі', каб гарэлкі далі', весялей ба былі'. *Ляцкий, 62.*

Як Якімка, так і Хімка, а як Хімка, так і Якімка. *І. Саламевіч, 1965, Слон.*

## ЖАРТЫ І КАЛАМБУРЫ

А ці добра было ў гасцях? — Усяго было, усяго было, толькі прымусу не было. *Сержп., 36.*

А чы рады былі гасцям? — Усяго было, толькі прымусы не было, *Ляцкий, 2.*

А што гэта за лякоба, што ўсім з адной пляшкі даюць? [1] *Мат. Гом., V, 121, Жытк.*

Аб першу чарку ёсць спрэчка, аб пяту няма. *Fed., 64, Вайк. п.*

Абед на абед не зашкодзіць (не ва′дзіць), а кій на кій (палка на палку) пашкодзіць. [2] *А. Махнач, 1952, Уздз.. 13.10.15. Вар.: К. Цвірка, 1974, Валож. 8.74.80; М. Грынблат, 1973, Асіп. 8.73.65.*

Абед на абед — не палка на палку. [3] *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Аб'еўся куцці, не магу ні сапці, ні храпці, хіба да кумы пайсці. [4] *Сержп., 66. Вар.: Дуб., 43.*

Аб'еўся куцці, не магу пайсці (дайсці). [5] *Ляцкий, 1.*

Абнясі кругом водку, але і мяне не запомні. [6] *Fed., 334, Сак. п.*

Абы дзе, абы сеў, абы на покуці, а́бы што, абы з'еў, абы каўбасу. [7] *І. Саламевіч, 1965, Слон. 13.10.69.*

Агледзеліся, як наеліся. *Fed., 7, Вайк. п.*

Ад камі′на да каміна, дзе пахніць саланіна. [8] *Дуб., Нар., 1.*

Адной печанай рэдзькі не ем. *Нос., 119.*

Аж за вуша′мі пішчыць. [9] *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Алём, па стакану адном. *Нос., 2.*

Альбо выпіць, альбо дахаты йсці. *Ляцкий, 2.*

Ані к носу, толькі ў рот. *Нос., 3.*

Анно гу′бы памачыў. *Fed., 119, Ваўк. п.*

Анно еш, да пальцы ліжы. [10] *Там жа, 129, Слон. п.*

Анно ты мяне зваў, сам выпіў, а мне ніц не даў. *Там жа, 361.*

Апанас, не пі пра запас. *Сержп., 75.*

Апошняму або лепш, або горш. *«Зорка», 1978, № 49.*

Апошняму або многа, або нічога. *М. Грынблат, 1976, Кар.*

Апошняму ці што, ці нічога. [11] *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

Астаўцу′ з аўцу′ або ніяк. [12] *Г. Голікава, 1969, Люб. 13.10.60.*

Баба капусту паліва′ла. [13] *Нос., 3.*

Бал, чорт з печы ўпаў. [14] *Там жа, 4.*

Бальны′ — апетыт трайны′. [15] *І. Суконкін, 1960, Цер., 13.3.29.*

Бацюшка хмялёк, не папі′хівай упярод. [16] *Ром., Зап., І, 215.*

Без пары′ не абед. [17] *Сержп., 132.*

Без сала куса няма жыцця ў беларуса. [18] *Клышка, 210.*

Бі драбней — больш ліку будзець. [19] *Нікіф., 1928, 104. Вар.: Слов. брян., 55.*

Бі, пан заплаціць. [20] *Нос., 6.*

Бліны да ляпёшкі — хлебу перамёжкі. *Добр., Слов., 588, Красн. п.*

Бог цераз зярно хлеба не родзіць. [21] *Добр., 21.*

Больш дзіва, як піва. *Fed., 96, Ваўк. п.*

Братачка мой, не будзь свіннёй, калі людзі за стол садзюць. *Ляцкий, 5.*

Бруха не валова, пад'еў як карова. [22] *Нос., 9.*

Будзем есці, хоць не ўсе. [23] *Fed., 129, Ваўк. п.*

Бульбу варыць, бульбу жарыць, а пад'есці не дадуць. *Янк. М., 134.*

Быў бы мёд — мухі знойдуцца. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.18.*

Бярэце сёмы, у нас не лічаць. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Ва′рывай, ва′рывай, еш ды не перагаварывай. *Там жа, 1960, Сір. 8.1.47.*

Васі′лі кажа — па сі′лі, а Аўсей — па ўсёй. *Там жа, 1975, Мн.*

Вачам не вер, да к роту прымер. *Нос., 16.*

Відно дзе дно. *Fed., 78, Вайк. п.; Цяшк., 583, Маст.*

Вінаградам у сэрца, сахарам у душу; мяды′ мяда′м, нікому не дам. Гэта зелле ўзімку не мерзне, улетку не кісне. *Шейн, 474.*

Віншую, бо гарэлку чую. *Сержп., 50.*

Ві′та віта′ці, да нечага даці. *Нос., 14; Сержп., 8; Дуб., 8.*

Вы, госцікі, ешце, а вы, дзеткі, ну′це! [24] *Fed., 114. Вар.: Сержп., 35.*

Выбачай, кума, на пірагі. *Нос., Слов., 79; Дуб., 8.*

Вып'ем, братка! — Эт, дурачок, нікалі′ было, нікалі′ будзе. *Ляцкий, 6.*

Вып'ем, браце, вып'ем тут, на тым свеце не дадуць. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

Вып'ем, сватове! *Касп., 278, Беш.*

Выпі да рэшты, у тваёй галаве змесціцца. *Fed., 344, Сак. п.*

Выпіла, выхілі′ла, сама сябе пахваліла. *Там жа.*

Гавары па-беламу, а ламі па-цэламу. *Fed., 107, Слон. п.*

Галоўка баліць, чым чарку наліць. *М. Грынблат, 1970, Эйшыцкі р-н ЛітССР. 8.2.26.*

Гарэлачка — не вада, як уп'ешся, дык бяда. *Там жа, 1945, Віл. 8.1.1.*

Гарэлачка не каток, сама коціцца ў раток. *Там жа, 1969, Стол. 8.2.14.*

Гарэлачка шу′мна, давядзі да гу′мна. *Там жа.*

Гарэлка не дзеўка, не саромеючысь п'ецца. *Нос., 27.*

Гарэлка не дзеўка, не цалуй. *Fed., 104, Вайк. п.*

Гаспадар гасцям рад, здзелаець добры рад, квартоўку жыта натрасець, да нам гарэлачку прынясець. [25] *Нос., 28.*

Гаспадар гасцям рад, пасадзе іх у рад..., за пэйсы патрасе, нам гарэлкі прынясе, а ў добрай гаспадыні ёсць сала й масла ў скрыні. [26] *Ляцкий, 7.*

Гаспадар за гарэлку, гаспадыня за тарэлку. *Fed., 105, Вайк. п.; Дуб., 11. Вар.: Нос., 172.*

Гаспадыня, ці яшчэ нясі, ці хвартухом трасі.[27] *Дуб., Нар., 1.*

Гасцей з усіх валасцей. *Нос., 28.*

Гасцям ані вон! Толька аднаму хазяіну можна па гарэлачку сха-дзіць. *Там жа, 29.*

Ґодзе, годзе, трэба выпіць на расходзе. *Ляцкий, 8.*

Горкая, дык не пі. *Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Горла, як варонне, што ўляціць — патоне. *Ляцкий, 8.*

Госцейкі, калі вам мала, каб вас парвала. *Мін.-Мал., 1970, 159, Уздз.*

Госці — за косці. А вы, дзеткі,— гыр! За мяса![28] *М. Грынблат, 1972, Круп.*

Госцікі мае, назола мая, ці не паедзеце ўжо самі са двара. *Бяльк., 275, Мсцісл.*

Госцікі, проша, а вы, дзеткі, ша![29] *Нос., 28.*

Госць выпіць рад, калі гаспадар дасць прыкла́д. *Дуб., 11. Вар.: Нос., 29.*

Госць не дзьміся, еш, што ў місе. *Dybow., 9; Fed., 113, Нав. п.*

Губа не дура, знаець, што прымаець. *Нос., 30.*

Губе не вер, а пакажы прымер. *Янк., Дыял., I, 206.*

Густа, тлуста наша капуста. *Ляцкий, 8.*

Да яды прымусу няма.[30] *Fed., 128, Вайк. п.*

Гэткі боршчык! З'ясі й горшчык. *У. Васілевіч, 1977, Акцябр. 8.77.135.*

Дай гурка́, яшчэ вып'ю твайго вінка́. *Янк., 375.*

Дай сала хлеб даесці. *М. Грынблат, 1967, Мн.*

Далі масол: хоць глажы, хоць пад стол.[31] *Нос., 32.*

Дастану хлеб, я не слеп.[32] *М. Грынблат, 1962, Дзятл. 8.1.74.*

Даў бог дзень, дасць бог і пішчу. *Там жа, 1976, Кар.*

Дзе выпіваюць, там разліваюць. *Fed., 344, Вайк. п.*

Дзе гуляюць, там і топаюць. *Клышка, 421.*

Дзе (айдзе) п'юць (п'ецца), там льюць (льецца). *Dybow., 9; Нос., 2; Ром., Бел., 292; Ляцкий, 10; Сержп., 50; Fed., 230,*

*Вайк. п.; Pietk., 335; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29; А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

Дзе сяда'ць..., там і ўстава'ць. *Янк., Дыял., III, 156.*

Дзірка ў роце, еж, колькі хоці. *Нос., 34.*

Дзякуем вам за хлеб, за соль і за прыязнь вашу.[33] *Fed., 384, Вайк. п.*

Дзякуем за тую, проша (давайце) другую. *Янук., 30; І. Саламевіч, 1957, Слон.*

Дзякуй богу за абед, што паеў (наеўся, пад'еў) дармаед.[34] *Dybow., 8; Ляцкий, 10; Fed., 384, Вайк. п.; Дуб., 15; Сержп., 97; М. Грынблат, 1970, Лаг. Вар.: Нос., 154; П. Альхімовіч, 1974, Круп. 8.74.87.*

Дзякуй богу святому і кухару сляпому: хто варыў, хто пёк, каб з кухні не ўцёк.[35] *Fed., 384, Вайк. п.*

Дзякуй вам за хлеб і кашу і яшчэ за міласць вашу.[36] *Л. Царанкоў, 1960, Слуцк. 13.9.2.*

Дзякуй гэтаму столу, пойдзем к свайму дому.[37] *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

Дзякуй за пачостку.[38] *Сержп., 34.*

Дзякуй за полудзень: ні сыт, ні галадзен.[39] *Янк., 376.*

Дзякуй за полудзень, я й так (я й без яго) не галадзен.[40] *Сержп., 7; Нос., 154.*

Дзякуй пакорна за хлеб, за соль, за капусту з квасам, за кашу ды за міласць вашу.[41] *Л. Лашко, 1967, Дзятл. 13.10.30.*

Дзякуй таму, хто еў, і каму падавалі.[42] *М. Грынблат, 1976, Кар.*

Дзякую вам.— Няхай табе будзе на доўгі век, на доўгі быт, на добрае здароўе.[43] *Fed., 384, Вайк. п.*

Дзякую за хлеб, за соль, за бульбу і кашу, дзякую і за дабрату вашу. *Янк. М., 125.*

Дзякую табе за хлеб і за соль, але пад'еў то свой.[44] *Fed., 90, Гродз. п.*

Дзяньку'ю, дзядзька. Дай, божа, каб даваў і не перадаваў.[45] *Там жа, 384, Слон. п.*

Дзярыце штаны, сцяліце сталы. *Нос., 33.*

Добра гатовае палажыць у рот. *Сержп., 44.*

Добра душа нап'еццa з каўша. *Fed., 230, Ваўк. п.*

Добра ду'шка з'есь без абру'ска (з гарну'шка). *Там жа, 88, 356.*

Добра п'еш, хадзі ў хату. *Нос., 36.*

Добрая каша, ды малая чаша. *Ахрым., 29.*

Добры баршчок, ды малы гаршчок. *Янук., 31.*

Добры чалавек: што ўкусіць — то з'есць. *Шпил., 179.*

Душа мая не крывая, яна ўсё (усе'нька) прымае. [46] *Tyszk., 431; Шпил., 179; Нос., 38; Fed., 88, Ваўк., Сак. п.; Сах.; Сцяшк., 590, Ваўк.; Dybow., 184; Дуб., 13; М. Грынблат, 1960, Мн.*

Душа мерку перабрала. *Нос., 38.*

Душа не без каўша. *Там жа, 40.*

Душка не птушка, мякінаю не адбудзеш. *Там жа.*

Ежма! Што ма'е аставацца, то лепш жыватом качацца. [47] *С. Каляда, 1966, Іў. 13.10.26.*

Е'сце вы, госцейкі, ужывайце, толькі ў карманы (у кішэню) не хавайце (не кладзіце). *Бяльк., 477, Мсцісл.; Сержп., 35.*

Есце, госці, есце, а вы, дзеці, лапане'це! [48] *Нар. сл., 87, І. Крамко, Стаўб.*

Есці не просім, калі ў рот носім. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.44.*

Еш, а после дзякуй. *Ляцкий, 11.*

Еш без уклону, не без паклону. *М. Дуброўскі, 1956, Лельч. 13.3.29.*

Еш, дурню, бо то з макам. *Czeczot, 109; Нос., 190; Pietk., 372; Dybow., 192; А. Махнач, 1952, Нясв.*

Еш, каб не знаў рот меж. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.22.*

Еш, не еш, а п'яным не будзеш; даволі ўжо. *Fed., 129, Сак. п.*

Еш, пакуль жывеш, а як памрэш, дык не ўпрэш. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26.*

Еш, пакуль не зараўеш. *М. Грынблат, 1963, Мн.*

Еш, пакуль не запяеш. *Янук., 30; І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

Еш, пакуль рот свеж, а памрэцца — усё мінецца. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

Еш, пакуль рот свеж, а як умрэш, то і калом не ўвапрэш (не

ўваб'еш, не ўпрэш, не папрэш). *Fed., 130, Вайк. п.; Нос., 191; Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2; І. Саламевіч, 1956, Слон.; І. Курбека, 1961, Докш, 13.9.7.*

Еш, пакуль рот свеж, а як памрэш, дык і не лізнеш. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

Еш, пакуль рот свеж, а як пойдзеш да гробу, то з'ясі хваробу. *В. Рабкевіч, 1961, Кап. 13.9.5.*

Еш сала, каб душа плясала. *М. Грынблат, 1969, Смал.*

Еш, хоць жыватом стол адапхні. *Янк., 406.*

Еш, хоць прылеж, абы скура датрывала. *Гильт., 297, Віл. п.*

Еш, хоць расперажыся. *Сержп., 35; Янк., 406. Вар.: В. Рабкевіч, 1961, Брасл. 13.3.5.*

Еш, хоць расперажыся, толькі рабіць не ляніся. *Fed., 129, Сак. п.*

Ешце, госцейкі, ешце, усё адно свінням выліваць. *М. Грынблат, 1977, Кар.*

Ешце, да ў вочы не лезце. *Нос., 190.*

Ешце, дзеткі, і мачайце, а на рэшту (на болей, на прысмакі) выбачайце (прабачайце). *Янк., 396; М. Грынблат, 1950, Хойн.; Ройзен., 70.*

Ешце (піце), жылы, пакуль жывы, а памрэш — і калом не ўб'еш. *В. Рабкевіч, 1961, Кап. 13.9.5. Вар.: Нос., 127; Дуб., 48; Дразд.*

Ешце з хлебам.— А нічога, добра і з пірагом. *М. Грынблат, 1975, Лаг.*

Ешце і абмачайце, а на лепшае выбачайце. *Fed., 129, Вайк. п.*

З краю — у божым раю, а ў сяродцы — у божай бародцы. [49] *Ром., Бел., 309.*

З мядком і цвік праглынеш. *Клышка, 117.*

З печы, з полу — усе к столу! *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106; М. Малочка, 1959, Мядз. 8.1.46.*

З пустога і Саламон не нальець. [50] *Дуб., Нар., 12.*

За гэты праштроп купі гарэлкі штоп. [51] *Нос., Слов., 535.*

Затуліўшыся ў куток, па тры чаркі ў раток. *Сцяшк., 592, Гродз. Вар.: Ляцкий, 49.*

Заўтра будзе дзень свянтэчны, нашы булак напякуць, і памажуць, і пакажуць, а паесці не дадуць. *І. Саламевіч, 1956, Слон.*

Здароў быў, дзе ты быў? Каб ты ласкаў быў, к нам зайшоў, хлеб-соль прыняў, чарку гарэлкі выпіў. [52] *Ром., Бел., 296.*

З'еў бы чорта з рагамі. *І. Саламевіч, 1955, Слон.*

З'еш почку — возьмеш папову дочку. *Ром., Бел., 297.*

З'еш ужо, калі зжаваў. *Крэмнеў.*

І кот не мыўся, і госць з'явіўся. [53] *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

І наша Пара́ся мёду напіла́ся. *Fed., 221, Ваўк. п.*

І пі — гаворацЬ, і не пі — гавораць. *М. Грынблат, 1969, Лун. 8.2.14.*

І я з шапкаю за сваею бабкаю. [54] *Fed., 382, Ваўк. п.*

Ідзе слізка, але дно блізка. [55] *Мат., 62, М. Яўневіч, Бял.*

Ішоў к нам, прышоў к вам. [56] *Шпил., Бел., 181; Нос., 58; Dybow., 10; Сержп., 68.*

Калі баль, дык баль — налівай расолу. *Янк., 379.*

Калі ем (як е́мы), то і глух і нем (мы і глухі і не́мы). *Tyszk., 431; Pietk., 372; Нос., Слов., 729.*

Калі да цябе не п'юць, то ты не перапівай. [57] *Dybow., 11.*

Калі маўчу, то (значыць) хачу. *Там жа, 182; Сержп., 61; Fed., 180, Ваўк. п.*

Калі піць, так не кпіць. *Нос., 65.*

Калі ўжываць, то ўжываць — бі паўтара яйца ў абмача́нку. [58] *І. Саламевіч, 1955, Слон.*

Картопля ў полі не зімуе, а ў жываце не начуе. *Шатэрнік, 131, Пух.*

Кацiся з застолля, да глядзі свайго падвор'я. [59] *Добр., Слов., 253.*

Квасок не з трасок. *Нар. лекс., 52, І. Чыгрын, Слон.*

Кісла, прэсна,— вярні (вараці) уместа. [60] *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106; Нос., 61.*

Клочча, воўна, абы кішка поўна. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Кушайце стольki, каб пальцам узяць.[61] *Там жа, 1973, Асіп. 8.73.65. Вар.: І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Ласы (сласны) кусок знойдзе (найдзець) куток. *В. Рабкевіч, 1961, Брасл. 13.9.5; Нос., 150.*

Лей, не жалей, магу пабажыцца, што не буду біцца. *Дуб., Нар., 1.*

Лепш хай кішка кішку прыцісне, чым страва скісне.[62] *Ігнат., 31.*

Маё дзела — хадзіць бела: памыў рукі, ды за стол.[63] *Ром., Бел., 301.*

Маж, бабка, не жалей — твой квач, мой алей.[64] *Дуб., Нар., 1.*

Мала мелі, скора з'елі.[65] *Нос., 76; Ляцкий, 20.*

Мала (меней) укусіш, лягчэй палкне́ш (глынеш).[66] *Fed., 319, Вайк. п.; В. Бондар, 1967, Мін. 13.10.24.*

Марка, а Марка! Ці поўна ў цябе чарка? *Ляцкий, 20.*

Мая ду́шка не перабяру́шка. *Добр., Слов., 580.*

Мая кішка́ не паўтара мяшка́.[67] *Нос., 79.*

Мая кі́шка не ў паўтары полкі сшыта.[68] *Fed., 145, Вайк. п.*

Мёд саладок, тэй у раток. *Мігп., 396.*

Міласці просім — гасцюйце ў нас.[69] *Раст., 78. Вар.: Добр., Слов., 124.*

Мне ўсё роўна: ці белы хлеб, ці чорны: белы — шчэ й лу́ччай. *М. Грынблат, 1952, Хойн.*

Многа ложыш, калі можаш. *Нос., 78.*

Многа не трэба, абы ўволю. *М. Грынблат, 1960, Сір. 8.1.47.*

Можа і мы хутка ўмрэм, пойдзем па чарцы вып'е́м. *Fed., 344, Сак. п.*

Можна было б у гасцях і даўжэй гуляць, але ж забыліся хлеба ўзяць.[70] *Янук., 31.*

Мы не панскія ду́хі, не баімося сівухі. *Fed., 278, Вайк. п.*

На гэтым гаму́, хто сарваў (хто што зарваў, ухапіў), то таму́. *Дуб., 40; Н. Купцоў, 1967, Ветк. 13.3.29; Нос., Слов., 183.*

На смашны кусочак найдзецца куточак. *Fed., 159, Вайк. п.*

На тое прасілі, каб у рот насілі.[71] *Там жа, 220.*

На ўражай, на ўпакой, каб мы выпівалі яшчэ па такой. *Там жа, 378.*

Навіна ў рот, здароўе ў жывот, мядзведжа сіла, за'ечы паварот. *Л. Салавей, 1976, Мядз.*

Навінка ў раток, здароўейка (здароўя) у жыватoк. *М. Грынблат, 1959, Мн.; Добр., Слов., 265; Янк. М., 100.*

Наеўся па самае горла. *Fed., 196, Ваўк. п.*

Наеўся па самае не хачу. *Сем., 31.*

Наеўся як бык, не знаю, як быць? *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2.*

Наеўся як бык, перагнуўся як смык. *Там жа.*

Наешся ко'му і не кажы нікому. [72] *Жыв. сл., 24, А. Булыка, Нав.*

Накарміў (наеўся), аж кішка (кішкі) прутам (дугою) стала (сталі). *Fed., 196, 197, Ваўк., Гродз. п.; Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.9.29.*

Наш Васіль на работу не сіл, а на клёцкі ў малацэ — за чацвярых валачэ. *Крэмнеў.*

Наша добрае дзела да без ліха здзелаць. *Ром., Зап., III, 227.*

Не будзем за адну чарку рабіць сварку. *Сцяшк., 600, Іў.*

Не вер гу'бе, палажы на зу'бе. *Fed., 120, Ваўк. п.*

Не карай, божа, нічым, калі капуста ні з чым. *Там жа, 98.*

Не маеш скваркі — не шукай чаркі. *Янк., Дыял., III, 163.*

Не наеўся, то пераліжашся. *Н. Ярашэвіч, 1970, Стол. 13.10.88.*

Не накарміў каго, то з'еш сам. *Fed., 197, Ваўк. п.*

Не пагрэбуйце, госці дарагія, пейце, ешце на здаровейка. *Бяльк., 190, Мсціcл.*

Не пі без меры, каб трапіў у дзверы. *Т. Варфаламеева, 1978, Чаш.*

Не так таго піўца, як добрага слаўца. [73] *Сцяшк., 602, Стаўб.*

Не тані' і не малі',— кругом на'вадня абгані. [74] *Добр., Слов., 432, Красн. п.*

Не то што піць, а з добрымі людзьмі пагаварыць. *Fed., 210, Слон. п.*

Не той п'яніца, што п'ець, а той, што праміма (хто міма з чаркі) льець. *Ляцкий, 30; Нос., 104.*

Не ў пару′ абед, калі сваёй ложкі нет. *Аним., 204.*

Не хачу зла свайго астаўляць на дне.[75] *М. Грынблат, 1970, Ашм. 8.2.26.*

Не хачу, не хачу, а пасля і голікам не згоніш.[76] *Ром., Зап., III, 227.*

Не хваліся сеўшы, а хваліся з'еўшы. *Мат., 175, В. Рабкевіч, Кап.*

Не шкодзь гарэлкі на зямлю, (пашкоджанай гарэлкі) курыца не падбярэць.[77] *Нос., 109; Нос., Слов., 481.*

Не шчытай, госпадзі, за п'янку, мы лечымся. *М. Грынблат, 1969, Лун. 8.2.14.*

Некалі я ў цябе брухам стол адсуну.[78] *Шпил., Бел., 185.*

Нет ху′ччай бале′сць, як хочацца есць. *М. Грынблат, 1975, Глыб. 8.75.102.*

Ні самому з'есці, ні людзям аднесці. *Мат., 183, Ф. Янкоўскі, Маладз.*

Новая навіна, камарова яда, мядзвежжа сіла, штоб (каб) у рот насіла.[79] *Нос., 115; Нікіф., 1828, 102. Вар.: Слов. брян., 36, Трубчэўскі р-н.*

Няма лепшай рэчы, як свіныя плечы.[80] *Т. Вяль, 1970, Мядз. 13.10.67; М. Грынблат, 1977, Кар.*

Няма чаго пясці′цца (пе′сціцца), калі ёсць дзе змясці′цца (паме′сціцца). *Ляцкий, 26. Вар.: Нос., 108; Дуб., 40; І. Саламевіч, 1962, Саліг.*

Нясі, божа, нежанатага, але багатага: жаніць будзем. *Ляцкий, 30.*

Нясі, божа, нежанатага: жонку дадзім. *Ром., Бел., 303.*

Нясі, божа, нежанатую: мужыка дадзім. *Там жа.*

Нясі, божа, у ботах: лапці дадзім. *Нос., 103.*

Ой, ці з перцам, ці не з перцам, абы з шчырым сэрцам. *Fed., 273, Ваўк. п.*

Па гэтай тармасе′ разыйдземся ўсе.[81] *Fed., 311, Ваўк. п.*

Па доўгай дарозе шоў, пад абед не падыйшоў.[82] *Нос., 129.*

Па каўбасе′ нап'емся ўсе. *Там жа, 131.*

Паабедалі. Будзем прыбіраць, ды другое зачынаць. *М. Грынблат, 1967, Мсціслав. 8.1.106.*

Пад'еў (наеўся), як бык, перапаў (перагнуўся, выцягнуўся), як смык, галодны, як сабака (як воўк). *А. Фядосік, 1960, Капатк. 8.1.76. Вар.: С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25; Абаб.*

Пад'еў і (паеў ды) у хлеў. *М. Грынблат, 1970, Лаг.; Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

Пакарай мяне, госпадзі, блінцом, ды яшчэ з масліцам і піўцом. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

Пакарміў усіх: ад каня да ката́. *М. Грынблат, 1967, Мн.*

Панаядаліся, што аж про́ўжынкі паадпускалі. [83] *Fed., 197, Вайк. п.*

Пан глядзіць на пячаць, а мужык — адзе пачаць. [84] *М. Грынблат, 1926, Тур.*

Пан кладзе пячаць, а мужык ведае (глядзіць) адкуль пачаць. [85] *Fed., 217, Вайк. п.; Pietk., 333; Янк., 61.*

Пан паложыць пячаць, а мужык глядзіць, як яе пачаць. [86] *Мін.-Мал., 1970, 164, Ўздз.*

Папала бра́га на ўра́га. *Дуб., 48.*

Паставіўшы тарэлкі, нап'емся гарэлкі. [87] *Нос., 135.*

Пасялу́й у нас. [88] *Л. Салавей, 1967, Мядз.*

Патравы любяць прыправы. [89] *Клышка, 481.*

Па-шляхоцку — папалам клёцку, а ў мужыцкім шчоце — па тры клёцкі ў роце. [90] *Аним., 264; Шейн, 480.*

Пашукаем указу, штоб напіцца па другому разу. *Нос., 136; Дуб., 49.*

Пей, калі твой бацька Ляпе́й, а мой Хама́, ды й таго няма. [91] *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Пей вінцо Хрыстова, да не мялі пустога. *Добр., 45.*

Перад ра́камі і па ра́ках. *Крэмнеў.*

Перш чарку, а потым па карку. *Сержп., 35.*

Першая (первая) чарка калом, а другая сакалом. *Дуб., 48; Нос., 125. Вар.: Добр., Слов., 335, 856; Pietk., 363.*

Першая чарка калом, другая сакалом, а трэцяя (трэйця) — мелкаю пташачкаю (зайчыкам). *Янк. М., 99; М. Грынблат, 1977, Стаўб.*

Першу ягадку ў роцік, каб не балеў жывоцік. *Янк. М., 100.*

Пі ву′дку, забудзеш смутку. *Fed., 334, Ваўк. п.*

Пі да дна, а дарога будзе адна. *Там жа, 230.*

Пі! Душа меру знае. *Pietk., 385.*

Пі, ды не лі. *Ляцкий, 34.*

Пі, не забывай, бруха набівай. *Fed., 231, Ваўк. п.*

Пі, не порах, не разарве. *Там жа, 230.*

Пі, пакуль п'ецца. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Піце гарэлку да дна і пажадайце мне дабра. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

Піце, госцікі, ды закусвайце. *Шатэрнік, 218, Сміл.*

Піце, есце, госцікі, без прыму′су. *Бяльк., 352, Мсцісл.*

Піце, ды часу не трыце. *Дуб., 46; Нос., 127.*

Поп і пятух і не піўшы пяюць. *М. Грынблат, 1976, Лаг.*

Прабачайце, госцікі, на болей: як кажуць — чым хата багата. *Шатэрнік, 272, Сміл.*

Прасіў пан Далецкі на кулеш грэцкі, на аўсяныя бліны, штоб ласкавы былі′. [92] *Нос., 140.*

Просе не напіцца, а і дадуць, не заліцца. [93] *Аним., 264.*

Просім есць, калі валасы есць, штоб было за што адвесць. *Нос., 140.*

Работу пад стол, а міску на стол. *Булг., 177.*

Рад [бы] душой, ды (дак) хлеб чужой. *М. Грынблат, 1954, Мядз.; 1975, Глыб. 8.75.102; В. Рабкевіч, 1961, Брасл. 13.9.5.*

Раўні′ся, што ў гаршку, а што ў місе. *Шатэрнік, 246, Сміл.*

Рэпка на жывот не крэпка. *Добр., Слов., 806.*

Сабірайцеся, старцы, абед бу′дзіць. [94] *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

Садзіся, госцем будзеш. *Сержп., 35.*

Сала без хлеба — не сала, масла без хлеба — не масла, а хлеб без іх — хлеб. [95] *Г. Цітовіч, 1977, Кар.*

Сам паядаў і другому ўкусіць даў. *Міеп., 397.*

Сам хазяін пакажы пуць, як гарэлку п'юць. *Нос., 146, 131. Вар.: Ляцкий, 32.*

Сам з кяржок, а горла з гаршок. *Добр., Слов., 319, Пар. п.*

Самі ядуць, а нам не даюць. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

Сёння сяк-так, а заўтра з блінамі. [96] *Мат., 176, В. Рабкевіч, Кап.; Суяшк., 608, Свісл.*

Сёрбай, пакуль (заўтра) пойдзеш з торбай. *Дуб., Нар., 1; Добр., Слов., 238; Сержп., 50.*

Сіла горла не бярэ́ць. [97] *М. Грынблат, 1971, Шарк. 8.2.43.*

Сілку́йся, мая сваццця, сілкуйся. *Касп., 280, Сір.*

Сілкуйцеся, што бог даў. *Сержп., 34.*

Сказана: што пастаўлена і парэзана, павінна быць паедзена. *М. Грынблат, 1969, Лун. 8.2.14.*

Слава богу! — Сала богу, а шкваркі мне. *Там жа, 1968, Мн.*

Слухай, налівай і другім падавай. *Fed., 197, Сак. п.*

Смашна (сладка) было, да блізка дно. *Нос., 151; Ром., Бел., 308; Дуб., 55.*

Солана, аж у вушах пішчыць. *А. Шандро, 1969, Мядз. 13.10.65.*

Спазніўся пан да абеда, а вячэра не зараз. *Ляцкий, 42.*

Спасіба богу, наеўся, яй-богу: баршчу не еў, кашы ў вочы не бачыў. *Ром., Бел., 309.*

Спачатку паўторым, а потым пагаворым. *М. Грынблат, 1976, Верхнядзв. 8.76.113.*

Стол крывы. [98] *Дуб., 58.*

Сточкі не дочкі. [99] *Нос., Слов., 616; Дуб., 57.*

Сыр з'еў, масла кончыў. *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Сягоння на вячэру маршчакі́. [100] *Там жа.*

Сядзем радком ды пагаворым (пагамонім) ладком. *Ляцкий, 43; Сержп., 47, 59.*

Сядзем у рад, штоб бог быў рад. *Нос., Слов., 71; Дуб., 57.*

Сядзіш у ра́ду, не псуй ла́ду. *Суяшк., 610, Воран.*

Сядзь, няхай полы не вісяць. *Нос., 160.*

Такі мурла́ч вып'е гарла́ч. *Яўсееў, 68.*

Такое да́нне раз на сняда́нне. *М. Грынблат, 1970, Лаг.*

Тлуста капуста, але ў маём жываце пуста. *Fed., 136, Гродз. п.*

Тройцу (свята) праславім і чарку паставім. *Дуб., 59; Нос., 164; Янк., 385.*

Трэба знаць, як жаваць. *М. Грынблат, 1977. Мн.*

Трэба што пад сэрца падкінуць. *Там жа, 1945, Лаг.*

Тут кату́ на адзін зуб. *І. Саламевіч, 1966, Слон.*

Ты, брат мой, еж хлеб свой. *Дуб., 60; Сержп., 7.*

Ты, гарэліца, што вычаўпля́еш, ты над намі, мужыкамі, літасці не маеш. *М. Грынблат, 1977, Стаўб.*

Ты не стрыя́шка і не вуя́шка, будзь здараве́нька, пляшка! [101] *Там жа.*

Ты-тка не тані́, да вакруг булкі абгані. [102] *Нос., 165; Дуб., 59.*

У нас каля чаркі (кілішка) чыста ходзяць. *Fed., 64, 144, Ваўк. п.*

У нас не ганарацца (не гардзяцца), дзе стаяць, там садзяцца. *Я. Касач, 1966, Дзятл. 13.10.26; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

У нас такі ўстаў — выпіў і пастаў. *М. Грынблат, 1962, Дзятл. 8.1.74.*

Угавору не было, каб піць, ды не ліць. *Ляцкий, 47.*

Усе па́дкі на рэчы сла́дкі. *Нос., 169; Дуб., 65.*

Уставай з застолля, када хазяйка хвартушком трахане́ць. [103] *Добр., Слов., 253.*

Усякае дыха́нне любіць у рот папіха́нне. *Нос., 18; Fed., 90, Ваўк. п.*

Хай бы ты маё е́дала адведала. [104] *Яўсееў, 43.*

Хай лепш жывот лопне, чым дабру прападаць. *М. Грынблат, 1974, Пух.*

Хараша бражка, ды мала́я чашка. *Ахрым., 57.*

Харошым людзям і мы рады будзем. *Ляцкий, 53; Сержп., 47.*

Харошыя весці, калі запрашаюць есці. *І. Назіна, 1977, Гродз.*

Хата не багата, а хлеб ёсць. *Ляцкий, 53; Сержп., 79.*

Хлеб ды каша, ды міласць ваша. *Радч., 249.*

Хлеб на стале, а рукі свае.[105] *Fed., 52, Сак. п.; Сержп., 28; А. Дзешчыц, 1965, Смарг. 13.10.40; А. Куцакова, 1956, Раг. 13.3.29; Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Хлеб на стале, захочаш, сам возьмеш. *Ляцкий, 53.*

Хлеб на стале, рукі свае, рэж ды еш (вазьмі нож ды рэж). *М. Грынблат, 1974, Шкл.; І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Хлеб свежы, добры да ежы. *Dybow., 192; Fed., 52, Нав. п.*

Хлеб-соль ёсць, чаго яшчэ трэба? *Ляцкий, 53; Сержп., 79.*

Хопіць піць, хопіць дурыць, ці не час нам пакаяцца, пайсці дамоў, параіцца, што заўтра прапіць.[106] *А. Твардоўскі, Смаленская вобл. (А. Кондратович. «Я люблю белорусскую поэзию...» Из воспоминаний об А. Т. Твардовском. «Неман», 1975, № 1, с. 138.)*

Хоць каротка шыя, але добра пі'е. *Fed., 301, Сак. п.*

Хоць сілу трачу, але дно ўбачу. *Мін.-Мал., 1970, 169, Уздз.*

Хоць рыгні', а еш. *Fed., 129, Слон. п.*

Хто варыў, хто пёк, каб з хаты ўцёк.[107] *Там жа, 385, Ваўк. п.*

Хто за добрым сталом, хай не круціць хвастом.[108] *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58.*

Хто не п'е да дна, той не думае (не мысліць) дабра. *Fed., 229; 344, Ваўк. п.*

Хто п'е, а хто так пяе. *М. Грынблат, 1977, Акцябр. 8.77.127.*

Хто чаго ўку'сіць, перастаць не му'сіць.[109] *Нос., 17; Радч., 249. Вар.: Н. Парукаў, 1965, Добр. 13.10.19.*

Целяпай ты ўжо скарэй, а то есць, як нежывэй. *Бяльк., 481, Мінасл.*

Ці-лі-лі', ці-лі-лі', калі б яшчэ падлілі'. *Ром., Бел., 310.*

Ці Лявон, ці не Лявон, а з раду не вон.[110] *Нос., 179; Добр., Слов., 373.*

Ці пада'ць вам блінкоў? — Адно дзела![111] *Добр., Слов., 523.*

Ці ў разорву есць, калі нечага ў рот несць.[112] *Нос., 179.*

Ці хто спяшыць, ці дурная рука (ці няўмека) дзяржыць.[113] *М. Грынблат, 1973, Лаг.; І. Саламевіч, 1957, Слон.*

Цяпер так-сяк, а после будуць блінцы. [114] *М. Грынблат, 1945, Віл. 8.1.1.*

Цярпі гора, пей мёд. *Мат. ГТ.*

Чаго не есці, таго і ў рот не класці. *Fed., 129, Вайк. п.*

Чаго [не п'еш], не ясі', таго (дык) і ў рот не нясі. *Нос., 181; Дуб., Нар., 1.*

Чаго не ўжываць, таго на стол не падаваць. *Fed., 324, Вайк. п.*

Чалавек жа не вол і не конь. З'есць, як карова,— і хопіць. [115] *М. Грынблат, 1968, Мн.*

Чаму ж не? І святы' бы піў, каб хто купіў. *Дуб., Нар., 25.*

Чарачка-каток, кацiся (варашыся) у раток. *Нос., 181; Добр., 82.*

Чарачка-каточак, кацiся ў раточак, каб не балеў жываточак. *Fed., 64, Слон. п.; Шырма, 207.*

Частуйся, сваценка. *Шатэрнік, 254, Сміл.*

Чуць, чуць, дзе гарэлку п'юць. *Ляцкий, 587.*

Чы па-панску ты піў, чы па-мужыцку еў, што саўсім абамлеў? *Там жа, 59.*

Чэмерге'с на коранях, квас малінавы, сем раз налі'ваны. [116] *М. Грынблат, 1971, Паст. 8.2.43; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.9.2.*

Чэрава не дзерава — разда'сца. *Сержп., 65.*

Шкада, у дварэ няўгода, а на дварэ непагода. [117] *Нос., 186.*

Што не даямо, то дапеямо. *Брыль, 106.*

Што пастаўлёна — тое благаслаўлёна. *М. Грынблат, 1977, Стаўб.*

Што патраўка, то папраўка. [118] *Крэмнеў.*

Што саладок, то й у раток. *Міеп., 396.*

Што-та папруга стала туга. [119] *Добр., Слов., 631.*

Што ў рот, то спасіба. *Нос., 188.*

Я вып'ю, я й насыплю. *Fed., 344, Вайк. п.*

Я госць беспрыну'кны, не люблю мары'ць гаспадара. [120] *Нос., Слов., 23.*

Я панскага (з добрага) роду, п'ю гарэлачку, як воду. *Fed., 216, 104, 261, Вайк. п.*

Я таку′ моду маю, да дна выпіваю. *Там жа, 344.*

Я там быў, мёд-віно піў, у гу′бе не было, па барадзе цякло. *Там жа, 41.*

Я хвор на нагу, я піць не магу. *М. Грынблат, 1945, Віл. 8.1.1.*

Я чалавек безмалімонны, што стрэў, то з'еў.[121] *Нос., Слов., 22.*

Як здароў, так здароў, па тры чарачкі далоў. *Ляцкий, 62.*

Як нап'еццa,— набок мора. *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

Як не будзеш спяваць, то памрэш скарэй, а пей, то будзе весялей. *Там жа, 1977, Глуск. 8.77.127.*

Як поліўку хлябаюць, дак па вярху сцябаюць; як бы еў смятанку і піражок, дык бы касіў пад карашок. *С. Міско, 1952, Беш. 8.1.42.*

Як той бацька казаў: Не за тое б'ю, што п'еш, а за тое, што не закусваеш. *І. Саламевіч, 1966, Мн.*

Як ты называешся? — Акаві′та.— А з чаго ты?— З жыта.— Паспарт ест? — Няма.— От табе турма′.[122] *Fed., 379, Вайк. п.*

Якая ва′ра, еш, неперагава′ра.[123] *Нос., Слов., 334.*

Якая рада, дык рада, а есці нада. *Дуб., Нар., 2.*

## ТОСТЫ

Ад краю да краю ўсім дабра жалаю! *Ройзен., 67.*

Будзь здароў! — Пі здароў! *М. Грынблат, 1951, Хойн.*

Будзь здароў! — Пі здароў! Дай жа, божа, каб нам было гожа. *Fed., 379, Вайк. п.*

Будзь здароў! — Пі здароў! Дай жа, божа, каб нам было гожа, весела жылося, шчасліва вялося: у полі ўродзіста, у гумне накла′дзіста, у клеці насы′піста, у млыне наме′ліста, у дзяжы падыходзіста, на стале ўе′дзіста! *Шейн, 505, А. Багдановіч, Барыс. п.*

Будзь здароў, кум! — На здароўе! Багачу доўга спаць, а нам, сіратам, рана ўставаць. *Fed., 379, Слон. п.*

Будзьма здаровенькі! — Будзьма! *М. Грынблат, 1977, Стаўб.*

Віва′т! На сто лят, на бочку ві′на, на ве′сну сына! *Шейн, 504; Fed., 378, Гродз. п.*

Вып'ем, браце! Каб нашыя варагі′ выкаціла за нагі′! *Fed., 379, Вайк. п.*

Вып'ем гэту чарку, каб маладыя мелі заўсёды хлеб і скварку! *І. Саламевіч, 1960, Слуцк.*

Вып'ем з наска′, каб не ўзяла таска′.[124] *М. Грынблат, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

Выпіваем да дна, не астаўляем этаму дому зла! *Там жа, 1969, Лун. 8.2.14.*

Вып'ем стоячы да дна, каб ва ўсіх была думка адна! *Н. Гілевіч, 1978, Ганц.*

Дай бог здароўя і ручкам, і ножкам, і ўсяму патрошкі! *Г. Барташэвіч, 1961, Віл. 8.1.67.*

Дай бог, каб не апошняя, і да году даждацца! *М. Грынблат, 1977, Стаўб.*

Дай бог упіцца, а ліхія людзі не дадуць праспацца. *Fed., 321, Вайк. п.*

Дай, божа, каб усё было гожа, а што нягожа — не дай (не давядзі), божа! *Янк., 375; І. Саламевіч, 1957, Слон.*

Дай, божа, [штоб і] заўтра тожа! *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Дай, божа, заўтра тожа, а цераз дзень на кожды дзень! *М. Грынблат, 1969, Лун., 8.2.14.*

Дай, божа, каб не апошні раз! *І. Саламевіч, 1978, Мн.*

[Дай, божа], каб пілося, е′лася, да яшчэ хацелася! *Дуб., 17; Янк., 379; Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2; Сцяшк., 594, Іў.*

Дай, божа, разам двое: шчасця і здароўя! *Fed., 298, Вайк. п.*

Дай то, божа, штоб было гожа (прыгожа)! *Гильт., 287, Кобр. п.; Fed., 114, Вайк. п.; М. Грынблат, 1969, Стол. 8.2.14.*

Добра жыць да не тужыць! *Сержп., 70.*

Добрага здароўя ад краю да краю, ды ўсім дабра′ харошага жадаю! *І. Назіна, 1977, Стол.*

Добрым на здароўе, ліхім на безгалоўе! *Сержп., 92.*

Жадаю табе разам трое: шчасця, долі і здароўя! *Янк., 376.*

Жыві і хлеб жуй (жві)! *Fed., 368, Вайк. п.; М. Грынблат, 1977, Стаўб.*

Жыць ды маладзець, багацець ды дабрэць! *Сержп., 126.*

Жыць, пажываць ды дабро нажываць! *Янк., 376.*

За вераб'я! Пілі, елі аж да дня. *М. Грынблат, 1973, Бярэз.*

За здароўе ваша — у горла наша! *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2; І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7; І. Саламевіч, 1959, Слон.*

За здароўечка ваша! *Fed., 379, Вайк. п.*

Здароў будзь! *Паўсюдна.*

Золата бочку, сына і дочку! *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Каб бог даў табе здароўя ў ручкі, ножкі і жыватку трошкі! *І. Лушчыцкая, 1960, Нясв. 8.1.52.*

Каб было весела гуляць і ваша вяселле доўгія гады не забываць! *І. Ламека, 1965, Вайк. 13.10.2.*

Каб вам здароўя і шчасця, і дзяці́н і скаці́н (і дзяціне і скаціне)! *Ром., Бел., 298; І. Цішчанка, 1975, Слаўг. 8.75.104.*

Каб вам шчасце і здароўе, і дзяціне, і сябры́не! *Янк., 377.*

Каб вы заўсёды вясёлыя былі! *І. Цішчанка, 1975, Слаўг. 8.75.104.*

Каб высока падска́квалі! *Сержп., 91.*

Каб дачакаліся ўнукаў і праўнукаў, з якіх было цешыцца кожны дзень! [125] *І. Цішчанка, 1975, Слаўг. 8.75.104.*

Каб дачакалі цешыцца з унукаў і праўнукаў! *Янк., 378.*

Каб дзетак напладзілі і нагадавалі. *Сержп., 91.*

Каб добра жылося, каб паясніцы, як брушніцы! [126] *М. Грынблат, 1970, Ашм. 8.2.26.*

Каб доўгія лета жылі і здаровы былі і нас не забывалі! *Fed., 378, Вайк. п.*

Каб жылі, багацелі і спераду гарбацелі! *Янк. М., 138.*

Каб жылі ды красаваліся! *Сержп., 91.*

Каб жылося, былося, елася і пілося, пілося і е́лася і яшчэ хацелася! *І. Саламевіч, 1963, Мн.*

Каб здаровы былі ды багаты ды гаршком грошы мералі! *Сержп., 92.*

Каб здаровы былі і добра пілі! *М. Грынблат, 1969, Жытк. 8.2.14.*

Каб здаровы ды багаты былі! *Сержп., 91.*

Каб любіліся, як галубкі ў гняздзе! [127] *Fed., 376, Вайк. п.; І. Цішчанка, 1975, Слаўг. 8.75.104.*

Каб мы былі здаровы і бог любіў нас, а людзям і сам чорт не ўгодзіць! *Л. Гімпель, 1977, Слуцк.*

Каб нам жылося, былося, каб у нашай бульбе калоссе вялося! *Шырма, 205.*

Каб не стаяў над душою сват-прыганяты, вып'ем па пятай! [128] *Янк., 379.*

Каб не то вяселлейка, але ўнукаў і праўнукаў прычакалі! *Янк., 378.*

Каб па табе хвала′ па ўсяму свету гула′! *Дуб., 30.*

Каб пладзіліся, як авечкі, як пчолы ў вуллі! [129] *Янк., 379.*

Каб праўнукаў дачакалі ды гора не зналі! *Сержп., 91.*

Каб столькі было дочачак, колькі ў хаце дошчачак, а сынкоў, колькі ў хаце сучкоў! [130] *Янк. М., 100.*

Каб у вас было ўвесь час на стале, у місцы і ў калысцы! [131] *В. Іваноўская, 1962, Лельч. 8.1.74.*

Каб у дамочку, у садочку, у хлявочку, у полечку ўсё радзіла і пладзіла! *Fed., 377, Слон. п.*

Каб у нас вяліся свінні, авечкі і мы жылі, як чалавечкі! *Шырма, 205; Сцяшк., 594, Кар.*

Каб у нашага маладога было многа дочак і сынкоў, радасных дзянькоў! *Сцяшк., 278, Іў.*

Каб часцей страчаліся, ніякіх урагоў не баяліся! *М. Грынблат, 1969, Лун. 8.2.14.*

Колькі ў хаце вугалочкаў, каб столькі было сыночкаў! [132] *І. Саламевіч, 1976, Гродна.*

Ліхадзеям (ліхім) на безгалоўе, а добрым людзям на добрае здароўе! *Нос., 73, Вар.: Сержп., 126; Fed., 379, Вайк. п.*

Людзям на заві′сць, а нам на кары′сць! *Fed., 351, Вайк. п.*

На доўгі век, на добрае здароўе! *Нос., 84; Сержп., 91; І. Цішчанка, 1975, Слаўг. 8.75.104.*

На здароўе! *Паўсюдна.*

На здароўе нам, на злосць вам! *«Звязда», 1969, 25 мая.*

На здароўе нам, на злосць варага́м, на безгалоўе вялікім пана́м, што зайздросцяць нам! *Янк., 393.*

На здароўе нам, на безгалоўе ўсім панам. *Там жа, 382.*

На здароўечка! *М. Грынблат, 1951, Хойн.*

На пагібель таму, хто завідуець (хто вораг) каму! *Нос., 87; Fed., 379, Ваўк. п.*

Ну, будзем! — За мілае здароўе! *М. Грынблат, 1977, Глуск. 8.77.127.*

Ну, будзем здаровы! — На дабро! *Там жа, 1974, Валож. 8.74.82.*

Першым разам, лепшым часам! [133] *Сержп., 74.*

Хай цябе ніколі не міне шчасце! *М. Грынблат, 1974, Мн.*

Хлопцы, п'ямо здарова! Любемо́ся, як бог прыказаў, як кахаліся нашыя дзяды. *Fed., 379, Ваўк. п.*

## ВЯСЕЛЬНЫЯ ПРЫГАВОРКІ

Дару бойкаю, каб не была перадойкаю. [134] *І. Саламевіч, 1974, Слон.*

Дару бытам добрым, векам доўгім і моцным здароўем. *Там жа, 1969, Гродна.*

Дару грашмі і казою, каза стаіць за лазою; лаза на калыску, а грошы на сы́ску. [135] *І. Ламека, 1965, Ваўк. 13.10.2.*

Дару віна бочку — на сына і на дочку. *І. Саламевіч, 1949, Слон.*

Дару вязку цыбулі, каб не тыцкалі адно другому дулі. *Там жа, 1974, Слон.*

Дару грошы бумажныя, каб маладыя былі паважныя. *Там жа, 1977, Мн.*

Дару грошы, каб мужык быў харошы. *Там жа, 1949, Слон.*

Дару грошы медныя, каб ніколі не былі бедныя. *Там жа, 1960, Слуцк.*

Дару гру́шаваю лыжкаю, я́блыневаю міскаю і вярбоваю калыскаю, і каб не была пустая. *Там жа, 1974, Слон.*

Дару жменю медзі, каб былі дзеці як мядзведзі. *Там жа, 1977, Мн.*

Дару жы́ццем, бы́ццем, шчасцем, доляю добраю і караваем. *Шейн, III, 422, І. Радкавец, 1869, Маз. п.*

Дару казою, што над Шчарай трасе лазою. *І. Саламевіч, Слон.*

Дару каробку гліны, штоб пазвалі на радзіны. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76.*

Дару каробку жукоў, штоб не хадзіла да (каб не пазірала на) чужых мужыкоў. *А. Фядосік, 1962, Капатк. 8.1.76; І. Саламевіч, 1969, Гродна.*

Дару мерку гліны, каб хутчэй клікалі на хрысціны. *І. Саламевіч, 1974, Слон.*

Дару мех буракоў, каб не называлі адно аднаго дураком. *Там жа.*

Дару місу гароху, каб на радзіны клікалі да року. *Там жа, 1969, Гродна.*

Дару скрынку мукі, каб раджаліся сынкі. *Янк. М., 138.*

Дару табе гуску, што бегае па Глуску, а вы доўга не спіце, бяжыце ды злавіце. *Там жа.*

Дару торбу грэчкі, каб не было між маладымі ніколі спрэчкі. *І. Саламевіч, 1974, Слон.*

Дару тую цяліцу, што бегае па паліцы, і тую казу, што ломіць лазу, а вы на гэта не ўпавайце да зараней уставайце,— як толькі сонца ў шчэлі, то вы хутчэй з пасцелі. *Янк. М., 138.*

Дару чатыры падушкі, каб мелі чатыры дачушкі. *І. Саламевіч, 1960, Слуцк.*

Дарую кляновага ліста, штоб да году радзілі (каб мелі сына) гарманіста (трактарыста). *А. Фядосік, 1962, Капатк. 81. 76; І. Саламевіч, 1969, Саліг.*

Дарую цябе дугой, каб не хадзіў к другой. *С. Бахмет, 1975, Воран. Вар.: І. Саламевіч, 1974, Слон.*

Дарую цябе журналам, каб твой сын быў генералам. *С. Бахмет, 1975, Воран.*

Дарую цябе паперам, каб твой сын быў інжынерам. *Там жа.*

За тыя бацінaчкі, якія Саша стаптаў да Іркі бегаючы. *І. Саламевіч, 1969, Гродна.*

Маладому (з'еш) акрайчык, штоб быў (радзіўся) сын Мікалайчык. *Нос., 79. Вар.: Дуб., 38а; Ром., Бел., 297; Сержп., 66; Ляцкий, 13; М. Грынблат, 1970, Лаг.*

Малодка і малады́ сядзяць як галубы́. *Мат. Гом., V, 132, Ветк.*

Прашу, мая сва́ціца, з павагі, каб не было нашай Вольгачцы знявагі. *Пан., 54.*

Шчырым сэрцам вас віншую, (бо) на стале гарэлку чую. *Ляцкий, 61; Сержп., 67.*

# ВІТАННІ І ЗЫЧЭННІ

## УВАХОДЗЯЧЫ Ў ХАТУ АБО ПРЫ СУСТРЭЧЫ

Гады′ ў рады′! [1] *Шпил., Бел., 177; М. Грынблат, 1974, Лаг.*

Дабры′дзень! [2] *Касп., 89, Беш.; Раст., 86; М. Грынблат, 1971, Чэрв.*

Дабры′дзень вам! *Косич, 9.*

Дабры′дзень, да́брыдзе′нь добрым людзям! *Добр., Слов., 171, Смал. п.*

Дабры′дзень! — Кажуць, я з усякім чалавекам маю вольны дабры′дзень. *Ляцкий, 9.*

Дзень добры! [3] *Паўсюдна.*

Дзень добры! — Добрага здароўя! *М. Грынблат, 1977, Глуск. 8.77.127.*

Дзень добры старым людзям! *Касп., 140, Віц.*

Дзень добры ў хату! *Паўсюдна.*

Дзень добры ў хату! — А добры, добры! *«Ніва», 1979, № 21, Я. Чарнякевіч, Бельская гм. ПНР.*

Добрага дня! *М. Грынблат, 1975, Мн.*

Добрага ра′нку! *Там жа, 1976, Кар.*

Добрай (добрае) раніцы! *Паўсюдна.*

Добры дзень! — Добры дзень! Хай дае бог добрае! *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

Добры дзень! — Здароў! *Шейн, 503.*

З панядзелкам вас (аўторкам і г. д.)! [4] *Раст., 119.*

Здарова вам! Правіна′ ў хату, а крывіна′ ў лес! *Добр., Слов., 265.*

Здаровенькі! [5] *Раст., 86.*

Здароў! — Бывай здароў! *М. Грынблат, 1977, Глуск, 8.77.127.*

Здароў! — Жыў, здароў, хаджу без штаноў, таго й табе жадаю. *Там жа, 1978, Кар.*

Здароў! — Здароў! *Нікіф., 1928, 101; М. Грынблат, 1930, Мн.*

Здароў вам! *Добр., Слов., 265.*

Здароў вам у вашу ку′чку! [6] *Нікіф., 1928, 101.*

Здароў! — Здароў, калі змалоў! *Шатэрнік, 127, Сміл.*

Здароў! — Здароў, калі не кпіш! *Нос., 49.*

Здароў! Як жыццё? — Не бяды. *М. Грынблат, 1977, Лаг.*

Здароўце! — Хадзі ў хату.*Там жа, Стаўб.*

Здра′ствуйце! — Ціха, не бра′кайце! *Fed., 383, Ваўк. п.*

Здрастуй, добры чалавек! — Лягчы′ся з дарогі; сядзь, пасядзі. [7] *Добр., Слов., 371.*

[Здра′стуй!] — Здрастуй, калі прышоў, а што васпан скажа? [8] *Ляцкий, 13.*

[Здра′ўствуй!] — Здраўствуй, лоб красны, а патыліца голая. [9] *Нос.. 49.*

[Здраўствуй!]— Здраўствуй, нос красны, барада з надточкаю. [10] *Там жа.*

Здра′ем-жалаем, з пахмелля ўміраем (паміраем)! [11] *Ром., Бел., 296. Вар.: Ляцкий, 13.*

Маё вам шанаванне! *Бяльк., 495, Мсцісл.*

Наша вам пачце′ніе! — Нашы штаны, а вашы падштанікі. [12] *Нікіф., 1928, 104.*

Нех бэндзе пахвалёны! — На векі-вякоў! [13] *М. Грынблат, 1976, Ваўк. 8.76.113. Вар.: Шейн, 504, Гродз. п.*

Нех пахвалёны бэндзе! — Прыехалі па кале′ндзе... — Ці ўзяла матка ножкі, што відаць з-за парожкі. [14] *Ляцкий, 24.*

Няхай будзе пахвалёны, шапка сіня, верх зялёны! [15] *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

Пане′ус пахвалёны! Ці жывы, ці здаровы? Віншую вас з Новым рокам, шчасцем. Дай, божа, лепшае жыцця, здароўя і ўсенькага добрага! Каб бог захаваў ніўку, жывінку, дружынку, пры лепшых урадза′ях і пры ўсякіх памысно′сцях і грошы да зайдросці.— Дзякую табе, братко [імя]. Дай жа, божа, і

табе, братко, усенькага добрага, і тваёй дружынцы, і ніўцы, і скацінцы ўсяго таго, чаго ты сам ад бога ласка′вага жада′еш. [16] *Шейн, 505, І. Карскі, Гродз. п.*

Пахвалёны! — Наве′кі! [17] *Л. Малаш, 1971, Докш.*

Пахвалёны ў хату! [18] *М. Грынблат, 1976, Ваўк. 8.76.113.*

Прывітанне! *Паўсюдна.*

Сем лет і памяці нет, калі мы ўжэ бачыліся. *Fed., 381, Ваўк. п.*

Смачне′го! — Просім.— Спасіба. [19] *М. Грынблат, 1976, Ваўк. 8.76.113.*

Сма′шнаго! — Просім, што ў рот носім, а што ямо, то не дамо. [20] *І. Саламевіч, 1978, Слон.*

Смашнога! — Міласці просім, у свой рот носім. *В. Лашук, 1969, Мядз. 13.10.67. Вар.: І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Смашнога! — Просім за стол. — Дзякую, спазніліся, я ўжо. — О, то ў цябе яшчэ цешча крутая, маладая. [21] *Л. Малаш, 1971, Докш.*

Смашнога! — Просім, сабе носім. [22] *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

[Смашнога!] — Яшчэ свякроў жыва. [23] *Fed., 381, Ваўк. п.*

[Смашнога!] — Яшчэ твая цешча жыва.— Яшчэ добра пле′шча, але нядоўга пацягне. [24] *Fed., 380, Ваўк. п.*

Смашнога вам! — Дзякуй.— Садзіся з намі. — Дзякуй, я ўжо. [25] *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Спарына вам у чарку! [26] *Добр., 82.*

Сыць вам, людцы! [27] *Касп., 299, Беш.*

Сэрвус! [28] *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Хлеб-соль! — Просім есці. [29] *Шейн, 504, Гродз. губ.*

Хлеб да соль! — Спасіба за добрыя слова, добры чалавек. [30] *Добр., 82.*

Хлеб да соль! — Просім, за капеек восем. [31] *Fed., 380, Сак. п.*

Хлеб ды соль! — Ем, да свой, а ты міма столу, ды к полу. [32] *Шейн, 507, М. Нікіфароўскі, Пол. п.*

Хлеб ды соль! — Просім. Ядзім ды свой. [33] *Ляцкий, 53.*

Хлеб ды соль! — Садзіся, госцем будзеш. *Нар. лекс., 20, П. Садоўскі, Пол.*

Хлеб ды соль! — Хадзі к нам.[34] *Шейн, 507, М. Нікіфароўскі, Пол. п.*

Хлеб ды соль! — Ядзім, да свой, а ты ў парозе пастой.[35] *Ром., Бел., 312; Добр., 82. Вар.: Нікіф., 1928, 104; Юрч., 1977, 163.*

Ці жывенькі, ці дужэнькі? — Дзякуем. Як ты тут (там)? *Нікіф., 1928, 101.*

Ці жыў, ці дуж? — Нічога, хвала богу. Як ты? *Там жа.*

Ці ўсе ў вас дабры́, здаровы? *Добр., Слов., 171.*

Чалом вам! — Чалом табе![36] *Нікіф., 1928, 101.*

Чалом-здароў! — Чалом-здароў і табе![37] *Там жа.*

Чалом кланяюся! — Паклон табе.[38] *Там жа.*

Чэсь![39] *Л. Малаш, 1971, Докш.*

Як вам жывецца? — Жывем памаленьку, то так, то сяк. *Fed., 383, Ваўк. п.*

Як вы жывы-дужы на гэтакай сцюжы?[40] *Нікіф., 1928, 104.*

Як жывеце́? Чы дужы, чы крэпкі? — Ат! Нічога сабе, жывем, хваліць бога, памаленьку. *Шейн, 503.*

Як жывеш, як се там маешся? — От, жыву, як гарох пры дарозе. *Fed., 383, Ваўк. п.*

Як жывіце́? — Нічога сабе, жывём, хлеб жуём. *Нікіф., 1928, 104.*

Як жыў? — Памаленьку. *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

[Як здароўе?] — Пра наша здароўе і гаварыць скаромна, пра нашу мя́касць совесна і вя́каць. *Добр., Слов., 265.*

Як маешся, як жа вы там жывеце? — От, то бокам, то скокам. *Fed., 382, Ваўк. п.*

Як маецеся (маеш сабе)? — Нічога сабе, жыву патроху. Як вы? — Так сабе, мадзе́ем (перабіваемся). *Нікіф., 1928, 101; Шейн, 503.*

Як пажываеш? — Патроху пажываю. Як ты? — Мадзею. *Нікіф., 1928, 101.*

Як се ма́ешся, што чуваць? — Зіма засмуцілася, што вясна надходзіць. *Fed., 382, Ваўк. п.*

Як ты жывеш? — Такаво.[41] *Сцяшк., 492, Гродз.*

Як ты здарова, сва́тынька? *Касп. 278, Чаш.*

Як ты чуешся? *Сцяшк., 551, Астр.*

Як ужэ вы там жывеце? — То скачучы, то плачучы. *Fed., 383, Вайк. п.*

Вечар добры! *Паўсюдна.*

Добры ве́чар вам у хату! *Касп., 89, Кузняц.*

Добры вечар! [42] *Паўсюдна.*

Добры вечар вам! *Шатэрнік, 86, Сміл.*

Добры вечар вам! Ці рады вы нам? Калі вы нам рады, і мы вам да парады. *Нос., 35. Вар.: Дуб., 15; Fed., 302, Лід. п.*

Добры вечар! — Добра білі, добра е́нчыў. *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7. Вар.: Fed., 383, Вайк. п.*

Добры вечар! — Добра ўле́цеў. *І. Саламевіч, 1957, Слон.*

Добры вечар! — Карміць не́чым. *Нос., 35.*

Добры вечар, дзяўчына! Куды ідзеш? [43] *Добр., Слов., 171, Смал. п.*

Добры вечар добрым людзям! *М. Грынблат, 1971, Лаг.*

Добры вечар! — На здароўечка! *Там жа, 1977, Стаўб.*

Добры вечар у хату! *Шейн, 503.*

## РАЗВІТАННІ

Аставайся здаровы! — Бывайце здаровы, дай, божа, каб здаровыя абачыліся. *Fed., 384, Вайк. п.*

Аставайся здаровы, пайду ўжо дамоў. *Шатэрнік, 22, Сміл.*

Аставайцеся, жыве́нькія-здараве́нькія! *І. Саламевіч, 1955, Слон.*

Будзь! *М. Грынблат, 1971, Лаг.*

Будзьце жывы, здаровы! — Жыві ты з богам. *Нікіф., 1928, 101.*

Будзьце жыве́нькі, здараве́нькі! *Там жа.*

Бывай (бывайце)! [44] *Паўсюдна.*

Бывай здароў! — Ідзі здароў. *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Бывайце здаровы! [45] *Паўсюдна.*

Бывайце здаровы! Дай, божа, здаровым бачыцца. *Шейн, 504.*

Бывайце здаровы, жывіце багата! [46] *М. Грынблат, 1950, Хойн.; І. Саламевіч, 1973, Слон.*

[Бывайце]! — Ідзеце здараве́нькія! *Янк., Абр., 128.*

Да пабачэння! *М. Грынблат, 1940, Мір.; 1976, Вайк.; 1978, Іў.*

Дабра́нац! — Вазьмі (забірай) усе блохі на́нач. *Ляцкий, 9. Вар.: Fed., 383, Вайк. п.*

Дабра́нач! *М. Грынблат, 1976, Вайк.; 1978, Іў.*

Дабра́нач! — Блохі на́нач, а шчыпа́ўкі для забаўкі. [47] *Fed., 383, Вайк. п.*

Дабра́нач! — Блохі табе на́нач. *Ром., Бел., 294; Нікіф., 1928, 104.*

Дабра́нач па чыстаму полю, шырокай паста́ці. *Добр., Слов., 170, Дух. п.*

Дабра́нач, мамулька, дабра́нач! Але не той дабра́нач, што на́нач, а тэй, што на ўвесь век. [48] *Дуб., 15.*

Дабра́нец!—Бывайце ў нас (к нам). [49] *Суяшк., 135, Дзятл. Вар.: Касп., 47, Кузняц.*

Дабра́ноц! *М. Грынблат, 1976, Маст. 8.76.113.*

Дай бог лёгкі сон да свету! *Добр., 114.*

Дасьвіданійка! *М. Грынблат, 1956, Лаг.*

Дзякуй, шафярок, шчасліва, людцы! [50] *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Добрай ночы! *С. Бахмет, 1973, Мн. Вар.: Нікіф., 1928, 104.*

Жывіце здаровы, аставайцеся здаровы! *Шейн, 504.*

Заставайцеся здаровы! *Раст., 113.*

Заставайцеся здаровы! — Ідзі здарова! *М. Грынблат, 1952, Хойн.*

Затым аставайцеся здаровы! *Шатэрнік, 110, Сміл.*

Затым прашчава́йце! *Добр., Слов., 742.*

Здаровы бывайце, нас не забывайце. *Fed., 384, Вайк. п.*

Ну, бывайце! *М. Грынблат, 1976, Вайк. 8.76.113.*

Ну, на ра́зе! *Там жа, 1963, Маладз.*

Пакрыйце нашу глупасць сваім розумам! — Што вы, што вы! [51] *Нікіф., 1928, 107.*

Пакуль! *М. Грынблат, 1924, Дзярж.; 1930, Мн.; 1974, Шкл.*

Прыятнага сна — спаць да паўдня! *Ром., Бел., 307.*

Спакойнае ночы! — Спі, вытрашчыўшы вочы! *І. Саламевіч, 1966, Слон.*

Спакойнай ночы! — Аставайцеся здаровы. *М. Грынблат, 1976, Вайк. 8.76.113.*

Спакойнай ночы! — З богам шчаслівым! *Там жа.*

Спакойнай ночы! — Спаць да паўночы, а з паўночы — вытрашчыўшы вочы! *Ляцкий, 42; Ром., Бел., 309.*

Трымайся! *М. Грынблат, 1970, Ашм.*

Тымчасам! *Там жа, 1960, Мін.*

Усяго! *Паўсюдна.*

Усяго добрага! *Паўсюдна.*

Усяго найлепшага! *Паўсюдна.*

Чэсці! — Не пане′сці. [52] *Ром., Бел., 314.*

## ПРЫ РОЗНЫХ РАБОТАХ

### АГУЛЬНЫЯ

Бог на помач! — Казала бажніца: я не памашні′ца. *І. Цішчанка, 1975, Слаўг. 8.75.104.*

Бог [у] помач! *Ляцкий, 4; Fed., 379, Вайк. п.*

Божа, дапамагай (дапаможа, да памоцы)! *Fed., 379, Вайк. п.; Ляцкий, 4.*

Дай, божа, у добры час пачаць (начаць). *Fed., 208, 64.*

Няхай бог даспамага′еці! *Нікіф., 1928, 102.*

Памага′йбо! — Казалі багі′, шчоб вы памаглі′. *Нар. лекс., 114, І. Шпакоўскі, Пін.*

Памагай бог! — Дзеньку′е (дзякуй). *М. Грынблат, 1976, Вайк. 8.76.113; Н. Лявончык, 1970, Віл.*

Памагай бог! — Бог сказаў, каб і ты памагаў. *М. Грынблат, 1974. Лаг.*

Памагай (памажы) бог! — Казаў (вялеў) бог, каб (штоб) і ты памог. *Добр., 89; Юрч., 1974, 226; Н. Парукаў, 1958, Добр. 13.3.29; Д. Ваўчок, 1966, Воран. 13.10.26; Т. Холад, 1967, Кап., 13.10.20; Н. Лявончык, 1970, Віл.; І. Саламевіч, 1955, Слон.*

Памагай бог! — На бога не спадзявай, а сам памагай. *Л. Шлойда, 1969, Маладз. 13.10.64.*

[Памагай, божа!] — Памагай, божа, да й ты не лянісь, нябожа. *Нос., Слов., 327.*

Памажы, божа! — Дзякуй. *Шейн, 504; Ляцкий, 33; І. Яшкін, 1970, Слаўг.*

Памажы, божа! Каб вы здаровыя спажылі, да каб на першы дзень каляд (вялікадня) разгавеліся. *Fed., 379, Ваўк. п.*

Спе́шна табе! — Спешна, да не смешна. [53] *Добр., 108.*

Спорна вам! *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Спор у працу! *Нікіф., 1928, 103.*

## НА ПОЛІ, У ГАРОДЗЕ, НА ТАКУ

З вядро качаны́! [54] *Шейн, 508, М. Нікіфароўскі, Пол. п.*

З коласа асьміна, з зярнятка — аладка! [55] *Сержп., 126.*

Зарадзі́ бог! [56] *Добр., 51.*

Каб вам вялося! *Л. Малаш, 1971, Докш.*

Каб вы на лета дабром поўныя гумны панакладалі! *Янк., 379.*

Каб з аднаго каласочка було паўрашаточка, а з аднаго снапочка була цэла бочка! *А. Жлукцік, 1964, Кам. 13.10.66.*

Каб ты на лета дабром гумно ў скірты панакладаў! *Fed., 376, Ваўк. п.*

Карабом (корабам) сонца, сітом дождж! *Нос., 68; Ляцкий, 29.*

Мурашкі вам з падушачкамі! — Дзяньку́е. [57] *Fed., 380, Ваўк. п.*

Перанёс бог цераз сярпок, перанясі, божа, цераз душок і цапок. [58] *Крэмнеў.*

Прымакі едуць.— Дзяньку́е. [59] *Fed., 380, Ваўк. п.*

Прыспары́, божа, жыта! *Добр., Слов., 721.*

Радзі, божа! [60] *Шейн, 504.*

Радзі, божа, на ка′мені і пад каменем! — Дзякую за добрае слова. [61] *Fed., 380, Вайк. п.*

Расці, расці, жы′цейка, каласістая, караністая і ўмалотная! [62] *Бяльк., 459, Краснап.*

Сячы, сячы, дождж, на дзедаў плеш, нам на кулеш! [63] *Нос., Слов., 419.*

У арудзе спорам, а ў прудзе напорам! [64] *Дуб., 65.*

У зямлю зярна′мі, у гумно тарпа′мі! [65] *Нікіф., 1928, 103.*

Умалотна вам! [66] *Нікіф., 1928, 103.*

## ЯК СТРЫГУЦЬ АВЕЧАК

Густы і высокі верас перад вамі! — Дзяньку′ю. [67] *Fed., 381, Вайк. п.*

Каб былі кашлатыя, каб хутка ў воўну абраслі! [68] *Там жа, 380.*

## РЫБАЛОВАМ

Дай жа, божа, нашаму лаўцу з аўцу, а мне, дык хоць з я′лавіцу! *Сап., 261.*

Клёў на рыбу! [69] *Там жа, 262; Нікіф., 1928, 103.*

Лавіся, рыбка, малая і вялікая! *Сержп., 126.*

Лаўцу′ — саўцу′, браток! [70] *Касп., 176, Сір.*

Лешч, акунь, язь — на вуду! *Нікіф., 1928, 103.*

Ляшчы ды акуні! *Там жа.*

Поўна карма! *Там жа.*

Поўны сеці! [71] *Сап., 262.*

Поўны сеці рыбы! *Нікіф., 1928, 103.*

Рыбна вам! — Хуць не рыбна, дык зато юшна. *Шейн, 508, М. Нікіфароўскі, Пол. п.*

Шаболць, шчабох у карме! [72] *Нікіф., 1928, 103.*

## КАЛІ РАШЧЫНЯЮЦЬ, МЕСЯЦЬ І ПЯКУЦЬ ХЛЕБ, БЛІНЫ

Багат на ўчын! *Нікіф., 1928, 102.*

Вары, вары, Варка, прыйдзе кухарка! [73] *Fed., 381, Вайк. п.*

Вялік падходам! *Шейн, 506, М. Нікіфароўскі, Пол. п.*

Падходна вам! *Нікіф., 1928, 102.*

Прыспары', божа, хлеба-солі да канца веку! *Добр., 81.*

Скачком бліны! *Шейн, 507, М. Нікіфароўскі, Пол. п.*

Скачком бліны'! — Тарчком з ізбы'. *Нікіф., 1928, 104.*

Спарня' ў дзяжу, сын на вясну! *Касп., 289, Сен.*

Спару' ў дзяжу! — Спасіба! *І. Яшкін, 1970, Слаўг.*

Спары', божа! [74] *Шейн, 504; Нікіф., 1928, 102; Л. Малаш, 1971, Докш.; М. Грынблат, 1976, Ваўк. 8.76.113.*

Спары'ся! *Л. Малаш, 1971, Докш.*

Спор (спарына) у дзяжу! — Сто коп (рублей) у машну! *Нос., 155; Дуб., 51; Добр., Слов., 868.*

Спорня ў дзяжу! — Сто рублёў у машну! — А табе сына ў вясну! *Шейн, 506, М. Нікіфароўскі, Пол. п. Вар.: Нікіф., 1928, 104.*

У печ комам (камом), з печы волам (валом)! [75] *Нікіф., 1928, 102.*

## КАЛІ ДОЯЦЬ КАРОВУ, Б'ЮЦЬ МАСЛА, СОЛЯЦЬ МЯСА

Дай жа, божа, штолета то гэта! [76] *Шейн, 508, М. Нікіфароўскі, Пол. п.*

Комам масла! [77] *Добр., 53; Нікіф., 1928, 102.*

Малочна вам! [78] *Шейн, 508, М. Нікіфароўскі, Пол. п.*

Мяса салам! [79] *Добр., 105.*

На здароўе спажыць! [80] *Нікіф., 1928, 102.*

Няхай ідзе на спажы'так! *Сержп., 92.*

Пажывай на здароўе! *Нос., Слов., 451.*

Хай бог прыспара'е! [81] *М. Грынблат, 1976, Маст. 8.76.113.*

## КАЛІ ПРАДУЦЬ, ТКУЦЬ, БЕЛЯЦЬ ПАЛАТНО, МЫЮЦЬ БЯЛІЗНУ

Багата на ўток! *Нікіф., 1928, 103.*

Бела, бабкі мае! [82] *Нар. сл., 106, М. Крыўко, Міёр.*

Бела-чыста вам! [83] *Нікіф., 1928, 102.*

Бяло (бела) табе! [84] *Добр., 24; Л. Салавей, 1971, Мядз.; І. Яшкін, 1970, Слаўг.*

Крывіна′ ў лес, праміна′ ў кросны! [85] *Добр., Слов., 359, 745.*

Лебедзі табе (вам) ляцяць! — Дзяньку′ю. [86] *Fed., 380, Ваўк. п.*

Спешка вам і спарышка, а астанкі на ўток!— Дзянькую! [87] *Там жа, 381.*

Шоўкам лён, сястрыцы! [88] *Касп., 354, Меж.*

Што заспела, то на ўток! — А табе на платок. [89] *Добр., Слов., 588, Бельск. п.*

Што застаў, то й на стаў. [90] *Нікіф., 1928, 103.*

### КАЛІ БУДУЮЦЬ ХАТУ І НА НАВАСЕЛЛЕ

Дай, божа, табе прыждаць яшчэ, каб яна згніла за твае′ю галавою. — Дзяньку′ю. [91] *Fed., 381, Ваўк. п.*

Дай жа, божа, гэтай будынкі на пастая′нне, а вам на пражыванне! *Шейн, 508, М. Нікіфароўскі, Пол. п.*

З новаю хатаю, з новаю сялітбаю! [92] *Добр., 13.*

Ізбе на стая′ннійка, хазяіну на добрае здароўе, штоба хлебушка радзіўся і статачак пладзіўся! *Там жа.*

## У ЛАЗНІ І ІДУЧЫ З ЛАЗНІ

Дай бог сладкі дух, мужчынам рэдзьку, бабам пастарнак. [93] *Добр., Слов., 194, Ельн. п.*

З добрым парам! *Сержп., 91.*

З лёгкай парай! *М. Грынблат, 1970, Мн., Лаг.*

Каб табе паздаровіла, палепшала! [94] *Нікіф., 1928, 103, 113.*

Крэпкага духу мужом пачэсным! [95] *Там жа, 103.*

Лёгкі дух! Добра папарыцца! *Л. Малаш, 1971, Докш.*

Мужчынам пастарнак, а жонкам рэдзька. [96] *Нос., 81.*

Некалі сягаць, я прышоў цябе ў баню зваць. *Добр., Слов., 262.*

Па па′ры бані! [97] *Раст., 197.*

Паздароў, божа! [98] *Ляцкий, 32; М. Грынблат, 1969, Мін., Лаг.*

Пар па′рам, паном-баярам! [99] *Нікіф., 1928, 103.*

Па′ра-баня, лёгкі дух! [100] *Нос., 125; Добр., 2.*

Прыятнае па′ры! [101] *Раст., 197.*

Шоўкавы венік, лёгкі дух! [102] *Нос., 187.*

Штоб здараве′нькі булі′! [103] *Раст., 197.*

## ПРЫ ЗБОРАХ У ДАРОГУ

Гладкае вам дарожкі! *Янк., Дыял., III, 104, Глуск. Вар.: Янк., Абр., 59, Кар.*

Добрае вам пуці! *Янк., Дыял., III, 104, Глуск.*

З богам! *Паўсюдна.*

З богам па марозцу! *Никиф., 201.*

Каб цябе ліха ў дарозе мінавала! *Янк., 379.*

Калясом дарога! — Дзякую. *Нікіф., 1928, 103.*

Пухам дарожка! — Дзякую. *Там жа.*

Рушнічком дарога (дарожка)! *Юрч., 1977, 64.*

Сакалінага лёту! — Дзякую. *Нікіф., 1928, 103.*

У добры час! *Паўсюдна.*

Удачы! *Л. Малаш, 1971, Докш.*

Час добры на дарогу! *Юрч., 1977, 188.*

Шчасліва! *Паўсюдна.*

Шчасліва едзьце, у добры час! *Юрч., 1977, 125.*

Шчаслівае пуці! *Янк., Дыял., III, 171, Глуск.*

Шчасць, божа, на дарозе! *Нос., Слов., 720.*

## НА ПАХАВАННІ І ПАМІНКАХ

Добры чалавек быў пакойнік, няхай яму зямля пухам будзе! *Бяльк., 310, Клім.*

Каб яму зямля пяром (пушынкай)! [104] *Янк., 379.*

Каб яму лёгкая была зямля! [105] *Сержп., 92.*

Каб яму маё слова не было важкае. *Fed., 377, Ваўк. п.*

Няхай ён з богам спачываецъ і на нас з неба спаглядаецъ. [106] *Нікіф., 1928, 103.*

Няхай ён (яна) са святымі спачываецъ, нам хлеба-солі засылаецъ. [107] *Там жа.*

Няхай ён сваім дзецям сніцца. *Fed., 377, Вайк. п.*

Няхай яму вечная памяць будзе, але няхай жа і доўга нас чакае. *М. Грынблат, 1976, Кап.*

Няхай яму зямля пухам будзе! *Бяльк., 309—310, Клім.*

Няхай яму на том свеце лёгенька ікнецца! [108] *Нікіф., 1928, 103. Вар.: Нос., 72, 106; Янк., 379.*

Паікні′сь яму ляге′нька. [109] *Добр., Слов., 642.*

Пе′рушкам зямелька! *Там жа, 266.*

Пла′чмо і пра′чмо. *У. Васілевіч, 1977, Слуцк.*

Пухам яму зямелька! *Нікіф., 1928, 103.*

Пяром зямля! *Нос., 126.*

Светласць векавечная няхай яму свеціць! [110] *Нікіф., 1928, 104.*

Царства яму нябеснае! [111] *Паўсюдна.*

Чэсць яго памяці! *Нікіф., 1928, 103.*

Чэсць яму ад добрых людзей і ад бацькоўскіх (дзедаўскіх) касцей! *Там жа, 104.*

## ПРЫ ЧХАННІ

А псік да каваля з носам! [112] *Fed., 380, Вайк. п.*

А псік кошку ў ножку! [113] *Там жа.*

Будзь здарова, як карова, а плодна, як свіння! *Нос., 9; Сержп., 91.*

Будзь здаровы (здароў, здаравенькі) на ўвесь год, як калядны лёд. *Янк., 373; Сцяшк., 682, Іў.*

Будзь здароў, мей сто кароў! А мне цялушку на завод дасі. *Шейн, 504.*

Будзь здароў, будзь здароў, няхай ідуць бычкі да тваіх кароў. *Ляцкий, 5; Сержп., 66.*

Будзь здароў, як дуб, ды моцны, як зуб. [114] *Сержп., 92.*

Будзьце здаровы, чорны бровы! А мае не таковы. Калі на вашы ўважу, так я сваё ў сажу ўмажу, а вашы пераважу. *Шейн, 504.*

Вялікі расці! [115] *Сержп., 92; Мяц., 48, Стаўб. Вар.: Янк., 385.*

Вялікі (вяліка) расці, дзеўкі (хлопцы) за лоб трасці! [116] *Fed., 377, 384, Ваўк. п.*

Вялікі расці, добра гадуйся! [117] *Янк., 374.*

Вялікі расці, да шчасліў будзь! [118] *Добр., Слов., 56, Смал. п.; Нос., 13.*

Здароў! Хра́пы розна, нос далоў. [119] *Нікіф., 1928, 104.*

Каб быў здаровы, як дуб найздароўшы (скарбовы)! [120] *Fed., 378, Ваўк. п.; Янк., 377.*

Каб ты вялікі вырас (вяліка вырасла)! [121] *Fed., 377, 417, Ваўк. п.*

Чхі-чхі! — Жыві здароў! Жыві два вякі! Добрая табака да й нам да смаку. [122] *Ляцкий, 58.*

## РОЗНЫЯ ІНШЫЯ ЗЫЧЭННІ

А каб вы здаровы былі! *Fed., 418, Ваўк. п.*

А каб ты жыў-быў да здароў! *Мяц., 272, Стаўб.*

А каб цябе добра гадзіна пазнала! *Fed., 408, Ваўк. п.*

Бадай табе палепшала! *Сержп., 91.*

Бадай ты здарова з'еш! [123] *М. Грынблат, 1975, Мн.*

Бадай цябе ліха мінула! *Янк., 372.*

Барані, божа, ад буры, агню і благой жонкі. *У. Іваноў, 1958, Мн. 13.5.17.*

Благаслаўляю цябе, дзіцятка, на ўсё добрае, а на благое і сам дагадаешся. *Шпил., Бел., 175.*

Будзь багаты, як зямля! *Fed., 375, Ваўк. п.*

Будзь-на весел, як сват на вяселлі, здароў, як вада, багат, як зямля. *Шпил., Бел., 176.*

Будзьце моцненькі, крэпанькі (дужанькі)! — І табе тое самае. *Нікіф., 1928, 102.*

Вам шчасце-долю і хлеба ўволю! *Янк., 374.*

Галыш, божа, падвыш! [124] *Нос., 26.*

Дай бог вам брыкаць, весяліцца! *Добр., Слов. 42, Смал. п.*

Дай бог вам горасці не відаць і сладасці не цярпець. *Там жа, 924.*

Дай бог вам нале́та вялікі жывот за гэта, а я буду бога прасіць, каб лёгка было насіць. *Г. Барташэвіч, 1978, Мін.*

Дай бог, каб хвароба ішла на сухі лес. *М. Грынблат, 1975, Мн.*

Дай бог нашаму сідню семера ног. *Ром., Бел., 224.*

Дай бог пахварацьу добрым здароўі! *Добр., Слов., 690.*

Дай, божа, ане́льску сыць, а мядзвежу сілу. [125] *Fed,. 296, Пруж. п.*

Дай, божа, аспадарок, табе здароўя! *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

Дай, божа, вам тое, што добрыя людзі жадаюць. *Г. Барташэвіч, 1975, Уздз. 8.75.96.*

Дай, божа, здарова знасіць і на другое зарабіць. [126] *Fed., 378, Ваўк. п.*

Дай, божа, каб ворагі маўчалі, а ліхія суседзі не зналі. *Янк., 375.*

Дай, божа, каб людзі завідавалі. *Fed., 351, Ваўк. п.*

Дай, божа, лепш смяяцца, ніж плакаць. *Там жа, 304.*

Дай, божа, мяшаць свінням, да сваім. [127] *Pietk., 344.*

Дай, божа, нам (вам) такую старасць, каб бароды мохам паабрасталі. [128] *Fed., 290, Ваўк. п.*

Дай, божа, панаваць, на залатых крэслах сядаць! *Там жа, 377, Лід. п.*

Дай, божа, прадаваць (таргаваць), абы ўдому начаваць. *Там жа, 243.*

Дай, божа, старым вочы, а маладым розум. *І. Цішчанка, 1971, Брасл. 8.2.49.*

Дай, божа, табе, чаго хочацца. *І. Навакоўскі, 1969, Валож. 13.10.63.*

Дай, божа, у маладосці грызці (гладаць) косці, а пад старасць мак (мякаць). *Дуб., 13; Крэмнеў.*

Дай, божа, ужыць і з дзеткамі спажыць. *Нос., Слов., 657; Дуб., 14.*

Дай, божа, уміраць, абы не нам упярод. *Fed., 319, Ваўк. п.*

Дай, божа, шчасліва дзень перабыць і ноч пераначаваць. *Там жа, 376.*

Дай табе, божа, і быдла і збожжа! *Ляцкий, 9.*

Дай [то] бог чутае бачыць. *Ляцкий, 9; Ром., Бел., 224; Дуб., 17; І. Вайгяніца, 1965, Іў, 13.10.1; М. Бабарыкіна, 1966, Чач. 13.3.29.*

Жадаю ад сэрца вам усякага шчасця. *Суяшк., 158, Гродз.*

Жывіце дужанькі (моцненькі, крэпанькі), здаровенькі! — Жыві і ты з богам! *Нікіф., 1928, 102.*

Жычу табе цэлага сэрца. *Суяшк., 165, Ваўк.*

Здаровенькі бегай! [129] *Янк., Абр., 34, Глуск.*

Каб бог пацешыў у ножках, у ручках. [130] *Fed., 376, Слон. п.*

Каб быў здароў, як вада, каб быў багаты, як зямля! [131] *Там жа, 378.*

Каб вам яшчэ многа гадкоў смачна спалася і лёгка ўставалася! *Янк., Абр., 128.*

Каб вас ліханька не ўзяло! *Янк., 377.*

Каб вы заўсёды мелі, уволю спажывалі і бедных надара'лі. [132] *Там жа.*

Каб вы пасівелі, як галубы сівыя! [133] *Fed., 377, Ваўк. п.*

Каб гэта апошнія твае слёзы былі! *Янк., 378.*

Каб дзяды не ведалі бяды, а каб унукі не бачылі мукі! *Там жа.*

Каб добрыя людзі на камені і пад каменем разжываліся, а ліхія (благія) каб і на добрай раллі не раслі. [134] *Там жа.*

Каб ён з дзяцей цешыўся. *Сержп., 144.*

Каб ён рваўся, ды і сам у рот клаўся. *Р. Аўгусціновіч, 1969, Смарг. 13.10.76.*

Каб жылі, як галубы сівыя. *Fed., 378, Ваўк. п.*

Каб з таго семечка ды завялося насеннечка! *Сержп., 144.*

Каб ліха не зналі. *Сержп., 92.*

Каб мае мыслі ды на праўду выйшлі. *Янк., 378.*

Каб на тым і стала! *Там жа.*

Каб [на] цябе багавое! *Л. Малаш, 1971, Докш.*

Каб наша радня і прыяцелі багаты былі, а каб мы дарогі да іх не ведалі. [135] *Fed., 256, Ваўк. п.*

Каб не хварэлі ды ўвесь хлеб паелі. *Сержп., 91.*

Каб ніколі рукавок не быў за ручнічок. [136] *Янк., 379.*

Каб вочы свяцілі, а рукі рабілі. *Ройзен., 72.*

Каб спажыць у карысці, у радасці, у добрым здароўі. *Сержп., 91.*

Каб табе ў маладосці розуму прыбывала, а ў старасці вочы свяцілі! *Янк,, 379.*

Каб так дабра′, як бяды! *Fed., 27, Ваўк. п.*

Каб так дабра, як ліха! *Там жа, 164.*

Каб тваё слова богу ў вушы! *Там жа, 282.*

Каб ты жыва була′! *Т.. Новак, 1973, Ельск. 13.10.71; Fed., 419, Ваўк. п.*

Каб ты цэлы век весяліўся! *Fed., 378, Ваўк. п.*

Каб цябе бог любіў! *Ром., Бел., 298; І. Саламевіч, 1955, Слон.*

Каб цябе ліха не спаткала. *Сцяшк., 265, Гродз.*

Каб цябе мірота не знала. [137] *Я. Краміч, 1970, Глыб. 13.10.88.*

Каб яна здарова была! *Мін.-Мал., 1970, 77, Іў.*

На ката′ пацягушкі, а на дзеці расту′шкі. [138] *Шпил., Бел., 184.*

Няхай бог пасылае! *Ром., Бел., 304.*

Няхай вам бог дасць як найдаўжэй пажыць! *Fed., 375, Ваўк. п.*

Няхай вам бог напаўняе ў каморы, у аборы, у полі родзіць, у хлебе плодзіць! *Там жа, 376.*

Няхай вас бог шчасцем і доляю спатыкае! *Там жа.*

Няхай жывуць здаровыя! *Мяц., 283, Стаўб.*

Няхай здароў гаворыць! *Fed., 108, Ваўк. п.*

Няхай ліха прападзе, няхай будзе добра! *Ром., Бел., 304. Вар.: Ляцкий, 28; Янк., 383.*

Няхай нашы бычкі (цяляткі) скачуць! *Fed., 279, Вайк. п.*

Няхай нашы (вашы) конікі пабрыкваюць (брыкаюць)! *Нос., 106. Вар.: Дуб., 37; Fed., 149, Вайк. п.*

Няхай табе галава не баліць! *Fed., 101. Вайк. п.*

Няхай ты ў жыта (сена) галавой! *Нікіф., 1928, 113.*

Няхай цябе бог любіць! *Там жа.*

Няхай цябе бяда міне! *М. Грынблат, 1969, Лаг.*

Пада′й ва′ша здароў! *Нар. лекс., 113, І. Шпакоўскі, Пін.*

Прадаўжы, божа, веку добраму чалавеку. *Fed., 331, Вайк. п.*

Руса′ўка табе ў каноплях! [139] *Там жа, 381.*

Спажывайце на здароўе. *М. Грынблат, 1976, Мн.*

Хай здароўе і шчасце вас не пакідаюць! *«Ніва», 1978, № 41.*

Хай табе шчасціць у працы! *Суяшк., 566, Астр.*

Штоб цябе дзеўкі любілі! *Нос., 187; Сержп., 65.*

Я зычу вам таго, чаго сабе жадаю. *Янк., 389.*

Я табе жычу дабра, як сам сабе. *Fed., 376, Вайк. п.*

## ЗЫЧЭННІ-ЗАСЦЯРОГІ

Барані бог! *Ляцкий, 3.*

Божа бронь! *М. Грынблат, 1956, Віл.*

Бронь божа! *Там жа.*

Дай, божа, у добры час гаварыць (вы′мавіць, сказаць), у благі (ліхі, дурны) маўчаць (памаўчаць)! *Tyszk., 413; Шпил., 179; Дуб., 16; Fed., 279, 344, Вайк. п.; Pietk., 364; Д. Вайтушка, 1965, Лід., 13.10.1.*

За′днімі днямі памя′нута! [140] *Нос., 45; Dybow., 27.*

Каб з вашай лёгкай рукі разжыцца! *Сержп., 126.*

Крый божа! *М. Грынблат, 1974, Лаг.*

На векі вяком! *Сержп., 27.*

На вялікадне памянута! [141] *Нос., 82.*

На жывы час! [142] *Fed., 64, Вайк., Сак. п.*

На заднія дні няхай будзець памянута! [143] *Нос., 84.*

На раштво памянута! [144] *Нос., 87.*

Не дай бог (божа)! *Паўсюдна.*

Не давядзі, бог! *І. Гутараў, 1938, Чэр.*

Не за хлебам памянута! *Нос., 98.*

Не пастом будзь сказана! *Ляцкий, 27.*

Не перад ноччу (ночы) кажучы. *Сержп., 30; М. Грынблат, 1978. Кар.*

Не пра нас (вас) кажучы. *Сержп., 30; М. Грынблат, 1948, Мн.*

Не проці ночы кажучы! *І. Саламевіч, 1973, Слон.*

Не проці (проціў) ночы спамінаючы (гаворачы). *Fed., 287, Вайк. п.; Крапіва, 234.*

Не пры дзецях кажучы. *Мяц., 176, Стаўб.*

Не пры нас казана. *Ром., Бел., 303.*

Не пры табе (мне) пісана, *Tyszk., 427; Нос., 102; Dybow., 15.*

Не пры табе пісана, не пры мне казана. *Шпил., Бел., 186.*

Не ровен час, не ровен случа́й. *Нос., 102; Дуб., 49. Вар.: Добр., Слов., 792.*

Не тут ка́зана (кажучы)! *Нос., 104; Мяц., 176, Стаўб.*

Не ў вашай хаце спамінаючы! *Fed., 287, Вайк. п.*

Не ў гэтай хаце гаворачы! *Крапіва, 234.*

Не ў пост памянута! *Нос., 95.*

Ненасло́ў будзь сказана! *Бяльк., 287, Краснап.*

Няўрокам гаворачы (кажучы)! [145] *Сержп., 75; Ляцкий, 31; Мат., 107, В. Бекіш, Маладз.*

Няхай (хай) бог кры́е! *М. Грынблат, 1970, Мн.; Сцяшк., 126, Воран.; 103, Стаўб.*

Няхай на пярэднія дні будзець сказана! [146] *Дуб., 42.*

Па век вякоў! [147] *Fed., 331, Вайк. п.*

У вясёлым часе, у шчаслівую мінуту вам гэта сказаць. *Сцяшк., 288, Зэльв.*

У добры час кажучы. *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

Хай бог абносіць (бароніць)! *Там жа, 1978, Кар.*

Хай бог крые, ратуе! *І. Саламевіч, 1955, Слон.*

Хай бог не дае! *М. Грынблат, 1977, Акцябр. 8.77.127.*

Хай [цябе] бог сцеражэ! *Л. Малаш, 1971, Докш.; Мяц., 314, Стаўб.*

## ВЕТЛАСЦЬ, ЛАСКАВАСЦЬ

А дзіцятачка ты маё роднае! *Шатэрнік, 83, Сміл.*

А мае ж вы саколікі! *Сержп., 76.*

А мая ж ты куку′лька! *Шатэрнік, 142, Сміл.*

А мая ж ты раду′лечка! *П. Палякоў, 1960, Маг. 13.10.8.*

А мая жа любачка! *Шатэрнік, 150, Сміл.*

А мой ты брацічо′к! *П. Палякоў, 1960, Маг. 13.10.8.*

А мой ты сынок! Січа′с дам е′стачкі! *Нар. сл., 198, А. Баханькоў, Пол.*

А татачка ты мой родненькі! *Касп., 308, Сен.*

Агу, Васілёк, Васілёчак мой ма′ленькай! *Бяльк., 123, Краснап.*

Адкушайце з намі. *Касп., 13, Сен.*

Ах лабу′нька, ты лабу′нька! [148] *Добр., Слов., 378.*

Ах мае сакаляня′тко! *Сцяшк., 434, Слон.*

Ба′бачко, галу′бачко! *І. Саламевіч, 1967, Слон.*

Бабулька мая, галубка мая! *Касп., 30.*

Брату′лінька (сястру′лінька) мой (мая)! *Нікіф., 1928, 105.*

Бува′йце ка мне ў госці! *Добр., Слов., 45, Ельн. п.*

Будзьце ла′ска′вы! *Паўсюдна.*

Бярозухна ты мая белая! *Добр., Слов., 26, Смал. п.*

Вашэце проша! *Нар. лекс., 105, І. Шпакоўскі, Пін.*

Вочка малёвачка мой. *Нікіф., 1928, 105.*

Выбачайце! *Паўсюдна.*

Галубёнычка маё! *Нікіф., 1928, 105.*

Дзеткі мае, галубя′ткі мае! *Добр., Слов., 133.*

Дзіцятка маё, пітачкі (піткі) захацела. *Нар. сл., 202, А. Баханькоў, Пол.*

Дзядулічка ты мой! *Касп., 142, Беш.*

Дзякавацъ вам! *Л. Гімпель, 1977, Кар.*

Дзякуем вам за ваша добрае слова. *Fed., 384, Ваўк. п.*

Дзякуй (дзякую, дзякуем). *Паўсюдна.*

Дзякуй табе, голубе, за добрае слова. *Сержп., 124.*

Жураві′нінька мая! *Нікіф., 1928, 105.*

Зазулячка мая сівенькая! *І.Саламевіч, 1967, Слон.*

Зорынька мой ясны! *Там жа.*

Зрабіце ласку, хлеб-соль ад нас прыміце. *«Ніва», 1978, № 41.*

Зязюлінька (зязюлёк) мой! *Нікіф., 1928, 105.*

Калі ласка! *Паўсюдна.*

Ка′ліўка ты мая! [149] *Добр., Слов., 307, Росл. п.*

Коцік любы мой! *П. Палякоў, 1960, Маг. 13.10.8.*

Крывіначка ты мая! *І. Саламевіч, 1963, Слуцк.*

Кукулька, кукулінька мой! *Нікіф., 1928, 105.*

Кума-галуба! *Добр., Слов., 119.*

Ку′мынька, галу′бынька! *Там жа.*

Ласкава просім! *М. Грынблат, 1968, Валож. 8.2.1.*

Ласкава просім, капеек на восем. *Нікіф., 1928, 104.*

Ластавачка мая маленькая! *І. Саламевіч, 1967, Слон.*

Ла′сцінька, ласці′нічка маё любое! *Нікіф., 1928, 105.*

Лябе′дзька (лябе′дзінька) мой! *Там жа.*

Маеш велькі дзякуй! *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Маё ты гарбузянётка мале′нькае! *Шатэрнік, 65, Сміл.*

Малі'нінька мая! *Нікіф., 1928, 105.*

Мамачка, любачка, сахарная гу'бачка! *Н. Лявончык, 1977, Віл.*

Мамка, мамынька мой! *Нікіф., 1928, 105.*

Матка мая, кветка, чаго ты плачаш? *Мат., 115, Г. Варава, Маладз.*

Матка ты мая! [150] *Мін.-Мал., 1977, 75, Мін.*

Мая ж ты дарагая кукулька! *Касп., 170, Беш.*

Мая та'ечка, мая любая! *Бяльк., 440, Касц.*

Мая ты галовачка! *Добр., Слов., 132.*

Мая ты зязюлька, як жа ты гаруеш! *Шатэрнік, 123, Сміл.*

Мая ты саколка! *Нар. лекс., 48, І. Чыгрын, Слон.*

Мая ты цётачка, мая ты залаце'нькая! *Шатэрнік, 299, Сміл.*

Мая цяту'нько! *Суяшк., 496, Слон.*

Міла мая дзіцятухна! *Бяльк., 153, Мсцісл.*

Міласці просім! *М. Грынблат, 1974, Шкл.*

Міласці просім, капеек на восем, а калі на сем, не трэба саўсе'м. *Т. Анісавец ,1969, Лоеў. 13.10.89.*

Мілка ты мая! *Шатэрнік, 138, Сміл.*

Мой кроўнічак дарагі, дзяцёначак ты мой! *Яўсееў, 59.*

Мой сынок спа'танькі захацеў. *Суяшк., 466, Кар.*

Мой ты галубок! *Шатэрнік, 69, Сміл.*

Мой ты дзя'дзюхно! *І. Саламевіч, 1978, Слон.*

Мой ты каласок! *Шатэрнік, 126, Сміл.*

Наш дзяду'няк! *Суяшк., 145, Воран.*

Не, мой татачка, не! *Л. Гімпель, 1978, Лоеў.*

Пацягушанькі, на Ваню парастушанькі. [151] *Добр., Слов., 689.*

Пецька, петушочак мой! *Нікіф., 1928, 105.*

Прабачце! *Паўсюдна.*

Пра'уданька, маманька, пра'уданька, родная! *Касп., 249, Беш.*

Проша за стол! *Шатэрнік, 226, Сміл.*

Проша, сядайце! *Там жа.*

Проша ў хату! *М. Грынблат, 1976, Вайк. 8.76.113.*

Прыягджай, сястрыца мая дарагая, Надзенька мая родная! *Суяшк., 491, Дзятл.*

Птушанятка маё мале́нькае. *Д. Чэчка, 1978, Чэрв.*

Пыляня́тачка маё мале́нькае. *Там жа.*

Раднюсенькі мой, мілюсенькі. *В. Скідан, 1978, Хойн.*

Разбірайцеся, госці, сядайце ў нас.[152] *Суяшк. 414, Гродз.*

Расці, дочачка, паслухмянай! *Там жа, 149, Свісл.*

Родна матачка! *М. Грынблат, 1977, Акцябр. 8.77.127.*

Родны та́тухна! *С. Бахмет, 1970, Астр.*

Ры́бінько, рыбулінька мой! *Нікіф., 1928, 105.*

Садзісь, сват, тут пад багоўняй. *Бяльк., 80, Краснап.*

Сакалок, сакалочак мой! *Нікіф., 1928, 105.*

Сіротачка ты ж мая бедненькая. *Л. Малаш, 1972, Віл.*

Совінька, соўнійка мой! *Нікіф., 1928, 105.*

Сонейка маё залаценькае! *М. Грынблат, 1970, Ашм.*

Спасібо табе, сынку, што памог мне.— Нічога, цётачку. *Суяшк., 466, Вайк.*

Суседзька-лябедзька! *Касп., 297, Беш.*

Сыночак мой лю́бінькі! *С. Бахмет, 1978, Астр.*

Сыночак-яварочак мой! *Там жа.*

Сынулечка мой, лебядзюлечка! *Л. Гімпель, 1979, Кар.*

Сядайце, госцікі, за стол! *Шатэрнік, 265, Сміл.*

Сяструлька мая! *Касп., 306, Сен.*

Татка, татанька мой! *Нікіф., 1928, 106.*

Татулічка мой родненькі! *М. Грынблат, 1974, Шкл.*

Ту́тачка (куранятка, пы́лінька) мая, хадзі, падзяўбі і ты. *Яўсееў, 101; М. Грынблат, 1951, Хойн.*

Хадзі да мяне, мой каточак. *В. Скідан, 1978, Хойн.*

Хадзі сядзь, мой мале́сенькі. *Л. Гімпель, 1978, Кар.*

Хочаш е́станькі, мая дачушка? *М. Грынблат, 1951, Хойн.*

Цётухна мая міле́нькая! *І. Саламевіч, 1967, Слон.*
Чаду́лька мой дарагі! [153] *Касп., 341, Сен.*
Частуйцеся, маё цётачка. *Сцяшк., 539, Дзятл.*
Яблычак мой салодзенькі. *Л. Гімпель, 1979, Кар.*
Ягадка, ягадзінка мой! *Нікіф., 1928, 106.*
Я й за гарою вам пакланюся... [154] *Янк., Абр., 59, Кар.*
Яснулька, яснулінька мой! *Нікіф., 1928, 106.*
Ясны, я́сычка мой! [155] *Там жа.*

Каб цябе ўся трасца! *Нікіф., 1928, 111, 112.*

Каб цябе халера абкарміла (накарміла)! *І. Саламевіч, 1971, Слон.*

Каб цябе хвіля ўзяла! [159] *Нар. сл., 56, Н. Вайтовіч, Бял.*

Каб цябе хляўніком сагнала! [160] *Касп., 333, Беш.*

Каб цябе цень не чапаў! [161] *М. Грынблат, 1976, Стаўб.*

Каб цябе цыру'лікі парэзалі на мяса! [162] *Шатэрнік, 301, Пух.*

Каб цябе ця'міла! [163] *Янк., 393.*

Каб цябе ця'мнула! [164] *Бяльк., 486, Чэр.*

Каб цябе чорная воспа забрала! *Б. Атрошанка, 1966, Вайк. 13.10.29.*

Каб цябе чэрці смалою паілі-карміліі! *І. Саламевіч, 1972, Слон.*

Каб цябе чэрці тачылі! *Fed., 407, Слон. п.*

Каб цябе шкура не чапала! [165] *Юрч., 1969, 52.*

Каб цябе шулякі [раздзерлі]! [166] *Fed., 415, Вайк. п.*

Каб цябе, як сабаку, пад плотам пахавалі! *Там жа, 414, Слон. п.*

Каб цябе якая халера ўдушыла! *І. Саламевіч, 1972, Слон.*

Каб цябе яма заваліла (завярнула)! *Б. Атрошанка, 1966, Вайк. 13.10.29; І. Саламевіч, 1972, Слон.; М. Грынблат, 1976, Вайк.*

Каб я на тваіх хаўтурах кашу еў! [167] *Шейн, 515, А. Багдановіч, Барыс. п.*

Каб я цябе пахавала! *Fed., 411, Слон. п.*

Каб яго, божа, дай міленькі, на нарах вынеслі! *Там жа, Вайк. п.*

Каб яго ваўкі дагрызлі! *Мат. Гом., III, 241, Добр.*

Каб яго ваўкі ізе'лі! [168] *З нар. сл., 43, І. Лепешаў, Шчуч. Вар.: Юрч., 1969, 133.*

Каб яго душа нігды з пекла не вышла! *Fed., 407, Вайк. п.*

Каб яго душу чэрці па пеклі пхалі! *Там жа.*

Каб яго зубы мучылі! *Сержп., 144.*

Каб яго каня воўк з'еў! *Там жа.*

Каб яго крываўка ўзяла! *Там жа.*

Каб яго людзі не пазналі! *Fed., 412, Вайк. п.*

Каб яго на той свет праваліла! *Бяльк., 150, Хоц.*

Каб яго пабіла на сухой дарозе! *М. Грынблат, 1969, Мн.*

Каб яго сагнула ў сук! *Сержп., 144.*

Каб (бадай) яго свет не свяціў (не асвяціў)! *Ром., Бел., 298; Fed., 415, Вайк. п.*

Каб яго свет не свяціў і зямля не насіла! *Ляцкий, 15.*

Каб яго скорчыла! *Сержп., 144.*

Каб яго скруціла, зламала ды ў сук сагнула! *Там жа, 140.*

Каб яго сыры′ца ўзяла! [169] *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Каб яго ўзяло ды не адпусціла! *Янк., 393.*

Каб яго шата′ны на шматкі парвалі! *Сержп., 140.*

Каб яе гарачка завярнула, гэту гарэлку! *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

Каб яе ж пал спаліў! *Там жа.*

Каб яму бог здароўя не даў! *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Каб яму ваўчакі′ павылазілі! [170] *З нар. сл., 40, І. Лепешаў, Шчуч.*

Каб яму вочы павылазілі, штоб ён свету божага не бачыў! *Сержп., 144.*

Каб яму галаву завярнула на патыліцу! *Fed., 408, Вайк. п.*

Каб яму дабра не было! *Б. Атрошанка, 1966, Вайк. 13.10.29.*

Каб яму другая галава вырасла! *Сержп., 91.*

Каб яму духі выперла, дай тое, божухна-бацюхна! *Там жа, 140.*

Каб яму дыхаць не дало! *Fed., 407, Вайк. п.*

Каб яму земкачэ лопнулі! [171] *Шейн, 513, І. Карскі, Гродз. п.*

Каб яму і ў пекле спакойнасці не было! *Fed., 414, Вайк. п.*

Каб яму ліха [было]! *Сержп., 144; Шат., 113, Бяроз.*

Каб яму на гэтым не кашылася! [172] *Сержп., 144.*

Каб яму ні ў чом спору не было! *Там жа.*

Каб яму прышч на язык! *Там жа, 140.*

Каб яму ручкі пазалацелі, да па локці адляцелі! [173] *Fed., 413, Вайк. п.*

Каб яму скула села! *Сержп., 140.*

Каб яму так мазгі, рукі і ногі пакруціла, як тая вяроўка была скручана! *Fed., 411, Вайк. п.*

Каб яму так свет, які з яго работнік! *Там жа, 307, Слон. п.*

Каб яму [так] язык выперла [як гэта праўда, па яго праўдзе]! *Шейн, 513, І. Карскі, Гродз. п.; Сержп., 140; Fed., 409, Вайк. п.*

Каб яна зачысцілася [блыха ўлезла ды кусае]. [174] *Шатэрнік, 112, Сміл.*

Каб яна прутам ляжала! *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Каб яна табе трэснула, гэта твая яламуўза дурная! [175] *Цяшк., 573, Свісл.*

Каб яны нечага падохлі! *Мяц., 216, Стаўб.*

Кабы ты трэснуў! *Добр., Слов., 303.*

Каду′к цябе з′еш, пабяры (схапі)! [176] *Нікіф., 1928, 107, 112.*

Калатуха цябе калаці! [177] *Касп., 150, Сен.*

Калі б на цябе дзядзінец падкінуўся! [178] *Мат. Гом., III, 249, Рэч.*

Калом (колам яму) зямля! [179] *Нос., 66; Дуб., 27. Вар.: Сержп., 144.*

Калю′к табе ў жывот! *М. Стырнэ, 1976, Стол.*

Кара′й, божа, век! *Сержп., 55.*

Кароста табе на язык! *Нікіф., 1928, 109.*

Ка′шаль тугі′, да штоб к яму прыстаў другі′! *Нос., 60.*

Кашаль мяккі′, каб да веку такі′! *Ром., Бел., 298.*

Кідаеш, каб у гарачку цябе кінула! *Г. Барташэвіч, 1977, Саліг. 8.77.131.*

Кліб ты ні вярнуўся! [180] *Яўсееў, 58.*

Колькі там было грошыкаў, каб таквеле скул у горла села! *Fed., 414, Вайк. п.*

Коляніца цябе пасадзі! [181] *Добр., Слов., 337.*

Куды, рабая, каб цябе абабэ′ніла! [182] *Нар. сл., 24, М. Бірыла, Дзярж.*

Куды цябе нясе, каб ты апрэглася! [183] *Там жа, 25.*

Кукараку′, каб ты не дажыў вяку′! *М. Грынблат, 1978, Астр.*

Ку′рыць, каб яго поўсць куры′лася! *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Кыш, каб на вас шуляк! [184] *І. Саламевіч, 1971, Слон. 13.10.69.*

Ламі яго галава! *Нос., 74.*

Лезь ты на сухі лес! *Нікіф., 1928, 111.*

Ліха яго матары! *Мін-Мал., 1970, 68, Пух.*

Ліхач цябе ўбей! [185] *Добр., 37.*

Ліхоцце яго вазьмі! [186] *Добр., Слов., 377.*

Лопні твае вочы! *Нікіф., 1928, 108.*

Ляці на скрут шыі! *Л. Салавей ,1971, Мядз.*

Мазгі табе высахні! *Нікіф., 1928, 107.*

Май бяды даволі, а дабра ніколі! *Сержп., 21.*

Мара′ яго вазьмі! [187] *Там жа, 144.*

На табе на вяроўку! *Dybow., 14.*

Набраўся ча′ры, каб ты смалы напіўся! [188] *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Не бачыш, каб табе яны павылазілі! *І. Саламевіч, 1971, Слон. 13.10.69.*

Не ведаць табе свету белага! *Добр., Слов., 67, Смал. п.*

Не знай свайго роду-племя! *Там жа, 276, 485.*

Не панажыра′ецеся, каб вас зямля сырая накарміла! *І. Саламевіч, 1971, Слон. 13.10.69.*

Не пі, каб цябе парвала! *М. Грынблат, 1976, Кап.*

Не скарыстаеш мае крыўды — яно табе выпадкам выпадзе! *Fed., 417, Вайк. п.*

Не трасі, каб з цябе духі вытрасла! *І. Саламевіч, 1971, Слон. 13.10.69.*

Не чуеш? Каб ты зязюлькі не чуў! *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Не чуй і не відзь! *Добр., Слов., 476.*

Ні хварэй, ні балей, а так згалей! *Сержп., 26.*

Но! Каб на цябе халера! *І. Саламевіч, 1971, Слон. 13.10.69.*

Но! Каб ты аблупіўся! *Там жа.*

Но! Каб цябе воўк! *М. Грынблат, 1945, Плешч.*

Нож це ў бок! *Добр., Слов., 489, Ельн. п.*

Ну! Каб цябе дыхліна ўзяла, ваўкарэзіна паганая! [189] *Сержп., 144.*

Няма на цябе апрогліцы, каб ты вы′дах! [190] *Нар. сл., 25, М. Бірыла, Дзярж.*

Няма на цябе ніякага кана′ння! *Шатэрнік, 129, Сміл.*

Няма на цябе пропасці! [191] *Раст., 216.*

Няхай вас дванаццаць радзімцаў падсяваець! [192] *Добр., Слов., 634.*

Няхай вас (каб це) халера падушыць (узяла)! *І. Саламевіч, 1970, Слон. 13.10.69; Шейн, 517, І. Карскі, Гродз. п.*

Няхай душа з цябе перастоўпам выйдзе! [193] *Бяльк., 315, Краснап.*

Няхай ён заломіцца! *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Няхай іх паразапрэць! *З нар. сл., 242, Г. Юрчанка, Мсцісл.*

Няхай на таго вораны кракаюць, хто кажа, што я ўкраў! *Fed., 417, Ваўк. п.*

Няхай над тым варонне кракаець, хто ўкраў! *Нос., 106. Вар.: 62; Дуб., 27.*

Няхай нашы ворагі плачуць! *Янк., 394.*

Няхай разапрэ твой бок! *Яўсееў, 44.*

Няхай табе з тых дошчак труну зробяць! [194] *І. Саламевіч, 1973, Слон.*

Няхай табе крук вочы выесць! *Касп., 64, Сен.*

Няхай табе пуза на язык лезе! *Нікіф., 1928, 110.*

Няхай табе трасца з хваробай! *Там жа, 107.*

Няхай таму займе мову, хто на мяне па несправядлівасці брэша! *Fed., 411, Слон. п.*

Няхай твайго бацькі дзеткі брэшуць! *Ром., Бел., 304.*

Няхай той есці не хоча, хто чужога [дабра] хоча. *Янк., 394.*

Няхай тут усё сядзе дымам! *Fed., 407, Слон. п.*

Няхай ты спухні! *Там жа, 414, Вайк. п.*

Няхай ужы́ за сэрца цягнуць. *Добр., 37.*

Няхай усягды заўтрака чакаець! [195] *Нос., 106.*

Няхай цябе бог так слёзкамі абальець, як я абліваюсь! *Касп., 327, Сен.*

Няхай цябе запаве́траець! [196] *Бяльк., 179, Крыч.*

Няхай цябе папакрое, папарэжа! *Там жа, 359, Краснап.*

Няхай цябе ў ланцугі звяжуць! *Fed., 410, Вайк. п.*

Няхай цябе чэрві апануюць! *Нікіф., 1928, 107.*

Няхай яго агні спаляць! *Fed., 405, Вайк. п.*

Няхай яго вір парві! *Там жа, 417.*

Няхай яго душа і ў пекле дна не найдзе. *Там жа, 407.*

Няхай яго замардуець! *Ром., Бел., 304.*

Няхай яго злыдні з'ядуць. *Мат. Гом., IV, 180, Лельч.*

Няхай яго косці цягаюць сабакі! *Fed., 410, Вайк. п.*

Няхай яго ліхая гадзіна паб'ець! *Ром., Бел., 304; Ляцкий, 28.*

Няхай яго пранцы точуць! *Нос., Слов., 493.*

Няхай яго халера ўдушыць! *Б. Атрошанка, 1966, Вайк. 13.10.29.*

Няхай яму зямля каменем будзе! *Fed., 419, Вайк. п.*

Няхай яно ста́не, такое жыццё! [197] *Шатэрнік, 264, Сміл.*

Няхай яно то́нню пойдзе! [198] *М. Грынблат, 1976, Лаг.*

Нячві́лі цябе пабяры! [199] *Нікіф., 1928, 107.*

Нячы́віль цябе вазьмі! [200] *Нос., Слов., 338.*

О, каб табе бог даў вушы аблезлі! *М. Грынблат, 1977, Кар.*

О, каб це каршун! [201] *Мяц., 121, Мядз.*

От каб ты апруцянеў з такім като́м! *Шатэрнік, 20, Сміл.*

От нарабіў блытаніны, каб яму ў грудзях нарабіла! *Там жа, 32, Пух.*

Ото ж на яго ліха! *Сержп., 144.*

Па сабачай галаве! [202] *М. Грынблат, 1930, Мн.*

Пагадзі′, пагадзі′, цяпер табе скуллё, а будзіць табе муллё! *Добр., Слов., 421.*

Падавіся! *Нікіф., 1928, 109.*

Паламаў, каб табе чэрці косці паламалі! *М. Грынблат, 1976, Мн.*

Палічы (пераліч) [свае] зубы [у роце]! *Дуб., 48; Нос., 132; Сержп., 92; Нікіф., 1928, 111, 109.*

Палічы свае скулля! *Ляцкий, 33.*

Паляруш польскі цябе забей! *Добр., 37.*

Памжа цябе вазьмі! [203] *Я. Краміч, 1970, Глыб. 13.10.88.*

Памуч цябе радзімец адзін да дванаццаць гадзін! [204] *Добр., 37.*

Пасцялі цябе! [205] *Нікіф., 1928, 107.*

Пацягаў ён лён, каб яму жылы вы′цягла! *Сержп., 144.*

Перакрыш цябе вазьмі! [206] *Нос., Слов., 404.*

Пі, шчоб ты варво′лі напіўся! [207] *Нар., сл., 301, А. Крывіцкі, Г. Цыхун, І. Яшкін, Тур.*

Плачу я, каб ты век пацехі не меў! *Fed., 411, Ваўк. п.*

Плеш? Каб на сваю галаву! *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Пралік цябе разбі! [208] *Раст., 214.*

Пранцы цябе з'еш (стачы, затачы′)! *Нікіф., 1928, 107; Добр., Слов., 897.*

Прападай ты і з дабром сваім! *Ляцкий, 35; Сержп., 95.*

Прападзі з пе′лехамі! [209] *Fed., 412, Ваўк. п.*

Прападзі ты за гарэлы блін! *Нікіф., 1928, 113.*

Прах цябе вазьмі! *Ляцкий, 35.*

Прах яго секані! *Добр., Слов., 699.*

Пропасць цябе вазьмі! *Там жа, 735.*

Прышоў з лесу, ідзі сабе к лесавому бесу! *Ляцкий, 36.*

Пярун на ўскідкі цябе падмахні! [210] *Добр., Слов., 596.*

Пячонкі твае папарвісь! *Ром., Бел., 305.*

Радзімец цябе забей, француз цябе палажы. [211] *Добр., 37. Вар.: Добр., Слов., 229.*

Радзімец цябе забяры! *Нікіф, 1928, 111.*

Ражон табе ў бок (вушы)! *Там жа, 108, 109.*

Ражон табе ў горла! *Там жа, 109.*

Разадзьмі, разарві твой жывот. *Там жа, 110.*

Разарві вашы жываты! *Добр., Слов., 221.*

Разарві цябе на дванаццаць радзімцаў і з прыпадкамі.[212] *Добр., 37.*

Разнясі цябе вецер на ўсе чатыры стораны! *Ляцкий, 37.*

Расцягні цябе! [213] *Нікіф., 1928, 107.*

Рэж, еш і сохні! *Нос., 146.*

Сватаў, сватаў, каб цябе бог з свету спратаў! *Fed., 295, Ваўк., Слон. п.*

Свечку скруціў, каб яго галава скруцілася! *Сержп., 90.*

Скруціў, каб табе рукі-ногі скруціла! *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Скрыпучае палена ў калена! *Добр., Слов., 127.*

Скулка-гадавуха! *Там жа, 131.*

Скулка (скулля, скулу) табе ў бок! *Бяльк., 409, Мсціл.; Т. Малашэвіч, 1966, Воран. 13.10.28; М. Грынблат, 1970, Мн.; Сцяшк., 456, Дзятл.*

Скулка табе ў вуха! *Дуб., 55; Нос., Слов., 588.*

Скулку (трасцу) з'еш! *Нікіф., 1928, 111.*

Скулле, мулле пад бок! *Нос., 150.*

Скуллё табе на язык (у бок, у глотку сядзь, у зубы, у лупы, у пуза)! *Там жа, 108—110.*

Скуллё табе ў вушы (вочы)! *Нікіф., 1928, 108.*

Ску′лля табе! *М. Грынблат, 1974, Мн.*

Скулля табе, му′лля! *Шейн, 515, А. Багдановіч, Барыс. п.*

Скулля табе сядзь, а табе на гла′зы, а табе на язык, а табе пад язык! *Добр., Слов., 548.*

Скулу табе на язык! *М. Грынблат, 1974, Мн.*

Смяротная (смёртнік) цябе ўбей! [214] *Добр., Слов., 847.*

Соль табе ў вочы! [215] *Dybow., 18; Сержп., 75; Крапіва, 234; Нікіф., 1928, 108; М. Грынблат, 1925, Мн.*

Соль табе ў вочы, галавешка (галаўня, дзяркач, качарга) ў зубы! [216] *Л. Салавей, 1971, Мядз.; Нос., 153; Fed., 285, Ваўк. п.; Pietk., 392; Л. Корсак, 1961, Acin. 13.9.11; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29. Вар.: Добр., Слов., 124, Пар. п.*

Соль табе ў вочы, маланья́ ў зубы, громам па жывату, траскучае палена ў калена! [217] *Добр., Слов., 167, 447.*

Соль табе ў вочы, перац табе ў нос! [218] *Янк., 395.*

Спалатне́й ты! Згалей! Спапяле́й! [219] *Нікіф., 1928, 111.*

Спалі́ вас маланка! *Сцяшк., 307, Лід.*

Спарахней ты ўжо! *Касп., 289, Кузняц.*

Спохні твая галава! *Нікіф., 1928, 107.*

Спухля́ табе ў галаву! [220] *Там жа.*

Стаіць, каб яму на том свеце дуба стаяць! *Мяц., 170, Слаўг.*

Стаптаў, каб табе ногі папохлі! *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Сто гадоў жыць і сто гадоў ракам поўзаць! *Янк., 394.*

Сто цябе выкаці радзімцаў! [221] *Добр., 37.*

Сцягнуў, каб сабакі яго чаровы цягалі! [222] *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Твой пацалунак табе на той свет! *Касп., 236, Сен.*

Трасца вашай галаве (на тваю голаў)! *Fed., 416, Ваўк., Сак. п.*

Трасца твае матары! *Дуб., 60. Вар.: Раст., 158.*

Трасца тваёй пагібелі! *Ром., Бел., 311.*

Трасца, хвароба табе! *Шейн, 515, А. Багдановіч, Барыс. п.*

Трасцы на цябе не было! *А. Атрошанка, 1967, Ваўк. 13.10.29.*

Тры́ дні еш злыдні! *Нос., 164.*

Тысяча вас загадуй, замардуй, забей! [223] *Добр., Слов., 286.*

Ты́фус каб цябе ўдушыў! *М. Грынблат, 1976, Ваўк.*

Убірайся ты ў вір на каляці́ну! [224] *Добр., Слов., 337.*

Удавіся ты маім дабром! *Нікіф., 1928, 109.*

Уду́шша цябе задаві! *Касп., 377, Віц.*

Ужы́ тваю кроў так пі, як ты мяне сасе́ш! *Добр., Слов., 601.*

Узыйдзі на захад сонца! *Там жа, 258.*

Узяў, штоб жывот узяў! *Янк., Дыял., I, 165, Глуск.*

Украў ты маю кашулю, каб табе бог даў яе на смерць улажылі! *Fed., 415, Вайк. п.*

Упарадкавала? Каб ты так сваіх дзетак парадкавала! *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Усадзі сабе ў горла! *Fed., 322, Вайк. п.*

Усё яна знае, каб яе не зналі ба'цько і маці. *I. Саламевіч, 1973, Слон.*

Ухапілася за мяне, каб ты так за гарачае зялеза ўхапілася! *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Хай вам благое стане! *Мяц., 299, Стаўб.*

Хай його шы'хля трасе! *Нар. лекс., 118, I. Шпакоўскі, Пін.*

Хай ім зарве'цца! *Г. Барташэвіч, 1977, Саліг. 8.77.131.*

Хай на іх абложніцы, на такіх курэй,— увесь ячмень злажылі! [225] *Нар. сл., 101, М. Крыўко, Міёр.*

Хай на цябе чорна гадзіна! *Нар. сл., 306, А. Крывіцкі, Тур.*

Хай табе бог усё аддасць! [226] *Мяц., 307, Віл.*

Хай табе сонца не свеціць! *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Хай табе яно залозамі вылезе! *Шатэрнік, 104, Сміл.*

Хай таму дзіцятку язык адваліцца, калі на людзях бацьку няславіць! *Янк., 151.*

Хай той акалеець, хто вайны тэй хочыць! *Мат., 65, М. Ралавец, Докш.*

Хай ты апражыся! *Шатэрнік, 20, Сміл.*

Хай ты ззы'зні з етакаю работаю! [227] *Там жа, 117.*

Хай у цябе ўпад упадзець! [228] *Касп., 321, Беш.*

Хай цябе за сэ'рцо вазьме'! *I. Саламевіч, 1974, Слон.*

Хай цябе задушыць! *М. Грынблат, 1976, Вайк. 8.76.113.*

Хай цябе чорная сарочка не чапае! [229] *Мат., 120, Г. Варава, Глуск.*

Хай яго пранцы ядуць! *Мін.-Мал., 1970, 108, Уздз.*

Хай яго халера! *М. Грынблат, 1972, Мн.*

Хай яе курч возьме! [230] *Мін.-Мал., 1970, 168, Пух.*

Хай яно на пусты лес! [231] *Мяц., 293, Стаўб.*

Хай яно перуном (пылам) пойдзе! *М. Грынблат, 1951, Краснаслаб.; Мін.-Мал., 1977,55, Лаг.*

Халера цябе вазьмі (забей)! *Сержп., 144; Добр., Слов., 963.*

Хацеў Гі'тляр Маскву заваяваць. Хваробы з трасцаю яму! *Янк., Дыял., III, 169, Глуск.*

Хварата на цябе! *Добр., Слов., 957, Красн. п.*

Хварэй твае рукі-ногі! *Нікіф., 1928, 110.*

Хінь твая галава, прападзі![232] *Добр., Слов., 958.*

Хрэн табе ў вочы![233] *М. Грынблат, 1930, Мн.*

Хто мне зайздросціць, каб ён, бог даў, маею вадою ўмыўся, маім ручнікам уцёрся! [234] *Fed., 414, Ваўк. п.*

Хто мне зайздросціць, каб ён, божа, дай, міленькі, сканаў, маго жыцця не спрабаваўшы! *Там жа.*

Хто ўкраў, каб яго цела з гарачкі пачарнела! *Там жа, 414, Слон. п.*

Хуць цябе сонцам закаці! *Добр., Слов., 258.*

Целяпайся, воўк цябе рэж! [235] *Сержп., 46.*

Ціха, каб табе зарвала яно! *Шатэрнік, 108, Сміл.*

Цяў, каб зубы сцяў! *Нос., 181.*

Чаго ты грукаеш, каб табе так у галаве грукала! *Д. Чэчка, 1977, Чэрв.*

Чаго ты лупішся, каб цябе аблупілі! [236] *І. Саламевіч, 1972, Слон.*

Чаго ты разінуўся, каб табе кол у горле стаў! *Ляцкий, 57; Сержп., 144.*

Чаго ты ўз'еўся, каб цябе так свінні елі! *Ляцкий, 57.*

Чаго ты ўзяўся, каб ты ў паясе' разарваўся! *Там жа.*

Чаму ты не здох, як козы здыхалі! *Fed., 418, Ваўк. п.*

Чорт дзяры тваю галаву! *Нікіф., 1928, 107.*

Чорт цябе схапі! *Там жа, 112.*

Чох на лес, скула на нос! *Добр., Слов., 945.*

Чэмір конская цябе забей! *Добр., 37.*

Чэрві тачы тваю галаву! *Нікіф., 1928, 107.*

Што ён робіць? Гуляе. Каб ён так на ланцугу гуляў! *З. Мажэйка, 1966, Кар.*

Што ты вывернуў свае бельма, каб яны ў цябе павылазілі! *Суяшк., 50, Нав. Вар.: Слов. брян., 45, Новазыбкаўскі р-н.*

Што ты ломіш, каб табе шлункі паламала да павыкручвала! [237] *Нар. сл., 48, М. Бірыла, Дзярж.*

Штоб ёй і ўспамінаў не было! *Бяльк., 150, Хоц.*

Штоб ён і да вечара не дадыхаў! *Раст., 97.*

Штоб закрут цябе ўзяў! [238] *Добр., 37.*

Штоб ім кіпці паадсыхалі, як яны падрапалі грады. *Мат. Гом., VI, Б.-Каш., 139.*

Штоб табе і ўзвароту не было, гаду такому! *Бяльк., 455, Краснап.*

Штоб табе на том свеце хатку пастроілі. *Ройзен., 80.*

Штоб тваей душэ і ўзны́ку не было. [239] *Бяльк., 456, Краснап.*

Штоб ты драўся на сцяну! *Ройзен., 80.*

Штоб ты здзелалась карчы́гай да й качалась. [240] *Мат. Гом., IV, 216, Добр.*

Штоб ты на запад сонца ішоў і з весцімі ка мне не прышоў! [241] *Добр., 36.*

Штоб цябе змарнавіла! *Нос., 187.*

Штоб цябе так цяцюха трасла! [242] *Бяльк., 487, Касц.*

Штоб яе прах! *Мат. Гом., VI, 166, Чач.*

Я сама парэжу.— Ну, рэж, хоць сабе па кішка́х. *М. Грынблат, 1956, Віл.*

Як ты сягоння дуеш, каб табе лупы папухлі! [243] *Fed., 410, Ваўк.*

Ясі ўжо, каб цябе з'ела зоўшыца. [244] *Шатэрнік, 119, Сміл.*

## НЕСАПРАЎДНЫЯ, ЖАРТОЎНЫЯ ПРАКЛЁНЫ

А бадай (а няхай) цябе качкі стапталі (стопчуць)! *Сержп., 66; Янк., 372; Суяшк., 580, Кар.*

А бадай цябе, а няхай цябе! *І. Саламевіч, 1978, Слон.*

А бадай цябе курыца ўбрыкнула! *Л. Царанкоў, 1960, Слуцк. 13.9.2.*

А жэб цябе цвікнула! [245] *Fed., 406, Сак. п.*

А каб табе жаба цыцкі дала! *І. Саламевіч, 1971, Слон. 13.10.69.*

А каб табе пяткі назад завярнула! *Т. Новак, 1973, Ельск. 13.10.71.*

А каб ты сонца ўночы не бачыў! *Там жа.*

А каб цябе, а бадай цябе! *Ляцкий, 2.*

А каб цябе маланка спаліла на каляды! *Fed., 409, Вайк. п.; М. Грынблат, 1979, Кар.*

А каб цябе снег спаліў на Пятра! [246] *Fed., 412.*

А ліха табе... не! *М. Грынблат, 1930, Мн.*

А няхай цябе! *Бяльк., 168, Расн.*

А няхай цябе камар убрыкне! *І. Саламевіч, 1971, Слон. 13.10.69.*

А няхай цябе, няхай! *М. Грынблат, 1970, Лаг.*

А штоб цябе Кузьма ўбрыкнуў![247] *Раст., 265.*

Ах, каб на цябе ліхачка! *І. Саламевіч, 1971, Слон.*

Ах, каб цябе ў чыстым полі дзверы сціснулі! *Fed., 408, Вайк. п.*

Бадай цябе, бадай! *Янк., 372.*

Бадай цябе кот убрыкнуў! *Янк., 372.*

Бадай цябе не частуюць, а гонюць! *Ляцкий, 3.*

Згінь ты, прападзі, апроч пападзі'! *Fed., 418, Нав. п.*

Здрок яго забадай! [248] *В. Санько, 1969, Слуцк.*

Ідзі ты ў сечку з камарамі! [249] *Fed., 122, Вайк., Сак. п.*

Каб жа яго, да бадай жа яго! *Сержп., 75.*

Каб на цябе качкі! *І. Саламевіч, 1971, Слон.*

Каб рак убрыкнуў! *Нос., 58.*

Каб табе бог сем дачок даў! [250] *А. Ліс, 1970, Ашм. 8.2.27.*

Каб табе на старасць кот яйка знёс! *Леп.*

Каб так наш сабака плакаў, колькі гэтаму праўда! [251] *Fed., 269, Вайк. п.*

Каб твая вош кашляла, так ты праўду кажаш! *Там жа, 246.*

Каб ты на берагу ўтапіўся! *Нікіф., 1928, 113.*

Каб ты на вадзе́ спёкся! *Там жа.*

Каб ты сваго вялікага пальца на назе не бачыла![252] *Fed., 412, Ваўк. п.*

Каб це качкі страпяля́лі! [253] *Там жа, 409.*

Каб цябе дождж памачыў! *Нікіф., 1928, 113.*

Каб цябе качка ўбрыкнула! *Мін.-Мал., 1970, 161, Пух.; М. Грынблат, 1978, Кар.*

Каб цябе качкі з'елі, каб цябе куры затапталі, каб цябе камары затаўклі, каб цябе куры з петухамі! *Л. Малаш, 1957, Докш.*

Каб цябе мышкі качалі! *Там жа.*

Каб цябе пярун калядны забіў! *І. Цішчанка, 1975, Слаўг. 8.75.104.*

Каб цябе саракавыя танцы знялі! [254] *Fed., 415, Ваўк. п.*

Каб цябе тарканы патачылі! [255] *Касп., 308, Беш.*

Каб яго коцікі ўзялі! *Янк., 393.*

Убрыкні цябе камар! *І. Саламевіч, 1978, Мн.*

Хай ён верх галавой! *М. Грынблат, 1975, Глыб. 8.75.102.*

Хай цябе няхай! *Там жа.*

Хай яго хай! *Янк., Дыял., III, 169, Глуск.*

Халера каб цябе...не ўзяла! *М. Грынблат, 1930, Мн.*

## АДКЛЯЦЦІ

Брашы на асінавы кол! *Нікіф., 1928, 111.*

Брашы на сваю галаву! *Сержп., 5.*

За е́тыя рэчы — табе тры скулы ў плечы! *Добр., Слов., 548.*

Каб тваe кля́ты да табе ў пяты! *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Каб тваe кля́ты на сухі лес! [256] *Там жа.*

Кляні да сабе запа́зухі бяры; тваe рэчы да табе ў плечы, тваe славяса́ да табе за паяса́; пояс ад цябе не 'дходзіць, штоб тваe рэчы ад цябе не 'дхадзілі! *Добр., 38.*

Кляні, кляні, ды на сябе бяры. *Л. Салавей, 1976, Леп.*

Кляні, кляні, да сабе за пазуху! *Г. Барташэвіч, 1975, Узда. 8.75.56.*

Кляні — сабе бяры! *М. Грынблат, 1975, Хойн.*

Ліхое слова пракаўтні! *Клышка, 117.*

На цень сваю брашы! *Нос., 90.*

Няхай клянуць, да за пазуху сабе бяруць. *Там жа, 106.*

Няхай клянуць да сабе бяруць. *Сержп., 70.*

Няхай той плача, хто нам ліха жы′чыць. *Fed., 238, Вайк. п.*

Няхай тыя плачуць, што нам кепска жы′чуць. *Ляцкий, 28.*

Скулка — не мулка: ся′дзець, дык ты і зносіш! [257] *Нікіф., 1928, 113.*

Скулля — не му′лля: як сядзець табе, не зносіш! [258] *М. Суднік, 1978, Пол.*

Суха дзерава! *Добр., 38.*

Тады ты мяне свірыду′еш, тады ты мяне счараду′еш, када′ пералічытаеш на небе зве′зды, на дрэве ліст, вып′еш тры мора вады, перашчытаеш дзве гары пяску. *Добр., 38, Пар. п.*

Твае рэчы да табе ў плечы! *Добр., Слов., 554, Смал. п.; 572.*

Цыпун (ціпун, кірдзюк, стрык) табе (яму) на язык![259] *Касп., 338, Сір.; Сержп., 144; Fed., 409, 415, Вайк. п.; Фраз. сл., 311.*

## ГАНЬБАВАННЕ І АБЗЫВАННІ

А, ветрагон такі! *М. Грынблат, 1973, Лаг.*

А гэты бары′ла. [1] *Цяшк., 48, Лід.*

А гэты бастысь чаго нічога не робіць? [2] *Касп., 35, Сір.*

А гэты вы′варат чаго тут ляжыць? *І. Саламевіч, 1957, Слон.*

А гэты лыгу′н! *Цяшк., 269, Лід.*

А то ж нейкі аскалёпак. [3] *Жыв. сл., 134, В. Старычонак, Круп.*

А ты глушмань! [4] *Шат., 41, Верхнядзв.*

Абамарок! [5] *Добр., Слов., 496, Бельскі п.*

Абармот ты, гультай! *Шатэрнік, 2, Сміл.*

Абдзе′ртус (абдзіра′нтус) ты! *Fed., 401, Вайк. п.; І. Саламевіч, 1956, Слон.*

Абдуле′йка! [6] *Суяшк., 8, Лід.*

Абібок! *Сержп., 93.*

Абібочына ета! *Шатэрнік, 3, Сміл.*

Абі′згал ты бязмозгі! [7] *Касп., 3, Сен.*

Абруянт якей! [8] *Добр., Слов., 510.*

Абры′да (абрыдніца)! *Сержп., 92; Добр., Слов., 509; Мін.-Мал., 1977, Лаг.*

Абух ты тупы! *І. Саламевіч, 1959, Слон.*

Абыйдзі, дакучны чорт! *Касп., 91, Віц.*

Авечка заблудная! *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Авечка ты дурная! *Шатэрнік, 8, Сміл.*

Авечка ты закруцістая! [9] *Касп., 118, Віц.*

Аглае′д нейкі. [10] *Л. Царанкоў, 1960, Брэст. 13.9.2.*

Аглама′здак, нічога не разумее. *Мін.-Мал., 1977, 11, Нясв.; Нар. лекс., 201, М. Абабурка, Клецк.*

Адрыга ты! [11] *М. Грынблат, 1972, Круп.*

Адстань, ані′быль ты! [12] *Шат., 12, Рас.*

Адстань ты, прабыдла! [13] *Касп., 247, Еэяр.*

Адчапіся, слявя′да! [14] *Мат., 158, Н. Калоша, Кар.*

Адчапіся ты ад мяне, паганая сіла! *Сержп., 7.*

Адыдзіся адсюль, шарамэта! *Нар. лекс., 206, М. Абабурка,* Клецк.

Ай ты, склезень! [15] *Касп., 283, Кузняц.*

Ай, якая баба непралюдная! *Нар. сл., 116, М. Крыўко, Міёр.*

Акаём ты праклятыы! [16] *Раст., 40.*

Акаянная твая сіла! *Шатэрнік, 17, Сміл.*

Але ж ты і ле′дач! [17] *Суяшк., 261, Нав.*

Анучнік ён, а не купец! *Сержп., 97.*

Анцы′хрыст еты! *Шатэрнік, 19, Сміл.*

Апіва′шына гэты! [18] *З нар. сл., 54, А. Усціновіч, Нав.*

Апівош. [19] *Нар. сл., 24, М. Бірыла, Дзярж.*

Аплы′цька ты! Куды ты варт? [20] *Шатэрнік, 19, Сміл.*

Апоўзіна (апоўзлы)! [21] *Суяшк., 30, Шчуч.; Нар. сл., 65, І. Гайдукевіч, Кір.*

Апсюга′нка ты старая (стары апсюга′н)! [22] *Добр., Слов., 533.*

Апу′дала! *Сержп., 94.*

Арыштант ты (рыштант такей)! *Шатэрнік, 21, Сміл.; Добр., Слов., 13, Смал. п.*

Аскару′зак гэты! [23] *Fed., 401, Вайк. п.*

Асмалак ты чорны! *Там жа.*

Асталоп еты! *Шатэрнік, 22, Сміл.; Касп., 25, Езяр.; Яўсееў, 19.*

Ат га′ды-каўра′ды! [24] *Дуб., Нар., 2.*

Атла′ндзер! [25] *Юрч., 1966, 31.*

Аторва, кусок аторвіны! [26] *Там жа, 32; Яўсееў, 19; Бяльк., 357. Краснап.*

Атраха, хоць касмылі прычашы! [27] *Яўсееў, 19.*

Атрута! *Сержп., 95.*

Атрутнік еты! *Шатэрнік, 23, Сміл.*

Ах вы, кастаглоды! *Бяльк., 507, Краснап.*

Ах ты, анцiхрыст ты, злы дух ты! *Мяц., 74, Дзярж. Вар.: Слов. брян., 21.*

Ах ты, анцы′пар няшчасны! [28] *Касп., 21, Кузняц.*

Ах ты, баўдзі′ла ты, баўдзі′ла! *Там жа, 36, Чаш.*

Ах ты, брыда′! *Суяшк., 59, Лід.*

Ах ты, булава! *Fed., 401, Слон. п.*

Ах ты, валацуга! *Шатэрнік, 41, Сміл.; Раст., 61.*

Ах ты, віту′шнік! [29] *Шатэрнік, 47, Сміл.*

Ах ты, вы′лупак бяздушны! [30] *Касп., 64, Езяр.; Жыв. сл., 139, П. Суяцко, Зэльв.*

Ах ты, галуза ты, яшчэ ён хваліцца! [31] *Шатэрнік, 63, Сміл.; Жыв. сл., 88, С. Лобач, Чач.*

Ах ты, гіцаль, нашто ты частакол павыцягваў! *Шатэрнік, 68, Сміл.*

Ах ты, грамзу′ль! [32] *Цяшк., 127, Ваўк.*

Ах ты, гульта′іна, абібок! *Шатэрнік, 3, Сміл.*

Ах ты, дзюшка! [33] *Добр., Слов., 206.*

Ах ты, дурдзель! [34] *Fed., 402, Слон. п.*

Ах ты, жаба, яшчэ асыкаешся! *Нар. сл., 25, М. Бірыла, Дзярж.*

Ах ты, злабі′цель! *Мат. Гом., IV, 179, Жлоб.*

Ах ты, ле′жань [хуць ба што дзелаў]! *Пан., 102; Добр., Слов., 372.*

Ах ты, не′слух, бязумнік! *Добр., Слов., 483.*

Ах ты, нізграбо′цё! [35] *Цяшк., 315, Зэльв.; І. Саламевіч, 1956, Слон.; Жыв. сл., 25, А. Булыка, Нав.*

Ах ты, нямыка! [36] *Касп., 211, Чаш.*

Ах ты, плюгаўка! *Там жа, 244.*

Ах ты, погань! *Там жа, 246, Беш.*

Ах ты, рабзуй! [37] *Там жа, 261, Кузняц.*

Ах ты, раха′ва паганая! [38] *Бяльк., 587, Краснап.*

Ах ты, стары корч! *І. Саламевіч, 1959, Слон.*

Ах ты, стары храк! *Добр., Слов., 967, Смал. п.*

Ах ты, хлянту′л (пле′нтух)! [39] *Касп., 331, Кузняц.; Жыв. сл., 158, І. Чыгрын, Слон.*

Ах ты, чорт бяскішкі! [40] *Мат. Гом., III, 206, Жытк.*

Ах ты, чорт касы! *Касп., 157, Беш.*

Ах, якая ты га′дзіна! *Добр., Слов., 117.*

Аце′сліўка. [41] *Мат., 84, Е. Кавалёва, Бых.*

Аша′ра! [42] *Добр., Слов., 568.*

Баба′к гэты! [43] *Нар. сл., 25, М. Бірыла, Дзярж.*

Бабін дурань! *Tyszk., 426.*

Бабі′шча паганая! *Сержп., 97.*

Бабнік паганы! *Там жа.*

Багла′й ты лянівы! [44] *Мат. Гом., III, 181, Ветк.; Слов. брян., 25, Погарскі, Унечскі р-ны.*

Бадзяўко′ (бадзя′ўка), дзе была, туды ідзі! [45] *Касп., 31, Віц.; Нар. сл., 176, Л. Шаталава, Круп.; Нар. лекс., 6, У. Свяжынскі, Уш.*

Бажаволец ты гэтакі! [46] *Нікіф., 1928, 112.*

Байба′с ты дурной! [47] *Касп., 31, Сір.*

Балабон гэты! *Мат., 12, М. Яўневіч, Бял.; Слов. брян., 26, Трубчэўскі р-н.*

Балабэнька зноўку нагаварыў. *Нар. лекс., 194, Г. Малажай, Ганц.*

Балбе′шка ты дурная! *Раст., 48.*

Балван ты атмулёваны! *Шатэрнік, 28, Сміл. Вар.: Добр., Слов., 538.*

Балдаве′шка ты! [48] *М. Грынблат, 1975, Мн.*

Балды′ка! [49] *Мат. Гом., III, 183, Ельск.*

Баран ты чаплавухі! *Юрч., 1974, 294.*

Барэлка! [50] *Нар. сл., 6, Г. Аляксейчык, Нав.*

Басота ты! *Шатэрнік, 30, Сміл.*

Басця′ка! [51] *Мат., 134, С. Зубрыцкі, Докш.*

Баўды′ль ты! *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Баўды′р! [52] *Нар. сл., 26, М. Бірыла, Дзярж.*

Баягу′ска ты! [53] *М. Грынблат, 1976, Мн.*

Беззаботніца ты! *Нар. сл., 7, Г. Аляксейчык, Нав.*

Беспамятная авечка! *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Біндзюга′йла! [54] *Юрч, 1966, 39.*

Блы′нда (блэнда).[55] *Мат., 67, М. Ралавец, Докш.; Мат., 83, Е. Кавалёва, Бых.; Жыв. сл., 87, С. Лобач, Чач.*

Блышы′нае ты аб′еддзе! [56] *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Болбат ты праклятьі, маўчы! *Fed., 401, Слон. п.*

Болбацень! *Мат., 111, Г. Варава, Глуск.; Мін.-Мал., 1977, 21, Уздз.*

Бот! *Fed., 401, Вайк. п.*

Бот ты з левае нагі! *І. Саламевіч, 1959, Слон.*

Боўдзіла ета дурное! *Шатэрнік, 33, Сміл.; Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.7.*

Боўт дурны! *І. Саламевіч, 1955, Слон.*

Боўтка! *Мат., 135, С. Зубрыцкі, Докш.*

Браскотка (бразготка), сціхні! *Яўсееў, 25.*

Брус! [57] *Юрч., 1966, 43.*

Брухель (брухлей, брухач).[58] *Мат., 95, В. Бекіш, Маладз.; Нар. сл., 296, А. Крывіцкі, Г. Цыхун, І. Яшкін, Тур.*

Брыда', брыдота! *М. Грынблат, 1976, Мн.; Шатэрнік, 36, Сміл.; Мін.-Мал., 1977, 22, Нясв.*

Бры'дасць нейкая! *Шатэрнік, 36, Сміл.; Яўсееў, 25.*

Брыклівая кабыла! *Нос., 9.*

Брында! [59] *Нар. сл., 7, Г. Аляксейчык, Нав.; 149, А. Прышчэпчык, Стаўб.; Жыв. сл., 60, Н. Кажура, Слуцк.*

Брэндзала! [60] *Мат., 95, В. Бекіш, Маладз.*

Брэхман! [61] *Мат. Гом., III, 199, Петр.*

Булаве'шка! *Сцяшк., 62, Вайк.*

Бурку'н ты бальшы! [62] *Мат. Гом., III, 202, Ветк.*

Буса'йла еты.[63] *Бяльк., 408, Краснап.*

Бухцелка, бухціла такі! *Яўсееў, 27, 28.*

Бэйля! [64] *Нар. сл., 137, Н. Лявончык, Віл.*

Бязлюддзе ты! [65] *Юрч., 1966, 46; Добр., Слов., 25, Смал. п.*

Бязлюднік! [66] *Мат. Гом., III, 205, Карм.; Нар. сл., 7, Г. Аляксейчык, Нав.*

Бязмен ты дурны! *І. Саламевіч, 1975, Слон.*

Бязменава галава! [67] *Добр., Слов., 2, Бельскі п.*

Бязмозглы (бясклёпачны)! *Сержп., 94; Мін.-Мал., 1977, 24, Пух.*

Бязручча гэнае, усё ў яго з рук падае! *Мін.-Мал., 1977, 24, Лаг.*

Бязу'ла, бязуліца (бязульнік)! [68] *Юрч., 1966, 47; Добр., Слов., 25, Смал. п.; Яўсееў, 28.*

Бясхвоста ты каза! *Сцяшк., 68, Гродз.*

Ваёда ты, во хто! [69] *Яўсееў, 29.*

Вазгра'! [70] *Юрч., 1966, 49.*

Валанца́й! [71] *Нар. сл., 26, М. Бірыла, Дзярж.*

Валацуга [ты] праклятыі! *Бяльк., 358, Краснап.; Сержп., 94; Касп., 51, Віц.*

Валачу́га (валача́й) гэты! *Сцяшк., 72, Нав.; І. Саламевіч, 1958, Слон.; Мін.-Мал., 1977, 25, Лаг.*

Валента нейкая ды ўсё! [72] *Нар. сл., 26, М. Бірыла, Дзярж.*

Валі́за! [73] *Там жа, 298, А. Крывіцкі, Г. Цыхун, І. Яшкін, Тур.*

Варзэ́па! [74] *Добр., Слов., 51, Смал. п.*

Варона загумённая! [75] *Юрч., 1969, 181; М. Грынблат, 1971, Лаг.*

Варэпаўка! (Вярэпаўка ты!)[76] *«ЛіМ», 1972, № 40; Шатэрнік, 61, Сміл.*

Вашапру́д ты паршывы! [77] *Касп., 55, Сен.*

Вашапру́дзіна ты! [78] *Шатэрнік, 44, Сміл.*

Ведзьма з Лысае гары! [79] *Сержп., 93.*

Ведзьма ты кіеўская, сава Дуная! [80] *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7. Вар.: Добр., Слов., 108.*

Ведзьма ты з-пад чорнай гвя́зды! *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Вірзія́ ета. [81] *Бяльк., 360, Краснап.*

Віслюга такі! [82] *Раст., 66.*

Во асва́! Во смала! [83] *Ром., Бел., 292.*

Во аспідка, так аспідка, прааспідная баба! [84] *Добр., Слов., 15.*

Во гагатун, так ґагатун! *Там жа, 130.*

Во гад хітры! *Касп., 71, Кузняц.*

Во гадання́, гатова ўсіх у ложцы ўтапіць. *Жыв. сл., 130, У. Свяжынскі, Уш.*

Во га́дзіна, так га́дзіна! *Добр., Слов., 72, Смал. п.*

Во забойца няшчасны! *Касп., 112, Сен.*

Во заяда! *Нар. сл., 52, Н. Вайтовіч, Бял.*

Во і́дал! *Касп., 144, Чаш.*

Во мы́мра! [85] *З нар. сл., 126, А. Крывіцкі, Мсцісл.*

Во нейкі няўхлю́й (няўхлюя)! [86] *Касп., 152, Сен.; Мат. Гом., V, 180, Жлоб.*

Во псюк! [87] *Пан., 72.*

Во разя́па! *Бяльк., 388, Краснап.*

Во ру́мза! [88] *Там жа, 391, Мсцісл.*

Во сабачу́га! Са рта па сабакі скачыць. [89] *Добр., Слов., 854.*

Во сляпой камбал, не відзіш? [90] *Касп., 152, Гарад.*

Во ўжо нейкае вя́кала! [91] *Бяльк., 128, Мсцісл.*

Во халдзей, дак халдзей! [92] *Добр., Слов., 953.*

Во цяльпу́х! [93] *Бяльк., 486, Мсцісл.*

Во якей выйманнік! [94] *Добр., Слов., 152.*

Во якей жадоба! [95] *Там жа, 213.*

Вось галга́нцы! [96] *Мін.-Мал., 1977, 10, Лаг.*

Вот дзе жабянё праціўнае! *Шатэрнік, 92, Сміл.*

Вот дзе пераќі́днік! [97] *Там жа.*

Вот дзе ярчанё! [98] *Там жа, 317.*

Вот еты сурмі́ла, дык сурміла! [99] *Там жа, 268.*

Вот халда, дак халда! [100] *Раст., 275.*

Вот маўчу́ла: хоць бы табе слова! *Мат. Гом., V, 137, Раг.*

Воўча натура! *Fed., 340, Ваўк. п.*

Воўчая шкура! *Касп., 78, Беш.*

Вош ты апоўзлая! *Нікіф., 1928, 110.*

Вугна́ч у цябе стары́. [101] *Нар. сл., 7, Г. Аляксейчык, Нав.*

Вужака зякратая! [102] *Сержп., 93.*

Вужака ты ядавітая (праклятая)! *Нікіф., 1928, 110; Добр., Слов., 932, Ельн. п.*

Выдра [гэтакая]! *Мат. Гом., III, 221, Добр.; Сержп., 95.*

Вы́жла гэтая праклятая! [103] *Там жа, 222, Добр.; Мат., 153, Н. Калоша, Кар.; Нар. сл., 128, М. Крыўко, Міёр.*

Вырадак еты! [104] *Шатэрнік, 56, Сміл. Вар.: Касп., 66, Беш.*

Вы́шчаркі, сціхніце! [105] *М. Грынблат, 1975, Лаг.*

Вярэня! [106] *Мат., 68, М. Ралавец, Докш.*

Гагара ты даўгавязая! [107] *Нікіф., 1928, 111.*

Гад акая'нны! *Шатэрнік, 17, Сміл.*

Гад дзёрскі! *Добр., Слов., 166.*

Гад няшчасны! *Суяшк., 105, Воран.*

Гад падкалодны! *Сержп., 92; І. Цішчанка, 1973, Слаўг.*

Гад папаўзучы! *Добр., Слов., 669.*

Гад [ты] печаны! *Янк., 101; Л. Царанкоў, 1960, Мн.; Шатэрнік, 61, Сміл.; І. Саламевіч, 1957, Слон.; Яўсееў, 94.*

Гад ты гэтакі! *Сержп., 92.*

Гад ты смалены! *Шатэрнік, 61, Сміл.*

Га'даўка ты, га'даўка! *М. Грынблат, 1927, Тур.*

Га'даўская шкура. *Шатэрнік, 61, Сміл.*

Гадота цэлага свету! *Суяшк., 106, Воран. Вар.: Добр., Слов., 117, Росл. п.*

Галагу'н пракляты! [108] *Мат. Гом., III, 227, Жытк.*

Галайстра' гэтая! [109] *Мат., 153, Н. Калоша, Кар.*

Галапуз (галапупнік) ты! *Нікіф., 1928, 111.*

Галашча'п ты! [110] *Там жа.*

Галыш ты! *Бяльк., 132, Краснап.*

Гальцапа ты! [111] *Касп., 74, Беш.*

Гамза'! [112] *Юрч., 1966, 62.*

Гамза'ч ты! [113] *З нар. сл., 112, І. Яшкін, Пух.*

Гамзу'н ты! [114] *Шатэрнік, 64, Сміл.; Нар. сл., 177, Л. Шаталава, Круп.*

Гарга'ра, гарга'рына! [115] *Юрч., 1966, 63.*

Гары'да ты! [116] *Бяльк., 133, Мсціcл.*

Га'тала такі! [117] *Нар., сл., 304, А. Крывіцкі; Г. Цыхун, І. Яшкін, Тур.*

Гі'нда ты сляпая! [118] *Бяльк., 135, Краснап.*

Гі'цаль ты! *М. Грынблат, 1960, Мн.*

Гі'цаль ты, ланцужнік! [119] *Шатэрнік, 145, Сміл.*

Гламазда' еткі! [120] *Юрч., 1966, 65; Суяшк., 120, Ваўк.; Шатэрнік, 68, Сміл.; Касп., 80, Віц.*

Глума′, дай людзям пакой! [121] *Добр., Слов., 128, Пар. п.*

Глума′к глумаком! [122] *Юрч., 1966, 66.*

Глухая ты турлу′шка! [123] *Бяльк., 448, Краснап.*

Глухая цяцера! *Сержп., 92.*

Глухя′нда ты! [124] *Шатэрнік, 68, Сміл.*

Глушпе′нь (глушме′нь, глушма′н) ты! [125] *Раст., 80; Нар. сл., 29, М. Бірыла, Дзярж.; Жыв. сл., 170, Т. Юхо, Кап.*

Глыць ты, не ясі, а глытаеш! *Нар. лекс., 49, І. Чыгрын, Слон.*

Гніда ты! *Ляцкий, 8; Сержп., 94.*

Гны′пель нейкі! [126] *Нар. сл., 306, А. Крывіцкі, Г. Цыхун, І. Яшкін, Тур.*

Гойда тая! [127] *Добр., Слов., 131.*

Голы пустадом еты! *Касп., 258, Высач.*

Гопа! [128] *Нар. сл., 8, Г. Аляксейчык, Нав.*

Грыбазвон, язык у роце не памяшчаецца! *Яўсееў, 38.*

Грыбаздзіла такі! [129] *Юрч., 1966, 69.*

Гугне′ль! [130] *Сержп., 93.*

Гультай! *Там жа.*

Гультай ты несусветны! *Шатэрнік, 180, Сміл.*

Гультая кавалак! *Янк., 461.*

Гэмзала. [131] *Юрч., 1966, 73.*

Гэта рэпта! [132] *Нар. сл., 153, А. Прышчэпчык, Стаўб.*

Гэткая далігойда пайшла! [133] *Касп., 92, Сен.*

Гэты апруда! [134] *Там жа, 22, Кузняц.*

Гэты валача′й! *Сцяшк., 72, Свісл.*

Гэты валя′ч! [135] *Там жа, 75, Кар.*

Гэты галамоўза! [136] *Там жа, 108; Жыв. сл., 106, А. Прышчэпчык, Стаўб.*

Гэты дая′длы! *Нар. сл., 9, Г. Аляксейчык, Нав.*

Гэты душагубнік! *Касп., 101, Сен.*

Гэты заку′тнік! [137] *Нар. сл., 10, Г. Аляксейчык, Нав.*

Гэты каміна'рнік! [138] *Там жа,139, Н. Лявончык, Віл.*

Гэты кара'ч! [139] *Там жа, 10, Г. Аляксейчык, Нав.*

Гэты ма'кша! [140] *Сцяшк., 277, Гродз.*

Гэты мамойла і гаварыць не ўмее. *Нар. лекс., 196, Г. Малажай, Ганц.*

Гэты стары дурба'н! [141] *Нар. сл., 150, А. Прышчэпчык, Стаўб.*

Дармаед ты! *М. Грынблат, 1978, Мн.*

Даўбешка ты дурная! *І. Саламевіч, 1960, Слон.*

Даўбёнка ты асінавая! *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Дзеўка зарэзіна! [142] *Добр., Слов, 249.*

Дзеўка лята'льніца, не пасядзіць! *Там жа, 409.*

Дзёўбала, дзяўбіла! [143] *Яўсееў, 41.*

Дзяндзі'вер праклятый! [144] *І. Цішчанка, 1973, Слаўг.*

Дзярку'н ты нейкі! *Шатэрнік, 85, Сміл.*

Дзяруга ты праклятая! *Мат. Гом., III, 257, Чач.*

Доўбня ета дурная! *Шатэрнік, 36, Сміл.*

Доўбня ты! *М. Грынблат, 1971, Лаг.*

Дохля ета! *Шатэрнік, 86, Сміл.*

Дру'пала, чаго калупаешся! [145] *І. Саламевіч, 1957, Слон.*

Драма'к гэты! *Шат., 51, Браг.*

Дры'пса, спадніцу папраў! [146] *Яўсееў, 42.*

Дрэнь, а не чалавек! *Касп., 98, Беш.*

Дуда' ты дурная! *Шатэрнік, 89, Сміл.*

Дуда' ты Мамонава! [147] *Нос., 38.*

Дужа бальшэй гемо'рнік! [148] *Добр., Слов., 124.*

Дурань малёваны! *Ляцкий, 11; Сержп., 60.*

Дурвя'га! [149] *Добр., Слов., 193.*

Дурке'ша ты! *Яўсееў, 43.*

Дурная ты рагавешка! *Нар. сл., 72, І. Гайдукевіч, Кір.*

Дурніца ета лабатая! *Шатэрнік, 144, Сміл.*

Дурніца ты, дурніца! *Там жа, 89.*

Дурное палена! *Pietk., 366.*

Дуры'ла ты! *Раст., 96; Добр., Слов., 193.*

Дурэц гэты! *Нар. лекс., 50, І. Чыгрын., Слон.*

Дылда ты! *Шатэрнік, 90, Сміл.*

Дыхля'к ты! *Там жа.*

Ета дуры'нда! *Добр., Слов., 183.*

Ета кат! *Шатэрнік, 132, Сміл.*

Ета такая захода! [150] *Добр., Слов., 258.*

Етат плюгавец! *Там жа, 608.*

Еткі о'шуст! [151] *Бяльк., 300, Міл.*

Ёлуп ты! *Там жа, 164, Міл.*

Ён гнёпа! [152] *Добр., Слов., 129.*

Ён бальшэй ма'хар (махар еты)! [153] *Там жа, 405; Шатэрнік, 156, Сміл.*

Ён бальшэй паліза. [154] *Добр., Слов., 651.*

Ён кароза (карзу'й)! [155] *Добр., Слов., 313.*

Ён кастра! [156] *Там жа, 351.*

Ён махала! [157] *Там жа, 403.*

Ён таке'й абакула! [158] *Там жа, 496.*

Ён такей анучка! *Там жа, 529.*

Ён такей аслю'га, асталопіна, пянцюх! [159] *Там жа, 532.*

Ён такей каждан! [160] *Там жа, 330.*

Ён такей лісцімон! [161] *Там жа, 373.*

Ён такей марду'н! [162] *Там жа, 418.*

Ён такей нідбальшчык! *Там жа, 477.*

Ён такей пры'жма! [163] *Там жа, 711.*

Ён такі калыглаз, яму хуць глаз калі! [164] *Там жа, 308, 336.*

Ён такі макля'к, ні тое, ні сёе. *Мат. Гом., V, 127, Рэч.*

Ён такі склют! [165] *Касп., 283, Гарад.*

Ён такое пэ'ркало! [166] *Жыв. сл., 75, І. Крамко, Кар.*

Жаба апоўзлая! *Мат., 66, М. Яўневіч, Бял.*

Жаба карава′тая! *Добр., Слов., 212. Вар.: 343.*

Жаба лупа′та! *Ройзен., 70.*

Жаба мала′я! *М. Грынблат, 1930, Мн.*

Жаба ты аблезлая! *Шатэрнік, 4, Сміл.*

Жаба ты аблупленая! *Там жа.*

Жаба ты віславу′хая! *Там жа, 47.*

Жаба ты лапаву′хая! *Там жа, 145.*

Жаба ты праціўная! *М. Грынблат, 1970, Мн.*

Жагля′ўка! [167] *Янк., Абр., 34, Глуск.*

Жаўна′ языкатая! [168] *Сержп., 93.*

Жве′нькала! [169] *Яўсееў, 44.*

Жвінда ты! [170] *Нар. сл., 9, Г. Аляксейчык, Нав.*

Жмінда гэтакі! *Мат., 23, М. Яўневіч, Бял.; М. Грынблат, 1975, Мн.*

Жмойда жмецца, а не дасць. *Нар. лекс., 240, І. Яшкін, Лельч.*

Жмот (жмут) ты! *Мат. Гом., IV, 141, Карм.; Нар. сл., 139, Н. Лявончык, Віл.*

Жмура сляпая! *Добр., Слов., 228.*

Жырдагон ты несура′зны! [171] *Нікіф., 1928, 111. Вар.: Касп., 106, Езяр.*

Жэўжык ты аслібелы! *Нікіф., 1928, 111.*

Забры′нда ты! [172] *Сержп., 94.*

Забрындоха вунь пайшла! [173] *Нар. сл., 9, Г. Аляксейчык, Нав.*

Зава′ла гэта! [174] *Цуяшк., 167, Нав.; І. Саламевіч, 1959, Слон.*

Завалока, дакуль будзеш валачыціся? *Нар. лекс., 194, Г. Малажай, Іван.*

Завалюга ты! [175] *Нар. сл., 9, Г. Аляксейчык, Нав.*

Загладу′ха гэта! [176] *Цуяшк., 171, Лід.*

Загу′ба ты! *Сержп., 94.*

Зазе′ла гэта! [177] *Мат., 24, М. Яўневіч, Бял.*

Заліва′ха еты! [178] *Шатэрнік, 104, Сміл.*

Занудa етая! *Мат. Гом., IV, 164, Светл.; Цяшк., 178, Свісл.*

Зараза ты халерная! *Шатэрнік, 107, Сміл.*

Затычка ад пустой хаты (ад пустога хлява)! [179] *Янк., 472; І. Саламевіч, 1962, Мн.*

Звадыя́шка тая, толькі брахаць любіць! *Шатэрнік, 115, Сміл.*

Звы́рка, ці сціхнеш ты? [180] *Яўсееў, 50.*

Звяга ты! *Шатэрнік, 121, Сміл.*

Звяры́ца, нашто ты рабёнка б'еш? *Нар. сл., 169, У. Свяжынскі, Уш.*

Згарода ты пракляты! [181] *Касп., 130, Беш.*

Згрызак ты сабачы! *Нос., Слов., 203.*

Згу́бнік еты! *Шатэрнік, 115, Сміл.*

Здохліца (здахляціна) гэта! *Нар. сл., 32, М. Бірыла, Дзярж.; Добр., Слов., 183.*

Здыхліна паганая! *Сержп., 92.*

Здэхля гэта! *М. Грынблат, 1930, Мн.*

Зладзюга з-пад цёмнае хмары! *І. Саламевіч, 1957, Слон.*

Зладзюга (зладзі́на) ты! *Шатэрнік, 117, Сміл.; Мін.-Мал., 1977, 54, Чэрв.*

Зладзяйчук смаркаты! *І. Саламевіч, 1977, Слон.*

Зламігалава! [182] *Нос., 151.*

Злеб ты пракляты, што мучыш? [183] *Касп., 137, Кузняц.*

Злыдзень (злы́бядзень) ты гэтакі! *Шпил., Бел., 180; Яўсееў, 51.*

Змяіны вы́паўзень! *Юрч., 1972, 267.*

Змяя ты падкалодная, сіпуха, храпуха! *Добр., Слов., 967.*

Зні́чка ты! [184] *Шпил., Бел., 181.*

Зусім фяўра́ль! [185] *З нар. сл., 51, І. Лепешаў, Шчуч.*

І такая ту́йка, дык ужо з туек туйка! [186] *Касп., 313, Гарад., Кузняц.*

Ідал еты пракляты! *Шатэрнік, 123, Сміл.*

Ідал паганы! *Добр., Слов., 294.*

Ідзі, валяваха, спі! [187] *Мат. Гом., III, 209, Светл.*

Ідзі прычашыся, гі′рма! [188] *Цяшк., 119, Лід.*

Ідзі ты, кісля′к! [189] *Добр., Слов., 327.*

Ідзі ты ўжо, лы′ла еткае! [190] *Касп., 181, Беш.*

Ілгун ты такі! *Раст., 125.*

Індычка-шулдычка! [191] *Добр., Слов., 299.*

І′рад! [192] *Раст., 126.*

Іш, смаркач еты! *Там жа.*

Іш, слюнцявы разгрыба! [193] *Добр., Слов., 770.*

Іш ты скару′за! [194] *Касп., 282, Езяр.*

Кабыла бясхвостая! *Сержп., 94.*

Кабыльнік ты паганы! [195] *Там жа, 97.*

Кавалак манькута′! [196] *Янк., Дыял., І, 212.*

Ка′даўбень ты! *Нар. сл., 68, І. Гайдукевіч, Кір.*

Каза лабатая! *Добр., Слов., 330.*

Калма′ч, ідзі зачашыся! *Нар. лекс., 202, М. Абабурка, Клецк.*

Калу′пша (калупа′с) ты! [197] *Яўсееў, 54.*

Ка′луш ты! [198] *Fed., 402, Вайк. п.*

Ка′мбал ты, злодзей (крывэй)! [199] *Шатэрнік, 128, Сміл.; Добр., Слов., 309.*

Ка′мбаль касаморды! *Добр., Слов., 351.*

Капусця′ная галава! [200] *Dybow., 12; Дуб., 19; Fed., 100, Вайк. п.*

Капшу′к ты! *Шатэрнік, 130, Сміл.; Жыв. сл., 171, Т. Юхо, Кап.*

Караед еты! *Мат. Гом., IV, 211, Хойн.*

Карова ты бражная! [201] *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Кару′за, адчапіся! [202] *Мат., 114, Г. Варава, Глуск.*

Каце′ра нягодная! [203] *Раст., 134.*

Кацьма′к еты! [204] *Цяшк., 225, Кар.*

Кашлуха! [205] *Мат., 114, Г. Варава, Глуск.*

Ке′пала! [206] *Там жа, 100, В. Бекіш, Маладз.; Нар. сл., 150, А. Прышчэпчык, Стаўб.*

Кіжлун ты! [207] *Шатэрнік, 134, Сміл.; Нар. сл., 68, І. Гайдукевіч, Кір.*

Кіньце вы, абузнікі! [208] *Касп., 91, Беш.*

Клікун ты гэтакі! [209] *Шпил., Бел., 182.*

Клы´пша гэты! [210] *Жыв. сл., 24, А. Булыка, Нав.*

Кляп ты сабачы! *Нікіф., 1928, 110.*

Кобза ста´ра! [211] *Мат. Гом., IV, 238, Нар.*

Конь лупаты! *Раст., 151.*

Корга ты праклятая! [212] *Там жа, 139.*

Коржа старая! [213] *Добр., Слов., 343.*

Кот ты гэтакі! *Сержп., 93.*

Кошка аблезлая! *Там жа, 95.*

Кошла такая! [214] *Нар. сл., 69, І. Гайдукевіч, Кір.*

Крук здаровы! [215] *Добр., Слов., 364.*

Крутасвет (крутасветка)! [216] *Мат. Гом., IV, 255, Б.-Каш.; Шатэрнік, 139, Сміл.*

Круце´ль еты! *Шатэрнік, 141, Сміл.*

Крывандзя´ка ты, куды лезеш? [217] *Там жа, 139.*

Крывы чорт! *Сержп., 94.*

Кудлач ты! *Шатэрнік, 141, Сміл.*

Куды ён гож, еты зуй? [218] *Касп., 135, Кузняц.*

Куды лезеш, пара´цька! [219] *Шатэрнік, 204, Сміл.*

Куды пайшоў няве´дала? *Мат. Гом., V, 170, Ельск.*

Куды ты пайшоў, апоўзлік ты! [220] *Касп., 22, Езяр.*

Куды ты цярэбішся, кала´ндыш? [221] *Нар. сл., 79, Ф. Клімчук, І. Яшкін, Івац.*

Кундзель-мундзель (кундаль-мундаль), цюцькін (цюцькаў) сын! [222] *Ляцкий, 18; Сержп., 96.*

Кундзель ты чортаў! [223] *Бяльк., 490, Чэр.*

Курашчу´п еты! [224] *Шатэрнік, 143, Сміл.*

Курду´пель нейкі! [225] *Мат. Гом., IV, 269, Ветк.; Касп., 171, Сен.; Нар. сл., 69, І. Гайдукевіч, Кір.: 3 нар. сл., 44, І. Лепешаў, Шчуч.; Нар. лекс., 202, М. Абабурка, Клецк.*

Ку´рцік! [226] *Суяшк., 252, Маст.*

Кусок спатыкача! *Бяльк., 415, Краснап.*

Лабіду′да! [227] *Мат. Гом., V, 98, Светл.*

Лажбе′й нейкі, сабак ганяе. *Мін.-Мал., 1977, 69, Уздз.*

Лажбе′ль ты! [228] *Шатэрнік, 144, Пух.*

Лазавік ты! [229] *Там жа, Сміл.*

Ла′йбус! Паесь і спіць. *Яўсееў, 62.*

Лантух такі! [230] *Нар. сл., 11, Г. Аляксейчык, Нав.*

Лапату′ ты, лапату′ха! *Шатэрнік, 145, Сміл.*

Лапу′цішча! [231] *Мат. Гом., V, 103, Гом.*

Лахады′м, гуляка! *Там жа, 106.*

Лахня′ баба! [232] *Сцяшк., 573, Ваўк.*

Лахта′ ты! [233] *Шат., 96, Верхнядзв.*

Лаху′дра [энта]! *Мяц., 203, Валож.; Нар. сл., 151, А. Прышчэпчык, Стаўб.; Яўсееў, 63; Нар. лекс., 229, І. Лучыц-Федарэц, Драг.*

Лаху′дрыца йна, больш нічога! *М. Грынблат, 1974, Лаг.*

Ле′галь ты! *Мат. Гом., V, 108, Акцябр.*

Лежабок гэты! *Пан., 101.*

Лобус гэты! [234] *Жыв. сл., 144, П. Сцяцко, Зэльв.*

Лежань ты пятроўскі! [235] *Раст., 149. Вар.: Слов. брян., 39, Трубчэўскі р-н.*

Логмін гэты! [236] *Жыв. сл., 108, А. Прышчэпчык, Стаўб.*

Лось здаровы! *Добр., Слов., 381.*

Лось ты гарбаты! *Мяц., 202, Стаўб.*

Лотаўка ты дурная! [237] *Касп., 173, Кузняц.*

Лоўма ты з канапель! [238] *І. Саламевіч, 1955, Слон.*

Лыка ты свіное! *Шатэрнік, 150, Сміл.*

Лыхта (лэхта) гэта! [239] *Нар. сл., 35, М. Бірыла, Дзярж.; Жыв. сл., 108, А. Прышчэпчык, Стаўб.*

Лэпа ты! [240] *Сцяшк., 270, Кар.*

Ля′біх ты етакі! [241] *Раст., 153.*

Ляда′шцікава вока! [242] *Шпил., Бел., 183.*

Ляда′шчыца ты гэтакая! [243] *Сержп., 97.*

Ляжа′й гэты, адно па печы качаецца! *Жыв. сл., 144, П. Суяцко, Зэльв.*

Ля′йда, перастань выдумляць! [244] *Сцяшк., 272, Свісл.*

Лякотка гэта! [245] *Нар. сл., 36, М. Бірыла, Дзярж.*

Ляпёха, не было ў цябе паняцця і не будзець! [246] *Юрч., 1969, 182.*

Мажджэр гэты дурны! [247] *Мін.-Мал., 1970, 76, Уздз.*

Мазгаўня′ твая дурная! *Шатэрнік, 152, Сміл.*

Мазепа ты! [248] *Мат. Гом., V, 124, Нар.; Жыв. сл., 108, А. Прышчэпчык, Стаўб.*

Ма′зя гэтая, мазю′ка! *Жыв. сл., 156, І. Чыгрын, Слон.*

Макотра ты! [249] *Fed., 403, Слон.*

Маламы′слены гэты! *М. Грынблат, 1952, Хойн.*

Малатарня пустая! [250] *Янк., 222; Шатэрнік, 153, Сміл.*

Малізы′нка ты, усё табе ні ў лад! [251] *Нар. сл., 171, У. Свяжынскі, Уш.*

Малінавая галава! [252] *Добр., Слов., 387, Ельн. п.*

Малпа гэтакая! *Сержп., 93.*

Мама′й такі! [253] *Янк., Дыял., III, 62, Глуск.*

Мамін дурань! *Dybow., 13; Fed., 85, Вайк. п.*

Манцапэла тая! [254] *Мяц., 295, Лаг.*

Манце′ль, ой манцель! [255] *М. Грынблат, 1974, Шкл.; Шатэрнік, 1954, Сміл.; Мат., 74, М. Ралавец, Бял.*

Мань ты несусветны! [256] *Шатэрнік, 154, Сміл.*

Маньку′т еты! [257] *Мат., 115, Г. Варава, Маладз.*

Мара′, адчапіся ад мяне. *Нар. лекс., 110, І. Шпакоўскі, Пін.*

Мармы′ля! [258] *Мат., 142, С. Зубрыцкі, Докш.*

Маруда ты такая! *Раст., 157.*

Матон — о, нама′не! [259] *Нар. сл., 53, Н. Вайтовіч, Бял.; Мат. Гом., V, 135, Жлоб.*

Матлахон той! [260] *Мат., 101. В. Бекіш, Маладз.*

Матчына рохля! [261] *Сержп., 96.*

Маўчы ты, буркала (бо́мкало)! *Добр., Слов., 44, Смал. п.; І. Саламевіч, 1963, Слон.*

Маўчы ты лепей, падты́ка! [262] *Шатэрнік, 191, Сміл.*

Маўчы ты, перарэза! [263] *Там жа, 215.*

Махале́я [264] *Юрч., 1966, 128.*

Машнарэз ты! [265] *Нікіф., 1928, 111.*

Мех еты, сеў, дык і прыкіпеў! *Шатэрнік, 157, Сміл.*

Мех ты напханы, швідчэй варушыся! *І. Саламевіч, 1962, Слон.*

Мокрая ты курыца! *Сержп., 94.*

Морма (мырма), да й толькі! [266] *Мат. Гом., V, 142, Хойн.; Жыв. сл., 172, Т. Юхо, Кап.*

Му́ма ты такая! [267] *Раст., 162.*

Мурза папова! [268] *З нар. сл., 164, М. Яшчыкоўская, Маз. Вар.: Сержп., 13.*

Мурзэля няшчасны! *Нар. лекс., 203, М. Ababурка, Клецк.*

Мухамор стары! *Добр., Слов., 403, Пар. п.*

Муцель! Дня не выжывеш, каб не змуціць! *І. Саламевіч, 1957, Слон.*

Мыш падсмаленая! *Нос., 81.*

Мышапор той! [269] *Мат., 102, В. Бекіш, Маладз.*

Мядзведзь еты кашлаты! *Касп., 160, Беш.*

Мяке́ка гэты! [270] *Жыв. сл., 145, П. Суяцко, Зэльв.*

Набіва́нка ты! [271] *Раст., 163.*

На́валач ты! *І. Саламевіч, 1975, Слон.*

На́валачка гэты! *Жыв. сл., 145, П. Суяцко, Зэльв.*

Нагу́ла! Яму кажы адно, а ён — другое! [272] *Мат., 142, С. Зубрыцкі, Докш.*

Нака́снік (на́кась) ты такі! [273] *Раст., 167; Яўсееў, 71.*

На́лпа ты! [274] *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Настаяшчы халдэй, а не баба! [275] *Касп., 327, Сен.*

Насяка́нік ты, усюдых паспееш! [276] *Добр., Слов., 466.*

Насяка́нка ета! [277] *Нар. сл., 70, І. Гайдукевіч, Кір.*

Начва́ч гэты! [278] *Жыв. сл., 146, П. Суяцко, Зэльв.*

Не дзеўка, а калода. *Добр., Слов., 334.*

Не назаляй ты мяне, назола! *Шатэрнік, 166, Сміл.*

Не сёрбай, сярбун! *Добр., Слов., 825.*

Не туды пазіраеш, кот ты сляпы! *Шатэрнік, 193, Сміл.*

Не чалавек, а аглобля! *Добр., Слов., 519.*

Не чалавек, а зелле! [279] *Там жа, 266.*

Не чалавек, а кісляццё! [280] *Там жа, 322.*

Не чалавек, а палена! *Там жа, 657.*

Не́гадзь ты такая! *Раст., 173.*

Недаве́рак (недавя́рак) ты! [281] *Бяльк., 285, Мсціс.; Шатэрнік, 175, Сміл.; Нар. сл., 38, М. Бірыла, Дзярж.*

Недатыка такая! *Раст., 174.*

Не́людзь нейкі (нейкая)! *Шатэрнік, 176, Сміл.; Касп., 206, Лёзн.*

Не́паварацень ты! *Сержп., 95.*

Непакора ета! *Шатэрнік, 176, Сміл.*

Нехляма́жны (нехлямя́жы ты)! [282] *Суяшк., 318, Вайк. Вар.: Нар. сл., 12, Г. Аляксейчык, Нав.*

Не́хрысць еты! *Шатэрнік, 177, Сміл.*

Нечупа́зы ты! [283] *Раст., 177.*

Ніколі твае вочы не высыхаюць, слімаза́! [284] *Нар. сл., 173, У. Свяжынскі, Уш.*

Ніхлю́й (ніхлю́іна, няхлюйка) ты! [285] *Нікіф., 1928, 111; Жыв. сл., 64, Н. Кажура, Слуцк.*

Но, маўчы, няўвега! [286] *Добр., Слов., Бельскі п.*

Но-о! Абэржа старая! [287] *І. Саламевіч, 1966, Слон.*

Но-о! Ваўкарэзіна ты! [288] *Мат. Гом., III, 211, Жлоб.*

Нохаль! [289] *Мат., 143, С. Зубрыцкі, Докш.*

Ну, гаўка, хадзі ты сюды! [290] *Добр., Слов., 115.*

Ну, і апушчонік! [291] *Нар. сл., 136, Н. Лявончык, Віл.*

Ну, і асталопіна ж ты! *Касп., 25, Сен.*

Ну, і выперлася, дрында! *Сцяшк., 153, Маст.*

Ну, і вы′смал! [292] *Нар. сл., 66, І. Гайдукевіч, Кір.*

Ну, і додаль ты! [293] *Жыв. сл., 62, Н. Кажура, Слуцк.*

Ну, і ўбоіна! [294] *Сцяшк., 508, Слон.*

Ну, і цяльпук жа ты! *Шатэрнік, 302, Сміл.*

Ну й жы′ла! *Шатэрнік, 95, Сміл.; Мін.-Мал., 1977, 47, Чэрв.*

Ну й какора ж ён! [295] *Мат. Гом., IV, 195, Гом.*

Ну й лагіза (лакі′за)! [296] *Шатэрнік, 144, Пух.; Мат. Гом., V, 101, Рэч.*

Ныцька ты, ныцька! *Добр., Слов., 492.*

Нэндза ты! *Жыв. сл., 166, В. Шапялевіч, А. Шапялевіч, Кам.*

Ню′ня, ці сціхнеш ты выць? *Яўсееў, 75.*

Нягодніца ты такая! *Раст., 138.*

Нядбайнік еты! *Шатэрнік, 180, Сміл.*

Нядошліца ета! *Там жа.*

Нямыцька, ідзі памыйся! *Там жа.*

Ня′ўдаль гэты! *Сержп., 93.*

Няўлю′ддзе ты! [297] *Бяльк., 284, Краснап.*

Няўмека ты! *Раст., 177.*

Нячысты дух! *Сержп., 93.*

О, га′дзіна ты! *Нар. сл., 301, А. Крывіцкі, Г. Цыхун, І. Яшкін, Тур.*

О, ёлуп! *Мат. Гом., III, 181, Светл.*

О, калека, о, няўмека, о, дурны! *Нар., сл., 303, А. Крывіцкі, Г. Цыхун, І. Яшкін, Тур.*

О, нячыстая сіла! *М. Грынблат, 1976, Стаўб.*

Ой, і болмат жа ты! [298] *Слов. брян., 67, Погарскі р-н.*

Ой, шалата′! [299] *Жыв. сл., 165, В. Шапялевіч, А. Шапялевіч, Пін.*

От ад′яда сэрца! *І. Саламевіч, 1977, Слон.*

От бэста, нічога не ўмееш зрабіць акуратненька! *Жыв. сл., 60, Н. Кажура, Слуцк.*

От ва′нтух! [300] *Там жа, 242, Г. Малажай, Кам.*

От ваўкачэча ты праклятыl *Там жа, 61, Н. Кажура, Слуцк.*

От дзе кавадла дурная: але нічога не панімае! *Шатэрнік, 125, Сміл.*

От дзе каламашка, толька соўгаецца па двары! *Там жа, 126.*

От еты канарэз пракляты. *Мат. Гом., IV, 241, Хойн.*

От жа дзераза′! *Мат., 113, Г. Варава, Глуск.*

От жарлю′к! *Нар. лекс., 195, Г. Малажай, Пін.*

От жлоб! [301] *Шат., 55, Хойн.; І. Саламевіч, 1977, Мн.*

От лама′ка! *М. Грынблат, 1969, Лаг.; Мат., 141, С. Зубрыцкі, Докш.*

От маздан дурны! [302] *Шатэрнік, 152, Сміл.*

От нейкая мяліца! *Там жа, 162.*

От салапе′нда! *Жыв. сл., 84, І. Крамко, Кар.*

От салапя′ка! *Шатэрнік, 252, Сміл.*

От такой буйла! [303] *Добр., Слов., 43, Смал. п.*

От чарці′ха! [304] *Сцяшк., 548, Іў.*

От шале′паўка баба! [305] *Шат., 197, Бяроз.*

От шэ′пшаль! [306] *Мат., 131, М. Гуліцкі, Лях.; Жыв. сл., 177, Т. Юхо, Кап.*

Ох звяга, от і надаеда! *Мат. Гом., IV, 177, Жлоб.*

Ох ты, грыбаты! [307] *Там жа, III, 237, Ветк.*

Ох ты, лала′, лала′! [308] *Добр., Слов., 367.*

Пабягу′ха! [309] *Мат., 116, Г. Варава, Маладз.*

Пава′ла ета! [310] *Шатэрнік, 183, Сміл.*

Павук паганы! *Сержп., 93.*

Паганая твая косць! *Там жа.*

Падажджы, су′здаль! [311] *Бяльк., 425, Краснап.*

Падліза ты! *Сержп., 93.*

Падскробак еты! [312] *Шатэрнік, 181, Сміл.*

Падхвоснік ты чартоўскі! [313] *Нікіф., 1928, 111.*

Падхлебнік ты сабачы! *Там жа.*

Пакра′ка ты! [314] *Шат., 122, Свісл.*

Памазачка дзягцёвая! *Добр., Слов., 658.*

Пама′к (по′мак) ты! [315] *Шатэрнік, 198, Сміл.; Мін.-Мал., 1977, 88, Бярэз.*

Памаўза гэта! [316] *З нар., сл., 46, І. Лепешаў, Шчуч.; Л. Малаш, 1971, Докш.*

Панскі падлізнік! *Сержп., 125.*

Панчоха ты, шкарпэтка разлезлая! [317] *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Парасё ты карэлае, куды ты прэсся? *Шатэрнік, 132, Сміл.*

Парасёнак нескаблёны! [318] *Нос., 134.*

Парта′ч ты! *Раст., 199; М. Грынблат, 1970, Мн.*

Па′сак ты етакі! [319] *Касп., 232, Езяр.*

Паскуда! *Сержп., 98.*

Пасяле′нь! [320] *Мат., 77, М. Ралавец, Докш.*

Пасяльні′ца гэта! [321] *Пан., 104.*

Паўгловак гэты! [322] *З нар. сл., 47, І. Лепешаў, Шчуч.; Жыв. сл., 110, А. Прышчэпчык, Стаўб.*

Паха′туха (паха′тніца, хатніца ты)! [323] *Мат., 117, Г. Варава, Маладз.; Суяшк., 360, Гродз.; Шат., 185, Рас.; Нар. лекс., 204, М. Абабурка, Клецк.*

Пацёмнік нейкі! [324] *Суяшк., 361, Ваўк.*

Пачва′ра [нейкая]! *Касп., 237, Беш.; Сержп., 94.*

Пераргрызак ты сабачы! *Добр., Слов., 583.*

Пе′ста ты! *Суяшк., 371, Ваўк.*

Пінцюх (пінцюхайла) ты! [325] *Нікіф., 1928, 111; Касп., 251, Сен.*

Плакса ты етакая! *Раст., 112.*

Пле′йтух ты! [326] *Жыв. сл., 118, В. Рагаўцоў, Жлоб.*

Плёха ты старая! [327] *Добр., Слов., 605.*

Плюгаўка ты! *Нікіф., 1928, 111.*

Плю′ндра (шлю′ндра, хлюндра, флюндра) ты! [328] *А. Ліс, 1973, Смарг.; М. Грынблат, 1974, Мн.; Шат., 186, Верхнядзв.; Бяльк., 36, Мсціся.; Касп., 330, Сен.; Нар. сл., 155, А. Прышчэпчык, Стаўб.; Яўсееў, 106.*

Погань чараватая! *Сержп., 94.*

Поп ты журовіцкі! [329] *Л. Гімпель, 1977, Кар.*

Поўна табе мудраваць, вымудронік! *Добр., Слов., 420.*

Прайдзісве′т такі! *Сержп., 56; Цяшк., 388, Ваўк.; Шатэрнік, 224, Сміл.*

Пракіслік ты! [330] *Нікіф., 1928, 111.*

Праску′та лапавокая! [331] *Добр., Слов., 384.*

Прая′ва ты! [332] *Касп., 249, Кузняц.*

Прыты′рак гэты! [333] *З нар. сл., 47, І. Лепешаў, Шчуч.*

Псіная морда! *Бяльк., 430, Касц. Вар.: Добр., Слов., 746.*

Псяюха ты! [334] *Бяльк., 430, Мсціся.; М. Грынблат, 1935, Мн.*

Пуздра ты надутая! [335] *Бяльк., 359, Мсціся.*

Пузды′р ты еткі! [336] *Там жа, Краснап.*

Пунтовік гэты! [337] *З нар. сл., 48, І. Лепешаў, Шчуч.*

Пустабрэх (пустаброх, пустабрэхіч) ты! *І. Саламевіч, 1966, Слон.; Добр., Слов., 750; Нар. лекс., 44, І. Лепешаў, Шчуч.*

Пустадомак (пустадомец) еты! *Шатэрнік, 235, Сміл.; Янк., Абр., 78, Бабр.; Юрч., 1966, 167.*

Пустамалот еты! *Шатэрнік, 235, Сміл.*

Пустамлін гэты! *Жыв. сл., 158, І. Чыгрын, Слон.*

Пустамол такі! *Нар. сл., 153, А. Прышчэпчык, Стаўб.*

Пусце′льга (пусцільга′, пустальга, пусце′ча) гэта! [338] *Сержп., 44; Бяльк., 361, Мсціся.; «Звязда», 1978, 23 ліп., В. Рагаўцоў, Жлоб.; Мін.-Мал., 1977, 92, Лаг.*

Пухамеля ты! [339] *Бяльк., 361, Краснап.*

Пы′пла (пыпна) еты! [340] *Там жа, 371, Касц.; Юрч., 1966, 167; Добр., Слов., 788; Жыв. сл., 182, М. Абабурка, Клецк.*

Пэтлах нейкі! [341] *М. Грынблат, 1978, Кар.*

П'яніца ты няшчасны! *Мат., 38, М. Яўневіч, Бял.*

Пячу′рнік ён! [342] *Нар. сл., 141, Н. Лявончык, Віл.*

Работай, баўтрук! [343] *Добр., Слов., 20, Смал. п.*

Радоўка гэтая! [344] *Жыв. сл., 64, Н. Кажура, Слуцк.*

Разгірэня! [345] *Сцяшк., 416, Ваўк.*

Разгры′ба ты такая! [346] *Раст., 225.*

Разёпа ты! [347] *Бяльк., 381, Мсцісл.*

Разівон ты, разівон (разявон)! [348] *Раст., 226; Юрч., 1966, 172.*

Разыда, ізноў спорціў пілу! [349] *З нар. сл., 48, І. Лепешаў, Шчуч.*

Разява (разява′ка, раззёва) ты! *М. Грынблат, 1971, Мн.; Добр.; Слов., 778; І. Саламевіч, 1957, Слон.*

Ракло ты! [350] *Раст., 229.*

Рапуха паганая! [351] *Сержп., 94; Л. Малаш, 1971, Докш. Вар.: Добр., Слов., 780.*

Рапэха якая! [352] *Жыв. сл., 33, А. Груца, І. Паўлоўскі, Івац.*

Раскапе′йда (раскапе′ндра) ты! [353] *Г. Барташэвіч, 1971, Мн.*

Раскепа ты! [354] *Л. Салавей, 1971, Мядз.; Яўсееў, 87; Жыв. сл., 159, І. Чыгрын, Слон.*

Раскірака(раскірэка, разгірэка) ты чортава! *Бяльк., 396, Чэр.; Л. Салавей, 1971, Мядз.; Нар., сл., 43, М. Бірыла, Дзярж.*

Раскол еты (гэны)! [355] *Шатэрнік, 244, Сміл.; Нар. сл., 43, М. Бірыла, Дзярж.*

Растакая ты, прае′такая! *Раст., 228.*

Раструха′йла гэны! *Нар. лекс., 9, У. Свяжынскі, Уш.*

Расхлёба еты! [356] *Бяльк., 386, Клім.*

Расця′га ты! [357] *Там жа, 396, Краснап.*

Расцялёпа, целяпень! [358] *Добр., Слов., 786.*

Раўге′ша ты! [359] *Касп., 219, Сен.*

Рахаму′д (рахамуйла), хоць рукі памый! *Яўсееў, 88, 89.*

Розвізень — дзела з рук валіцца! *Добр., Слов., 768.*

Роцька ты! [360] *Касп., 271, Беш.*

Рэйдала старо′ё, маўчаў бы ўжэ! *Нар. лекс., 45, І. Лепешаў, Шчуч.*

Сабака валачашчы! *Сержп., 93, 97.*

Сабака з гарэлага балота! *Ляцкий, 38; Сержп., 92.*

Сабачая жыла! *Сержп., 94.*

Сабаччы твае вочы! *Нікіф., 1928, 108.*

Салоха нейка. [361] *Янк., Дыял., III, 113, Беш.*

Салявы′ мех. [362] *Нар. сл., 142, Н. Лявончык, Віл.*

Самасуй еты! [363] *Бяльк., 431, Краснап.*

Самашэтныя чэрці! [364] *З нар. сл., 116, І. Яшкін, Пух.*

Сапёлка! Іш насунулась! [365] *Добр., Слов., 899.*

Саплюк перакіслы! *Нікіф., 1928, 111.*

Сарама′тнік еты! *Шатэрнік, 253, Сміл.*

Сарамы′га ты! [366] *М. Грынблат, 1976, Стаўб. 8.76.113.*

Сатона ты д′ябальскі! [367] *Нікіф., 1928, 112.*

Саўга′йла ты! [368] *Мін.-Мал., 1977, 100, Лаг.*

Свіння няскрэбеная (няскробана)! *Сержп., 92; Fed., 309, Ваўк. п.*

Свінтух (свінтуха′йла) ты! *Бяльк., 433, Краснап.; Добр., Слов., 818.*

Скары′да ты! [369] *Бяльк., 406, Мсцісл.*

Скі′дыш ты гэтакі! [370] *Касп., 283, Сен.*

Скна′рына, скна′рыца (скнэра)! [371] *Юрч., 1966, 186; Мін.-Мал.. 1977, Віл.*

Скробацень! [372] *Добр., Слов., 679.*

Скупяндзя′ (скупяндра′, скупярдзя′й, скупярдзя′ка, скапірда′) гэты! [373] *Цяшк., 456, Зэльв.; Жыв. сл., 175, Т. Юхо, Кап.; Мат., 90, Е. Кавалёва, Бых.; І. Саламевіч, 1956, Слон.; Яўсееў, 93.*

Скура ты вужачая! *Нікіф., 1928, 111.*

Слінкач гэты няўдалы. [374] *Мяц., 105, Нав.*

Сляпа′ку ты! *«Ніва», 1978, № 38, Беласточчына.*

Сляпу′ндра (сляпя′нда, слепяндзя′, слепянджа′) гэты! [375] *М. Грынблат, 1970, Мн.; Жыв., сл., 175, Т. Юхо, Кап.; 111, А. Прышчэпчык, Стаўб.; І. Саламевіч, 1959, Слон.; З нар.*

*сл., 94, І. Крамко, Кар.; Нар. лекс., 205, М. Абабурка, Клецк.*

Спеўка ты, усюды ведаеш! [376] *Касп., 303, Беш.*

Старая дыхляціна! *Сержп., 94.*

Старая порхаўка! *М. Грынблат, 1970, Мн.*

Старога лесу качарга! *Ром., Зап., III, 231.*

Стары капул! [377] *Добр., Слов., 342.*

Стары чорт! *Раст., 164.*

Страмнік (срамнік, страмідла) ты такі! *Там жа, 253; Бяльк., 418, Касц.; Шатэрнік, 266, Сміл.; Яўсееў, 95.*

Стрыжа′к ты! [378] *Раст., 253.*

Сугне′й той! [379] *Суяшк., 478, Кар.*

Су′здаль еты, ні за што не бярэцца! *Нар., сл., 73, І. Гайдукевіч, Кір.*

Супура′т ты! [380] *Бяльк., 427, Касц.; Нар. сл., 134, В. Лемцюгова, Чав.*

Сусветная сваццяǃ *Дуб., 57.*

Сусветная ты брадзяга! *Касп., 297, Сур.*

Сухая Ева! [381] *Fed., 180, Ваўк. п.*

Сухая Яга′! *«Ніва», 1978, № 38.*

Сціхні, каназобка! [382] *Мат., 114, Г. Варава, Глуск.*

Сціхні ты, га′ўкала, абрыдла ўжо слухаць цябе! *Шатэрнік, 67, Сміл.*

Сціхні ты, жмы′ндала! [383] *Нар., сл., 67, І. Гайдукевіч, Кір.*

Сціхні ты, сэнда! [384] *Мат., 118, Г. Варава, Маладз.*

Сціхні ты, трашчотка праціўная! *Шатэрнік, 279, Сміл.*

Сы′зма ж ты! [385] *Шат., 172, Рас.; Нар. лекс., 45, І. Лепешаў, Шчуч.*

Сявалка ты, хутчэй шавяліся! [386] *Шатэрнік, 274, Сміл.*

Такая зачу′ха! [387] *Суяшк., 185, Іў.*

Такая калатоўка! *Добр., Слов., 335.*

Такая карпу′ха! [388] *Там жа, 342.*

Такая нязда'ра! [389] *Цяшк., 318, Кар.*

Такей бамбі'за! *Юрч., 1966, 59.*

Такей жу'пель! [390] *Добр., Слов., 227.*

Такі базы'га! [391] *Цяшк., 43, Гродз.*

Такі велікдур вырас, а ніц удома не паможа! *Жыв. сл., 99, П. Міхайлаў, Кобр.*

Такі зна'йда! [392] *Цяшк., 196, Ваўк.*

Такі лайда'чы! *Там жа, 256, Лід.*

Такі маўмы'ра! *Жыв. сл., 117, В. Рагаўцоў, Жлоб.*

Такі нязгрэба! *Цяшк., 317, Кар.*

Такі піцю'ль! [393] *Там жа, 373, Смарг.*

Такі расколіна! [394] *З нар. сл., 48, І. Лепешаў, Шчуч.*

Такі слявя'да! [395] *Цяшк., 459, Кар.*

Такі-сякі, сухі, не мазаны! *Дуб., 59.*

Такі ты, сякі, прае'такі! *Раст., 213.*

Такі [ужо] ба'йдала! [396] *Нар. сл., 6, Г. Аляксейчык, Нав.; Л. Гімпель, 1977, Кар.*

Талалу'й гэты! [397] *Шат., 174, Верхнядзв.*

Тарабайка, усё тарабаніць! [398] *Там жа, Хойн.*

Тараба'лка тая! [399] *Мат., 169, Н. Калоша, Кар.*

Тарадэйка, а кінь ты тарадзіць языком! [400] *Шат., 174, Верхнядзв.*

Таратаўня гэта! [401] *Сержп., 93.*

Тарахцёлка завілася! *Яўсееў, 98.*

Таўкач еты дурны, нічога не разумее! *Шатэрнік, 277, Сміл.*

Таўлу'й ты! [402] *Сержп., 94.*

Таўстабрухі, во хто ты! *Юрч., 1969, 83.*

Тахтавоха ты! [403] *М. Грынблат, 1976, Кар.*

То качамя'ла не разгоніцца! [404] *Мат. Гом., IV, 223, Лельч., Браг.*

Тое ж мамрэла і слова не скажа. *Нар. лекс., 230, І. Лучыц-Федарэц, Драг.*

Тоўла тая! [405] *Юрч., 1966, 196; Нар. сл., 173, У. Свяжынскі, Уш.*

Трамбоўка ты! [406] *Добр., Слов., 914.*

Трублаты які! [407] *Шат., 178, Верхнядзв.; Касп., 312, Беш.*

Трыбухач (трыбухлей) гэты! *Шат., 178, Верхнядзв.; І. Саламевіч, 1970, Слон.*

Трылу́за! [408] *Яўсееў, 100.*

Ты куды лезеш, лэпта, увесь бурачнік патаптаў! *Жыв. сл., 63, Н. Кажура, Слуцк.*

Тэмпа башка! [409] *М. Грынблат, 1932, Мн.*

Тэндаль ты, увесь дзень прашляўся. *Жыв. сл., 65, Н. Кажура, Слуцк.*

У, такей лянгус! [410] *Добр., Слов., 387.*

У ты, ава́днік! [411] *Там жа, Бельскі п.*

Ужо такі недалугі (недалэнга)! [412] *Сцяшк., 315, Свісл.; 312, Лід.*

Упір ты такі! [413] *Раст., 270.*

Хадзяка няшчасны! *Касп., 327, Віц.*

Халаве́й ты такі! [414] *Раст., 270.*

Хала́йдра (халу́дра) тая! [415] *Юрч., 1969, 182; Сцяшк., 527, Вайк.; Яўсееў, 105.*

Халера з-пад цёмнай хмары! *Fed., 401, Слон. п.*

Халера [ты] трыццатага года! [416] *Нікіф., 1928, 111; Сержп., 93; М. Грынблат, 1925, Мн.*

Халера (хале́рая, хале́рына, халерніца) ты! *Нікіф., 1928, 111; Сержп., 94; Нар. сл., 74, І. Гайдукевіч, Кір.; Юрч., 1969, 63.*

Халіба ты! [417] *Касп., 327, Сен.*

Хамут (хамі́ла) ты! [418] *Шатэрнік, 293, Сміл.; Яўсееў, 105.*

Ха́цькаль ты! [419] *Бяльк., 471, Краснап.*

Хвалісту́н ты! [420] *Сцяшк., 529, Лід.*

Хвасце́ль ужо такі! [421] *Нар. сл., 127, М. Крыўко,Міёр.*

Хры́да паганая! [422] *Добр., Сло́в., 967.*

Цецярук ты гэтакі! [423] *Сержп., 93.*

Ці скора ты нажарэшся, жаўна′? [424] *Касп., 106, Еэяр.*

Цьфу ты, чортава калыска! *Сержп., 97.*

Цыца′ха гэтакая! [425] *Сержп., 92.*

Цюхце′й (цюхцяй) ты такі! [426] *Раст., 265; Яўсееў, 107.*

Цюцька з каралеўскай псарні! [427] *Fed., 59, Вайк. п.*

Цюцька ты! *І. Цішчанка, 1973, Слаўг.*

Цямцюр (олух) цара нябеснага! [428] *Никиф., 201; Юрч., 1974, 196.*

Цянцюх, скарэй паварачайся! [429] *Бяльк., 486, Крыч.*

Цяцера глухая! [430] *Сержп., 95.*

Чаго, вірлу′н, лезеш? [431] *Нар. сл., 108, М. Крыўко, Міёр.*

Чаго на мяне разінуўся, напушчонік! [432] *Добр., Слов., 457.*

Чаго ты раскрычалася, склізня? *Яўсееў, 93.*

Чаму ты брэшаш, перапячайка? [433] *Касп., 240, Еэяр.*

Чаропка! [434] *Мат., 170, Н. Калоша, Кар.*

Чмур еты! [435] *Бяльк., 490, Крыч.*

Чмут ты! *Там жа, Чэр.; З нар. сл., 291, М. Крыўко, Міёр.*

Чмыху′н ты! *Шатэрнік, 306, Пух.*

Чорт аднавокі! *Раст., 36.*

Чорт бясхвосты! *Сержп., 97.*

Чорт з балота (балотны)! *Fed., 68, Вайк. п.; Сержп., 92; Л. Малаш, 1971, Докш.*

Чорт кашлаты! *Сержп., 97.*

Чорт кудлаты! *Л. Малаш, 1971, Докш.*

Чорт [ты] лазаты! *Шатэрнік, 306, Сміл.; Сержп., 97; М. Грынблат, 1971, Мн.*

Чорт паласаты! *М. Грынблат, 1969, Лаг.*

Чорт рагаты! *Сержп., 97.*

Чорт смалены з бурага балота! *Ром., Бел., 314.*

Чорт ты вірлаты! [436] *Шатэрнік, 47, Сміл.*

Чорт ты віслагубы! *Мат., 112, Г. Варава, Глуск.*

Чорт ты галапупы! *Шатэрнік, 63, Сміл.*

Чорт ты іклаты! *Там жа, 124.*

Чорт ты кіжлаты! [437] *Там жа, 134.*

Чорт шалёны! *Ляцкий, 58; Сержп., 92.*

Чортава морда! *Сержп., 94.*

Чортава моц! *Там жа.*

Чортава па′тла! [438] *Там жа.*

Чортаў бацька! *Там жа.*

Чортаў брат! *Там жа.*

Чортаў дух! *Там жа.*

Чортаў сын! *Там жа.*

Чума праклятушчая! *Там жа, 93.*

Чучала гарохавае! *Дуб., Нар., 2.*

Чушка ты! [439] *Шат., 196, Верхнядзв.*

Чыкілду′н ты! *Шатэрнік, 306, Сміл.*

Чэнда некая! [440] *Жыв. сл., 161, І. Чыгрын, Слон.*

Шабэтнік паганы! [441] *Янк., Абр., 14, Іў.*

Шалы′га такі! [442] *Сцяшк., 555, Кар.*

Шапу′цька ты! [443] *Сержп., 93.*

Шарахвост ты! [444] *Там жа, 92.*

Шата′йла еты! *Бяльк., 505, Краснап.*

Шата′н ты! [445] *Сержп., 95; Ляцкий, 60.*

Шата′нская сіла! *Бяльк., 355, Краснап.*

Швэргала, што ты там гаворыш? [446] *Нар. сл., 155, А. Прышчэпчык, Стаўб.*

Шкарэдзь (шка′радзь) ты! [447] *Бяльк., 497, Краснап.; Яўсееў, 109.*

Шкура паганая! *Сержп., 93.*

Шлэпар ты! [448] *Юрч., 1966; 224; Сцяшк., 560, Вайк.*

Шмаравоз еты! [449] *Шатэрнік, 311, Сміл.*

Шпу′нда такі! [450] *Сцяшк., 564, Вайк.*

Штамадзю′к (стамадзюк) ты! [451] *Шат., 202, 12, 166, Браг.*

Што гэта за маўмы′ра! [452] *Нар. сл., 70, І. Гайдукевіч, Кір.*

Што ты сабе думаеш, латру′га? [453] *Касп., 175, Чаш.*

Шубе′нік такі! [454] *Сцяшк., 565, Гродз.*

Шуве′йнік якей-та! [455] *Бяльк., 501, Краснап.*

Шухавей! [456] *Там жа, 502, Шумячскі р-н Смаленскай вобл.*

Шчанё ты аблавухае! *Шатэрнік, 3, Сміл.*

Шчанюк ты! *М. Грынблат, 1975, Лаг.*

Шы′бельнік ты! [457] *Там жа, 1974, Шкл.*

Шы′цік аслізлы! [458] *Нікіф., 1928, 110.*

Шэльма еты несусветны! *Шатэрнік, 180, Сміл.*

Шэпшала ты старое. [459] *З нар. сл., 95, І. Крамко, Кар.; Нар. сл., 49, М. Бірыла, Дзярж.*

Ы, ве′дзьмішчэ ты! *«Ніва», 1978, № 38, Беласточчына.*

Эй ты, струба′ль! [460] *Добр., Слов., 882, Бельскі п.*

Эт, балабост гэты! [461] *Нар. сл., 26, М. Бірыла, Дзярж.*

Эт, вертахла′ гэта! [462] *Там жа, 28.*

Эт, салапа′н нейкі! [463] *Там жа, 44.*

Этакая дылігойда! [464] *Добр., Слов., 189.*

Эх, тры′шка ты! [465] *Бяльк., 446, Краснап.*

Эх ты, абух без ляза′! *Нар. сл., 136, Н. Лявончык, Віл.*

Эх ты, біндос! [466] *Касп., 39, Сур.*

Эх ты, зануда бяздольная! [467] *Там жа, 120, Кузняц.*

Эх ты, зацяле′па! [468] *Там жа, 127, Кузняц.*

Эх ты, маслёнка! [469] *Добр., Слов., 400.*

Эх ты, рагізу′ля! [470] *Касп., 261, Сен.*

Эх ты, цяпуюх, цяпуюх! [471] *Там жа, 340, Сур.*

Эх ты, слепавокі! *Раст., 245.*

Эх, які ты мярлі′н! [472] *Касп., 194, Сур.*

Юга′ старая! [473] *Бяльк., 506, Крыч.*

Юда! [474] *Сержп., 94.*

Юда ты, прадажнік! [475] *Бяльк., 506, Крыч.*

Ю′рбал еты! [476] *Нар. сл., 75, І. Гайдукевіч, Кір.*

Я′гіня гэта! [477] *Там жа, 143, Н. Лявончык, Віл.; І. Саламевіч, 1957, Слон.; Жыв. сл., 112, А. Прышчэпчык, Стаўб.*

Я табе пакажу, касмуля! [478] *Мат. Гом., IV, 218, Светл.*

Яго жонка такая замамы′ла! [479] *Добр., Слов., 243.*

Якая ж ты роўба! [480] *Нар. сл., 72, І. Гайдукевіч, Кір.*

Якей камяню′га! [481] *Добр., Слов., 309.*

Якей ты вану′глік! [482] *Касп., 53, Кузняц.*

Які ён яшчэ работнік, зморак еты! *Шатэрнік, 118, Сміл.*

Які ж ты дуба′с! [483] *Нар. сл., 9, Г. Аляксейчык, Нав.*

Які жа ты баламут! *Касп., 32, Беш.*

Які ты курме′ль! [484] *Там жа, 172.*

Ялдон ты! [485] *Бяльк., 508, Краснап.*

Яму ўсё мала, вядома, праваленны! [486] *Шатэрнік, 222, Пух.*

Яму ўсё мала, праклятаму заглобе! [487] *Касп., 115, Езяр.*

Яна колькі жыве, столькі стогне, клыгуніха гэта! *Мін.-Мал., 1977, 64, Лаг.*

Яна такая апушчэнка! *Добр., Слов., 533.*

Яна такая лапе′за! [488] *Там жа, 367.*

Яна такая падваротніца! [489] *Там жа, 621.*

Ярцу′ла ты, гуляві′зна! [490] *Там жа, 153.*

## ДРАЖНІЛКІ-КЕПІКІ

А наш Якаў стаў на якар. *Юрч., 1977, 82.*

А ў нашай суседачкі ўздзелася бяседачка, а ў нашай Крысты′начкі здзелаліся хрысціначкі. *М. Грынблат, 1945, Віл. 8.1.1.*

А ў Яна два кармана, а ў Антолькі — адзін толькі. *Там жа, 1974, Пух. 8.74.82.*

Абду′ла, Абдула (Аўдуля), а ці не расце ску′ла? *Ляцкий, 1.*

Агата — дзяўчына небагата, па мястэчку ходзіць, хлопцаў за ручкі водзіць. *Рап., 242.*

Аляксей, муку сей, а Андрэй, ваду грэй; а ты, Янка, не гуляй, хоць палойнік падай. *Сах.*

Андрэй-канарэй, не лятай на лясок: там кошку дзяруць, табе ножку дадуць. *Добр., 90.*

Андрэй, не дурэй! *М. Грынблат, 1979, Кар.*

Антон-Харытон, забіў бабу хамутом, палажыў на мосце, ды кіем па хвосце. *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Аўдзей усё між людзей. [491] *Нос., 1.*

Ачнуўся Мала́х, аж скула ў галава́х. *Нос., Слов., 588.*

Барыс і не лыс, а Марыся бараніся. [492] *Шатэрнік, 150, Сміл. Вар.: Мін.-Мал., 1974, 189, Уздз.*

Барыс свінні вуха адгрыз. *М. Грынблат, 1976, Кар.*

Быў калісь Яўхім, ды цяпер чорт яго ўхапіў. *Шпил., 176.*

Быў Якім, ды чорт ухапіў. *Нос., 10.*

Валодзя! Свіння ў гародзе! *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

Васі́лі, бяры па сі́лі. *Добр., 107.*

Васі́ліха Васіля́ палонікам апляла́. *Ляцкий, 6.*

Васі́лю, Васілю, не бяры на сілу. *Fed., 328, Ваўк. п.*

Гаўрыла замазаў рыла. [493] *Нос., 22.*

Гры́цу, Грыцу, хадзі на яечні́цу. *Ляцкий, 8.*

Даўгаве́ц пасе авец. [494] *Мат., 154, Н. Калоша, Кар.*

Дзядзька Піліп, ці ты да лаўкі прыліп? *Янк., 376.*

Дзяніс скіс. *Л. Гімпель, 1979, Кар.*

Іван — ні богу, ні вам. *Добр., 90.*

Іва́нюшка, Іване́ц — з таго свету пасланéц. *Там жа.*

Коля, Коля дровы коле, Коля ў клетачку кладзе. *І. Саламевіч, 1955, Слон.*

Любапытнай Варвары нос адарвалі. [495] *В. Рабкевіч, 1960, Кап.*

Мая Сцеша сем сёл абчэша. [496] *Сцяшк., 598, Дзятл.*

Мі́на пашоў (ідзі, ступай) міма. *Нос., 77; Дуб., 36.*

Наталля — пралля, Кузьма — вераценнік. [497] *Бяльк., 356, Краснап.*

На бязлюддзі і Саўка чалавек. *Сержп., 31.*

Наш Іван — не балван: што паймаў, то ў карман. *Сцяшк., 598, Дзятл.*

Наш Пятрук не цецярук. *Dybow., 18; Fed., 235, Нав. п.*

Наша Парася на ўсе штукі прыдала́ся. *Янк., 382.*

Нашаму Атроху засыпалі гароху. [498] *Нос., 91.*

Нашыя Базы́лі, што не з'елі, то спі́лі. *Fed., 24, Ваўк. п.*

Пайшоў (наш) Пятрок [ходзіць] без парток. *Нос., 136; Ляцкий, 34; Дуб., 46; Сержп., 26, 6.*

Паплач, Юрка, чы не засвярбіць скурка. *Ляцкий, 33.*

Паўлюк сеў на крук. *Нос., 124.*

Пе́ста, песта, на табе цеста. *І. Саламевіч, 1956, Слон.*

Плоха, пане Цімоха. *М. Грынблат, 1945, Віл. 8.1.1.*

Прося-даўганося. *Добр., 91.*

Прося, што табе здалося? *К. Маркоўская, 1979, Бярэз.*

Соня — засоня. *І. Саламевіч, 1956, Слон.*

Сцяпан — вялікі пан. *Там жа.*

Сцяпан! Не засмаж каўбасы, бо ідзе Моўшка ла́сы. *Fed., 302.*

Сяргей — верабей! *К. Маркоўская, 1979, Бярэз.*

Тамара-чамара, Тамарык-камарык. *І. Саламевіч, 1962, Слон.*

Тэкла вылецела з пекла. [499] *Fed., 312, Ваўк. п.*

У нашага Атроха вячэра плоха. *Добр., Слов., 15, Смал. п.*

У нашай Пара́скі ні гневу, ні ласкі. *Сцяшк., 611, Ашм.*

У языкатай Варвары паміж дзвярамі язык адарвалі. [500] *Там жа, 612, Бераст.*

Франук, ой Франук, вазьмі цябе кадук! *Ляцкий, 51.*

Ха́ім, уцяка́ем. *Там жа, 14.*

Ха́ім, што мы з табой маем? *М. Грынблат, 1930, Мн.*

Хі́мя — дрэнна імя. [501] *Добр., 43.*

Ці здароў, Шы́мка, ці даўно з шы́нка? [502] *Ляцкий, 56.*

Ці не бачылі Дзяніса, што прадаў сабаку за ліса? *Fed., 94, Вайк. п.*

Цімох паехаў па мох. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Цярпі, Грышка, карчма блізка. *Янк., 388.*

Чалавеча, шуба авечча! [503] *Нос., 188.*

Чым завуць? — Чым крупы дзяруць. — Крупы дзяруць ка′менем, цябе завуць д'я′балам. *Ром., Бел., 314.*

Чэпік, чэпік — доўгі нос, куды цябе чорт панёс, не падмазаўшы калёс? *Дуб., Нар., 1.*

Шапка кругла, порткі брыч — гэта хлопец з Клюкаві′ч. [504] *Жыв. сл., 21, А. Булыка, Нав.*

Юрка, ой Юрка, каб не ўспухла твая скурка? *Ляцкий, 51.*

Ягору ўсё ўпору. *Бяльк., 461, Краснап.*

Абадзьмуўся як тая курыца. *Шатэрнік, 1, Сміл.*

Абарваны (абнасіўся) як той старац. *Там жа; 3; Юрч., 1969, 31.*

Абгаліўся як бізун. *Касп., 2, Сен.*

Абгарэла як галуза. [1] *Мат. Гом., III, 228, Светл.*

Абдзёрты (абадраны, абарваны) як жабрак. *Fed., 2, Вайк., Гродз. п.; Касп., 1, Сен.; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Абжора як воўк. *Fed., 3, Вайк. п.*

Аб'еўся (наеўся) як свіння. *Там жа, 2; М. Грынблат, 1977, Кар.*

Абірычылі (абстрыглі, абу'бнілі) як авечку. [2] *Нар. сл., 83, І. Крамко, Стаўб.; Шатэрнік, 178, Сміл.; Мін.-Мал., 1977, 10, Лаг.*

Абкешкаўся (выкачаўся) як свіння [у гразі]. [3] *Касп., 3, Езяр.; Янк., Пар., 29.*

Аблае як цюцьку. *Шатэрнік, 4, Сміл.*

Аблезлы як рудая мыш. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

Аблезлы як сабака. *Fed., 2, Гродз. п.*

Абленавалася (аблілася, ахлапалася; разумная) як ле'йзерава карова. *Г. Барташэвіч, 1975, Уздз. 8.75.96; Сержп., 60; Fed., 2, Вайк. п.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Аблізваецца як кот (сабака) на сала. *Янк., 395; Шатэрнік, 4, Сміл.; Ройзен., 67.*

Аблупежылі як белку. [4] *Добр., Слов., 502.*

Аблупіў (абакраў, абабраў) як ліпку. [5] *Сержп., 395; Мін.-Мал., 1970, 157, Пух.; Раст., 101; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29. Вар.: Ройзен, 80.*

Абмараўся як свінчо. *Шатэрнік, 4, Сміл.*

Абмок як масла′к. [6] *Fed., 2, Гродз. п.*

Абмок як сабака. *Там жа. Ваўк. п.*

Аброс (зарос) як воўк. *Бяльк., 423, Краснап.; І. Саламевіч, 1973, Слон.*

Аброс як мядзведзь. *Fed., 3, Ваўк. п.*

Аброс як нырка ў сала. *Там жа, Сак. п.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Аброс як поп. *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Абрыд як рыба гнілая. *Fed., 3, Сак. п.*

Абсеўся дзецьмі як у жука вокала лапак. *Добр., Слов., 513.*

Абставілі як ваўка ў логаве. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Абходзіцца як з веліконным яйцом. *Fed.. 1, Слон. п.*

Абшмындалась як старчоўка. [7] *Добр., Слов., 516.*

Аглядаецца як воўк каля вуглоў цы′ндаючы. [8] *Fed., Ваўк. п.*

Аглядваецца як парася ўкраўшы. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Аголеная галава як гарбуз. *Касп., 10, Віц.*

Агонь грыміць як маладня блішчыць. [9] *Добр., Слов., 415.*

Аграмні′сты (велькі) як гумно (адрына, хата). *Fed., 7, 332; Слон., Ваўк. п.; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Ад пажару не ўцячэш як ад ваўкоў. *З нар. сл., 105, М. Бірыла, Краснаслаб.*

Адбілі як авечку ад стада. *М. Грынблат, 1956, Маладз.*

Адбу′чылі як бондараву карову. [10] *Ром., Бел., 305.*

Аддрэнчылі як ката′. [11] *Шатэрнік, 10, Сміл.*

Адзелася як вы′лупка якая. [12] *Касп., 64, Езяр.*

Адзін, што вароты ў полі. *Сах.*

Адзін, што вярста ў полі. [13] *Там жа.*

Адзін (анно) як вока [у лобе, у ілбе]. *Fed., 6, Слон. п.; Мяц., 19, Стаўб.; Л, Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2; Нар. сл., 143, Н. Лявончык, Віл.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69; Мін.-Мал., 1977, 141, Уздз.*

Адзін (сам адзін, адзінокі) як калок [у полі, у плоце]. *Fed., 6,*

*272, Вайк., Сак. п.; Янк., 395; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Адзін як кол [пры дарозе]. *Касп., 7, Чаш.; Сержп., 6; І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

Адзін як колас *М. Грынблат, 1965, Кар., 1976, Стаўб. Вар.: Мяц., 19, Стаўб.*

Адзін як корч на пасецы. *Янк., 395.*

Адзін як месячык у небе. *Там жа.*

Адзін як палец (перст). *Сержп., 6; Мяц., 19, Стаўб.; Нар. сл., 103, М. Крыўко, Міёр.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69; Добр., 106; Юрч., 1972, 27. Вар.: Никиф., 202.*

Адзін як пень. *Fed., 6, Слон. п.; У. Іваноў, 1958, Мн.*

Адзінокая як тапаля сярод поля. *Янк., 396.*

Адкавяліў лусту як рэшата. [14] *Нар. сл., 25, М. Бірыла, Дзярж.*

Адказ як шыла. *Нос., 121; Fed., 4, Вайк. п.*

Адказаў як па мордзе даў. *Fed., 4, Лід. п.*

[Адна толькі саха і] стаіць як свечка. [15] *Бяльк., 116, Мсцісл.*

Адна як былінка (быліна) у полі. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2. Вар.: Янк., 443; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

Адна як верабей. *Мяц., 232, Слуцк.*

Адна як зязюлька. *Горленка, 248. Нар.*

Адна як макаў квет. *Сах.*

Адпа′лчу я цябе як каня. *Нар. лекс., 40, І. Лепешаў, Шчуч.*

Адскочыў [ад бабы] бы ўжалены. *Сержп., 16.*

Адточаны як кот на смятане. *Яўсееў, 15.*

Адчыніла горла як вароты ў заезднай карчме. *Fed., 112.*

Ажаніўся як нагу ў бот уставіў. *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Азіраецца як сабака на кірмашу, згубіўшы гаспадара. *Fed., 11, Гродз. п.*

Але есць, як валоў шэсць. *Там жа, 129, Сак. п.*

Але ўложыць, як у яшчык. [16] *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Але ж і нарваўся, як немцы на засаду. *М. Гушчынскі, 1965, Лід. 13.10.4.*

Але ж вочы! Як у патарочы. [17] *Fed., 224, Сак. п.*

[Але ж ты] цяжкі, як цяльпук. *Касп., 340, Сен.*

Але ж язык лятае, як камень у млыне. *Fed., 126, Сак. п.*

Аны на ёй выязджаюць усё роўна як на серым кані. *М. Грынблат, 1974, Шкл.*

Апіўся (напіўся) як бонк конскай крыві. [18] *Fed., 9, 230, Вайк., Сак. п.*

Аплятае як тыждзень не еўшы. *Нар. лекс., 95, П. Міхайлаў, Кобр.*

Апры'крыць як горкая цыбуліна. *Янк., 396.*

Апух нос як сліва. *Fed., 404, Вайк. п.*

Арэ як піша. *Pietk., 355.*

Арэ як чорт балотам. *Ройзен., 67.*

Асеўся як язык праглацiў. *Юрч., 1977, 162.*

Аскыляецца як сабака на чужую працу. *Fed., 10, Слон. п.*

[Астаўся я адзін-аднесенькі], жыву як верабей. *Мяц., 17, Вайк.*

Астаўся як стой. *М. Грынблат, 1973, Круп.*

Астаўся як шпак. [19] *Там жа, 1967, Шкл. 8.1.106.*

Асунуўся як мех. *Сержп., 31.*

Асцярожна як з агнём. *Fed., 10, Вайк. п.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Асцярожна як з яйцом. *Fed., 10, Слон. п. Вар.: Янк., 396.*

Асцярожна як са шклом. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Асцярожна як стронга. *Янк., 396.*

[Ах, як] сцеле, як ліс хвастом. *Fed., 281.*

Ашарпаліcь, ходзім як старцы. *Добр., Слов., 569. Вар.: Бяльк., 490, Крыч.*

Баба гладзь як бочка. *Нар. сл., 305, А. Крывіцкі, Г. Цыхун, І. Яшкін, Тур.*

Баба меле як гарох сыпле. *Ляцкий, 3.*

Баба старая як шацёр. *Fed., 11, Слон. п.*

Баба [тоўстая] як гром. *Шатэрнік, 278, Сміл.; Янк., Пар., 12.*

Баба што ігуменша [тоўстая]. *Мат. Гом., IV, 186, Гом.*

Баба як гвозд. *П. Палякоў, 1960, Маг. 13.10.8.*

Баба як заткала да коміна. *Fed., 11, Ваўк. п.*

Баба як кадушка. *Добр., Слов., 304.*

Баба як мяцёлка.[20] *М. Грынблат, 1977, Стаўб.*

Бабы як авечкі бягуць. *Там жа, 1960, Сір. 8.1.47.*

Багата як гразі. *Янк., 396; Янк. М., 43.*

Багата як зорак на небе. *Янк., Пар., 12.*

Багата як іглiцы ў бары'. *Там жа.*

Багата як расы. *Янк., 396.*

Багата як травы (лісця). *Янк., Пар., 12.*

Багаты як зямля [святая]. *Fed., 19, Лід., Вілен. п.*

Багаты як чорт рагаты. *Ром., Зап., III, 223.*

Багацця як у пагарэльца. *Янк., 396.*

Базар як вір. *Янк., Пар., 13.*

Баіцца як астрогу. *Там жа.*

Баіцца як воўк казы. *Нос., 7.*

Баіцца як воўк сабакі. *Fed., 20, Ваўк. п. Вар.: Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Баіцца як воўк ягняці (авечкі). *Fed., 20, Слуцк. п.; Сержп., 68; Янк., Пар., 13, Вар.: Шейн, 473, Слуцк. п.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Баіцца як воўка. *Fed., 20, Ваўк. п.*

Баіцца як гадзюкі. *Янк., Пар., 13.*

Баіцца як заразы. *Там жа.*

Баіцца як злога духа (чорта). *Fed., 20, Ваўк. п.*

Баіцца як кот сабакі. *Янк., Пар., 13.*

Баіцца як ліхога шэлега.[21] *Fed., 20, Ваўк. п.*

Баіцца як ліхой шапкі.[22] *Там жа, Лід. п.*

Баіцца як [шалёны] сабака вады. *Там жа, Ваўк. п.; Янк., Пар., 14.*

Баiцца як сабака мух. *Fed., 20, Нав. п.*

Баiцца як смерцi. *Там жа.*

Баiцца як халеры. *Янк., Пар., 14.*

Баiцца [работы] як чорт крыжа.[23] *Fed. 20, Лiд. п.; Шырма, 205; І. Вайгянiца, 1965, Іў. 13.10.1; В. Калюк, 1965, Дзятл. 13.10.6.*

Баiцца як чорт ладану.[24] *Нос., 7; Добр., 132.*

Баiцца як чорт папа′.[25] *Ром., Зап., I, 215.*

Баiцца як чорт (д'ябал) свянцонай вады.[26] *Fed., 20, Гродз. п.; Ляцкий, 3.*

Баiцца як чорт Хрыста (храста).[27] *Ляцкий, 3; Pietk., 356; М. Грынблат, 1946, Староб. 8.1.8.*

Баiцца як шалёнага (кру′чанага) сабакi. *Янк., Пар., 14.*

Балбоча як iндык. *І. Саламевiч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Балбоча як пацеры гаворыць. *Янк., Пар., 14.*

Балбоча як п'яны. *Шатэрнiк, 28, Смiл.*

Балбоча як удод. *Fed. 21, Ваўк. п.*

Балбоча як цецярук. *Там жа, Слон., Лiд. п.*

Балбочыць як завадная. *Юрч., 1977, 27.*

Балiць усё маё цела, як псюк пад каленкамi кусаець. *Добр., Слов., 747.*

Бальшыя вочы як горла. *Fed., 335, Ваўк. п.*

Барабанiць як пустая бочка. *Янк., 397.*

Барада белая што снег. *І. Саламевiч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Барада як лапата. *Шат., 19, Бяроз.*

Барада як памяло. *І. Саламевiч, 1975, Слон. 13.10.69.*

Барбацiць як ржавая лiскатуха.[28] *Мат. Гом., V, 113, Чач.*

Басцяецца як латруга.[29] *Бяльк., 247, Краснап.*

Ба′ццэ з прывязi сарваўся.[30] *Сержп., 134.*

Бачыў як у сне. *І. Саламевiч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Бачыў як у тумане. *Там жа.*

Бачыць як птушка (арол, сакол). *Янк., 397.*

Баюся [яго, цябе] як леташняга (прошлага) снега. *Добр., Слов., 388; А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.76; В. Іваноўская, 1962, Светл. 9.1.74. Вар.: Нос., 196; Янк., 396.*

Баюся [я цябе] як стары конь сваёй маткі. *М. Грынблат, 1926, Мн.*

Баюся яго як майго. *Ляцкий, 4.*

Баяцца [яго] як чорта [якога]. *Раст., 188; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Баяцца як мух узімку (у лютым). *Янк., 396.*

Баяцца [холаду] як прусак. *Там жа.*

Б'е горш як каршун курыцу. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Бегае за дзеўкамі як кнур. *Fed., 95, Ваўк. п.*

Бегае (лятае) як апантаны (шалёны). *Шатэрнік, 19, Сміл.; Бяльк., 56, Мсцісл., Fed., 160, Ваўк. п.*

Бегае як ачумелы. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Бегае як блёкату аб'еўшыся. *Янк., Пар., 15.*

Бегае як дурны. *Ройзен., 67.*

Бегае як з вуглямі (жарам) у нагавіцах. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Бегае як з ланцуга сарваўшыся. *Янк., Пар., 15.*

Бегае як мыш абсмаленая. *Нос., 11; Дуб., 6; Сержп., 140.*

Бегае як непрытомны. *Шатэрнік, 180, Сміл.*

Бегае (бяжыць) як падсмалены. *Fed., 30, 31, Ваўк. п.*

Бегае як рыцы′ны глынуўшы. *Янк., Пар., 15.*

Бегае як што жывое. *Fed., 30, Слон. п.*

Бегаець позна як жу′ржа.[31] *Бяльк., 168, Касц.*

Бегаець як гайда′чка.[32] *Добр., Слов., 117.*

Бегаець як жэўжык. *Там жа, 221.*

Без клопату як дзіця. *Янк., Пар., 15.*

Без люлькі як без жонкі. *Fed., 168, Ваўк. п.*

Без солі як трава. *Там жа, 285.*

Без усоў, без барады, так як чорт малады. *Там жа, 342.*

Бела як ліпіначка.[33] *Добр., Слов., 375.*

Бела як свіное цела (як свіння). *Fed., 30, Вайк. п.; М. Грынблат, 1978, Кар.*

Белабокі як сарока. *Янк., Пар., 16.*

Белая што яблына. *Юрч., 1977, 251.*

Белая як слонца. *Мяц., 66, Стаўб.*

Белы (гэтат) свет як макаў (макавы) цвет. *Добр., 4; Mien., 395.*

Белы як засланка. *Fed., 31, Вайк. п.*

Белы як кроў з малаком. *Там жа, 30.*

Белы як лебедзь. *Там жа.*

Белы як малако. *Там жа.*

Белы як мельнік. *І. Саламевіч, 1975, Слон. 13.10.69.*

Белы як мука. *Там жа.*

Белы як наметка. *Янк. М., 111.*

Белы як палатно. *Fed., 30, Вайк. п.*

Белы як папера. *Там жа.*

Белы як печ. *Ройзен., 67.*

Белы як смерць. *Fed., 30, Вайк. п.*

Белы як смятана. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Белы як снег [за градамі]. *Fed., 30, Слон. п.; Янк. М., 12.*

Белы як сцяна. *Fed., 30, Вайк. п.*

Белы як сыр (сырчык). *Янк. М., 12; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Белы як яйцо. *Бяльк., 439, Краснап.*

Б'ецца як арлянё. *Шатэрнік, 21, Сміл.*

Б'ецца як галубка падстрэленая. *Янк., 397.*

Б'ецца як рыба аб лёд. *Нос., 11; Добр., Слов., 28, Смал. п.; Fed., 29, Вайк. п.; Pietk., 357; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2. Вар.: Сап., 262; Юрч., 1972, 62.*

Б'ецца як сляпы казёл аб яслі. *Ром., Зап., І, 215.*

Б'ецца як па снопе бі'чам. *М. Грынблат, 1965, Кар.*

Білі (абадралі, даілі, таўклі) як сідараву казу. *Мат., Гом., III, 218, Карм.; Fed., Ваўк. п.; Шырма, 205; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

Біці як Га′мана. [34]*З нар. сл., 137, Ф. Клімчук, Драг.*

Блага як у дзяві′ч вечар. *Dybow., 188.*

Бледны як з таго свету ўстаў. *Ройзен., 68.*

Бледны як пятак медны. *Нос., 6.*

Блізка як пад носам. *Янк., Пар., 17.*

Блізка як рукою падаць. *В. Рабкевіч, 1961, Кап. 13.9.5. Вар.: Янк., Пар., 17; Никиф., 202; Сержп., 18.*

Бліскае (свеціцца) як воўк за гарою. *Pietk., 399.*

Бліснуў як шкельца. *Янк., Пар., 17.*

Блішчаць як у ката вочы. *М. Грынблат, 1970, Мн.*

Блі′шчыць у вочы людзям як сабака [35]. *Шатэрнік, 22, Сміл.*

Блішчыць як воўчае (воўча) вока. *Янк., Дыял., I, 204; I. Саламевіч, 1973, Слон.*

Блішчыць як вош на блясе. *М. Грынблат, 1954, Мядз.*

Блішчыць як золата. *Бяльк., 196, Хоц.; I. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Блішчыць як люстэрка. *Янк., Пар., 17.*

Блішчыць як месяц. *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

Блішчыць як паваксаваны бот. *I. Саламевіч, 1977, Слон.* 13.10.69.

Блішчыць як надраены. *Там жа.*

Блішчыць як насмалены. *Янк., Пар., 18.*

Блішчыць як начышчаны пятак. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Блішчыць як се′рабра. *Касп., 279, Чаш.*

Блішчаць як срэбра ці вална′ тая. *Там жа, Сен.*

Блох у хаце як бобу. *Шатэрнік, 32, Сміл.*

Блох як пяску. *Fed., 32, Сак. п.*

Блукае як цень. *Янк., Пар., 18.*

Блукаецца як гаўца без пастуха. *Fed., 32, Ваўк. п.*

Блытаецца як сабака ў збане. *Там жа.*

Бляды як сцяна. *Там жа, 31.*

Бляе як дурны баран. *Там жа.*

Бог даў жонку як мурашачку. *Там жа, 365.*

Бокі параздувала як барабан. *З нар. сл., 180, В. Шур, Лельч.*

Бомкае як авадзень. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Борзды як рысак. *Янк., 398.*

Босы як цюцька. *Янк., Пар., 18.*

Боўкнуў як камень у ваду. *Нос., Слов., 28.*

Боўць і пайшоў як тапор на дно. *Нар. лекс., 169, Г. Юрчанка, Мсцісл.*

Бразнуўся як сноп на ток. *Янк., Пар., 18.*

Бродзіць па хатах як старац на вялікдзень. *М. Грынблат, 1976, Кар.*

Броўкі як сярпочкі. *Янк., Пар., 18.*

Броўкі як шнурочкі. *Там жа.*

Брудны як свіння. *Там жа, 19.*

Бружжыць, што худая муха ўвосень. *Ром., Зап., І, 215.*

Брукуюць (буркуюць) як галубы (галубкі). *Fed., 43, Вайк., п.; Янк., Пар., 19; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Брыдзіцца як кот салам. [36] *Fed., 43, Вайк. п.*

Брыдка як ноч. *«Ніва», 1978, № 44, М. Шаховіч, Заблудайская гм. ПНР.*

Брызкі ляцяць як дождж. *Шатэрнік, 36, Сміл.*

Брыкае як ягнятка (каза). *Fed., 43, Вайк. п.*

Брынд, брынд па дзярэўні як свет пацяраўшы. *Нар. лекс., 170, Г. Юрчанка, Мсцісл.*

Брэдзіць як у гарачцы. *Fed., 43, Вайк. п.*

Брэша (ілжэ) як сабака (сучка). *Дуб., 6; Касп., 145, Кузняц.; Pietk., 359; Fed., 42, Сак. п.; І. Саламевіч, 1973, Слон.*

Брэша як клін чэша. *Радч., 249.*

Брэша як наняты. *І. Саламевіч, 1974, Слон.*

Брэша як сабака на азярод. *В. Івапоўская, 1962, Светл., 8.1.74.*

Брэша як сабака на вецер. *Янк., Пар., 19.*

Брэша як сабака на месяц. *Там жа.*

Брэша як сабака на неба. *І. Цішчанка, 1969, Слаўг. 8.2.21.*

Брэша як сабака ў лесе. *Шпіл., 180.*

Брэша як цэп літоўскі. [37] *Ром., Бел., 291.*

Будзець сядзець што камар за печкаю. *Юрч., 1977, 228.*

Будзець як кату ў мяху. *Там жа, 214.*

Бузавалі як анучу. [38] *Там жа, 1969, 188.*

Бу'іць як муха. [39] *Fed., 43, Ваўк. п.*

Бульба як журавіны, дробная. *Нар. сл., 139, Н. Лявончык, Віл.*

Бульба ўпяклася як люхта. [40] *Бяльк., 255, Краснап.*

Бурчыць як кіла. *Fed., 44, Ваўк. п.*

Бурчыць як бу'ркала. *Юрч., 1969, 52.*

Бурчыць як ліхая цешча (свякроў). *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Бурчыць як сабака. *Шатэрнік, 38, Сміл.*

Бурчыць як стары. *Мяц., 172, Уш.*

Бухае як у бочку. [41] *Янк., Пар., 19; Мін.-Мал., 1977, 136, Уздз.*

Бы ваўкалака шнырыць. *Шпіл., 172.*

Бы капелька вады. *Сержп., 10.*

Бы маслам памазаў. *М. Грынблат, 1979, Кар.*

Бы сыр у масле качаецца (пяле'гуецца). [42] *Янк., 398; Сцяшк., 582, Воран.*

Быстры, удалы як ві'хла. [43] *З нар. сл., 99. М. Бірыла, Краснаслаб.*

Быстры як агонь. *М Грынблат, 1971, Глыб. 8.2.43; Fed., 46, Ваўк. п.*

Быстры як жарабец. *Fed., 46, Ваўк. п.*

Быстры як ліхі на шкоду. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Б'юцца як пеўні. *Fed., 29, Ваўк. п.*

Б'юць як сабаку. *Суяшк., 309, Кар.*

Бягіць як люты звер. *Добр., Слов., 43, Смал. п.*

Бядуе як на пажарышчы (пагарэлішчы). *Янк., Пар., 20.*

Бядуе як позна ажаніўшыся. *Там жа.*

Бяжыць бы [куцы] сабака. *Сержп., 20; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Бяжыць (валачэцца) як сабака за возам. *Fed., 31, 206, Ваўк. п.; Янк., Пар., 24.*

Бяжыць (скача) як сарна. *Янк., 413.*

Бяжыць як ашалелы. *Касп., 28, Беш.*

Бяжыць як жарабя за кабылаю. *Янк., Пар., 20.*

Бяжыць як жару (агню) ухапіўшы. *Ром., Бел., 291; Ляцкий, 5; Сержп., 20. Вар.: Fed., 44, Ваўк. п.; Янк., 418; Бяльк., 130, Чэр.; Суяшк., 17, Ваўк.*

Бяжыць як конь. *Нар. сл., 302, А. Крывіцкі, Г. Цыхун, І. Яшкін, Тур.*

Бяжыць як легчаны. *К. Кабашнікаў, 1962, Гом. 8.1.77.*

Бяжыць як чорт па лапушшу.[44] *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Бя'ла лічка як у паненкі. *Fed., 166, Ваўк. п.*

Бярыся як галодны за хлеб. *Янк., Пар., 21.*

Бярэ як багатага за сэрца. *Fed., 42, Ваўк. п.*

Бярэ як за мякіну. *Там жа.*

Бярэцца як агонь. *Янк., Пар., 21.*

Бярэцца як назаўтра трэба. *Там жа.*

Бярэцца як рапей за адзежу. *Fed., 42, Ваўк. п.*

Бяспечны як у бога за плячыма (дзвярыма). *Там жа, 29.*

Вада каламутная, густая як жур. *Там жа, 325.*

Вада чыстая як зеркала. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

Вада [чыстая] як крышталь. *Шатэрнік, 140, Сміл.; Добр., Слов., 967.*

Важдаецца як кот са здохлай мышшу. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Ва′жке се′м′е як камень. *Нар. сл., 298, А. Крывіцкі, Г. Цыхун, І. Яшкін, Тур.*

Важу′ся [цэлы дзень] як з бальною ску′лаю. *Юрч., 1969, 71, 104.*

Вазіся (вадзіся) як з дудою.[45] *Нос., 15; Fed., 326, Вайк. п.*

Валандаецца, бы непрытомны. *Сержп., 44.*

Валаса′ яму як рышта′нту абкарна′цілі. *Добр., Слов., 500.*

Валасаты як вусень. *Янк., Дыял., III, 154.*

Валасы светленькія як лянок. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Валасы шорсткія як сена. *Fed., 338, Вайк п.*

Валасы як барана′. *Бяльк, 349, Краснап.*

Валасы як дрот (з дроту). *І. Саламевіч, 1971, Слон. 13.10.69; Янк., Пар., 24.*

Валасы як лён. *Янк., Пар., 24.*

Валасы як на вожыку. *Fed., 338, Вайк. п.*

Валасы як у русалкі. *Янк., Пар., 24.*

Валасы як шоўк. *Там жа.*

Валасы як шэрсць (шчаціна). *Fed., 338, Вайк. п.*

Валачэ як кот селядца. *Там жа, 326.*

Валачэцца як цяле′пкала. *Нар., лекс., 164, І. Крамко, Касц.*

Ва′ліць як на каня (вала). *Fed., 326, Вайк. п.; Янк., Пар., 24.*

Ва′ліць (гаціць) як у процьму. *Янк., 398.*

Ва′ліць [народ] як на кірмаш. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Ва′ліць як у бяздонную бочку. *Там жа.*

Валочыцца па дзеўках як ліхая доля. *Сцяшк., 583, Слон.*

Валочыцца па свету, бы непрытомны. *Сержп., 26.*

Валочыцца па чужых хатах як няма яму чаго рабіць. *Шатэрнік, 41, Сміл.*

Валочыцца як тая старчыха.[46] *Там жа, 265.*

Валтузяцца як вераб′і ў гнаі. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Валюгаецца (топчыцца, варочаецца, трашчыць) як мядзведзь.[47] *Шатэрнік, 42, Пух.; Шпил., 176; Нос., 16; Киркор, 238;*

*Сержп., 4; Fed., 327; Сак. п.; Янк., Пар., 167; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Валюхаецца як вутка. *Шатэрнік, 42.*

Валяецца як ашмётак. *Добр., Слов., 569.*

Валяецца як ламачына. *Янк., 398.*

Валяецца як шаўпя′к. [48] *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Варочае як свіння ў карыце. *Fed., 327, Вайк. п.*

Варочаецца што вол у хляве. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

Варочаецца як калцо. [49] *Касп., 152, Кузняц.*

Варочаешся як мех. *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

Варушыцца бы папоў парабак. *Сержп., 46; Fed., 240, Вайк., Слон. п.*

Варушыцца як мярлюй. [50] *Касп., 184, Кузняц.*

Варушыцца як чарвяк. *І. Саламевіч, 1971, Слон. 13.10.69.*

Ва′рыць, бы ў катле. [51] *Нар. сл., 300, А. Крывіцкі, Г. Цыхун, І. Яшкін, Тур.*

Ва′рыць як у гаршку. [52] *Дуб., 9; Юрч., 1977, 246.*

Ведаець (знае) як свае (сваіх) пяць пальцаў. *Янк., 399; Сержп., 27; Fed., 358, 359, Вайк. п.; М. Грынблат, 1969, Лаг.*

Ведаю (знаем, знаюць) яго як аблупленага [сабаку, каня]. *Fed., 259; Сержп., 27; М. Грынблат, 1945, Плешч., 1969, Лаг.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69; Дуб., 23. Вар.: Янк., 399.*

Ведаю [яго] як аблупленую кабылу (казу). *Нос., 50; Ром., Бел., 297.*

Вейкі як алавяныя. *І. Саламевіч, 1972, Слон. 13.10.69.*

Век за векам як пірог з млекам. *Дуб., Нар., 1.*

Век звекаваў як адзін дзень згуляў. *Янк., Пар., 25.*

Век зжыў як мех сшыў. *Там жа.*

Век пражыла як у полі былінка. [53] *Горленка, 251, Акцябр.*

Ве′лізны як хлеў. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Велічаюць як чорта на вілах. *Добр., 132.*

Велькі як вокам кінуць. *Fed., 332, Вайк. п.*

Веращчыць (вішчыць, пішчыць) як парасё ў праслі (плоце). *Бяльк., 109, Мсцісл.; 110, Хоц.; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25; Fed., 235, Вайк. п., Сержп., 137.*

Весела як на ігрышчы. *Янк., Пар., 25.*

Весела як рыбцы на кручку. *Янк., 398.*

Весяліся як Міцька на ра'даўніцу.[54] *Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29.*

Ветрыць як сабака каля рэзніцы.[55] *Fed., 333, Вайк. п.*

Вецер зімні проста як агнём паліць. *Там жа, 331, Слон. п.*

Вецер як з чапы сарваўся.[56] *Добр., Слов., 976, Бельскі п.*

Відаць як ліхая (падраная) шапка. *Янк., Пар., 25.*

Вёрткі як уюн. *Шатэрнік, 46, Пух.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Відаць як на далоні. *Касп., 92, Гарад.; Fed., 75, 330, Вайк. п.*

Відна ноч, хоць шпількі (іголкі) збірай. *Fed., 204, Вайк. п.; Янк., 399.*

Відна як у [белы] дзень. *Fed., 330, Вайк. п.; Бяльк., 108, Мсцісл.*

Відно, хоць голкі збірай. *Fed., 330, Вайк. п.*

Віляецца (выкручваецца, туляецца, хаваецца, уцякае) [ад работы] як сабака ад мух. *Аним., 264; Нос., 172; Dybow., 190; Fed., 343, Вайк. п.; Pietk., 360; Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.7.*

Вісіць (матляецца) як на калу' (калку').[57] *М. Грынблат, 1974, Лаг. Вар.: Нар. лекс., 197, Г. Малажай, Брэсц.; Ройзен., 81; Мяц., 286, Слуцк.*

Вісіць нада мной як грэх над душой. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Вісіць як камень на шыі. *Fed., 155, Вайк. п.*

Вісіць як на пудзіле. *Янк., Пар., 26.*

Вісіць як сабака пры (на) рэзніцы.[58] *Fed., 333, Вайк. п. Вар.: Янк., 399.*

Вішні, што брызгель.[59] *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Во зрубіла як сячонка.[60] *Добр., Слов., 500.*

Во набралася як Марцін за рубля.[61] *М. Грынблат, 1972, Слуцк.*

Во набраўся як павук.[62] *Там жа, 1967, Мсцісл. 8.1.106.*

Во наклалі бульбы (у місу) як каню.[63] *Там жа, 1970, Лаг., 1976, Кар.*

Во скамурдзілася як абязьяна.[64] *Касп., 281, Сен.*

Во якая курносая як заводная свіння.[65] *Там жа, 173.*

Водзіцца як карова з целям. *Fed., 326, Ваўк. п.*

Водзіць як п'янага.[66] *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Водзіць як чорт п'янага па балоце.[67] *Pietk., 398.*

Возьме як каваль абцэнгамі. *Мяц., 164, Лід.*

Войска ідзе як вада плыве. *Fed., 334, Ваўк. п.*

Войска ідзе як мак цвіце.[68] *Там жа.*

Войска як хмара. *Янк., Пар., 26.*

Вольна як на траўцы. *Там жа.*

Вольны як вецер. *Там жа.*

Вольны як птушка (птах). *Янк., 399.*

Вольны як рыба ў нераце. *Там жа.*

Вольны як хмарка. *Янк., Пар., 27.*

Восеньская муха як дзеўка-векавуха. *В. Бондар, 1967, Мн. 13.10.24.*

Востры (гостры) як брытва. *Fed., 113, Ваўк. п.; Янк., 399; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Востры як калун. *І. Саламевіч, 1971, Слон. 13.10.69.*

Востры як цвік. *Янк., Пар., 27.*

Вочкі сінія як барвінчык.[69] *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Вочкі [сінія] як васілёчкі. *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7; Янк., 426.*

Вочкі як вішанькі. *Янк., Пар., 27.*

Вочкі як зоркі. *Там жа.*

Вочкі як па'церачкі. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Вочы [бегаюць] як у злодзея. *Сержп., 88; Янк., Пар., 27.*

Вочы вырачыць, бы буян (бык). *Мяц., 40, Пін.*

Вочы [рабы] як у жабы. *Касп., 181, Сен. Вар.: Fed., 336, Ваўк. п.*

Вочы сіні як пралескі. *Fed., 336, Ваўк. п.*

Вочы як асакою прарэзаны. [70] *Ройзен., 68.*

Вочы як слівы. *Янк., Пар., 27.*

Вочы як кулаке′. *Жыв. сл., 139, П. Суяцко, Зэльв.*

Вочы як у блашчыцы. *І. Саламевіч, 1974, Мн. 13.10.69.*

Вочы як у каня. *І. Саламевіч, 1972, Слон. 13.10.69.*

Вочы як у рыбы. *Fed., 335, Ваўк. п.*

Вочы як у савы. *Янк., Пар., 28.*

Вочы як у свінні. *Там жа.*

Вочы як яблыкі. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Вусцішна як на могілках. *Янк., Пар., 28.*

Вусы як вяроўкі (вераўкі′). *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Вусы як у рака. *Янк., Пар., 28.*

Вутра дачакаешся як на краюшак з цёмнага лесу выберашся. [71] *Добр., 11.*

Вушы як лапухі. *І. Саламевіч, 1976, Слон. 13.10.69.*

Вушы як у зайца. *Янк., Пар., 28.*

[Вы ўсе] харашы як дзятлы ў куляшы. *Вас., 58.*

Выбегаўся як сабака. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.7.*

Выбіраецца як чайка за мора. *Fed., 342, Ваўк., Сак. п.; Pietk., 399; Дуб., Нар., 1.*

Выбралася (убралася) як [сераўно] петнастоўка (шасна′ццатка). [72] *Суяшк., 371, Маст.; Нар. лекс., 211, М. Абабурка, Клецк.*

Вываліў зубы як кабыла да жарабца [смяецца-цешыцца]. *«Ніва», 1978, № 45.*

Вываліў як з пастала′. *Fed., 345, Ваўк. п.*

Вывернецца як лут [палежвае]. *Янк. М., 110.*

Выгадаваў як кветку ў садочку. *Там жа, 243.*

Выгла′джаецца як бубен. [73] *Юрч., 1966, 56.*

Выглядае як чысты Лазар. [74] *Fed., 170, Ваўк. п.*

Выглядае (паглядае, пазірае) як сабака з буды. *Там жа, 210, 343.*

Выгнала як тычыну. [75] *Янк., 400.*

Выгналі як сонца пчолак. *Янк., Пар., 29.*

Выгнаў як сабаку. *І. Саламевіч, 1972, Слон. 13.10.69.*

Выгоністы як хвоя. [76] *Янк., Пар., 29.*

Вые (храпе) як воўк. *Fed., 343, Вaўк. п.; М. Грынблат, 1977, Кар. Вар.: Яўсееў, 27.*

Вые як воўк у піліпаўку. *М. Грынблат, 1976, Кар., Лаг. Вар.: Янк., Пар., 29.*

Вые як сабака. *Fed., 343, Ваўк. п.*

Выйграў як Шлёма на арэндзе. *Нос., 21.*

Выйдзе як аліва наверх. [77] *Fed., 343, Ваўк. п.*

Выйшаў як халоднаю вадою абліты. *Юрч., 1977, 219.*

Выкаціўся як сноп. *Fed., 343, Ваўк. п.*

Выкручваецца як вуж (уюн). *Янк., Пар., 29.*

Выкручваецца як тое чарцянё. *Шатэрнік, 53, Сміл.*

Выкручваецца як цыган (шавец) на кірмашу. *Fed., 60, 343, Ваўк. п.*

Вылаяў як сабаку. *Там жа, 344.*

Вылежваецца як пан. *Мяц., 284, Стаўб.*

Вылезла з языком як сабака з хвастом. *Юрч., 1969, 190.*

Вылецеў як бомба. *Добр., Слов., 735.*

Вылецеў як куля. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

Вылізала як карова цяля. *Fed., 344, Ваўк. п.*

Вылупіў вочы (вылупіўся, пазірае) як сава. *Янк., Дыял., 1, 205; Янк., 419; Мін.-Мал., 1974, 186, Мядз.*

Вылупіў вочы як баран на воўка. *Ляцкий, 6; Сержп., 124.*

Вылупіў вочы як воўк на барана. *Ройзен., 68.*

Вылупіў вочы як дурны баран. *Fed., 336.*

Вылупіўся як кот. *Янк., Пар., 30.*

Вылупіць (вырачыць) вочы як вол (бык) на новае шула. *Янк., 400. Вар.: 402.*

Вылушчыўся (вылузаўся) як гарэх [з шапачкі]. *Fed., 344, Ваўк. п.; Янк., Пар., 29.*

Вымазаўся як камінар. *Суяшк., 212, Кар. Вар.: Мін.-Мал., 1977, 60, Лаг.*

Вымак як шчур. [78] *Нар. лекс., 119, І. Шпакоўскі, Пін.*

Вымахаў [хлопец] як жардзіна. *Юрч., 1969, 60.*

Вымачаны як следзь (селядзец). *Fed., 344, Ваўк. п.: І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Выпендрываецца як муха на матацыкле (на шкле). *М. Грынблат, 1977, Кар.*

Выпінаецца (напінаецца, выкручваецца, круціцца) як скурат (шкурат) на агні. *Нос., 821; Дуб., 52; Янк., 400; Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2; Мяц., 318, Віл.; Мін.-Мал., 1970, 162, Пух.; М. Грынблат, 1965, Кар.*

Вырабіў зямлю як пальцамі перамацаў. *Янк., Пар., 30.*

Вырабіў зямлю як пух. *Там жа.*

Вырадзілася як на вяселле. *Мат., 85, Е. Кавалёва, Бых.*

Вырас як дуб. *Fed., 344, Ваўк. п.*

Вырас як з-пад зямлі. *Мін.-Мал., 1970, 159, Пух. Вар.: Юрч., 1977, 213.*

Вырас як махіна. *Бяльк., 403, Крыч.*

Вырасла як біржа. [79] *Юрч., 1969, 60.*

Вырасла як дырба. [80] *Нар. лекс., 50, І. Чыгрын., Слон.*

Вырасла як сосна. *Fed., 344, Ваўк. п.*

Вырачыў вочы як жаба. [81] *Янк., Пар., 30; Fed., 337, Ваўк. п. Вар.: В. Скідан, 1975, Рэч. 8.75.98.*

Вырваў як з воўчых зубоў. *Янк., Пар., 30. Вар.: Сержп., 127.*

Вы′сака як на шыбеніцы. *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Высалапілася як патароча. [82] *Шпил., 172; Киркор, 238; Шейн, 22.*

Высах, хоць рэбры лічы. *Янк. М., 111.*

Высах як а′плік [83] *Шатэрнік, 19, Сміл.*

Высах як былінка ў полі. *Сержп., 31. Вар.: Добр., Слов., 46, Смал. п.*

Высах як мядзведжа лапа [84] *Нос., 22.*

Высах як перац. *Янк., 400.*

Высах, як суга́к той стаў. [85] *Бяльк., 426, Касц.*

Высах як таран. *Янк., Пар., 31.*

Высах як трэска (у трэску). *Fed., 345, Ваўк. п. Вар.: Сержп., 31.*

Высах як шкілет. *Янк., 400; Ройзен., 68.*

Высах як шчука. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Высахла што шчэпка. *Мяц., 320, Сен.*

Высахла як дранка. *Горленка, 248, Нар.*

Выска́каець з языком як сабака з хвастом. *Юрч., 1977, 42.*

Выскаліў зубы як звер. *Касп., 67, Сен.*

Выскаліў зубы як сабака на высеўкі (на пятніцу, на мяса). *Fed., 361, Ваўк. п. Вар.: 345.*

Выскачыла як сарока на ве́рбе. *Там жа, 345, Гродз. п.*

Выскачыў як апараны. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Выскачыў як варам абліты. *Юрч., 1977, 223; Янк., 443.*

Выскачыў як жаба з куста. *Е. Слізевіч, 1965. 13.10.6.*

Выскачыў як з полымя. *Янк., Пар., 31.*

Выскачыў як казак з маку. *Fed., 345, Ваўк. п.*

Выскачыў як нашкодзіўшы сабака. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Выскачыў (вырваўся) як Піліп (Раман, шляхціц, певень) з канапель. [86] *Нос., 22; Шпил., Нар., 126; Сержп., 60; Fed., 234;* Мін.-Мал., 1970, *159, Пух.; Сцяшк., 584, Гродз.; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2; А. Фядосік, 1975, Петр. 8.75.100; Ройзен., 68; Юрч., 1977, 239.*

Выскачыў як цацярук. *Fed., 345.*

Выскачыў як чорт з лазы. *Янк.. Пар., 32.*

Выслізнуў як намылены. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Высмажыўся як скварка. *Янк., Пар., 32.*

Высмакчуць як расянка камара. [87] *Мяц., 317, Докш.*

Высокі (доўгі) як жэрдка (тычка). *І. Саламевіч, 1975, Слон. 13.10.69.*

Вы′страілася як лялька. [88] *Fed., 345, Вайк. п.*

Выстругала яго як снітку. [89] *Там жа.*

Вы′трашчылася як тая баба-яга. *Шпил., 177.*

Вытрашчыў вочы як кот на гліне. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Вытрашчыў (вырачыў) вочы як вол на разніка′. *Fed., 337, Вайк. п.*

Вытрашчыў вочы як яшчарыца на дзеці. *Там жа, 336.*

Выхапіў як з агню. *Янк., Пар., 32.*

Выхартаўся як хорт. [90] *Добр., Слов., 965, Смал. п. Вар.: 740, Пар. п.*

Выцапкаўся як чорт балотны. *Нос., Слов., 101.*

Выцыга′е як на гарачай блясе. [91] *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Выцягвае шыю як гусак. *Жыв. сл., 96, Н. Лявончык, Віл.*

Выцягнулася дзеўка як бярозка. *І. Саламевіч, 1975, Слон. 13.10.69.*

Выцягнуўся як кандыбіна. [92] *Мяц., 267, Вал.*

Выцягнуўся як лут. [93] *Шатэрнік, 148, Сміл.; Мат., 180, Ф. Янкоўскі, Глуск.*

Выцягся хлапчук цыбаты як журавель. *Сержп., 80.*

Вычагнула як халера. [94] *Добр., Слов., 107.*

Вычысціў як конь у жолабе. [95] *Янк., Пар., 32.*

Вычытвае (галосіць) як па нябожчыку (пакойніку). *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Вы′шыкаўся (вышаптаўся) як рак (у торбе). [96] *Fed., 345, Вайк. п.; Янук, 31.*

Вязе (шанцуе) як Заблоцкаму на мыле. [97] *І. Хайратовіч, 1951, Тал. 13.8.4; Касп., 348, Сен.*

Вязе як топельніку. *Т. Вяль, 1970, Мядз. 13.10.67.*

Вякае як сабака. *Бяльк., 398, Міл.*

Вялізная [газэціна] як пасцелька. *Шатэрнік, 62, Сміл.*

Вялізны (вялікі, велькі) як конь. *Fed., 329, 332, Вайк. п.*

Вялік як мора. *Добр., Слов., 161, Смал. п.*

[Вялікая папараць] парасла як лес усё роўна. *Шатэрнік, 201, Сміл.*

Вялікі страх як леташні снег. *Ляцкий, 124.*

Вялікі як горад. *Янк., Пар., 32.*

Вялікі як дуб. *Там жа.*

Вялікі як Дунай. *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Вялікі як матавіна такі. [98] *Мяц., 49, Віл.*

Вялікі як праўда. *Янк., Пар., 33.*

Вялікі як свет. *Там жа, 32.*

Вялікі як сосна. *Fed., 329, Ваўк. п.*

Вялікія вушы як у свінні. *Шатэрнік, 50, Сміл.*

Вялы як гануча. *Д. Ваўчок, 1966, Воран. 13.10.26.*

Вялы як студзень. [99] *Добр., Слов., 886.*

Вярцеўся як мельнічны жарноў. *Касп., 70, Сен.*

Вясёлы як векавуха. [100] *Янк., Пар., 33.*

Вясёлы як жаўранка (ластаўка). *Там жа.*

Гаварыць як макам сыпаць. *Мін.-Мал., 1977, 137, Лаг.*

Гавора як бобу аб'еўшыся. *Dybow., 9; Fed., 108, Ваўк. п.*

Гаворадь як у бубен б'юць. *Fed., 108, 30, Ваўк. п.; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29. Вар.: Сержп., 3; Pietk., 311.*

.Гаворыць бы з бочкі. *Сержп., 134.*

Гаворыць гладка як вол языком ліжа. *В. Калюк, 1965, Нав. 13.10.6.*

Гаворыць (прызнаецца) як на споведзі. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Гаворыць як блёкату наеўшыся. *Fed., 108, Ваўк. п.*

Гаворыць як ваду на кола лье. [101] *М. Грынблат, 1977, Кар.*

Гаворыць як жмында. [102] *Касп., 107, Сен.*

Гаворыць як зашчы'т у судзе. *«Ніва», 1978, № 40, Беласточчына.*

Гаворыць як з воўнаю ў роце. *Янк., Пар., 36.*

Гаворыць як з ксёнжкі бярэ. *Fed., 108, Вайк., Сак. п.*

Гаворыць як з труны. *Янк., Пар., 36.*

Гаворыць як ка'зань кажа. *Там жа.*

Гаворыць як крыніца булькоча. *Там жа.*

Гаворыць як лапатаю ў голаў гладзе. *Fed., 108, Вайк. п.*

Гаворыць як лістам (пухам) сцеле (сцелецца). *Там жа, 282, Вайк., Слон. п.; А. Шчыкарэвіч, 1965, Нав. 13.10.4. Вар.: Сержп., 127; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Гаворыць як не сваім голасам. *І. Саламевіч, 1971, Слон. 13.10.69.*

Гаворыць як [п'яны] плот (пляцень) гародзіць. *Fed., 108, Вайк. п.; Касп., 76, Сен.; Дуб., Нар., 1; І. Байко, 1967, Клецк. 13.10.5; В. Калюк, 1965, Дзятл. 13.10.6.*

Гаворыць як салавей з зязюляй. *Fed., 108, Вайк. п.*

Гаворыць як спіць. *Нар. лекс., 16, П. Садоўскі, Пол.*

Гаворыць як тры дні не еўшы (не еў). *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29; Г. Шымко, 1967, Нав. 13.10.21; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69. Вар.: Мін.-Мал., 1974, 186, Мядз.*

Гаворыць як у скрыпку грае. *Pietk., 369.*

Гаворыць як у торбу кладзе. *Ляцкий, 63.*

Гадзі' (дагаджай, ладзь, гладзь; нараві'ць, глядзіць, сцеражэ, стрэнчыць яму) як ліхой скуле (як ліхое скулы). *Дуб., 11; Нос., 72; Ром., Бел., 292; Сержп., 47; Fed., 74, 98, Вайк. п.; Сержп., 30; Ляцкий, 7. Вар.: Юрч., 1969, 67; Янк., 417; К. Кабашнікаў, 1971, Стаўб. 8.1.57; Нар. сл., 45, М. Бірыла, Дзярж.; Ройзен., 69; Шатэрнік, 267, Сміл.; Яўсееў, 62; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Гадуецца як заяц у капусце. *І. Вайганіца, 1963, Іў. 13.10.1.*

Газні'чка як воўчае вока. Янк., Пар., 37.

Гайдачыць як конь сцяпске'й.[103] *Добр., Слов., 876.*

Гайса'е як шалёны. *Шатэрнік, 62, Сміл.*

Галава аблезла як качан. *Добр., Слов., 206, Смал. п.*

Галава [вялізная] як цэбар. *Шатэрнік, 62, Сміл.; Fed., 99, Вайк. п.; Жыв. сл., 140, П. Суяцко, Зэльв.*

Галава голая як гарбуз. *Мін.-Мал., 1977, 10, Чэрв.*

Галава [голая] як (што) калена. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Галава дурная як чакуха. [104] *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Галава [пустая] як сявенька. *Янк., 401.*

Галава раскалочана як у барана'. *Бяльк., 395, Мсцісл.*

Галава [стала] як рэшата. *Мяц., 214, Стаўб.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Галава як барана' растрэсена. *Fed., 99, Ваўк. п.*

Галава як булава. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Галава як вядро. *Fed., 99, Ваўк. п.*

Галава як ка́пуста. *Ройзен., 69.*

Галава як на ёй ячмень змалацілі. *Янк., Пар., 37.*

Галава як ражка. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69. Вар.: Нар. лекс., 222, І. Лучыц-Федарэц, Драг.*

Галава як сарочча гняздо. *Добр., 63.*

Галава як стог. *Там жа.*

Галава як у бара'на [уся ў кучаравых кацяка'х]. [105] *Мін.-Мал., 1974, 18, Барыс.*

Галава як чыгунная. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Галасок як званок. *Янк., Пар., 37.*

Галасок як тоненькі валасок. *Нос., 26; Сержп., 134.*

Галасок як у таго салаўя, што за гарою (на зарэ) кабылу душыць (коней круціць). [106] *Fed., 111, Ваўк. п.; І. Сагарава, 1950, Браг. 8.1.35.*

Галасуе бы звязаны. *Нар. лекс., 225, І. Лучыц-Федарэц, Драг.*

Галасуюць як на кірмашу. [107] *Fed., 99, Ваўк. п.*

Галгаталі як на базары. [108] *Бяльк., 144, Бял.*

Галовы як памёлы. *Добр., Слов., 659.*

Галодны як (што) воўк. *Сержп., 38; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Галодны як звер. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Галодны як сабака [валачашчы]. *Дуб., 8; Fed., 102, Вайк., Сак. п.; Сержп., 37.*

Галодны як чорт. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Галосіць (плача) як нябожчыка хавае. *Мат., 180, Ф. Янкоўскі, Глуск.*

Галоўка як макоўка. *Нос., 25; Ляцкий, 8.*

Галыш як біч. *Шейн, 475, Пруж. п.*

Ганарысты як шляхцюк (пан). *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Ганяецца [за сабакамі] як ачмурэлы. *Бяльк., 144, Бял.*

Ганяюць як Марку па пекле. [109] *Л. Царанкоў, 1960, Крыч. 13.9.2; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69. Вар.: Мін.-Мал., 1974, 187, Ашм.*

Ганяюць як сабаку. *Fed., 103, Вайк. п.*

Ганяюць як ката'. *Янк., Пар., 38.*

Гарачо (жарота; робіцца) як у пеклі. *Fed., 103, 254, Вайк. п.; Бяльк., 413, Краснап.*

Гарачо як у лазні. *Fed., 103, Вайк. п.*

Гарачо як удовіна сэрца. *Там жа.*

Гарачы як агонь. *Там жа, Сак. п.*

Гарачы як пры'сак. *Янк., 401.*

Гарланіць як варона. *Янк. М., 11.*

Гародзіць як казёл, на ваду гледзечы. *Ляцкий, 7.*

Гародзіць як плот з лебяды. [110] *Шатэрнік, 65, Пух.*

Гартоўны як цыганскае дзіця. *Fed., 60, Вайк. п.*

Гаруе (працуе) як конь грабежны (грабежна кабыла). [111] *Там жа, 103, 242.*

Гарыць, што ў мёртвага на душы. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

Гарыць як агонь. [112] *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Гарыць як золата. *Янк., Пар., 38.*

Гарыць як каліна. *Fed., 104, Слон. п.*

Гарыць як сляпы глядзіць. *Там жа, Вайк. п.*

Гарыць як у пятніцу.[113] *Н. Буйка, 1970, Шарк. 13.10.88.*

Гаспадарыць як свіння ў вагародзе. *Дуб., 8; Fed., 106, Нав. п.*

Гатова як яечка аблупленае. *Янк., Пар., 39.*

Гібкі як уюн. *Шатэрнік, 67, Сміл.*

Гігі'кае як дурань. *Там жа, Пух.*

Гідкі (праціўны) як кажан. *Янк., 402, 422.*

Гідкі як п'яўка. *Янк., Пар., 39.*

Гізуюць як бугаі. *Нар. лекс., 109, І. Шпакоўскі, Пін.*

Гладзенькі як лялька. *Жыв. сл., 525, В. Шур, Лельч.*

Гладзенькі як яблычка. *Fed., 110, Вайк. п.*

Гладка робіць як піша. *Там жа, 254; У. Іваноў, 1958, Мн.; Суяшк., 585, Іў.*

Гладка чэша як па маслу. *Суяшк., 585, Астр.*

Гладка як аладка. *Dybow., 9; Сержп., 72; Fed., 110, Вайк. п.*

Гладка як кадка.[114] *Fed., 110, Вайк. п.*

Гладка як на патэльні. *Янк., Пар., 39.*

Гладкая [дарога], хоць яйцо каці. *Там жа.*

Гладкі як бычок.[115] *Там жа.*

Гладкі як лін. *Янк., 402.*

Гладкі як мянёк (мянтуз). *Там жа.*

Гладкі як парсюк (вяпрук, кабан).[116] *Янк., Пар., 40.*

Гладкі як сцякло. *Юрч., 1969, 109.*

Гламнуў як сабака муху.[117] *Fed., 110, Вайк. п.*

Глізовы хлеб бы камень.[118] *Шат., 41, Лун.*

Глізовы хлеб як обрус.[119] *Нар. сл., 305, А. Крывіцкі, Г. Цыхун, І. Яшкін. Тур.*

Глухая як турлушка.[120] *Бяльк., 136, 448, Краснап.*

Глухі як апенька. *Янк., 402.*

Глухі як бог. *1970, Чав.*

Глухі як палена. *Сержп., 186.*

Глухі як цецярук (цяцера). *Янк., 402; Сержп., 36.*

Глухі як (што) пень (калода). *Fed., 110, Вайк. п.; Сержп., 36; Pietk., 370; Янк., 402; Мяц. 53, Стаўб.; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; М. Грынблат, 1956, Старадар.*

Глядзеў як таращча [а нічога не бачыў]. [121] *Ляцкий, 7.*

Глядзіць з-пада лба, бы нешта ўкраў. *Pietk., 375.*

Глядзяць з-пад лоба як воўк. *Fed., 109, Вайк. п.*

Глядзіць на′чэ казёл у воду. *Pietk., 374.*

Глядзіць як аблізаны. [122] *Нос., 24.*

Глядзіць як баран на новыя вароты. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29; М. Грынблат, 1970, Лаг. Вар.: Янк., 400; Мяц., 55, Сен.*

Глядзіць як баран у біблію. *Янк., Пар., 40.*

Глядзіць як варона. *Шпил., 178; Tyszk., 426; Fed., 109, Вайк. п.*

Глядзіць як [свае′] вока. *Фраз. сл., 69; М. Грынблат, 1975, Лаг.*

Глядзіць як гусь на бліскавіцу. *Янк., 402; М. Грынблат, 1927, Тур.*

Глядзіць як [дурны] баран [на ваду]. *Fed., 109, Вайк. п.; Мяц., 55, Сен.*

Глядзіць як звер які. *Бяльк., 188, Краснап.*

Глядзіць як злодзей. *Янк., Пар., 41.*

Глядзіць як з-пад дугі. *П. Палякоў, 1960, Маг. 13.10.8.*

Глядзіць як індык (дурань, бык) на чырво′но. *І. Саламевіч, 1975, Слон. 13.10.69.*

Глядзіць (пазірае) як кот на сала (каўбасу, масла). *Янк., 402; М. Грынблат, 1976, Кар.; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.96.*

Глядзіць як кот на труса′. *Янк., 402.*

Глядзіць як мачаха. *Ройзен., 69.*

Глядзіць (вылез) як мыш з дражджэй. *Дуб., 11; Рап., 244.*

Глядзіць як на якое дзіва. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Глядзіць як пацук з мукі. *Ляцкий, 7.*

Глядзіць (узіраецца) як сабака на высеўкі. *Fed., 109, Вайк. п.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Глядзіць (пільнуе) як сваіх.[123] *І. Саламевіч, 1971, Слон. 13.10.69.*

Глядзіць як сыч. *М. Грынблат, 1965, Мн.*

Глядзіць як толькі што нарадзіўшыся. *Ройзен., 69.*

Глядзіць як у кніжку. *Янк., Пар., 41.*

Глядзіць як хохлік.[124] *Касп., 331, Беш.*

Глядзіць як яшчарка тая. *Нос., Слов., 728.*

Глядзіць як яшчарыца на яйца. *Fed., 109, Вайк. п.*

Глянула як яблычка дала. *Добр., 62.*

Глянуў (паглядзеў, зірнуў) як капейку (тры грошы, грош) даў (як рублём падарыў). *Дуб., 22; Нос., Слов., 115; Нос., 128; Сержп., 39, 137; Шырма, 205; Янк., 403; У. Іваноў, 1958, Мн.*

Гнаў як [таго] сабаку з хаты. *Янк., Пар., 42.*

Гне′здзіцца (месціцца) як курыца на яйцах. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69; Fed., 186, Вайк. п.*

Гнецца як цавіна (цявіна).[125] *Янк., Пар., 42.*

Гнядзенькі як волік (перапёлка). *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Гойдаецца бы русалка на вярбе. *Сержп., 96.*

Гол як вол. *Там жа, 25.*

Гол як сакол.[126] *Нос., 26; Сержп., 23; Юрч., 1969, 180; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Гола як на таку. *Янк., Пар., 42.*

Голас як у млíне′. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Голас як у я′ңгуля. *Раст., 294.*

Голы як бізун. *Ром., Бел., 293. Вар.: Ляцкий, 8; Fed., 112, Вайк., п.; Шатэрнік, 31, Сміл.; Мін.-Мал., 1970, 159, Уздз.; С. Бахмет, 1975, Мн.*

Гол[ы] як бубен. *Fed., 112, Вайк. п.; Сержп., 24; Шатэрнік, 36, Сміл.*

Голы як калена. *Янк., Пар., 42.*

Голы як калок. *Fed., 112, Вайк. п.*

Голы як костка. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Голы як маці радзіла. *Fed., 112, Ваўк. п.*

Голы як палец. *Янк., Пар., 42.*

Голы як пень. *Fed., 112, Ваўк. п.*

Голы як святы′ турэцкі. *Там жа, 315.*

Голы як стой. *Мяц., 57, Маст.*

Голы як у лазні. *Янк., Пар., 42.*

Гонару як у багатага свата. *Там жа, 43.*

Гонару як у засцянковай шляхцянкі. *Там жа.*

Гонару што ў свінні блох. *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Горача як на скаварадзе. *Янк., Пар., 43.*

Горача як у печы. *Там жа.*

Горка як на чужыне. *Янк., Пар., 43.*

Горкі (горка) як палын. *Касп., 226, Меж.; Сцяшк., 406, Нав.; Fed., 112, Ваўк. п. Вар.: Янк., 403.*

Горкі як дым. *Янк., Пар., 43.*

Горкі як перац. *Там жа.*

Горкі як чэмер. *Там жа; Жыв. сл., 205, М. Крыўко, Дзісен.*

Горла (губа) як халява. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69; Fed., 120, Ваўк. п.*

Горла як суконнае бёрда. *Ром., Бел., 310.*

Горне (верне) як бульдозер. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Гостры як каса. *Fed., 113, Ваўк. п.*

Гостры як пала′ш. *Там жа.*

Грабецца як курыца (кура) [на сметніку]. *Fed., 114, Ваўк. п.; Т. Аляксейчык, 1972, Клецк. 13.10.55.*

Грабеш як не сваімі рукамі. *Юрч., 1969, 114.*

Грае як краляве′цкі музыкант. [127] *Fed., 152, Ваўк. п.*

Гразны як тэй бархамотнік. [128] *Раст., 49.*

Гракае як варона. *Fed., 97, Ваўк. п.*

Грозны як перад меншым начальнікам. *Янк., 403.*

Грошай (дзенег) як мякіны. *Fed., 117, Ваўк. п.; Pietk., 371;*

Грошай як гразі (смецця). *Мяц., 310, Стаўб.; Янк. М., 43; Fed., 117, Ваўк. п.; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Грошай як пяску. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Грошай як трэсак. *Fed., 117, Ваўк. п.*

Грошай як у чорта. *Там жа.*

Грошай як у чорта ска′лак. [129] *Сцяшк., 586, Воран.*

Грошы плодныя, бы свінні. *Сержп., 42.*

Грошы як вада. *Сержп., 42; Сцяшк., 586, Шчуч.*

Грошы як за плот выкінула. *Мяц., 310, Стаўб.*

Грошы як сліна [пойдуць]. *Fed., 117, Слон. п.*

Груга′ч чорны як варона. *Мін.-Мал., 1974, 47, Лаг.*

Грукае як конь капытамі. *Янк., Пар., 44.*

Грукату (грукоча, тарахціць) як у млыне (мліне). *Там жа, М. Грынблат, 1975, Мн. Вар.: Fed., 188, Ваўк. п.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Грыбкі як капыткі. *Янк., Пар., 45.*

Грыбок як часнок. *М. Грынблат, 1977, Дзярж.*

Грыбоў, хоць грэблю масці. *Сцяшк., 586, Гродз.*

Грыбоў, хоць касіць. *Fed., 118, Слон. п.*

Грыбоў, хоць касу закладай. *Сержп., 79; Мін.-Мал., 1970, 159, Пух.*

Грыбоў як насеяна (насаджана). *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Грыбочкі (рыжыкі) як капеечкі. *Там жа.*

Грыву задзёр як конь. *Нос., 29.*

Грызе (есць мяне) як іржа жалеза (зялеза). *Fed., 119, Ваўк. п.; Шатэрнік, 124, Сміл.; І. Вайганіца, 1963, Іў. 13.10.1; Нар. лекс., 202, М. Абабурка, Клецк. Вар.: Сержп., 95; І. Саламевіч, 973, Слон. 13.10.69.*

Грызе як рэпу. *М. Грынблат, 1970, Мн.*

Грызуцца як сабака з катом. *Fed., Ваўк. п.*

Грызуцца (гаркаюцца) як сабакі. *Янк., 403; У. Іваноў, 1958,* Мн. Вар.: Добр., Слов., 120; Шатэрнік, 186, Сміл.

Грымнуў як сосна аб зямлю. *Fed., 119, Вайк. п. Вар.: Янк., 403.*

Грэе як месяц. *Янк., Пар., 45.*

Губкі як малінкі. *Там жа.*

Губы развесіў як старая кабыла. *Сержп., 59.*

Губы як каўбасы. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Губы як трубы. *Янк., Пар., 45.*

Гудзе (грыміць) як пустая малатарня. *І. Саламевіч, 1975, Слон. 13.10.69.*

Гудзе як надаедлівая муха. *Там жа.*

Гудзе як чмель. *Там жа.*

Гудуць як авадні. *Янк., Пар., 45.*

Гудуць як пчолкі. *Fed., 120, Вайк п. Вар.: Мін.-Мал., 1970, 146, Уздз.*

Гульнуў як голы ў крапіве. *Янк., 404.*

Гуляе (скачыць) як свіння .(цяля, бычок, сабака) на вяроўцы (прывязі). *Янк., Пар., 46; В. Рабкевіч, 1961, Кап. 13.9.5. Вар.: Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2; Л. Гімпель, 1977, Кар.; Л. Салавей, 1971, Мядз.; Юрч., 1977, 223.*

Гуляе як вецер. *Янк., Пар., 46.*

Гуляе як дзіця малое. *Там жа.*

Гуляе (дражніцца) як кошка з мышаю (як кот з мышкаю). *Fed., 121, Вайк. п.; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69; Мат. Гом., VI, 174, Хойн.*

Гуляка як сабака. *Шейн, 475, Пруж. п.*

Гуляюць як ластаўкі над поплавам. *Янк., Пар., 46.*

Гурдзелка як кулак. [130] *Шат., 46, Смарг.*

Гуртам як жартам. *Янк., Пар., 46.*

Густы што малодзіва. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Густы як дым. [131] *Янк., Пар., 47.*

Гучна як на кірмашы. *Там жа.*

Гыркаюцца як на разні'цы. [132] *Там жа.*

Гэта як за грош абаранак. *Fed., 1, Вайк. п.*

Гэта яму як лапці плясці (лапаць сплесці). *Tyszk., 433; Шейн, 475; Fed., 169, Віл., Слон. п.; Янк. 445.*

Гэтак ты да морды як сабака да торбы. *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Гэты кашаль як бабе радзіць. *К. Кабашнікаў, 1973, Быx. 8.73.73.*

Да яго [гавары] як да сцяны. *Fed., 107, Вайк. п.; Pietk., 394; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Дабіўся як пуга да пужа′льня.[133] *Fed., 71, Вайк. п.*

Дабра з яго як ад свінні пуху. *М. Дуброўскі, 1956, Лельч. 13.3.29.*

Дабраліся як дзве кроплі (каплі) вады.[134] *Fed., 324, 71, Вайк. п.; Pietk., 397.*

Дабраўся (дапаў, дарваўся) як вол (карова, свіння) да брагі. *Fed., 71, 76, Вайк. п.; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Дабраўся як кошка да сала. *Fed., 71, Вайк. п.*

Давёў [сенцы] як яечка. *Юрч., 1969, 70.*

Дагадзі′ў як зброднай сучцы ва′рам.[135] *Янук., 30.*

Дагарае (згасае, згарае) як свечка.[136] *І. Саламевіч, 1975, Слон. 13.10.69; Fed., 353, 307, Вайк. п. Вар.: Янк., 409.*

Дадуць як панясці′.[137] *М. Грынблат, 1976, Кар.*

Даела як горкае яблыка. *Fed., 75, Вайк. п.*

Дакутлівы як дождж асенні. *Мат. Гом., III, 241, Карм.*

Дакучлыў як вош у кажусе (сарочцы). *Fed., 75, Вайк. п.; І. Саламевіч, 1974, Слон, 13.10.69.*

Далёка як да неба. *Мін.-Мал., 1977, 29, Чэрв.*

Далі як кату′ пад′есці. *Там жа, 1974, 186, Лаг.*

Далікатны як з крулеўскай псярні. *Fed., 75, Вайк. п.*

Далікатны як куранятка. *Янк., Пар., 50.*

Далікатны як паненка. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Далікатны як панскі (англе′льскі) цюцька. *Fed., 8, 75, Вайк. п. Вар.: Янк., 404.*

Дапамог як мёртваму прыпаркі. *Ахрым., 27.*

Дапамог як мядзведзь мужыку. *Там жа.*

Дапаможа як кашаль хваробе. *А. Махнач., 1952, Уздз. 13.10.15; Е. Шот, 1970, Зэльв. 13.10.87. Вар.: Янк., 404.*

Дарагі як матка родная. *Янк., Пар., 50.*

Дарагі як свая душа. *Там жа, 51.*

Дарагі як сонейка яснае. *Янк., 404.*

Дарваўся бы свіння да цеста. *Сержп., 133.*

Дарваўся (набраўся) як Гапон [да] сліў.[138] *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29; Янк., 416.*

Дарога, хоць бокам каціся. *Сержп., 123. Вар.: Fed., 133, Ваўк. п.*

Дарога як па стале. *Fed., 76, Ваўк. п.*

Дарога як страла. *Янк., Пар., 51.*

Дарога як струна. *Там жа.*

Дастанеш як у казла малака. *Fed., 76, Ваўк. п.*

Дастанеш (трудно) як з каменя вады. *Там жа, 246, 314; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Даў (вы́цяла бяда) як абухам па галаве.[139] *М. Грынблат, 1969, Лаг.; Сержп., 22.*

Даў як з рукава.[140] *Янк., Пар., 51. Вар.: Fed., 296, Ваўк. п.*

Даў як зайцу на закуску.[141] *Fed., 73, Ваўк. п.*

Даў як купіўшы.[142] *Там жа.*

Даў як на раз укусіць. *Янк., Пар., 51.*

Даў як табакі на панюшку. *Бяльк., 314, Касц.*

Даў як украўшы.[143] *Нос., 31; Fed., 73, Ваўк. п.*

Даўганогі (даўгалыгі, пустыга́лы, дліннаногі) як бусел. *Янк., 404; Бяльк., 162, Краснап.; «Ніва», 1978, № 16, М. Шаховіч, Бельская гм. ПНР; Раст., 281.*

Даўгоў як у сабакі кляшчоў (блох). *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69. Вар.: Fed., 81, Ваўк. п.*

Дачка як каралеўна. *Янк., Пар., 52.*

Дачушка як ластавачка. *Там жа.*

Дбае як сабака аб пяту ногу. *Fed., 77, Ваўк. п.*

Двор як пані сесці. *Янк., 404.*

Джгануў як шэршань у скроню. *Янк., Пар., 53.*

Дзвігаешся як тая лялёта.[144] *Раст., 149.*

Дзевачка як клубок. *Юрч., 1969, 93.*

Дзевачка як мяцёлачка.[145] *Добр., Слов., 409.*

Дзед як смаловы корч. *Янк., Пар., 52.*

Дзелаюць [усё] як не сваімі рукамі. *Юрч., 1977, 58.*

Дзень пратоўкся як таўкач у ступе. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

Дзеўка (дзяўчына) як тапаля. *Fed., 95, Вайк. п.; Янк., Пар., 53.*

Дзеўка як агонь. *Л. Корсак, 1961, Астр. 13.9.11. Вар.: Юрч., 1977, 220.*

Дзеўка як букатка.[146] *Добр., Слов., 43, Смал. п.*

Дзеўка як вішня. *Fed., 95, Вайк. п.*

Дзеўка як кветка (краска). *Янк., 405.*

Дзеўка як каза. *Добр., Слов., 331.*

Дзеўка як маліна. *Fed., 95, Вайк. п.*

Дзеўка як півоня. *Янк., Пар., 52.*

Дзеўка як ягадка [сакаўная]. *Fed., 95, Вайк. п.; І. Саламевіч, 1975, Слон. 13.10.69.*

Дзеці сыплюцца як дождж. *М. Грынблат, 1977, Кап.*

Дзеці як парасяты. *Нос., Слов., 487. Вар.: Fed., 92, Вайк. п.*

Дзеці як ячукі′[147] *Бяльк., 509, Краснап.*

Дзі′віцца (глядзіць) як воўк на казу (ягня). *Ром., Бел., 294; Fed., 109, Вайк., Гродз. п.; Крэмнеў.*

Дзіравы як рэшата. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Дзіцёнак як малёваны. *Добр., Слов., 449.*

Дзіця як анёлак. *Шатэрнік, 18, Сміл. Вар.: Нос., Слов., 6.*

Дзіця як асцялёпак.[148] *Мат. Гом., III, 179, Добр.*

Дзіця′та бы ягнята. *Сержп., 52.*

Дзі′кі як фашыст. *Янк., Пар., 52.*

Дзыбаты як журавель. *Fed., 96, Вайк. п.*

Дзыгае як бусел.[149] *Янк., Пар., 53.*

Дзьме як кавальскі мех. *Fed., 83, Вайк. п.*

Дзьмецца як індык. *Янк., Пар., 52.*

Дзялілі як Тодар з Тадораю [лапаць з абораю]. *Там жа, 53.*

Дзяржыцца як Халімон за бога. *Ройзен., 69. Вар.: Янк., 398.*

Дзяржыць як каня на мунштуку.[150] *Fed., 95, Вайк. п.*

Дзяруцца як два каты ў адном мяшку. *Там жа.*

Дзяруцца як каты́. *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Дзяруцца як сабака з катом. *Fed., 95, Гродз. п.*

Дзярушчы (дзярэцца) як [той] кот. *Там жа; Шатэрнік, 87, Сміл.*

Дзярэ (запрасіў) што цыган (чорт) за бацьку. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25; Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

Дзярэ як воўк кабылу. *Fed., 81, Вайк. п.*

Дзярэцца ногцямі як кот кіпцюрамі. *Шатэрнік, 178, Сміл.*

Дзярэцца як жаба старая.[151] *Мяц., 78, Стаўб.*

Дзя́ўкуе як шчаня. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Дзяўчаты як на падбор. *Сцяшк., 305, Смарг.*

Дзяўчонка як іскарка. *Юрч., 1977, 228.*

Дзяўчонка як клёцка. *Там жа, 239.*

Дзяўчына як лань. *Янк., Пар., 53.*

Дзяцей як бобу (гароху). *Шпил., 179; Киркор, 238; Нос., 35; Дуб., 17; Fed., 92; Pietk., 367; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Дзяцей як гарбузікаў. *Янк., Пар., 53.*

Дзяцей як снапоў у пасадзе.[152] *Янк., 406.*

Дзяцей як чыкірды.[153] *Бяльк., 492, Краснап.*

Дзяцінішца як малы́. *Шатэрнік, 85, Сміл.*

Добра жывуць, сула́дне як адзін. *М. Грынблат, 1954, Свір.*

Добра [табе сядзець] як у пана бога за печчу. *Fed., 274, Вайк. п.*

Добра як з вадою. *Янк., Пар., 54.*

Добра як на дажынках. *Там жа.*

Добра як у гасцях на Случчыне (на заручэннях).[154] *Янк., 404, Ройзен., 69.*

Добра як у мамы гасцяваць. *Янк., Пар., 54.*

Добра як у небі. [155] *Fed., 78, Вайк. п.*

Добра як у раю. *Там жа.*

Добрая дарога як ляск. [156] *Там жа, 76, Сак. п.*

Добры як бабулька. *Янк., Пар., 54.*

Добры як соль на ране. *Сцяшк., 589, Маст.*

Дождж (дзю'рыць) як з вядра [ллець]. *Шатэрнік, 84, Сміл.; Fed., 81, Вайк. п.; З нар. сл., 44, І. Лепешаў, Шчуч.; Юрч., 1969, 69. Вар.: Мяц., 311, Стаўб.; Юрч., 1974, 194.*

Дождж ліў што з луба.[157] *Мяц., 311, Лаг.; Нар. сл., 101, М. Крыйко, Міёр. Вар.: Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Дождж лье як з канёўкі. [158] *Fed., 81, Вайк. п.*

Дождж барабаніць як увосень. *Нар. сл., 155, А. Прышчэпчык, Стаўб.*

Дождж як дражніцца [кап, кап і сціх]. *Нар. лекс., 176, Г. Юрчанка, Мсціл.*

Дождж як з цэбра. *Fed., 81, Вайк. п.*

Дожджык трусіць як праз сіта. [159] *Бяльк., 445, Краснап.*

Дом як катух. *Добр., Слов., 353.*

Дом як сарочча гняздо. [160] *Там жа, 793.*

Дома край як рай. *Янк., Пар., 54.*

Дорага (пакрышачцы) як у аптэцы. *Fed., Вайк. п.; Янк., Пар., 124.*

Доўгая як аглобля. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Доўгі як Алекшыцка грэбля. [161] *Fed., 8, Вайк., Гродз. п.*

Доўгі як жэрдка. *Там жа, 81, Вайк. п.*

Доўгі як піліпаўская ноч. *Янк., Дыял., III, 157, Глуск.*

Доўгі як пятроўскі дзень. *Там жа.*

Доўгі як тычка. *Fed., 81, Вайк. п.*

Дохлы як склют.[162] *М. Грынблат, 1971, Лаг.*

Дробная як пыл. *Бяльк., 447, Мсціл.*

Дробны як мак. *Fed., 82, Ваўк. п.*

Дроў як у лесе. *Янк., Пар., 55.*

Дружба ў іх як у адной кашулі хрышчоныя. *Мін.-Мал., 1970, 171, Лаг.*

Дружна як жабы на дождж. *Янк., Пар., 55.*

Дружны як рэха. *Там жа.*

Дрыжу як увараваўшы. *М. Грынблат, 1974, Валож. 8.74.82.*

Дрыжыць (трасецца, матаецца, б'ецца, скача) як авечы (баранні, баранчыкаў) хвост (хвосцік). *Янк., 405; Fed., 82, 273, Ваўк. п. Вар.: Янк., 431; Юрч., 1977, 57; Ройзен., 77; І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7; Нос., 79, 46.*

Дрыжыць (трасецца, калоціцца, лекаціць) як асінавы ліст (лісце асова). *Fed., 82, 266, Ваўк. п.; Pietk., 366; Шатэрнік, 100, Сміл.; Сержп., 184; Fed., 314, Лід., Сак. п.; Мяц., 307, Стаўб.; Сцяшк., 272, Гродз.*

Дрыжыць як дрыгва. *Fed., 82, Ваўк. п.*

Дрыжыць як ліст. *Сержп., 184.*

Дрыжыць як ляк.[163] *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Дрыжыць як на верацяне'. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Дрыжыць як у трасцы. *Fed., 83, Ваўк. п.*

Дрыжыць (знябожыўся, збяднеўся) як чорт пад крыжам.[164] *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69; Fed., 373, Ваўк., Сак. п.*

Дрэмлюць як каровы на стойле. *Янк., Пар., 56.*

Дудоліць як маленькі.[165] *Юрч., 1969, 155.*

Дудукае як ліхая свякроўка.[166] *Янк., Пар., 56.*

Дужы (здаровы) як мядзведзь. *Fed., 89, Ваўк. п.; Шатэрнік, 89, Сміл.; І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Дужы што бугай. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Дужы як асілак. *Шатэрнік, 21, Сміл.*

Дужы як вол. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Дужы як зубр. *Янк., Пар., 56.*

Дужы як свіння ў лужы. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Дужы як тур. *Янк., 405.*

Дужы як чорт. *Fed., 89, Вайк. п.*

Думае як аб сваёй душы. *Там жа, 84.*

Дундзіць (дундзе) як парася (бычок). *Жыв. сл., 62, Н. Кажура, Слуцк.; Мат., 98, В. Бекіш, Маладз.*

Дурная (дурное) як цяля (як цялё). *Янк., Пар., 56; М. Грынблат, 1975, Мн.*

Дурны (глуп) як варона. *Fed., 86, Сак. п.; Mien., 395. Вар.: Сцяшк., 613, Шчуч.*

Дурны як абізме′н. [167] *Сцяшк., 590, Вайк.*

Дурны як абух. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Дурны як авечка. *Янк., Пар., 56.*

Дурны як баран. *Fed., 86, Вайк. п.; Касп., 101, Сен.*

Дурны як бот [парваны, з левай нагі]. *Fed., 86, Вайк. п.; Шатэрнік, 89, Сміл.; А. Махнач, 1952, Узд. 13.10.15; Бяльк., 160, Касц.; Мяц., 79, Стаўб.; Г. Шлойда, 1969, Маладз. 13.10.64; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69. Вар.: А. Жук, 1953, Віл. 13.10.40; І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Дурны як бутэлька ад газы. *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Дурны як даўбешка. *Янк., Пар., 57.*

Дурны як кавальскія гарны′. *Fed., 86, Вайк. п.*

Дурны як пень. *Сержп., 61, 97; Ляцкий, 42.*

Дурны як сала. *Fed., 86, Вайк. п.*

Дурны як сала без хлеба. *І. Суконкін, 1960, Цер. 13.3.29; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.9.25.*

Дурны як свіння. *Fed., 86, Вайк п.*

Дурны як стоўп. *Там жа.*

Дурны як халява. *Шатэрнік, 283, Сміл.*

Дурны як хамут. *Dybow., 8; Fed., 86, Нав., Сак. п.*

Дурны як цецярук. *Янк., 405.*

Дурэе як на яго чэрці ўсселі. *Сержп., 61.*

Дурэюць як кацяняты. *Янк., Пар., 57.*

Дурэюць як малыя. *Там жа.*

Душа накрасавалася, як у раю пажыла′. *Юрч., 1972, 210.*

Душа як лес. [168] *Добр., Слов., 388, Пар. п.*

Душыць як кот мышэй. *Fed., 89, Ваўк. п.*

Дым як на татарскай працэсіі. [169] *Там жа, 311, Сак. п.*

Дыша як конь удушлівы. *Там жа, 90, Ваўк. п.*

Дыша як сабака ў горач. *Там жа.*

Едзе як з гаршкамі. [170] *Там жа, 128.*

Едзе як назаўтра. *Там жа.*

Едзе як чорт мацеру да доктара вязе. *Там жа.*

Едуць як на суд. [171] *Янк., Пар., 58.*

Ежа як у птушкі. *Янк., 406.*

Енчыць як ка′ня на дождж. *Fed., 128, Ваўк. п.*

Есці хочацца як плакаць. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Есці як верабейку. *Янк., 406.*

Есці як кату′. *Там жа; М. Грынблат, 1969, Лаг.*

Есці як сіндзіку. [172] *Янк., 406.*

Есць [без ахоты] як нежывэй. *Юрч., 1966, 33.*

Есць (жалуба′е) як не сваім (як чужым) ротам. *Там жа, 1969, 114; Мат. Гом., IV, 138, Гом.; М. Грынблат, 1976, Кар.; Нар. сл., 35, М. Бірыла, Дзярж.; Мат., 174, В. Рабкевіч, Брасл.*

Есць (жарэ) як не ў сябе. *Янк., 406; З нар. с., 91, І. Крамко, Кар.; Нар. сл., 172, У. Свяжынскі, Уш.; І. Саламевіч, 1975, Слон. 13.10.69.*

Есць як не сваімі зубамі. *Юрч., 1969, 114.*

Есць хочацца як воўку. *Fed., 130, Ваўк. п.*

Есць як губу′ (губіну). [173] *І. Яшкін, 1970, Слаўг.*

Есць як на голад. *Янк., Пар., 59.*

Есць як на плот чапляе. [174] *Мін.-Мал., 1970, 170, Стаўб.; М. Грынблат, 1977, Кар.*

Есць як назаўтра. *Янк., 406.*

Есць як не сваёю губою. *Fed., 130, Ваўк. п.*

Есць як нехаця. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Есць як перад смерцю. *Янк., Пар., 59.*

Есць як робіць. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Есць як у бяздэнную кадушку. *Fed., 130, Ваўк. п.*

Есць як у прорву. *Никиф., 144.*

Есць як у сячкарню закідвае. *Л. Гімпель, 1978, Кар.*

Есць як у церніцу трэ. *Янк., Пар., 59.*

Есь як у гу'ту гуці'ць. [175] *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Ета як сабаку муха. [176] *Юрч., 1969, 229.*

Еты аборак скасіць што папяросу скурыць. *Там жа, 1977, 238.*

Ехалі як вадою плылі. *Fed., 128, Ваўк. п.*

Ехаў ціхінька як хуваўся. *Нар. лекс., 181, Г. Юрчанка, Мсцісл.*

Ёмкі як заяц. *Шатэрнік, 76, Сміл.*

[Ён етыя] ша'ечкі як бліны пякець. *Юрч., 1977, 210—211.*

Ён як люба'віцкі ра'бін [як рэхніць слова — па і'збе пах пай-дзе'ць]. [177] *Добр., Слов., 764.*

Жадае (чакае) як збавення душы. [178] *Fed., 362, 65, Ваўк. п.*

Жаніўся як дурань з печы зваліўся. *Сержп., 64.*

Жанкі' як сарокі. *І. Саламевіч, 1976, Слон. 13.10.69.*

Жарты як у мышы з катом. *Там жа.*

Жа'ру хоць ведзьму спалі. [179] *Янк., 406.*

Жа'ры як ліса. [180] *Мат., Гом., IV, 139, Жлоб.*

Жарэ як з галоднага краю вы'рваўсё. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Жарэ як тры дні не еў. *В. Скідан, 1978, Хойн.*

Жарэ як у мех бяздонны топча. *Там жа.*

Жвавы як верабейка. *Янк., Пар., 60.*

Жвакаець як авечка. *Касп., 107, Сен.*

Жвець як бяззубы. *Нар. сл., 198, А. Баханькоў, Пол.*

Жджэ (чакае, шукае) як вол (конь, воўк) доўбні (абуха, даў-

бешкі). *Шпил., 180; Tyszk., 422; Нос.; 41; Fed., 364, Вайк., Вілен. п.; Янк., 440; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Жджэ як бога. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Жджэ як з неба пасланца. [181] *Fed., 364, Вайк. п.*

Жджэ як ка′ня дажджу. *Там жа; Pietk., 402.*

Жджэ як убогі рача′нца. [182] *Fed., 364, Вайк. п.*

Жлукціць як конь. [183] *Бяльк., 167, Мсцісл.; М. Грынблат, 1936, Пух.*

Жмурыцца як кот на сонцы. *Янк., 407.*

Жоначка (гаспадыня) як пчолачка. *Добр., Слов., 756; І. Саламевіч, 1974; Слон. 13.10.69.*

Жонка ў папа′ як капа′. *Сержп., 139.*

Жонка як пісаная. *Юрч., 1977, 73.*

Жонка як пражонка. [184] *Добр., Слов., 745.*

Жоўты як брушты′н. [185] *Касп., 42, Беш.*

Жоўты як воск. *Fed., 366, Вайк. п.*

Жоўты як жаўток. *Там жа.*

Жоўты як лата′цё. [186] *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Жоўты як рамонак. *Янк., Пар., 60.*

Жоўты як свечка перад вялікаднем. *Янк. М., 110.*

Журба як іржа. *Янк., Пар., 60.*

Жыве (сядзіць) як у бога за пазухай (печкай, печчу, плячыма). *Ром., Бел., 295; Добр., 119; Ляцкий, 12; Dybow., 17; Fed., 275, 386, Вайк., Слон. п.; Pietk., 403; Мін.-Мал., 1970, 171, Стаўб.; Г. Прытычанка, 1960, Карм. 13.3.29. Вар.: Юрч., 1969, 44.*

Жыве як той пустэльнік. [187] *Шатэрнік, 235, Сміл. Вар.: Бяльк., 361, Чэр.*

Жыве як бабіч. *Мяц., 89, Стаўб.*

Жыве як зязюлька. *Янк., Пар., 61.*

Жыве як ляля′к на пажарышчы. [188] *М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29.*

Жыве як пан (кароль). *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Жыве як сад на пагодзе (у пагоду). *I. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7; Янук., 30.*

Жыве як сарока на калу'. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Жыве як свiння. *Fed., 368, Вайк. п.*

Жыве як старадрэвiна. *Янк., 407.*

Жыве як труцень. *Янк., Пар., 61.*

Жывем як на гастрыi'. *Сержп., 70.*

Жывецца як валу' ў ярме. *Янк., 407.*

Жывецца як той саве'. *Там жа.*

Жывець як Адам у раю. *Добр., Слов., 5, Смал. п.*

Жывець як золата важыць. *Добр., 119; Т. Вяль, 1970, Мядз. 13.10.32.*

Жывець як клёцка ў масле. *Юрч., 1969, 44.*

Жывець як у шашкi iграець. *Добр., 119.*

Жывеш як вядзмедзь у мярлоге. *Раст., 159.*

Жывём як песню пяём. *Янк., Пар., 61.*

Жывот (трыбух) як (бы) барабан. *I. Саламевiч, 1974, Слон. 13.10.69; Нар. лекс., 222, I. Лучыц-Федарэц, Драг.; Юрч., 1969, 137.*

Жывот як бочка. *Янк., Пар., 62.*

Жывот як бэмбаль. [189] *Нар. лекс., 48, I. Чыгрын, Слон.*

Жывот як торба. *Янк., Пар., 62.*

Жыву (пражыла век) як за каменнай сцяной (гарою). *Мяц., 310, Арш.; Юрч., 1977, 226.*

Жыву (сяджу) як гарох пры дарозе. *Нос., 42; Ворожб.; Fed., 368, Вайк. п.; Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2; Сержп., 87.*

Жыву што ў лесе [нi ка мне нiхто, нi я нiкуды]. *Юрч., 1977, 247.*

Жывуць як агонь з вадою. *Fed., 368, Вайк. п.*

Жывуць як аднае мацеры (маткi) дзецi (дзеткi). *Там жа, Т. Багдзевiч, 1955, Шчуч. 13.10.6.*

Жывуць як браты. *Сержп., 59.*

Жывуць як вянкi плятуць. *Янк., Пар., 62*

Жывуць (дружаць, любяцца) як кот з сабакам. *Дуб., Нар., 1; Fed., 368. Вайк. п.; Шатэрнік, 96, Сміл.; М. Рымша, 1957, Маз. 13.3.29; І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.1; Мяц., 312, Стаўб.; Янк., 413. Вар.: Pietk., 391, 403; Fed., 269, Вайк. п.*

Жывуць як сабакі. *Янк., Пар., 63.*

Жывуць як сабакі ў карытцы. *Добр., 115.*

Жывуць як старцы сапры'наўскія.[190] *Юрч., 1969, 74.*

Жыву'чы (жывушчы) як кот (кошка). *Fed., 373, Нав. п.; Шатэрнік, 95, Сміл. Вар.: Нос., 43; Мін.-Мал., 1974, 59, Маладз.*

Жыву'чы як пы'рнік. *Янк., 407.*

Жыгаець як малонія (маланка тая).[191] *Нос., 42; Нос., Слов., 288.*

Жыла як у мацеры за плячымі. *М. Грынблат, 1967, Мн.*

Жылі [удваіх] як галубкі ў па'ры. *Fed., 367, Вайк. п. Вар.: Юрч., 1972, 213; Янк., Пар., 62.*

Жылі як у бога за дзвярыма (дзвярмі).[192] *Мяц., 320, Віл.; А. Мятла, 1971, Міёр. 13.10.89. Вар.: Слов. брян., 62.*

Жыта (збожжа, пшаніца, гаўёс) як сцяна. *Fed., 373, 352, 109, Вайк п.; Мяц., 122, Стаўб.*

Жыта як рабіна. *Янк., 407.*

Жыў як верабей у веніку.[193] *Мяц., 308, Віл.*

Жыў як за сябе закінуў.[194] *Ройзен., 70.*

Жыццё мяняецца як у рацэ вада. *М. Грынблат, 1954, Радун.*

Жыццё як мёду піццё. *Нос., 43, 161.*

Жы'юць як птушкі. *Fed., 367, Слон. п.*

З болю як скаціна б'юся. *Там жа, 41.*

З вераб'ёву душу.[195] *Янк., 407.*

З вушамі паўлазілі што вараняты яке'я. *Юрч., 1977, 130.*

З добрым рабіць як дзяды дзедаваць. *Янк., Пар., 66.*

З ім што з чортам. *Юрч., 1977, 202.*

З макава зе'рнятка. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

З табою гаварыць, усё роўна як з пяску пугу круціць. *Fed., 109, Вайк. п.*

З табою як у лесе з бараною. *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15.*

З торбаю як старац. *Янк., Пар., 66.*

[З яго] як з дудкі жане′. *Fed., 110, Вайк. п.*

З языком як з мячом. *Янк., 407.*

Забаўляецца як малое дзіця. *Fed., 345, Вайк. п.*

Забег як вады каўтнуць. *Янк., Пар., 66.*

Забегаўся як тая гарэхаўка. [196] *Касп., 77, Кузняц.*

Забылася як на смерць. *М. Грынблат, 1969, Лаг.*

Забяжыцца (пабудзе) як жару ўхваціць (як агню ўхапіўшы). *З нар. лекс., 15, П. Садоўскі, Пол.; Fed., 207, Вайк. п.*

Завалілі двор (места) як цёмная хмара. *Fed., 351, Вайк. п.*

Завёў (ашукаў, звёў, зманул, падманіў) як чорт добрую душу. *Tyszk., 413; Нос., 44, 129; Дуб., 22; Dybow., 3; Fed., 209, 358, 361, Вайк. п.*

Заіваецца як моль. *Fed., 351, Слон. п.*

Завісны (зайздросны) як паповыя вочы (папова вока). *Там жа; Янк., 408.*

Завіхаецца (стараецца, трапечацца) як муха ў смале (попеле). *Fed., 351, 290, Вайк. п.; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Завіхаецца як на папоўскай талацы′. *Сержп., 44.*

Завы′ек тоўсты як у быка. [197] *Добр., Слов., 224, Смал. п.*

Завыў як воўк на грамніцы. [198] *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Загарэлася як жыжка. [199] *З нар. сл., 156, Н. Корань, Браг.*

Загнуў карк як пад вярмом. *Fed., 137, Вайк. п.*

Загнуўся як быліна. *Там жа, 347.*

Загнуўся як паўтара няшчасця. *Там жа.*

Загончык як шнурок. *Янк., Пар., 67.*

Загрымеў як свёкар яке′й. *Юрч., 1977, 158.*

Загулі як чмялі ў ку′піне. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Задаецца як свіння ў карыце. *Д. Шаўчэнка, 1957, Маз. 13.3.29.*

Задачкі рашаець як рэпу грызець (як арэхі шчоўкаець). *Юрч., 1977, 218, 210.*

Задзірлівы (задзірысты) як певень. *Янк., 408; Янк., Дыял., I, 209.*

Задрыпалася як мельнікава карова. *Fed., 347, Вайк. n.*

Задрыпаная як авечка. *Шатэрнік, 100, Сміл.*

Задумаўся як перад жаніцьбаю. *М. Грынблат, 1976, Кар.*

Задумаўся як сабака ў чаўне (чоўне). *Шейн, 484, Слуцк, n.; Fed., 347, Сак. n.*

Задушы′ць як гада. *Янк., Пар., 67.*

Задушы′ць як муху. *Fed., 347, Слон. n.*

Зажадалася бы на маладое. *Сержп., 61.*

Зажадалася (захаце′ласё) як кабыле воцату. *Шпил., 180; Нос., 45; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Зажадалася як Гіны каснікоў. [200] *Tyszk., 422.*

Зажурыўся як малады. *П. Палякоў, 1960, Маг., 13.10.8.*

Зазвінела як у новым цэбры. *«Ніва», 1977, № 42, Беласточчына.*

Зайздросны як пападдзя. *Янк., Пар., 67.*

Зайшла як чайка за мора. *Мяц., 320, Стаўб.; Мін.-Мал., 1970, 171, Стаўб.*

Заказе′рыў вочы як вядзьмак. [201] *Шатэрнік, 102, Сміл.*

Заквэцаў як свіння. [202] *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Закге′ркаліся як кітайскія гусі. [203] *Нос., Слов., 733.*

Закінуў за плечы як воўк гаўцу′. *Fed., 348, Вайк. n.*

Закопчаны (завэдзганы) як стары гаршчок. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Закруціў як лісіца хвастом. *Fed., 348, Вайк. n.*

Закручваюцца валасы як у ка′чара. *М. Грынблат, 1977, Кар.*

Закудахталі як чачоткі. *Добр., Слов., 648.*

Залапатаў як цецярук. *Янк., 408.*

Залгаў як хлеба з маслам з'еў. [204] *Fed., 348, Вайк. n.*

Замаркоціўся як дзіцятка без маткі. *Янк., Пар., 67.*

Замуж як у дым. *Добр., Слов., 245.*

Замінае як корч на дарозе. *Янк., Пар., 67.*

Замужам як у пекле. *Бяльк., 449, Міл.*

Занадзіўся як свіння. *Fed., 349, Вайк. п.*

Заняло (зарвала) як жабе зімою (на зіму). *Янк., 408.*

Запішчаў як аблуплены пятух. *Ляцкий, 12.*

Запляла касу як мышыны хвост. *Бяльк., 270, Хоц.*

Запомніў як карчмар даўгі. *Янк., Пар., 68.*

Запрагці як сівага жарабца. *Ройзен., 71.*

Запырхала як авечка. *Мяц., 145, Слуцк.*

Зарабіў што (як) Хама на воўне.[205] *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25; Л. Стаўровіч, 1957, Рэч.*

Зарабіў як Даніла на лісічках.[206] *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

Зарабіў (выйграў, вышаў) як [пан] Заблоцкі (Гарэцкі) на мыле.[207] *Шатэрнік, 107, Сміл.; Нос., 21; Дуб., 50; Сержп., 50; Fed., 346, Вайк. п. Вар.: Дразд.; А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29; Л. Стаўровіч, 1957, Рэч. 13.3.29; І. Саламевіч, 1973, Слон.*

Зарабіў як курыцы на соль. *Янк., Пар., 68.*

Зарабіў як Меер на Кузьме.[208] *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

Зарабіў як на валах седакоў возячы. *Янк., Дыял., І, 209.*

Зарабіў як на соль селядца пасаліць. *Янк., Пар., 68.*

Зарагатаў як конь. *Fed., 350.*

Заране ўстаў (сабіраецца) як паноў (па'наў) парабак. *А. Тарыма, 1966, Маст. 13.10.26; Мін.-Мал., 1970, 171, Лаг.; Мяц., 315, Лаг.*

Зарзалі як кабыліцы. *Добр., Слов., 674.*

Заробіш як Марцэля на цыбулі.[209] *Л. Селівон, 1965, Ашм. 13.10.29.*

Зарос як лес. *Нар. лекс., 40, І. Лепешаў, Шчуч,*

Зарос як поп. *Янк., Пар., 68.*

Зарос як старавер. *Там жа.*

Зарыжэўся як коўш альховы. *Жыв. сл., 98, Н. Лявончык, Віл.*

Засаромеўся як дзе'ўчына. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Засаромеўся як малы ўсё роўна. *Шатэрнік, 108, Сміл.*

Засвісталі што глумакі' нейкія. *Юрч., 1977, 48.*

Засвістаў як салавей. *Бяльк., 206, Мсціcл.*

Засе'дзеўся дома як сабака ля будкі. *М. Грынблат, 1979, Кар.*

Заскачаш як рыба на кручку. *Янк., 391.*

Заснуў як забіты. *Там жа, 408; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Засталася [адна] як у полі вецер. *Добр., 11; Г. Шымко, 1967, Нав. 13.10.21; У. Іваноў, 1958, Мн.; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

Засталася як палын пры дарозе. [210] *Горленка, 251, Гом.*

Застаўся адзін як памятнік. *Добр., 106.*

Застыў як певень пасля кукарэку. *Янк., 408.*

Затакаваўся (затакаўся) як цецярук. [211] *Шпил., 180; Аним., 263; Нос., 47; Fed., 350.*

Затрапятала сэрца як птушка. *Добр., Слов., 256.*

Затупяніўся як бык. [212] *Бяльк., 206, Краснап.*

Зацвілі як мак. *Янк., Пар., 69.*

Зацяле'скаўся як дзёдзя. [213] *З нар. сл., 88, І. Крамко, Кар.*

Зацяʼўсё як камень. [214] *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Зацяўся як наравістая кабыла. [215] *Сержп., 122.*

Зачвякалі як парасяты. *Бяльк., 207, Краснап.*

Зачырване'ўсё як у морду дастаў. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Зачырвянеў як альховы (асовы) клін. *Fed., 347, Ваўк. п.*

Заядлы як сабака (чорт). *Там жа, 348; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Збештаў як сабаку. [216] *Fed., 352, Ваўк. п.*

Збіліся як авечкі. *Янк., Пар., 69.*

Збірае як сабака (груган) косці. *Fed., 373, Ваўк. п.; І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Збіраецца як вяселле ладзіць. *Янк., Пар., 70.*

Збіраецца як галодны ў каноплі (крапіву). *М. Грынблат, 1977, Кар.; 3 нар. лекс., 14, П. Садоўскі, Пол.*

Збіраецца як сойка за мора ляцець. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

Збіраўся як убогі на кісель. *«Ніва», 1977, № 6, 6. Гайнаўскі п. (ПНР).*

Зблыталіся як ніткі. *Янк., 408.*

Збожжа (жыта) хоць пакаціся па версе. *Fed., 352, 372, Ваўк. п.*

Збродуе па хаце як той кот.[217] *Нар. сл., 32, М. Бірыла, Дзярж.*

Збрыдла як сытае мяса. *Fed., 352, Ваўк. п.*

Збыткуецца як з сабакі.[218] *Там жа.*

Збялеў (спалатнеў) як смерць. *Fed., 373, Ваўк. п.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Збялеў як лі'піна (лі'пінка). *Касп., 136, Сен. Вар.: Добр., Слов., 375.*

Збялеў як палатно. *Fed., 373, Ваўк. п.*

Збялеў як тая папера. *Шатэрнік, 201, Сміл.*

Збялеў як хуста. *Ляцкий, 19. Вар.: Fed., 373, Ваўк. п.*

Звініць як звон. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Звініць як камар. *Янк., Пар., 71; І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Звініць як піла. *Янк., Пар., 71.*

Звіну'лася (збылася) як не была.[219] *Fed., 374, 352, Слон., Ваўк. п.*

Звіўся як анёлак.[220] *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Звыкся з бядою як рыба з вадою. *Янк., 409.*

Звяглівы (звягуе) як сабака [усіх аббрэша]. *Fed., 374, Сак. п.; Нар. сл., 150, А. Прышчэпчык, Стаўб.*

Згара'стаў хатку як хлеўчык.[221] *Нар. сл., 32, М. Бірыла, Дзярж.*

Згіне як на чужыне. *Янк., Пар., 71.*

Згінуў (змарнаваўся, прапаў) як рудая мыш [у балоце]. *Fed., 354, 358, 244, Ваўк., Слон. п.; Ройзен., 71. Вар.: Мяц., 216, Стаўб.; Pietk., 387.*

Згінуў як праз зямлю праваліўся. *Янк., Пар., 72.*

Згінуў як туман. *Янк., Пар., 72.*

Згладзіў як малінку.[222] *Fed., 354, Вайк. п.*

Згл'уху як з дубу. *Добр., 17.*

Згодны як два каты ў вадном мяшку. *Fed., 354, Вайк. п.*

Зго'рбіўсё (сагну'ўсё) як свінны та'тко. *І. Саламевіч, 1975, Слон. 13.10.69.*

Зго'рбіўсё як ярблю'д. *Нар. лекс., 164, І. Крамко, Кар.*

Згорбіўся як мядзведзь скачучы. *Янк., Пар., 72.*

Зграбная як лялька. *Янк., 409.*

Зграбны як свіння да алтара. *Fed., 353, Вайк. п.*

Зграбны як [худая] свіння ў дождж. *Янк., 405.*

Здарова як кабыла. *Мат. Гом., IV, 170, Нар.*

Здарова як [мельнікава] карова. *Fed., 353, Вайк. п.*

Здаровы, хоць да вяселля. *Там жа, 353, Слуцк. п.*

Здаровы, хоць ты яго ў плуг запрагай. *І. Саламевіч, 1955, Слон.*

Здаровы, чырвоны як бурлак. *Л. Салавей, 1972, Мядз.*

Здаровы што дрот. *Янк., Дыял., І, 210.*

Здаровы як бык. *Fed., 353, Вайк. п.; І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7; Добр., Слов., 488, Пар. п.; Ройзен., 80.*

Здаровы як віці'на.[223] *Fed., 353, Вайк. п.*

Здаровы (здараўляка, крэпкі, моцны) як дуб [скарбовы]. *Янк., Пар., 73; Шат., 88, Рас.; Fed., 188, Вайк. п.; Сержп., 79. Вар.: Юрч., 1969, 60.*

Здаровы як камень. *Юрч., 1969, 93.*

Здаровы як камёлак.[224] *Бяльк., 219, Краснап., Мсціcл.*

Здаровы як камярдзёлак.[225] *Шатэрнік, 129, Сміл.*

Здаровы як конь. *Fed., 353, Вайк. п.; М. Грынблат, 1967, Мн.; І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7. Вар.: Добр., Слов., 222, Росл. п.*

Здаровы як лёд. *Fed., 353, Вайк., Слон. п.*

Здаровы як мур. *Янк., 409.*

Здаровы як рыжык баровы. *В. Брычакоў, 1960, Карм. 13.3.29; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Здаровы як сыр. *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Здаровы як цвік. *Fed., 353, Вайк. п.*

Здаровыя як дуб'ё. *Яўсееў, 67.*

Здароў, хоць у вагон садзі. *Fed., 353, Слон. п.*

Здароў як зубёр. *Там жа, Вайк. п.*

Здароў як (што) рыба. *Fed., 353, Вайк., Сак. п.; М. Грынблат, 1954, Гродз.; 1970, Ашм. 8.2.16.*

Здаўся (прыдаўся, прышоўся; спрытны, такі спасобны, ловак, здатны, зграбны) як вол да карэты. *Dybow., 17; Ляцкий, 44; Fed., 352, 248, 353, Вайк. п.; Шатэрнік, 148, Пух.; Янк., 409; М. Грынблат, 1976, Кар.*

Здзелаець — як атальецць. *Юрч., 1977, 210.*

Здзелаўся як шка'ба. [226] *Касп., 350, Евяр.*

Здоўжылася як восень. *Янк., Пар., 73.*

Здох як [пасследні] сабака. *Fed., 353, Вайк. п.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Зелен як мурава. *Нос., Слов., 294.*

З'еў як за сябе выкінуў (закінуў). *Fed., 356, Вайк. п.; Янк., Пар., 74.*

З'ехаў як сабака са страхі. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Ззаду распоркі як у дворкі. [227] *Fed., 259, Вайк. п.*

Зі'мнё цяпло як ма'чышыно дабро. *І. Саламевіч, 1976, Слон. 13.10.69.*

Зірнуў як воўк. *Янк., Пар., 74.*

Зіхаціць як золата. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Зіхнула як знічка. *Янк., Пар., 74.*

Злавіў (схапіў) як сабака муху. *І. Саламевіч, 1975, Слон. 13.10.69; Янк., Пар., 159.*

Злавіў як вецер у полі. *Янк., Пар., 74.*

Злаяў (збэсціў) як сабаку. *Fed., 356, Вайк. п.; І. Саламевіч, 1973, Слон.*

Злітаваўся як рак над жабаю [узяў ды й очы выдраў]. *Fed., 373, Слон. п.*

Зложыць як мост. *Ройзен., 77.*

Злосны (злэй, ліхі, сярдзіты) як чорт. *Fed., 357, 164, 277, Нав., Ваўк., Слон. п.; Юрч., 1969, 206.*

Злосны (ліхі, сярдзіты, куслівы) як сабака. *М. Грынблат, 1977, Кар.; Жыв. сл., 140, П. Суяцко, Зэльв.; Fed., 164, 277, Ваўк. п.; Янк., Пар., 91.*

Злосны як звер. *Янк., Пар., 75.*

Злосны як сонца ў завіруху. *Там жа.*

Злосны як спасаўская муха. [228] *Там жа.*

Злосныя (куслівыя) як тыя мухі ў спасаўку (перад спасам). [229] *Брыль, 26; Л. Гімпель, 1978, Кар.*

Злуе як га′дзіна. *Сержп., 90.*

Злы (ліхі) як пада′лец. [230] *Fed., 357, 164, 177, Сак. п.*

Злы як ге′ман які. [231] *Раст., 78.*

Зляцела як лісток з дрэва. *П. Палякоў, 1960, Маг. 13.10.8.*

Зляцелі гадочкі як адна вясна. *Янк., Пар., 75.*

Зляцеліся як сарокі. *Там жа.*

Змарнеў (валіцца) як наці′на. [232] *Fed., 358, 326, Ваўк. п.*

Змерзла як масляк увосень. *В. Санько, 1969, Слуцк.*

Змёрз (замёрз) як прусак (прус). *Янк., 400; Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2.*

Змёрз (змерз) як сабака. *Fed., 374, Ваўк. п.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Змок як воўк. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Змокла як варона. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Зморшчыўся (скрывіўся; крывіцца) як серада на пятніцу. [233] *Fed., 358, 155, Ваўк. п.; Dybow., 189; Нос., 150; Дуб., 58; Pietk., 395; Сах.; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29; А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; Л. Царанкоў, 1960, Хоц. 13.9.2; А. Сіплівая, 1967, Пруж. 13.10.24; Г. Румоўская, 1960, Пліс. 13.10.40.*

Зморшчыўся як смаршчок. *Fed., 358, Ваўк. п.*

Зморшчыўся як стары. *Шатэрнік, 118, Сміл.*

Зморшчыўся як сухая пятніца.[234] *Нос., 49.*

Змоўк як зацяло (зарвало) яму. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Змоўк як язык праглынуў. *Янк., Пар., 76.*

Змята (пакамечана) як карова пажавала. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Змята як у сабакі ў горле была. *Fed., 374, Вайк. п.*

Знадобілася як сляпому люстра. *Там жа, 359.*

Знае як сабака пятніцу.[235] *Там жа.*

Знаецца (так ты знаеш) як свіння на перцу. *Нос., 50; Fed., 358, Вайк. п.; Ройзен., 78.*

Знаецца як свіння на паста'х. *Янк., 410.*

Знаці як у роднай маці. *Дуб., 22.*

Знайшоў як тапор за лавай. *Ляцкий, 13.*

Знаюцца як лысыя коні. *Нос., 50; Дуб., 22; Fed., 358, Вайк. п.*

Знаюць бы сабаку. *Сержп., 27.*

Знаюць яго як ліхога шэлега.[236] *Шпил., 181; Киркор, 235; Нос., 50.*

Знаюць як ліхую шапку.[237] *Pietk., 401.*

Зневажае, ды сварыцца як рапуха. *Сержп., 95.*

Знік як канфор (кампора) [у гарэлцы].[238] *Л. Салавей, 1971, Мядз.; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Знойдзеш тут толк як у парваным боце. *Сцяшк., 592, Воран.*

Знюхаліся як сабакі. *А. Русіновіч, 1954, Светл. 13.3.29.*

Зняло як рукой. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Зольна на двары як увосень. *Мат. Гом., IV, 183, Ветк.*

Зрабіўся як хорт.[239] *Ляцкий, 13.*

Зрабіў бяду як дошчачку. *Дуб., Нар., 2.*

Зрабіць як пе'рынку спаліць. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Зрабіць як плюнуць. *Янк., 410.*

Зразу ўзялася як спічка. *Юрч., 1969, 219.*

Зрахманіўся як воўк у яме. *Нос., Слов., 561.*

Так ты накасіў як немец наваяваў.[510] *Е. Васілеўская, 1949, Кліч. 8.1.29.*

Так ты ўгледзіш (убачыш) як сваё вуха. *Fed., 318; М. Грынблат, 1966, Петр.*

Так хочацца яму рабіць як сабацы пахаць. *Дуб., Нар., 1.*

Так хутка адно за другім памёрлі як за рукі пабраліся. *Fed., 216, Ваўк. п.*

Так цёмна [зрабілася] як ноч. *М. Грынблат, 1966, Чэрв.*

Так ціха сядзіць як мак засеялі (засеяўшы). *Fed., 276, 57, Ваўк. п. Вар.: Pietk., 362.*

Так я цябе баюся (так любяць) як сабакі дзеда. *Fed., 20, 168, Ваўк., Сак. п.; Pietk., 376; Dybow., 7.*

Так як ад гусі авёс купляць.[511] *Fed., 158, Ваўк. п.*

Так (пэўна) як а′ман у па′церах.[512] *Там жа, 8, 226, Ваўк., Сак. п.*

Так як што ліхое ўгледзеў. *Там жа, 166, Ваўк. п.*

Так як яму ў морду даў. *Там жа, 189.*

Так яму добра як у пеклі. *Ляцкий, 44.*

Такая дружба як у рысі з мядзведзем. *Добр., Слов., 805.*

Такая карысць як з [таго] казла: ні воўны, ні малака. *Fed., 138, Ваўк. п.; Pietk., 374.*

Такая нядужая, што рэшата хмелю не падыму. *Сержп., 83.*

Такая павага як свінні ў карыце. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Такая пацеха як на святога Вайце′ха.[513] *Fed., 326, Ваўк. п.*

Такая праўда як жураўлі ў небе. *Там жа, 247.*

Такая праўда як камень плавае. *Там жа.*

Такая праўда як рак свішча. *Там жа.*

Такая праўда як Рыгор зна′хар. *Там жа.*

Такая праўда як сабака сякеру з'еў і дзёгцем запіў. *Мат., 176, В. Рабкевіч, Кап.*

Такая праўда як сляпы іскаўся.[514] *Fed., 247, Ваўк. п.*

Такі дождж як сірата плача. *Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2.*

Такі красівы, ра′бенькі як лялечка.[515] *М. Грынблат, 1975, Глыб.*

Такі маленькі, што ў вусе памесціцца. *Там жа, 1978, Кар.*

Такі справядлівы як вецер у полі. *Fed., 288, Ваўк. п.*

Такі схудалы, замэрлы як гусяня пятровае.[516] *М. Грынблат, 1976, Кар.*

Такі харошы як люлька за тры грошы. *Fed., 50, Ваўк. п.; В. Палюховіч, 1974, Віл. 13.10.85.*

Такое добрае як маё жыццё (шчасце). *Fed., 78, Ваўк. п.*

Такое дабро (жыта) як мая доля. *Там жа, 72.*

Такое сала як у зайца пер'е. *У. Іваноў, 1958, Мн.; В. Палюховіч, 1974, Віл. 13.10.85.*

Талака́ як на кірмашы (у касцелі).[517] *Fed., 310, Ваўк. п.*

Талкуе як гароху наеўшыся. *Там жа.*

[Там у іх] мяшаецца як у катле. *Там жа, 186.*

Тамацька як на мыту́, кажны відзен. *Юрч., 1977, 235.*

Танканогі як сітка (сітаўка).[518] *Янк., 432.*

Танцуе як карова на ляду (лёдзе). *М. Грынблат, 1976, Кап.; І. Саламевіч, 1975, Слон. 13.10.69.*

Танцуе як стары воўк у пілiпаўку. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

Танцуюць як голыя ў крапіве. *А. Шандро, 1969, Мядз. 13.10.65.*

Танцы ак іспанцы. *М. Грынблат, 1977, Глуск. 8.77.127.*

Тапырыцца (натапырыцца) як вожык. *Шатэрнік, 276, Сміл.; Жыв. сл., 156, І. Чыгрын, Слон.*

Таргуецца як за душу. *Янк., Пар., 166.*

Таргуецца як за каня. *Fed., 311, Ваўк. п.*

Таргуецца як цы́ган. *Там жа, 60.*

Таўкуць (таўкуцца) як камары мак. *Янк., 432.*

Таўсты (таўшчарэзны, таўшчэнны) як бочка (фа́са). *Fed., 311, Ваўк. п.; Сержп., 134; Бяльк., 441, Краснап.*

Таўсты як гармата (ка́даўб, кадушка). *Fed., 312, Ваўк. п.*

Таўсты як су́дзіна. *Там жа.*

Таўсты як цяльпук. *М. Грынблат, 1974, Лаг.*

Таўсцяк як вол. *Шатэрнік, 277, Сміл.*

Таўчуць яго бы га′мана.[519] *Нар. лекс., 222, І. Лучыц-Федарэц, Драг.*

Таўчэцца (мы′ркаецца, расхадзіўся) як Марка па пеклу (у пеклі).[520] *Ром., Бел., 310; Добр., Слов., 423; Нос., 143; В. Іваноўская, 1960, Светл. 8.1.74; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29; Мяц., 258, Стаўб.; Г. Румоўская, 1960, Пліс. 13.10.40.*

Таўчэцца як табак у ступе. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Таўчэцца як чорт у пекле. *Fed., 311, Ваўк. п.*

Тахтоль (пхай) як у бяздонны (бяздэнны) мяшок.[521] *Там жа, 226, 309.*

Тахці′ як у прорву.[522] *Сержп., 50.*

Тварык як лілея. *Янк., Пар., 166.*

Твая хвароба як маё здароўе.[523] *Янук., 30.*

Твой пагадзі′як яго пачакай. *Шатэрнік, 184, Сміл.*

Тлее [стаў] як гарэх на сухой галіне.[524] *Fed., 312, Ваўк. п.*

Тлее як парахня. *Янк., Пар., 166.*

Тлела б як дрова за градамі. *Fed., 312, Ваўк. п.*

Тлусты як барсук. *Там жа.*

Тлусты як кабан (парсюк, вяпрук). *Шатэрнік, 277, Сміл.; Янк., 432.*

Толк як у Адэльску.[525] *З. Буднік, 1965, Гродз. 13.10.1.*

Толку як у гнілым колку. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

Тоненькая, мякенькая як павуцінка. *Жыв. сл., 60, Н. Кажура, Слуцк.*

Тоненькі як бочка. *Янк., 432.*

Тонкі што праўза′к.[526] *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Тонкі як блін. *Суяшк., 610, Маст.*

Тонкі як дошка. *Fed., 313, Ваўк. п.*

Тонкі як канапліна. *Там жа.*

Тонкі як лісцінка. *Янк., Пар., 167.*

Тонкі як тычка. *Fed., 313, Ваўк. п.*

Тонкі як хорт. *Там жа.*

Тоўста як дзяжа. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Тоўстая як падруба.[527] *Там жа.*

Тоўстая (разрабілася) як печ. *Сержп., 79; Мін.-Мал., 1970, 116, Узда.*

Тоўсты што забойня.[528] *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Тоўсты як бабёр. *Янк., Пар., 167.*

Тоўсты як куль саломы. *Сержп., 65.*

Тоўсты як мех. *М. Грынблат, 1976, Кар.*

Тоўсты як хамяк. *Там жа.*

Тоўсты як шула. *Янк., 432.*

Точыць як шашаль (шашол). *Там жа; Ройзен., 78.*

Трава [густая] як шчотка. *Янк., 432.*

Трава як дыван рассцілаецца. *Бяльк., 396, Чэр.*

Тра'віць як сабаку. *Ройзен., 78.*

Трапечацца як апе'чаны. *М. Грынблат, 1976, Кар.*

Трапечацца як птушачка. *Янк., Пар., 168.*

Трапіла як каса на камень. *М. Грынблат, 1969, Стол. 8.2.14.*

Трапіў (папаў) як куляй у плот (сцяну). *Сержп., 134; Fed., 219, Вайк. п. Вар.: Янк., 432.*

Трапіў (папаў) як пальцам у неба. *Янк., 432; А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

Трапіў (улез, папаўся) як прусак (лісіца, сучка, сабака) у саладуху. *Янк., Пар., 168; Янк., 420; Л. Царанкоў, 1960, Мн., 13.9.2; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Трапіў (улез) як таракан у рашчыну. *В. Рабкевіч, 1961, Кап. 13.9.5.*

Трапіў як на сабачую гандлю'.[529] *М. Грынблат, 1976, Кар.*

Трасе' як у Ташкенце.[530] *І. Саламевіч, 1976, Слон. 13.10.69.*

Трасецца як у трасцы. *Янк., 433.*

Трашчыць як сцяна на марозе. *Янк., Пар., 169.*

Трудна як водку піць. *Ляцкий, 46.*

Трудна як лапці плесць. *Нос., 164.*

Трудно як у воўка з зубоў (горла) вырваць. *Fed., 314, Ваўк. п.*

Трутні [у гэтам ву'ляі] як збанкі'. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Трыбух як сяльні'к. [531] *Там жа.*

Трымае як яечка. *Там жа.*

Трымаецца (дзяржыцца; прыстаў, прысвялепіўся, прычапіўся, прывязаўся) як п'яны (сляпы, стары, старац) за плот (плоту, каля плоту, да плоту). *Нос., 164; Ром., Бел., 294. Вар.: Ляцкий, 10; Fed., 95, 314, Ваўк. п.; Сержп., 134; Янк. М., 42; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29; М. Грынблат, 1966, Петр.; Мін.-Мал., 1970, 171, Стаўб.; Шатэрнік, 232, 233, Сміл., Пух.; Сцяшк., 618, Лід.; Л. Царанкоў, 1960, Рэч. 13.9.2; А. Мацкала, 1965, Іў. 13.10.3.*

Трымаецца як клешч. *Янк., Пар., 169.*

Трымаецца як на гусі вада. *Янк., 433.*

Трымаецца як хвароба цела. *Ляцкий, 46.*

Трэ як у церніцу. [532] *Янк., 433. Вар.: Fed., 129, Ваўк. п.*

Трэба (патрэбны) як свінні завушніцы. *Янк., 434.*

Трэба як бочка без абручоў. *Янк., Пар., 170.*

Трэба як воўк на небе. *А. Фядосік, 1959, Капатк. 8.1.73.*

Трэба як вош на лобе. *Ройзен., 78.*

Трэба як есці. *Янк., Пар., 170.*

Трэба як жаваранку пасяваць. *Там жа.*

Трэба як жыць. *Янк., 433.*

Трэба як заснуць. *Там жа.*

Трэба як папу' гармоня. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Трэба як піць (вады напіцца). *Янк., 433.*

Трэба як раз хлеба ўкусіць. *Янк., Пар., 170.*

Трэба як сённі памерці. [533] *Горленка, 251, Лоеў.*

Трэба як солі да селядца. *Янк., 434.*

Трэба як солі ў вочы. *Ройзен., 78.*

Трэба як умерламу балалайка. *Янк., 434.*

Трэліць (пляце) як дурнап'яну наеўшыся. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Трэпле языком як карова хвастом. *Д. Ваўчок, 1966, Лід. 13.10.26.*

Трэплюць як анучу. [534] *Юрч., 1969, 188.*

Туга′ як іржа. *Янк., 434.*

Турлю′дзіць што дзіцёнак. [535] *З нар. сл., 129, А. Крывіцкі, Мсцісл.*

Тут як тут. [536] *М. Грынблат, 1950, Хойн.*

Тчэ, проста як піша. *Fed., 312, Ваўк. п.*

Тырчыць (сядзіць, круціцца) як сарока (варона) на палцы (калу′). *А. Махнач, 1952, Уздз. 13.10.15; І. Саламевіч, 1973, Слон.; М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Тыцкаецца як сляпая курыца. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Тэнскнасць на сэрцы як са свету сходзячы. [537] *Fed., 274, Слон. п.*

У вушах як козы пераначавалі. *Янк., Пар., 172.*

У галаве як птушкі ціўкаюць. *Fed., 101, Слон. п.*

У грудцах як полынь шугаець. [538] *Пан., 88.*

У даўгу як у шаўку. *Нос., 19.*

У жываце як мядзведзь варочаецца. *Fed., 373, Слон. п.*

У знаці як у роднай маці. [539] *Нос., 167.*

У лесе як у хаце. [540] *Янк., Пар., 172.*

У любом дзеле як мяцёлка. [541] *Юрч., 1977, 234.*

У пасцелі так як сем свіней апарасілася. *Fed , 224, Ваўк. п.*

У роце як сарокі начавалі. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

У той га′пцы сядзіш бы ў тарэлцы. [542] *Нар. сл., 303, А. Крывіцкі, Г. Цыхун, І. Яшкін, Тур.*

У трыбусе′ як калесьмі ездзіць. *Fed., 314, Ваўк. п.*

У хаце як у гамэрні. [543] *З нар. сл., 168, У. Свяжынскі, Уш.*

У хаце як у зага′це. [544] *Fed., 50, Ваўк. п.*

У хаце як у лядзе. [545] *П. Палякоў, 1960, Маг. 13.10.8.*

[У цябе] сватоў як у зайца ламоў. [546] *Касп., 179, Сен. Вар.: Нос., 167; Fed., 80, Ваўк. п.*

Убачыць як свіння неба. *М. Грынблат, 1977, Кар.*

Убачыш (угледзіш) як сваю патыліцу. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Убег (забег) як агню ўхапіць. [547] *Fed., 316, Вайк. п.; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Убіўся як дурань у аглоблі. [548] *І. Саламевіч, 1974, Мн. 13.10.69.*

Убіўся як Янкель у касцёл. [549] *Янк., Пар., 172. Вар.: Янк., 434.*

Убралася як мара'. *«Ніва», 1978, № 26, Я. Леанчук, М. Шаховіч, Беласточчына, ПНР.*

Убралася як пані. *Fed., 316, Вайк. п.*

Убралася як чупіра'дла якое. *«Ніва», 1978, № 26, Я. Леанчук, М. Шаховіч, Беласточчына, ПНР.*

Ува'жаліся як гразь. [550] *Fed., 323, Вайк. п.*

Увалю' як каню. [551] *У. Васілевіч, 1977, Мн.*

Увесь бацю'та як выліты. *Яўсееў, 23.*

Увяз як (бы) чорт у балоце. *Ляцкий, 47; Сержп., 21.*

Угадзіла як сабацы кіпятком. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Угадзі'ў як ксёндз Магдулі. [552] *Там жа.*

Угадзіць [яму] трудней як кату' старой паненкі. *Ляцкий, 47.*

Угледзіўся як сарока на костку. *А. Латышонак, 1974, Валож. 13.10.85.*

Углядаецца (дзівіцца) як сляпы ў торбу. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Удалося як свінні ў гаросе. *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

Удалося як тэй салосе (шалосе). [553] *Нос.., 166; Дуб., 65; Fed. 317, Вайк. п.*

Ударылі ў звон як у бубен. *Fed., 362, Вайк. п.*

Ударыць як з палкі зва'ліць. *Добр., Слов., 652.*

Уеліся злыдні як вошы ў цела. *Нос., 170. Вар.: Fed., 318.*

Уецца як ластаўка перад дажджом. *Ляцкий, 48.*

Уецца як павоі. [554] *Янк., Пар., 173.*

Уецца як уюн у праломцы. *Fed., 33, Вайк. п.*

Уецца як хмель. *Янк., Пар., 173.*

Ужо дзень як вол. *Fed., 94, Ваўк. п.; Pietk., 368.*

Узгаласіла як па мёртваму. *Нос., Слов., 52.*

Уздыхае як аста́тнё спёкшы. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Узіраецца як казёл. *Fed., 324, Слон. п.*

Узлёгліся (ускінуліся) на мяне як на мокрую шапку. [555] *Нос., Слов., 653; Нос., 18; Дуб., 62.*

Узрагата́ўся як конь. *Нос., Слов., 55.*

Узышла рож як шчотачка. [556] *Добр., Слов., 1011.*

Узышоў як відук. [557] *Янк., Пар., 173.*

Узяліся за дзела як вошы за цела. *Нос., 167; Дуб., 62; Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Узяло (бярэ, ухапіла) як багатага за жывот (сэрца). *В. Рабкевіч, 1961, Кап. 13.9.5; Янк., 398, 435; Ройзен., 78; Fed., 324, Ваўк. п.*

Узяло як багатага за жывот, а шчырага за сэрца. *Pietk., 397.*

Узяло як пана раза́чка. *Янк., Пар., 173.*

Узяў як верабей. *Fed., 324, Ваўк. п.*

Узяўся за работу як вол. *Юрч., 1969, 60.*

Узяўся як за полудзень. *Янк., 435.*

Узяўся як мароз нанач. *Янк., Пар., 174.*

Ука́палася як ахонаўская дружка. [558] *Сцяшк., 38, Дзятл.*

Укаралі рыхтык як рака ў ваду ўпусціўшы. *Fed., 318, Ваўк. п.*

Укараў як злодзея за плот перакінуўшы. *Там жа.*

Улез (залез, уліп) як муха ў смалу (патаку). *Там жа, 319; В. Рабкевіч, 1961, Кап. 13.9.5; Янк., 408.*

Улез (папаўся) як [шчупак] у нерат. *Czeczot, 115; Fed., 319, Вілен. п.; Бяльк., 455, Касц.; А. Махнач, 1959, Уздз. 13.10.15.*

Улез як ні ў сваё. *Fed., 319, Ваўк. п.*

Улез як сучка ў жбан (збан). *Ляцкий, 49; В. Рабкевіч, 1961, Кап. 13.9.5.*

Улетку ноч (каротка) як у зайца хвост. *Янк., 435; І. Саламевіч, 1975, Слон.*

Улёг як казёл за вагонам. *Там жа.*

Уліп як муха ў саладуху. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Улюбіўсё як учадзеў. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Улюбіўся (утрэскаўся) як чорт у сухую грушу (сухую вярбу). *І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7; І. Вайгяніца, 1963, Іў. 13.10.1; Т. Вяль, 1970, Мядз. 13.10.67; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69. Вар.: Fed., 319, Ваўк. п.*

Улюблівы як жаба ў гразь. *А. Махнач, 1952, Узда. 13.10.15.*

Уляпаў сваё як свіння ў агарод. *Сержп., 122.*

Умазаўся як д'ябэлак. *Нос., Слов.. 149.*

Умазаўся як мурза ў зацірку. *М. Грынблат, 1976, Кар.*

Умазаўся як той муры́н. *Шатэрнік, 161, Сміл.*

Умачыўся як гуж. *Нос., 159.*

Умее як пацеры. *Fed., 319, Ваўк. п.*

Умелы як дзяшовы пастух. *Янк., Пар., 174.*

Умурзаўся (упэцкаўся, урабіўся) як чорт. *Fed., 320, 321, Гродз., Ваўк. п.; Шатэрнік, 288, Сміл.;*

Унадзілася як свіння (каза) у [а]гарод. *Pietk., 397; В. Рабкевіч, 1961, Кап. 13.9.5; Янк., Пар., 174.*

Унадзіліся як вераб'і ў проса. *М. Грынблат, 1976, Ваўк. 8.76.113.*

Унадзіўся як дзеці ў гарох. *Pietk., 397.*

Унадзіўся як заяц у капусту. *Янк., Пар., 174; Нар. лекс., 222, І. Лучыц-Федарэц, Драг.*

Унадзіўся як кот да чужога (у чужое) сала. *Ляцкий, 50; М. Бандарэнка, 1966, Маз. 13.3.29.*

Унадзіўся як кот у каўбасы. *Мат., 130, М. Гуліцкі, Лях.*

Унадзіўся як сабака ў разні́цу. *В. Іваноўская, 1963, Леп. 8.1.83.*

Унадзіўся як свіння ў бульбу. *Янк., Пар., 175.*

Унадзіўся як свіння ў моркву. *Fed., 320, Ваўк., Гродз. п.*

Унурыўся як бык. [559] *З нар. сл., 129, А. Крывіцкі, Мсціcл.*

Упарты (упірліў) як бык (вол, баран, казёл, каза, конь заце́нлівы).[560] *Fed., 321, Ваўк. п.; Бяльк., 460, 46, Мсціcл., Краснап.; М. Грынблат, 1975, Глыб. 8.75.102; 1977, Глуск. 8.77.127; І .Саламевіч, 1975, Слон. 13.10.69; Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11; І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7. Вар.: Ляцкий, 50.*

Упаў як сноп. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Уперліся як два казлы лоб у лоб. *Янк., 435.*

Упёрся як кабыла ў дышла. *В. Рабкевіч, 1961, Кап. 13.9.5.*

Упёрся як чорт у грэблю. *Там жа; Янк., 435.*

Упіраецца як каза на торг ідучы. *Fed., 321, Ваўк. п.*

Упіўся (напіўся, п'яны) як свіння. *Там жа, 237; А. Яроміч, 1970, Стол. 13.10.87.*

Упіўся як бэст'я. *Fed., 321, Ваўк. п.*

Уплютаўся (ублытаўся) як муха ў паўцінне. *Там жа; Янк., 434.*

Уросшы як груша ў мяжу. *«Ніва», 1973, № 50, Беласточчына, ПНР.*

Усё адно, што гарохам аб сцяну. *Pietk., 394.*

Усё гатова як нагу ў бот уставіць. *Шатэрнік, 65, Сміл.*

Усё знае як стары. *Fed., 359, Ваўк. п.*

Усё прымае як зямля святая.[561] *Там жа, 250.*

Усё роўна што плявацъ проці ветру. *М. Грынблат, 1978, Слуцк.*

Усё роўна як бабка адваражы́ла. *Там жа, 1977, Кар.*

Ускочыў як у тапіла.[562] *Янк., Пар., 175.*

Успацеў увесь як з вады. *Юрч., 1969, 152.*

Уссеў на яго як пан на кані. *Ляцкий, 51.*

Усунуўся на мяне як на мокрую анучку. *Дуб., 62.*

Усяго як у мядзведжа вушку. *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Утаропіўся (утупіўся) як казёл. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69; Шатэрнік, 290, Сміл.*

Утлы як муха (націна).[563] *Fed., 323, Ваўк. п.*

Утравэ́ўся ў гарод як вэпрык у бульбу.[564] *Нар. лекс., 88, П. Сігеда, Малар.*

Утрэскаўся як дурны ў саладуху. *Горленка, 250, Акцябр.*

Ухапіў (пацягнуў) як воўк авечку. *М. Грынблат, 1977, Кар.; «Ніва», 1978, № 45, Беласточчына, ПНР.*

Ухапіўся як за малінку. *Fed., 316. Вайк. п.*

Уцякае што кабыла ад аўса. *Янк., 387.*

Уцякае як ад агню. *Fed., 316, Вайк. п.*

Уцякае як ад заразы. *Там жа, 317.*

Уцякае як ад халеры. *Янк., Пар., 176.*

Уцякае як заяц ад сабакі. *Fed., 317, Вайк. п.; Pietk., 396.*

Уцякае як чорт ад свянцонай вады. [565] *Fed., 317, Вайк. п.*

Уцякалі як скочкі з дохлай сабакі. [566] *С. Цярохін, 1977, Саліг.*

Учапіўся як рак за корань. *У. Іваноў, 1958, Мн.*

Учэпісты як відук. [567] *Янк., 436.*

Учэпісты як пырнік. *Там жа.*

Ушчаміўся як парася ў плот. *Л. Царанкоў, 1960, Мн. 13.9.2.*

Фанабэрыстая як тая паненка. *Янк., 436.*

Фанабэрыцца як індык. *Касп., 322. Сен.*

Фарсісты як певень вясною. *Янк., Пар., 177.*

Фігурысты як артыст. *Там жа.*

Фыркае як конь. *М. Грынблат, 1970, Лаг.*

Фыркае як пан у мужыцкай хаце. *Янк., 436.*

Хаваецца за чужэй хрыбет як ён святэй яке'й. *Юрч., 1977, 152.*

Хаваецца (уцякае) [ад работы] як цюцька (сабака) ад мух. *Аним., 264; Нос., 172; Dybow., 190; Fed., 255, 51, 317, Вайк., Сак. п.: Pietk., 360; І. Вайгяніца, 1965, Іў. 13.10.5.*

Хадзіў ля вазоў як Марка па пеклу. [568] *Юрч., 1977, 215.*

Халодна як у ваўкаўні'. *Шатэрнік, 44, Сміл. Вар.: Янк., 438.*

Халодна як у лядоўні. *М. Грынблат, 1950, Мн.*

Халодная як верхаводка. [569] *Там жа, 1976, Стаўб. 8.76.113.*

Халодная як жаба. *Fed., 49, Вайк. п. Вар.: Нар. лекс., 222, І. Лучыц-Федарэц, Драг.*

Халодная як рыба. *Сержп., 134.*

Халодны як залеза. *Fed., 49, Ваўк. п.*

Халодны як лёд. *Там жа.*

Халодны як сліжань. *Яўсееў, 94.*

Хапае як воўк. *Сержп., 73.*

Хапае як сабака. *Шатэрнік, 293, Смiл.*

Хапіўся як за цёплы хлеб. *Янк., 436.*

Харашы як клёцкі ў куляшы. *Шейн, 482.*

Хароша бы лялька. *Нар. лекс., 223, І. Лучыц.-Федарэц, Драг.*

Хароша (прыгожая) як кветка [як дзеўка, дзіця]. *Fed., 49, Ваўк. п.; Бяльк., 225, Хоц.*

Хароша як кветка сярод летка. *Ройзен., 79.*

Хароша як макаў цвет. *Fed., 50, Ваўк. п.*

Хароша як малёвана. *Там жа.*

Хароша як ягадка. *Там жа.*

Харошая дзеўка як наліток. [570] *Нар. сл., 161, Я. Рамановiч, А. Чабярук, Рэч.*

Харошая (прыгожая) як краснапёрачка. *Янк., 338.*

Харошы як драпянка за тры грошы. [571] *І. Саламевiч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Харошы як з воску. *Fed., 50, Ваўк. п.*

Харошы як золата. *Там жа.*

Харошы як месячык. *Там жа.*

Харошы як цукерка за два грошы. *Янк., 438.*

Хата выскрабана, вымыта што сцякельца. *Юрч., 1977, 245.*

Хата чужая як свякруха ліхая. *В. Бондар, 1967, Мн. 13.10.24.*

Хата што хлеў (гумно, адрына). [572] *І. Саламевiч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Хата як жаўток. [573] *Янк., Пар., 181.*

Хата (зруб, пастройка) як звон. *Там жа; І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7; Янк., 410; Юрч., 1969, 148.*

Хата як казарма. *Мін.-Мал., 1977, 84, Лаг.*

Хата як лялька. *Янк., 439.*

Хата як стадола. [574] *Шатэрнік, 264, Смiл.*

Хата як у вяночку. *Янк., Пар., 181.*

Хата як шклянка. *Fed., 50, Ваўк. п.; І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7; Мат., 152, Н. Калоша, Кар. Вар.: Мяц., 268, 88, Стаўб.*

Хаўкае як рыба ў прыдуху. [575] *Янк., Дыял., III, 169.*

Хаўкае як сабака той. [576] *Нар. сл., 47, М. Бiрыла, Дзярж.*

Хваліцца як цыган канём. *Fed., 59, Ваўк. п.*

Хвастом мялькнуў як воўк. *Нос., 171.*

Хватае як з агню. *Fed., 56, Ваўк. п.*

Хітра сказала як варона. *М. Грынблат, 1955, Чэрв.*

Хітры бы баба. *Сержп., 71.*

Хітры як белка. *Ройзен., 79.*

Хітры як вуж. *Брыль, 105.*

Хітры як злодзей. *Янк., Пар., 182.*

Хітры як змяя. *Fed., 86, Ваўк. п.*

Хітры як ліс (ліса). *Там жа, 52, 86; Сцяшк., 613, Шчуч.*

Хітры як наша пападдзя. *Fed., 52, Нав. п.*

Хітры як ра′бін. *Янк., Пар., 182.*

Хітры як саламонавыя порткі. *Fed., 271, Ваўк. п.*

Хітры як сівы воўк. *Ю. Цярэшка, 1970, Міёр. 13.10.67.*

Хітрыя як старыя. *Fed., 52, Слон. п.*

Хіцер (хітры) як чорт. *Шпил., 178; Tyszk., 427; Mien., 395; Dybow., 192; Fed., 52, 86, 109, 173, Сак., Ваўк., Гродз. п.*

Хлеб з мякінкай як пірог з начынкай. *Ляцкий, 59.*

Хлеб салодак як раўгеня. [577] *Нос., Слов., 544.*

Хлеб той як цэгла. *Мін.-Мал., 1970, 166, Пух.*

Хлопец выцягся за лета як той ціба′х. [578] *Нар. лекс., 103, М. Аляхновіч, Пін.*

Хлопец дзябёлы як дуб. *Шатэрнік, 84, Сміл.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Хлопец як агонь. *Янк., Пар., 182.*

Хлопец як камель. *Янк., Дыял., I, 223.*

Хлопец як лут. [579] *Янк., Пар., 182.*

Хлопец як лялька. *Fed., 54, Ваўк. п.*

Хлопец як маліна (каліна). *Там жа.*

Хлопец як падзіма'ны. [580] *З нар. сл., 79, А. Прышчэпчык, Стаўб.*

Хлопец як рыдва'н. [581] *Нар. сл., 43, М. Бірыла, Дзярж.*

Хлопчык як кумпячок. *М. Грынблат, 1969, Лаг.*

Хлопчык як павесмянё. [582] *Нар. лекс., 55, I. Чыгрын, Слон.*

Хлопчык як пачы'нак [пухленькі, тоўсценькі]. [583] *Там жа.*

Хлопчык як пянёчак. *Fed., 54, Ваўк. п.*

Хлусіць як поп. *Гут., 79.*

Хлы'нкаеш [з вугла ў вугал] як прыту'лля няма. [584] *Юрч., 1972, 257.*

Хмары як пух. *I. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Хмуры як асенні дзень. *Ройзен., 79.*

Ходзе як апу'дала. [585] *Мат. Гом., III, 177, Добр.*

Ходзе як бугай. *Мяц., 288, Карм.*

Ходзіць абквэцаны як Шму'йла. [586] *Шатэрнік, 3, Сміл.*

Ходзіць атлумлены як рыба абтраўленая. [587] *Добр., Слов., 556.*

Ходзіць баба як жаўнер. *Там жа, 226.*

Ходзіць бу-бу-бу як борахава кіла. *Нар. лекс., 170, Г. Юрчанка, Мсціcл.*

Ходзіць [кавалерам] як гусь. *Ройзен., 79.*

Ходзіць (носіцца) як ведзьма на таўкачах. *Fed., 48, Слон. п.; Л. Гімпель, 1977, Кар.*

Ходзіць па пятах як сабака. *Мяц., 207, Стаўб.*

Ходзіць (пахаджае) як пава. *Касп., 213, Віц.; Янк., 438; Мяц., 286, Стаўб.; Нар. лекс., 223, I. Лучыц-Федарэц, Драг.*

Ходзіць (сунецца, ідзе) як кіла'вы. *М. Грынблат, 1976, Кар.; Fed., 122, 293, Слон. п.*

Ходзіць усё роўна як віхар. *Fed., 48, Ваўк. п.*

Ходзіць ханянём як ахмістрыня.[588] *З нар. лекс., 17, П. Садоўскі, Пол.*

Ходзіць, харабруець як індык. *Касп., 145, Віц.*

Ходзіць (цягнецца) як цела без душы. *Fed., 48, 57, Ваўк. п.*

Ходзіць як абблутаная. *Шатэрнік, 2, Сміл.*

Ходзіць як абмоклы. *Fed., 48, Ваўк. п.*

Ходзіць як адуроны. *Добр., Слов., 524.*

Ходзіць як атлумлены.[589] *Там жа, 536.*

Ходзіць як атні'мач.[590] *М. Грынблат, 1977, Кар.*

Ходзіць як басурман. *Касп., 35, Беш.*

Ходзіць як без галавы. *Fed., 48, Ваўк. п.*

Ходзіць як блудная гаўца'. *Там жа.*

Ходзіць як бусел ля вады. *Н. Бароўская, 1970, Маладз. 13.10.67.*

Ходзіць як бусел па балоце. *Шатэрнік, 38, Сміл.*

Ходзіць як бэйбас.[591] *Касп., 38, Сір.*

Ходзіць як ваўкалак. *Добр., Слов., 351.*

Ходзіць як ведзьма на купальскага Івана. *Ройзен., 79.*

Ходзіць як гайдук. *Шатэрнік, 62, Сміл.*

Ходзіць як ганучнік які. *Жыв. сл., 153, І. Чыгрын, Слон.*

Ходзіць як грэх па пеклі. *Fed., 48, Ваўк. п.*

Ходзіць як дзыба.[592] *Нос., Слов., 132; Касп., 141, Сен.*

Ходзіць як душа без цела. *Горленка, 251, Нар.*

Ходзіць як ёж па дрожджы. *Fed., 48, Сак. п.*

Ходзіць як жаўме'р.[593] *Добр., Слов., 215.*

Ходзіць як змыдзганы.[594] *Жыв. сл., 23, А. Булыка, Нав.*

Ходзіць як зу'ндаль.[595] *Касп., 135, Чаш.*

Ходзіць як зямлю прадаўшы. *В. Ганчаронак, 1960, Відз. 13.9.26.*

Ходзіць як кокавінь (певень) сярод курэй (з курамі).[596] *Бяльк., 229, Краснап.; Ройзен., 79.*

Ходзіць як кот каля гарачай кашы. *М. Грынблат, 1977, Маладз.*

Ходзіць як куль.[597] *З нар. сл., 240, Г. Юрчанка, Мсціcл.*

Ходзіць як мара'.[598] *Добр., Слов., 389; Нар. лекс., 196, Г. Малажай, Брэсц.; 229, І. Лучыц,Федарэц, Драг.*

Ходзіць як на рассохах.[599] *Добр., 87.*

Ходзіць як на смерць асуждзёны. *Добр., Слов., 543.*

Ходзіць як нежывы. *Fed., 48, Вайк. п.*

Ходзіць як няпраны мех.[600] *Горленка, 251, Гом.*

Ходзіць як па брытвах. *Fed., 48, Вайк. п.*

Ходзіць як пад зямлёю. *Янк., 515; Сержп., 38.*

Ходзіць як падмецены. *Сержп., 52; Янк., Дыял., І, 223.*

Ходзіць як падэрва якая.[601] *Касп., 217, Сен.*

Ходзіць як пакопаны. *Fed., 48, Вайк., Слон. п.*

Ходзіць як пан у бокі ўзяўшыся. *Там жа, Вайк. п.*

Ходзіць як пан у вакулярах. *Шатэрнік, 17, Сміл.*

Ходзіць як п'яны. *Fed., 48, Вайк. п.*

Ходзіць як расамаха.[602] *Сержп., 13; Мат. Гом., IV, 263, Нар.*

Ходзіць як расплюшчаная жаба. *Г. Барташэвіч, 1962, Вайк. 8.1.77.*

Ходзіць як русалка. *Fed.., 48, Вайк. п.*

Ходзіць як рыба па дну. *Там жа.*

Ходзіць як рэўза.[603] *Касп., 270, Чаш.*

Ходзіць як сабака босы. *Fed., 48, Вайк. п.*

Ходзіць як сава. *Добр., Слов., 350.*

Ходзіць як сам не свой. *Fed., 48, Вайк. п.; Pietk., 394; Юрч., 1974, 228.*

Ходзіць як свет (дзень) пацяраўшы. *Нар. лекс., 191, Г. Юрчанка, Мсцісл.; Юрч., 1977, 212.*

Ходзіць як смерць жывая. *Добр., Слов., 848.*

Ходзіць як той віж.[604] *Нар. сл., 149, А. Прышчэпчык, Стаўб.*

Ходзіць як у воду апушчоны. *Добр., Слов., 533.*

Ходзіць як утраплёны.[605] *Касп., 324, Сур.*

Ходзіць як цвічок. *Янк., 338.*

Ходзіць як цень (сцень). *Fed., 48, Вайк. п.; Сержп., 81;* ***Добр.,*** *Слов., 876.*

Ходзіць як [чорная] хмара (туча). *Янк., 438; Юрч., 1969, 189.*

Ходзіць як чучала. *Юрч., 1969, 67.*

Ходзіш (рухаешся) з кутка ў куток як лунь. [606] *Нар. лекс., 166—167, Ю. Мацкевіч, Глыб., Віл., Брасл.*

Ходзіш як мямля. *Касп., 154, Сен.*

Ходзіш як асмётка якая. [607] *Нос., Слов., 369.*

Ходзіш як кала скулы. [608] *Нар. лекс., 112, І. Шпакоўскі, Пін.*

Ходзіш як парадзіха. *Бяльк., 315, Касц.*

Ходзіш як салоха. [609] *Касп., 275, Чаш.*

Ходзіш як тая дзюндзіха. [610] *Мат., 86, Е. Кавалёва. Бых.*

Ходзіш як чупі́ла. [611] *Бяльк., 491, Мсцісл.*

Холадна як у студні. *Янк., Пар., 184.*

Хораша як на карцінцы. *Там жа.*

Хораша як у бабульчынай казцы. *Там жа.*

Хоча п'яны піць як дурны бараццa. *М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.29.*

Хоча як кабыла аўса. *М. Грынблат, 1976, Стаўб.*

Хочацца як багатаму ўміраць. *Dybow., 192. Вар.: Дуб., 68; Fed., 54, Вайк., Сак. п.*

Хочацца як мядзведзю мёду. *Янк., Пар., 184.*

Храпе як асі́пша курыца. *І. Саламевіч, 1975, Слон. 13.10.69.*

Храпе як карчы дзярэ. *Янк., Пар., 184.*

Храпе як конь каля аўса. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Худая як жэбра. [612] *Добр., Слов., 216.*

Худая як чапля. *Там жа, 970.*

Худы як аплатка. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Худы (высах, выпетрыў) як бізун. *Суяшк., 284, Гродз.; Юрч., 1977, 222.*

Худы як вясновы грак. *І. Саламевіч, 1974, Мн. 13.10.69.*

Худы як гарохава лапатка. *Там жа, Слон.*

Худы як дошка. *Fed., 55, Вайк. п.*

Худы як мыш з царквы. *Янк., 436.*

Худы як ніколі хлеба ў вочы не бачыў. *Fed., 55, Вайк. п.*

Худы як ніколі нічога не еўшы. *Там жа.*

Худы як нітачка. *Добр., Слов., 488.*

Худы як ражон. *Мяц., 112, Стаўб.*

Худы як рак. *Шатэрнік, 297, Сміл.; Янк., 436.*

Худы як скау́т. [613] *М. Грынблат, 1973, Асіп.*

Худы як смерць. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.67.*

Худ[ы] як хрусцель. [614] *Киркор, 239; Нос., 178.*

Худы як цмык (смык). [615] *Шатэрнік, 297, Сміл. Вар.: Янк., 432.*

Худы як чаранок. *«Ніва», 1978, № 44, М. Шаховіч, Заблудаўская гм. ПНР.*

Худы як шчэпачка. *Fed., 55, Вайк. п.*

Худыя як драчэ. *Мяц., 269, Стаўб.*

Худэй як струк. *Юрч., 1977, 244.*

Хутка як змаргнуць. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Хутка як маланкаю спаліў. *Fed., 55, Вайк. п.*

Хутка як слова мовіць. *Янк., Пар., 185.*

Хуткі (шпаркі) як стронга. *Янк., 437.*

Хы́рае як здохлая аўца. [616] *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Цана як за грош абаранак. *Fed., 47, Вайк. п.*

Ца́хкае як воўк зубамі. *Янк., Пар., 186.*

Цацкаецца як з веліконным яйком (яйкам). *Fed., 47, Вайк. п.; Р. Валяк, 1969, Лід. 13.10.60.*

Цвёрда як дубова. *Fed., 59, Вайк. п.*

Цвёрда як на карэнні. *Янк., Пар., 186.*

Цвёрды (цвярды́) як падэшва. *Fed., 59; Вайк. п.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Цвёрды як дзвік сераўно. *Нар. лекс., 46, І. Лепешаў, Шчуч.*

Цвёрды як залеза. *Fed., 59, Вайк. п.*

Цвёрды як камень. *Там жа, Вар.: Янк., Пар., 186.*

Цвёрды як костка. *Янк., Пар., 186.*

Цвёрды як сталь. *Янк., 437.*

Цвіце як васілёк. *Там жа.*

Цвіце як дзяцеліна.[617] *Янк., Пар., 187.*

Цвіце як кветка. *Fed., 59, Сак. п.*

Цвіце як макаўка. *Киркор, 239; Нос., 179; Dybow., 191.*

Цвіце як ружа. *Fed., 59, Вайк. п.*

Цела бела бы смятана. *Нар. лекс., 222, І. Лучыц-Федарэц. Драг.*

Цемра як у коміне. *Янк., Пар., 186.*

Цесна як на чужыне. *Там жа, 187.*

Цесна як у труне. *Там жа.*

Цесна як цыгану на полі. *Fed., 59, Сак. п.*

Цёмна (ціха) як у гробе (труне, магіле). *Там жа, Вайк. п.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69; Янк., 439; Юрч., 1977, 246.*

Цёпла як на печы. *Янк., Пар., 188.*

Цёпла як у багатага ў кішэні. *Fed., 58, Вайк. п.*

Цёпла як у выраі. *Янк., Пар., 188.*

Цёпла як у лазні. *Fed., 58, Вайк. п.*

Цёпла як у мядзведжым вуху (вушку). *Там жа; І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Цікавы як Марцін да кавы. *Н. Паліўка, 1967, Шчуч. 13.10.21; Сцяшк., 614, Лід.*

Цікуе як злодзей. *Янк., Пар., 188.*

Цікуе як кот (воўк). *Янк., 437.*

Цiснуцца як прусакі ў шчыліну. *Fed., 59, Вайк. п.*

Ціўкае як верабей. *Янк., Пар., 188.*

Ціха як поўху ўдарыўшы. *Л. Салавей, 1971, Мядз.*

Ціха як у ву́се (вуху). *Янк., 439; М. Лобан. На парозе будучыні. Мн., 1964, 15.*

Ціхенька як шашок. *Янк., Пар., 189.*

Ціхі як абабак. *Мат. Гом., III, 161, Добр.*

Ціхі як [стаячая] вада. *Fed., 57, Вайк. п.; Ройзен., 78.*

Цішыня, глухата′ як у та′нку. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Цубкі як луб. [618] *Янк., Пар., 189.*

Цыбаты як бусел. *Янк., 439.*

Цыбуля як лаза. [619] *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Цындаецца як воўк каля вёскі. [620] *Fed., 339, Вайк. п.*

Цыркаеш [таго малака] бы малому. *Нар. лекс., 236, І. Лучыц-Федарэц, Драг.*

Цэдзіць праз зубы як ліхо′ё парася. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Цюга′кае як на воўка. *Янк., Пар., 189.*

Цю′хаець услед як шчанё. [621] *Бяльк., 485, Крыч.*

Цягавіты як вол. *Янк., 439.*

Цягае як воўк ягня. *М. Грынблат, 1977, Кар.*

Цягае як чорт Марку па пекле. [622] *Н. Буйка, 1970, Шарк. 13.10.88.*

Цягаецца (валочыцца) як жабрак які. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Цягаецца як баглай. [623] *Бяльк., 96, Мсцісл.*

Цягаецца як Борах па дворах. *Юрч., 1977, 222.*

Цягаецца як карова за це′лям. *Fed., 57, Вайк. п.*

Цягаецца як пантопля. *Шатэрнік, 201, Сміл.*

Цягаецца як сабака. *Fed., 57, Вайк. п.*

Цягаюць як ката за хвост. *Бяльк., 457, Хоц.*

Цягне бы конь на млыне. *Нар. лекс., 222, І. Лучыц-Федарэц, Драг.*

Цягне як вол [ярмо]. *Fed., 57, Вайк. п.*

Цягне як дурань дзверы. *М. Грынблат, 1979, Кар.*

Цягне як [з гада′мі] на бацькаўшчыну. *Янк., Пар., 190.*

Цягне як мурашка. *Янк., 439.*

Цягне як п'яніцу да гарэлкі. *Fed., 57, Вайк. п.*

Цягне як чорт за папом. *Там жа.*

Цягнецца ззаду як аплывуда (жаба).[624] *Шатэрнік, 19, Сміл.*

Цягнецца ззаду як кішка. *Сержп., 65.*

Цягнецца як восень. *Янк., Пар., 190.*

Цягнецца як гад па зямлі. *Янк., Абр., 126, Мядз.*

Цягнецца як казіная смерць. *Fed., 57, Вілен. п.*

Цягнецца як смоўж. *Бяльк., 486, Міл.*

Цягнецца як хвост [за лісою]. [625] *Янк., 439; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69. Вар.: Fed., 57, Вайк. п.*

Цягнуцца бы старэчая пуга. *Сержп. 20.*

Цягнуць як у леечку. *Юрч., 1977, 246.*

Цяжка як камень на душы. *Fed., 57, Вайк. п.*

Цяжкі як ванзэлак. [626] *Л. Салавей, 1972, Мядз.*

Цяжкі як гляк. *М. Грынблат, 1978, Кар. Вар.: Янк., 443.*

Цяжкі як калода. *Fed., 57, Вайк. п.*

Цяжкі як олава (гліна). *Там жа.*

Цяжкі як пама'к. [627] *Нар. сл., 71, І. Гайдукевіч, Кір.*

Цяжолы як гнёт. [628] *Бяльк., 136, Краснап.*

Цякець з яго і плывець як ад чорта з балота. *Юрч., 1977, 48.*

Цячэ як рэшата. *Суяшк., 245, Свісл. Вар.: Юрч., 1977, 248.*

Чаго ты, бабо, начыбу'рчылася бы курыца на ве'траве? [629] *Нар. лекс., 231, І. Лучыц-Федарэц, Драг.*

Чаго ты бубніш як бонка? [630] *Fed., 43, Слон. п.*

Чаго ты выгінды'рваешся як на прыстаўленні? [631] *Нар. лекс., 85, І. Крамко, Стаўб.*

Чаго ты выця'гаешся як баба дурная? [632] *Юрч., 1969, 156.*

Чаго ты лётаеш як асташоны? [633] *Нар. сл., 105, М. Крыўко, Міёр.*

Чаго ты лупішся як у лесе? [634] *Шатэрнік, 149, Сміл.*

Чаго ты на мяне ўз'еўся бы сабака? *Сержп., 88.*

Чаго ты надзьмуўся як сурма? [635] *Шатэрнік, 268, Сміл.*

Чаго ты плюшчышся як кот? *Мат. Гом., VI, 194, Петр.*

Чаіцца як кот на мыш. [636] *Fed., 61, Ваўк. п.*

Чакае як матка дачушку з дарогі. *Янк., Пар., 191.*

Чалавек як муха. *М. Грынблат, 1977, Глуск. 8.77.127.*

Чаплівы як кот. [637] *Добр., Слов., 972.*

Чарада як шпакоў на сяўбе. *Янк., Пар., 191.*

Чарпае як каўшом. *Fed., 65, Ваўк. п.*

Чатуе як воўк на гавечку. [638] *Там жа.*

Чатуе як кошка (кот) на мыш. [639] *Там жа.*

Чмякае як тая авечка. *Шатэрнік, 306, Сміл.*

Чорная бы папова мурза. *Сержп., 19.*

Чорная шыя як халява. *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Чорны (мурзаты) як каміня′р (камінарнік). *Fed., 66, Ваўк. п.; Жыв. сл., 107, А. Прышчэпчык, Стаўб.; Янк., Пар., 105.*

Чорны [рот] як у ліхога сабакі. *Янк., Пар., 193.*

Чорны (счарнеў) як вугаль. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69; Г. Карачун, 1967, Клецк. 13.10.14.*

Чорны (счарнеў, учарнеў. стусьмеў) як галавешка (махнатка). *Fed., 66, Ваўк., Слон. п; Янк., 431; Жыв. сл., 108, А. Прышчэпчык, Стаўб.; Юрч., 1977, 224; Шатэрнік, 291, Сміл.*

Чорны як арап. *Бяльк., 57, Краснап.*

Чорны як асенняя ноч. *Янк., Пар., 192.*

Чорны як бізун. *Fed., 66, Ваўк. п.*

Чорны як вуж (як тая вужака). *Ром., Бел., 314; Ляцкий, 58.*

Чорны як галка. *Fed., 66, Ваўк. п.; Мат. Гом., IV, 57, Браг.*

Чорны як га′ман. [640] *Добр., Слов., 120.*

Чорны як грак (грач). *Янк. М., 42; Fed., 55, Ваўк. п.*

Чорны як дзёгаць. *Fed., 66, Ваўк. п.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Чорны як жук. *Fed., 66, Слон. п.*

Чорны як за′сланка. *Там жа, Ваўк. п.*

Чорны як зямля. *Там жа. Вар.: Юрч., 1977, 228.*

Чорны як катляр. *М. Грынблат, 1956, Смал.*

Чорны як комін. *Сержп., 13.*

Чорны як крук.[641] *Fed., 66, Вайк. п.*

Чорны як мурын (бы ні′гер). *Сержп., 12, 13; Нар. лекс., 222, І. Лучыц-Федарэц, Драг.*

Чорны як ноч. *Fed., 66, Вайк. п.*

Чорны як подмазка. *Янк., Пар., 192.*

Чорны як сажа (сопуха). *Fed., 66. Вайк. п.; І. Саламевіч, 1976, Саліг. 13.10.69; Жыв. сл., 159, І. Чыгрын, Слон.*

Чорны як смаголь.[642] *Шатэрнік, 259, Сміл.*

Чорны як смала. *Fed., 66, Вайк. п.*

Чорны як смоль. *Янк., 440.*

Чорны як смоўж. *М. Грынблат, 1976, Кар.*

Чорны як сукно. *Fed., 66, Вайк. п.*

Чорны як цыган. *Там жа, 60; Нар. лекс., 222, І. Лучыц-Федарэц, Драг.*

Чорны як чорт. *Ляцкий, 58; Fed., 66, Вайк. п.*

Чубяцца як пеўні. *Там жа, 69.*

Чужое як дурное. *Л. Корсак, 1961, Асіп. 13.9.11.*

Чула як скрозь сон. *Юрч., 1977, 218.*

Чухаецца як свіння аб вугал (плот, пад плотам). *Сержп., 45; Ляцкий, 58.*

Чыкільда′еш як стагодні дзед. *Жыв. сл., 120, В. Рагаўцоў, Жлоб.*

Чырвона як агонь. *Fed., 70, Вайк. п.*

Чырвона як каліна. *Там жа.*

Чырвона як ягада. *Там жа.*

Чырвоненькі як месяц. *Мін.-Мал., 1970, 42, Стаўб.*

Чырвоны (красен) як мак. *Янк., 440; Л. Салавей, 1971, Мядз.; Добр., Слов., 395.*

Чырвоны (красны) як бурак [цвікловы].[643] *Fed., 70, Вайк. п.; Ром., Бел., 299; Сержп., 79; Сах.; Шатэрнік, 37, Сміл.*

Чырвоны (счырванеў) як рак [вароны, печаны]. *Fed., 70, 299, Вайк. п.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69; Вар.: Добр., Слов., 772; Ройзен., 79.*

Чырвоны як гіль. [644] *Fed., 70, Вайк. п.*

Чырвоны як жар. *Там жа, 71; Бяльк., 493, Чэр.*

Чырвоны як індык. *Fed., 70, Вайк. п.*

Чырвоны як іскра. *Там жа.*

Чырвоны як кроў. *Там жа.*

Чырвоны як памідор. *М. Грынблат, 1971, Глыб. 8.2.43.*

Чырвоны як пень (коўш) альховы. *В. Шаўчэнка, 1961, Ельск. 13.9.29; Шатэрнік, 18, Сміл.*

Чырвоны як ружа. *Fed., 71, Вайк. п.*

Чырвоны як рыжок. [645] *Там жа.*

Чырвоныя [рукі] як гусіныя лапы. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Чыст як трубачыст. *С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25.*

Чыста (роўна) як пасля касы'. *Мат., 186, Ф. Янкоўскі, Глуск.*

Чыста як мятлою вымеў. *Fed., 71, Вайк. п.*

Чыста як на ярмарку Адэльскім. [646] *Там жа, 4, Сак. п.*

Чыста як тры бабы ўбіралі. *М. Грынблат, 1978. Кар.*

Чыстая як сляза. *Fed., 71, Вайк., Слон. п.*

Чысты следзь вымачаны. *Там жа, 303, Вайк. п.*

Чысты цецярук. *Ляцкий, 59; Сержп., 95.*

Чысты чорт. *Fed., 67, Вайк. п.*

Чысты (ясны) як золата. *Там жа, 71, 126, Вайк., Слон. п.*

Чысты як комін навыварат. *Сержп., 13.*

Чысты як крынічна вада. *Fed., 71, Вайк. п.*

Чысты як крышталь. *Там жа.*

Чысты як раса. *Янк., Пар., 194.*

Чысты як ры'бічае вока. *Янк., 441.*

Чысты як шкло. *Янк., Пар., 194; М. Грынблат, 1978, Кар.*

Чытае як рэпу грызе (сячэ). *Dybow., 7; Сержп., 79; Fed., 71, Вайк., Слон. п.; Мін.-Мал., 170, 171, Стаўб.; Мяц., 317, Стаўб., 318, Валож.*

Чытаець як бобам сыпіць. *Мяц., 308, Уш.*

Чыхае як кот на мыш. *Fed., 70, Ваўк. п.*

Чыхае як чорт на добру душу. *Там жа.*

Чэсны як бэркавы штаны на леву сторану. *М. Грынблат, 1977, Кар.*

Чэсць як кату ў мяху. *Дуб., Нар., 1.*

Чэша як мачыха.[647] *Fed., 65, Ваўк. п.*

Шаве′ліцца (шуміць, разгуляўся) як верабей у веніку. *Tyszk., 433; Шпил., 187; Нос., 185; Dybow., 192. Вар.: Дуб., Нар., 2; І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

Шалпочацца як мыш. *Нар. сл., 155, А. Прышчэпчык, Стаўб.*

Шануе як роднага ба′цька. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Шануе як свае галавы. *Fed., 297, Слон. п.*

Шануе як старэнькага. *Янк., Пар., 195.*

Шанцуе (вязець) як байструку. *Ляцкий, 59, 6.*

Шанцуе як вісельніку. *Сержп., 72.*

Шапка як гняздзечка. *Янк., Пар., 195.*

Шарахоніцца як на дражджах.[648] *Бяльк., 495, Мсціcл.*

Шарыць вачыма як воўк па авечках. *Ройзен., 80.*

Шатаецца як чорт па пеклі. *Fed., 297, Ваўк. п.*

Шашоляць і шашоляць як шашолкі.[649] *Янк., Дыял., III, 147, Глуск.*

Шкода як леташняга снегу. *Fed., 299, Ваўк. п.*

Шкодны (шкадлівы) як кот. *Там жа; Р. Афанасьева, 1974, Бярэз. 13.10.85.*

Шкодны як свіння. *Fed., 299, Ваўк. п.*

Шкодны як тхор (шашок). *Янк., Пар., 196.*

Шкодны як шчур (пацук). *Fed., 299, Ваўк. п.*

Шлакочыцца бы русалка.[650] *Шпил., 187; Dybow., 192.*

Шлы′ндаецъ [па дварах] як непрыкаянны. *Нар. сл., 135, В. Лемцюгова, Чав.*

Шмат як бузы′ ў возеры. *Янк., Пар., 196.*

Шмат як лісічак. *Там жа.*

Шмыгнула як мыш. *Касп., 353, Сен.*

Шна′рыць як сабака. [651] *Яўсееў, 110.*

Шпакі як сяўцы. *Янк., Пар., 196.*

Шпарка як на спутаным кані. *Там жа.*

Шпаркі як бліскаўка (маланка, бліскавіца). *Fed., 300, Ваўк. п.*

Што вецер у полі. *Юрч., 1977, 223.*

Што жучкі′ валасы. *Мат. Гом., IV, 249, Хойн.*

Што кот на кілбасы жмурыцца. *Юрч., 1977, 230.*

Што малаток хлопец. *Там жа, 231.*

Што мышэй сабралася. *Там жа, 241.*

Што спяшыш як з козамі на торг? *І. Хаўратовіч, 1951, Кругл. 13.8.4.*

Што ты дзівішся як ба′кала? [652] *Нос., Слов., 12.*

Што ты круцішся як швайка? [653] *С. Бахмет, 1976, Астр.*

Што ты ходзіш як анцу′юд? [654] *Касп., 21, Ельяр.*

Што ты ходзіш як хоўра? [655] *Там жа, 331, Сур.*

Што чарцей у балоце [жаніхоў]. *Юрч., 1977, 250.*

Штурхацца пачалі як петухі. *Там жа, 119.*

Шукае як воўк смерці. *Fed., 301, Ваўк. п.*

Шукае як дзвярэй у полі. *Янк., Пар., 197.*

Шукае як хлеба. *Сержп., 46.*

Шукаеш як Мамон піпку. [656] *Мяц., 306, Уш.*

Шум як на кірмашы. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Шуміць як рой пчол у рэшаце. *Там жа.*

Шустры як банны венік. *Там жа.*

Шчабеча як ластаўка на вясну. [657] *Fed., 297, Ваўк. п.*

Шчабеча як птушка вясною. *Там жа.*

Шчабеча як сарока. *Шпил., 187; Киркор, 239; Fed., 192; 297, Сак. п.*

Шчабечуць як салавей з зязюляю. *Fed., 297, Вайк. п.*

Шчабечыць як тая чачотка. *Добр., Слов., 788.*

Шчаслівая як матка, унукаў дачакаўшыся. *Янк., Пар., 198.*

Шчаслівы як байструк. *Fed., 298, Вайк., Слуцк. п.*

Шчасця як з жабіны прыгаршчы. *Янк. М., 43.*

Шчасця як у казы хвост. *Fed., 298, Сак. п.*

Шчокі пачырванелі як макаў цвет. *Бяльк., 323, 475, Мсціcл.*

Шчокі як булкі. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Шчокі як з воску. *Янк., Пар., 198.*

Шчокі як макаўкі. *Там жа.*

Шчыпіцца як гусак. *Добр., Слов., 155.*

Шчыры як п'яўка. *Янк., 442.*

Шые як на мярца'. *Fed., 301, Вайк. п.*

Шые як сляпая баба. *Там жа.*

Шыкуюцца як на вяселле. *Янк., Пар., 198.*

Шыпіць як змей на вывадзе. *Добр., Слов., 272.*

Шырачэзная як печ. *М. Грынблат, 1974, Лаг.*

Шырокая як мора. *Бяльк., 265, Мсціcл.*

Шырокі як шула. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Шыя доўга як у бусла. *Fed., 301, Вайк. п.*

Шыя як бычыны (што ў вала) хвост. *Янк., Пар., 198, М. Мельнічэнка, 1950, Гом. 13.3.39.*

Шыя як у вала. *Янк., Пар., 199.*

Шыя як у лебедзя. *Там жа.*

Шэльма як бяздэннае мора. *Ляцкий, 11.*

Шэрая як зязюлька. *Янк., Пар., 199.*

[*Я* цябе] кахаю як бога. *Fed., 132, Вайк. п.*

Ягнёнак як тхарок падласы. *Бяльк., 305, Мсціcл.*

Яго не прылашчыць як воўка. *Fed., 250, Вайк. п.*

Яда як у той птушкі. *Ляцкий, 14.*

Ядавіты на работу ўсё роўна як мурашка. *Шатэрнік, 131, Сміл.*

Яды як на дзяды. [658] *А. Ліс, 1974, Смарг.*

Язык доўгі як у жаўны′. [659] *Сержп., 5.*

Язык круціцца як памяло. *Fed., 126, Ваўк. п.*

Язык круціцца як хвост у сабакі. *Там жа. Вар.: Добр., 135.*

Язык прыкусіў быццам падскочыў. *Ляцкий, 62.*

Язык ходзіць як мянташка (мянта′) па касе. [660] *Б. Атрошанка, 1966, Ваўк. 13.10.29. Вар.: Fed., 126, Ваўк. п.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Язык што псіны хвост віляець. *Бяльк., 357, Касц.*

Язык як брытва. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Язык як дзедава пуга. *А. Дубовік, 1974, Паст. 13.10.85.*

Язык як калаўродак. *Fed., 126, Ваўк. п.*

Язык як ляшчотка. *Янк., Пар., 200.*

Язык як памяло ў бабы. *Ройзен., 80.*

Язык як пы′цел. [661] *Fed., 126, Ваўк. п.*

Язык як сабачы (як у сучкі) хвост. *Там жа; Юрч., 1977, 13.*

Язык як у адваката. *Янк., Пар., 200.*

Язык як цэп літоўскі. [662] *Добр., 135.*

Языком ме′ле як хвастом це′ле. [663] *Нос., 192; Сержп., 5.*

Языком мянці′ць як касу чысці′ць. *Ройзен., 80.*

Язычком як цялё хвастом. *Мін.-Мал., 1974, 190, Стаўб.*

Як абухом б'ець. *Нос., 165.*

Як агнём пячэ (паліць, смаліць, запякло). *Fed., 179, Ваўк., Слон. п.; Янк., 442; Нар. лекс., 56, І. Чыгрын, Слон.*

Як агню баіцца. *Fed., 20, Гродз., Ваўк. п.; Сержп., 185.*

Як агню ўхапіў. *Fed., 207, Ваўк. п.*

Як агурчык кругленькі. *Юрч., 1977, 138.*

Як адна мінута еты месяц праляцеў. *Юрч., 1977, 210.*

Як аднае мацеры дзеткі.[664] *Fed., 92, Ваўк. п.*

Як адным грэбенем пачасаліся. [665] *Янк., 442.*

Як адрэзала [ні разу не паказаўся]. *Юрч., 1977, 210.*

Як апока круглы. [666] *Добр., Слов., 12, Росл. п.*

Як асіна зімой. *Ройзен., 80.*

Як аўца′ безгалосы. *Нос., Слов., 19.*

Як ашчэпам мне цісне.[667] *Fed., 302, Слон. п.*

Як багаты. *Юрч., 1977, 210.*

Як бара′ны п'яныя. *М. Грынблат, 1978, Кар.*

Як без галавы. *Юрч., 1977, 221.*

Як без рук. [668] *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Як бервяно стала [нага]. *М. Грынблат, 1971, Лаг.; Слов. брян., 46, Почапскі.*

Як блудзень [сваёй хаты не пазнаеш]. *Жыв. сл., 6, Г. Аляксейчык, Дзятл.*

Як бобам плакала. *Fed., 238, Слон. п.*

Як бобу ў гаросе шукаць. *Янк., 443.*

Як бог жывець [усё ў руках]. *Юрч., 1977, 211.*

Як брытва голіць. *Нос., 165.*

Як бы на яго горла нож гастрылі. *Fed., 112, Ваўк. п.*

Як бы яго вецер панёс (памчаў). *Там жа, 330.*

Як бягунка падганяе. [669] *Там жа.*

Як вадой плывуць да яго. *Сцяшк., 617, Маст.*

Як вадою згладзіла. *Янк., Пар., 202.*

Як вадою разліўся. *Янк., 443.*

Як ваду ў торбу ліць. *Там жа.*

Як вараннё тое глядзіць. *Нос., 194.*

Як ветрам здула (змяло, знясло) [яго ад'етуля]. *Юрч., 1977, 211.*

Як ветру ў полі шукаць. *Янк., 443.*

Як вогір расхаджаецца. [670] *Юрч., 1977, 206.*

Як вокам скінуць [ні бугурка′, ні лашчынкі]. *Сцяшк., 617,*

*Вайк.; Юрч., 1977, 211; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Як вол варочаецъ. *Юрч., 977, 55.*

Як карова языком злізала. *М. Грынблат, 1970, Лаг.; Л. Корсак, 1961, Асіп. Вар.: Сцяшк., 616, Маст.*

Як воран крыві жала'іцъ. *Добр., Слов., 360, Смал. п.*

Як воўк (сабака) вільнуў (мільнуў, мялькнуў) хвастом. *Шпил., 187; Киркор, 239; Dybow., 192; Fed., 56, Вайк. п.*

Як воўка да гавец [у хлеў, абору] упусціць. *Fed., 339, Вайк. п.*

Як гамолак.[671] *Никиф., 145.*

Як гара.[672] *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Як гара з плеч спала (зваліласяя). *Нос., 194; Сержп., 133. Вар.: І. Курбека, 1961, Докш. 13.9.7.*

Як град сыпле. *Fed., 296, Вайк. п.*

Як дзень дзяньскі.[673] *Там жа, 94.*

Як дзень і ноч. *М. Грынблат, 1969, Мн.*

Як добры дурань. *Юрч., 1977, 212; І. Саламевіч, 1978, Слон. 13.10.69.*

Як доўбней даў. *М. Грынблат, 1974, Круп.*

Як другі раз на свет нарадзіўся. *Pietk., 389.*

Як дрында выцягнулася. *Юрч., 1969, 60.*

Як жару на яго сыпнулі. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Як з вады выйшаў.[674] *Fed., 343, Вайк. п.*

Як з вока выпаў.[675] *Янк., Пар., 203.*

Як з вока вырвана.[676] *А. Ліс, 1973, Смарг.; І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7.*

Як з голкі зняты. *Fed., 111, Вайк. п.*

Як з казла (быка) малака [толку, ні выціснуць]. *Там жа, 342; Янк., 442; Сцяшк., 617, Іў.; І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Як з крыжа (храста) зняты. *Fed., 374, Вайк. п.; Юрч., 1977, 213.*

Як з лука страла [паляцела]. *Никиф., 154.*

Як з маслам першая аладка [пайшло]. *Янк., 444.*

Як з неба спаў. *Fed., 287, Ваўк. п.*

Як з таго свету ўстаў. *Fed., 322, Ваўк. п.*

Як з хмары (тучы) [на нас] спала. *Там жа, 287.*

Як з цэпа (ланцуга, прывязі) сарваўся. *Ром., Бел., 316; Янк., 444; Сержп., 61; Юрч., 1977, 228.*

Як за акно выкінуў. *Fed., 343, Ваўк. п.*

Як за ветачку ўхапіўся. *Там жа, 316.*

Як за грош абаранак. *Там жа, Слон. п.*

Як за плячыма жылі. [677] *Мяц., 310, Стаўб.*

Як за скуру закруціў. *Янк., Пар., 204.*

Як за сценку заскочыў. [678] *Там жа.*

Як за сцяну заступіла. [679] *Fed., 350, Ваўк. п.*

Як за сябе закінуў (закінець). *Янк., 444; Нар. сл., 169, У. Свяжынскі, Уш.*

Як завязана. [680] *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Як за язык павешаны (прывязаны). *Нос., 195; Юрч., 1977, 212.*

Як звараны. [681] *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Як згэтуль да Бяла'гастоку. *Fed., 29, Ваўк. п.*

Як здань з таго свету. *Янк., 444.*

Як зорку схапіў. *Там жа.*

Як іголка ў сене. *Юрч., 1977, 213.*

Як кабыла бальшая. *Мяц., 254, Сен.*

Як каліна гарыць. *Там жа, 445.*

Як калком набіта [цэрква людзей]. *Fed., 194, Ваўк. п.*

Як камень з грудзей ссунуўся. *Там жа, 135.*

Як камень з сэрца спаў. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Як камень на шыі. *Янк., 445.*

Як каню пернік. *М. Грынблат, 1930, Мн.; 1940, Мір.*

Як карова языком злізнула. *Юрч., 1977, 214.*

Як каточак ка мне ляціць. [682] *Добр., Слов., 353, Смал. п.*

Як кнот [тонкі]. *Янк., 445.*

Як козы смотрацъ. *Ром., Зап., I, 215.*

Як конь на градах. *Янк., 445.*

Як кот з хвастом [усюдых сунецца]. *Юрч., 1977, 214.*

Як кот маленька. *Мяц., 110, Стаўб.*

Як кот мурлаты. *Бяльк., 358, Хоц.*

Як кот наплакаў. *Fed., 150, Ваўк. п.; Pietk., 327, Янк., 417, 418.*

Як кошкі драпаюцца. *Добр., Слов., 189.*

Як крапівою секануў. *Янк., 445.*

Як кручаны бяжыш. *Сцяшк., 244, Маст.*

Як крэсівам выкрасіў [усю праўду]. *Fed., 245, Ваўк. п.*

Як ку′камі збіты. [683] *Нар. лекс., 15, П. Садоўскі, Пол.*

Як курду′піль. [684] *Никиф., Зап., 154.*

Як курыца сакоча. *Шпил., 187; Dybow., 192; Fed., 271, Сак. п. Вар.: Касп., 274, Беш.; Янк., Пар., 144.*

Як лісці′нка ласціцца. *Нікіф., 1928, 86.*

Як май змаяваў. *М. Гваздзёў, 1960, Рэч. 8.1.58; Мат., 120, Г. Варава, Глуск.*

Як мак расцвітае. *Добр., Слов., 398.*

Як мак у полі зацвіў. *Fed., 347, Ваўк. п.*

Як макавае зёрнышка [дробнае]. *Никиф., 149.*

Як мала гарошына. *Ройзен., 81.*

Як маладзён трох дзён [разумны]. *Вас., 144.*

Як маслам па нырках. *Сцяшк., 617, Шчуч.*

Як маслечкам па душы. *Fed., 88, Ваўк. п.*

Як млён. [685] *Жыв. сл., 98, Н. Лявончык, Віл.*

Як мокраю анучаю па зубах. *І. Саламевіч, 1975, Слон. 13.10.69.*

Як мокрая курыца [прышла]. *Fed., 316, Слон.*

Як момса тая. [686] *Добр., Слов., 417.*

Як муха агазлівы. [687] *Касп., 9, Чаш.*

Як мыш скрабецца. *В. Скідан, 1977, Хойн.*

Як мыш сядзеў. *Юрч., 1977, 186.*

Як мыш у пастку ўпаў. *Fed., 321, Вайк. п.*

Як мядзведзь каштарлапы. *Яўсееў, 57.*

Як мятлою вымела (змяло, змецена) [гасцей з хаты]. *Сержп., 36; Fed., 374, Вайк. п.; І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Як на варону глядзіць. *Fed., 109, Вайк. п.*

Як на малюнку [прыгожа]. *Янк., 446.*

Як на (пад) заказ [зрабіў]. *Янк., Пар., 207; Ройзен., 81.*

Як на смех [зрабіў]. *Юрч., 1977, 216; М. Грынблат, 1979, Кар.*

Як на Ўрва′нскай (Варыва′нскай, Вы′рванскай) гу′ліцы (вуліцы). [688] *Fed., 321, Вайк. п.; М. Грынблат, 1930, Мн.*

Як на шрубе ходзіць. *Fed., 48, Вайк. п.*

Як нажом па шыі. *Там жа, 301.*

Як надуцька надуўся. [689] *Нікіф., 1928, 87.*

Як наліваныя [цяляты]. *Янк., 446.*

Як нанава на свет нарадзіўся. *Юрч., 1977, 216.*

Як не свой ходзіць. *Fed., 48, Вайк. п.*

Як нож у сэрца ўбіў. *Там жа, 273.*

Як нырка (почка) у сале. [690] *Сцяшк., 617, Бераст.; Добр., 5.*

Як падцягне басам як сабака часам. *Мін.-Мал., 1974, 190, Узда.*

Як пакінуты сабака [лётаў па базару]. *Бяльк., 309, Мсцісл.*

Як палка дроў [дурны]. *Юрч., 1977, 51.*

Як палкі ляжом. [691] *М. Грынблат, 1964, Віц. 8.1.87.*

Як памяло лапатала. *Юрч., 1977, 206.*

Як пан рассеўся. *Там жа, 140.*

Як параная рэпа [смачна]. *Никиф., 146.*

Як парсюк адкормлены. *Сержп., 79.*

Як пень стаяў. *Юрч., 1977, 238.*

Як пень цераз калоду. [692] *Раст., 260.*

Як перад бураю ціш ды гладзь. *Юрч., 1977, 178.*

Як перамы′ты. [693] *Нар. лекс., 15, П. Садоўскі, Пол.*

Як перапечка. [694] *Янк., Пар., 207.*

Як пернічак румяненькі. *Fed., 267, Вайк. п.*

Як перуном спаліла. *Мін.-Мал., 1970, 170, Пух.*

Як пітушкі красненькія [ішлі]. *Юрч., 1974, 205.*

Як прыскам на яго сыпнуў. *Fed., 296, Вайк., Слон. п.*

Як птушка на клевер паляцела б. *М. Грынблат, 1964, Пол. 8.1.87.*

Як пугаўё станчэла. *Мін.-Мал., 1977, 52, Лаг.*

Як (што) пугаю па вадзе [што ні скажаш]. *Янк., 446; С. Маісеенка, 1965, Жлоб. 13.3.25; Юрч., 1977, 240.*

Як пудзіла ходзіць. *М. Грынблат, 1965, Мн.*

Як пук, як куль саломы. *Нікіф., 1924, 17.*

Як пшчолка паляцела. *Fed., 160, Вайк. п.*

Як пы′жычак. [695] *Добр., Слов., 757.*

Як п'янага малітва. [696] *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Як п'яўка ўпі′ліўся. *Fed., 321, Вайк. п.*

Як растаў [знік]. *М. Грынблат, 1977, Глуск. 8.77.127.*

Як расы′. [697] *Янк., Пар., 208.*

Як родныя браты. *Fed., 42, Вайк. п.*

Як рукою адняў (зняло). *Там жа, 265; Сержп., 81, 137.*

Як рыба без вады. *Fed., 267, Вайк. п.*

Як рыбка (рыбе) у вадзе. *Л. Царанкоў, 1960, Касц. 13.9.2; Сержп., 55.*

Як рыжык здаровы. *Сержп., 79.*

Як рэпу грызе, так лае. *Fed., 169, Вайк. п.*

Як сабака з цэпу спушчаны паляцеў. *М. Грынблат, 1966, Петр.*

Як сабака пераскочыў сумёт. *Шатэрнік, 105, Пух.*

Як салам яго памазаў. *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Як сані па цаліне. *Ройзен., 81.*

Як свёкар бурклівы пу′рхаеш. [698] *Юрч., 1969, 52.*

Як скінуць (зглянуць) вокам [далёка]. *Сержп., 18; Fed., 75, Вайк. п.*

Як слану шраціна.[699] *І. Саламевіч, 1975, Слон. 13.10.69.*

Як сліма'к (сліманнё).[700] *Никиф., 154; Юрч., 1977, 22.*

Як слова мувіць [лёгка]. *Fed., 282, Вайк. п.*

Як сляпы заплюшчыў вочы. *Шатэрнік, 106, Сміл.*

Як снітка падалося.[701] *Fed., 208, Вайк. п.*

Як спераду танцаваць.[702] *І. Саламевіч, 1974, Слон. 13.10.69.*

Як стары.[703] *Там жа.*

Як сякераю ўцяў (рубнуў). *Fed., 271, Вайк. п.; Ройзен., 81.*

Як сярпом па целе. *Янк., 447.*

Як там быў.[704] *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Як та'му, што зямля на я'му. *А. Фядосік, 1960, Капатк. 8.1.76.*

Як таркаю па жываце. *І. Саламевіч, 1973, Слон. 13.10.69.*

Як тая баба балбоча. *Там жа.*

Як тая калані'ца чорная.[705] *Мат., 99, В. Бекіш, Маладз.*

Як той ваўчуга [ходзіць па двару]. *Мат. Гом., III, 211, Жытк.*

Як той воўк, што прасіў: «Анно хвост падвязі». *Fed., 339, Вайк. п.*

Як той засцянковы шляхцюк [боты наваксаваў, а шыі не памыў]. *Нар. лекс., 164, І. Крамко, Кар.*

Як той коўлак [зроду сварыцца].[706] *Там жа, 196, Г. Малажай, Драг.*

Як той, што ў саломе спіць, а зубамі блохі б'е. *Fed., 286, Вайк. п.*

Як турак стаў.[707] *Юрч., 1977, 157.*

Як у аптэцы.[708] *І. Курбека, 1960, Докш. 13.9.7. Вар.: Юрч., 1977, 245.*

Як у балота ўкінуў. *Fed., 21, Вайк. п.*

Як у ваду глядзеў.[709] *Нар. сл., 125, М. Крыўко,Міёр.*

Як у гразь укінуў. *Fed., 117, Вайк. п.*

Як у гразь пляснуў. *Янк., Пар., 209.*

Як у душу плюнуў. *Ройзен., 81.*

Як у звон (званы) б'юць. *Юрч., 1977, 219; Добр., Слов., 263,*

Як у касце́лі [не раўнуючы].[710] *М. Грынблат, 1930, Мн.*

Як у каморы пасля вераб'ёў [чыста]. *Ройзен., 81.*

Як у людзей. *М. Грынблат, 1930, Мн.*

Як у мяцеліцу дарогу знайсці. *Ройзен., 81.*

Як у пагоду вады, так мне пець хочацца. *Г. Барташэвіч, 1975, Лаг. 8.75.96.*

Як у руку даў. *Fed., 265, Ваўк. п.*

Як у сабакі з горла выцягнуў. *Там жа, 269.*

Як у трасцы кідае.[711] *Янк., 447.*

Як у шчопці ўзяць.[712] *Янк., Пар., 210.*

Як у якую праломку.[713] *Мін.-Мал., 1977, 89.*

Як хлеба з маслам з'есці.[714] *І. Саламевіч, 1974, Мн. 13.10.69.*

Як хто яму губу замаляваў.[715] *Fed., 120, Ваўк. п.*

Як цытра сядзіць. *Мат., 108, В. Бекіш, Маладз.*

Як часнок белыя [баравікі]. *Мін.-Мал., 1977, 20, Лаг.*

Як чорт пугаю назганяў. *Fed., 199, Ваўк. п.*

Як шама́к нейкі.[716] *Юрч., 1977, 167.*

Як што з плеч ссунулася. *Fed., 237, Ваўк. п.*

Як ягад дзяцей [поўная хата]. *Юрч., 1977, 251.*

Якая яго жы́ла (якося мае жыццё) як ко́мар на камарніцы.[717] *Добр., Слов., 223, 338.*

Яму гаварыць як у пень. *Юрч., 1977, 247.*

Яму пабажыцца як сабаку муху схапіць. *Fed., 206, Ваўк. п.*

Яно на ёй як на чорту хата.[718] *Горленка, 251, Лоеў, Жытк.*

Яны як неба і зямля. *Юрч., 1977, 237.*

Ясі як у бочку. *Горленка, 251, Браг.*

Ясна як цёмная ноч. *Я. Качан, 1969, Паст. 13.10.67.*

Ясны (чысты) як месячык. *Fed., 126, 71, Ваўк. п.*

Ясны як зорачка. *Там жа, 125.*

Ясны як [яснае] слонка (сонейка). *Там жа, 125, 71; Янк., 447.*

## АСНОЎНАЯ ЛІТАРАТУРА І ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

Абаб.— Сказаў, як звязаў. Зап. М. Абабурка.— «Беларусь», 1963, № 12, с. 31.

Аним.— [Анимелле]. Быт белорусских крестьян.— «Этнографический сборник», вып. II. СПб, 1854.

Антырэліг. казкі.— Антырэлігійныя казкі, частушкі, прыказкі, выд. 2-е. Склад. А. Залескі, К. Кабашнікаў, А. Фядосік. Мн., 1961.

Ахрым.— Ахрыменка П., Буцько М. Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі. Гомель, 1957.

«Бел.» — Прыказкі і прымаўкі.— «Беларусь», 1956, № 1, с. 29; 1961, № 1, с. 29.

БіСМ — Беларускае і славянскае мовазнаўства. Мн., 1972.

Брыль — Брыль Я. Акраец хлеба. Мн., 1977. [Выслоўі з Карэліцкага р-на.]

Булг.— Булгаковский Д. Г. Пинчуки. СПб, 1890.

Бяльк.— Бялькевіч І. К. Краёвы слоўнік Усходняй Магілёўшчыны. Мн., 1970.

Вас.— Васильев В. Белорусские пословицы.— «Маяк», 1844, т. 15, с. 29—30; 1845, т. 22, с. 58; т. 23, с. 144.

Ворожб.— Ворожбицкий Ф. Народные поговорки и пословицы Пружанского уезда.— «Гродненские губернские ведомости», 1868, № 21.

Выпісы — Выпісы з беларускае літаратуры, ч. 1. М.—Л., 1925.

Гильт.— Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае, вып. 1. Под ред. П. Гильтебрандта. Вильно, 1866.

Горленка — Горленка В. З гаворак Гомельшчыны.— «Полымя», 1975, № 9.

Гур.— Гурыновіч А. [Рукапісы, якія захоўваюцца ў Рукапісным аддзеле бібліятэкі АН ЛітССР, ф. 21. Запісы са Свянцянскага п. Віленскай губ.]

Гут.— Сучасны беларускі фальклор. Склад. І. Гутараў. Мн., 1963.

Даль — Даль В. Пословицы русского народа. М., 1957.

Даль, Слов.— Даль В. Словарь живого великорусского языка, т. I—IV. М., 1955.

Добр.— Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник, ч. III. Пословицы. СПб, 1894.

Добр., Слов.— Добровольский В. Н. Смоленский областной словарь. Смоленск, 1914.

Дразд.— Драздовіч Я. Народныя прыказкі Дзісеншчыны (рукапіс). Захоўв. у Аддзеле рэдкай кнігі Фундамент. б-кі імя Я. Коласа АН БССР.

Дуб.— Беларускія пагаворкі і пасловіцы. Сабраў Dubiejkouski Lawon [у Мсціслаўшчыне] (рукапіс). Захоўв. у Рукапісным аддзеле бібліятэкі АН ЛітССР, ф. 21.

Дуб., Нар.— Народныя пагаворкі. Сабраў Л. В. Дубяйкоўскі (рукапіс). Захоўв. у Аддзеле рэдкай кнігі Фундамент. б-кі імя Я. Коласа АН БССР.

Жыв. сл.— Жывое слова. Мн., 1978.
З нар. сл.— З народнага слоўніка. Мн., 1975.
Зах.— Беларускі фальклор у сучасных запісах. Брэсцкая вобласць. Традыцыйныя жанры. Склад. В. А. Захарава. Пад рэд. Р. Р. Шырмы. Мн., 1973.
«Зорка» — «Зорка», газета беларускіх дзяцей у Польшчы. Беласток.
Ігнат.— Сказаў, як звязаў. Народныя прыказкі і выслоўі. Сабраў Б. Ігнатовіч.—«Беларусь», 1963, № 11, с. 31.
Карл.— [З рукапіснага фонду Яна Карловіча.] Захоўв. у Цэнтр. дзярж. гіст. архіве ЛітССР, ф. 1135, воп. 10, спр. 201, л. 279.
Касп.— Каспяровіч М. Віцебскі краёвы слоўнік. Віцебск, 1927.
Киркор — Киркор А. Этнографический взгляд на Виленскую губернию.—«Этнографический сборник», вып. III. СПб, 1858.
Клышка — Клышка М. К. Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў. Мн., 1976.
Косич — Косич М. Н. Литвины-белорусы Черниговской губернии. СПб, 1901.
Крапіва — Крапіва К. Беларускія прыказкі.— Збор твораў у 4-х т., т. 4. Мн., 1963.
Крачк.— Крачковский Ю. Быт западно-русского селянина. М., 1874.
Крэмнеў — Прыказкі і пагаворкі, сабраныя ў Чарнігаўскай губ. [Стара-дубскім, Новазыбкаўскім, Мглінскім і Суражскім пп.] М. Ц. Крэмневым у 1901—1905 гг. (рукапіс). АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, спр. 22.
Леп.— З народнага. Зап. І. Лепешаў.— «ЛіМ», 1972, 16 чэрвеня, с. 16. [Месца запісу не ўказана.]
«ЛіМ» — Газета «Літаратура і мастацтва».
Луж.— Лужанін М. З кнігі «Людзі, птушкі, прастор».— «Полымя», 1975, № 9.
Ляцкий — Ляцкий Е. А. Материалы для изучения творчества и быта белорусов. I. Пословицы, поговорки, загадки. М., 1898. [Запісы з Барысаўскага п.]
Мат.— Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы. Пад рэд. Ф. Янкоўскага. Мн., 1960.
Мат. Гом.—Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны.—У кн.: Беларуская мова і мовазнаўства, вып. III. Мн., 1975; вып. IV. Мн., 1976; Беларуская мова, вып. V. Мн., 1977; вып. VI. Мн., 1978.
Мат. ГТ — Матэрыялы Геаграфічнага таварыства СССР. Захоўв. у АІМЭФ, ф. 8, воп. 3, спр. 25.
Махнач — Беларускія пагаворкі. Зап. А. Махнач.—«Беларусь», 1956, № 3, с. 24.
Мін.-Мал.— Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. Пад рэд. М. А. Жыдовіч, вып. 1. Мн., 1970; вып. 2. Мн., 1974; вып. 3. Мн., 1977.
Мяц.— Мяцельская Е. С., Камароўскі Я. М. Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі. Мн., 1972.
Нар. лекс.— Народная лексіка. Мн., 1977.
Нар. сл.— Народнае слова. Мн., 1976.
«Ніва» — «Ніва». Беларускі грамадска-культурны тыднёвік. Беласток.
Никиф.— Никифоровский Н. Я. Полупословицы и полупоговорки, употребляемые в Витебской Белоруссии.— «Записки Северо-Западного отдела РГО». Вильна, 1910, кн. I, с. 197—207; 1911, кн. II, с. 142—154; 1912, кн. III, с. 300—303.

Нікіф., 1924 — Нікіфароўскі Н. Я. Напаўпрыслаўкі, напаўпрыказкі.— «Крывіч». Коўна, 1924, № 1, с. 13—23.

Нікіф., 1928 — Нікіфароўскі Н. Я. Напаўпрыказкі-напаўпрыслаўкі.— Працы кафедры этнаграфіі, т. I. Мн., 1928.

Нос.— Сборник белорусских пословиц, составленный И. И. Носовичем. СПб, 1874.

Нос., Слов.— Словарь белорусского наречия, составленный И. И. Носовичем. СПб, 1870.

Пан.— Панюціч К. М. Лексіка народных гаворак. Мн., 1976. [Запісы з Ушацкага р-на.]

Прык.— Прыказкі і прымаўкі ў 2-х кнігах. Склад. М. Я. Грынблат. Мн., 1976.

Радч.— Радченко З. Гомельские народные песни. СПб, 1888.

Рап.— Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі, выд. 2-е. Склад. Я. Рапановіч. Мн., 1974.

Раст.— Расторгуев П. А. Словарь народных говоров Западной Брянщины. Мн., 1973.

Ройзен.— Ройзензон Л. И., Балясников А. В., Шугурова З. А. Словарь белорусской диалектной фразеологии деревни Гребени (Лельчицкого р-на Гомельской области).— Труды Самаркандского ун-та, вып. 272. Самарканд, 1975.

Ром., Бел.— Романов Е. Р. Белорусский сборник, т. I, вып. 1—2. Песни, пословицы, загадки. Киев, 1886.

Ром., Зап.— Древние русские пословицы. Сообщение Е. Р. Романова.— «Записки Северо-Западного отдела РГО». Вильна, 1910, кн. I, с. 214—216; 1912, кн. III, с. 221—236.

Сап.— Сапунов А. Река Западная Двина. Витебск, 1893.

Сах.— З матэрыялаў С. П. Сахарава, вып. III. Казкі, апавяданні, прыказкі і загадкі, 1944 (рукапіс). Захоўв. у АІМЭФ, ф. 9, воп. 3. спр. 13 [усходнія р-ны Латвіі].

Сем.— Сказаў, як звязаў. Беларускія прыказкі, прымаўкі, жарты і выслоўі. Зап. Я. Семяжон і У. Януковіч.— «Беларусь», 1963, № 6, с. 31.

Сержп.— Сержпутовский А. К. Сборник белорусских пословиц и поговорок (рукапіс). Захоўв. у АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, спр. 21. [Запісы са Слуцкага п.]

Слов. брян.— Словарь брянских говоров, вып. I. Ред. В. И. Чагишева. Л., 1976.

Сцяшк.— Сцяшковіч Т. Ф. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці. Мн., 1972.

Фраз. сл.— Гаўрош Н. В., Лепешаў І. Я., Янкоўскі Ф. М. Фразеалагічны слоўнік для сярэдняй школы. Мн., 1973.

Цар.— Царанкоў Л. Слова міма не ляціць. Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі.— «Полымя», 1968, № 10.

Шат.— Шаталава Л. Ф. Беларускае дыялектнае слова. Мн., 1975.

Шатэрнік — Шатэрнік М. Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны. Мн., 1929.

Шейн — Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. II. СПб, 1893.

Шпил.— Белорусские пословицы. Сборник П. Шпилевского.— «Известия Академии наук по отделению русского языка и словесности», 1853, т. II (Приложение, с. 172—192).

Шпил., Нар.— Шпилевский П. М. Народные пословицы с объяснением происхождения и значения их.— «Москвитянин», 1852, ч. 4, № 16, кн. 2.

Шырма — Шырма Р. Беларускія народныя песні, загадкі, прыказкі. Мн., 1947.
Юрч., 1966 — Юрчанка Г. Дыялектны слоўнік (З гаворак Мсціслаўшчыны). Мн., 1966.
Юрч., 1969 — Юрчанка Г. Ф. Народная сінаніміка. Мн., 1969.
Юрч., 1972 — Юрчанка Г. Ф. І коціцца і валіцца. Устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны. Мн., 1972.
Юрч., 1974 — Юрчанка Г. Ф. І сячэ і паліць. Устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны. Мн., 1974.
Юрч., 1977 — Юрчанка Г. Ф. Слова за слова. Устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны. Мн., 1977.
Янк.— Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы, выд. 2-е. Склад. Ф. Янкоўскі. Мн., 1962.
Янк., Абр.— Янкоўскі Ф. Абразкі. Мн., 1975.
Янк., Дыял.— Янкоўскі Ф. Дыялектны слоўнік, вып. І. Мн., 1959; вып. III. Мн., 1970.
Янк., Пар.— Янкоўскі Ф. Беларускія народныя параўнанні. Кароткі слоўнік. М., 1973.
Янк. М.— Янкоўскі М. А. Паэтыка беларускіх прыказак. Мн., 1971.
Янук.— Сказаў, як звязаў. Беларускія прыказкі, прымаўкі, жарты і выслоўі. Зап. У. Януковіч.— «Беларусь», 1963, № 4, с. 30; № 11, с. 31.
Яўсееў — Яўсееў Р. Маці казала так... З гаворкі Бялыніцкага раёна. Мн., 1978.
Czeczot — Czeczot J. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny. Wilno, 1846.
Dybow.— Dybowski W. Przysłowia białoruskie z powiatu Nowogródzkiego.— Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, t. V, dz. 3. Kraków, 1881.
Fed.— Federowski M. Lud Białoruski na Rusi Litewskiej, t. IV. Warszawa, 1935.
Klich — Klich Edw. Teksty białoruskie z powiatu Nowogródzkiego.— Materyały i prace Komisyi językowej, t. II. Kraków, 1903.
Kolb.— Kolberg O. Dzieła wszystkie, t. 52. Białoruś—Polesie. Wrocław—Poznań, 1968.
Mien.— Mienicki W. M. Przysłowia białoruskie (рукапіс). Захоўв. у Цэнтр. дзярж. гіст. архіве ЛітССР, ф. 599, воп. 1, спр. 3.
Pietk.— Pietkiewicz Cz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego. Warszawa, 1938.
Ryp.— Rypiński A. Białoruś. Paris, 1840.
Tyszk.— Tyszkiewicz E. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1847.

## Раёны БССР

Акцябр.— Акцябрскі
* Антоп.— Антопальскі
Арш.— Аршанскі
* Арэх.— Арэхаўскі
* Асв.— Асвейскі
Асіп.— Асіповіцкі
Астр.— Астравецкі
Ашм.— Ашмянскі
Бабр.— Бабруйскі
* Баг.— Багушэўскі
Бар.— Баранавіцкі
Барыс.— Барысаўскі
Бераст.— Берастовіцкі
Беш.— Бешанковіцкі
Б.-Каш.— Буда-Кашалёўскі
Браг.— Брагінскі
Брасл.— Браслаўскі
Брэсц.— Брэсцкі

* Раёны, адзначаныя зорачкай, расфарміраваны або перайменаваны.

Бых.— Быхаўскі
* Быц.— Быценскі
* Бяг.— Бягомльскі
Бял.— Бялыніцкі
Бяроз.— Бярозаўскі
Бярэз.— Бярэзінскі
Валож.— Валожынскі
* Вас.— Васілевіцкі
* Васіл.— Васілішкаўскі
Ваўк.— Ваўкавыскі
Верхнядзв.— Верхнядзвінскі
Ветк.— Веткаўскі
* Ветр.— Ветрынскі
* Відз.— Відзаўскі
Віл.— Вілейскі
Віц.— Віцебскі
Воран.— Воранаўскі
* Выс.— Высокаўскі
* Высач.— Высачанскі
Ганц.— Ганцавіцкі
Гарад.— Гарадоцкі
* Гарадз.— Гарадзішчанскі
Глуск.— Глускі
Глыб.— Глыбоцкі
Гом.— Гомельскі
Гор.— Горацкі
Гродз.— Гродзенскі
*Грэск.— Грэскі
* Д.-Гар.— Давыд-Гарадоцкі
* Даман.— Даманавіцкі
* Дамач.— Дамачоўскі
* Дзівін.— Дзівінскі
* Дзісен.— Дзісенскі
Дзярж.— Дзяржынскі
Дзятл.— Дзятлаўскі
Добр.— Добрушскі
Докш.— Докшыцкі
Драг.— Драгічынскі
* Дрыб.— Дрыбінскі
* Дрысен.— Дрысенскі (гл. Верхнядзв.)
Дубр.— Дубровенскі
* Дуніл.— Дунілавіцкі
* Езяр.— Езярышчанскі
Ельск.— Ельскі
Жабінк.— Жабінкаўскі
* Жабч.— Жабчыцкі
* Жалуд.— Жалудоцкі
Жлоб.— Жлобінскі
* Журав.— Журавіцкі
Жытк.— Жыткавіцкі
* Засл.— Заслаўскі
Зэльв.— Зэльвенскі
Іван.— Іванаўскі
Івац.— Івацэвіцкі
* Івян.— Івянецкі
* Ільян.— Ільянскі
Іў.— Іўеўскі
* Казл.— Казлоўшчынскі
Калінк.— Калінкавіцкі
Кам.— Камянецкі
* Камар.— Камарынскі
* Капатк.— Капаткевіцкі
Кар.— Карэліцкі
Карм.— Кармянскі
Касц.— Касцюковіцкі
Кір.— Кіраўскі
Клецк.— Клецкі
Клім.— Клімавіцкі
Кліч.— Клічаўскі
Кобр.— Кобрынскі
* Кос.— Косаўскі
* Кох.— Коханаўскі
Краснап.— Краснапольскі
* Краснаслаб.— Краснаслабодскі
Кругл.— Круглянскі
Круп.— Крупскі
* Крыв.— Крывіцкі
Крыч.— Крычаўскі
* Кузняц.— Кузняцоўскі
Лаг.— Лагойскі
* Лагіш.— Лагішынскі
Лельч.— Лельчыцкі
* Лен.— Ленінскі
Леп.— Лепельскі
Лёзн.— Лёзненскі
Лід.— Лідскі
Лоеў.— Лоеўскі
Лун.— Лунінецкі
Люб.— Любанскі
Лях.— Ляхавіцкі
Маг.— Магілёўскі
Маз.— Мазырскі
Маладз.— Маладзечанскі
Малар.— Маларыцкі
Маст.— Мастоўскі
* Меж.— Межынскі
* Мех.— Мехаўскі
Міёр.— Міёрскі
* Міл.— Мілаславіцкі
Мін.— Мінскі
* Мір.— Мірскі
Мсціс.— Мсціслаўскі
Мядз.— Мядзельскі
Нав.— Навагрудскі
* Навам.— Навамышскі

Нар.— Нараўлянскі
Нясв.— Нясвіжскі
* Пар.— Парыцкі
Паст.— Пастаўскі
Петр.— Петрыкаўскі
Пін.— Пінскі
* Плешч.— Плешчаніцкі
* Пліс.— Пліскі
Пол.— Полацкі
* Пораз.— Поразаўскі
* Прап.— Прапойскі (гл. Слаўг.)
Пруж.— Пружанскі
Пух.— Пухавіцкі
Раг.— Рагачоўскі
* Радашк.— Радашковіцкі
* Радун.— Радунскі
Рас.— Расонскі
* Расн.— Раснянскі
* Рудзен.— Рудзенскі
*Руж.— Ружанскі
Рэч.— Рэчыцкі
Салігорскі— Салігорскі
* Сап.— Сапоцкінскі
Светл.— Светлагорскі
* Свір.— Свірскі
Свісл.— Свіслацкі
* Свяц.— Свяцілавіцкі
Сен.— Сенненскі
* Скід.— Скідальскі
* Сір.— Сіроцінскі (гл. Шуміл.)
Слаўг.— Слаўгарадскі
Слон.— Слонімскі
Слуцк.— Слуцкі
Смал.— Смалявіцкі
Смарг.— Смаргонскі
* Сміл.— Смілавіцкі
Старадар.— Старадарожскі
* Староб.— Старобінскі (гл. Салігорскі)
Стаўб.— Стаўбцоўскі
Стол.— Столінскі
* Стрэш.— Стрэшынскі
* Сур.— Суражскі
Тал.— Талачынскі
* Тур.— Тураўскі
* Увар.— Уваравіцкі
Уздз.— Уздзенскі
* Ул.— Ульскі
Уш.— Ушацкі
* Хал.— Халопеніцкі
Хойн.— Хойніцкі
Хоц.— Хоцімскі
* Целях.— Целяханскі
* Цер.— Церахоўскі
Чав.— Чавускі
Чач.— Чачэрскі
Чаш.— Чашніцкі
Чэр.— Чэрыкаўскі
Чэрв.— Чэрвеньскі
Шарк.— Шаркоўшчынскі
* Шацк.— Шацкі
Шкл.— Шклоўскі
Шуміл.— Шумілінскі
Шчуч.— Шчучынскі
* Юрац.— Юрацішкаўскі

## Былыя паветы

Барыс. п.— Барысаўскі п. Мінскай губ.
Бельск. п.— Бельскі п. Гродзенскай губ.
Бельскі п.— Бельскі п. Смаленскай губ.
Брэсц. п.— Брэсцкі п. Гродзенскай губ.
Ваўк. п.— Ваўкавыскі п. Гродзенскай губ.
Віл. п.— Вілейскі п. Віленскай губ.
Вілен. п.— Віленскі п. Віленскай губ.
Гом. п.— Гомельскі п. Магілёўскай губ.
Гор. п.— Горацкі п. Магілёўскай губ.
Гродз. п.— Гродзенскі п. Гродзенскай губ.
Дзвін. п.— Дзвінскі п. Віцебскай губ.
Дзісен. п.— Дзісенскі п. Віленскай губ.
Дрысен. п.— Дрысенскі п. Віцебскай губ.
Дух. п.— Духаўшчынскі п. Смаленскай губ.
Ельн. п.— Ельнінскі п. Смаленскай губ.
Ігум. п.— Ігуменскі п. Мінскай губ.
Кобр. п.— Кобрынскі п. Гродзенскай губ.
Красн. п.— Краснінскі п. Смаленскай губ.

Леп. п.— Лепельскі п. Віцебскай губ.
Лід. п.— Лідскі п. Віленскай губ.
Маг. п.— Магілёўскі п. Магілёўскай губ.
Маз. п.— Мазырскі п. Мінскай губ.
Мсціел. п.— Мсціслаўскі п. Магілёўскай губ.
Нав. п.— Навагрудскі п. Мінскай губ.
Нев. п.— Невельскі п. Віцебскай губ.
Пар. п.— Парэцкі п. Смаленскай губ.
Пін. п.— Пінскі п. Мінскай губ.
Пол. п.— Полацкі п. Віцебскай губ.
Раг. п.— Рагачоўскі п. Магілёўскай губ.
Росл. п.— Рослаўскі п. Смаленскай губ.
Рэч. п.— Рэчыцкі п. Мінскай губ.
Сак. п.— Сакольскі п. Гродзенскай губ.
Свянц. п.— Свянцянскі п. Віленскай губ.
Себ. п.— Себежскі п. Віцебскай губ.
Сен. п.— Сенненскі п. Магілёўскай губ.
Слон. п.— Слонімскі п. Гродзенскай губ.
Слуцк. п.— Слуцкі п. Мінскай губ.
Смал. п.— Смаленскі п. Смаленскай губ.

### Іншыя скарачэнні

АІМЭФ — Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР
б.— былы
бел.— беларускі
губ.— губерня
зап.— запісаў (запісала)
заўв.— заўвага
іран.— іранічна
л.— ліст
літ.— літоўскі
вар.— варыянт
вобл. — вобласць
вол.— воласць
воп.— вопіс
гл.— глядзіце
гм.— гміна
п.— павет
параўн.— параўнайце
р.— раён
рус.— рускі
спр.— справа
сш.— сшытак
тлум.— тлумачэнне
ф.— фонд

## ТРАПНЫЯ, СМЕШНЫЯ І РОЗНЫЯ УСТОЙЛІВЫЯ ВЫРАЗЫ. СКОРАГАВОРКІ

### Трапныя, смешныя і розныя ўстойлівыя выразы

1. Асьмак — грашовая адзінка ў Вялікім княстве Літоўскім, восем грошаў. Тут: наогул грошы.
2. Вор — мех (параўн. польск. worek — мяшок). Ігра слоў.
3. Г. зн. нібыта недзе ў іншым месцы ўжо добра. Іран. Цымас (яўр.) — цымус, салодкая страва з тушанай морквы або бручкі.
4. Г. зн. не ведаю. Аналагічна выслоўю «А чорт яго ведае». Кадук — тут: чорт.
5. Г. зн. мяне гэта не датычыць, не маю да таго ніякай справы.
6. Каша бярозавая — лупцоўка бярозавымі дубцамі.
7. Гл. 4.
8. Гавораць жартам таму, хто, увайшоўшы ў хату, не зачыніў дзверы.
9. Пра таго, хто сам на сябе ўзяў непатрэбны клопат (тлум. Fed.).
10. Г. зн. яшчэ малы, у кароткіх штоніках ходзіць.

11. Няма справы ні да чаго, поўная абыякавасць да ўсяго. А т к і — бідаць, ад выклічніка *ат!* Ен ужываецца пры адмоўным стаўленні да чаго-небудзь; г а н к і — відаць, ад дзеяслова ганіць.

12. Г. зн. пажылы, падобны да святога Юр'я, якога на абразах (Георгія-перамаганосца) малявалі старым.

13. Жартам пад калыханку.

14. Пра ўпартых людзей. Параўнанне з туга нацягнутымі лукамі.

15. Пра таго, хто нічога не робіць.

16. Іран. таму, хто выхваляецца сваёй работай.

17. Рэзкае пагоршанне стану здароўя чалавека.

18. Параўн. Прык., кн. 2, с. 39, № 382.

19. Выражэнне рашучасці.

20. Жартуюць «з таго, хто лоўка хапае ежу» (заўв. збіральн.). Ю к — каюк, канец. Відаць, маюцца на ўвазе вынікі бойкі.

21. Так «жартам ганьбуюць тое, што іншыя хваляць» (заўв. збіральн.).

22, 23. Г. зн. аднолькавыя, адзін аднаго вартыя.

24. Гаворыцца пра людзей, якія вызначаюцца аднолькавымі адмоўнымі якасцямі; мірапамазанне — адзін з элементаў хрысціянскага абраду хрышчэння. Гл. таксама 23.

25. Х в а л д з і с т — той, што носіць адзенне з фалдамі, багаты, пан.

26. Г. зн. адчапіся, не дуры галавы.

27. Вясельны жарт пры прыбыцці маладой у дом мужа.

28, 29. Так прагна ядуць.

30. П р а г — прагнасць.

31. Так моцна баліць.

32. Так нехта моцна стрэліў (тлум. Fed.).

33. Было сказана на дзяцей, што раздурэліся.

34. А н і в э с ь — зусім нічога.

35. Fed. прыводзіць народны жарт, з якога ўзнікла выслоўе: «Селянін прыйшоў да пана: Хтось загнаў карову ў хлеў, але дальбог, паночку, яна языка ў панскі лес не ўваткнула».

36. Г. зн. прапіў усё.

37. Гл. 1. На выпадак, калі спатрэбіцца.

38. Г. зн. так моцна, што не вытрымаць.

39. Гл. 8.

40. Х в э р ц і к — ферт, франт, які задаецца.

41. Гавораць таму, хто нічога не заўважае. Іран.

42. Г. зн. напіўся.

43. У Добр. у рубрыцы «Беднасць — нястача».

44. Гл. 22, 23.

45. Б о р а х а т а д у н а ю — макаранізм, скажоны пачатак іудзейскай малітвы («Борух ато, адонай» — благаславенны ты, гасподзь).

46. Ад здзіўлення, што такія «прыгожыя».

47. П р а ц і ў н ю — непрыяцелю, ворагу.

48, 49. Тут гаворка ідзе пра піццё: чарка за чаркай. Б у б а — болька (з дзіцячай лексікі).

50. Г. зн. мала.

51. Шкадаванне аб згубленай рэчы (тлум. Czeczota).

52. Жартоўны адказ на пытанне, ці далёка.

53. Насмешка з уласнай беднасці.

54. Так жартам кажуць пра бульбу, якая скісла ў гаршку, перастаяла ў печы.

55. Так гаворацъ, калі што-небудзь з грукатам падае (тлум. Fed.).
56. Насмешка з таго, у каго з носа цячэ (тлум. Нос.).
57. Жартоўны адказ на слова «Бывала».
58. У Добр. змешчана ў рубрыцы «Вінаватасць». Усе адмаўляюць сваю віну.
59. Г. зн. мінулася. Цыля — птушанятка (з дзіцячай лексікі).
60. Была бяда, ды яшчэ пагоршала.
61. Мелі ўсяго, аж занадта.
62. Г. зн. было ды прапала. Ігра слоў. Гевезен (яўр.) — тое ж, што быў (ад ням. gewesen — было, былы).
63. Г. зн. застаўся ні з чым (заўв. збіральн.), «з носам». Але, магчыма, больш правільна было б меркаваць, што гэта насміханне з чалавека з доўгім носам.
64. Тлум. Нос.: «Калі работы было многа, тады не было памагатых, а пад канец з'явіліся». Квасіны — тут: астаткі, асадак пітва.
65. Пра выратаванага ад смерці. Радзіцель — тут: нябожчык. Параўн. «памінанне радзіцеляў» на радаўніцу.
66. Насмешка з чалавека вірлавокага, з доўгім ці занадта кароткім носам і г. д.
67. Г. зн. у карчме, шынку.
68. Шышок — тут: невялікія грошы. Параўн. *прашышкаць* — марна растраціць грошы (Нос., Слов., 710).
69. Пра выгнанага са службы.
70. Лучкі або луцы — словы, якія ў розных раёнах Беларусі абазначаюць бакавіны цымбалаў і скрыпкі.
71. Пра далёкае гасцяванне.
72. Г. зн. будзь рашучым.
73. Пра кучаравага.
74. Пра навіну. Паводле даўніх народных вераванняў, варона — вешчая птушка, якая прадракае няшчасце або нечаканасць.
75. Г. зн. ні табачнага ліста, ні карашкоў (махоркі), а ў пераносным сэнсе — нічога няма.
76. Лалы — тут: жыццё раскошнае.
77, 78. Жарты-насмешкі з чалавека, які прыкідваецца хворым.
79. Так кажуць, уваходзячы ў хату, дзе сабралася кампанія.
80. Параўн. Прык., кн. 1, с. 276, № 1193. Гл. таксама 52.
81. Вашэць — пачцівы зварот да чалавека: ваша мосць (міласць).
82. Тлум. Нос.: «Насмешка з рызыкоўнай задумы, якая не ўдалася». Дудка — тут: пераасэнсаванне польск. *dudek* — птушка ўдод.
83. Г. зн. выслалі ў Сібір. Відаць, водгук на расправу царскіх улад з удзельнікамі паўстання 1863 г.
84. Вельмі схуднеў.
85. Пра таго, хто з імпэтам узяўся за справу, але не давёў яе да канца (тлум. Fed.).
86. Тлум. Fed.: часова. Больш дакладна — пра жыццё і смерць дзіцяці. Па старадаўняму звычаю нябожчыка адвозілі на могілкі на санях.
87. Паталочышча — тут: таўкатня, штурханіна. Параўн. *паталач* — стаптаныя скацінай пасевы (Нос., Слов., 394).
88. З народнага анекдота: Злавілі воўка і перад смерцю загадалі яму маліцца (казаць пацеры), дык воўк: «Бора, бора, бора». Г. зн. воўчая натура цягне яго да лесу (Fed., 339).
89. Мена без даплаты, штука на штуку (тлум. Fed.). З кірмашовых прымавак. Параўн. *баш на баш.*

90. Пра нядужага, хворага чалавека.
91. Кажуць асуджальна на таго, хто сядзіць і матляе нагамі.
92. У тлум. Fed.: чорная поліўка. Магчыма, гэта мясцовы жарт. Напрошваецца іншае тлумачэнне: зласлівае пажаданне хлопцу, каб дзяўчына адмовілася пайсці за яго замуж. У такім выпадку па звычаю яму падавалі вянок з гарохвін (Параўн. Прык., кн. 2, с. 31, № 303).
93. Пра лянівую гаспадыню, што сядзіць у хаце склаўшы рукі.
94. Нябожчык.
95. Андрыдулы несці — пустасловіць.
96. Г. зн. вялікае падабенства між сабой.
97. Пра нясмачна згатаваную страву.
98. Карэла — брудная, пакрытая карой гразі.
99. Пра гультаёў, што толькі балбочуць, смяюцца і нічога не робяць.
100. У Сержп. у рубрыцы «Папіканне». Драздзікі — тут: відаць, у сэнсе — шанс, дармаўшчына (Параўн. Даль, Слов., I, 494: *Зашиб дрозда*, выпіў лішняе).
101. Гавораць жартам на таго, хто бярэцца за цяжкую, невыканальную справу (заўв. збіральн.). Але тут можа быць укладзены і сацыяльны сэнс: класавая або саслоўная неадпаведнасць.
102. Г. зн. плёткі, чуткі. Пантахлёвыя — ад пантофлі.
103. Пра хітрага, двудушнага чалавека.
104. Цяляк — цяля, бычок.
105. Веташок — ветах, месяц апошняй квадры перад поўняй. Тлум. гэтага выслоўя ў Нос., Слов., 105: «Пры з'яўленні новага хлеба кожны мае свой хлеб».
106. Вельмі многа, доўга расказваць.
107. Пра дужа старога, слабога чалавека; таксама пра старога каня. Шоры — конская збруя.
108. Доўга будзе памятаваць.
109. Не можа быць бясконцага даравання.
110. Параўн. Прык., кн. 1, с. 355, № 858, 859.
111. Бацькі адмовіліся аддаць замуж дачку. Па даўняму звычаю бацькі дзяўчыны, да якой прыйшлі сваты, пры нязгодзе на шлюб выносілі ім гарбуз. Гл. таксама 92.
112. Палаялі за правіннасць.
113, 114. Г. зн. нічога не дасць, марная надзея.
115. Відаць, трэба разумець як папіканне. Fed. (с. 73) прыводзіць такі дыялог: Даў табе, дзедку, грош? — Даў, пане.— Даў табе, дзедку, грош? — На табе, паночку, другі, анно не кажы нічога.
116. Зарок, афяра на царкву.
117. Школа — тут: яўр. сінагога. Зарок, афяра на сінагогу з прычыны хваробы блізкага чалавека. Такі звычай («даць на яўрэйскую школу») быў вядомы ў дарэвалюцыйнай беларускай вёсцы. Меркавалася, што калі не свой, дык можа чужы бог «дапаможа».
118. Адчытаў як мае быць. Імберац — імбір, род прысмакаў.
119. Так жартам адказваюць на пытанне, колькі назбіралі грыбоў, ягад (тлум. Fed.). Іншае тлум.: фіга.
120. Гавораць так, калі здараецца неспадзяванае: нечаканыя госці, паслуга і г. д.
121. Сабакам сена косіць — так кажуць на бацьку пазашлюбнага дзіцяці або на мужчыну, які кінуў сваю сям'ю.
122. Калі з бочкі вывалілася дно.
123. Іран. пра лянівую дзяўчыну, якая штодзень вельмі «стамляецца».

124. Гавораць так, калі пасля вяселля «скруцілі» абяцаны пасаг (тлум. Fed.). Відаць, магчымы і іншыя трактоўкі, напрыклад: скончыў работу і атрымаў за яе тое, што належыць.
125. Аб нечым недасягальным. Мігдал — міндаль.
126, 127. Так гавораць пра дурня. Кадзіў — размахваў кадзілам (дзеянне свяшчэнніка ў час набажэнства); тут: хрысціў.
128, 129. Гл. 28, 29.
130. Насмешка, якая захавалася з часоў прыгону. Гайдамакі — тут: панская ахова, стражнікі.
131. «Крэда» гультая.
132. Пра сына, які перасягнуў асноўныя якасці свайго бацькі.
133. Пра чалавека, які любіць многа і пустое гаварыць.
134. Пра ліхога чалавека.
135. Г. зн. сам горшы за чорта.
136. Г. зн. падпіўшы, пад чаркай (тлум. Fed.).
137. Крэнь — загадны лад ад кранаць: крані!
138. Каб — тут: як.
139. Зусім мала.
140. Па сэнсу адпавядае прымаўцы «З агню ды ў полымя». Рына — рышток, канаўка для сцёку вады.
141. Зваліць з ног. Капылы, капылле — дубовыя брускі, важная частка санак, якая злучае і змацоўвае палазы.
142. Пабываў у карчме, упіўся.
143. Г. зн. жыве са свайго хлеба, з таго, што пасееш.
144. Пра злачыннага чалавека.
145. Г. зн. за нішто.
146. Насмешка з невялікага начальніка (тлум. Hoc.).
147. У адказ таму, хто паказаў фігу.
148. Пянендзы — грошы (польск. pieniądze); шабас—тут: гульба.
149. Абаронены, агароджаны ад усяго.
150. Як за плотам (тлум. Fed.).
151. Гл. 71.
152. На таго, хто сказаў непатрэбнае.
153. Пра неадчэпную думку.
154. Ударыць па шчацэ.
155—159. Прыгаворкі пры закурванні. Зашабачым — тут: пасядзім, адпачнем.
160. Некаму прычыніў вялікую непрыемнасць.
161. Г. зн. заткні яму рот, дай адчэпнага (тлум. Fed.).
162. Пра незвычайнае, дзіўнае жаданне. Заманулася — захацелася; оцту — воцату.
163. Параўн. Прык., кн. 2, с. 361, № 1975.
164. Пра страту прыязні да сябе з боку іншага чалавека (тлум. Hoc.).
165. Гл. 120.
166. Курка, курак — невялікая булачка хлеба-падскрэбак, якую аддавалі жабраку.
167. Г. зн. астаткі дап'е.
168. Жартоўны папрок за недарэчны смех, рогат.
169. Відаць, пра разладжаны шлюб. Панядзелак лічылі нешчаслівым днём.
170. Адмаўленне ў просьбе.
171—173. Гл. 162. Пятроўка — двухтыднёвы пост перад Пятром (29 чэрвеня па старому стылю), у самы разгар лета.

174. Пра таго, хто сваю гаспадарку давёў да заняпаду (тлум. Fed.). П а п к а — хлеб (з дзіцячай лексікі).
175. Нічога не засталося.
176. М а р ы м о н ь ч ы к — пераборлівы ў ежы, тут: францік, панок.
177. На фанабэрыстага. Р а й — сяло ў Мсціслаўскім п. (тлум. Нос.).
178. З о г т э р — ён кажа (ідышызм, з ням. sagen — гаварыць, яўр. *зоген, зогт эр)*. Пабудавана на ігры слоў і макаранізмах.
179. М а х н і-д р а л а — уцякаць. Уцёк.
180. У с в і н ы я г а л а с ы — позна, са спазненнем.
181. Іран. на сказанае глупства.
182. Гаворацць, калі сустракаецца адразу многа людзей.
183. Х л у д — галлё, ламачча.
184. Г. зн. памёр. К о к а ш ы — ногі (іран.).
185. Г. зн. не хапае ежы і адзення.
186. О ч у т к а — чутка, весць.
187. Ш ч у р а ч к і — тут, відаць, нашчадкі, патомства. Параўн. *шчураня* — праўнук (З нар. сл., 166, Маз.). Шчурачкі ад *шчур* — пацук у даным выпадку менш верагодна. У Сержп. выслоўе ў рубрыцы «Патаемна».
188. Вельмі паважна, з горда ўзнятай галавой.
189. Прыкмета такая.
190. Б і б і к і п е р а б і в а ц ь — нічога не рабіць, лынды біць.
191. І х м о с ц я — мосць, ягамосць, яго міласць. Паважлівы зварот у шляхты.
192. Нос. называе гэта выслоўе аксюмаранам. Б р а л о — той, хто бродзіць; п а г а н я л а — пуга.
193. Н я в і с — невядома, рус. *невесть, нивесть*.
194. Жартоўны адказ чалавеку, які, апраўдваючыся, спасылаецца на «каб...»
195. «Папрасіліся б у скокі», дадала, тлумачачы, інфармантка.
196—198. К а б п р ы м е ў — тут: каб мог, каб здолеў.
199. Пра нікчэмнага чалавека.
200. Гл. 194.
201. Жартоўны адказ на «Усё роўна».
202. Ж ы ж к а — жыгучка, крапіва.
203. М е д з ь — мёд.
204. К а л о д а — тут: божая кароўка. Прыгаворка.
205. Г. зн. прапаў.
206, 207. Пагражаюць.
208. Адказ на пытанне «Каму?»
209. Ігра слоў: г і л э х т э р (яўр. ад ням. lachen) — той жа смех. Вар.: Гэта не смех, а гілэхтэр. М. Грынблат, 1971. Мн.
210. Пра марнатраўца.
211. Гэта і два наступныя выслоўі — насміханне з нізкарослага кавалера.
212. Гл. 120.
213. Гэта ўсё сінонімы.
214. Г. зн. прагаладаўся.
215. Г. зн. так зненавідзела нейкую жанчыну.
216. Г. зн. зусім няма.
217. К о ў г а ц ь — мыць без ахвоты.
218. Пра хітрага чалавека: і нашым і вашым.
219. К у г е н я — страва з чэрствага хлеба.

220. К у м а г е р — хадзі сюды! (яўр. з ням. kom hier).
221. Гл. 71.
222. За сталом, просячы даесці. К у с а н і к — агрызак, недаедзены кавалак хлеба, бліна ці чаго іншага.
223. Г. зн. нягодная кухарка.
224. М а р т а п л я с ы — слова гэта Насовіч не тлумачыць. Выслоўе, магчыма, пра таго, хто збірае рознае рыззё, носіць старызну. У Кар. р-не мартаплёсы — махры. касмылі, рэшткі падранай тканіны. (Жыв. сл., 73.)
225. Параўн. Прык., кн. 2, с. 321, № 1477.
226. Параўн. Прык., кн. 2, с. 323, № 1507.
227. Г. зн. ён вар'ят, прыдуркаваты (заўв. збіральн.). Л я д а ш ц і к — па старадаўніх павер'ях, злы дух, які здольны адабраць розум у чалавека.
228. Пра п'яніцу, які шукае, дзе б выпіць.
229. Пра марнатраўца.
230. Пра таго, хто ўвесь час смяецца (тлум. Fed.).
231. Г. зн. партач, нягодны майстар.
232. М а л а в е л я — трошкі.
233. Стары залётнік.
234. Гл. 179.
235. Л а п і к л а — латаная, рваная адзежа (параўн. *лапіць* — латаць).
236. Пра балаўное дзіця. Па даўніх народных павер'ях, апоўначы, калі праспявае певень, знікае нячыстая сіла.
237. Невядома, хто з двух украў (тлум. Fed.).
238. Пра выскачку.
239. Вельмі мала.
240. Іран. Ставала б, каб не трэба было траціць.
241. Г. зн. непрабудна спіць.
242. Адказ на няпэўнае «мусіць».
243. Так кажуць, калі ўзнялася завіруха. Відаць, асколак даўняга павер'я.
244. На нечаканае штось добрае.
245, 246. Калі муха ўпадзе ў талерку ці міску з ежай.
247. Пра дакучлівага чалавека. Я р у х а — дакучлівая, раз'юшаная жанчына.
248. Пра чалавека, які не хоча бачыць, заўважаць, што вакол яго дзеецца.
249. М я ш ч а н с к а я — уласцівая жыхару места, гараджаніну.
250. Параўн. Прык., кн. 1, с. 70, № 277.
251, 252. Г. зн. не марудзячы, зараз жа.
253. Збіральнік лічыць, што гэта выслоўе азначае — заўпарціўся. Але такое тлумачэнне не дакладнае. Больш верагодна — утаймаваў упартага. Тут к е л, відаць, аднаго кораня з дзеясловам келзаць, кілзаць.
254. Пра нядбайнага работніка.
255. Пра чалавека, які бярэцца за многа спраў зараз (тлум. Нос.).
256. Г о ў ц а — авечка.
257. Жартам «пры няўдалай спробе зрабіць якую-небудзь справу» (тлум. збіральн.).
258. Пра чалавека хмурага.
259. Параўн. Прык., кн. 1, с. 92, № 547.
260. Г. зн. не зважай, не бяры да сэрца.
261. Ашчадна, тонка.
262. В я р э н я, в я р э н ь к а — плецены з палосак кары, пераважна

з бяросты, невялікі кашэль, які надзяваецца на плячо. Сэнс выслоўя: адзін аднаго варты.

263. Г. зн. напіўся п'яным.

264. Пра няўдзячнасць.

265. З прыгаворак валачобнікаў.

266. Не вартая таго, каб аб ёй крычалі, спрачаліся. Па Fed.: Не спешна, яшчэ паспеем. Але магчыма і іншае тлумачэнне: не такая рызыкоўная справа, каб за яе «каралі горлам», як у даўніну, г. зн. вешалі.

267. Г. зн. не займайся пустаслоўем. Вязелле — кара маладога вяза, з якой плялі лапці.

268. Пра якую-небудзь няўдачу (тлум. збіральн.).

269. Г. зн. памёр перад вялікаднем.

270. Г. зн. чэсны чалавек, які не дапушчае фальшу, ашуканства (тлум. Fed.).

271. Не ладзіцца работа.

272. Адказ на «да».

273. Мантулы — дармавое частаванне.

274. Зіпнуць — маргнуць.

275. Пры якой-небудзь памылцы.

276. Не мяне гэта датычыць.

277. Адказ на прыспешванне «Ну!»

278. Не цалуй і не кусай (тлум. Fed.). Па сэнсу блізка да прыказкі «Не дай і не лай» (Прык., кн. 1, с. 487, № 2476).

279. Г. зн. самі вырашым, не будзем ні з кім раіцца.

280. Грыбы — тут: губы.

281. Так жартам кажуць, бачачы чужыя непасільныя намаганні.

282. Адказ на панібрацкі зварот на «ты».

283. Не так робяць.

284. Грош не да пагарды (тлум. Fed.).

285. Яшчэ не ўпэўнены ў поспеху.

286. Макулінaчка — макавае зернетка; зусім мала.

287. Г. зн. не ўмесцімся разам (параўн. *купа*).

288. Не ўсё ладна, роўна, акуратна. Па Fed.: Не зусім здаровы, або «Бракуе яму пятай клёпкі».

289. Мігдал — міндаль, тут: ласункі.

290. Няма чаго баяцца.

291. Г. зн. нешта лёгка ўдалося.

292. Зманеш — тут: прызавеш, прывабіш (параўн. рус. *манить*).

293. Паляндра — хвароба, чума, пошасць.

294. Пра непагадзь.

295. Бясконцая размова пра адно і тое ж.

296. Тлум. Нос. («Калі на каго ўскладаюць многа розных даручэнняў і трэба многа хадзіць») мала прымальнае. Сэнс выслоўя блізкі да папярэдняга тэксту (гл. 295).

297. Пра старую, застарэлую і невылечную хваробу (заўв. збіральн.).

298. Аналагічна выслоўю «Выскачыў як Піліп з канапель». Гл. раздз. «Параўнанні», 86.

299. Пра беднасць і нястачу.

300. Жартоўная прыкмета пры іканні.

301. Скалікі — кпіны (параўн. *выскаляцца*).

302. Г. зн. страшна.

303, 304. Гл. 244.

305. Ніякіх звестак няма.

306. Пра таго, хто ўпарціцца, не хоча пагадзіцца (тлум. **збіральн.**).
307. Так інфармантка ахарактарызавала лад у сваёй сям'і.
308. Пра нелюдзімага чалавека.
309. Параўн. Прык., кн. 2, с. 290, № 1110.
310. Пра чалавека недарэчнага, нязграбнага.
311. Дурнаваты. У Брыля: «Есіп быў «ні за кол, ні за цям», толькі што працавіты, як вол, і без толку гарачы».
312. Гл. 310.
313. Пра чалавека бяздушнага, абыякавага да чужога гора.
314. Вельмі мала (тлум. збіральніка).
315. Пра беднасць (ні дзяружкі, ні падушкі, няма чаго паслаць).
316. Пра нешта вельмі нясмачнае.
317. Пра вельмі здаровага чалавека.
318. Пра нікчэмнага чалавека.
319. Г. зн. нікуды не варта.
320. Шлык, калпак — віды шапак.
321. Не такі ўжо благі чалавек (тлум. Нос.).
322. Г. зн. можна памерці, так і не дачакаўшыся.
323. Зусім блізка.
324. Засумаваў, засмуціўся (ад муз. тэрміна квінта — пятая ступень у дыятанічнай гаме). Выслоўе, магчыма, літаратурнага паходжання.
325. Г. зн. абыякавы да ўсяго.
326. Так кажуць, калі здарылася няшчасце.
327. Насміханне з марудлівага работніка.
328. Высмейванне чалавека, які сам сябе расхвальвае.
329. Нічога няма (параўн. рус. *ни шиша*).
330. Цыганіць — тут: выпрошваць.
331. Рэакцыя на абгаворванне.
332. Г. зн. няпраўда. «Чалавек гаворыць праўду толькі да сямі год» (Fed.).
333. Яго гэта нібы не датычыць. Fed.: Пра таго, хто не прызнае сваю віну.
334. Жартам пра жанчыну, што зацяжарала (Fed.).
335. Са старых прыкмет-павер'яў.
336. Жарцік з дзяўчыны, якую пакінуў яе каханы (Fed.).
337, 338. Са шматлікіх народных пародый на вядомую малітву «Ойча наш».
339. Жартам пра бяду.
340. Г. зн. не скора тое будзе. Адвент — перадкалядны пост у католікаў (польск. adwent).
341. Пра разбітую, дрогкую дарогу.
342. Г. зн. прыйсці да згоды.
343. Пра брыдкаслова.
344. Да таго, хто любіць пакпіць з іншых.
345. Г. зн. абвяшчэнне (пра шлюб, які чакаецца) у касцёле адбылося, а абвешчаная (нявеста) засталася без жаніха (тлум. Fed.).
346, 347. Гавораць пра апавядальніка, які занадта захапіўся і пачаў выдумляць.
348. Не прыйшлі да згоды.
349, 350. Г. зн. папрасілі з хаты, калі без патрэбы зайшоў (тлум. Нос.).
351—353. Нажыўся нячэсным спосабам. Цападлы, тут: рукі, што «цапаюць», хапаюць.

354, 355. З даўніх вераванняў у прыроджаны лёс.
356. Пра мужа, які падпарадкуецца жонцы.
357. Гл. 354, 355.
358. Перашкодзілі здзейсніць справу.
359. У Сержп. у рубрыцы «Гаспадарка». П а с а д — раскладка снапоў на таку для абмалоту іх цэпам.
360. Ашукалі, абдурылі.
361. Г. зн. памерла (Fed.). А б а р а ц е н ь — вывернутае з карэннем дрэва.
362. Г. зн. дачасна, бо каша была апошняй стравай на традыцыйным абедзенным, гасцявым ці абрадавым стале.
363. На злом галавы, на небяспечную справу.
364. З шляхецкіх жартаў, убачыўшы, як паўзе вош па адзежы (Нос.).
365. Н а б о р г — на павер, у доўг (ад ням. borgen — пазычаць, праз польск. або яўр. мовы).
366. Г. зн. пайсці выпіць (Fed.).
367. Пайшла спаць.
368. Пародыя на царкоўнае спяванне.
369. Пра частаванне цесляроў пры будове хаты. Сцяшк., 339: «У нас п'юць на закладзіны, потым калі паложаць бэлькі, канец за вянок».
370, 371. Параўн. Прык., кн. 2, с. 269, № 855.
372. П а м ж а — хвароба.
373. А н ц ы б у р ы — пустыя размовы.
374. Пра хлуса і плеткара. Т у р у с ы — балбатня, плёткі.
375. Пра напышлівага, ганарлівага чалавека.
376. Пра чалавека, якога нечым дужа раззлавалі.
377. Злавілі за руку.
378. Г. зн. каб заўсёды наеўшыся былі.
379, 380. Час памерці. Параўн. таксама Прык., кн. 2, с. 410, № 76.
381. Гаворыцца, калі шукаюць патрэбнага чалавека, а яго няма.
382. Сумненне ў добрасумленнасці чалавека.
383. Пра бяздомнага або старога халасцяка.
384. Пра няўмелага работніка, які можа толькі сапсаваць добрую рэч.
385. Выхвалянне сваім умельствам.
386. Г. зн. разбагацеў. Заснавана на даўнім павер'і пра белуна, добрага духа, які прыносіць багацце (Нос., Слов., 41).
387. Жартам гавораць тады, калі некуды прыйшоў, а там замкнута.
388. Г. зн. абяцаннем, адкладваннем «на заўтра».
389. С м е х н а г у б е п а б е г — узяў сутаргавы смех (Fed.) П а ц ы к а в а ў — пасмяяўся, пакпіў.
390. Водгук старадаўняга звычаю вешаць калодку на ногі халасцякам на масленіцу.
391. Старыя жанчыны раздурэліся (тлум. збіральн.).
392. Уцяклі. Магчыма, звязана з рэкрутчынай або паўстаннем 1863 г.
393. Г. зн. доўга будзе помніць.
394, 395. Г. зн. памёр, пайшоў да біблейскага «праайца» Аўраама.
396. Пра чалавека, які ўцёк невядома куды (тлум. Нос.). М а л а х — размоўная форма ўласнага імя Малафей.
397. Сасланы ў Сібір (Fed.). З'явілася, відаць, пасля паўстання 1863 г.
398. Магчыма, звязана з іудзейскім асеннім рэлігійным святам «ку'чкі» (су'кат, гл. Краткий научно-атеистич. словарь. М., 1964, с. 534—535), да якога веруючыя ўзводзілі спецыяльны будан, пакрыты яловымі лапкамі. Таго, хто дапамагаў у яго ўзвядзенні, гаспадар частаваў віном.

399. Пра гультая.
400, 401. Гл. 121.
402. Гл. 399.
403. Гл. 121.
404. Пра ўдачу. Лічылася добрай прыкметай перад дарогай.
405. Гаворацъ на таго, хто часта мяняе месца (тлум. Нос.).
406. Пятніца, як і серада, былі поснымі днямі. Спяваць у гэтыя дні лічылася грахом.
407. Г. зн. добра гараць дровы.
408. Г. зн. сказаў што-небудзь неўпапад. Гл. «Параўнанні», 86.
409. Андроны — глупства, бяссэнсіца. Выслоўе вядома палякам: Ples'c' androny — пустасловіць.
410. Гаворыць недарэчнасць.
411. Пра нязбытныя мары. Звера яшчэ не злавілі, а ўжо яго шкуру дзеляць.
412. Іран. на хлуса.
413. Прачхаўся — тут: прагаладаўся.
414—416. Жартоўны адказ на запытанне: Дзе жывеш?
417. Г. зн. вельмі даўно.
418. Хоць у каноплі стаў — за пудзіла.
419. Жартоўны адказ на запытанне ці прывёз гасцінца.
420. Прыбыў к самаму заканчэнню застолля.
421. «Як кулак да носа» (тлум. Fed.).
422. Кажуць на таго, хто турбуе другога, просіць пасунуцца, каб самому сесці.
423. Г. зн. зрабіць непатрэбнае, лішняе. Параўн. Прык., кн. 2, с. 291, № 1134.
424. Са сферы сямейных адносін у старым быце.
425. Так кажуць пра спрытнага, зухаватага чалавека.
426. Пра чалавека ў дрэнным настроі, злоснага.
427, 428. Жартоўны адказ таму, хто кажа, што яшчэ рана.
429—431. Рап'ём — учэпіста, дакучліва.
432, 433. Рацыя — з польск. racja — праўда, разумна; каляцыя — з польск. kolacja — вячэра. Тут ігра слоў.
434. Г. зн. старанна (Fed.).
435. Дворнікі — чаляднікі, што служылі ў панскім двары.
436. Пра балбатлівага чалавека.
437. Рулі — бядняцкая страва з засохлых скарынак і акрайцаў хлеба, накрышаных у салёную ваду або квас. Булачкі, тут: боханы хлеба.
438. Так жартам пытаюць у пераборлівага ў ядзе.
439. Чыкатаць — тут: скавытаць, падвываць.
440. Пра каварнага чалавека (тлум. Нос.).
441. Г. зн. нагаворвае, беспадстаўна вінаваціць.
442. Г. зн. пакуль захоўваецца яшчэ зло на свеце, будуць і беды (меркав. Fed.).
443. Пра скупога чалавека.
444. Гл. 442.
445 Пра пасталеўшага хлапчука.
446. Г. зн. зусім няма грошай.
447. Непрыстойныя паводзіны, учынкі.
448. Не разжыўся.
449. Г. зн. спыніў работу.
450. Пра ўгодлівага чалавека.

451. Воўк. Fed.: Чалавек воўчай натуры.
452. Пра чалавека, які вельмі многа есць. Глытаўка — горла.
453. Пра незваротную прапажу. Шукала — той, хто шукае.
454. Пра нясkладнасці ў мове чалавека (тлум. Нос.).
455. Звязана з даўнім павер'ем у вешчыя здольнасці крумкачовых птушак.
456. Састарэў.
457. На таго, хто надакучыў сваімі недарэчнымі жартамі (Нос.). У Добр. — у рубрыцы «Смех». Шкелі, падшкелі — кпіны. Параўн. у Бяльк. шкельнічаць — кпіць, насміхацца (497, Хоц.).
458. Ад нечаканага ўдару, нястрымнага болю.
459. Насмешка з самахвала.
460. Прыкмета.
461. Так сказала стомленая, змучаная жанчына.
462. Так жартам кажуць на 70-гадовага старога.
463. Калі зімой занадта многа на сябе апранута.
464. Гл. 71.
465. Гл. 343.
466, 467. Жартоўныя пагрозы.
468. У сэнсе — бяссілле, слабая аснова. Уторы — нарэзка на нізе клёпак драўлянага посуду, у якую ўстаўляецца дно.
469. Калі хваляць, не ведаючы сапраўднай вартасці.
470. Адказ на просьбу што-небудзь падаць або прынесці.
471. Гаспадыня вельмі прыветная, таму госці не хочуць адыходзіць.
472. Сняткі, або стынкі — дробная азёрная рыба сям'і корушак (Osmeridae).
473. «Відавочная мана, хлусня, небыль» (тлум. збіральн.).
474. Возгры — слізь, якая выцякае з носу.
475. Адмова ад паслугі, за якую дорага просяць (тлум. збіральн.).
476, 377. З вясельных жартоўных прыгаворак пры пераездзе маладой да маладога. Гламазда — нікуды неварты чалавек, лішні ў хаце (Бяльк., 136, Мсцісл.).
478. Даўно і многа раз чутае.
479. Стакатні — ад *стакат*, кат, які ўжо «сто разоў» катаваў (Нос., Слов., 615).
480. «Як немцы ўцякалі, то бабы на іх казалі» так (Сцяшк., 570).
481. Напамінак аб тым, што старых, пажылых людзей трэба ўсаджваць за сталом на пачэсным месцы, справа ад гаспадара.
482. Пра шкадлівага чалавека.
483. Кажуць на таго, хто зусім нямнога папрацаваў, а лічыць сябе вельмі стомленым. Параўн. Прык., кн. 1, с. 115, № 830.
484. Нешта дрэннае зрабіў.
485. Пагроза: калі будзеш бадзяцца без карысці, або не будзеш вучыцца,— пойдзеш у пастухі. У старой вёсцы пастух быў найбяднейшым чалавекам.
486. Магчыма, маецца на ўвазе маёнтак або мясцовасць Ліпа.
487. Воміг — скула, а таксама нешта занадта горкае або нават атрутнае.
488. З прыкметы.
489. Пра таго, хто ўсё робіць абы-як.
490. Жартам у адказ на пабочнае слова *значыцца*; тут ігра слоў. У выразе карова *значыць, значыцца* — гатова цяліцца.
491. Сіпак — тут: стары чалавек, які многа кашляе.

492. Лес та — добразычлівая дзяўчына.
493. Мярнуўся — вярнуўся.
494. Вельмі далёка.
495. Такая бяссэнсіца, у якой самому разабрацца цяжка (Fed.).
496. Г. зн. канец.
497. Таўкунчыкі — камары. Магчыма, прыкмета: камары «таўкуцца» — на цяпло.
498. Балбатлівы чалавек і хлус.
499, 500. Пукі — пакуль (польск. po'ki).
501. Салуп — лізнуць. Відаць, слова гэта гукапераймальнае: гучнае ўцягванне ў рот.
502. Гл. 8.
503. Азначае, што гэта дарма, беспакарана не пройдзе.
504. Гл. 438.
505. Пра беднасць. Перапірашка — тут: паясок для падпяразвання.
506. Гаворыцца жартам у адказ на слова «апошняе».
507. Аналагічна прымаўцы «Трапіла каса на камень».
508. Пра дарогу напрасткі. Труска — дрогка.
509. Пра дарэмную трату часу (тлум. збіральн.).
510. Содухі — канец, смерць, сайсці духам; тое ж і халэмус (ад яўр. *хо'лэм* — тое, што сніцца, спаць і сніць).
511. Барма, бурма — хабарнік.
512. Г. зн. не спадзявайся, не будзе па-твойму.
513. Спытчык — той, хто пытае.
514. Г. зн. абжора.
515. Ворак — мех.
516. Пра нецярплівага і запальчывага чалавека (тлум. Нос.).
517. Пра чалавека, які думае толькі аб ядзе.
518, 519. Пазашлюбныя сувязі.
520. Свёнтак — свята; пёнтак — пятніца.
521. Г. зн. рыхтуюцца да каляд, таўкуць куццю — ячмень на крупы, з якіх гатуецца куцця — абрадавая страва. Магчыма, гукапераймальнае «куць-куць» раскрывае этымалогію назоўніка «куцця».
522. Гаворка ідзе пра малых дзяцей, якія яшчэ нічым дапамагчы па гаспадарцы не могуць.
523. Кажуць на таго, хто часта пазяхае.
524. Вельмі чыста.
525. Сказана да маўклівага чалавека.
526. На Язапатавай даліне — на тым свеце, перад «судом божым» (параўн. хрысціянскае імя Іаасаф, якое на старажытнаяўр. мове азначае: гасподзь ёсць суддзя).
527. Г. зн. памёр.
528. Канец, па ўсім. Клёцкі — абрадавая страва, якою заканчваўся памінальны абед.
529. Духу многа — тут: задышка (у старой жанчыны).
530. Патапцы — бядняцкая яда, цюра, рулі; кавалачкі счарсцвелага хлеба, накрышаныя («патопленыя») у салёную ваду або квас. Мяркуючы па выслоўю, патапцы маглі ўжывацца і як абрадавая памінальная страва.
531. Г. зн. наслужыўся на панскім двары, набраўся гора.
532. Так кажуць, падняўшы вялікі цяжар (тлум. Нос.).
533. Вырва — трасца.
534, 535. Г. зн. упіўся.

536. Улюлюскаўся — закахаўся.
537. Г. зн. ніколі таго не будзе.
538. Кадук — тут: злы дух, смерць.
539. Пра добрых хлопцаў.
540. Пра благога чалавека.
541. Моцна пабілі.
542. Параўн. Прык., кн. 1, с. 250, № 873.
543. Ніякай карысці не меў.
544. Зрабіўся лянівым, нягодным чалавекам (тлум. Fed.).
545, 546. Паказалі фігу. Фіндос, фігос — фіга.
547. Гл. 356.
548. Хала (яўр.) — вітая пшанічная булка; гугель — кугель (яўр.), бабка з цёртай бульбы або з мукі і тлушчу.
549. Клюнка — дзюбка.
550. Параўн. Прык., кн. 1, с. 483, № 2424.
551. Хвіля — тут: бура, завея.
552. Свіння. Пра ганарыстага чалавека, «які нават не вітаецца» (заўв. збіральн.).
553. Г. зн. смерць, магіла. Рыдзел — рыдлёўка, лапата.
554. Гл. 120.
555, 556. Пра чалавека, якому ўсё лёгка ўдаецца.
557. Прыкмета.
558. Г. зн. не даюць напавер, у доўг. Застаў — тут: залажы, пакінь у залог якую-небудзь рэч.
559. Г. зн. такая роўнядзь.
560. Г. зн. не трэба журыцца.
561. Пра чалавека настойлівага.
562. Луснуць — лопнуць, трэснуць (Сцяшк., 268, Кар.).
563. Жартам гаворыць той, хто робіць дарэмную работу.
564. Прыдачна — патрэбна, карысна (польск. przydacznie).
565. Прач — пранік, якім б'юць (пе'руць) бялізну ў час мыцця.
566. Г. зн. аб'еўся.
567. Гараз — удала, лоўка (параўн. рус. *горазд*).
568. Пра страву, якой можна наесціся.
569, 570. Так кажуць, калі ў хаце дужа накурана або смуродна.
571. Як хочаш, а дастань. Хоць ты лунь — тут: хоць памры (параўн. *лунуць* — раптоўна прапасці, згінуць, памерці. З нар. сл., 126, Мсцісл.). У Сержп. прыслоўе ў рубрыцы «Патрэба».
572. Пра чалавека ўпартага, якога немагчыма ўгаварыць.
573. Пашыраная прыкмета. Ёю, між іншым, можна тлумачыць сэнс вясельнага звычаю, калі маці сустракае маладых у вывернутым кажуху.
574. Кажа жартам той, каму ікнулася. Заснавана на павер'і: калі ікаецца, нехта ўспамінае. Гл. 300.
575. Калі сам чэсна сябе паводзіш, не зважай на злыя языкі (тлум. Нос.).
576. Г. зн. зрабіць што-небудзь вельмі хутка (тлум. Fed.).
577. Цалып — цап, хваць.
578. Цап-лап — тут: пашукаўшы, памацаўшы.
579, 580. Цапам-лапам, цапу-лапу — спяшаючыся.
581. Галава на галаву (тлум. Fed.).
582. Пра чалавека ліслівага, крывадушнага.
583. Пярэплаты — тут: агароджа.
584. Жарт, заснаваны на ігры гукаў.

585. Да неахайнай, запэцканай жанчыны.
586. Паслякірмашовы жарт.
587. Гэта так адна жанчына пытае ў другой пра яе мужа-крыкуна (тлум. збіральн.).
588. Навядзоны — тое ж, што шалёны, апантаны.
589. Гл. 282.
590. Гл. 579, 580.
591, 592. Так гавораць, калі чалавек трасецца ад страху.
593. Гавораць, калі сутыкнуліся разам упартыя людзі. Параўн. «Трапіла каса на камень».
594. Даць хабар.
595. Цянькі — дарога напрасцяк. Параўн. Прык., кн. 1, с. 278, № 1229.
596. Гл. 429—431.
597. Гавораць чалавеку, які пайшоў туды, куды не трэба.
598. Парада не паддавацца на хітрыя размовы (тлум. Нос.).
599. Fed. адзначае падслуханы каля карчмы дыялог як звычайны спосаб пачатку размовы паміж незнаёмымі людзьмі. Аднак гэта больш падобна на жарт-каламбур. Тэвель (Тэўлі) — вёска ў Кобр. п. (зараз у Кобрынскім р-не).
600. Адказ таму, хто апраўдваецца дапушчанай памылкай.
601. Параўн. Прык., кн. 2, с. 160, № 142.
602. Рабіць спяшаючыся, абы-як.
603. Аналагічна: Трэба гадзіць ліхой скуле. Удраць — тут: ірвануць, абдзерці.
604. Заганарыўся, пачаў задавацца. У Fed.: упіўся.
605. Пра хлуса, што страціў давер.
606. Пра таго, хто пацярпеў з-за свайго ж недагляду, сваёй нядбайнасці. Параўн. рус.: «Чорт ли нес, на худой на мост!» (Даль, Слов., IV, с. 597); *Чорт попутал.*
607. Пра таго, хто нашкодзіў, але не прызнаецца, аднекваецца.
608. Пра благога чалавека, які раптам разбагацеў.
609. Пра ліхога чалавека.
610, 611. Іран. пра хлуса. Клюня — клюшня.
612. Г. зн. працаваць на іншых (тлум. Нос.).
613. Патарч — паваліцца, ударыцца. Параўн. *патархнуць* — зрушыць, крануць. Сцяшк., 357, Ваўк.
614. Чыста ў хаце.
615. Пра спрытнага злодзея: возьме так, што ніхто не заўважыць.
616. Што чыста — тое ўжо прыгожа.
617. Г. зн. робіць абы-як.
618. Пра чалавека крутога характару (тлум. Нос.).
619. Прыгаворка падзённікаў, адыходнікаў.
620. Асуджальна пра маладога хлопца, які пачаў зазнавацца (тлум. Нос.).
621. Шаль — шаленства.
622. З дзіцячай гульні «У рэдзьку».
623. Тлумачыць сваё ўстрыманне ад рэзкага слова ці ўчынку.
624. Шкляны бог — бутэлька гарэлкі, п'янства.
625. Купіла — тут: грошы.
626. Вельмі цесна, мнагалюдна.
627. «Калі хто пры беднасці горды і непадатлівы» (тлум. Нос.).
628. Кпіны з напышлівага чалавека.

629. Пра нясталага чалавека.
630, 631. Пра бесклапотнага чалавека, гультая.
632. Абылеп — абы, быў бы.
633. Пра легкадумнага чалавека. Гл. 321.
634. Г. зн. шырокім швом. Штых — тут: шво. Мае і пераносны сэнс.
635. Пра нешта нетрывалае.
636. Гл. 604.
637. Відаць, пра зладжаную, заўзятую працу.
638. Бэбах — неакуратны, неахайны чалавек.
639. Гужочак — тут: рамень, вяроўка.
640. Балька — абаранак (з дзіцячай лексікі).
641. Было сказана інфармантам, калі засталі яго за хатнімі работамі. Відавочны ўплыў вядомай п'есы А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце» і старога вадэвілю «Збянтэжаны Саўка» Л. Родзевіча.
642. У чужых руках, у залежнасці (Fed.).
643. Пра жанчыну, вострую на язык.
644. Нос. лічыць, што выслоўе гэта выражае незадаволенасць новаўвядзеннямі ў сельскай гаспадарцы (к. XIX ст.).
645. Прыгаворка, як менцяць касу. Пяску паем — маецца на ўвазе, што мянташка са жвіру.
646. Г. зн. нічога не знайшлі і нічога не страцілі.
647. Пра ткаллю-гультайку.
648. Усё зроблена своечасова (Fed.).
649. Г. зн. пазяхае, хоча спаць.
650, 651. З жартоўнай казкі.
652. Безуважлівы да ўсяго.
653. Пра таго, хто любіць залёты.
654. Прыказваць — ужываць у мове прыказкі. Пра гаваркую жанчыну.
655. Г. зн. прагна есць. Гайдук — тут: назва народнага танца.
656. Г. зн. яшчэ ёсць запас (тлум. Fed.), але, магчыма, адмаўленне ад сну (параўн. Спіць, як апошняе ў печ усыпаўшы).
657. Прыгаворка на базары, калі сыдуцца ў цане.
658. Шэшка — шашок.
659. Няма чаго спяшацца, яшчэ ёсць час.
660. Гавораць, калі цешча частуе свайго зяця.

## Скорагаворкі

661. Валуй — неядомы грыб (Russula foetens).
662. Смэцюх — верабей (у Лельч. р-не *смятнюк*. Нар. лекс., 134).
663. Прыклець — невялікая прыбудова да клеці, дзе гаспадыня захоўвала лён.
664. Адносна гэтага і падобных твораў збіральнік адзначае, што ў іх «выразна выяўляецца гукавая гама — вышэйшая форма гукапісу» (Янк. М., с. 148).
665. Калакалук — відаць, наўкола.
666. Вядома ў іншых варыянтах як загадка на міску з лыжкамі (гл. Загадкі. Мн., 1972, с. 245—246, № 2064—2072).
667. Г. зн. ахрып, крычаўшы (тлум. збіральн.).
668. Скорагаворка сканструявана з вядомай прыказкі (гл. Янк., 39).
669. Гара каля в. Грымячкі Сак. п. Пстры — птушкі стракатыя; крэй — край.

670. Панамар — царкоўны служка, дзячок.
671. Кеп — дурань.
672. Палукашак — пляцёная з лазы паўкруглая спінка ў возе. «Каб не выпадала нічога з воза, то ставяць у воз палукашак» (Сцяшк., 343, Нав.).
673. Вядома таксама як гукаперайманне шчэбету ластаўкі (заўв. збіральн.).
674. Жане — гоніць, паганяе (асаблівасць палескіх гаворак).
675. Строп — тут: страпілы, на якіх трымаецца страха. Падкруп'я — адыходы зерня, з якога выраблены крупы.
676. Родаль — рондаль, каструля з ручкай.
677. Магчыма, бытавала і як дзіцячая лічылка.

## ЗАСТОЛЬНЫЯ ЖАРТЫ, КАЛАМБУРЫ І ТОСТЫ

### Жарты і каламбуры

1. Лякоба — лякарства.
2, 3. Адказ таму, хто на запрашэнне к сталу кажа, што ўжо абедаў.
4, 5. Адказ на гасцінную просьбу гаспадыні яшчэ сілкавацца. Тут скарыстан радок з вядомай батлейкавай сцэнкі «Мацей і доктар» (гл. Шейн, т. III, с. 123—124: «Як аб'еўся я куцці, ні сапці, ні дыхці...»).
6. Не запомні — тут: не забудзь (параўн. польск. zapominać — забываць).
7. Застольны жарт, з якога, між іншым, відаць, што раней каўбаса ў сялянскай хаце была далёка не штодзённым ласункам.
8. Уваходзячы ў хату, дзе госці або абедаюць.
9. Г. зн. есць з добрым апетытам.
10. Своеасаблівае пахвальванне кулінарнага майстэрства гаспадыні.
11. Што — тут: што-небудзь, зусім мала.
12. Аставец — госць, які прыйшоў пазней за ўсіх.
13. Запрашэнне выпіць пасля варыва — капусты (тлум. Нос.).
14. Застолле, наладжанае па нязначнай прычыне (тлум. Нос.).
15. Жартам на таго, хто за сталом адмаўляецца есці, спасылаючыся на нездароўе.
16. Адказ на настойлівую прапанову напоўніць чарку.
17. У адказ на прыспешванне пачатку застолля.
18. Сала — традыцыйная ежа беларускага селяніна, хоць у большасці сялян у мінулым не магла быць у штодзённым ужыванні.
19, 20. Як за сталом паб'ецца што-небудзь з посуду.
21. За сталом трэба частаваць усіх падрад, не робячы выключэння (тлум. Добр.).
22. Адказ на настойлівае частаванне.
23. Так жартуюць, сядаючы за стол.
24. Гаспадыня жартуе так, калі дзеці назаляюць у час частавання гасцей.
25, 26. Рад (у другім выпадку) — застолле; за пэйсы патрасе — маецца на ўвазе пайсці да карчмара.
27. Хвартухом трасі — тут: выганяй з хаты.
28, 29. Гл. 24.
30. Параўн. Прык., кн., 1, с. 392, № 1337.
31. Масол — маслак, вялікая косць, сцегнавая.

32. Калі гаспадыня падае госцю хлеб.
33—45. Гаворацъ на развітанне, адыходзячы з гасцей.
45. Г. зн. каб ніколі не вычэрпвалася дабро.
46. Так жартам адказваюць гаспадыні, калі яна ветліва просіць прабачыць за небагатае частаванне.
47. Параўн. Прык., кн. 1, с. 253, № 915.
48. Гл. 24. Лапануць — пабегчы.
49. Жартам пра сваё месца за гасцявым, вясельным ці хрэсьбінным сталом.
50. Маецца на ўвазе біблейскі Саламон-«мудры».
51. Праштроп — правініцца («праштрафіцца»); штоп — штоф (ням. Stoff), даўняя мера гарэлкі, віна, роўная 1/10 вядра, і сама бутля такой ёмкасці.
52. Гасціннае запрашэнне на застолле.
53. Даўняя прыкмета: калі кот мыецца — будзе госць.
54. Гаворыць муж, які прыйшоў у госці пазней за сваю жонку.
55. Жартаўлівы намёк на тое, што смачна, але мала.
56. Нос. лічыць гэты тэкст прымаўкай «пра няпэўнага або бесталковага» чалавека. Больш верагодна: так жартуе госць, уваходзячы ў хату. Параўн. Прык., кн. 1, с. 390, № 1309.
57. Параўн. Прык., кн. 1, с. 401, № 1444. Перапіваць — тут: адказваць адпаведнай для данага выпадку формулай ветлівасці.
58. Абмачанка — мачанка.
59. Жартам, адыходзячы дадому пасля застолля.
60. Да госця, каб не быў пераборлівым.
61. Г. зн. многа.
62. Параўн. Прык., кн. 1, с. 253, № 915.
63. Гл. 23.
64. Квач — памазок.
65. Гаспадары адказваюць так на дзякаванне за пачастунак.
66. Палкнуць — праглынуць.
67, 68. Гл. 22.
69. Адрасавана застольнікам, якія збіраюцца дадому.
70. Гл. 33—45.
71. Гаворыць гаспадар, частуючы сваіх гасцей.
72. Ком — камы.
73. Параўн. Прык., кн. 1, с. 391, № 1323—1324.
74. Г. зн. адрэзаць добрую лусту ці акраец хлеба.
75. Так госць жартуе, выпіваючы чарку да дна, як таго вымагае застольны «этыкет».
76. Голік — сцёрты, збіты, голы венік.
77. Кажуць таму, хто пралівае за сталом. Не шкодзь — тут: не лі, не вылівай; пашкоджаная — пралітая.
78. Жартаўлівы папрок гаспадару за занадта шчодрае частаванне.
79. Так гавораць, калі спрабуюць што-небудзь з новага ўраджаю.
80. Г. зн. сала, паляндвіца. Гл. таксама 18.
81. Гл. 33—45. Тармаса — мітусня, таўканіна.
82. З такім жартам уваходзіць госць, які апазніўся.
83. Г. зн. давялося распеAccording разазацца. Проўжынка — спражка дзягі.
84—86. Беручы ў рукі бутэльку, каб наліць чарку.
87. Намёк на добрую закуску.
88. Пасялуй — пабудзь, пагуляй.
89. Намёк на напаўненне чаркі.

90. Прыгаворка за сталом, «калі хочаш выпіць і мала даюць» (заўв. збіральн.).
91. Асабовае імя Ляпей тут, відаць, надуманае і ўжыта «для складу» або ў сэнсе лепшы; такое імя ў народным бытаванні не зафіксавана. Хрысціянскі месяцаслоў ведае імя Луп, але суадносіны яго з формай Ляпей малаверагодны.
92. Пасьмейванне з паказной гасцiннасцi шляхты (тлум. Нос.).
93. Заўв. збіральн.: Калі не частуюць, не трэба самому прасіць.
94. Жартоўнае запрашэнне да стала.
95. Калі гаспадыня забылася хлеб падаць на стол.
96. Так жартам гаворыць гаспадыня, падаючы на стол стравы.
97. Сілком есці або піць не прымусіш.
98. Так кажуць, калі забыліся на стол паставіць соль.
99. Так кажуць пры апошняй чарцы, звычайна няпоўнай і са злівак. С т о ч к і — злітыя ў адну чарку недапітыя астаткі гарэлкі.
100. Г. зн. нічога не будзе на вячэру: трэба зморшчыцца і легчы спаць не еўшы.
101. С т р ы я ш к а — памянш. ад стрый, дзядзька, брат бацькі; в у я ш к а — памянш. ад вуй, дзядзька, брат маці.
102. Т а н і ц ь — тут: затонка наразаць хлеб. Гл. 74.
103. Гл. 27.
104. Е д а л а — страва.
105. Найбольш пашыраная застольная прыгаворка гаспадыні.
106. Гл. 33—45.
107. Жартам да гаспадыні, што смачна гатуе.
108. Укор таму, хто выказвае незадаволенасць за сталом або абгаворвае гаспадароў.
109. Застольны этыкет не дапускае пакідаць недаедзеныя кавалкі хлеба (на Віцебшчыне, Смаленшчыне, Браншчыне — *кусанікі*).
110. Гаворадь таму, хто адмаўляецца ад чаркі, якая пераходзіць па кругу (заўв. Нос.). І яшчэ: у час застолля не павінна быць ніякай розніцы паміж гасцямі.
111. А д н о д з е л а — адабрэнне.
112. Незласлівае пасмейванне з гаспадара. У р а з о р в у — вельмі многа, да адвалу.
113. Так гавораць, калі ўпадзе з рук лыжка або відэлец.
114. Гл. 96.
115. Жартоўны адказ на частаванне. Карова больш за ўсіх есць.
116. Расхвальванне пастаўленага на стол віна.
117. Пра шумную бяседу (заўв. Нос.). У д в а р э — тут: у хаце.
118. Запрашэнне выпіць пасля кожнай стравы. П а т р а ў к а — патрава, страва.
119. Г. зн. пад'еў добра.
120. Б е с п р ы н у к н ы — госць, які не патрабуе настойлівага частавання з боку гаспадароў.
121. Б е з м а л і м о н н ы — неперабарлівы ў ежы.
122. Прыгаворка перад чаркай. А к а в і т а — гарэлка, настоеная на карэнні.
123. В а р а — звараная ежа.

### Тосты

124. З н а с к а — тут: проста з бутэлькі, без чаркі.
125. Тост за вясельным сталом.

126. Каб паясніцы, як брушніцы — пажаданне здароўя.
127—132. Тосты на вяселлі.
133. Пры першай чарцы, пачынаючы застолле.

### Вясельныя прыгаворкі

134. Гэты і наступныя 25 запісаў — жартоўныя прыгаворкі пры адорванні маладых на вяселлі.
135. Сыска — соска.

## ВІТАННІ І ЗЫЧЭННІ. ВЕТЛАСЦЬ

### Вітанні і зычэнні

1. Пры сустрэчы з чалавекам, з якім даўно не бачыліся.
2. Раст. адзначае, што на Браншчыне ў наш час гэта форма вітання сустракаецца толькі ў песнях. На Беларусі яна бытуе паўсюдна.
3. Найбольш пашыраная традыцыйная форма вітання ў беларусаў.
4. Віншаванне з кожным паасобным днём тыдня было даволі пашырана сярод беларусаў паўночных паветаў Чарнігаўскай губ. (Косич, 9; Раст., 119).
5. Было вядома і як самастойнае вітанне, і як адказ на «дабрыдзень».
6. Форма вітання адразу з некалькімі людзьмі, якая мае жартоўнае адценне.
7. Лягчыся — тут: распраніся, адпачні.
8—11. Узоры жартоўных элементаў у вітаннях і асабліва ў адказах на вітанні, якімі карыстаюцца заўсёды ў лагоднай, бяскрыўднай форме.
12. Насмешлівая форма адказу і лексіка ў даным выпадку сведчаць аб параўнаўча познім з'яўленні і запазычаным характары самога вітання. Яно магло быць прынесена з горада адыходнікамі, колькасць якіх на Віцебшчыне асабліва павялічвалася ў апошнія дзесяцігоддзі XIX ст.
13. Вітанне пры ўваходзе ў хату, якое было пашырана сярод каталіцкага насельніцтва. Нех бэндзе пахвалёны — няхай будзе ўслаўлены; вітанне з рэлігійным адценнем, у імя Хрыста (Е́зуса Хры́стуса). Зараз захавалася пераважна сярод пажылых людзей, паступова губляючы свой першапачатковы рэлігійны сэнс.
14. Парадыйнае вітанне. Ляцкі прыводзіць народны анекдот, з якога паходзіць гэта жартоўнае вітанне: Да скупой гаспадыні прыехаў ксёндз пасля каляд. Не жадаючы плаціць за слаўленне, гаспадыня схавалася за дзверы, а дачку сваю навучыла сказаць, што яе ў хаце няма. Ксёндз увайшоў і ледзьве прамовіў вітанне «Нех пахвалёны бэндзе», як дачка закрычала: «Маткі ў дому няма! Маткі ў дому няма!» А ксёндз, убачыўшы з-пад дзвярэй ногі гаспадыні, што схавалася, і здагадаўшыся, у чым справа, пытае ў дачкі: «А ці ўзяла матка ножкі?»
15. Жартоўнае парадыйнае вітанне, увайшоўшы ў хату. Відавочна, прыйшло з батлейкі (гл. апісанне прадстаўлення батлейкі. — Шейн, т. III, с. 123, «Нумер» (сцэнка), 3, Мінская губ.).
16. Навагодняе віншаванне, увайшоўшы ў хату. Панеус — скарочана пан Езус; усенькае — усякае; жывінка — жывёла; дружынка — жонка (укр. — *дружина*); памыснасці — тут: даброты, дастатак (польск. pomyslnos'c' — дабрабыт, удача, поспех).

17, 18. Форма вітання, уваходзячы ў хату, пашыраная пераважна ў раёнах з былым каталіцкім насельніцтвам.

19—27. Вітанні, уваходзячы ў хату, калі там снедаюць, палуднуюць ці вячэраюць. Смачнего, смашнога — прыемнага апетыту.

26. Уваходзячы ў хату, дзе частуюцца.

28. Сэрвус, у сэнсе — я ваш слуга, гатоў вам служыць, спагадаць (ад лац. servus — раб, нявольнік). Пранікла ў народны быт з каталіцкіх малітваў, але больш пашырана было сярод дробнай шляхты. (Параўн. таксама сучасны сервіс ад англ. service — абслугоўванне паўсядзённых бытавых патрэб насельніцтва.)

29—35. Гл. 19—27. Некаторыя вітанні (31—33, 35) — з жартоўнымі адказамі, за якія ўвайшоўшыя ў хату звычайна не крыўдуюць.

36—38. Належаць, відаць, да вельмі даўніх форм вітання. У старажытнай Русі *чалабіцце* — нізкі паклон да самай зямлі, з датыканнем да яе лбом, у знак асаблівай павагі, падзякі або падначалення высокай асобе. Чалом — нізкі паклон (ад даўняга *чало* — лоб).

39. Чэсь — чэсць, павага. Тое ж, што «Маё вам шанаванне» (гл.).

40. Жартам, пры сустрэчы ў гарачы летні дзень (тлум. Нікіф.).

41. Такаво — так сабе.

42. Найбольш пашыраная форма вячэрняга вітання ў беларусаў.

43. З пачатковых радкоў вядомай нар. песні. (Гл. Жартоўныя песні. Склад І. К. Цішчанка. Мн., 1974, с. 138, № 111.)

44, 45. Найбольш пашыраныя формы развітання ў беларусаў.

46. Гэта формула развітання асабліва пашырылася з канца 30-х гадоў пасля з'яўлення папулярнай песні А. Русака і І. Любана «Бывайце здаровы».

47. Шчыпаўка — клешч.

48. Развітанне вясельнае.

49. Дабранец — тое ж, што дабранач, добрай ночы.

50. Гл. 48.

51. Развітанне і адначасова просьба прабачэння за тое, што надакучыў сваімі размовамі.

52. Гл. 39.

53. Пажаданне, каб работа скора рабілася.

54. Як садзяць капусту.

55. Як жнуць.

56. Так гаварылі сейбітам канапель (заўв. Добр.).

57. Пчаляру, калі ён аграбае рой або дастае мёд.

58. Гавораць тым, хто прыступае да сушкі і малацьбы збожжа.

59. Да тых, хто садзіць капусту. Каб капуста прымалася так, як дзеўка да сябе прымака прымае (Fed.).

60—65. Сейбітам. Пруд — млын.

66. Малацьбітам.

67, 68. Зычэнне, каб воўна расла доўгай і густой.

69. Злоснік яшчэ дадае: «Чорт на вуду!» (заўв. Сап.).

70. Гавораць таксама і паляўнічаму. Саўцу — відаць, недакладна запісана: павінна быць — з аўцу, г. зн., каб улавіць рыбіну ці дзічыну, як авечку вялікую.

71. Недобразычлівец прыбавіць: «Лягух да мышэй» (заўв. Сап.).

72. Рыбакам, пажаданне добрага ўлову. Шаболць, шчабох — гукапераймальныя словы, якія азначаюць гучнае варушэнне, шапаценне.

73. Так кажуць гаспадыні, якая стараецца каля печы.

74. Так гавораць малацьбітам, тым, хто засольвае мяса ці займаецца іншымі работамі, звязанымі з нарыхтоўкай харчоў.
75. Гаспадыні, што саджае ў печ хлеб.
76. Гаспадыні, што складвае ў кадку мяса (заўв. збіральн.).
77. Гаспадыні, што б'е масла.
78. Гаспадыні, што доіць карову.
79. Калі колюць свінню.
80. Пры саленні масла (заўв. Нікіф.). Зразумела, так гавораць і ў іншых выпадках нарыхтоўкі прадуктаў харчавання.
81. Гл. 78.
82—84. Падыходзячы да жанчын, што мыюць, пераць бялізну.
85. Жанчыне, якая снуе кросны.
86. Зычэнне той, хто беліць палотны.
87. Гл. 85.
88. Жанчынам, якія трэплюць лён.
89, 90. Да тых, хто прадзе.
91. Прыйшоўшы да навасёла, жадаючы яму доўгага жыцця.
92. Віншаванне з наваселлем, пры гэтым на стол кладуць грошы, крупы, ці што іншае.
93. Гавораць жанчыны, уваходзячы ў лазню.
94. Таму, хто парыцца ў лазні.
95. Уваходзячы ў лазню. Формула нагадвае даўні эпічны склад.
96. Гавораць мужчыны, уваходзячы ў лазню. Параўн. 93.
97. Сустрэўшы чалавека, які ідзе ў лазню або з лазні.
98. Гл. 94.
99. Гл. 95.
100. Пры ўваходзе ў лазню — людзям.
101—103. Гл. 97.
104—111. У гэтых развітальных і памінальных словах захаваліся сляды даўніх вераванняў пра «той свет» і пра тое, што нябожчык нібы здольны дапамагчы сваім жывым родзічам на зямлі.
112, 113. Звычай зычыць здароўя пры чханні заснаваны на вельмі даўнім павер'і, што ў момант чыху з чалавека нібы «выскакваюць» хвароба, злыдні. З чханнем звязаны і прыкметы (чых — праўда). Гэтыя два выслоўі «адсылаюць» хваробу ці немач «да каваля», які можа яе зусім знішчыць на кавадле, або да «кошкі ў ножку».
114—118. Адрасавана дзіцяці.
119. Жартам. Храпы — ноздры.
120. Лес скарбовы, даслоўна — лес, які належыць казне, скарбу, дзяржаве. Тут: высокі, стромкі, моцны.
121. Гл. 114—118.
122. Прыгаворка пры чханні ад нюхальнага тытуню.
123. Так сказала бабка на базары, прадаўшы грушы жанчыне.
124. Зычэнне дзіцяці, калі мяняюць яму рубашачку (заўв. Нос.).
125. Анельска сыць — сытасць, як у анёла на небе (з даўніх вераванняў).
126. Зычэнне ў сувязі з абноўкай.
127. Мяшаць, тут: рыхтаваць пойла, карміць свіней.
128. Г. зн. дажыць да глыбокай старасці.
129. Да дзіцяці.
130. Падзяка жабрака (тлум. Fed.).
131. Навагодняе віншаванне і зычэнне.
132. Відаць, падзяка за міласціну, падачу беднаму хлеба.

133. Гл. 128.

134. На камені і пад каменем — на самай неўрадлівай зямлі (тлум. Янк., 543).

135. Каб жылі ў дастатку і не трэба было ні ў кога прасіць.

136. Г зн. каб не трэба было плакаць.

137. Мірота — смерць. Каб не памёр.

138. Да дзіцяці, калі яно пацягваецца.

139. Дзяўчыне, якая расчэсвае свае валасы, каб яны заставаліся доўгімі (тлум. Fed.).

140. Заднія дні — мінулыя, прайшоўшыя. «Прыгаворваюць, калі расказваюць пра страхі, хваробы, няшчасці і іншыя непрыемныя няшчасныя выпадкі, нібы жадаючы, каб яны не абярнуліся ў цяперашняе або будучае» (Нос., 45).

141. Гаварылі так, калі ў вялікі пост успаміналі пра скаромную ежу, відаць, каб «падмануць» бога і пазбегнуць граху.

142. На жывы — тут: у шчаслівы.

143. Гл. 140.

144. Калі ў піліпаўку (перадкалядны пост) успомнілі пра скаромныя стравы. Гл. таксама 141.

145. Засцярога словам ад урокаў.

146. Пярэднія дні — тут: мінулыя дні, прайшоўшыя (гл. 140). У Дуб. у дужках растлумачана: «прэжнія».

147. Замацаванне якога-небудзь пажадання сцвярджальным, заключным словам (параўн. царк. амінь).

### Ветласць, ласкавасць

148. Лабунька — міленькі.

149. Каліўка — тут: маленечка (ад каліва).

150. Ласкавы зварот да жанчыны.

151. Гл. 138.

152. Разбірайцеся — распранайцеся.

153. Чадулька — дзіцятка (параўн. царк.-кніжн. рус. *чадо* — дзіця).

154. Шчырая ўдзячнасць.

155. Ясычка — міленькі. Гл. 148

## ПРЫСЯГАННІ. ПРАКЛЁНЫ. ГАНЬБАВАННЕ І АБЗЫВАННІ. ДРАЖНІЛКІ-КЕПІКІ

### Прысяганні

1. Бажыцца, б'ючы сябе кулаком у грудзі: традыцыйны народны звычай прысягання.

2. Пра паходжанне гэтай формы бажбы гл.: Булахаў М. Г. Далібог (дальбог).— Веснік Беларус. ун-та, серыя 4. Філалогія, журналістыка, педагогіка, псіхалогія, 1971, № 2, с. 60—62 (Матэрыялы для этымалагічнага слоўніка).

3. Ніціка — сёння, цяпер (рус. ныне, нынче).

4—6. Даліпан, даліпантачкі — тое ж, што *далібог*. Пан-бог, пан-Езус — звычайныя звароты, асабліва ў каталікаў.

7—8. Дальбо, дальбог — тое ж, што далібог. Гл. 2.
9. Дальбуг — спаланізаваная форма дальбог (польск. bo'g — бог).
10. Каб з духам быў — каб так жыў.
11. Гл. 3.
12. Нарэсьце — нарэшце, тут: пад канец жыцця, перад смерцю.
13. У другім вар. (каб я да свету...) — бажба жартоўная.
14. Жывінка — свойская жывёла.
15. Мяртвыя кляцьбы — кляцьба сваім жыццём.
16. Найбогу — прысяганне богам.
17. Прысяганне крыжам або жагнаннем (рабіць знак крыжа рукой).
18. Абложне палажыць — спаралізаваць.
19. Прысей — прысягаю.
20. Адцён — адсячэнне.
21. Пэўная форма бажбы, заклінальная формула. Тлум. Нос.: адрачэнне ад чаго-небудзь. Чур — старажытнае заклінальнае слова, якое азначае забарону, мяжу, пераступіць якую нельга.

### Праклёны

1. Чэмер — чамярыца (Veratrum), атрутная шматгадовая трава, небяспечная для жывёлы.
2. Веран — хвароба.
3. Чорная юшка — тут: кроў.
4. Лідаік — позыў на рвоту, калі чалавеку моташна.
5. Карачун — смерць раптоўная (са старажытнаславянскай дэманалогіі).
6. На карову.
7. Ванцах — востры боль у жываце, таксама — панос.
8. Попадзь — смерць, пагібель.
9. Чэмер — тут: конская хвароба.
10. Лом выламіць — ламота нападзе і замучыць.
11. Пасадкі і засадкі — зробленыя каму-небудзь прыкрасці, якія прыводзяць да сваркі.
12. Паралік — паралюш.
13. Удоўж на лаўцы — тут: памерці.
14. Антонаў агонь — заражэнне крыві.
15. Дундар, дундаль — магчыма, пярун, ад яўр. *дунэр* з ням. Donner.
16. Кута — магіла.
17. Набракаўся — моцна напіўся.
18. Агіба — топкае, багністае месца ў балоце, дзе можна праваліцца.
19. Атруда — цяжкая хвароба.
20. На курэй.
21. Алежа — хвароба.
22. Амін — тут: канец, смерць.
23. Немарач — хвароба.
24. Кадук — смерць, таксама — чорт.
25. Учаўрыць, вычаўраць, счаўраць — ссохнуць.
26. Гл. 24.
27. Распрындзіць — распухнуць.
28. Рэзана — панос.

29. Анахема, анафема — тут: пракляты; з ніну — ад цяперашняга часу.
30. Пазвоннае — плата за царкоўны перазвон па нябожчыку.
31. Валасень — хвароба, гнойны нарыў.
32. У Добр. у рубрыцы «Закляцце» (праклёны).
33. Віншую — тут: зычу, жадаю.
34. Перанома — смерць, пагібель.
35. Вопадзь — хвароба, падзеж. Гл. таксама 8.
36. Восцень — нешта вострае з зазубінай (параўн. назву рыбалоўнай прылады *восці*).
37. На каня.
38. Жылле — жылы.
39. Цырулік — цырульнік; у мінулым — лекар.
40. Гаручка — гарачка.
41. Доля — тут: шчаслівая доля.
42. Смяротны праклён.
43. Радзімец — хвароба, сутаргі.
44. Г. зн. каб раздула, каб распух.
45, 46. Адсыланне да нячыстай сілы на пагібель. Пералічаюцца вобразы народнай дэманалогіі: нячысцік — абагульнены вобраз «нячыстай» сілы, а таксама чорт, рагацік — чорт, прах — смерць, цмок — змей-крывасмок, балотнік — дух-гаспадар балота, хатнік — дамавы, дамавік.
47. Аржавень — іржавае балота.
48. Услед упартаму, незгаворліваму чалавеку (Нос.). К стоўпу — тут: на шыбеніцу.
49. Ростані лічыліся месцам знаходжання «нячыстай сілы».
50. На веніку, як вядома, лётае казачная ведзьма, баба-яга.
51. На курэй.
52. Г. зн. хадзілі старцамі-жабракамі.
53. Было сказана на курэй.
54. Выжыліў — тут: прымусіў даць хабар (тлум. Нос.)
55. Пятро (і Паўла) — свята, якое адзначалася 29 чэрвеня (па старому стылю), малыя сяткі — «малы спас» (16 жніўня) і «малая прачыстая» (8 верасня).
56. Гарохавая лапатка — палавінка, створка гарохавага стручка.
57. Г. зн. каб аглох.
58. Жытла — тут: жыццё.
59. Сопуха — сажа.
60. Было сказана на каршуна, які «ўхапіў» курыцу. Скасавацца — звесціся.
61. На таго, хто адмовіў у пазыцы, спасылаючыся на тое, што не мае.
62. Засіліцца — павесіцца (гл. Бяльк., 182; Раст., 112), накідваць пятлю (Нос., Слов., 184).
63. Выпаўзень — змеяня.
64. Праклён на смерць. Журы — дух.
65. Сумарок — вар'яцтва.
66. Карбунец — тут: скулле. Відаць, ад карбункул (carbunculus) — глыбокі гнойны нарыў.
67. Слота — тут: насланнё, напасць.
68. Сухалом — раматус.
69. Хвіля — тут, відаць, ліхая гадзі'на.
70. Лунуць — загінуць (Нос., Слов., 272).

71. Гл. 55.
72. Г. зн. каб памёр. Праснакі належалі да абрадавай памінальнай ежы.
73. Г. зн. каб памёр ганебнай смерцю і пахавалі без ушанавання.
74. Воўцы — авечкі.
75. Г. зн. каб вісеў на шыбеніцы.
76. Г. зн. цяжка рабіць. Відаць, звязана з пэўнай прыгоннай павіннасцю. Замак у Крэве (зараз у Смаргонскім р-не) быў пабудаваны ў І пал. XIV ст. на насыпаным узгорку.
77, 78. Каб заняло, зацяло — у даным выпадку сінонімы: каб аднялося (дыханне, мова).
79. Г. зн. каб засталася старою дзеўкаю, каб ніхто яе замуж не ўзяў.
80. Клоцце — калаццё.
81. Відаць, каб занядужаў, аслаб на старасці.
82. Г. зн. каб нос распух. Балдаўня — даўбешка.
83. Падпечка — тут: дамавік. Каб дамавік прысніўся (заўв. Шпил.).
84. Гл. 30.
85. На кабана.
86. Зеграчы — вочы.
87. Каб табе шохла — каб цябе ліхаманка трэсла.
88. Гл. 75.
89. Хлясцець — відаць, зубамі ляскаць. Параўн. *хляскаць* — моцна стукаць адно аб адно, *хляснуць* — моцна ўдарыць (Раст., 278).
90. Абрыняць — распухнуць, раздуцца. Гара Магілянска знаходзілася каля в. Магіляны Гродзенскага п. (тлум. збіральн.).
91. Г. зн. каб памёр. Азелязець — адубець, зрабіцца цвёрдым як жалеза.
92. Апрындзіцца, спрындзіцца — памерці.
93. На таго, хто ўкраў сарочку.
94. Вупар — цмок (рус. упырь), вобраз народнай дэманалогіі.
95. І на ката было сказана.
96. Г. зн. каб знясілеў, змардаваўся, як у часе працяглага посту (рус. царк. говенье).
97. Запаветрыцца — заразіцца хваробай, «з паветра».
98. Г. зн. каб акамянеў, адубеў (гл. 91). Крыца — камлыга жалеза.
99. Г. зн. збяднець і апусціцца настолькі, каб красці тое, што прыхаджане прыносілі на вялікдзень у царкву або касцёл свянціць.
100. На ладан дыхаць — ледзве трываць, паміраць.
101. Апрудзіцца — тое ж, што *апрындзіцца* (гл. 92).
102. Г. зн. каб не мог адкашляцца і задушыўся.
103. Гл. 76.
104. Перапаласкацца — тут: загінуць, відаць, патануць.
105. Г. зн. каб прапаў, разваліўся.
106. Г. зн. каб хадзіць не мог.
107. Сазлізці — зрабіцца склізкім, успацелым, захварэць.
108. Скучарыжыцца — загінуць.
109. Г. зн. каб адзервянела, інакш — загінула.
110. На чвараках — поўзаць на абедзвюх руках і абедзвюх нагах (рус. на четвереньках).
111. Стоць — старчма.
112. Магло служыць і бажбой-прысяганнем здароўем.
113. Зласлівае зычэнне аглохнуць.
114. Г. зн. удавіўся, захлынуўся.
115. Пятроўка — пост перад Пятром (гл. 55), самы разгар лета;

дзяды — памінальны абед, які вызначаецца багатай ежай; пакроў — царкоўнае свята, 1 кастрычніка.

116. Г. зн. каб так моцна распух.

117. Упетрыць — усохнуць.

118. Касталом, кашталом — раматус.

119. Упадзень — хвароба.

120. Бягунка — панос.

121. Г. зн. каб уздула жывот.

122. Апрога — тут: смерць.

123. Моркі — мор, хвароба.

124. Спрага — тут: смага.

125. Сярчыстыя — вогненныя.

126. Маецца на ўвазе эпілепсія.

127. Вангрына — скурная хвароба.

128, 129. Гл. 7. У Fed.: так клянуць каня.

130, 131. Так кажуць на свойскую жывёлу.

132. Вопрамець — падучая хвароба.

133. Сказана на свінню, якая нарабіла шкоды.

134. Выката — хвароба.

135. Значэнне выразу лісіныя горы страчана. Урочышча з падобнай назвай таксама няма (заўв. збіральн.). Трэба меркаваць, што гэта даўнія, забытыя могілкі.

136. Гл. 40.

137. Гл. 24.

138. Каліба — хвароба.

139. Гл. 66.

140. Г. зн. каб памёр не сваёй смерцю, а скончыў жыццё самагубствам; у такім выпадку пахаванне адбывалася за агароджай могілак і без удзелу свяшчэнніка. Гл. таксама 73.

141. Мара — прывід, злы дух.

142. Нарыца, нарыка — від хваробы, магчыма, панарыцый, глыбокае гнойнае запаленне пальца.

143. Ніцая — тут: глыбокая, схаваная ў глыбіні.

144. Г. зн. каб па чужых землях бадзяўся.

145. У Свіслацкім р-не пакрака — неахайны чалавек (Шат., 122).

146. Патайнік — паляруш, эпілепсія, «падучае ліха» (Нар. сл., 54, Бял.).

147. Праклёны з перуном, грознай сілай прыроды, належаць да найбольш даўніх і пашыраных.

148. Растржэчыць — расцерці, знішчыць (польск. trzec′ — церці).

149—151. Радзімец, радзімцы, радзімчыкі — тут: пасляродавая гарачка, а таксама сутаргі, эпілепсія.

152. Гл. 28.

153, 154. Г. зн. каб чалавек зусім высах.

155. Спруткаваць — апруцянець.

156. Магчыма, маецца на ўвазе Кальварыя (гл. БелСЭ, т. 5, с. 279) каля Вільні, святое месца ў католікаў, куды збіраліся хворыя, калекі, жабракі на пакаянне.

157. Сурава — від хваробы.

158. Сыра — вобраз народнай дэманалогіі, злы дух.

159. Хвіля — тут: бура, завея.

160. Хляўнік — звярок з роду куніц, ласка. Праклён, відаць, на каня.

161. Г. зн. каб не варушыўся, не хадзіў.
162. Гл. 39.
163, 164. Цяміць, цямнуць — прапасці. У Янк. (379) выслоўе «Каб цябе цяміла» змешчана таксама і сярод добрых зычэнняў, тады *цяміла* трэба ўспрымаць: быць разумным, здагадлівым, кемлівым.
165. Гл. 153, 154.
166. На дамовае птаства.
167. Каша належыць да абрадавых памінальных страў.
168. Ізелі — з'елі (ізесці — з'есці).
169. Сырыца — тут: сырая зямля.
170. Ваўчак — ікол.
171. Земкачэ — тое ж, што *зеграчы*, гл. 86.
172. Не кашылася — тут: не везла, не шчасціла. У Сержп. у рубрыцы «Праклінаць».
173. Гэты праклён вядомы ў адным пахавальным галашэнні дзяцей па бацьку часоў прыгону і быў адрасаваны панскаму «аканому-крыўдзіне», (Гл. Шейн, т. I, ч. 2, с. 663.)
174. Зачысціцца — прапасці.
175. Яламуўза — тут: галава.
176. Гл. 24.
177. Калатуха — ліхаманка.
178. Дзядзінец — хвароба; якая — збіральнікам не названа. Можна меркаваць, што гэта тое ж, што радзімец (гл. 149—151).
179. Так кажуць, калі памёр вельмі ліхі, варожы чалавек.
180. Кліб — каб, бадай, калі б.
181. Коляніца — раматус.
182, 183. На карову. Абабэніць — раздуць; апрэгчыся — здохнуць.
184. На курэй.
185, 186. Ліхач, ліхоцце — ліха, гора.
187. Гл. 141.
188. Набраўся чары — напіўся гарэлкі.
189. На каня.
190. Апрогліца — здыхата. На сабаку.
191. Пропасць — пагібель.
192. Гл. 149—151.
193. Перастоўпам — стоўпам, слупам пары, г. зн. каб памёр не лёгкай смерцю.
194. На таго, хто ўкраў дошкі.
195. Заўтрак — заўтрашні дзень.
196. Гл. 97.
197, 198. Г. зн. каб яно патанула, пайшло вадой.
199, 200. Нячвілі, нячывіль — нечаканая бяда. Нос. (Слов., 338) лічыць, што *нячывіль* паходзіць ад слоў *не чыя воля:* нейкая нячывіль случылася.
201. Было сказана на ката.
202. Гаворыцца, калі дзіця пазяхае. Звязана з даўнім павер'ем, што, калі чалавек пазяхае, з яго выходзіць усё благое, хваравітае. Тут адсыланне ўсяго нядобрага на сабаку.
203. Памжа — слова збіральн. не тлумачыць. У Лунінецкім р-не *па'ма* — чорная хмара (Шат., 124). Гл. у першым раздзеле 372.
204. Гл. 149—151. Радзімец (адзін) пацвярджае, што ўвасабленняў гэтай хваробы ў народнай дэманалогіі было некалькі. Параўн. *радзім-*

*цы, радзімчыкі.* У вераваннях рускіх вядомы дванаццаць сёстраў-трасавіц — увасабленняў ліхаманкі (гл. замову «От лихорадки» у кн.: Н. П. Андреев. Русский фольклор. М., 1938, с. 51—53).

205. Г. зн. каб выпрастаўся, памёр.

206. Перакрыш — хвароба, ламота ў касцях.

207. Варволя — каламазь.

208. Пралік — паляруш.

209. Пелехі — увесь дамовы набытак (?).

210. Праклёны на няспынны кашаль, што грудзі раздзірае (тлум. збіральн.).

211, 212. Гл. 149—151, 204. Хранцуз — тут: пранцы, сіфіліс.

213. Гл. 205.

214. Смяротнае, смёртнік — тут: эпілепсія.

215—218. Гэта не ўласна кляцьба, а «засцярога» ад уроку, каб хто, пахваліўшы, асабліва дзіця, ці пазайздросціўшы, не мог урачы.

219. Спалатнець — пабляднець, збялець.

220. Спухля — пухліна.

221. Гл. 149—151 і 204.

222. Чаровы — вантробы, кішкі.

223. На тых, хто «насылае» падучую хваробу.

224. Каляціна — кол.

225. Аблажніцы — слова вядома толькі ў праклёнах. Відаць, нейкая хвароба.

226. За крыўды.

227. Ззызнуць — азызнуць.

228. Упад — упадак, няшчасце.

229. Гл. 153, 154.

230. Курч — тут: сутаргі.

231. «Адсыланне хваробы» (параўн.: на сухі лес).

232. Хінь — схіліся.

233. Гл. 215—218.

234. Г. зн. каб майго жыцця паспытаў.

235. Відаць, на каня гэты праклён.

236. Чаго ты лупішся — тут: чаго ты крычыш?

237. Шлункі — суставы.

238. Закрут — заварот кішак.

239. Узнык — з'яўленне, уваскрасанне (Бяльк., 456). Праклён вынікае з рэлігійных уяўленняў аб душы.

240. Карчыга — тут: паралізаваны чалавек.

241. У Добр.: у рубрыцы «Закляцце».

242. Цяцюха — ліхаманка.

243. Скарга-праклён на вецер. Зварот да яго, як да жывой істоты, характэрны для першабытнага анімістычнага светаадчування.

244. Зоўшыца — хвароба свінка.

245. Цвікнуць — цырыкнуць, а, магчыма, тут: каб «убрыкнуў» певень-каплун (польс. ćwik — каплун).

246. Гл. 55.

247. Кузьма — тут: відаць, мянушка нейкай бяскрыўднай жывёліны.

248. Здрок — авадзень.

249. Сечка — тут, відаць, камарыная «таўкатня».

250. Гучыць амаль як сапраўдны праклён, калі ўлічыць, што ва ўмовах старога сялянскага быту, як кажа прыказка: Сын у дом грабе, а дачка з дому бярэ (пасаг).

251. Жартам таму, каму не паверылі.
252. Жартоўнае «пажаданне» дзяўчыне.
253. С т р а п я л я ц ь — тут: спужаць.
254. Адрасаваны дзяўчыне. Значэнне гэтага «праклёну» не ясна. Fed. адзначае толькі, што ў дзень сарака мучанікаў (саракі′, 9 сакавіка.— *М. Г.*) адбываецца танец на дошцы. Магчыма, тут жартоўнае «пажаданне» — дажыць да сарака год дзеўкай.
255. Т а р к а н ы — тут: тараканы.
256. Адсыланне «на сухі лес» (хвароб і розных напасцей) — звычайны прыём замоў.
257, 258. Адкляцце-парыраванне кляцьбы «Скулля!»
259. Ц ы п у н, ц і п у н — храшчаваты нарост на кончыку языка ў птушак; к і р д з ю к, с т р ы к — тут: скула, гуз у скаціны.

## Ганьбаванне і абзыванні

1. Б а р ы л а — тут: тоўстая, непаваротлівая асоба.
2. Б а с т ы с ь — здаровая, але гультаяватая асоба.
3. А с к а л ё п а к — несур'ёзны, неразумны чалавек. У простым сэнсе — адколаты кавалачак драўніны, трэска.
4. Г л у ш м а н ь — глухі чалавек.
5. А б а м а р о к — ашуканец.
6. А б д у л е й к а — чалавек, які вельмі задаецца.
7. А б і з г а л — дурань.
8. А б р у я н т — тоўсты і буйны чалавек.
9. З а к р у ц і с т а я — кучаравая.
10. А г л а е д — чалавек, які вельмі многа есць.
11. А д р ы г а — бадзяга, валацуга.
12. А н і б ы л ь — чорт.
13. П р а б ы д л а — ліхі чалавек, горш за скаціну.
14. С л я в я д а — вельмі дакучлівы чалавек.
15. С к л е з е н ь — малыш.
16. А к а ё м — гл. 13.
17. Л е д а ч — гультай.
18, 19. А п і в а ш ы н а, а п і в о ш — п'яніца.
20. А п л ы ц ь к а — непрыгожы чалавек.
21. А п о ў з і н а, а п о ў з л ы — неахайны, заняпалы, несамавіты чалавек.
22. А п с ю г а н, а п с ю г а н к а — бурклівы чалавек.
23. А с к а р у з а к — неахайная асоба.
24. К а ў р а д ы — значэнне слова не высветлена, магчыма, адзін з сінонімаў слоў гад, змяя.
25. А т л а н д з е р — бестурботны чалавек і гультай.
26. А т о р в а, а т о р в і н а — гультайка.
27. А т р а х а — неахайная асоба.
28. А н ц ы п а р — скажонае Люцыпар, у хрысціянскай міфалогіі шайтан, валадар пекла. Тут: чорт.
29. В і т у ш н і к — чалавек, які ходзіць у лапцях (тлум. збіральн.).
30. В ы л у п а к — франт; таксама — вірлавокі (Зэльв., «Вочы вылупіць вылупак гэты»).
31. Бедны, але фарсісты (тлум. збіральн.); свавольнік («От і галуза ж ты, абы табе падурэць». Жыв. сл., 88).

32. Грамзуль — гл. 23.
33. Дзюшка — свіння.
34. Дурдзель — гл. 7.
35. Нізграбоцё — нязграбны чалавек.
36. Нямыка — неахайны чалавек, які рэдка мыецца.
37. Рабзуй — рабы.
38. Рахава — гл. 23.
39. Хлянтул, плентух — пустамеля, балбатлівы чалавек.
40. Бяскішкі — тут: худы.
41. Ацеслійука — тоўстая, гультаяватая жанчына.
42. Ашара — задзірака, хуліган.
43. Бабак — дурны, вялы і нерашучы чалавек.
44. Баглай — гл. 17.
45. Бадзяўко, бадзяўка — тут: распусніца.
46. Бажаволец — свавольнік, а таксама капрызны (гл. бажаволіць — капрызіць, дурэць. Раст., 47).
47. Байбас — гл. 17.
48, 49. Балдавешка, балдыка — булдавешка, у пераносным сэнсе — дурань (параўн. рус. балда).
50. «На яе мужыка кажуць барэлка, бо ён вельмі тоўсты, аж брытко глядзець» (Нар. сл., 6).
51. Басцяка — гл. 11.
52. Баўдыр — маўклівы, замкнуты чалавек.
53. Баягуска — баязлівае дзіця, відаць, тое, што нават гусей баіцца.
54. Біндзюгайла — гл. 17.
55. Блында, блэнда — чалавек, які бадзяецца без усякай справы («Ну і блэнда, з ранку блэндае па хатах». Жыв. сл., 87).
56. Блышынае аб'еддзе — было сказана на хлапчука худзенькага і мізэрнага.
57. Брус — гл. 17.
58. Брухель, брухлей, брухач — вельмі тоўсты чалавек. «Даўней брухлямі паноў звалі» (Мат., 95).
59. Брында — гл. 23. «У гэтай брынды ў хаце павуці́нё вісіць» (Нар. сл., 7).
60. Брэндзала — гл. 11.
61. Брэхман — хлус.
62. Буркун — тут: бурклівы чалавек.
63. Бусайла — гл. 18, 19.
64. Бэйля — тут: нядбалая жанчына. «Настаяшчая бэйля: ні пра што ні дбая». Магчыма, мясцовага паходжання і першапачаткова стасавалася з канкрэтнай асобай (Бэйля — яўр. асабовае імя).
65. Бязлюддзе — някемлівы, няспрытны, нелюдзімы чалавек.
66. Бязлюднік — гл. 13.
67. Г. зн. бесталковы чалавек.
68. Бязула, бязуліца, бязульнік — гл. 17.
69. Ваёда — буян.
70. Вазгра — марудлівы чалавек.
71. Валанцай — гл. 11.
72. Валента — неўраўнаважаны, нервовы чалавек.
73. Валіза — чамадан (польск.) тут: тоўсты і марудлівы чалавек.
74. Варзэпа — партач.
75. Г. зн. рассеяная і няўважлівая асоба.

76. В а р э п а ў к а, в я р э п а ў к а — жаба. Параўн. Сцяшк. (76, Іў.): *варопайка* — зялёная жаба. У пераносным сэнсе — няўклюдная асоба.

77, 78. В а ш а п р у′д, в а ш а п р у д з і н а — вашывы чалавек.

79, 80. Па даўніх народных вераваннях, на Лысую гару каля Кіева зляталіся на сваё гульбішча-шабаш ведзьмы, адсюль, відаць, і ведзьма кіеўская. С а в а Д у н а я — выслоўе, сэнс якога не высветлены, магчыма, таксама звязана з народнымі павер'ямі пра нячыстую сілу.

81. В і р з і я — гл. 39, «вярзець, што пупа′ла» (Бяльк., 360).

82. В і с л ю г а — залётнік.

83. А с в а — аса.

84. А с п і д — парода ядавітых змей, тут: злы чалавек.

85. М ы м р а — асоба, якая пастаянна злуецца, надзьмутая ад крыўды (тлум. збіральн.); вядома яшчэ ў сэнсе непрыгожая і неахайная жанчына.

86. Н я ў х л ю й, н я ў х л ю я — гл. 23.

87. П с ю к — сабака, псіна.

88. Р у м з а — плаксівы чалавек (часцей пра дзіця).

89. Пра брыдкаслова.

90. К а м б а л — тут: рассеяны.

91. В я к а л а — чалавек, які прыстае з пустымі размовамі.

92. Х а л д з е й — тут: чалавек, які займаецца ашуканствам і махляваннем.

93. Ц я л ь п у х — гл. 1.

94. В ы й м а н н і к — надакучлівае дзіця.

95. Ж а д о б а — прагны і скупы чалавек.

96. Г а л г а н ц ы — гарэзы. Было дададзена: За ноч усе яблыкі абтрахнулі.

97. П е р а к і д н і к — той, хто памяняў веру, вераадступнік. У пераносн. сэнсе: няпэўны чалавек, што не трымае свайго слова.

98. Я р ч а н ё — падлетак з вісклівым голасам.

99. С у р м і л а — тоўсты чалавек.

100. Х а л д а — гл. 23.

101. В у г н а ч — буркліві, сярдзіты чалавек.

102. З я к р а т а я — вірлавокая (*зекры*, таксама як *зеркачы* — вочы).

103. В ы ж л а — хітрая жанчына. Відаць, ад *выжал* — паляўнічы сабака.

104. Пра чалавека з адмоўнымі якасцямі.

105. Было сказана на дзяцей, што рагаталі. В ы ш ч а р к і — тыя, што вышчэрваюцца, часта і голасна смяюцца.

106. В я р э н я — някемлівы, няўклюдны чалавек.

107. На высокую няўклюдную дзяўчыну. Г а г а р а — буйная вадаплаўная птушка.

108. На залётніка, аматара валачыцца за жанчынамі. Г а л а г у н — пародзісты певень.

109. Г а л а й с т р а — несур'ёзны і бесклапотны чалавек.

110. Г а л а ш ч а п — чалавек у падранай адзежы, з якой відаць *шчапы* — косці, рэбры.

111. Г а л ь ц а п а — галота.

112—114. Г а м з а, г а м з а ч, г а м з у н — неакуратны чалавек; яшчэ — гугнявы (Круп.).

115. Г а р г а р а, г а р г а р ы н а — сварлівы чалавек.

116. Г а р ы д а — гл. 13.

117. Г а т а л а — гл. 39.

118. Г і н д а — адзначана збіральнікам як абзыванне без тлумачэння

самога слова. Выслоўе гэта, відаць, мясцовага паходжання і можа быць звязана з уласным імем Гінда (яўр.).

119. Ланцужнік — тут: катаржнік, злодзей.

120. Гламазда — няўмелы, нехлямяжы чалавек.

121, 122. Глума, глумак — бесталковы, абмежаваны чалавек.

123—125. На глухога чалавека. Турлушка — глушэц; глухянда, глушпень, глушмень, глушман — глухі.

126. Гныпель — маларослы чалавек.

127. Гойда — легкадумны чалавек.

128. «Што гэта за баба: і тоўстая, і малая, адным словам гопа» (Нар. сл., 8).

129. Грыбаздзіла — чалавек з вялікімі, тоўстымі губамі. Параўн. *грыбы* — губы.

130. Гугнель — відаць, гугнявы.

131. Тое ж, што гамза. Гл. 112—114.

132. Рэпта — гл. 1.

133. Далігойда — высокая, худая жанчына.

134. Апруда — гультай і пражэрлівы чалавек.

135. Валяч — гультай, які любіць многа спаць.

136. Галамоўза — нікчэмны чалавек.

137. Закутнік — дамасед.

138. Камінарнік — мужчына, які сам сабе гатуе, выконвае жаночыя хатнія работы.

139. Карач — гл. 23 (параўн. *каравы*).

140. Макша — п'яніца. Відаць, таму, што ён увесь час «мокне» ў гарэлцы і ніколі «не прасыхае» («Спіўся зусім гэты макша»).

141. Дурбан — гл. 7.

142. Зарэзіна — упарты чалавек.

143. Дзёўбала, дзяўбіла — гл. 7, 75.

144. Дзяндзівер — лянівы і балбатлівы чалавек. У простым сэнсе — мясцовая назва нейкай птушкі (заўв. збіральн.).

145. Друпала — гл. 70. («Чаго там дагэтуль калупаешся?»)

146. Дрыпса — гл. 23.

147. Так абразліва кажуць на таго, хто «не разумее ніякай работы» (тлум. Нос.). Відаць, мясцовага паходжання.

148. Геморнік — знаўца Геморы, часткі Талмуда; тут: машэннік.

149. Дурвяга — гл. 7.

150. Захода — злы чалавек, які хутка раздражняецца.

151. Ошуст — гл. 5.

152. Гнёпа — гл. 95.

153. Махар — махляр (параўн. яўр. *ма'хер* з ням. Macher — дзялок, а таксама *шахер-махер* — нячэсныя дзеянні дзялка).

154. Паліза — ласун, ласуха.

155. Кароза, карзуй — капрызлівы чалавек.

156. Кастра — колкі, сварлівы чалавек (параўн. *кастрыца*).

157. Махала — чалавек, які хутка ходзіць.

158. Абакула — гл. 5.

159. Пра дурня і п'яніцу.

160. Каждан — маларослы і слабы чалавек.

161. Лісцімон — ліслівы і хітры чалавек.

162. Мардун — мучыцель, кат, той, хто мардуе.

163. Прыжма' — кулак, эксплуататар.

164. Калыглаз — адчайны чалавек.

165. С к л ю т — гл. 95.

166. П э р к а л а — гл. 70. «Ні ў адной рабоце не паспяшаецца». Параўн. *порkaцца*.

167, 168. Пра колкую жанчыну, з «куслівым языком». Ж а г л я ў к і — «малесенькія, спрытныя, але вельмі куслівыя мурашкі» (Янк., Абр., 34). Ж а ў н а — чорны дзяцел (Dryocopus martius) з доўгай дзюбай.

169. Ж в е н ь к а л а — пляткарка, якая «пляву′скае што не трэба».

170. Ж в і н д а — буркліві чалавек.

171. Ж ы р д а г о н — няўмека, няўмелы чалавек, а таксама свавольнік (Касп., 106).

172, 173. З а б р ы н д з, з а б р ы н д о х а — гл. 23. «Вунь забрындоха пайшла, ніколі ў лазню не сходзіць» (Нар. сл., 9).

174, 175. З а в а л а, з а в а л ю г а — гл. 17.

176. З а г л а д у х а — зайздросніца.

177. З а з е л а — той, хто дурыць галаву і шуміць.

178. З а л і в а х а —′гл. 18, 19.

179. Пра бязвольнага чалавека.

180. З в ы р к а — гл. 88.

181. З г а р о д а — нехлямяжы, нязграбны чалавек.

182. Г. зн. гарэза, сарвігалава.

183. З л е б — грубы ў абыходжанні чалавек. У Касп.— сноб (тлум. памылковае).

184. З н і ч к а — згодна паданням, прывід, няўлоўны дух (тлум. Шпил.).

185. Ф я ў р а л ь — дурнаваты. «...Ну, калі ні хватая клёпкі. Усе месяцы як месяцы: па трыццаць дзён маюць і больш, а ў фяўралі ні хватая...» (З нар. сл., 51)

186. Т у й к а — гл. 26.

187. В а л я в а х а — лянівая жанчына.

188. Г і р м а — непрычасаная, кудлатая жанчына.

189. К і с л я к — слабасільны чалавек.

190. Л ы л а — грузны неахайны чалавек.

191. Пра сварлівую жанчыну.

192. І р а д — злы, жорсткі, бяздушны чалавек. Паходзіць ад імя цара Іудзеі Ірада (I ст. да н. э.), які вызначаўся асаблівай жорсткасцю. Персанаж беларускай батлейкі.

193. Р а з г р ы б а — неахайны чалавек і губашлёп. Гл. таксама, 129.

194. С к а р у з а — упарты чалавек.

195. Г. зн. распуснік, бабнік.

196. М а н ь к у т — гл. 61.

197. К а л у п ш а, к а л у п а с — гл. 70 («Ці скора ты збярэсся, калупша?»). Параўн. *калупацца*.

198. К а л у ш — гл. 23.

199. К а м б а л — тут: злодзей, рабаўнік.

200. Г. зн. дурнаваты чалавек.

201. Г. зн. тоўстая жанчына, як карова, якую кормяць брагай.

202. К а р у з а — чалавек, які любіць задзірацца, зачынаць сваркі, бойкі.

203. К а ц е р а — адзначана як «лайнае» слова без тлумачэння яго сэнсу. Магчыма, сварлівая жанчына. (Параўн. у Чач. р-не *кацэрыць* — сварыцца. Жыв. сл., 88.)

204. К а ц ь м а к — гультай, нядбайны чалавек.

205. К а ш л у х а — гл. 188.

206. К е п а л а — гл. 70.

207. Кіжлун — марудлівы, няўмелы, непаваротлівы чалавек.
208. Абузнік — гл. 14.
209. Клікун — сабакабой (Шпил.), гіцаль.
210. Клыпша — чалавек з доўгімі нязграбнымі нагамі.
211. Кобза — тут: злы чалавек.
212, 213. Корга, коржа — злая, бурклівая старая (цюрк. karğa — варона).
214. Кошла — гл. 188.
215. Прыдзірлівы чалавек і хабарнік.
216. Крутасвет — прайдзісвет.
217. Крывандзяка — кульгавы чалавек.
218. Зуй — лядачы, кволы чалавек.
219. Парацька — няўмелы чалавек.
220. Апоўзлік — непаваротлівы, слабы чалавек.
221. Каландыш — няўклюдны чалавек.
222, 223. Кундзель, кундзель-мундзель, кундаль-мундаль — сабака.
224. Курашчуп — мужчына, які робіць жаночую работу.
225, 226. Курдупель, курцік — нізкарослы чалавек.
227. Лабідуда — гультай.
228. Лажбель — тоўсты чалавек з вялікім жыватом.
229. Лазавік — чалавек, які жыве сярод балот, у пераносным сэнсе — цёмны, адсталы чалавек.
230. Лантух — тоўсты і гультаяваты чалавек.
231. Лапуцішча — гл. 221.
232. Лахня — «надта лапатлівая, язычлівая» (Сцяшк., 573), гл. 39.
233. Лахта — гл. 39.
234. Лобус — гл. 17, «адно палежвае на тапчане» (Жыв. сл., 144).
235. Пятроўскі — тут: той, хто ляжыць і нічога не робіць у самы гарачы час касавіцы (Пятро, 29.VI).
236. Логмін — гл. 17. «З хаты лянуецца выйці» (Жыв. сл., 108).
237. Лотаўка — гл. 39.
238. Лоўма — злы дух, чартоўка.
239. Лыхта — пляткарка.
240. Лэпа — паспешлівы чалавек.
241. Лябіх — гл. 17.
242. Лядашцік — злы дух, які псуе людзей (тлум. Шпил.). Тут: завіслівае вока, вока, якое можа ўрачы.
243. Лядашчыца — тут: худая, хваравітая жанчына.
244. Ляйда — манюка (відаць, з літ. laida — заход, laidyti — кідаць).
245. Лякотка — гл. 39.
246. Ляпёха — дурнаватая жанчына.
247. Маждж эр — гл. 7. У Іў. р-не *маждж эра* — ступка (Сцяшк., 275).
248. Мазепа — плаксівы, а таксама рассеяны, няўважлівы чалавек («Гэты мазепа стаіць, разявіўшы рот, нічога не панімае». Жыв, сл., 108).
249. На таго, у каго вялікі лоб.
250. Гл. 39.
251. Мализынка — чалавек, пераборлівы ў ядзе.
252. Пра бесталковага чалавека.
253. Мамай — дужы, але някемлівы і няўмелы чалавек.
254. Манцапэла — жанчына, якая нагаворвае, дарэмна абвінавачвае людзей, «цень наводзіць» на іх.

255—257. Манцель, мань, манькут — гл. 61. «Вот дзе манцель, маніць і не чырванее» (Шатэрнік, 154).

258. Мармыля — нелюдзім і той, хто невыразна гаворыць (параўн. *мармытаць, мармытун*).

259. Гл. 61, таксама 196.

260. Матлахон — нясталы, няўстойлівы чалавек.

261. Рохля — марудлівы чалавек (рус. *рохля*). На Мсціслаўшчыне: неахайная, нязграбная і дзікаватая жанчына (З нар. сл., 127).

262. Падтыка — падбухторшчык.

263. Перарэза — непаседа.

264. Махалея — гл. 61.

265. Машнарэз — відаць, злодзей, той, хто выразае кішэню, машну; магчыма, і той, хто займаецца кастрыраваннем свойскай жывёлы.

266. Морма, мырма — маўклівы чалавек («Ад такой мырмы слова ніколі не выцягнеш». Жыв. сл., 172).

267. Мума — маўклівы, сарамлівы чалавек; таксама — уяўная злая істота, якою пужалі дзяцей: Не плач, а то мума возьме! (Раст., 162).

268. Так кажуць на неахайнага чалавека.

269. Мышапор — пранырлівы чалавек.

270. Мякека — гл. 70.

271. Набіванка — жанчына, якая пайшла замуж без сватання або супраць волі бацькоў мужа.

272. Нагула — упарты чалавек.

273. Накаснік, накась — гл. 14.

274. Налпа — малпа.

275. Халдэй — гл. 23, таксама 188.

276. Насяканік — чалавек, які заўсёды выскаквае ўперад, каб звярнуць на сябе ўвагу.

277. Насяканка — тут: настырная, з вострым языком дзяўчына.

278. Начвач — гл. 228 («За сваім трыбухом зямлі не бачыць». Жыв. сл., 146).

279. На недарэчнага, сварлівага чалавека.

280. Пра хваравітага чалавека.

281. Прайдзісвет. «Нідавярак гэты гэтулькі натварыў, што страх падумаць» (Нар. сл., 38).

282. Нехлямажны — гл. 221.

283. Нечупазы — гл. 23.

284. Слімаза — тое ж, што румза. Гл. 88.

285. Ніхлюй, ніхлюіна, няхлюйка — гл. 23 і 75.

286. Няўвега — невук.

287, 288. Падганяючы каня.

289. Нохаль — чалавек з вялікім носам.

290. Гаўка — тут: дакучлівае дзіця.

291. Апушчонік — неахайны, нядбалы, апушчаны чалавек.

292. Высмал — настырлівы, гарэзлівы хлапчук.

293. Додаль — гл. 17, «заняўся б чым-небудзь».

294. Убоіна — неслухмяны, упарты чалавек.

295, 296. Какора, лагіза, лакіза — гл. 17.

297. Няўлюддзе — нікчэмны чалавек.

298. Болмат — гл. 39.

299. Шалата — балбатлівы чалавек і пляткар.

300. Вантух — гл. 17.

301. Ж л о б — тут: скупы; вядома яшчэ ў сэнсе высокі, дужы і няскладны чалавек.
302. М а з д а н — дурная галава.
303. Б у й л а — дужа высокі і няскладны чалавек.
304. Ч а р ц і х а — тут: чараўніца.
305. Ш а л е п а ў к а — гл. 75.
306. Ш э п ш а л ь — крываногі чалавек, яшчэ — стары чалавек (Кап.).
307. Г р ы б а т ы — таўстагубы. Гл. 129.
308. Л а л а — весялуха; збалаваная дзяўчына.
309. П а б я г у х а — жанчына, якая больш бегае па хатах, чым бывае дома.
310. П а в а л а — гл. 17.
311. С у з д а л ь — худы, танклявы чалавек.
312. Апошняе і таму часта збалаванае дзіця ў бацькоў.
313. На падхаліма.
314. П а к р а к а — гл. 23.
315. П а м а к, п о м а к — тут: тоўсты, бязвольны чалавек; гультай («Вот памак, ляжыць і не павярнецца». Бярэз.).
316. П а м а ў з а — тут: няспрытны, непаваротлівы чалавек. Таксама — пра скаціну, што лезе ў шкоду (параўн. Сцяшк., 345: «Такі ж кот памаўзлівы, ці ў саган залезе, ці ў даёнку». Кар.).
317. На чалавека бязвольнага, бяздзейнага.
318. На грубага, недалікатнага хлапчука (тлум. Нос.).
319. П а с а к — жулік.
320, 321. П а с я л е н ь, п а с я л ь н і ц а — жанчына, якая не сядзіць дома, а ўсё ходзіць па сялу, па суседзях і нічога не робіць.
322. П а ў г л о в а к — дурнаваты.
323. П а х а т у х а, п а х а т н і ц а, х а т н і ц а — гл. 320, 321.
324. П а ц ё м н і к — чмут.
325. П і н ц ю х, п і н ц ю х а й л а — п'яніца, але, магчыма, і дурань, (ад *пень, пяньцюх* пры дысімілятыўным яканні).
326. П л е й т у х — гл. 23.
327. П л ё х а — несумленная, бессаромная жанчына.
328. П л ю н д р а, ш л ю н д р а, х л ю н д р а, ф л ю н д р а — гл. 23.
329. На зарослага хлопца. У в. Жыровічы Слонімскага р-на некалі існаваў уніяцкі манастыр, а пазней была духоўная семінарыя.
330. Гл. 280.
331. На вірлавокую жанчыну. П р а с к у т а — нар. форма асабовага імя Праскоўя; параўн. таксама Параска. Відаць, выслоўе мясцовага паходжання і звязана з канкрэтнай асобай.
332. П р а я в а — прайдзісвет.
333. П р ы т ы р а к — дурань.
334. П с я ю х а — злосны, а таксама ганарысты чалавек. У простым сэнсе— сабачая кроў.
335, 336. П у з д р а, п у з д ы р — гл. 228.
337. П у н т о в і к — дурнаваты чалавек.
338. П у с ц е л ь г а, п у с ц і л ь г а, п у с т а л ь г а, п у с ц е ч а — пусты, несур'ёзны чалавек.
339. П у х а м е л я — слабасільны чалавек.
340. П ы п л а, п ы п н а — няўмелы, непаваротлівы чалавек.
341. П э т л а х — аброслы хлопец, з доўгімі валасамі.
342. П я ч у р н і к — гл. 17. «Ён у нас пячурнік: як находзе зіма, дык стараецца скарэй заняць печ».

343. Б а ў т р у к — здаровы, але лянівы чалавек.
344. Гл. 320, 321.
345, 346. Р а з г і р э н я, р а з г р ы б а — гл. 75, а таксама 129.
347. Р а з ё п а — гл. 75.
348. Р а з і в о н, р а з я в о н — гл. 75.
349. Р а з ы д а — няўмелы, бесталковы чалавек.
350. Р а к л о — заняпалы чалавек.
351. Р а п у х а — непрыемны чалавек, даслоўна — жаба. «Іш, рапуха — усё квокчыць» (Добр., Слов., 770).
352. Р а п э х а — гл. 23.
353. Р а с к а п е й д а, р а с к а п е н д р а — нязграбная, неахайная жанчына.
354. Р а с к е п а — гл. 7 (параўн. польск. kiep — дурань).
355. Р а с к о л — нахабнік; непаслухмяны («Раскол гэны, што хоча, тое і робіць». Нар. сл., 43).
356. Р а с х л ё б а — гл. 75.
357. Р а с ц я г а — той, хто расцягвае дабро з дому.
358. Р а с ц я л ё п а, ц е л я п е н ь — гл. 221.
359, 360. Гл. 75.
361. С а л о х а — гл. 23.
362. Непаваротлівы, цяжкі на пад'ём чалавек (бо мех з соллю вельмі многа важыць).
363. С а м а с у й — тое ж, што насяканік. Гл. 276.
364. Г. зн. вар'яты.
365. С а п ё л к а — крыўдлівая асоба. Н а с у н у ц ц а — тут: насупіцца.
366. С а р а м ы г а — п'яніца, бессаромны чалавек.
367. С а т о н а — тут: злы, люты чалавек (ідаць, ад сатана).
368. С а ў г а й л а — непаседа («Месца табе ніколі не знойдзецца пасядзець»).
369. С к а р ы д а — гл. 95.
370. С к і д ы ш — неданосак. Так гавораць на дурнаватага чалавека.
371. С к н а р ы н а, с к н а р ы ц а, с к н э р а — гл. 95.
372. На таго, хто ходзіць старэчай хадой і пяткамі па зямлі шморгае, «скробаецць».
373. С к у п я н д з я, с к у п я н д р а, с к у п я р д з я й, с к у п я р д з я к а, с к а п і р д а́ — гл. 95.
374. С л і н к а ч — тут: слюнцяй.
375. С л я п у н д р а, с л я п я н д а, с л е п я н д з я, с л е п я н д ж а — так кажуць на падслепаватага чалавека.
376. С п е ў к а — занадта цікаўная жанчына, якая ва ўсё тыча свой нос.
377. К а п у л — гл. 17 і 70.
378. С т р ы ж а к — дагала астрыжаны чалавек.
379. С у г н е й — негаваркі чалавек, нелюдзень.
380. С у п у р а т — упарты чалавек, які ўсё робіць насуперак.
381. Так кажуць на худую, танклявую жанчыну.
382. К а н а з о б к а — дзіця, якое прытворна плача. Параўн. *каназа* — дзіця, якое крыўляецца (Янк., Дыял., I, 88).
383. Ж м ы н д а л а — гл. 39.
384. С э н д а — чалавек, які заўсёды расказвае небыліцы.
385. С ы з м а — гл. 95.
386. Так кажуць на тоўстага, непаваротлівага чалавека.
387. З а ч у х а — гл. 23.
388. К а р п у х а — марудлівая жанчына, тая, што корпаецца.

389. Няздара — няўмелая, няздатная ні на што жанчына.
390. Жупель — тоўсты чалавек невялікага росту.
391. Базыга — гл. 17.
392. Знайда — тут: прайдзісвет. У прамым сэнсе — знайдыш.
393. Піцюль — гл. 95.
394. Расколіна — нахабнік, хуліган.
395. Слявяда — гл. 14.
396. Байдала — гл. 39.
397. Талалуй — дурнаваты, таксама балбатлівы чалавек.
398—401. Тарабайка, тарабалка, тарадэйка, таратаўня — гл. 39.
402. Таўлуй — няўмелы чалавек (у Сержп. у рубрыцы «Знявага»).
403. Тахтавоха — бесталковая, няскладная жанчына.
404. Качамяла — гл. 221.
405. Тоўла — няўмелы, непаваротлівы чалавек. «Тая тоўла пакуль павернецца, дак каровы будуць у бульбі» (Нар. сл., 173).
406. Трамбоўка — тоўстая, няўклюдная жанчына.
407. Трублаты — гл. 228.
408. Трылуза — гл. 39.
409. Г. зн. дурань, тупая галава. Тэмпа — тупая (польск. tępa).
410. Лянгус — гл. 17.
411. Авадні к — прайдзісвет. Той, хто «пабываў у пеклі» (Добр., Слов.).
412. Недалугі, недалэнга — гл. 221.
413. Упір — гл. 142.
414. Халавей — легкадумны, нясталы чалавек.
415. Халайдра, халудра — дурнаватая і неахайная жанчына.
416. Водгук сапраўднай падзеі — эпідэміі халеры ў Беларусі ў 1830 г.
417. Халіба — нягодны чалавек.
418. Хамут, хаміла — грубы, нахабны і нявыхаваны чалавек.
419. Хацькаль — пэцкаль.
420, 421. Хвалістун, хвасцель — хвалько.
422. Хрыда — неахайны, расхлістаны чалавек (Даль, Слов.. IV, 565; Раст., 279).
423. Г. зн. глухаваты чалавек.
424. Жаўна — тут: абжорлівы чалавек.
425. Цыцаха — відаць, грудастая жанчына (Параўн. у Бяльк., 484, Мсцісл.: *цыцоха*).
426. Цюхцей, цюхцяй — гл. 70.
427. Так здзекліва гаварылі на дужа далікатнага (Fed.).
428. Цямцюр — ёлуп, дурань, а таксама непаваротлівы, марудлівы чалавек.
429. Цянцюх — гл. 386.
430. Гл. 423.
431. Вірлун — вірлавокі чалавек.
432. Напушчонік — чалавек, які наляцеў з лаянкай.
433. Перапячайка — пляткарка.
434. Чаропка — гл. 23.
435. Чмур — пахмурны, маўклівы чалавек. У Міёр. р-не — падманшчык (З нар. сл., 291).
436. Вірлаты — гл. 431.
437. Кіжлаты — гл. 70, а таксама 207.

438. На лахматага, зараслага валасамі чалавека. Патлы — пасмы неахайныя.
439. Чушка — гл. 23.
440. Чэнда — гл. 95.
441. Шабэтнік — відаць, курэц заядлы. Шабэта — шабета, невялікая кайстра, торбачка з прыладамі для высякання агню і для табаку.
442. Шалыга — чалавек, які валочыцца, «шалаецца» па свеце.
443. Шапуцька — гл. 39.
444. Шарахвост — легкадумны чалавек.
445. Шатан — шайтан, сатана.
446. Шваргала — чалавек, які невыразна гаворыць.
447. Шкарэдзь, шкарадзь — нікчэмны і скупы чалавек, невыносны па характару.
448. Шлэпар — забіты, адсталы, а таксама няўдачлівы чалавек. Ідышызм (яўр. *шлэпер* — бядняк, жабрак; ад ням. schleppen — валачыцца).
449. Шмаравоз — тут: неахайны чалавек. Даслоўна: асенізатар.
450. Шпунда — нізкарослы, тоўсты чалавек.
451. Штамадзюк, стамадзюк — хмуры чалавек.
452. Маўмыра — хмуры чалавек.
453. Латруга — гл. 17.
454. Шубенік — тут: непаслухмяны чалавек. Гл. 457.
455. Шувейнік — вар'ят.
456. Шухавей — пусты, няўстойлівы чалавек.
457. Шыбельнік — шыбенік, злодзей, прайдзісвет, «па якому шыбеніца плача» (заўв. інфарманта).
458. Шыцік — слова гэта вядома ў розным значэнні: свавольнік (З нар. сл., 294, М. Крыўко, Міёр.); вузкі скураны пояс для падвязвання штаноў (Раст., 292); чарвячок, на які ловяць рыбу (Беларускія гаворкі ў Літве. Картатэка Слоўніка беларуска-польска-літоўскага пагранічча Ін-та мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР); на Пскоўшчыне — чарвячок, які водзіцца ў мокрым пяску, пад карой прутоў (Даль, Слов, IV, 635). У якім сэнсе ўжыта гэта слова ў даным выслоўі, збіральнік не адзначыў, але больш верагодна — чарвяк, нікчэмнасць.
459. Шэпшала — слабы старэча. Магчыма, ідышызм (параўн. яўр. *шэ'пшэлэ* — авечка).
460. Струбаль — непаваротлівы чалавек.
461. Балабост — гл. 39.
462. Вертахла — няпэўны, легкадумны чалавек.
463. Салапан — гл. 75.
464. Дылігойда — высокая і няўмелая жанчына.
465. Трышка — баязлівы, нясмелы чалавек.
466. Біндос — дурань.
467. Пра чалавека, заморанага нястачай.
468. Зацялепа — чалавек, які чапляецца за ўсё, няўклюдны.
469. Маслёнка — гл. 75.
470. Рагізуля — гл. 188.
471. Цяпуюх — гл. 75.
472. Мярлін — нежывы, тут: мехаваты, марудлівы чалавек.
473. Юга — Яга, Баба-Яга, тут: злосная жанчына.
474, 475. Юда — здраднік. Ганебнае слова, што паходзіць з евангельскага апавядання пра апостала Іуду, які выдаў Хрыста за 30 срэбранікаў.
476. Юрбал — высокі няўклюдны хлопец.
477. Ягіня — гл. 473.

478. Касмуля — гл. 188.
479. Замамыла — пыхлівая, ганарлівая жанчына.
480. Гл. 88.
481. Камянюга — бяздушны чалавек.
482. Вануглік — смярдзючая асоба.
483. Дубас — тупы чалавек.
484. Курмель — чалавек нізкага росту.
485. Ялдон — гл. 7.
486. Праваленны — прагны, хціўны чалавек.
487. Заглоба — зайздросны чалавек.
488. Лапеза — няскладная жанчына.
489. На злую жанчыну. Падваротніца — тут: відаць, сабака.
490. Пра вясёлую жанчыну, якая любіць паскакаць.

## Дражнілкі-кепікі

491. Гавораць таксама чалавеку, які трапіў у госці без запрашэння (тлум. Нос.).
492. Хто вінаваты, той выдае сябе за чэснага, а другі мусіць апраўдвацца.
493. Пра неахайнага чалавека.
494. Даўгавец — тое ж, што канцавы, што жыве на канцы вуліцы.
495. Магчыма, мае дачыненне да прыказкі-прыкметы з народнага календара.—«Прышлі Варвары, ноч уварвалі» (Прык., кн. 1, с. 113, № 817—819).
496. Пра балбатлівую жанчыну і пляткарку. Сцеша — адна з нар. форм асабовага імя Сцепаніда; абчэша — тут: аббегае і абгаворыць.
497. Верацённік — той, хто выточвае верацёны.
498. Г. зн. набілі.
499. Тэкла — жаночае імя Тэкля, Фёкла.
500. Гл. 495.
501. Хімя — Хіма, адна з нар. форм асабовага імя Яўхімія, Яўфімія.
502. Шымка або Шымко — асабовае імя, вядомае ў пісьмовых дакументах ужо з першай пал. XVI ст.
503. Нос. прыводзіць гэта выслоўе як «насмешку з баранашніц, якія зазывалі пакупнікоў».
504. Брыч — штаны, звужаныя знізу і шырокія вышэй кален, накшталт галіфэ.

## ПАРАЎНАННІ

1. Галуза — тут: галавешка.
2. Абірычыць — абстрыгчы нядбайна, няроўна; абубніць — астрыгчы нагала.
3. Абкешкаўся — вельмі запэцкаўся.
4, 5. Г. зн. абрабавалі. Аблупежыць — аблупіць.
6. Маслак — масляк, ядомы грыб. Інш. варыянты назвы гл. Жыв. сл., 189: Ф. Клімчук. З народных назваў грыбоў.
7. Г. зн. у абадраным адзенні. Старчоўка — жабрачка.
8. Цындаць — цікаваць, выглядаць.

9. Маладня — маланка.
10. Адбучыць — пабіць.
11. Аддрэнчыць — моцна набіць.
12. Вылупка — жанчына, якая любіць багата і вычварна апранацца.
13. Вярста — тут: верставы слуп.
14. Адкавяліць — адрэзаць вялікі кавалак хлеба, сала.
15. Саха — тут: развілісты наверсе слуп, які служыць апорай калодзежнага жураўля; таксама падтрымлівае страху ў гумне.
16. Г. зн. вельмі трапна скажа.
17. Патароча — тут: пудзіла.
18. Бонк — авадзень (польск. bąk).
19. Так пра сябе сказаў прымак, які застаўся жыць у хаце сваёй жонкі (у гатовай «шпакоўні»).
20. Г. зн. спраўная, спрытная.
21. Ліхі шэлег — сцёртая або крадзеная манета.
22. Ліхая шапка — падраная шапка.
23—27. Па даўніх народных вераваннях, чорт і ўсякая іншая «нячыстая» сіла баіцца крыжа і ўсяго таго, што мае дачыненне да бога і царквы.
28. Ліскатуха — званок.
29. Латруга — валацуга, гультай.
30. Бацца — быццам, нібы.
31. Журжа — распусніца.
32. Гайдачка — бойкая дзяўчына.
33. Добр. адзначае ліпіначку як народны паэтычны сімвал белізны.
34. Г. зн. лупцаваць неміласэрна. Га́ман — біблейскі персанаж, вельмі люты, якога веруючыя яўрэі ў дзень свята пурым у сінагозе сімвалічна «білі», уздымаючы грукатанне бразготкамі.
35. Блішчаць — тут: заглядаць у вочы з-за цікаўнасці.
36. Брыдзіцца — тут іран.: гідзіцца.
37. Пра чалавека, які многа лапоча і маніць. Цэп літоўскі — цэп, які, відаць, вызначаецца асобым спосабам прывязвання біла да цапільна (параўн. каса-літоўка).
38. Г. зн. сварыліся. Бузаваць — тут: сварыцца, біцца. Параўн. *бузуваць* — біць, лупцаваць (Бяльк., 94, Краснап.); праць.
39. Буіць — тут: дакучае.
40. Люхта — па Бяльк. нешта лёгкае, паветранае. Больш верагодна — завельмі ўпяклася, аж пацямнела. Параўн. *люхта* — дымавы ход у грубцы (Жыв. сл., 25, Нав.), *люшка* — юшка ў печы (Нар. лекс., 43, Гродз.).
41. Г. зн. кашляе моцна.
42. Пялегаваць — песціць.
43. Віхла — тут: агонь — «пра энергічнага чалавека, у якога хутка і спорна ідзе работа» (тлум. збіральн.).
44. Лапушша — месца, зарослае лопухам.
45. Дуда — даволі складаны музычны інструмент, яе нялёгка зрабіць і наладзіць. Адсюль і сэнс параўнання.
46. Старчыха — жабрачка.
47. Валюгацца, валюхацца — хадзіць ківаючыся.
48. Шаўпяк — чалавек, які аб'еўся.
49, 50. Пра непаваротлівага чалавека. Мярлюй — нежывы.
51, 52. Варыць — тут: парыць, спякотна, горача.
53. Г. зн. самотна.
54. Радаўніца — традыцыйны дзень памінання памерлых у аўторак пасля вялікоднага тыдня. У гэты дзень, згодна прыказцы, «да абеда

пашуць, па абедзе плачуць, а ўвечары скачуць» (Прык., кн. 1, с. 100, № 654).

55. Ветрыць — бегаць «да ветру»; рэзніца — бойня.

56. Чапа — прывязь.

57. Пра адзенне на схуднелым чалавеку.

58. Вісіць — тут: тырчыць пастаянна.

59. Г. зн. вельмі многа.

60. Пра жанчыну, якая вельмі многа лапоча. Сячонка — нажом пасечанае цеста (на локшыну).

61, 62. Набрацца — тут: упіцца.

63. Было сказана, калі гаспадыня паставіла на стол поўную місу бульбы.

64. Скамурдзіцца — скрывіцца, зморшчыцца.

65. Заводная (пра жывёлу) — пародзістая, пакінутая на завод.

66, 67. Кажуць пра чалавека, які дрэнна сябе адчувае.

68. Ад салдацкіх шапак з чырвонымі аколышамі.

69. Барвінчык — барвенак (Vinca), расліна з сінімі кветкамі.

70. Г. зн. вузкія вочы.

71. Так мог сказаць чалавек пасля доўгай бяссоннай ночы.

72. Петнастоўка — дзяўчынка 15 год; шаснаццатка — дзяўчына 16 год.

73. Выгладжаецца — выгладжваецца, выпрасоўваецца.

74. Г. зн. як жабрак. Параўн. *пець Лазара* — жабраваць. Гл. таксама 305.

75, 76. Выгнацца, выгоністы — тут: вялікім вырасці, выцягнуцца ўверх; высокі.

77. Аліва — тут: алей.

78. Шчур — пацук.

79. Біржа — высокая, худая дзяўчына (гл. Бяльк., 86, Краснап.).

80. Дырба — тонкі, высокі чалавек.

81. Вырачыў — вытрашчыў.

82. Высалапілася — тут: убралася і выставілася напаказ; патароча — гл. 17.

83. Аплік — гаплік.

84. Насмешка з таго, хто прыкідваецца хворым (заўв. Нос.).

85. Сугак — сугака, касцяное або драўлянае шыла для пляцення лапцей.

86. Гавораць пра чалавека, які недарэчна і не да месца ўмешваецца ў размову. Тут Піліп: заяц. Так у некаторых гаворках, асабліва ў Польшчы, завуць зайца, таксама як мядзведзя — Мішкам, ката Васькам і г. д. (Гл. А. Аксамітаў. Пра Піліпа з канапель. «Настаўніцкая газета», 1973, 12 мая; І. Цішчанка. Добрая заяўка. «Літаратура і мастацтва», 1962, 25 мая).

87. Расянка (Drosera) — насякомаядная балотная расліна, яна здольна ўсмоктваць дробныя мошкі.

88. Выстраілася — убралася (польск. strój — убранне, strojnis — франт).

89. Снітка (Aeropodium podagraria) — шматгадовая расліна, маладое лісце якой беларускія сяляне некалі спажывалі ў галодныя вёсны.

90 Г. зн. выгаладаўся.

91. Выцыгаць — падскакваць.

92. Кандыбіна — доўгая жэрдка, або высокае, здаровае дрэва. Параўн. рус. *кондовый* лес.

93. Лут — тут: маладая тонкая ліпка.

94. Вычагнуць — высахнуць.
95. Г. зн. усё з'еў.
96. Шыкаць — тут: шаптацца, шушукаць (Нар. лекс., 60, Слон.).
97. Гл. 207.
98. Высокі, худы, тонкі чалавек. Само слова матавіна не вытлумачана. Відаць, матавіла. Гл. тэкст з заўв. 481.
99. Студзень — тут: халадзец (страва).
100. Г. зн. невясёлы. Векавуха — жанчына, якая не выйшла замуж.
101. Г. зн. гаворыць добрае, прыемнае.
102. Жмында — тут: пустамеля.
103. Гайдачыць — бегаць; сцяпскей — стэпавы.
104. Чакуха — доўбня.
105. Кацяк — завіток.
106. Г. зн. голас як воўчы вой.
107. Галасаваць — тут: крычаць, громка, голасна гаварыць.
108. Галгатаць — гаварыць голасна, разам.
109. З хрысціянскіх легенд пра пекла і пакуты «на тым свеце» за грахі.
110. Г. зн. маніць.
111. Конь грабежны — конь, «забраны ў шкодзе» (тлум. Fed.).
112. Пра дзіця, якое захварэла.
113. Пра сырыя дровы. Параўноўваецца з пятніцай, відаць, таму, што гэта быў посны дзень і печ палілі не на поўную сілу.
114—116. Пра тоўстага чалавека.
117. Гламнуў — глынуў.
118, 119. Глізовы хлеб — ацесліва; обрус — тут: брусок, «што косы мянцяць».
120. Турлушка — глушэц.
121. Тарашча — чалавек з шырока раскрытымі вачамі.
122. Так кажуць на прысаромленага чалавека (Нос.).
123. Сказана пра мачыху і яе няродных дзяцей.
124. Хохлік — чорт, чарцяня (Нос., Слов., 683).
125. Цавіна, цявіна — былінка.
126. Сакол — тут, відаць, сценапрабіўная прылада ў выглядзе важкага жалезнага лома, якая ўжывалася ў старадаўнія часы пры штурме крэпасці (Даль, Слов., IV, с. 262).
127. Г. зн. добра іграе. Кралявецкі — з г. Краляўца ці Круляўца; даўнейшая славянская назва г. Кенігсберга (зараз — Калінінград).
128. Бархамотнік — абадраны, гразны, у рыззі чалавек.
129. Скалка — каменьчык, сколак крэменя для крэсіва (Сцяшк., 450, Кар., Дзятл.).
130. Гурдзелка — валляк, кадык.
131. Пра туман.
132. Г. зн. грызуцца як сабакі на бойні.
133. Пужа́льня — пугаўё (у Ваўк. яшчэ *пужа́ліна*. Сцяшк., 402).
134. Г. зн. вельмі падобны адзін да аднаго.
135. Збродная — тут: валачашчая.
136. Пра безнадзейна хворага.
137. Г. зн. моцна паб'юць.
138. Гапон — асабовае імя Агафон.
139. Сказана пасля пачутай нечаканай жудаснай весткі.
140—143. Г. зн. мала далі.
144. Лялёта — маларухавая, непрыгожая жанчына.
145. Гл. 20.

146. Г. зн. поўная. Букатка — бочачка.
147. Ячук — укормленае парася.
148. Пра поўнае важкае дзіця.
149. Дзыгаць — скакаць (Сцяшк., 144, Гродз., Маст.).
150. Мунштук — цуглі.
151. Драцца — тут: «вельмі дрэнна спяваць, непрыемным голасам» (Мяц.).
152. Пасад — тут: снапы, рассцеленыя на таку для абмалоту цэпам.
153. Чыкірда — гурт парасят.
154. Відаць, таму, што Случчына даўней лічылася адным з найбольш урадлівых раёнаў Беларусі. На заручэннях — на заручынах.
155. Г. зн. як у раю. Параўнанне яўна вынікае з даўніх хрысціянскіх перакананняў.
156. Г. зн. роўная. Ляск — тут: ляска, кіёк.
157. Луб — тут: посуд з лубу.
158. Канёўка — конаўка, кубак.
159. Трусіць — імжыць.
160. Г. зн. дом, напоўнены рознымі аздобамі.
161. Алекшыцка грэбля — дарога ў Гродзенскім п., якая ішла ад в. Алекшыцы (зараз Берастовіцкага р-на).
162. Дохлы — тут: худы, танклявы. У Барысаўскім, Карэліцкім р-нах склюд (склют) у пераносным сэнсе — вельмі худы, нязграбны чалавек (Мін.-Мал., 1970, 124, Уздз.; Мат., 158, Кар.). Склют — сякера з тонкім лязом для абчэсвання бярвенняў.
163. Ляк — халадзец (тлум. збіральн.).
164. Гл. 23—27.
165. Дудоліць — доўга, працягла піць з кружкі.
166. Дудукаць — тут: бурчаць.
167. Абізмен — бязмен.
168. Нялёгка зразумець чалавека. У сэнсе чужая душа — цёмны лес.
169. Кажуць жартам на таго, хто курыць вялікую люльку або тоўстую цыгарку (тлум. Fed.).
170. Г. зн. павольна, асцярожна (каб не пабіць гаршкі).
171. Адвярнуўшыся адзін ад аднаго.
172. Г. зн. мала ежы. Сіндзік — сініца.
173. Есць без апетыту, марудна, нібы не можа разжаваць.
174. Г. зн. без ахвоты, прымушаючы сябе.
175. Г. зн. многа есць, закідвае ў рот, як сыравіну ў гуту.
176. Нічога не значыць, зусім мізэрная колькасць.
177. Жартам пра таго, хто любіць пафіласофстваваць. Любавіцкі рабін — з б. мяст. Любавічы на Смаленшчыне.
178. Збавенне душы — з галіны хрысціянскага веравучэння: малітвай, постам, падзвіжніцтвам здабыць выратаванне сваёй душы ад вечных пакут на тым свеце.
179. Водгук на працэсы над ведзьмамі-чараўніцамі ў сярэднія вякі, калі западозраных у «вядзьмарстве» спальвалі на вогнішчах.
180. Жары — рыжы.
181. Г. зн. чакаць добрых вестак.
182. Рачанец — міласціна або пачастунак (параўн. польск. raczyć — частаваць).
183. Жлукціць — тут: піць доўга і многа.
184. Г. зн. тоўстая. Пражонка — яешня.
185. Бруштын — бурштын, янтар.

186. Л а т а ц ё — лотаць (Caltha L.).

187. Г. зн. у адзіноце. П у с т э л ь н і к — рэлігійны фанатык, што пасяліўся ў глухім месцы, адасоблена ад людзей.

188. Л я л я к (Caprimulgus) — невялікая птушка, якая сваё гняздо будуе часцей на зямлі.

189. Б э м б а л ь — нешта не ў меру нацягнутае, цвёрдае, вялікае (тлум. збіральн.). Відаць, зменене польск. bęben — барабан.

190. С а п р ы н а ў с к і я — ад назвы в. Сапрынавічы Мсціслаўскага р-на, жыхары якой даўней жылі вельмі бедна, жабравалі.

191. Пра праворнае дзіця. Ж ы г а е ц ь — тут: мітусіцца, хутка бегае (параўн. *жыг* — хуткае запальванне. Бяльк., 169, Мсцісл.).

192. Г. зн. жылі дрэнна, у беднасці.

193. Г. зн. жыць у нястачы, пастаянным страху.

194. Г. зн. добра жыў.

195. Г. зн. зусім мала, драбок, каліва.

196. Г а р э х а ў к а — птушка з сям'і варановых.

197. З а в ы е к — карак. Параўн. ст.-рус. *выя* — шыя.

198. Г р а м н і ц ы — 2 лютага па старому стылю (з нар. календара).

199. Ж ы ж к а — агонь (з дзіцячай лексікі).

200. Г і н а — магчыма, размоўная форма асабовага імя Гаіна.

201. З а к а з е р ы ц ь — закаціць вочы і глядзець здзіўлена.

202. З а к в э ц а ц ь — забрудніць (магчыма, ідышызм: яўр. *цуквэ'цн* — расціснуць, расцерці).

203. З а к г е р к а л і с я — загаварыліся, забалбаталіся.

204. Г. зн. зманіў хутка, доўга не думаючы.

205—209. Узніклі на аснове народных анекдотаў пра няўдачлівы гандаль.

207. З нар. анекдота пра купца Заблоцкага, які вёз на караблі мыла і меркаваў добра зарабіць на ім, але карабель даў цечу і ўвесь яго тавар вадой змыла.

210. Г. зн. адзінокая.

211. Пра таго, хто многа гаворыць, не зважаючы на іншых (заўв. Аним.).

212. З а т у п я н і ў с я — праявіў незвычайную ўпартасць.

213. З а ц я л е с к а ў с я — запэцкаўся; д з ё д з я — свіння (з дзіцячай лексікі).

214, 215. Раптам прыпыніцца, уперціся.

216. З б е ш т а в а ц ь — вылаяць (польск. zbesztać).

217. З б р о д а в а ц ь — лазіць усюды, шукаючы яды.

218. З б ы т к у е ц ц а — здзекуецца (параўн. польск. zbytkować).

219. З в і н у л а с я — знікла, непрыкметна ўцякла. У Fed.: памерла.

220. Сказана пра заснулае дзіця.

221. З г а р а с т а ц ь — тут: з цяжкасцю набыць.

222. З г л а д з і ў — тут: зглынуў, знішчыў.

223. В і ц і н а — прэнт.

224. К а м ё л а к — тут: моцны кавалак дрэва (параўн. *камель*).

225. К а м я р д з ё л а к — тут: здаравяк.

226. Г. зн. вельмі худы. Ш к а б а — відаць, скаба.

227. Гаворка тут, відаць, пра верхняе адзенне. Д в о р к а — дваровая служка.

228, 229. С п а с а ў к а — двухтыднёвы пост у жніўні месяцы, у канцы лета, калі з'яўляюцца асабліва «злосныя» мухі.

230. П а д а л е ц — змяя. Паланізм (padalec).

231. Г е м а н — злы дух (Раст.). Больш верагодна: Гаман (гл. 34).
232. Н а ц і н а — бацвінне, а таксама лісце морквы і іншай гародніны.
233—235. Серада і пятніца былі поснымі днямі.
236, 237. Пра чалавека, якога ведаюць «па ліхіх учынках» (Киркор), пра пустога чалавека, які «пацягаўся па беламу свету» (Шпил.). Гл. таксама тэксты з заўв. 21, 22.
238. К а н ф о р, к а м п о р а — камфара. Гаворка пра сродак народнай медыцыны, сумесь камфары і гарэлкі для націрання. А камфара, як вядома, вельмі хутка вытыхаецца.
239. Г. зн. схуднеў.
240. З я л я п у х а — зялёны, недаспелы плод садавіны.
241. Іран. пра колішні мізэрны надзел зямлі, шырыню загона ў селяніна. Д з я л к а — дзялянка.
242. Пасля дажджу.
243. Г. зн. высахла.
244. Так асцярожна.
245.. Параўн. рус. Идут как часы.
246. Н а б э д р ы к і — частка збруі: шляі, якія ідуць ад хамута па баках каня і злучаюцца папярэчнымі шляямі.
247. П р а х о д к а — прагулка.
248. Г о й д а — высокая, танклявая жанчына.
249. Кажуць так, калі каму вельмі шчасціць.
250. Г. зн. ідзе роўна, па прамой лініі. Л я ш ы ц ь — адзначаць край пасеву, градкі-ляхі.
251. Гл. 109.
252. Н я в ы в а л а к а — той, хто ўсё робіць вельмі марудна.
253. З л ы г а н ы я — запрэжаныя ў ярмо валы. Тут: у пары, разам.
254. Д з е д а в а я  в я ч э р а — абрадавая вячэра на дзяды, у дзень памінання нябожчыкаў. «Змарлыя душы», згодна з даўнімі павер'ямі, прыходзяць на гэту вячэру; для іх пакідаюць на стале ежу.
255. Водгалас прыгоннай эпохі.
256. Гл. 171.
257. Г. зн. расказвае гладка, паслядоўна.
258. Б а д а к — асот.
259. К а л я і ц ь — коліць.
260. Ц э р — тут: ніжні пласт бярозавай кары, мязга.
261. Г. зн. непасоленая страва.
262. Падсмейванне з таго, хто не разбіраецца ў колерах. К а р м а з ы н о в ы — цёмна-чырвоны колер (*кармазын* — у мінулым прывознае цёмна-чырвонае сукно для багатага адзення).
263. Г. зн. тоўстая, з вялікім брухам. Ч о п — вялікая бочка ў бровары.
264. П о р х а ў к а — шарападобны неядомы грыб, які пры высыханні рассыпаецца на пыл, «на порах».
265. Г. зн. тупая. П а д н о с а к — падэшва; п а д о с а к — жалезная палоса пад воссю ў возе.
266. М а т ы л і ч н а я авечка — авечка з захворваннем лёгкіх, якое ў народзе завецца *матыліцы*.
267. К е ш к а ц ц а — забаўляцца, а таксама — варушыцца.
268. С а х о р — вілы для гною.
269. В о м і г а — нешта вельмі салонае, атрутнае або надвычай кіслае.
270. Г. зн. вельмі кіслае. Само слова  г і р о с  збіральнік не растлумачвае. Відаць, ад літ. gira — квас.
271. К с ё н ж к а — кніжка (польск. książka).

272. Пра страшныя праклёны.
273. Г. зн. няма.
274. К о ш к а ц ц а — тут: грэбціся.
275. К р а м — купленая ў краме тканіна.
276. А р д з е л ь — ярка-чырвоная кветка.
277. Пра здаровага, румянага старога.
278. Г. зн. увесь час у рабоце.
279. Г. зн. баіцца. Па даўніх народных павер'ях, у час навальніцы Ілля (у язычніцтве — Пярун) б'е маланкай па чарцях.
280. Г. зн. у коле вадзяного млына.
281. У каня.
282. Б а з а р н і ц а — базарная гандлярка.
283. Б а р а н і ш н і ц а — гандлярка абаранкамі.
284. Я к н а г в а л т — клічучы на дапамогу (Нос., Слов., 111). Але тут, можа быць, гвалт — прыгонная павіннасць, загадванне «на гвалт», бо інакш больш правамерна было б: крычаць гвалт або гвалту.
285. Заснавана на прыкмеце.
286. К у б л і ц ц а, к у п ч ы ц ц а — уладкоўвацца.
287. Іран. пра беспарадак. А д э л ь с к — мястэчка каля Гродна (зараз вёска ў Гродзенскім р-не), якое было вядома сваім кірмашом.
288. Б а р д а д ы н — тут: адзінокі, беспрытульны чалавек. Відаць, скажонае *бернардзін* — манах каталіцкага ордэна.
289. З д о б н ы г р ы б — баравік; «яго як ломяць, дык трашчыць».
290. Л а с і ц а — ласка, звярок (Mustela nivalis).
291. Гл. 228, 229.
292. С л а т а — дрэннае надвор'е з дажджом, снегам. У пераносным сэнсе — назойлівы, дакучлівы чалавек.
293. С л я п е ц — сляпень.
294. Г. зн. вельмі хутка, не паспеўшы агледзецца.
295. П л е в у ц і н к а — плеўка.
296. Г. зн. высокі лоб.
297. Л у з к а н — гл. 114—116 .
298. Л ы б і ц ц а — усміхацца (рус. — улыбается).
299. Л ы г а ц ь — хутка, спяшаючыся, есці.
300. Параўнанне з барсуком, відаць, таму, што ў яго морда белая. Але, магчыма, тут іронія: у барсука (Meles meles) поўсць грубая і даўгаватая.
301. Г. зн. многа п'е. Ф а р ы н а — бочка.
302. Л э п а ц ь — абмацваць рукамі.
303. З успамінаў пра цяжкае мінулае.
304. В о р а п е н ь — гультай.
305. Л а з а р — персанаж духоўнага верша, песні рэлігійна-хрысціянскага зместу. У яго аснове — евангельская прытча пра багацея і жабрака Лазара; пакрыты гнойнымі язвамі, ён паміраў, лежачы на сметніку супроць дома багацея.
306. Гл. 304. П а в а л а — дрэва, паваленае бурай.
307. Ляжаць нерухома, выцягнуўшыся. П л а с т о к, п л а с т, п л а с ц і к — тут: нешта спрасаванае, зляжалае, важкае.
308. П р а с л а — тут: паваленая агарожа.
309. Гл. 304. А п о к а — тоўстае бервяно.
310. Тут і ў наступных 5 выслоўях: сказаць што-небудзь нечакана, недарэчна і груба.
311. С к а ж э н н ы — вар'ят, адурнелы.

312. Так сказаў стары чалавек. Сыплюцца як прусакі — тут: паміраюць у мностве.
313. Нястанны — нязграбны, «як удоўж, так і ўперак».
314. Поўпрыца — металічная планачка пад верхнім каменем у жорнах.
315. Было дададзена: «Усё разумее, а маўчыць».
316. Сым — тут: сом.
317. Галайка — балбатлівая жанчына.
318. Гл. 23—27.
319. Юхціна — скура ў час выраблення.
320. Г. зн. нячысты твар, у рабацінні або прышчах.
321. Г. зн. тоўсты, круглы твар.
322. Гаворка ішла пра гарэлку.
323. Маскаль — царскі салдат.
324. Г. зн. не зусім родныя. Звадныя — не адзінакроўныя, але «зведзеныя» ў адну сям'ю, дзеці не аднаго бацькі, але адной маткі, ці наадварот.
325. Г зн. жывем у згодзе.
326. Пярына — рэч недасягальная ў старым сялянскім быце.
327. Пурхаўка — порхаўка. Гл. 264.
328. Аналагічна 326.
329. Г. зн. багаты стол, застаўлены стравамі.
330. Мул — рачны, азёрны глей.
331. Сінюга — кіндзюк, страўнік, рубец у жывёлы.
332. Г. зн. моцна ўпіўся. Бэля, бэйля — бэлька, бервяно. Магчыма, *Бэйля* — яўр. асабовае імя; тады выслоўе мае мясцовае значэнне.
333. Тут, відаць, пра п'яніцу. Мул — гл. 330.
334. Г. зн. вельмі ўпіўся.
335. Чоп. Сэнс слова на месцы запісу забыты: «А што такое чоп, не знаю. Гэта, можа, у смалярні чоп, бочка такая». (Мяц., 150). Гл. 263.
336. Навяліўся — прыліп, прычапіўся.
337. Трапіў у бяду. Гл. таксама 236, 237.
338. Г. зн. скурчаная.
339. Сказана пра свіней.
340. На дзяды на стол ставілі многа страў. Гл. таксама 254.
341. Памак — намоклае бервяно, палена.
342. Гл. 292.
343. Гл. 34.
344. Г. зн. упіўся (тлум. Fed.).
345. Батлей — тут: батлейшчык.
346. Як не покніць — як не лопне.
347, 348. Г. зн. залішне наелася.
349. Відаць, звязана з нейкай мясцовай падзеяй. Маркуны — вёска ў Астравецкім р-не.
350. Ніцая скулка — глыбокі нарыў, што цяжка прарывае. Гл. таксама «Гадзі як ліхой скуле».
351. Насадзіліся — тут: залішне наеліся.
352, 353. Г. зн. выхваляліся.
354. Настыран — настырны, упарты.
355, 356. Гл. 334. Вапры — вепрукі.
357. Нацюкаваць — тут: напакаваць (параўн. *цюк*).
358. Г. зн. не ўдасца зрабіць (учшыкнуць).
359. Гл. 21.

360. Тарадэйка — тут: вазок, драбінкі.
361. Узор выслоўя, якое ўзнікла ў пасляваенныя гады.
362. Гл. 134.
363. Саракоўка — дзве грыўні, дваццаць капеек; таксама — даўняя мерка гарэлкі: адна саракавая частка вядра.
364. Кумільгам — стрымгалоў, імгненна.
365. Тоўсты, непаваротлівы, маўклівы чалавек. Мень — мянтуз (Lota lota), які летам маларухома жыве пад каменем, карчагамі.
366. Стаўбень — тут: дурань.
367. Мамыра — надзьмутая, замкнутая, капрызная асоба. (Юрч., 1977, 260).
368. Пітушачка — маленькі (на 1,0—0,5 л) гаршчочак, у якім звычайна кіпяцяць малако (тлум. збіральн.).
369. Ванцыпар — Люцыпар, у хрысціянскай міфалогіі — Сатана, уладар пекла.
370. Мяла — таўкач.
371. Пастаянна вазіцца, займацца чым-небудзь нязначным, малакарысным.
372. Помаз — помазка для змазвання патэльні тлушчам.
373. Гл. 371.
374. Г. зн. кароткая ноч.
375. Сусла — тут: нязграбная жанчына.
376. Нача — як, нібы, нібыта.
377. Насмешка з таго, хто занадта сам сябе хваліць.
378. Галгал — бруднаяануча.
379. Гаварыць з непамяркоўным чалавекам (тлум. збіральн.).
380. Флюндра — неахайная жанчына. Падбрындацца — запэцкацца.
381. Пазбыткаваць — падсмяяцца. Параўн. Прык., кн. 2, с. 399, № 2471.
382. Г. зн. пайшоў за чымсьці і доўга не вяртаецца (Параўн. Прык., кн. 2, с. 308, № 1330).
383. Ад стомленасці.
384. Боль у грудзях.
385. Палянтаваць — гарлапаніць і моцна лаяцца.
386. Колька — моцны калючы боль (параўн. польск. kolka, рус. колики).
387. Гл. 170.
388. Г. зн. трапіў якраз.
389. Г. зн. тлусты, тоўсты. Талан у Карэліцкім р-не — участак зямлі (З нар. сл., 94).
390. Г. зн. гладкія, тоўстыя. Пачынак — вялікае верацяно, на якое навіваюць пражу з некалькіх верацён.
391. Храпка — ножка, цвёрды стрыжань у качане капусты.
392. Лонскі — леташні (польск. łoński).
393. Г. зн. добра, з ахвотай паелі.
394. Г. зн. прапаў. У Fed.: «Хутка, як на быстрыні».
395. Весліца — лесвіца.
396. З даўніх павер'яў пра пярэваратняў.
397. Шыхля — ліхаманка.
398, 399. Перапасці — тут: схуднець.
400. Г. зн. печ моцна напалена.

401. Г. зн. кіслае, горкае. Пазылка — шчолак (Бяльк., 309, Касц., Краснап.).
402. Відук, самасейка — мак-самасейка.
403. Пляхацца — плюхацца.
404. Г. зн. бярэцца за непасільную работу.
405. Казальніца — балкончык у касцеле, дзе ксёндз выступае са сваімі казанямі.
406. Гэта выслоўе можна разумець па-рознаму: і сцвярджальна, і адмоўна.
407. Пякельнік — мучанік, пакутнік.
408. Кот памыйны — валачашчы, бяздомны.
409. На тройцу (сёмуху) па даўняму звычаю хаты прыбіраліся зелянінай.
410. З даўніх народных павер'яў.
411. Г. зн. зусім мала.
412. У Чанстахове (Польшча) з даўніх часоў захоўваецца святыня католікаў — «цудадзейны» абраз божай маці (matka boska Częstochowska). Адсюль зразумела, што іменна тут, згодна перакананняў веруючых, трэба было чакаць розныя каварныя дзеянні нячысцікаў.
413. Г. зн. з ахвотаю, прагна есці.
414. На духу — тут: на споведзі.
415. Ваўчкі — калючыя кветкі дзядоўніка; рапей — дзядоўнік.
416. Слявяда — дакучлівы чалавек.
417. Г. зн. зайшоў на хвіліну.
418. Лёсь — лясь, лясnуць.
419. Прычасце — адзін з абрадаў-таінстваў хрысціянскай царквы.
420. Пыпці — вялікія ногці, кіпцюры.
421. Пра вельмі балбатлівага чалавека.
422. Г. зн. добра рабіў.
423. Тагрочны — сёлетні (польск. tegoroczny).
424. Разбухаўся — растаўсцеў.
425. Г. зн. стаў тоўсты, сыты. Слімень — слімак.
426. Куркуль (укр.) — кулак.
427. Лант — гл. 304. Параўн. лантух (З нар. сл., 59, Нав.: Гэты лантух цэлы дзень на печы пралежыць).
428. Шпэктар (спектар) — гандляр-пасрэднік.
429. Г. зн. раззлаваўся, раз'юшыўся.
430. Захавалася як успамін пра брацтвы, рэлігійна-нацыянальныя арганізацыі праваслаўнага гарадскога насельніцтва, якія існавалі ў Беларусі і на Украіне ў XVI—XVIII стст. пры цэрквах.
431. На таго, хто сядзіць раскінуўшыся (Нос.).
432. Гл. 276.
433. Лоўма — лойма, вобраз злой звышпрыроднай істоты — чарціхі. Параўн. літ. laumė — ведзьма.
434. Расамаха, звер з грубай і доўгай поўсцю; у пераносным сэнсе — неахайная жанчына.
435. Выслоўе пашырана і сцвярджальна, без часцінкі параўнання *як*. (Гл. Прык.. кн. 2, с. 129, № 1421.)
436. Ягіня — злосная жанчына, баба-яга.
437. Жартам, вялікі рот (як вароты), многа есць.
438. Мелін — млён, палка-дзяржанне, якой круцяць жорны.
439. Г. зн. тонкая рука. Швораб — верабей.
440. Слова — тут: як, нібы (рус. *словно*).

441. Рыхтык — тут: якраз, нібы (ад ням. richtig — правільны, сапраўдны).
442. Пра тканіну.
443. Г. зн. марудна збіраецца.
444. Г. зн. спакойнае. Саша — шаша.
445. Ятроўкі — жонкі родных братоў. У дарэвалюцыйнай вёсцы некалькі жанатых сыноў часта жылі ў адной хаце са сваімі бацькамі, таму сваркі між ятроўкамі былі звычайнай з'явай.
446. Гл. 440.
447. Г. зн. мала сена. На куццю, абрадавую вячэру на каляды, на стол насцілалі сена, якое назаўтра аддавалі жывёле.
448. Скарада — лясная трава панікніца (Geum L.).
449. Г. зн. зводдаль (ад міскі за сталом, ад чалавека і г. д. ).
450. Нібы яго не датычыць, нібы ён не вінаваты.
451. Сіндзік — гл. 172.
452. Пра чалавека, які ссінеў ад холаду.
453. Аспідка — злосная жанчына (параўн. *аспід* — змяя).
454. Давёў да крайняга раздражнення словам.
455. Скасазурыўся — скасіўся. Гл. таксама 23—27.
456. Валожынскі, магчыма, таму, што ў Валожыне спыняліся гурты жывёлы, якія пераганялі з Вільні ў Мінск. Адсюль і народная этымалогія самой назвы мястэчка: «З Вільні гналі ў Мінск валоў прадаваць, і тут рабілі папаску, вялікі лес быў, тры карчмы. Таму назвалі Валожына або Валы'жань: Валы жэнь! — гані». (Зап. М. Грынблат у 1974 г. у г. п. Валожын ад Фёдара Мікалаевіча Гарбачэўскага, 70 г. 8.74.82).
457. Гл. 124.
458. Скапеў — растаў.
459. Скроміўся — сцішыўся.
460. Скрэндае — тут: скрыпіць.
461. Гл. 440.
462. Саўмэла — чалавек, які ходзіць туды-сюды без справы.
463. «Каб... зверху была вузкая, а знізу была прышыта аборка» (Бяльк., 30).
464. Кепка — дурніца (гл. Нос., Слов., 233; *кепік* — дурненькі).
465. Г. зн. не спалі. На Купалле моладзь усю ноч забаўлялася.
466. Спамогся — тут: прагна накінуўся.
467. Шырокая спіна (у бугая).
468. Пра чалавека дужага і нятоўстага.
469. Жартам пра нейкага мясцовага няўклюду.
470. Яльчык — ялец, рыба з сям. карпавых (Leuciscus leuciscus).
471. Гл. 452.
472. Шурпы — падпоркі, слупы-сохі ў гумне.
473. Стоць — старчма.
474. Заткала — затычка. У пераносным сэнсе — чалавек «неруxавы, які замінае» (Янк., 545).
475. Натарчань — патарчака, тычка.
476. Стаўбун — тут: стаяк, а таксама кветканоснае сцябло цыбулі, часнака; вядома яшчэ печ-стаяк пад такой назвай (Сцяшк., 472, Воран.).
477. Гл. 440.
478. Савяк — падбярозавік, абабак.
479. Луняваты — слабы, прыбіты чалавек.
480. Скабардзіна — кашчэй, схуднелы стары.
481. Г. зн. схуднеў.

482. Стаўбень — тут: стоўб, слуп.
483. Стропаны — спутаны, звязаны.
484. Г. зн. высах, схуднеў. Сцень — цень.
485. Драмакі— тут: нязжатыя каласы.
486. Г. зн. многа страў. Гл. 254, 329.
487. Пра худую, танклявую жанчыну.
488. Пра худую жанчыну. Харангеўка — царкоўная ці касцельная пратэса, харугва, палотнішча-абраз на дрэўку, якое насілі на працэсіях, пахаванні і г. д. (Параўн. польск. chorągiewka — сцяжок.)
489. Г. зн. белыя, чыстыя сцены.
490. Г. зн. тоўсты, тлусты.
491. Паршук — парсюк.
492. Пра ліхога чалавека.
493. Г. зн. спакойна, пакорліва. Спас — тут: абраз спаса, збавіцеля. Тлум. Fed.: Нічога яму не бракавала, жыў у поўным дастатку.
494. Рапяхі — відаць, рапей, шышкі дзядоўніка.
495. Дзязюлены — паўсонны, нібы п'яны.
496. Блашчыца — клоп.
497. Так кажуць на лянівую жанчыну. Копша вядома як вобраз нар. дэманалогіі, як злы дух (Шпил., 181).
498. Пэрс. Значэнне слова інфармант не ведала. У канстэксце: «Усе дзеці ўжо палеглі спаць, а гэты сядзіць, як пэрс». Магчыма, скажонае рус. один, как *перст*.
499. Салоха — гл. 380.
500. Сугней — суровы, неразгаворлівы чалавек.
501. Пра чалавека, які апынуўся ў цяжкім становішчы.
502. Было сказана пра тое, як сядзіць касцюм на чалавеку.
503. Пра заспакоенага чалавека.
504. Выскідзь — вываратэнь.
505. Шчамель — шмель; каманіца — травяністая расліна з блакітнымі кветкамі.
506. Нарытнікі — частка збруі. Гл. таксама 246.
507. Веле — многа (польск. wiele).
508. Абходзіць — цікавіць, непакоіць.
509. Параўн. Прык., кн. 1, с. 416, № 1642.
510. Гл. 361.
511. Гэта выслоўе Fed. тлумачыць іншым выслоўем: Так, як ад каваля вугаль купляць, г. зн. ён самому патрэбны.
512. Г. зн. пэўна, безумоўна.
513. Вайцех адзначаецца каталіцкім календаром 23 красавіка па новаму стылю. Раней супадала з Юр'ем (23 красавіка па старому стылю), калі пастухі спраўлялі сваё свята.
514. Сляпы іскаўся — тут: сляпы шукаў.
515. Пра коціка.
516. Гусяня пятровае — позна выседжанае (Пятро — 29 чэрвеня па старому стылю), а таму кволае, малое.
517. Талака — тут: таўкатня.
518. Сітка, сітаўка — пліска (Motacilla; Янк., 545). Але, магчыма, тут параўнанне з ножкай грыба-махавіка (параўн. *сітнік і сітавік* на Пскоўшчыне — грыб махавік. Даль, Слов., IV, 189).
519. Гл. 34.
520. Гл. 109.
521, 522. Тахтоль, тахці — відаць, словы гукапераймальныя, ад

*тахаць* — ляскаць, стукаць (Бяльк., 441, Краснап.), тут: гучна запіхваць.
523. Г. зн. у аднолькавым стане.
524. Т л е е — тут: ледзь трывае, высыхае; с т а ў — сажалка.
525. Гл. 287.
526. П р а ў з а к — тонкі раменьчык.
527. Пра грубую тканіну. П а д р у б а — тут: абшыты падол спадніцы.
528. З а б о й н я — вялікая бочка для захавання жыта.
529. С а б а ч а я г а н д л я — сабачае зборышча, гайня.
530. Маюцца на ўвазе землетрасенні, якія там адбываліся.
531. С я л ь н і к — сяннік.
532. Г. зн. многа есць (жарт.).
533. Г. зн. зусім. не трэба.
534. Г. зн. абгаворваюць чалавека.
535. Т у р л ю д з і ц ь — надакучліва лапатаць.
536. Пра з'яўленне каго-небудзь у патрэбны момант.
537. Т э н с к н а с ц ь — туга, сум (польск. tęsknota).
538. П о л ы н ь — тут: полымя, агонь.
539. У з н а ц і — тут: у знаёмых людзей.
540. Г. зн. зацішна.
541. Гл. 20.
542. Г а п к а — рыбацкі човен.
543. Г. зн. шумна. Г а м э р н я — шумнае зборышча людзей. Відаць, ад *гамарня* — кузня медніка, у якой заўсёды раздаваўся стук.
544. Г. зн. цёпла. З а г а т а — ацяпленне хаты на зіму. «З лесу моху навязем і закладзем каля хаты» (Сцяшк., 171, Слон.).
545. Непарадак у хаце.
546. Л а м ы — кучы галля ў лесе.
547. Гл. 417.
548, 549. Па сэнсу аналагічныя выслоўю «Выскачыў як Піліп з канапель». Гл. 86.
550. У в а ж а л і с я — вымаклі і забрудзіліся.
551. У в а л і ц ь — тут: пабіць.
552. Тлум. інфарманта: «Зімой у лапцях хадзіла, а на весну валенкі купіў».
553. Насмешка з няўдала зробленай справы. С а л о х а, ш а л о х а — тут: дурнаватая жанчына (Нос.).
554. П а в о й — павойная расліна (Calysteria), вядомая яшчэ пад назвамі павітуха, уюнок.
555. Пра раззлаванага чалавека.
556. Г. зн. густая.
557. Гл. 402.
558. Пра неахайнага чалавека. Аб паходжанні гэтага параўнання: «Адна дружка з вёскі Ахонавічы калісьці вельмі закапала ўсю сукню тлусцям і воткай; цяпер на дзяцей ці дарослых, якія брудна ходзяць, гавораць: укапалася, як ахонаўская дружка» (Сцяшк., 38).
559. У н у р ы ц ц а — тут: заўзята ўзяцца за справу.
560. У п і р л і ў — упарты.
561. У іншай будове вядома як прыказка (Прык., кн. 2, с. 415—416, № 138, 140).
562. Т а п і л а — багна.
563. У т л ы — слабы.
564. У т р а в э ў с я — унадзіўся рабіць шкоду.
565. Гл. 23—27.

566. Скочкі — блохі.
567. Гл. 402.
568. Гл. 109.
569. Верхаводка — тут: верхні слой вады ў калодзежы.
570. Наліток — сакавітая, спелая садавіна.
571. Тут іран. Драпянка — матузок, вяровачка.
572. Вялікая і пуставатая хата.
573. Г. зн. зграбная, чыстая.
574. Гл. 572.
575, 576. Хаўкаць — хапаць паветра ротам.
577. Раўгеня — рэдкая страва з запаранай і заквашанай жытняй мукі, кулага.
578. Цібах — кветканоснае сцябло цыбулі.
579. Г. зн. худы, згорблены. Гл. 93.
580. Падзіманы — тоўсты, сыты.
581. Пра высокага і дужага чалавека. Рыдван — вялікі даўні экіпаж.
582. Павесмянё — невялікі скрутак ачэсанага льну.
583. Гл. 390.
584. Хлынкаць — блукаць (Юрч., 1966, 213).
585. Апудала — неахайны чалавек, даслоўна: пудзіла.
586. Абквэцаны — брудны, замазаны. Гл. 202.
587. Атлумлены — тут: аглушаны, хмурны.
588. Ханянём — ганарліва, напышліва.
589. Гл. 587.
590. Атнімач — неахайны, брудны чалавек.
591. Бэйбас — гл. 304.
592. Дзыба, дзыбала — той, хто вельмі павольна ходзіць; высокі, нязграбны чалавек.
593. Жаўмер — вялы, нерашучы чалавек.
594. Змыдзганы — прысаромлены чалавек.
595. Зундаль — высокі лянівы чалавек.
596. Кокавінь — певень.
597. Пра таго, хто апрануў на сябе адно на адно розную адзежу; «Прэць адно на 'дно, ходзіць тады, як куль» (З нар. сл., 240).
598. Мара — у розным значэнні: здань, злы дух; таксама гл. 380. («Людзей лякаеш, ідзі прычашыся.»)
599. Рассоха — дрэва, жардзіна з развілістым канцом.
600. Няпраны — нямыты, брудны.
601. Падэрва — худая, з надарваным здароўем жанчына.
602, 603. Расамаха, рэўза — гл. 380.
604. Віж — чалавек завельмі цікаўны, які ўсё выглядае і выведвае.
605. Утраплёны — звар'яцелы.
606. Лунь — тут: лунацік.
607. Г. зн. неахайна ходзіць. У Бяльк., 62: *асмётка* — атопак.
608. Г. зн. асцярожна.
609, 610. Салоха, дзюндзіха — неахайная асоба. Гл. 380.
611. Чупіла — непаваротлівы чалавек.
612. Пра карову.
613. Скаут — значэнне слова інфармант не ведаў. Магчыма, склют. (Гл. тэкст і заўв. 162.).
614. Хрусцель — птушка драч, дзяркач (Crex crex; рус. коростель).
615. Цмык — смык скрыпічны.
616. Хырацъ — кашляць.

617. Дзяцеліна — канюшына.
618. Цубкі — цвёрды, зацвярдзелы (параўн. *цубчэць* — станавіцца неэластычным, цвёрдым, цубкім. Янк., Дыял., III, 143, Глуск.).
619. Г. зн. цыбуля з высока парослым пер'ем.
620. Гл. 8.
621. Цюхаець — бяжыць.
622. Гл. 109.
623. Баглай — гл. 304.
624. Г. зн. марудна, павольна.
625. Малое дзіця за маткаю.
626. Ванзэлак — клунак (польск. węzełek).
627. Гл. 341.
628. Гнёт — тут: цяжар, камень або бервяно для прыціскання.
629. Начыбурчыцца — натапырыцца.
630. Гл. 18.
631. Выгіндырвацца — крыўляцца.
632. Выцягацца — тут: плакаць, бедаваць.
633. Асташоны — звар'яцелы.
634. Лупіцца — тут: моцна крычаць.
635. Сурма — відаць, сурна або зурна, усходні духавы музычны інструмент тыпу флейты.
636. Чаіцца — падпільноўваць, падкрадвацца (польск. czaić się).
637. Пра зладзеяватага чалавека.
638, 639. Чатаваць — вартаваць, пільнаваць (польск. czatować).
640. Гаман — тут: д'ябал. Гл. таксама 34.
641. Крук — тут: крумкач, воран. Параўн. польск. kruczy — варановы, чорны; kruczowłosy — чорнавалосы.
642. Смаголь — галавешка ад смольнага карча.
643. Бурак цвікловы — чырвоны сваёй прыроднай чырванню. Параўн. рус. *свекла.*
644. Гіль — снягір (Pyrrhula pyrrhula).
645. Рыжок — відаць, грыб рыжык.
646. Іран., гл. 287.
647. Г. зн. не мякка, далікатна, а рэзка, прычыняючы боль.
648. Шарахоніцца — задаецца, ганарыцца.
649. Пра дзяцей, якія добра ядзяць: «То хлеба кусок, то яблычка, то йшчэ што». Шашолка — шашаль; шашоліць — тут: добра есці.
650. Шлакатаць — казытаць.
651. Шнарыць — шукаць.
652. Бакала — рассеяны, няўважлівы чалавек.
653. Было сказана да дзіцяці. Швайка — шыла, у Шчуч. р-не (З Нар. сл., 59) — спіца для пляцення лапцей.
654. Анцуюд — чалавек, які не сядзіць на адным месцы.
655. Гл. 590. Хоўра — народная форма асабовага імя Фяўронія, Хаўронія.
656. Марна шукаць тое, што знаходзіцца тут жа, пад рукамі (у даным выпадку — у зубах). Мамон — даўняе і рэдкае асабовае імя (у царкоўным месяцаслове вядома яшчэ імя Мамант).
657. Гл. 285.
658. Гл. 340.
659. Жаўна — чорны дзяцел (Dryocopus martius).
660—662. Пра балбатлівага чалавека. Мянта — мянташка. Пы-

ц е л — прыстасаванне ў млыне для пытлявання, асабліва тонкага памолу жытняй мукі; цэп лiтоўскi — гл. 37.

663. Целе — цяля, цялё.

664, 665. Вельмі падобны адно на адно.

666. Пра тлустага гуся. Апока — тут: тоўстае бервяно.

667. Г. зн. баліць галава ад размоў (тлум. Fed.). Ашчэпа — вочап, бэлька.

668. Калі не хапае чаго-небудзь неабходнага.

669. Бягунка — панос.

670. Вогiр — зухаваты чалавек.

671. Пра дзіця: тоўстае, пухлае. Гамолак — кружок сыру, які высушваецца на сонцы. (У Краснап. р-не *гамула* — клёцкі з бульбы. Бяльк., 132; у Полацкім р-не *агамёлак, гамёлак* — вялікі бясформенны кавалак хлеба або сыру. Нар. сл., 195, 197; у гаворках Заходняй Браншчыны *гамула* — няўдала спечаны бохан хлеба. Раст., 76.)

672. Пра нешта вялікае.

673. Г. зн. штодзень, пастаянна.

674. Пра ўпацелага чалавека.

675, 676. Такі самы, так падобны.

677. Г. зн. жылі спакойна, забяспечана.

678, 679. За сценку, за сцяну — тут, аддаць: за мяжу свайго надзелу, загону, сваёй сядзібы. Параўн.: *Засценак* — ворныя і сенакосныя землі, якія апынуліся па-за межамі сялянскіх надзелаў пасля «Уставы на валокі» 1557 г. (БелСЭ, т. 4, с. 521). Fed. тлумачыць: «Немач напала». Такі пераносны сэнс зусім дапушчальны ў даным выпадку.

680. Г. зн. не хочацца есці.

681. Пра чалавека, які пачырванеў.

682. Пра малое дзіця.

683. Г. зн. чалавек «ускормлены, але моцны і не тлусты» (Нар. лекс., 15).

684. Курдупiль — нізкаРослы чалавек.

685. Пра непаваротлівага чалавека. Млён — палка, якой круцяць жорны.

686. Момса — чалавек, які многа есць.

687. Агазлiвы — надакучлівы.

688. Г. зн. непарадак, усе хватаюць, «урываюць», хто што хоча.

689. Пра чалавека, які мае гнеўны або пакрыўджаны выгляд.

690. Г. зн. жывецца добра, у поўным дастатку.

691. Вельмі стаміліся.

692. Пра бесталкоўшчыну.

693. Гл. 114—116.

694. Пра крэпкае, здаровае дзіця.

695. Пра тоўсценькае дзіця.

696. Пра блытаную гаворку.

697. Г. зн. вельмі многа.

698. Пурхаць — вельмі злосна, адрывіста бурчаць.

699. Г. зн. зусім не адчувальна.

700. Гл. 114—116.

701. Г. зн. аслабла (тлум. Fed.).

702. Не хочацца.

703. Г. зн. усё ведае, мяркуе.

704. Г. зн. ведае, як адбылося, хоць сам і не бачыў

705. Каланiца — калёсная мазь.

